**Сястра мая, таварыш, друг і брат,**
**Ды гэта ж мы, хрышчоныя блакадай!**
**Нас разам называюць — Ленінград,**
**І ганарацца людзі Ленінградам...**

Вольга Бергольц



Пераклад зроблены з выдання:
Адамович А., Гранин Д. Блокадная книга.— М.: Сов. писатель, 1982.—430 с.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## ТОЛЬКІ МЫ САМІ ВЕДАЕМ...

У гэтай праўды ёсць адрасы, нумары тэлефонаў, прозвішчы, імёны. Яна жыве ў ленінградскіх кватэрах, часта з мноствам дзвярных званкоў — неабходна толькі націснуць патрэбную кнопку, каля якой значыцца прозвішча, што запісана ў вашым блакноце. Яна, якая чакала ці не чакала вашага візіту, вашай неспадзяванай зацікаўленасці, зірне на вас жаночымі ці не жаночымі, але абавязкова немаладымі і абавязкова ўсхвалявана-насцярожанымі вачамі («Хто?.. Чаму?.. Навошта ім гэта?»). Праводзіць вас да сябе паўз сваіх суседзяў і скажа таксама амаль абавязковае: «Колькі мінула гадоў... Забываецца ўсё...»

Ленінградскія дамы, кватэры блакаднікаў...

Уявіце сабе салдата, які жыве сённяшнім мірным жыццём, але акружаны тымі самымі сценамі, прадметамі, нібыта ў той самай зямлянцы, у тым самым акопе. Сляды асколкаў ад снарадаў на сталі (старадаўняй, ляпной), асколкаў шкла на глянцы піяніна. Пляма-апёк ад буржуйкі на бліскучым паркеце...

«А тут паркет сапсаваны — гэта мой мул; у апошні час сек тут мэблю. Пакуль ён не памёр на гэтай вось канапе. Вось тут...» (Дэн Аляксандра Барысаўна)*.

«Вось калі паглядзець з акон, дык у нас такі краявід... Іпадром. Крыху налева, калі высунуцца з любога акна,— Абухаўская бальніца, а ўправа — газавы завод. У той бок нам можна было глядзець на Бадаеўскія склады...» (Пенкіна Ніна Вячаславаўна).

* Тут і далей разрадка, а таксама заўвагі аўтараў. Нерасшыфраваныя ініцыялы даюцца паводле выдання, з якога зроблены гэты пераклад.

«Мы сустракалі 42-гі Новы год вось у гэтым пакоі, ужо зусім замарожаным. На гэтым месцы стаяла буржуйка. Вывад коміна ад нас быў вось у гэты вентылятар. Бачыце жоўтую пляму? Яе нічым ужо не замажаш, таму што тут буржуйка стаяла...» (Усава Лідзія Сяргееўна).

Лідзія Сяргееўна і дагэтуль захоўвае чорныя фіранкі, за якімі хавала ад самалётаў святло сваёй газоўкі. Кажа, не верачы сабе сама, але кажа: «Знішчу іх — вайна пачнецца!»

Бабіч Мая Янаўна ўспамінае і паказвае:

«У блакаду мы засталіся з мамаю ўдзвюх. У пашай кватэры сабраліся яе прыяцелькі, і зверху прыйшлі. І ў гэтай кватэры, у адным пакоі, што быў далей за астатнія ад вуліцы, пасярэдзіне кватэры, усе і стоўпіліся. Шыбы былі выбітыя, і адно акно засланілі вось гэтым дываном, турэцкі дыван ручнога вырабу. Пасля матрац прыставілі да аднаго акна... Асколкі снарадаў залятаді ў вокны, уразаліся ў сцены...»

...Тут яго, ленінградца, абстрэльвалі, абрушвалі на яго смерць — снарады, бомбы. Тут яго знішчалі голадам. Ён страціў тут столькі блізкіх, суседзяў, здароўе страціў. А цяпер (тут жа!) жыве, як усе. Як усе, толькі з усіх бакоў акружаны памяццю...

І ў ім сама яна, тая памяць пра блакаду, пра ўсё выпакутаванае, пройдзенае, перажытае разам з мільёнамі іншых ленінградцаў, якіх ужо няма, за якіх таксама трэба памятаць, а калі пытаюць — расказваць...

«Столькі мінула гадоў, забываецца ўсё...»

Але нішто не забытае — гэтыя словы, што нарадзіліся тут, у Ленінградзе, гучаць і як перакананне, і як надзея, просьба. Так, не забытае — хіба можа чалавек такое забыць, нават калі б і хацеў, меў права?! Так, усё гэта памятаюць яшчэ блакаднікі, што выжылі. Яны блакаду вытрывалі, яны пераносілі яе дзень пры дні, захоўваючы чалавечую годнасць. Але мы, мы, што не перажылі гэтага, ці сённяшнія маладыя,— хіба маем мы права не імкнуцца дазнацца пра ўсё, што вынеслі, перажылі, выцерпелі, зрабілі і дзеля нас яны, ленінградцы?!

І вось сёння мы прыйшлі да гэтага чалавека, каб «усё запісаць», таму што час усё хутчэй забірае сведкаў, удзельнікаў, тых, хто быў, хто ведаў, хто бачыў...

Шчыра кажучы, мы шмат чаго не ведалі, не ведалі, якія жорсткія рэчы стаяць за прывычнымі словамі «ленінград-

ская блакада». Нават мы, што прайшлі вайну — адзін у беларускіх партызанах, другі на Ленінградскім фронце,— здавалася б, прывычныя да ўсяго, былі не гатовыя да гэтых апавяданняў. Яны ж, гэтыя людзі, ашчаджалі нас усе гады, але сябе, расказваючы, ужо не ашчаджаюць...

Зразумець і панесці з сабою бязлітасную быль «ленінградскай памяці» лягчэй, калі бачыш гэтых людзей — саміх расказчыкаў, а не толькі чуеш іхнія галасы (з магнітафона) альбо чытаеш іх успаміны.

Шмат чаго ў гэтых людзях дзіўнага і нечаканага. Але пасля ўсё аказваецца такім простым, зразумелым, такім чалавечым... І яшчэ больш надзвычайным.

Напрыклад, уражвае і бясконца кранае — колькі іх, былых блакаднікаў, пісалі і пішуць... вершы. Не проста і не толькі дзённікі, успаміны, але ж таксама і вершы. Ледзь не кожны дзесяты. (Нават тады пісалі. Напрыклад, у 1943-м жанчына дасылае лісты-вершы на Вялікую зямлю, а ёй адказвае, таксама вершамі, эвакуіраваная ленінградка-пляменніца...) Што гэта — уплыў самога горада з ягонага непараўнальнай паэтычнай культураю? Ці занадта ўрэзалася ў свядомасць ленінградца, як яно было: голад, блакада і вершы (пра гэта ж якраз) — і ўсё побач? Ён іх чуў, слухаў па радыё, прагна, як ніколі дагэтуль,— вершы Вольгі Бергольц (ды і не толькі яе).

Можна было б і не надаваць асаблівага значэння «непрафесійнаму» захапленню вершамі дарослых людзей, калі б за гэтым не бачылася большае, галоўнае: скрозь гады шмат што ў блакадзе свеціцца паэтычна, выступае рамантыка агульнага подзвігу. Не, не ў тым сэнсе, што ленінградзец абмінае ў сваіх успамінах холад, голад, смяртэльны жах тых дзён і начэй. Усё гэта жыве ў ім як крык болю і дагэтуль. Але ва ўсім і перад усім — разумейце ледзь не кожным (надзвычайна!), што гэта былі гістарычныя дні і ночы, свядомасць, што Ленінград — адзіны горад, які выстаяў перад самай доўгай блакадаю, што вобраз горада гэтага памог свету, чалавецтву спыніцца на краю прорвы. Адрэзаны, блакіраваны горад быў, і гэта трэба зразумець, моцны сваім неадзіноцтвам, да яго былі скіраваны ўвага, любоў, вера ўсяе краіны. Нечуваныя ахвяры, неймаверныя выпрабаванні, пра якія расказвае блакаднік, прасветлены пачуццём гордасці, паэтычным пачуццём: затое Ленінград выстаяў! Мы выстаялі! Жыццё працягваецца!

...Вот так настал,
                одетый в кровь и лёд,
сорок второй необоримый год.
О, год ожесточенья и упорства!
Лишь насмерть,
                насмерть всюду встали мы.
Год Ленинграда,
                год его зимы,
год Сталинградского
                единоборства.
В те дни отхлынул быт.
                И смело
в права свои вступило бытие.

*Вольга Бергольц*

Колькі трэба было перацярпець, прапусціць праз сябе блакаднага гора, жаночае тугі, ленінградскай надзеі, чакання («Калі, калі ж нарэшце?!»), каб паэтычна ўбачыць прарыў блакады, трыццаць гадоў захоўваць вобраз і пачуццё і вось так расказаць:

«Дэмабілізавалі, і я працавала ўжо з 9 студзеня 1944 года на трамваі, ён хадзіў па Неўскім. І вось першы дзень зняцця блакады. Пачалі страляць ваенныя караблі. Гэта такое было відовішча, што я ніколі не забуду. Прыгожае і страшнае. Быццам бы з Нявы ўся вада, агніста-чырвоная, падымаецца і ляціць цераз нашы галовы, а пасля моцны грукат...» (Пятрова Ганна Аляксееўна, вул. Басейная, 74, корп. І).

Пра блакаду Ленінграда, пра гераічных абаронцаў неўскай цвярдыні, пра «наёмнага забойцу» фашыстаў — блакадны голад існуе шырокая дакументальная літаратура.

Нямала душ, сэрцаў ва ўсім свеце ўскалыхнуў зімовы дзённічак маленькай Тані Савічавай: «Бабуля памерла 25 студз...», «Дзядзька Алёша 10 мая...», «Мама 13 мая ў 7.30 раніцы...», «Памерлі ўсе. Засталася адна Таня».

У каштоўна-падрабязных дзённіках пісьменніка Паўла Лукніцкага «Ленінград дзейнічае» і ў запісках, дзённіках (апублікаваных) іншых сведкаў і ўдзельнікаў гераічнай ленінградскай эпапеі ёсць шмат нестарэючай праўды, патрэбнай людзям.

За пасляваенныя гады выдадзены, асабліва ў Ленінградзе, зборнікі ўспамінаў удзельнікаў гераічнай абароны Ленінграда і прарыву блакады — генералаў, палкаводцаў, радавых салдатаў Ленінградскага фронту. Выдадзены ўспаміны партыйных і савецкіх работнікаў, якія змаглі ва ўмовах блакады наладзіць жыццё асаджанага горада, падтрымліваць стойкасць у людзях, ажыццявіць «Дарогу

жыцця». Ёсць успаміны юных абаронцаў горада — школьнікаў, юнгаў, успаміны тых, хто ствараў у блакіраваным горадзе гароднінную базу, нарыхтоўваў лес, торф... Кніга пра вучоных ленінградскай блакады, артыстаў, мастакоў, урачоў, настаўнікаў.

Створаны нарысы, аповесці, раманы, пачынаючы ад «Балтыйскага неба» М. Чукоўскага, «У асадзе» В. Кетлінскай, кніг В. Бергольц, М. Ціханава, В. Інбер, Ус. Вішнеўскага, А. Фадзеева... Усе яны сумленна, таленавіта, шчыра адлюстроўвалі ўбачанае, перажытае, вопыт саміх аўтараў і іх герояў. Шматтомная «Блакада» А. Чакоўскага ўвабрала ў сябе і дакументы і факты, што перадаюць мужнасць вялікага горада. І тое, як звязана была гісторыя ленінградскае блакады з гісторыяй усёй Вялікай Айчыннай вайны.

Што яшчэ можна расказаць людзям, свету пра ўсё гэта? І ці трэба гэта яму, сённяшняму свету?

Мы хацелі дапоўніць карціну сведчаннямі людзей аб тым, як яны жылі ў час блакады. Запісаць жывыя галасы ўдзельнікаў блакады, іх расказы пра сябе, пра сваіх блізкіх, пра сяброў. Звычайныя ленінградцы, якія працавалі і не працавалі, халастыя і сямейныя, майстры, рабочыя, дзеці, інжынеры, медсёстры,— зрэшты, справа не ў спецыяльнасцях і пасадах. Мы абмяжоўвалі сябе, сваю цікаўнасць да прафесій, да службаў, таму што не ў стане ахапіць розныя бакі жыцця агромністага горада, паказаць усе раздзелы. Нас цікавіла перш за ўсё перажытае. Мы хацелі запісаць, зразумець, захаваць усё тое, што было перажыта, адчута сэрцамі, спазнана душамі людзей, не ўвогуле людзей, а канкрэтных людзей з імёнамі і адрасамі, старых і маладых, моцных і слабых, каго ратавалі і тых, хто ратаваў... Высветлілася, што быт і быццё сышліся ў тых умовах, калі вядро вады, газоўка, чарга па хлеб — усё патрабавала неймаверных намаганняў, усё стала праблемаю змучанаму, аслабленаму чалавеку...

Адкуль браліся сілы, адкуль узнікала стойкасць, дзе знаходзіліся вытокі душэўнае моцы?

Перад намі пачалі адкрывацца не менш пакутлівыя праблемы таксама і маральнага парадку. Іншыя меркі ўзнікалі для паняцця дабрыні, подзвігу, жорсткасці, любові. Найвялікшае выпрабаванне прайшлі адносіны мужа і жонкі, маці і дзяцей, блізкіх, родных, супрацоўнікаў.

У расказах людзей паўставалі тыя складаныя маральныя задачы, якія даводзілася вырашаць кожнаму чалаве-

ку. Мы ўбачылі незвычайныя прыклады сілы духу, прыклады высакародства, прыгажосці, выканання абавязку, але і прыклады — нечуваных цярпенпяў, пакутлівых нястач, смярцей...

Не заўсёды было зразумела — ці прыйшоў час для гэтых расказаў такой жорсткай бязлітаснасці? А з другога боку — ці не сышоў, ці не ўпушчаны ўжо гэты час, а разам з ім і магчымасць расказаць пра гэта так, як гэта было ў сапраўднасці, наяве, так, як гэта памятаюць толькі самі ленінградцы?..

У марозныя дні абстрэлаў, галодных галюцынацый вядомы ўсім радыёголас Вольгі Бергольц гаварыў ленінградцам і ад іх імя:

«Толькі мы самі ведаем, якога адпачынку мы заслужылі». «І Ленінград ашчаджаў яе (Радзіму), мы доўга нічога не расказвалі пра боль, які мы цярпелі, хавалі ад яе сваё знясіленне, перамяншалі свае пакуты...» «Яны дзевяцьсот дзён асаджалі Ленінград, ставілі яго пад такія выпрабаванні, пра якія і дагэтуль не раскажаш...»

Гэта гаварылася ў 1942-м, у 1943-м, у 1945-м.

Так, ленінградзец цярпеў блакаду дзень пры дні з трагічнаю трываласцю, з годнасцю. З той самай годнасцю на працягу доўгіх гадоў трымаў, захоўваў у сабе пякучую праўду аб перажытым.

І вось сёння мы прыйшлі да яго, да яе — менавіта да гэтага чалавека, каб усё запісаць, таму што «прыйшоў час», «людзі хочуць ведаць», «людзям трэба...».

Мы бударажылі іхнюю ўсё яшчэ распаленую болем і стратамі душу і не раз задавалі сабе пытанні: а ці трэба, а ці маем права? Адказам служаць тыя самыя расказы ленінградцаў. У іх — у тэксце, у інтанацыі — гучыць: так, нам цяжка, балюча ўспамінаць, але яшчэ цяжэй было б думаць, што т а к о е нікому не патрэбна, апрача нас саміх.

А сапраўды ж, калі ўсё гэта было на планеце — той блакадны смяртэльны голад, незлічоныя смерці, пакуты мацярэй і дзяцей,— дык памяць пра гэта павінна служыць іншым людзям і праз дзесяцігоддзі, і праз стагоддзі пасля таго, блакаднага пакалення.

Ужо з 1944 года, з дня зняцця блакады, калі выстаўку абароны Ленінграда пачалі перарабляць у Музей абароны, пачаўся, па сутнасці, праўдзівы, уражлівы расказ пра гераізм дзевяцісот дзён. Адзін са стваральнікаў музея, В а с і л і й  П а н ц е л я й м о н а в і ч  К а в а л ё ў, на памяць

ведае ўсе экспанаты, ён расказвае так, быццам бы вядзе нас з залы ў залу: вось зала авіяцыі з бамбардзіроўшчыкам, які першы бамбіў Берлін у сорак першым годзе, а вось у зале артылерыі мінамёт братоў Шумавых, далей — некалькі залаў партызанскага руху...

Быў там таксама і дзённік Тані Савічавай, той самы, што так клапатліва захоўваўся, а цяпер выстаўлены ў цэнтры мемарыяла Піскароўскага могільніка. Запіскі дзяўчынкі (яна загінула ў 1945 годзе ў эвакуацыі) сталі адным з самых грозных абвінавачванняў фашызму, адным з сімвалаў блакады. Дзённік мае сваю гісторыю. «Прынёс яго Леў Львовіч Ракаў, дырэктар музея,— расказваў нам В. Кавалёў.— Гэта маленькая кніжачка рабіла неймавернае ўражанне. Зала, у якой яна была, адрознівалася асаблівым афармленнем: столь была зроблена ў выглядзе палаткі, былі калоны ў выглядзе ледзяных слупоў, і каля ўваходу ў залу была вітрына, пакрытая нібы інеем. За гэтай вітрынаю стаялі шалі, і на шалях ляжала 125 грамаў хлеба, а насупраць была вітрына, у якой сабраны быў матэрыял пра хлебныя пайкі, што выдаваліся ленінградцам. Пайка ўсё памяншалася, памяншалася, дайшла да 125 грамаў, пасля, з адкрыццём «Дарогі жыцця», пачала павялічвацца. Пасярод музея стаяла вітрына з старога музея Ленінграда, з аднаго боку ляжаў дзённік Тані Савічавай, сінім алоўкам напісаны, з другога боку ляжалі ордэны тых, хто загінуў у час блакады, у тым ліку ляжалі дакументы загінуўшага маладога мужчыны. А перад гэтай залаю была зала снайперская.

Я памятаю, як стаяла лэдзі Чэрчыль каля гэтага экспаната — дзённіка Савічавай, стаяла каля вітрыны, і на вачах былі слёзы, калі ёй пераклалі змест. Стаяў каля гэтае кніжкі Эйзенхаўэр. Ён быў у музеі разам з Жукавым. Будзённы доўга стаяў, Калінін. (Дарэчы, дом, у якім калісьці жыў Калінін, быў якраз насупраць музея, у тым самым Саляным завулку.)...»

...Гэтая наша праца патрабавала сабраць тысячы старонак дзённікаў і запісак блакаднікаў, тысячы старонак, «знятых» з магнітафоннае стужкі,— што з гэтым рабіць? Што выбраць і як набудаваць? Без такой, без аўтарскай работы матэрыял сам сябе пахавае; хто і калі гэта прачытае?

А з другога боку, галоўнымі аўтарамі ўсё-такі павінны заставацца блакаднікі. Яны расказвалі — мы запісвалі.

Яны перадалі нам свае дзённікі, свае запіскі-ўспаміны. Цяпер гэта і нашае памяці боль і багацце.

Чытачу ні, вядома, патрэбны і цікавы перш за ўсё тыя, хто сам усё гэта перажыў, людзі-сведкі, людзі-дакументы. Мы гэта ўсведамлялі, ды і міжволі нямееш перад іхняга праўдай і лёсам. Сваю аўтарскую задачу і ролю мы бачылі ў тым, каб даць ленінградцам магчымасць сустрэцца адзін з адным на старонках нашае працы, у раздзелах блакаднае кнігі. У гэтых сотняў настолькі розных людзей лёс адзін — ленінградскі, блакадны. У іх столькі агульных думак, пачуццяў, вобразаў і карцін, што іх ніколі не пакідаюць,— адно пацягнецца да другога, голас адгукнецца на голас, боль, сляза — на боль і слязу, гордасць, што ўсё-такі выстаялі,— на гордасць... Што з гэтага ўзяць, пакінуць? Ёсць факты зусім невыносныя, ёсць гісторыі легендарныя, якія і не праверыць... Мы не бярэм сотні старонак таго, што так старанна шукалі, запісвалі, расшыфроўвалі, калі гэтыя старонкі не вытрымліваюць суседства іншых старонак, расказаў, лёсаў. Трэба было пакінуць самае значнае і самае звычайнае. Хацелася захаваць і ўсю індывідуальнасць і «няправільнасць» расказу, «голасу» не на карысць любым літаратурным меркаванням. Літаратура (і добрая) ужо была. І яшчэ будзе. Усяму свой час і месца. У літаратуры свае перавагі і магчымасці. Але і свая таксама абмежаванасць, калі маеш справу з такою падзеяй і такімі пакутамі. Няхай на гэтых старонках выгаварыцца сама памяць блакадная — яе моваю і «стылем». Таму мы просім прыняць няправільнасці і павароты жывога апавядання. Хутчэй нават папросім прабачыць нам за некаторыя папраўкі, скарачэнні, за нашы ўмяшанні і каментарыі, за міжвольныя «разрывы» жыццёвых і сямейных лёсаў...

Людзі не толькі галадалі, не толькі паміралі, не толькі пераадольвалі пакуты — яны яшчэ і дзейнічалі. Яны працавалі, яны памагалі ваяваць, яны ратавалі, абслугоўвалі другіх, нехта забяспечваў ленінградцаў палівам, нехта збіраў дзяцей, арганізоўваў бальніцы, стацыянары, забяспечваў работу заводаў, фабрык. Па сутнасці, гэта было ў кожным расказе — голад, холад, абстрэлы, нястачы, смерці і, значыць, душэўныя праблемы, што спараджаліся пакутамі, і ў той самы час актыўнасць людзей, тое, што яны рабілі, як змагаліся, нягледзячы ні на што. Тры гэтыя бакі жыцця ўзнікалі ў любым расказе. Канечне, у кожным расказе, у кожным лёсе тры гэтыя часткі не раздзелены паміж сабою. Раз’ядноўваць цэласнае апавяданне цяжка.

Таму што кожнае апавяданне было апавяданнем не пра нейкі выпадак. У блакаду людзі жылі, таму і расказвалі яны пра ўсё жыццё, дзе спляталіся ў адно і перадваенныя гады, і сям'я, і пасляваенны лёс, там былі і фронт, і эвакуацыя, і цяперашняе жыццё. З гэтага цэласнага, звязанага пачуццем і настроем выкладу даводзілася браць, выдзіраць адзін нейкі эпізод, а то і ўсяго толькі фразу, думку, гэта значыць, разрываць неразрыўнае. Даводзілася выключаць у расказах фронт, хоць горад быў неаддзельны ад яго. Было крыўдна абмінаць байцоў Ленінградскага фронту, якія неслі цяжар голаду, не мелі сіл прарваць блакаду, вызваліць горад, але ў той час не пусцілі фашыстаў у горад, не дазволілі ім зняць войска з-пад Ленінграда для іншых франтоў. Не толькі вораг трымаў горад у блакадзе, але і галодныя, малалікія арміі Ленінградскага фронту лютаю хваткай трымалі гітлераўскія арміі каля сцен Ленінграда.

Адзін за адным — ударамі Сінявінскай аперацыі і на Маскоўскай Дуброўцы — зрываліся нямецкія планы захопу горада Леніна. Усяго не ахапіць: у гэтай часткі кнігі свая тэма.

Блакадная кніга складзена з запісаў, расказаў некалькіх сотняў чалавек. Мы не маглі ўпамянуць усіх, каго запісалі, не маглі скарыстаць увесь сабраны матэрыял. Але ўсё роўна так ці інакш яны прысутнічаюць у гэткай кнізе, у гэтым адборы. Мы пачалі з перажыванняў, магчыма, найбольш запаветных, да якіх памяць апавядальнікаў (усіх) дакранаецца асцярожна, з асаблівым боолем, трапятліва, але накіравана яна ў той бок абавязкова і пастаянна — гэта голад, гэта абстрэлы, бамбёжкі, першая восень, першая зіма блакады 1941/42 года і вясна 1942 года. З гэтага даводзіцца пачынаць. Трэба перш за ўсё ўявіць сабе ўсю меру нягод, страт, пакут, перажытых ленінградцамі, толькі тады можна ацаніць вышыню і сілу іхняга подзвігу.

## НЕВЯДОМАЕ ПРА ВЯДОМУЮ ФАТАГРАФІЮ

...Веснавы дзень 1942 года. Дзве жанчыны ідуць па вуліцы, з імі дзяўчынка гадоў пяці — яна на хаду спрабуе пагуляць, паскакаць...

У гэты момант іх сфатаграфаваў ваенны карэспандэнт дзесьці ў раёне Неўскага.

Гэту фатаграфію мы пасля ўбачылі ў музеі Ленінграда, у музеі Піскароўскага могільніка, у кнігах і альбомах, прысвечаных блакадзе. Яе перадрукоўваюць у часопісах у памятныя даты разам з фатаграфіямі занесеных снегам тралейбусаў, саначак з мерцвякамі...

Прыгледзеўшыся, бачыце: першая жанчына — сярэдняга ўзросту, другая — яшчэ дзіця, дзяўчынка, але і твар і фігура ў яе старэчыя. А ў маленькай дзяўчынкі, што скача каля гэтых дзвюх, не ножкі — запалкі, і толькі калені ненармальна патаўсцелі.

Мы нанава ўглядаліся ў гэтую фатаграфію, седзячы ў кватэры В е р а н і к і  А л я к с а н д р а ў н ы Апахавай. Хутка прыйшла і яе дачка, Л о р а  М і х а й л а ў н а, такая ж невысокая, як і маці, такая ж ветлівая, але больш стрыманая, з нейкаю застылай журбою ў вачах.

На стале перад намі ляжаў сямейны альбом. Вядомая ва ўсім свеце блакадная фатаграфія тут, у гэтай кватэры,— сямейная памяць...

Жанчыны, якія сядзелі перад намі, ніяк не звязваліся нашымі ўяўленнямі, не аб’ядноўваліся з тымі, што на фатаграфіі.

Блакаднікі ўкрапаны ў масу ленінградцаў.

Гэту жанчыну, Вераніку Аляксандраўну, шмат хто, магчыма, нават бачыў, калі прыходзіў на Мойку ў Акадэмічную капэлу. Старая жанчына з вельмі «хатнім», добрым тварам правярае білеты, прапаноўвае праграмкі. Здаецца, што яна вам асабіста ўдзячна за тое, што прыйшлі. Можа, яшчэ і таму, што вы, не ведаючы таго, прыйшлі паслухаць і яе дачку Лору Міхайлаўну, якая спявае ў хоры. А жывуць яны вось тут, на Мойцы, ледзь не каля месца сваёй працы.

У іх непрасторнай кватэры мы доўга разглядалі славутую фатаграфію. Ад яе і пачаўся расказ — спачатку маці, пасля і дачкі.

«...— Вы не бачылі людзей, якія падалі ад голаду; вы не бачылі, як яны паміралі; вы не бачылі кучы цел, што ляжалі ў нашых пральнях, у нашых падвалах, у нашых дварах. Вы не бачылі галодных дзяцей, і ў мяне было іх трое. Старэйшай, Лоры, было трынаццаць гадоў, і яна ляжала ў галодным паралічы, дыстрафія была жахлівая. Як бачыце па фатаграфіі, гэта не трынаццацігадовая дзяўчынка, хутчэй бабка.

— Веранiка Аляксандраўна, вось гэтая злева — Лора?

— Так... Мне было трыццаць чатыры гады, калі я страціла мужа на фронце. А калі пас пасля эвакуіравалі разам з маімі дзецьмі ў Сібір, там вырашылі, што прыехалі дзве сястры — настолькі яна была страшная, старая і наогул жахлівая. А ногі? Гэта былі не ногі, а костачкі, абцягнутыя скураю. Я часам і цяпер яшчэ гляджу на свае ногі: у мяне пад каленямі выступаюць нейкія карычнева-зялёныя плямы. Гэта пад скураю, верагодна, рэшткі цынготнай хваробы. Цынга ў нас ва ўсіх была страшэнная, таму што самі разумееце, што сто дваццаць пяць грамаў хлеба, якія мы мелі ў снежні месяцы, гэта быў не хлеб. Каб вы толькі бачылі гэты кавалак хлеба! У музеі ён ужо высах і ляжыць як штосьці наўмысна зробленае. А вось тады яго бралі ў руку, з яго цякла вада, і ён быў як гліна. І вось такі хлеб — дзецям... У мяне, праўда, дзеці не былі прывучаныя прасіць, але ж вочы прасілі. Бачыце гэтыя вочы? Проста, ведаеце, гэта не перадаць... Гасціны двор гарэў больш за тыдзень, і яго заліць не было чым, таму што вадаправод быў сапсаваны, вады не было, людзей здаровых не было, рук не было, у людзей проста ўжо не было сіл. І ўсё-такі з канца ў капец брылі людзі, штосьці такое рабілі, працавалі. Я не працавала, таму што, калі я хацела ісці працаваць, мяне не ўзялі, бо ў мяне было маленькае дзіця. І мяне пастараліся пры першай магчымасці вывезці з Ленінграда: чакалі яшчэ страшнейшых часоў. Не ведалі, што ўсё пойдзе так добра, пачнецца прарыў і пойдуць нашы войскі, пойдзе ўсё вельмі добра. Нас вывезлі ў ліпепі месяцы сорак другога года.

— А трэцяя — ваша малодшая?

— Малодшая. Як бачыце, яна спрабуе падскочыць, хоць яе калена вось такое было: яно было ўсё распухлае, налітае вадою. Ёй чатыры гады. Што вы хочаце? Сонейка грэе, яна з мамай ідзе, мама абяцае: вось і пагуляем, прыйдзем дамоў, сходзім у сталоўку, возьмем па картачках абед, прыйдзем дамоў і будзем есці. А слова ж «есці» —

гэта было, ведаеце, магічнае слова ў той час. А дома яна, бывала, садзілася на крэсла, брала ў рукі такі вось кашалёк, ірвала паперкі — гэта быў пастаянны яе занятак — і чакала абеду. Жывоцік у яе быў, як ува ўсіх дзяцей тады, апухлы і ацёклы. Пасля, калі мы паядзім, яна зноў садзіцца на сваё крэсла, бярэ гэтыя паперкі і зноў ірве, напаўняе кашалёк.

— Мабыць, яны ёй здаваліся картачкамі?

— Пэўна, яна паперкі рвала нібыта як талончыкі на хлеб. Яна займалася знішчэннем дробных папяровых шматкоў. Цяпер яна дарослы чалавек, у яе двое дзяцей.

— Як яе зваць?

— Яе зваць Даларэс. Яна нарадзілася ў трыццаць сёмым годзе. У мяне муж быў ваенны. Жылі мы тады ў ваенным гарадку. У той час вельмі многія нашы ваенныя, якія былі ў Іспаніі, вярнуліся. Мужу спадабалася гэта іспанскае імя, і ён даў яго дзяўчынцы.

— А дзе загінуў ваш муж?

— Муж загінуў у сорак другім годзе ў час пераправы цераз Ладагу. Ён быў чалавекам мірнай прафесіі. Ён музыкант, быў цывільным дырыжорам аматарскіх аркестраў. Пасля пайшоў на вайсковую службу і стаў ваенным дырыжорам. І медыкам. Атрымаў таксама і медычную падрыхтоўку. А сярэднюю дачку Бертаю завуць, яна таксама жывая. Усе яны ў мяне жывыя, уся тройка.

— Вам давалі картачкі ўтрыманскія?

— Утрыманскія, паколькі я не працавала. Я была ў санітарнай брыгадзе ў нашым доме. Але калі ўрач дазнаўся, што ў мяне трое дзяцей, мяне вызвалілі. А так я хадзіла займацца на медыцынскія курсы, ну, першая дапамога: упаў паранены, якімсьці там асколкам падбіла, трэба ўцягнуць у дом, у санкуток, перавязаць. Тады ўсе ленінградцы займаліся гэтым.

— Дзе вы жылі?

— Жылі на Грамадзянскай вуліцы, у Кастрычніцкім раёне, дом дзевятнаццаць. Цяпер наш дом — Мойка, дваццаць, кватэра семнаццаць. Дачка мая працуе ўжо дваццаць гадоў, тут, у Капэле.

— І вы таксама?

— Я працую таксама ў Капэле, з шэсцьдзесят восьмага года, білецёрам. У нас на Грамадзянскай быў дваццаціметровы пакой і такая сям'я — вось дачцэ і далі гэту кватэру.

— Вось тут на фатаграфіі — куды вы ішлі тады?

— Наколькі я памятаю, гэта Неўскі праспект. У нас маршрут быў такі: мы выходзілі з дому, ішлі па Маёрава, па Герцэна, рабілі круг сюды, да ДЛГ*. Я іх вадзіла, каб адцягнуць ад думкі, што трэба есці. Мы проста гулялі Лора толькі што паднялася. Урач сказаў, што яе трэба больш трэніраваць у хадзе: у яе цалкам быў адняты левы бок. Бачыце, яна ідзе з кійком. І ўрач казаў, што няхай. яна як можна больш ходзіць. Так што мы рабілі вельмі вялікія кругі. Нават часам заходзілі ў кіно, глядзелі, каб неяк адцягнуць свае думкі ад яды.

— Кінатэатры працавалі?

— Працавалі ўжо. Мы аднаго разу ў кінатэатры «Ма-_ ладзёжны» глядзелі кінакарціну «Свінарка і пастух», і было трывога. Сеанс спынілі, залу зацямнілі, і мы крыху пасядзелі там. Зімою, вядома, было цяяіэй, таму што, самі разумееце, вады не было, водаправод парушаны. Значыць, людзі ішлі з чайнікамі, каструлькамі, з санкамі — хто як мог. І вось у гэтых люках (былі люкі адчынены з чыстай вадою) бралі ваду. А пасля ў нас, у доме, далі ваду ў пральню, і мы ў гэту пральню хадзілі ланцужком, таму што там ляжалі кучы нябожчыкаў, якіх вывозілі машыны. Падбіралі па вуліцы нябожчыкаў, складвалі ў пральні (пасля машына прыязджала і забірала). І там жа вада была, у пральні. Так што мы ішлі рука за руку. Хто баяўся, той не глядзеў у той бок.

— А ланцужком ішлі таму, што баяліся?

— Па-першае, таму што баяліся, а пасля таму, што было святла. Першы нясе лучыну, як у вёсцы, і апошні нясе лучыну, а астатнія ўсе ідуць і трымаюць у руках хто чайнічак, хто збанок. Трэба ж умыцца, трэба ж папіць трэба і згатаваць.

— Згаворваліся?

— Згаворваліся з суседзямі па лесвіцы, па пляцоўцы і ішлі. Калі вось я магла ўзяць каго-небудзь з дзяцей, вала чайнік альбо збанок, каб ішлі разам.

— Вернемся да фатаграфіі. Вы гулялі па праспекце Маёрава, а пасля?

— Пасля ішлі па Герцэна да Неўскага, вось тут, каля кіно «Барыкада», выходзілі на Неўскі. Тут было адчынена мноства магазінчыкаў з канцылярскімі прыладамі, з кнігамі.

— Гэта люты — сакавік сорак другога года?

* ДЛГ — Дом ленінградскага гандлю, універмаг.

— Гэта хутчэй за ўсё — май, перад нашым ад'ездам. Вывозілі нас у ліпені (у мяне дзесьці нават эвакалісток ёсць). Мяне тады ў ваенкамат запрасілі як жонку ваенна-служачага, таму што ў мяне ў маі спынілася выплата па атэстату. Тут я пачала жыць на тую дапамогу невялікую, што мне ваенкамат даваў на дзяцей, паколькі іх было трое.

— Лора Міхайлаўна, а вы памятаеце вось гэты дзень? Як вы тут ідзяце з мамаю, з сястрычкаю?

— Не.

— А іншыя прагулкі, падобныя да гэтай, памятаеце? Колькі вам тады было гадоў?

— Мы з мамаю, здавалася, былі тады аднолькавага ўзросту. А мне не было і трынаццаці гадоў.

— Вы памятаеце свой стан хваробы, голаду? Як вы памятаеце свае дванаццаць-трынаццаць гадоў?

— Па-мойму, самае страшнае — гэта калі чалавек увесь час хоча есці, а есці яму зусім няма чаго. А другое, калі ні рукі, ні ногі не дзейнічаюць, і не ведаеш, ці будзеш ты жыць і рухацца наогул. Урач прыходзіла штодня і глядзела, але я разумела, што яна толькі правярала, жывая я ці нежывая.

— А памагчы не было чым?

— Чым урач магла памагчы? Яна выпісала «шроты», ну, макуху, жамерыны, якія былі ў нас у дзіцячай бальніцы, «шротавае малако». Але гэта ўсё, канечне, было нядомае. У яе было дзве такіх хворых, як я, значыць, я і яшчэ адна дзяўчынка.

— Гэта быў галодны параліч?

— Параліч як вынік дыстрафіі. Аднаго разу яна прыйшла і сказала, што мая «напарніца» памерла.

— Яна гэта вам сказала?

— Не, яна сказала маме, але ў мяне слых добры, і я чула, што яна сказала за дзвярамі ў калідоры. Нібыта тое, што і са мною павінна паўтарыцца. І калі на другі дзень яна прыйшла і ўбачыла, што я жывая, яна нават здзівілася. А пасля я сустрэла гэту дактарку. Гэта пасля вайны, напэўна, у пяцьдзесят трэцім годзе было. Мы ішлі, у мяне дзіця ўжо было, маленькае. Яна пытае маму: «Як вы жывяце? Як ваша сям'я, муж? Лора, канечне, памерла?». Я кажу: «Доктар! Я жывая, у мяне нават дзіця на руках». Яна анямела, яна не ведала, што сказаць. Карацей, гэта наогул цуд з цудаў атрымаўся.

— І што ж вас выратавала? Мама?

— Мама, канечне, з татам, пакуль ён быў. І вельмі хацелася жыць. Вы нават не ўяўляеце! Я нават здзіўляюся, што ў дзяцей майго ўзросту была такая вялікая сіла волі. Вельмі хацелася жыць.

— А якою была малодшая сястрычка, вы памятаеце?

— Ну як жа! Я памятаю, у яе такі стан быў, што яна сядзела і стрыгла паперу. У яе мазалі на руках былі ад гэтага. Гэта, думаю, такі псіхічны стан быў у дзіцяці. Маленькая, чатыры годзікі. Ёй есці ўвесь час хацелася, разумееце? Калі дзіця есці хоча, яно просіць. А яна не прасіла, таму што разумела, што няма адкуль узяць. Яна сядзела і стрыгла і рвала паперкі, значыць, магла нават звар'яцець.

— Стрыгла да мазалёў?

— Так, у яе пальцы былі ў мазалях. Калі мама забірала ў яе нажніцы, яна знаходзіла новую паперку і моўчкі пачынала яе рваць».

Пазней мы сустракалі падобнае і ў іншых апавяданнях пра блакадных галадаючых дзяцей. Хлопчыкі і дзяўчынкі рвалі, стрыглі паперкі, сядзелі, пакалыхваючыся з боку на бок, нешта калупалі бясконца, метадычна, стараючыся неяк заглушыць пачуццё голаду, ад якога можна звар'яцець.

«— Вы кажаце, Веранiка Аляксандраўна, Лора захварэла ў снежні?

— Але. У снежні. Яна пайшла першы раз у булачную адна. Стаяла ў чарзе. Прыйшла і сказала, што ў яе ножка слабая, ватная нейкая. Ну, паляпвала. Нічога. Пасля пайшла са мною дровы пілаваць, таму што ўрач казала, што цяпло — гэта першая справа пасля яды, патрэбна яшчэ і цяпло. І вось, калі мы пайшлі з ёю пілаваць дровы, яна звалілася канчаткова. Наверх яе давялося ўжо несці. Яна ляя!ала са снежня да мая. Я не магу, канечне, сказаць дакладна час, але ў пачатку мая яна пачала ўставаць. І ўрач, якая хадзіла да нас, казала, што абавязкова рабіце прагулкі, і як найбольш, каб умацавацца, таму што быў перыяд такі ў снежні — студзені, калі мы ўсе злеглі, не было ўжо моцы ні змагацца, ні жадання ўстаць, ні жадання што-небудзь рабіць. Дзверы ў кватэры былі расчынены насцеж, заходзіў хто хацеў. І вось неяк аднаго разу

прыйшла ўрач, я ляжала, і ўсе ляжалі, таму што мы ўжо страцілі ўсякія адчуванні ад такога жыцця. Урач на мяне так накрычала, сказала, што па кватэры мы павінны хадзіць. Ух як яна мяне лаяла! Гэта ўсё-такі быў вельмі добры доктар. Яна хадзіла да нас штодня, хоць і не спадзявалася, што мы выжывем. У апошні час яна мне казала: «Што я магу? Хіба што падпісаць акт аб смерці». Да мяне прыходзілі з ЖАКТа*, правяралі, ці жывая Лора. Гэта таму, што ў той час бывала, калі людзі паміралі, дык тыя, хто застаўся, карысталіся іхнімі карткамі. Ну, і заўсёды здзіўляліся, што яна вось ляжыць, але жыве. У яе было жаданне што-небудзь часам рабіць, што-небудзь пачытаць, штосьці пашыць адною рукой, нейкім чынам прыстасавацца. І вось потым (я пра гэта расказвала), калі наступіла вясна, прыгрэла сонейка, мы пайшлі гуляць. Мне ўрач сказала: хадзіце, хадзіце, хадзіце, умацоўвайце ногі. Ногі вельмі балелі — пасля доўгага ляжання і пасля цынгі.

— Вы казалі, што Лору суседкі не пазналі?

— Так яно і было. Мы выйшлі, і я думала недалёка з ёю ісці. Я вырашыла, што мы пасядзім на сонейку, пагрэемся і пойдзем назад, усё-такі яе трэба яшчэ падняць на чацвёрты паверх. Няхай яна і важыла ўсяго нічога, але і я важыла тады ўсяго толькі сорак два кілаграмы. Вы самі разумееце, што гэта таксама ўжо вага адных касцей. Мне было цяжка падымаць яе. І суседкі сказалі, дзякаваць богу, маўляў, зіму вы пераажылі дзякуючы таму, што старэйшая дзяўчынка памерла, а вы карысталіся яе карткаю. Тут Лора заплакала і сказала: «Мамачка! Пойдзем адсюль. Не будзем слухаць гэтых бабак!» Яны не паверылі, што яна жывая. Не пазналі... Мы пачалі рабіць прагулкі. Спачатку прагулкі былі не вельмі вялікія, а пасля ўсё большыя і большыя. Якраз падчас прагулкі, верагодна, я і наткнулася на гэтага таварыша, на фатографа.

— Калі вы ўпершыню ўбачылі гэту фатаграфію?

— Упершыню ў Музеі абароны. Нават не я ўбачыла. Я была ў сваёй прыяцелькі, мы з ёю вельмі даўно сябруем. І яна таксама пражыла з дзецьмі доўга тут, у Ленінградзе, і таксама эвакуіравалася толькі летам. Яе сын быў у Музеі абароны. А хлапчукі, ведаеце, бегалі туды, там былі збітыя самалёты, нямецкія каскі, зброя і гэтак далей. Ён прыбег і кажа: «Цётка Роня! А я вас бачыў!» А я ка-

* ЖАКТ — жыллёва-арэнднае кааператыўнае таварыства.

жу: «Дзе ж гэта ты мяне бачыў?» — «А я, кажа, быў у музеі, і там вы, Лора і Доля, усе трос. І напісана: «Ленінградцы па прагулцы»,.. Калі ў мяне гасцявала з Поўначы сярэдняя дачка, яна была ў музеі і папрасіла, каб нам адрукавалі гэту фатаграфію. Але паколькі яна сама хутка паехала на сваю Поўнач, давялося ісці туды Лоры. Вось калі Лора прыйшла і папрасіла, каб ёй выдалі гэту фатаграфію, і калі яна яе ўбачыла, яна самлела. Вы самі разумееце убачыць сябе ў такім стапе! І прыгадаць усё гэта! Зноў за нейкі кароткі момант пераежыць увесь гэты страх і жудасць! Мужчына да яе падышоў, нейкі тамтэйшы супрацоўнік, і кажа; «Чаго вы плачаце? У гэты год — сорак першы і сорак другі — загінула такая безліч пароду. Не плачце! Іх ужо няма. А вам жыць трэба». А жанчына, што выдавала фатаграфіі, кажа яму: «Вы бачыце, гэта яна сама!» Ён страшэнна збянтэжыўся, адышоў ад яе з прабачэннямі. Вось так мы атрымалі гэту фатаграфію. І я захоўваю яе ў сябе. Усё-такі няхай яна будзе, хоць гэта і жахліва, канечне, і страшна, і заўсёды выклікае хваляванне і слёзы».

## ГАЛАСЫ,
## ЯКІЯ СПРАЧАЮЦЦА

Вось што стаіць за адным здымкам. Для невядомага ваеннага фатографа-карэспандэнта ён азначаў падзею, абуджэнне да жыцця. Для нас, сённяшніх, ён — позірк здалёк у тую страшэнную і легендарную блакадную рэальнасць. Для сям'і Апахавых, мацеры і дачок, гэта жывы боль памяці *.

И ты, мой друг, ты даже и годы мира,
Как полдень жизни, будешь вспоминать
Дом на проспекте Красных Командиров,
Где тлел огонь и дуло от окна.
Ты выпрямишся, вновь, как нынче, молод,
Ликуя, плача, сердце позовет
И эту тьму, и голос мой, и холод,
И баррикаду около ворот.

*Вольга Бергольц*

* Праз тры месяцы пасля таго, як быў зроблены гэты запіс, Лора Міхайлаўна Апахава памерла. Блакада, нават адпусціўшы, «сваіх» знаходзіць.

Надзеі гэтыя здаваліся паэтычным вобразам, мараю, а не прадбачаннем. Мінула трыццаць пяць гадоў, і аказалася, што Вольга Бергольц не памылілася. Страшэнныя, галодныя гады прыгадваюцца з жахам, з журбою, са слязамі, «ликуя и плача», сэрца кліча і здзіўляецца стойкасці ўласнае душы, яе магчымасцям, сіле подзвігу ленінградцаў.

Толькі паэзія валодае такім дарам прароцтва. У пустых, вымаражаных, цёмных кватэрах пасля мёртвага стуку метранома гучаў нягучны, з лёгкімі запінкамі жаночы голас, якога чакалі ўсе ленінградцы. Скрозь галодныя прывіды да людзей прарываліся спагада і любоў. Яны зыходзілі ад жанчыны, што таксама пакутавала, галадала, усё разумеючы, усё адчуваючы.

І вось праз цэлае жыццё мы прыходзім да гэтых людзей і просім расказаць нам пра блакаду. Першае, што яны адказалі:

«Гэта надта цяжка, гэта немагчыма, я не хачу ўспамінаць, не, не, у мяне было надзвычайна страшнае...»

Пра другіх, пра асобныя эпізоды — як працавала фабрыка альбо як капалі акопы і ставілі процітанкавыя надаўбні — калі ласка. Але толькі не пра сваё жыццё. А мы прасілі менавіта пра гэта, пра сябе, пра свае перажыванні. У рэшце рэшт яны пагаджаліся. За выключэннем, можа, двух ці трох чалавек. Магчыма, некаторыя расказвалі пе ўсё. Часам яны ашчаджалі пас. Часам яны баяліся за сябе. Вяртацца ў мінулае было пакутліва. Расказваючы, плакалі, сціхалі, будучы не ў стане справіцца з сабою. Пасля гэтых расказаў некаторыя доўга не маглі супакоіцца... У наступныя дні многія званілі нам, прыходзілі, пісалі, а ўспомніўшы штосьці яшчэ ці, наадварот, жахаючыся ад таго, што прагаварыліся, прасілі сцерці запіс.

Яны баяліся вярнуцца ў блакадны горад, у сваю заінелую кватэру, у якой чалавек «на сваім ложку замярзаў, нібы ў стэпе» (В. Бергольц). Мы настойвалі з жорсткасцю, якая нам самім была цяжкаю і нават сорамнаю. Мы прасілі, спасылаючыся на гісторыю, на новыя пакаленні, якім трэба ведаць усё, як было. У глыбіні душы пас мучылі сумненні — ці варта? Навошта зноў, праз дзесяцігоддзі, выцягваць з забыцця неверагодныя мучэнні і зняважлівыя цярпенні чалавечыя? Хіба гэта каму-небудзь паможа?

Расказаўшы нам і пра горад, пра шпіталь, дзе яна працавала, і пра эвакуацыю, Галіна Яўгенаўна Экман-Крыман закончыла так: «Не хочацца да гэтага

вяртацца. Забываць не трэба, ды і не забудзецца ніколі, але ўсё-такі я не хачу ўспамінаць».

Азіраючыся цяпер назад, людзі не вераць сабе, таму, што яны маглі. Гэта быў асаблівы ўзлёт чалавечых здольнасцей: так, у найцяжэйшы перыяд жыцця быў таксама і ўзлёт. Пра гэтую пару не хочацца ўспамінаць, але калі ўспамінаеш, пачынаеш думаць, што ўсё-такі гэта была пара, калі кожны мог здзейсніць, праявіць высакародства, раскрыць шчодрасць свае душы, яе смеласць, любоў і веру.

У кожнага аказваўся свой расказ. У кожнага было сваё. Паўторы былі непазбежныя, але ўсё роўна ў кожным расказе была свая, пі на што непадобная гісторыя.

Мы слухалі, запісвалі, і не раз нам здавалася: вось яна — мяжа пакут, гора, але наступная гісторыя адкрывала нам новыя межы гора, новую вяршыню стойкасці, новыя сілы чалавечага духу.

Насычэнне матэрыяламі не прыходзіла. Мы так і не дайшлі да таго загадзя чаканага, калі далейшыя расказы ўжо нічога істотнага не могуць дадаць да таго, што мы ведаем. Можа, гэты край дзесьці наперадзе, яшчэ праз трыццаць, пяцьдзесят расказаў, а можа, яго наогул няма і такога насычэння не існуе.

Калі мы 5 красавіка 1975 года рабілі свой першы запіс, прыехаўшы да Марыі Гур'янаўны Сцепанчук (вул. Шалгупова, 8), мы ведалі пра галоўны боль яе памяці — пра загінуўшую дзяўчынку. Але жанчына настойліва і неяк спалохана абмінала гэта... І мы не пасмелі настойваць. Пасля аказалася, што менавіта гэтым прычынілі чалавеку яшчэ большыя пакуты. Складанае гэта пачуццё — блакадная памяць!

— А ведаеце, што было пасля таго, як вы пайшлі? — пазваніла жанчына, ад якое мы атрымалі адрас Марыі Гур'янаўны.— Прыбегла да мяне расхваляваная, што не расказала галоўнага: «Я баялася, што расплачуся, калі загавару пра дзяўчынку, і не змагу далей расказваць, і людзі дарэмна прыязджалі, стараліся».

Пасля, растрывожаная, аб'ехала ўсіх сяброўак і знаёмых блакадных (з дваццаці сямі, як сказала нам жанчына, засталося іх у яе толькі чацвёра). Схадзіла на даччыну магілку, схадзіла ў царкву. І захварэла, злегла.

І, здаецца, не толькі таму, што ўспаміны расхвалявалі. Але і ад нейкага адчування віны перад сваёй загінуўшай дачкою, пра якую нічога не расказала: быццам бы

яна ахвяравала яе памяццю, каб толькі «не перашкодзіць» нам працаваць — збіраць блакадную быль.

А пасля Галіна Максімаўна Гарэцкая (наша знаёмая) паказала ёй выпушчаную ў Ленінградзе кнігу «Па сігналу паветранае трывогі», дзе апісана трагедыя таксама і таго фатальнага для яе дачкі абстрэлу, і выбуху на заводзе (дзяўчынка знаходзілася ў яслях паблізу завода). Нейкім дзіўным чынам гэта падзейнічала на жанчыну не тое каб супакойліва, але ўсё-такі звяло напружанасць апошніх дзён. Убачыла, пераканалася: значыць, і без яе апавядання людзі будуць ведаць, будуць намятаць!..

Есць ва ўспамінах блакаднікаў і спрэчка, а дакладней, працяг спрэчкі (ці не штодзённай?) з тымі, хто не толькі «не памятае», але і злуе, калі нагадваюць. Гэта як з дзіцем у сям'і: вы яго засцерагалі-засцерагалі ад жыццёвых драм (чужых) і гора (чужога) — «няхай узмацнее душа»,— а пасля праявіцца ў яго чэрствасць, глухата...

— Мяне пытаюць: блакада, блакада. А што такое на самой справе блакада? Унучка летась пісала і цяпер кажа: у цябе няма доказаў.

Гэта вырвалася ў Т а і с і і  В а с і л ь е ў н ы  М я ш ч а н к і н а й (вул. Соф'і Кавалеўская 9) з крыўдаю, ужо пад канец яе расказу. Яна спрабавала, і не раз, дома, сярод сваіх жа дзяцей і ўнукаў расказаць нейкія падрабязнасці пра блакаду — не верылі. А чым яна магла даказаць?

— Вось я вам кажу і думаю,— а магчыма, і вы не паверыце?

Мы скрозь і ўсюды сутыкаліся з гэтым ч а к а н н е м недаверу, хваравітым, насцярожаным пачуццём, якое ўзнікала ў ходзе ўспамінаў; па меры таго як чалавек чуў сябе, ён насцярожваўся, яго гісторыя згладжвалася, усыхала, падмянялася агульнавядомымі фактамі.

«...— Мая знаёмая выкладае ў тэхнікуме,— расказаў Ніл М і к а л а е в і ч  Б я л я е ў.— У іх у семдзесят пятым годзе адбылася сустрэча нейкага старога блакадніка ленінградца з расказам для студэнтаў пра становішча спраў у сорак другім — сорак трэцім годзе. І калі ён, значыць, расказваў усе гэтыя цяжкія гісторыі, што людзям даводзілася перажываць падчас голаду, дык многія студэнты слухалі вельмі і вельмі, так сказаць, няўважліва. А пасля ягонага расказу выйшла дзяўчына і сказала, што

яна не разумее, што ж тут такога: падумаеш, чалавек у дзень не з’еў гэтыя сто дваццаць пяць ці сто пяцьдзесят грамаў хлеба, дык яна цяпер можа тыдзень не есці хлеба і выдатна сябе адчуваць.

— Прычым без усякае іроніі гэта?

— Невядома... Цяпер жа наогул нібыта лічаць, што хопіць ужо гаварыць нра блакаду».

Тое, што яны сытыя і шчаслівыя — дзяўчына, якая пярэчыла блакадніку, і недаверлівая ўнучка,— гэта, безумоўна, добра. Але вось што гэтыя маладыя дзяўчаты, здаецца, «маральныя дыстрофікі» (ленінградскі, ваенных часоў, выраз) — гэта ўжо горш.

Але гэта самае простае — абвінаваціць у неразумнасці, удачлівасці, у бяздушнасці. Альбо адмахнуцца ад іх, прызнаць выключэннем. Варта ўдумацца — пры найлепшых намерах, пры душэўнай і грамадзянскай чуласці хіба лёгка чалавеку, які ніколі не перажыў голаду, вось так, з ходу, абстрактна ўявіць сабо, што гэта такое. Што такое доўгі ленінградскі голад і што азначае пры гэтым голадзе кавалачак хлеба ў 125 грамаў, што азначае краёк хлебнае скарынкі... Не, патрабаваць гэта ад чалавека, які вырас у сытасці, у цяпле, нельга, яму расказваць трэба цярпліва, пераканаўча, трэба абудзіць ягонае ўяўленне. Пераемнасць пакаленняў накладвае абавязкі і на тых і на другіх. Новыя пакаленні павінны даведацца пра расказы людзей, якія ўсё гэта перанеслі і перажылі, пачуць гэтыя расказы.

«Мы стараліся не расказваць, але я думаю часам, што, магчыма, мы няправільна зрабілі, таму што і Тамарын сын і Віктар не разумеюць. А мы заўсёды ўхіляліся ад размовы з імі пра гэта. Можа, і дарэмна, таму што яны так і не зразумелі. Мішка неяк сказаў Тамары: «Падумаеш! Вось тата — ён па фронце быў!» (С е з я н е ў с к а я Н і н а В я ч а с л а в а ў н а) .

Падчас аднаго з запісаў блакаднага расказу ўзнікла размова, якая ўразіла пас. Расказвала жанчына, слухалі яе дачка, зяць, унукі. Такое бывала часта. Канечне, і нам і апавядальніцы лепш было абыходзіцца без пабочных слухачоў, але гэта не заўсёды ўдавалася. І адасобіцца не было куды, апрача таго, цікаўнасць разбірала і родзічаў і суседзяў. Зрэшты, часам рэплікі слухачоў памагалі, іх недавер, іх спагада, ахі, слёзы ўзбуджалі памяць.

Той запіс, пра які ідзе гаворка, быў нялёгкі, расказ быў цяжкі, і верагодна, малодшым усе гэтыя падрабязнасці пра беды іх сям'і былі невядомыя. Яны хацелі ўсё ведаць і не хацелі. Самі яны ніколі не сталі б распытваць, але тут слухалі ўважліва, напружана. Першым не вытрымаў зяць. Не такі ўжо і малады, не ленінградзец, ён усклікнуў:

— Дзеля чаго, ну дзеля чаго патрэбны былі такія пакуты? Трэба было здаць горад. Пазбегчы ўсяго гэтага. Навошта людзей было губіць?

Так проста, натуральна вырвалася ў яго, са злосцю па недарэчнасць, на дзіўнасць таго, мінулага. Спярша мы не зусім зразумелі, што ён меў на ўвазе. Яму было гадоў трыццаць пяць, барадаты прыстойны мужчына, здавалася, ён не мог не ведаць. Пасля мы зразумелі, што мог. Гэта значыць, магчыма, што ён недзе калісьці чуў, чытаў пра загады гітлераўскага камандавання, пра планы фюрэра вынішчыць, спаліць, але цяпер усё гэта стала выглядаць настолькі шалёным, фантастычным, што напэўна страціла рэальнасць.

Час, мінулыя дзесяцігоддзі непрыкметна спрошчваюць мінулае, мы разглядаем яго быццам бы праз цяперашнія нормы права і этыкі.

У заходняй літаратуры мы сустрэліся з разважаннямі ўжо іншымі, дзе не было здзіўлення, не было ні болю, ні шчырасці, а праглядвала хутчэй самаапраўданне капітулянтаў, помслівая спроба пераніцаваць бяздзейнасць у доблесць... Яны спачувальным топам пытаюць: хіба патрэбны былі такія мукі бязмерныя, пакуты і ахвяры падобныя? Хіба апраўданы яны ваеннымі і іншымі выйгрышамі? Ці ж гэта чалавечна ў адносінах да свайго насельніцтва? Вось жа Парыж аб'явілі адкрытым горадам... І другія сталіцы, капітуліраваўшы, уцалелі. А пасля фашызму зламалі хрыбет, ён усё роўна быў пераможаны — у свой тэрмін...

Матыў гэты, спрэчка такая гучыць прама ці прыхавана ў працах, кнігах, артыкулах некаторых заходніх аўтараў. Як жа гэта цынічна і няўдзячна! Калі б яны сумленна хоць уласную логіку даводзілі да канца: а ці не таму чалавецтва цешыцца сёння прыгажосцю і архітэктурнымі багаццямі, гістарычнымі каштоўнасцямі Парыжа і Прагі, Афін і Будапешта ды і многімі іншымі скарбамі культуры, і ці не таму існуе наша еўрапейская цывілізацыя з яе універсітэтамі, бібліятэкамі, галерэямі, і не наступіла бяздоннае ліхалецце «тысячагадовага рэйха», што хтосьці сябе

шкадаваў менш, чым іншыя, хтосьці свае гарады, свае сталіцы і не сталіцы абараняў да апошняга ў смяротэльным баі, ратуючы заўтрашні дзень усіх людзей?.. І Парыж для французаў ды і для чалавецтва выратаваны быў тут — у палымнеючым Сталінградзе, у Ленінградзе, што дзень і ноч абстрэльваўся, выратаваны быў пад Масквою... Той самаю мукай і стойкасцю выратаваны быў, пра якія расказваюць ленінградцы.

Калі еўрапейскія сталіцы аб яўлялі чарговы адкрыты горад, была, заставалася патаемная надзея: у Гітлера наперадзе яшчэ Савецкі Саюз. І Парыж гэта ведаў. А вось Масква, Ленінград, Сталінград ведалі, што яны, магчыма, апошняя надзея планеты...

«Фюрэр вырашыў сцерці горад Пецярбург з твару зямлі..— так гучала сакрэтная дырэктыва 1-а 1604/41 нямецкага ваенна-марскога штаба «Пра будучыню горада Пецярбурга» ад 22 верасня 1941 года. Далей ішло абгрунтаванне —...Пасля нараджэння Савецкае Расіі няма ніякага сэнсу ў далейшым існаванні гэтага вялікага паселенага пункта. Фінляндыя дакладна так заявіла пра сваю незацікаўленасць у далейшым існавання горада непасрэдна каля яе новае граніцы. Прапанавана шчыльна блакіраваць горад і шляхам абстрэлу з артылерыі ўсіх калібраў і няспыннай бамбёжкі з паветра зраўняць яго з зямлёю. Калі ў выніку ўтворанага ў горадзе становішча будуць заяўлены просьбы пра здачу, яны будуць адхілены... З нашага боку няма зацікаўленасці ў захаванні хаця б часткі насельніцтва гэтага вялікага горада».

Дакумент гэты надрукаваны ў матэрыялах Нюрнбергскага працэсу (выд. 3-е, М., 1955, т. I, с. 783).

Гэта ўказанне паўтаралася не адзін раз. Так, 7 кастрычніка 1941 года ў сакрэтнай дырэктыве вярхоўнага камандавання ўзброеных сіл было: «Фюрэр зноў вырашыў, што капітуляцыя Ленінграда, а пазней — Масквы не павінна быць прыпятая нават у тым выпадку, калі б яна была прапанавана праціўнікам...» («Нюрнбергскі працэс», т. I, с. 784).

Кейтэль указвае камандуючаму групаю армій «Цэнтр»: «Ленінград неабходна хутка адрэзаць і ўзяць зморам».

Масква і Ленінград асуджаліся на поўнае вынішчэнне — разам з жыхарамі. З гэтага і павінна было пачацца шырока тое, што Гітлер меў па ўвазе: «Разграміць рускіх як народ». Гэта значыць, вынішчыць як біялагічнае, геаграфічнае, гістарычнае паняцце.

Але подзвіг ленінградцаў выкліканы не пагрозаю вынішчэння... Тады, у блакадныя глухія дні, у снежных сумётах Падмаскоўя пра яе толькі здагадваліся, яе ўяўлялі. Дакументамі яна, гэтая пагроза, пацвердзілася куды пазней. Не, тут было іншае: простае і няўхільнае жаданне абараніць свой лад жыцця. Мы не рабы, рабы не мы, мы павінны былі схапіцца, з фашызмам, стаць на ягоным шляху, адстаяць свабоду, годнасць людзей.

Вось у чым апраўданне і сэнс подзвігу Ленінграда, вось чаму ленінградцы і ўсе нашы людзі ратавалі сябе і чалавецтва, ад якіх ахвяр і мучэнняў, дзеля чаго ішлі на любыя злыбеды, пакуты, нават і не падумаўшы пра «адкрытыя» гарады.

Нехта павінен быў...

Каб ацаніць гэта, трэба адчуць меру выпрабаванняў, што выпалі нашаму народу.

«Неяк мне задалі такое пытанне,— піша Аляксандра Фёдараўна Сакалова,— чаму ў вас столькі медалёў, у тым ліку і «За перамогу пад Германіяй»? Вы ж не былі на фронце? Праўда, не былі, а бачылі і перанеслі не менш, чым на фронце: ведаю на смак кожную травінку, смак торфу, вайсковых рамянёў, што заставаліся ў мяне ад фінскае вайны...»

Не, гэта не звычайная схільнасць старэйшых падкрэсліць перавагі свае і свайго часу пад людзьмі і часамі цяперашнімі. Да пары да часу шмат каму з іх наогул не хацелася ні ўспамінаць, ні расказваць. Нават здавалася гэта непатрэбнай жорсткасцю.

Адкладвалі на далей, па пасля, калі прыйдзе час...

> Мы отомстим за все, о чем молчали,
> за нее, что скрыли от Большой земли,—

гучалі па радыё вершы Вольгі Бергольц у студзені 1943 года.

Але калі ўчора, можа, і варта было ашчаджаць параненыя вайною душы суайчыннікаў, дык сёння новым пакаленням, напэўна, якраз і патрэбна як можна паўней, падрабязней даведацца, адчуць тое, што было да іх. Патрэбна ж ім ведаць, чым усё аплачана, трэба ведаць не толькі пра тых, хто ваяваў, але і пра тых, хто змог выстаяць, пра гэтых людзей, што не мелі зброі, што маглі толькі стойка-

сцю сваёй нешта сказаць свету. Трэба ведаць, якою бывае вайна, якое гэта шчасце — мір...

«Вельмі радыя, што так цяпер добра жывём, сытыя і адзетыя ўсе, дзетак прымушаем больш есці і ўсё прыгадваем, як Ларыса ў сем раніцы ў голад прачыналася і прасіла хлеба ўчарашняга! Кажам:

— Ларыска, няма хлеба.

— Ну, тады дайце заўтрашняга!»

Гэта з пісьма Веры Іванаўны Паўлавай (горад Тосна, вул. Баярава, 52).

Немаладая і, вядома ж, як амаль усе былыя блакаднікі, са страчаным здароўем, Кацярына Дзмітрыеўна Янкоўская-Ладыжанская, якую мы бачылі маладою на даваеннай фатаграфіі (там прыгажуня, якіх мала), заяўляе: «Калі б сказалі, што вернем здароўе, прыгажосць, маладосць і яшчэ раз перажыць такое,— не захацела б, не згадзілася б!»

А. М. М. Хахлова (вуд. Канторская, 18) напісала нам:

«У той блакадны час я думаю, з якім пачуццём, калі перажывём, будзем успамінаць жахлівы час. Я ні ў кога не пытала, якія ў каго пачуцці засталіся, але ў мяне засталося пачуцце гідлівасці, і вельмі доўга гэтае адчуванне трымалася, цяпер ужо сцерлася, прытупілася. У нас з мужам і дагэтуль засталося адчуванне перажытага голаду ў роце. Ён часам кажа: «Есці не хочацца, але гарацьзубы, гэта ўсё блакада, няхай яна спрахне!» І мне есці не хочацца, але ные язык».

«У мяне была яшчэ такая думка — назаўсёды запісаць той дзень, калі я буду сытая» (Клаўдзія Пятроўна Дубровіна, вул. Сердабольская, 71).

«Толькі што праслухала перадачу пра тое, што... вы пачалі збіраць расказы пра жыццё ленінградцаў у блакаду... Хоць некаторая частка маладых людзей, слухаючы апавяданні блакаднікаў, раптам іранічна скрывіўшы губы, заяўляе, што сапраўдныя блакаднікі ўсе ляжаць на Піскароўскіх могілках» (Чыканіна Аляксандра Міхайлаўна, вул. Мытнінская, 5/2).

Праўда пра перажытае мільёнамі людзей у гады блакады, праўда дакументальная, расказаная людзьмі, якія ўсё гэта асабіста адчулі, выдасца, можа быць, жорсткаю і цяпер. Але затое яна (мы спадзяёмся) праравецца да любога сэрца. І да сэрца той дзяўчыны, якая і без 125 грамаў хлеба можа пражыць, таксама праравецца.

«Я прайшоў каля новабудоўлі, дзе цесляры габлявалі дошкі. Я выбраў з кучы дзве чыстыя стружкі, уклаў адну ў рот, а другую схаваў у запас.

...Я не пашкадаваў, што пайшоў з рэдакцыі, так і не папрасіўшы крону, нават за дзвярыма, калі голад зноў пачаў мучыць мяне. Я выцягнуў з кішэні другую стружку і сунуў яе ў рот. Мне зноў зрабілася лягчэй. Чаму я не рабіў гэтага раней?»

Гэта не блакада, гэта малады Кнут Гамсун. Першы славуты яго раман «Голад», ува многім аўтабіяграфічны, напісаны ў 1890 годзе. Магчыма, адзіны дагэтуль твор сусветнае літаратуры, дзе голад чалавека стаў асноваю сюжэта, прадметам стараннага пісьменніцкага даследавання. Голад абгароджвае героя такою замкнёнасцю існавання, якая выключае ўзаемапаразуменне з сытым дабрабытам навакольных.

Голад адасабляе героя. Сытыя галоднага не разумеюць. Голад у Гамсуна і голад блакадніка былі розныя, не фізіялагічна, а псіхалагічна — голад блакады быў вораг, засланы фашызмам, быў актам нянавісці, вайны, участкам змагання, якое вялі ленінградцы з ворагам.

Змучаны, ледзь не звар'яцелы ад голаду мітусіцца адзінокі герой Гамсуна ў заможнай Хрысціянін І не толькі розум і сэрцы нашы, як чытачоў, адклікаюцца на тое, што адбываецца з героем, але быццам бы і страўнік і залозы. Чытач нібыта сам перажывае розныя стадыі галадання. Паказаць сілу голаду не проста нават вялікаму таленту. Толькі ўласныя перажыванні мастака, памяць пра ягонае галоднае юнацтва, пра пакутлівыя гады хранічнага недаядання надалі гэтаму раману пранізлівую верагоднасць. Адлюстраванне голаду ў Гамсуна лічылася адным з наймацнейшых у сусветнай літаратуры. Каханне і голад правяць светам, пісаў Шылер, і, не раз паўтараючы гэтыя словы, Максім Горкі лічыў, што гэта найпраўдзівейшы і самы слушны эпіграф да бясконцай гісторыі чалавечых пакут.

Голад у рамане Гамсуна і голад ленінградскае блакады — з'явы розныя. Зразумела, што масавы голад — сітуацыя асаблівая. Тым не менш што заўважаеш пры першым поглядзе — гэта падабенства стану:

«Есці даводзілася што папала. Памятаю, прыходзіла дамоў, і мне так хацелася есці! Я жыла тады на вуліцы Войціка. У мяне там дровы ляжалі каля печы, палена ці два. І вось я ўзяла гэта палена (сасновае, памятаю) і пачала грызці, таму што маладыя зубы хацелі нешта кусаць.

Есці хацелася страшэнна! І вось грызу, грызу гэта палена, смала выступіла. А гэты пах смалы даваў мне нейкую асалоду — хоць што-небудзь, але грызу. Трэба было нешта есці, інакш немінучая смерць ад голаду, а гэта яшчэ горш, чым ад абстрэлу. Ад голаду вельмі цяжкая смерць» (А л е- на М і х а й л а ў н а  Н і к і ц і н а, праспект Стачак, 26).

І зноў Кнут Гамсун, літаратура:

«Яда ўлад аказвала сваё дзеянне, мяне моцна нудзіла, да горла падступала ванітаванне. Ва ўсякім цёмным кутку я шукаў палягчэння, стараўся пераадолець моташнасць, ад якое зноў пусцеў мой страўнік, сціскаў кулакі, рабіў над сабою нейкія намаганні, тупаў нагамі і ў шаленстве глытаў тое, што гатовае было вывергнуцца з рота,— але ўсё дарэмна».

Тут, як і ва ўсякай сапраўднай літаратуры, ёсць выклік халоднаму чыстаплюйству — толькі любоў да чалавека, а значыць, і пачуццё спагады, якому нічога не страшна. Чалавек мучыцца ад няздольнасці ўтрымаць у сабе ежу, што так дорага яму дасталася, і аўтар пакутуе за чалавека і за ягонае бяссілле перад тою самаю «іранічнасцю жыцця», пра якую так страсна, з болем пісаў Дастаеўскі ў «Ідыёце»...

«Голад», раман маладога Кнута Гамсуна, зноў і зноў быццам бы пытае: што ў вас мацней — чалавечая спагада, разуменне другога чалавека ці эстэцкая гідлівасць?

Але куды большае выпрабаванне нашых пачуццяў і нашай здольнасці глядзець, не адварочваючыся, на чалавека, які пакутуе — гэта блакадныя ўспаміны. Так, чалавек, што аганізуе ад лютага голаду, куды як «неэстэтычны»! Да гэтага трэба быць гатовым, калі мы збіраемся, хочам пачуць, убачыць, зразумець усю праўду, а не ўсяго толькі нейкую дольку яе.

Нельга зразумець усёй подласці ўсіх злачынстваў фашызму, які «заслаў смерць» у горад (паводле вельмі дакладнага выразу Вольгі Бергольц), калі не гаварыць пра масавы голад, пра гэтага «наёмнага забойцу» гітлераўцаў.

Блакадны ж голад, таксама як і голад лагерны (і як асвенцімскі і іншыя крэматорыі), лічыўся ў арсенале галоўных сродкаў, з дапамогаю якіх фашысты ажыццяўлялі свае планы вынішчэння цэлых народаў, «абязлюджвання» цэлых краін.

Дарэчы, многія нашы самыя бязлітасныя і праўдзівыя апавядальнікі — гэта медыкі: урачы, медыцынскія сёстры, санітаркі, тыя, хто па сваёй прафесіі міласэрны. Яны

пра чалавека галадаючага, пра масавы голад раскажуць вам, нічога не ўпрыгожваючы, таму што ў іхніх вачах ніякая хвароба (а дыстрафія, тым больш аліментарная,— найцяжэйшая хвароба), ніякія праявы хваробы чалавека не прыніжаюць. Напрыклад, адна жанчына-ўрач расказала пра сябе, што хадзіла па вуліцах «заўсёды мокрая», як дзіця: голад зжэр усе мышцы, адны косці ды скура. «Я хадзіць не магла, але я працавала» (Я р ш о в а М а р ы я М і х а й л а ў н а).

Урач Г. А. С а м а в а р а в а прыгадвае:

«З'елі ўсіх катоў, з'елі ўсіх сабак, якія былі. Паміралі спачатку мужчыны, таму што мужчыны мускулістыя і ў іх мала тлушчу. У жанчын, маленькіх нават, тлушчавай падкладкі больш. Але жанчыны таксама паміралі, хоць яны ўсё-такі былі больш стойкія. Людзі ператвараліся ў нейкіх, ведаеце, старых, таму што знішчаўся тлушчавы слой, і, значыць, усе мышцы былі бачныя і сасуды таксама. І ўсе такія друзлыя, вялыя былі».

Урач К а н д р а ц ь е в а Г а н н а А л я к с а н д р а ў н а: «Гэтыя страшэнныя твары, гэтыя нерухомыя вочы, з абцягнутымі насамі, пры адсутнасці мімікі».

Але спачатку нават магчыма абвастрэнне самых розных пачуццяў, эмоцый, фантазій. Да чаго, як вядома, свядома імкнуліся калісьці жадаючыя «праяў» кляшторныя «пустэльнікі».

Аліментарная, трэцяй ступені, дыстрафія — гэта не толькі шкілет без мышцаў (нават сядзець чалавеку балюча), гэта таксама мозг, што пажыраўся страўнікам.

Каго спасцігаў голад, курчыліся і мучыліся таксама, як і цяжка параненыя...

«Лепш трымаліся дзяўчынкі, а хлопчык дванаццаці гадоў, Толя, вельмі пакутаваў, ужо недаядаў парадкам, часам клаўся на скрыпучы ложак і ўвесь час калыхаўся, каб чым-небудзь заглушыць пачуццё голаду, калыхаўся да той пары, пакуль маці на яго не накрычыць, але пасля зноў пачынаў калыхацца. Пасля праз некаторы час я дазналася, што ён памёр...» (М. М. Хахлова).

Так, голад у літаратуры старой, класічнай, і масавы голад (да таго ж, як у часы фашызму, арганізаваны, мэтанакіраваны) — з'явы рознага ўзроўню і сэнсу.

Масавы быў і раней, але расказвалі пра яго падрабязна, усур'ёз, бадай што, Толькі летапісы.

«А коли вже была весна в року 1602, тот наход людей множество почали мерти. По пятеру, по тридцати у яму хоронили. Хворых, голодных, пухлых многое множество,—- страх видети гневу божого. А так при великих местах человека по едному у яму ховали: священники проводили.

Там же, которые ишли па Низ, тые вси там померли, мало се застало. А так мерли одны при местах, на вулицах, по дорогах, по лесах, па пустыни, при роспутиях, по пустых избах, по гумнах померли. Отец сына, сын отца, матка детки, детки матку, муж жену, жена мужа, покинувши детки свои, розно по местах, по селах разышлася. Один другого покидали, не ведаючи один о другом. Мало не вей померли.

А коли тот наход у ворот, албо в дому у кого стоячи хлеба просили, отец з сыном, сып со отцем, матка з дочкою, дочка с маткою, брат с братом, сестра с сестрою, муж з жоною тыми словы мовили силне, слезно, горко мовили так: «Матухне, зезулюхно, утухно, панюшко, сподариня, солнце, месец, звездухно, дай крошку хлеба!» Тут же подле ворот будет стояти з раня до обеда и до полудня, так то нросячи. Там же другий под плотом и умрет.

...А коли варива просил, тые слова мовили: «Сподарипя, перепелочко, зорухно, зернетко, солнушко, дай ложечку дитятку варивца сырого!»

Так паведамляў пра масавы голад беларускі летапісец з вёскі Баркулабава *.

У кнізе «Геаграфія голаду» бразільскі вучоны, старшыня Выканаўчага камітэта Арганізацыі на пытаннях харчавання і сельскай гаспадаркі пры ААН Жазуа дэ Кастра пісаў:

«На кожную друкаваную працу па праблемах голаду маецца звыш тысячы прац па праблемах вайны. Суадносіны больш чым тысяча да аднаго! У той жа самы час... ад голаду загінула значна больш людзей, чым падчас усіх эпідэмій разам узятых. Прычыненыя страты большыя па колькасці ахвяр і значна страшнейшыя паводле сваіх біялагічных і сацыяльных вынікаў».

І далей:

«Заходняя навука і тэхніка, якія атрымалі бліскучую перамогу над сіламі прыроды, не вялі амаль піякае барацьбы з голадам. Вучоныя падкрэслена захоўвалі маўчанне

* Баркулабаўскі летапіс.— У кн.: Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн.: Навука і тэхніка, 1975. с. 145.

пра ўмовы жыцця галадаючых мас ва ўсім свеце. Свядома ці несвядома, яны сталі саўдзельнікамі змовы маўчання. Голад як з’ява сацыяльная не быў аб’ектам іхняга вывучэння» *.

Сучасная літаратура, дакументальная і мастацкая, пра фашысцкія канцлагеры, пра ленінградскую блакаду, літаратура пра другую сусветную вайну адлюстравала і працягвае адлюстроўваць жорсткую праўду XX стагоддзя: голад, масавы голад увайшоў у арсенал, лічыцца ў арсенале нядаўніх і патэнцыяльных забойцаў пародаў як найважнейшая зброя **.

Не пісаць сёння пра гэтую «зброю», забыць — тое ж і самае, што «забыць» пра запасы, склады атамнае смерці.

Псіхалагічна розніца намі ж масавым, «блакадным» голадам і тым, што «ў Гамсуна», прынцыповая. Хоць пісьменнік і расказвае пра тое, што ён добра ведае, што перажыў сам, але перажыў ён гэта не ва ўмовах масавага голаду. Тут напрошваецца аналогія з журналісцкай памяццю пра салдацкія акопы. Журналіст пабыў на перадавой, перажыў шалёны абстрэл, яго маглі б і забіць, таксама як і салдата. Розніца ў іхніх перажываннях, іхнім успрыняцці перадавой тым не менш агромністая, нават прынцыповая. Журналіст прыехаў, прыйшоў, ён сядзіць у акопе, але ён ведае, што можа і пайсці адсюль. (Нават калі і не збіраецца пайсці, не ідзе.) Салдат ведае, што ён пайсці сам, па ўласнаму жаданню, не можа.

І ў гэтым розніца — велізарная.

Вось такая розніца і паміж «голадам» героя Кнута Гамсуна і «голадам» ленінградцаў-блакадйікаў. Блакаднікам ад голаду, смяртэльнага, нясцерпнага, «пайсці» часцей за ўсё не было куды: ён быў вакол, на ўсёй прыціснутай да заліва, да возера, прашытай кулямі, снарадамі прасторы горада, ён блакіраваў чалавека наглуха.

* Жазуа дэ Кастра. Геаграфія голаду. Скарочаны пераклад з англійскай. М.: Иностранная литература, 1954, с. 31.

** Пра нямецка-фашысцкі варыянт выкарыстання гэтае зброі Жазуа дэ Кастра пісаў: «План арганізаванага голаду», які ажыццяўляўся трэцяю імперыяю, меў салідную павуковую базу і зусім канкрэтныя мэты. Гэта была магутная зброя вайны, што валодала вялікаю разбуральнаю сілаю, якую неабходна было выкарыстаць у самых шырокіх маштабах і з максімальнаю эфектыўнасцю. Менавіта так і рабілі немцы, адкінуўшы ўсякую сентыментальнасць і маніпуліруючы харчовымі пастаўкамі ў адпаведнасці з канкрэтнымі мэтамі гэтай разнавіднасці «геапалітыкі голаду», як назваў бы такі план Карл Гаўсгофер і ягоная кліка нямецкіх геапалітыкаў». (Геаграфія голаду, с. 315.)

## ЗАСЛАНЫ У ГОРАД

Голад і трыста гадоў назад і цяпер — той самы. І мучэнні тыя самыя, і адчуванні. Але да голаду блакады былі асаблівыя адносіны — гэта быў вораг, засланы фашызмам, гэта быў праціўнік, што перашкаджаў працаваць, ваяваць, гэта была вайна.

Адзін з аўтараў кнігі ваяваў восень і зіму, аж да вясны сорак другога года, пад Пушнінай. Ён сядзеў у акопах, і кожную ноч ззаду, за спіною, палалі водбліскі ленінградскіх пажараў, барвовыя іх плямы дзіравілі зорную цемраву. Спераду ўзляталі варожыя ракеты, а ззаду гарэў горад. Удзень сілуэт горада выразна і падрабязна вырысоўваўся на ясным небе. Шматлікія коміны не дымілі, і паветра над горадам было чыстае, толькі ў некалькіх месцах паднімаліся тоўстыя слупы куродыму ад пажарышчаў. У адны і тыя самыя гадзіны над перадавою праплывалі фашысцкія бамбардзіроўшчыкі, яны ляцелі бамбіць, а пад вечар іх мянялі цяжкія снарады, якія з мяккім шолахам, нябачна, несліся ў горад.

У ягоным батальёне былі выпадкі дыстрафіі і галоднай ацёчнасці, таму што салдацкі паёк быў мізэрны, няхай і не такі, як у гараджан, але вельмі бедны і ўрэзаны. Але вайна з гэтым не лічылася, трэба было стаяць на пасту, хадзіць у разведку, разграбаць акопы ад снегу, цягаць снарады, патроны, чысціць зброю. Апрача ўсяго іншага, вайна — гэта яшчэ і цяжкая фізічная праца, дзе няма ні выхадных, ні перапынкаў.

Немцы не шкадавалі ні мін, ні снарадаў. Нямецкія акопы каля чыгункі былі ад нашых акопаў усяго толькі на адлегласці якіх-небудзь пяцідзесяці метраў. Панатыкаўшы на штыкі булкі, немцы паднімалі іх над брустверам і прапанавалі пераходзіць да іх, яны абяцалі сытае кармленне і спакойнае жыццё ў палоне. Яны даказвалі, што салдаты Ленінградскага фронту асуджаны на гібель і калі не падохнуць ад голаду, то будуць забітыя. Не вельмі лёгка было гэта слухаць. Аднак за ўсю зіму ў батальёне не было выпадку пераходу да немцаў.

І хаця ён прайшоў усю гэту доўгую вайну, дзе былі і наступленне, і перамогі, і штурмы, і розныя франты, і ўсё гэта не толькі бачыў, але і пражыў, яму цяжка зразумець, якім чынам галодныя, прамёрзлыя, знясіленыя воіны Ле-

нінградскага фронту змаглі абараніць, адстаяць горад, пратрымацца ў абароне пад горадам у плытkіх, што прастрэльваюцца, акопах на адкрытых нізінах, і мала таго — няспынна атакаваць, насядаць, прасоўвацца на асобных участках наперад, не дазваляючы нямецкаму камандаванню зняць з-пад Ленінграда дывізіі і перакінуць іх на іншыя франты. Цяпер, праз столькі гадоў, незразумелым здаецца і тое, чаму, якім чынам у снежні, у самы цяжкі час, нашым салдатам стала зразумела, што немцам у Ленінград не прабіцца, не прарвацца.

Ленінградцам трэба было хадзіць па завод, працаваць, дзяжурыць на дахах, ратаваць абсталяванне, дамы, сваіх блізкіх — дзяцей, бацькоў, мужоў, жонак, забяспечваць фронт, даглядаць параненых, тушыць пажары, здабываць паліва, насіць ваду, вазіць прадукты, снарады, будаваць доты, маскіраваць будынкі.

Валі Мароз было ў блакаду пятнаццаць гадоў. Бацька яе пайшоў у народнае апалчэнне. Старэйшая сястра таксама хацела на фронт, але ёй гэта не ўдалося, яна ўладкавалася ў ваенны шпіталь. У снежні 1941 года памёр бацька, праз два месяцы сястра, у канцы сакавіка маці. Валя засталася адна. Ёй памаглі ўладкавацца на завод вучнем токара. Яна рабіла дэталі для снарадных стабілізатараў. Яна працавала, усю блакаду працавала.

Трэба зразумець слова «працавала» ў яго тагачасным значэнні. Кожны рух адбываўся запаволена. Павольна падымаліся рукі, павольна варушыліся пальцы. Ніхто не бегаў, хадзілі павольна, з цяжкасцю падымалі нагу. Сёння здароваму, сытаму маладому арганізму немагчыма ўявіць такое бяссілле, такую паходку.

«Прыкладна такое адчуванне, што нагу нельга падпяць. Разумееце? Вось такое адчуванне, калі на нейкую прыступку нагу трэба паставіць, а яна ватная. Вось так ува сне бывае: ты быццам бы гатовы бегчы, а ў цябе ногі не бягуць. Альбо ты хочаш крычаць — няма голасу.

Я памятаю адчуванне, калі трэба было перастаўляць ногі (гэта тады, калі мама была яшчэ жывая, калі трэба было выходзіць), калі трэба было на прыступку паставіць, у нейкае імгненне нага ў цябе не спрацоўвае, яна табе не падпарадкоўваецца, ты можаш упасці. Але пасля ўсё-такі хапіла сіл, неяк падымалася».

Каб хоць неяк ацаніць працу ленінградцаў, якія знаходзіліся ў падобным стане, каб зразумець, што азначала адрамантаваць гармату, падняцца на гарышча для дзя-

журства, што азначала расчысціць завал, для гэтага трэба перш за ўсё зразумець працягласць і сілу блакаднага голаду, працягваць яго не толькі ўшыркі, але і нібыта ў г л ы б і н ю ч а л а в е к а. Трэба зразумець, як выяўляецца голад на паводзінах чалавека, якія выпрабаванні праходзіла і псіхіка, і душа, і вера, прычым не наогул чалавека, а канкрэтнага, гэтага, таму што ў кожнага было сваё, свая схватка з голадам, і працякала яна па-рознаму. Толькі зразумеўшы голад, уявіўшы сабе яго сілу, вывучыўшы яго маштабы, яго ўздзеянне, можна адчуць тое, што зроблена ленінградцамі. Без гэтага нельга зразумець сапраўднае велічыні мужнасці абаронцаў горада.

Падрабязнасці голаду часам праступаюць у расказах зусім нечакана, з выпадкова вымаўленых пранізлівых фраз, якія і не адразу можна ўсвядоміць.

Т а м а р а А л я к с а н д р а ў н а Х а л т у н е н працавала ў бальніцы для дыстрофікаў, там, калі хворага ў вайну апускалі, успамінае яна, хворы крыкам крычаў: «...голыя косці, ён не можа ні сядзець, ні ля ікаць, у яго няма тлушчу».

«— Тры жанчыны было і я — дзяўчынка. Я самай маладою і наймацнейшаю лічылася сярод іх. Я нібыта нічога сабо была,— пачала свой расказ урач-псіхіятр Мая Янаўна Бабіч.

— А колькі вам тады было?

— Мне было тады шаснаццаць гадоў. Я брала іхнія картачкі, хадзіла ў чаргу, каб узяць на ўсіх хлеб, кожнаму асобна. Я лавіла сябе на думцы: хоць бы маленькую даважку далі. Калі давалі, дык я часам ад іх порцый давэнджу з'ядала. Пасля прыходзіла, аддавала колкаму яго порцыю. А гэта крошачка мне быццам бы за працу. Часам стаіш, стаіш — і нічога няма, таму што хлеба не было. Калі я прыносіла хлеб, яны ляжалі па канапах, на ложках у гэтым пакоі. Былі нейкія кажухі, усе ў валёнках, пад ватнымі коўдрамі. Усе ляжалі. Газоўка стаяла. У ёй гарэў нейкі алей, мігцеў. І буржуйка стаяла. Побач з буржуйкаю вядро з вадою, якая да ночы замярзала да дна. А пасля ўставалі і сякеркаю адсякалі кавалачкі лёду, каб згатаваць ваду. Па чарзе ўставалі. Пілі бурду.

...Гэта было на пачатку студзеня. Прыходзіць на кватэру да мяне мой школьны сябар Толя. Гэта такі паэт быў, лунаў у аблоках, гаварыў аб праблеме «быць ці не быць?». У школе ён быў такім хлопчыкам з узвышанымі запатрабаваннямі. І вось прыходзіць — твар шэра-зялёны

такі. Вочы шырока вырачаныя, і кажа: «У цябе не захаваўся твой кот?» А ў нас кот быў. Я кажу: «Ну што ты! А што?» — «А мы хацелі б яго з'есці!» Мама і бабка ў яго ляжалі. І вось ён пайшоў ад мяне. Ён быў такі страшэнны, такі брудны, худы. Пайшоў хістаючыся! А толькі год таму назад было зусім інакш. Збіраліся, пра высокія матэрыі размаўлялі. І раптам — к о т ! Я хацела праз тыдзень-другі схадзіць да яго (на другой вуліцы яны жылі). Я адразу не найшла. Самае страшнае было выйсці з дому, неўсвядомлена стараліся ашчаджаць сябе ад такіх карцін. Гэта неяк інтуітыўна было. Але я пайшла ўсё-такі ў гэты дом. Вось іду на другі паверх — дзверы не зачыняюцца, заходзь куды хочаш, у любы пакой заходзь, бяры што хочаш. Гэта быў шыкоўны дом — дыхтоўны, прыгожы. Дом аднаго былога мільянера. У мірны час на лесвіцах былі дываны. Ён жыў у пакоі ў камунальнай кватэры. Я заходжу да яго ў пакой. Цёмна, так нешта недзе мігціць. І яны ўсе трое ляжалі мёртвыя: бабка, маці і ён. У пакоі страшэнная гразюка. Халадэча. Буржуйку паліць, ідаць, не было сіл. І ўсе памерлі. Мне было жахліва. Я ў іншыя пакоі не пайшла і вярнулася назад».

Блакадную кватэру нельга паказаць ні ў адным музеі, ні ў якім макеце ці панараме, таксама як і нельга паказаць мароз, жуду, голад...

Самі блакаднікі, успамінаючы, адзначаюць разбітыя вокны, распілаваную на дровы мэблю — найбольш рэзкае, незвычайнае. Але тады па-сапраўднаму выгляд кватэры ўражваў толькі дзяцей і прыезджых, тых, хто прыйшоў з фронту. Як гэта было, напрыклад, з У л а д з і м і р а м Я к а ў л е в і ч а м А л я к с а н д р а в ы м :

«Вы стукаеце доўга-доўга — нічога не чуваць. І ў вас ужо поўнае ўяўленне, што там усе памерлі. Пасля пачынаецца нейкае шорганне, адчыняюцца дзверы. У кватэры, дзе тэмпература роўная тэмпературы акаляючага асяроддзя, з'яўляецца ўкручаная бог ведае ўва што істота. Вы ўручаеце ёй пакецік з якімі-небудзь сухарамі, галетамі ці яшчэ з чым-небудзь. І што ўражвала? Адсутнасць эмацыянальнага ўсплёску.

— І нават калі прадукты?

— Нават прадукты. Шмат жа ў якіх галадаючых была ўжо атрафія апетыту».

...Там, на фронце, думалі, што гэтыя лыжкі прасяных

круп, сухары, якія зберагалі, адкладвалі ад свайго мізэрнага пайка, будуць сустрэты з захапленнем, а іх прымалі часам вось так, ужо абыякава...

У канцы вайны Аляксея Дзмітрыевіча Бяззубава адкамандзіравалі ў Германію. Была арганізавана Савецкая ваенная адміністрацыя ў Германіі (СВАГ), і Бяззубава як шырокаадукаванага харчавіка, з вялікім вопытам работы, прызначылі начальнікам навукова-тэхнічнага аддзела харчовай прамысловасці. Яму давялося займацца ў Германіі лабараторыямі універсітэтаў, навукова-даследчымі інстытутамі, праектнымі арганізацыямі, таму і не дзіўна, што лёс звёў яго з такім выдатным нямецкім спецыялістам, як прафесар Цыгельмаер. Рана ці позна гэта павінна было адбыцца. Цыгельмаер лічыўся адным з вядучых вучоных у галіне харчавання. Раней ён кіраваў Мюнхенскім харчовым інстытутам. Значыць, яны сустрэліся, разгаварыліся, знаўцы, здавалася б, адной з самых мірных навук. Што можа быць больш добрым, высакародным, клапатлівым, чым навука пра харчаванне?

І тут у ходзе размовы высвятляецца, што прафесар Цыгельмаер у час вайны займаў высокую пасаду — намеснік інтэнданта гітлераўскай арміі. Паколькі спецыяліст ён быў славуты, яго прыцягнулі курыраваць важнейшую праблему камандавання — праблему блакіраванага Ленінграда. Прамое наступленне на горад сарвалася. Нашы войскі шчыльна трымалі з сярэдзіны блакаднае кальцо, не давалі нідзе яго пераступіць немцам. Вось тады гітлераўскаму генеральнаму штабу і спатрэбіліся кансультацыі Цыгельмаера. Ён абдумваў і раіў, што трэба рабіць, каб хутчэй замарыць голадам Ленінград. Менавіта гэта меў на ўвазе Гебельс, калі, крыху крывадушнічаючы, запісваў у сваім дзённіку 10 верасня 1941 года: «Мы і надалей не будзем абцяжарваць сябе патрабаваннямі капітуляцыі Ленінграда. Ён павінен быць знішчаны амаль навукова абгрунтаваным метадам».

Цыгельмаер вылічваў, як доўга можа працягнуцца блакада пры існуючым рацыёне, калі людзі пачнуць паміраць, як будзе адбывацца гэтае паміранне, у якія тэрміны ўсе яны паўміраюць.

«Цыгельмаер расказваў мне, што яны дакладна ведалі, колькі ў нас засталося прадуктаў харчавання, ведалі, колькі людзей у Ленінградзе. Праўда, ён зрабіў памылку,

я пасля яму сказаў, што становішча ў нас было яшчэ горшае: «Вы не ўлічылі, з арміяй прыйшло насельніцтва з Ленінградскай, Наўгародскай і іншых абласцей». Цыгельмаер здзіўляўся і ўсё пытаў мяне: «Як жа вы вытрымалі?! Як вы вытрымалі?! Як вы маглі? Гэта ж зусім немагчыма. Я пісаў даведку, што людзі на такім пайку фізічна не могуць жыць. І таму не трэба рызыкаваць нямецкімі салдатамі. Ленінградцы самі памруць, толькі не трэба выпускаць ніводнага чалавека праз фронт. Няхай іх застанецца там больш, тады яны хутчэй памруць, і мы ўвойдзем у горад зусім свабодна, не страцім ніводнага нямецкага салдата». Пасля ён казаў: «Я ўсё-такі стары харчавік. Я не разумею, што за цуд у вас там адбыўся».

Аляксей Дзмітрыевіч мог бы яму шмат чаго расказаць пра сваю працу. Вітаміннаму інстытуту, дзе ён загадваў хіміка-тэхналагічным аддзяленнем, гарвыканком даручыў кіраваць прыгатаваннем хвойнай настойкі, каб неяк прадухіліць авітаміноз сярод насельніцтва. Рашэнне было прынята 18 лістапада 1941 года. Паднятыя былі нават архіўныя матэрыялы двухвекавой даўнасці, калі Расія экспарціравала хвою як лякарства ад цынгі. Знайшлі дакументы пра тое, як хвояй лячылі цынгу падчас вайны са шведамі. Разам са сваімі супрацоўнікамі А. Дз. Бяззубаў склаў інструкцыю, як рабіць аптыцыпготпую хвоевую настойку ў прамысловых умовах, як рабіць яе дома, як вітамінізаваць гэтай настойкаю прадукты. Якраз калі Цыгельмаер прыступіў да вывучэння дадзеных яму генштабам звестак, Бяззубаў вучыў, як здрабняць хваёвыя іголкі, як праводзіць іх экстракцыю, як фільтраваць, расфасоўваць настой. Адначасова ён вывучаў, як выкарыстоўваць у шпіталях і бальніцах прарослы гарох.

Праз месяц, у другой палове снежня, Бяззубаў і тыя супрацоўнікі інстытута, хто застаўся жывы, адправіліся правяраць, як працуюць устаноўкі, на якіх гатуюцца хвойныя настоі. Яны хадзілі па воінскіх часцях, шпіталях, дзіцячых установах, стацыянарах. На сарака шасці фабрыках працавалі гэтыя ўстаноўкі, у шасці навуковых установах таксама.

Для барацьбы з абмарожваннем яны шукалі спосабы атрымання кароціну.

У пачатку студзеня 1942 года ў горадзе пачаліся захворванні пелаграю. Трэба было здабыць нікацінавую

кіслату — вітамін РР. На гарышчах і ў вентыляцыйных трубах тытунёвых фабрык збіралі тытунёвы пыл. З яго і здабывалі нікацінавую кіслату.

Ён мог бы расказаць Цыгельмаеру, як вучыліся лячыць аліментарную дыстрафію. Найбольш эфектыўнымі аказаліся прэпараты бялковыя і вітамінныя. Паўнацэнным бялком былі казеін*, дрожджы, альбумін. Бяззубаў памагаў арганізаваць дастаўку казеіну ў Ленінград. А яшчэ раней ён здолеў выкарыстаць астаткі гарэлага цукру на Бадаеўскіх складах. Гэта славуты цукар, растоплены агнём, заліты вадою пажарных брандспойтаў, змяшаны з зямлёю, пяском,— пра яго столькі нам расказвалі! — вось якраз яго здабылі дзесяткі тон. Гэта былі глыбы чорнай салодкай зямлі; іх Бяззубаў прыдумаў прамываць зверху вадою і перaанрацоўваць на кандытарскай фабрыцы. Да вайны ён працаваў галоўным інжынерам гэтай фабрыкі. З гэтага чорнага тварагу, які доўга яшчэ працягвалі капаць ленінградцы на пажарышчы, пачалі вырабляць ледзянцовую карамель. Па смаку карамель нагадвала вядомыя дарэвалюцыйныя ледзянцы — л а н д р ы н. Была такая папулярная ў Расіі карамель з гарчынкаю.

Ягоны аддзел вывучаў, колькі караціну і вітамінаў у дзьмухаўцах, у крапіве, лебядзе, што з іх можна гатаваць...

Нічога пра гэта Цыгельмаер не ведаў. Ды, уласна кажучы, наўрад ці падобныя драбніцы ён прыняў бы пад увагу. Будучы спецыялістам прыкладна такога самага профілю, што і Бяззубаў, ён падлічваў, колькі сутак можа праіснаваць сярэдні ленінградзец без бялкоў і тлушчу. Ён вёў глабальныя падлікі. Перад ім была задача, эксперымент, вялізны эксперымент, пастаўлены па мільёнах, адзіны ў сваім родзе. Чым больш насельніцтва ахоплена гэтымі доследамі, тым менш аказваюцца ўсякія анамаліі, тым дакладнейшы будзе вынік.

Энергія не можа ўзнікаць з нічога. Сто гадоў таму назад вялікі зямляк гэтага Цыгельмаера ўрач Роберт Маер вывеў закон захавання энергіі. І Аляксей Бяззубаў і Цыгельмаер вывучалі, як чалавечы арганізм падпарадкоўваецца гэтаму закону, вывучалі дзеля зусім супрацьлеглых мэт.

Каб забяспечыць працу сэрца, лёгкіх, усіх органаў, трэба забяспечваць арганізм палівам. Цыгельмаер дакладна

* Асноўны бялковы кампанент малака і малочных прадуктаў.

ведаў: цяпло не можа ўзнікаць з духу, з волі, з пераканнняў; як бы чалавек ні хацеў сагрэцца, арганізму патрэбны для гэтага не думкі, а калорыі, патрэбна ежа, мінімальная колькасць якой злічваецца дзвюма тысячамі калорый у суткі.

Гэтых калорый у ленінградцаў не было.

Не бачачы жаданага выніку, Цыгельмаер на ўсякі выпадак уводзіў яшчэ ўсякія каэфіцыенты. Аднак Ленінград па-ранейшаму трымаўся. Цыгельмаер зрабіў яшчэ некаторыя апошнія дапушчэнні, яму трэба было ратаваць законы энергетыкі.

Жыхары гэтага горада павінны, абавязаны былі памерці, а яны працягвалі жыць, яны рухаліся, яны нават працавалі, парушаючы непахісныя законы навукі.

Рацыён ленінградцаў быў вядомы, тэмпература паветра, якасць хлеба,— усё было падлічана, улічана: 125 грамаў, 150 грамаў, нават 250 грамаў пры адсутнасці якіх-небудзь іншых прадуктаў не маглі забяспечыць фізіялагічнага існавання арганізма ва ўмовах такога холаду.

Цыгельмаер не разумеў, у чым ён пралічыўся. Ён не мог вытлумачыць генеральнаму штабу, чаму яго разлікі не апраўдваюцца.

Цяпер ён распытваў пра гэта пана савецкага прафесара. Але і Аляксей Дзмітрыевіч не мог да канца растлумачыць гэтага феномену. Ён размаўляў з Цыгельмаерам, вучоным — спецыялістам па харчаванню, які «кансультаваў» голад,— зусім пачціва, прыдушыўшы свае пачуцці. Ён гаварыў пра не ўлічаную веру ў перамогу, пра духоўныя рэзервы арганізма ленінградцаў.

Але, шчыра кажучы, яму і самому было не ўсё зразумелым. Ён усё перажыў, усё бачыў сам, і тым не менш пры ягоным вялізным вопыце не да канца разумеў, адкуль браліся сілы ў людзей...

...Гэтага забойцу-«невідзімку» спачатку не лічылі самым небяспечным. Забівалі — куды больш прыкметна ўсім — іншыя: бомбы, снарады. Ды і наогул жнівень — верасень — кастрычнік былі і без таго трывожныя да крайнасці: з дня на дзень чакаўся новы штурм. Вораг каля варот! — гэта крычала ў душы ленінградцаў, заглушаючы іншыя трывогі.

У дом да вас прыходзяць маракі, салдаты і, адсунуўшы далей дзіцячую калыску, закладваюць цэглаю акно, робячы з яго амбразуру,— і вы ім дапамагаеце! Танкі ворага ў чатырох кіламетрах ад Кіраўскага завода...

Пра саюзніка ворага*, які праз месяц-паўтара стане самым галоўным і страшным забойцам ленінградцаў,— пра голад хоць і непакоілі думкі, журботна смакталі, але ёй усё яшчэ не здаваўся такім небяспечным.

Вось расказ Галіны Іосіфаўны Пятровай (набярэжная Фантанкі, 39):

«— Даволі хутка ўвялі картачную сістэму. Я памятаю, што мы нават не выбіралі тую норму прадуктаў, якую нам давалі.

— Спачатку?

— Так. Спачатку выбіралі ўвесь хлеб, глядзім — пачаў хлеб дома заставацца; булкі былі, батоны. Пасля ўжо ўспаміналі, што вось тады давалі хлеб, а мы не бралі, а можна было браць і сушыць сухары. А спачатку не надавалі ніякага значэння. У мяне тут былі тата, мама, сястра і я. Сястра выйшла замуж, і ў жніўні яны ад’ехалі ў Сочы, мы з татам і мамаю тут заставаліся.

— У гэтым жа доме?

— Не, мы жылі тады на вуліцы Гогаля, семнаццаць, у тым доме, дзе жыў калісьці Гогаль».

Учэпіста трымалася ілюзія (прычым адначасова з чаканнем самага горшага), што хутка якім-небудзь цудоўным чынам «усё стане на месца». Псіхалагічны стан нечаканасці расцягнуўся на месяцы. Хаця, здавалася б, гэты стан імгненны.

Нечаканасць — доўжылася.

На такую «псіхалогію» першых дзён вайны звяртае ўвагу ў сваім расказе вучоны-матэматык Яўгеній Сяргеевіч Лапін (Маскоўскі праспект, 208).

«Гэта быў жнівень?

— Жнівень — пачатак верасня. Наконт таго, што нехта спецыяльна распаўсюджваў чуткі, я не ведаю, не даводзілася чуць. Думаю, што людзі самі сябе стараліся «супакоіць». У прыватнасці, была ў той час такая непраўдападобная чутка: страляніна ў горадзе чуецца быццам бы таму, што непрыяцель скінуў дэсант, яны схаваліся дзесьці на могілках і вось з мінамётаў страляюць па горадзе дзеля таго, каб выклікаць паніку. Такія ўяўленні характэрны для таго моманту. Людзі ніяк не маглі засвоіць усяго, што рэальна адбывалася. Вопыту не было. Тым больш

* «Становішча тут будзе напружаным датуль, пакуль не дасць сябе знаць наш саюзнік — голад»,— запісаў Ф. Гальдэр, начальнік нямецкага генштаба (Гальдэр Ф. Военный дневник. М.: Воениздат, 1971, т. 3, кн. I, с. 360).

што былі яшчэ ў памяці апісанні вайны на захадзе, усялякія там фокусы, паветраныя дэсанты ў Францыі і Бельгіі. Вось у такім духу і тут чакалі. Пасля ўсё аказалася не так. Ніхто на могілках не сядзеў, ніхто з мінамётаў па нас не страляў, проста фронт прасунуўся бліжэй да нас, і дальнабойная артылерыя магла страляць на адлегласці восем — дзесяць кіламетраў. Я не намятаю ўжо дакладна чысла, але гэта было за Маскоўскім вакзалам. І не дватры разы ў дзень грымне выстрал, а быў няспынны артылерыйскі агонь, бой, які вёўся ў дваццаці кіламетрах ад Ленінграда, у Паўлаўску. Усё стала зразумела. Мы ўжо ведалі, што фронт прасунуўся да Ленінграда, падышоў непрыяцель, бой адбываецца каля самага горада, і, верагодна, з гэтым звязаны і лёс горада. Тым не менш вялікіх налётаў на горад не было. Нават асобныя стрэлы да гэтага часу сціхлі. Наогул япы хацелі ўзяць нас папікаю, а панікі не атрымалася.

Што нас чакала наперадзе? Гэта стала зразумела, памойму, калі не памыляюся, сёмага ці восьмага верасня, калі ўвечар была аб’яўлена чарговая трывога. Трывог ужо было многа, мы несур’ёзна ставіліся да іх. Я выглянуў з акна (я жыў тады ў раёне Варшаўскага вакзала). Мы пачулі спярша, што зеніткі страляюць асабліва заўзята і ўзмоцнена. А зірнуўшы на неба, я ўбачыў незвычайную рэч: ішлі не асобныя самалёты, што дзесьці высока ляцяць маленькімі кропачкамі і іх нават разгледзець нельга. Не, рухаецца ў пэўным яўна разлічаным, складаным парадку вялікая маса самалётаў. Пастроены яны так, каб іх рух здаваўся грозным. І ён сапраўды быў грозны. Вакол іх ірвуцца снарады, відаць выбухі зенітнай артылерыі. А яны рухаюцца роўна: не пятляюць, не робяць розных складаных фігур, як рабілі самалёты ў жніўні. І нават калі які-небудзь з іх валіўся ў клубах дыму і ішоў уніз, астатнія працягвалі свой рух. Было ясна відаць, што гэта не выпадковы налёт, а гэта масавы налёт. Прайшла адна хваля, прайшла другая хваля, трэцяя хваля. Нешта адбываецца, гэта было пэўна. Раптам, паглядзеўшы ў паўднёвым напрамку, я ўбачыў вялікае воблака дыму, якое расло. Падобнае відовішча было ўпершыню. Воблака разрасталася ўсё вышэй і вышэй, дасягаючы дзесяткаў, сотняў метраў. Стала зразумела: гэта вынікі з’яўлення варожай авіяцыі. І нам усё гэта пасля дорага абышлося.

Тады мы яшчэ пра голад не ведалі, не думалі зусім. Забеспячэнне па картках было добрае: хлеба давалі столь-

кі, што з’есці яго было зусім немагчыма (шэсцьсот ці восемсот грамаў — хто з ленінградцаў еў столькі хлеба за адзін дзень?). Так што гэты бок заставаўся без увагі. Але, забягаючы наперад, скажу, што якраз паражэнне і, увогуле, знішчэнне гэтага склада — яно каштавала жыцця шматлікім жыхарам».

Удакладніць гэтыя факты, ацаніць іх вынікі — справа гісторыкаў. Мы вывучалі не гістарычныя дакументы, мы ўслухоўваліся ў расказы жывых людзей. Паміж намі і мінулым была жывая чалавечая памяць, хісткі мост, падточаны часам. У адных іхняе мінулае захавалася ў галаве, у другіх яно змясцілася вычытаным з кніг, бачаным у фільмах, і яны самі не заўважылі, як яно адбылося. Змясціліся даты. Першая бамбёжка Ленінграда была 6 верасня 1941 года; праз дзень, 8 верасня, адбыўся другі налёт, падчас якога разбамбілі Бадаеўскія склады. Дзве гэтыя даты ў шмат каго зліліся ў адну, і атрымалася, што Бадаеўскія склады згарэлі ў першую ж бамбёжку. Гэткіх памылак нямала.

Мы высвятлялі не гістарычную памылку, а хутчэй за ўсё стан людзей таго часу. І ў гэтым сэнсе было валаха ведаць, што менавіта кожнаму запомнілася з тых гадоў. Што ўрэзалася ў душу, што засталося ад блакаднага жыцця навечна ў душы, у свядомасці, што з перажытага пастаянна застаецца з чалавекам.

## НАЁМНЫ ЗАБОЙЦА

Голад быў ужо побач, у горадзе.

Больш жорсткімі сталі прадуктовыя нормы, горад збіраў усё, што можна было сабраць, захаваць, скарыстаць. Пайшлі ў ход усякія «замяняльнікі» — на хлебазаводах, у сталоўках.

І кожны сам пачаў аглядвацца, шукаць: што і дзе засталося прыдатнага для яды?

Голад толькі яшчэ намацваў горла сваіх ахвяр, але ўсім ужо станавілася трывожна, няўтульна: забойца недзе побач... Вось як расказваюць пра гэты час самі ленінградцы.

Мастак Іван Андрэевіч Караткоў:

«— Паступова голад пачаў падцiскаць. Што я прыдумаў? Якія меры? Я пачаў абходзіць кватэры ўсіх эвакуіраваных сяброў. Перш за ўсё пайшоў да Таі Рыгораўны. Не памятаю, як патрапіў (побач суседка, здаецца, жыла). Я ўвайшоў, ператрос усе шафы, усякія сухарыкі, пацвілыя, зялёныя, падабраў, яшчэ штосьці такое. Наогул, я вось такі мяшэчак набраў. Быў вельмі задаволены, што атрымаў прыстойную порцыю чагосьці. Яшчэ да некага я пайшоў у кватэру, таксама па ўсіх шафах збіраў усе кавалачкі засохлыя, што засталіся. Пасля мне адзін мой студэнт прынёс макуху — вось такія «лісты». Прынёс тры лісты. Гэта была грандыёзная рэч — тры лісты макухі!

— А які тады месяц быў?

— Кастрычнік і лістапад, халады, калі ўжо нічога не стала. Пасля дома знайшоў крыху мукі. Пасля ў мяне аказаўся клей рыбін для грунтоўкі і некалькі бутэлечак алею льнянога на акне... Нейкім чынам я адчуў, што справы дрэнь. Я не стаў надта налягаць, а ўсё гэта раўнамерна размяркоўваў».

Былы работнік радыё Ніл Мікалаевіч Бяляеў:

«— Што характэрна было для тых месяцаў, калі пачалася галадоўка? Гэта — адразу скарыстаць усё, што можна есці. Што сюды залічвалася? Гэта вось дуранда — макуха сланечнікавая, якую можна было кавалачкамі на рынку набыць. Маленькі кавалачак, плітку макухі можна было за трыццаць рублёў купіць. Цана трыццаць рублёў чамусьці трымалася на гэтую макуху некалькі месяцаў, пакуль яна не кончылася. Квадратны дэцыметр шкуры жывёлы. з каровы ці з каня (з яе можна было згатаваць студзіну), плітка сталярнага клею — гэтыя рэчы на рынку купляліся, і прыблізна кожная з іх рублёў па трыццаць каштавала. Калі халадзец прыгатаваць з маленькага кавалачка шкуры, ён не атрымаецца дастаткова добрым і густым, а калі сюды дадаць сталярны клей, дык зварыцца, атрымаецца добры, круты. Есці, зразумела, вельмі непрыемна было, але засмачыш гарчыцаю, перцам, воцатам, які выдаваўся рэгулярна па картках (уласна кажучы, толькі гэта рэгулярна і выдавалася), і сяк-так ясі, і можна было неяк існаваць. Але ў сорак другім годзе гэтага нічога ўжо нельга было дастаць, ні макухі, ні клею. Гэта ўсё прапала. Так што заставалася, як тым палярным падарожнікам з апавяданняў пра Амундсена ці Нансена, пераходзіць на рамяні. Але гэта атрымалася блага. Таму што тады, у тых падарожнікаў, рамяні былі сырамятныя. Гэта сырамятная

скура, не вырабленая хімічна, не прайшла, так сказаць, апрацоўку. А рэмень — што? Нічога! Яго вось зрэжаш, пакрышыш, паспрабуеш зварыць, варыш-варыш — ён не разварваецца. А калі і разварыцца, з’ясі гэта ўсё, дык, як кажуць, ніякай радасці ад гэтага няма, нічога няма».

Усё самае, здавалася, неймавернае галодны спрабаваў «утылізаваць». Асабліва наіўна-бездапамояшую вынаходлівасць праяўлялі хлопцы-рамеснікі. Яны (паводле многіх расказаў) паміралі ледзь не першымі: адны, без родных і блізкіх, што атрымаюць, тое ўсё з’ядуць за адзін раз, праядалі адзенне, абутак.

На думку шмат якіх блакаднікаў, больш стрыманых, залішняя вынаходлівасць тут пагібельная. Часта яна забівала чалавека яшчэ раней, чым завяршаў сваю справу голад. Але, нават ведаючы пра гэта, людзі не маглі ўтрымацца: голад не цётка!..

Расказвае Зоя А л я к с е е ў н а  Б е р н і к о в і ч, работнік Эрмітажа:

«— Як жа, усё даводзілася есці: і рамяні я ела, і клей я ела, і пакост: смажыла на ім хлеб. Пасля нам сказалі, што з гарчыцы вельмі смачныя аладкі. За гарчыцаю якая была чарга!

— Што, хіба з адной толькі гарчыцы?

— Трэба было ўмець гатаваць. Я два пачкі паклала ^а ўзяла пятнаццаць пачкаў, думала, запас будзе, можа, жыць буду). Вось трэба яе мачыць сем дзён, зліваць ваду і зноў наліваць, каб гарката ўся выйшла, ну, канечне, я спякла аладкі, два. З’ела адзін і пасля я пачала крычаць як звар’яцелая. У мяне былі такія рэзі! Вельмі багата людзей паўмірала. Усё-такі гэта гарчыца, кажуць, з’ела кішкі. Калі выклікалі да мяне ўрача, ён пытае: «Колькі вы з’еліападкаў?»— «Толькі адзін».— «Ваша шчасце, што вы з’елі мала. Ваша шчасце!» Вось так я засталася жывая... Ландрын купілялі, пілі салодкі чай; сахарын часам можна было дастаць. Праўда, вясною, быў ужо агарод. Я была вельмі шчаслівая, што мой агарод ніхто не кратаў. Я ела, ведаеце, якую траву? Лебяду і падбел, можа, ведаеце такую? Як прынясу поўны мех, у мяне была такая вялікая бутля, я туды натрамбую, насалю і з соллю ем».

Пра «бадаеўскую», пра «салодкую», зямлю шмат хто расказвае. Яе прадавалі на рынках нароўні з іншымі прадуктамі. Якасць (і цана) «бадаеўскага» прадукта залежалі

ад таго, які гэта слой зямлі — верхні ці ніжні. Валянціна Сцяпанаўна Мароз (бібліятэкар) і цяпер памятае смак яе:

«— Пасля яшчэ такая дэталь запомнілася: калі разбамбілі Бадаеўскія склады, мы бегалі туды ці, лепш сказаць, дапляталіся. І вось зямля. У мяне застаўся смак зямлі, значыць, і дагэтуль уражанне, што я ела тлусты тварог. Гэта чорная зямля. Ці, можа, сапраўды яна была алейкавая?

— Слодыч адчувалася?

— Нават не слодыч, а нешта такое тлустае, магчыма, там масла было. Уражанне такое, што зямля гэта была вельмі смачнай, такой тлустаю па-сапраўднаму.

— Як гатавалі гэту зямлю?

— Ніяк не гатавалі. Проста па маленькаму кавалачку глыталі і кіпетнем запівалі».

У пераліку блакаднае яды рознае можна знайсці — канаплянае семя ад птушынага корму, і саміх канарэек, і драздоў, і папугаяў, збіралі мучны клей ад шпалер, здабывалі яго з пераплётаў, выварвалі прывадныя рамяні, елі катоў, сабак, варон, спажывалі ўсемагчымы тэхнічны алей, скарыстоўвалі пакост, лякарствы, прысмакі, вазелін, гліцэрын, усялякія адыходы раслiннай сыравіны. Спіс гэты доўгі, здзіўляючы па сваёй вынаходлівасці, нават вытанчанасці, з якою выпрабоўвалася на ядомасць усё, што знаходзілася навокал. Напрыклад, адна жанчына разрэзала, варыла і з’ела суслікавае футра (з расказу Сцепанчук М. Г.).

Ёсць народы, у якіх прынята спажываць у якасці харчу, скажам, сабак, альбо вужоў, альбо жаб. Ленінградцу пераадолець усе «забабоны», засвоеныя ў выніку свайго выхавання, было нялёгкаю справаю, і шмат каму гэта аказалася не пад сілу.

І нават у літаральным сэнсе... «зямлю елі»...

Аляксандра Міхайлаўна Арсеньева, аўтар друкаваных успамінаў пра камсамольскі полк проціпаветранай абароны Ленінграда, расказала нам:

«— Я пайшла на семінар у райвыканком і трапіла пад бамбёжку пад аркаю — пабілі мне пазванкі, увогуле не зламалі, але сінякі былі вялікія, і я ўжо не магла рухацца. Мяне, непрытомную, прынеслі ў нейкае рамеснае вучылішча, на першы паверх. І вось там я, лежачы і адчува-

ючы, што я ўжо не вярнуся да жыцця, не ўстану, глядзела на хлопцаў — худых, з сумкамі ад процівагазаў. І ў сумках у іх зямля — яны прадаюць, мяняюць на хлеб зямлю! Падыходзіць да мяне хлапчук і кажа: «Цётачка! Вы хлеб не ясцё? (А я хлеб ужо не ела, у мяне адкрыўся крывяны панос, і я нічога не ела.) Памяняйце на зямлю. Гэта вельмі смачна!» — «Як жа, кажу, зямлю есці?»

— Гэта з Бадаеўскіх складоў зямля.

— Гэта торф, нават не салодкі, а проста торф, паколькі торф лічыцца пажыўнай зямлёю. І вось зямлю — на хлеб. За кавалачак хлеба еп дае табе дзве конаўкі зямлі. Я гэту зямлю ўзяла толькі, каб паспрабаваць, а хлеб аддала. Аддала ім і свае карткі. Хлопчыкі сумленныя былі, яны мне прыносілі хлеб».

Слова «хлеб» набыло, аднавіла сярод усяго гэтага свой сімвалічны сэнс — хлеб надзённы. Хлеб як лад жыцця, хлеб як найлепшы дар зямлі, крыніца чалавечае сілы.

Блакадніца Таіса Васільеўна Мяшчанкіна пра хлеб гаворыць, нібыта малітву новую складае:

«Вы мяне паслухайце. Вось цяпер, калі я ўстаю, я бяру кавалак хлеба і кажу: памяні, божа, усіх тых, хто памёр з голаду, хто не дачакаўся ўдосталь паесці хлеба.

А я сказала сабе: калі ў мяне будзе заставацца хлеб, я буду самы багаты чалавек.

Вось з гэтага я пачынаю раніцу, толькі з гэтага. Я не хлушу. П’ю моцнага чаю два кубкі, і гэта багацце.

Калі паміраў чалавек і ты да яго падыходзіў, ён нічога не прасіў — ні масла, пі апельсіна, нічога не прасіў. Еп толькі гаварыў табе: дай крошачку хлеба! І паміраў!..

Я засталася, я не ведаю, чаму я, такая, засталася. Я но ведаю чаму. Я малапісьменная.

У мяне дзяцінства было цяжкае, бацька і маці да рэвалюцыі памерлі. Ну, чаму я засталася? Можа, дзеля таго засталася, каб расказаць нейкую там гісторыю цікавую?»

Масавы голад — гэта ціхія смерці: сядзеў і непрыкметна заснуў, ішоў — спыніўся, прысеў... Многія назіралі, запомнілі жахлівую «ціхасць» галодных смерцяў.

«Я ішла з работы, і вось (рог праспекта Газа і Агароднікава) жанчына адна ідзе і кажа мне: «Дарагая! Богам прашу, памажыце мне!» Я міма ішла, кажу: «Чым я магу вам памагчы?» — «Ну, давядзіце мяне да гэтага паркана». Я давяла яе да гэтага паркана. Яна пастаяла, пасля апусцілася і села. Я кажу: «Чым вам памагчы?» Гляджу, яна

ўжо і вочы закрыла. Памерла!» (Нікіціна Алена Міхайлаўна).

Пра гэтае самае — Людміла Аляксееўна Мандрыкіна (Неўскі праспект, 137).

«Ну, што вам яшчэ сказаць? Вось у нас у ваенным архіве заўсёды сядзела міліцыя. І такія выдатныя хлопцы былі — міліцыянеры, цудоўныя, маладыя былі ўсе. Гэта тыя, што былі прызваныя на вайну і заставаліся тут у міліцыі. У міліцыі кармілі вельмі дрэнна, таксама як і ў МППА*. Вось я часта з імі размаўляла, ну, проста гаварылі пра тое, што мінецца ж гэты час, а што будзе пасля? Мы стараліся не гаварыць пра яду. І раптам ты глядзіш на чалавека і бачыш, што ў яго шклянеюць вочы. Я цяпер ведаю, што гэта такое...

— Проста ў час размовы?

— Вось проста ў час размовы. Ён сядзіць... садзіцца, кажа: «Ой! Мне нешта не вельмі!..» — «Ну, пасядзі! Усім не вельмі добра...»

Вось двое так памерлі на маіх вачах. Пасля ён усё павольней гаворыць, павольней...

Вось так паміралі людзі. Так яны паміралі і на вуліцы. Калі яны ішлі, нехта садзіўся на тратуар. Спачатку да яго падыходзілі, гэта яшчэ тады, з самага пачатку, а пасля яго проста абыходзілі, і ён часта ўмярзаў у струменьчык вось гэтае вады, што цякла...» Такія расказы паўтараюцца і вар'іруюцца да бясконцасці — пра ціхі, непрыкметны пераход за край голаду,— а некаторыя набываюць жахлівы вобразны сэнс.

«— Пасля раптам ён да мяне звяртаецца і кажа: «Мар'я Андрэеўна! Сядзьце каля мяне. Я вам аддам партыйны білет. Пасядзіце са мною побач». Села каля яго. Я кажу: «Дзе ў цябе сям'я?» — «Яна эвакуіраваная. Не ведаю, мне нічога не пішуць». (Ну, дзе там пісаць. Можа, і пішуць, ды не даходзіць.) І вы ведаеце, ён мяне абхапіў за шыю, ці гэта ён хацеў пацалаваць, ці што. І ён памёр! Вы ўяўляеце — як у мёртвага шчапляюцца рукі? Я ніяк не магу вызваліцца адтуль, нічога не магу зрабіць. А Жэня Савіч і яшчэ там іншыя прыйшлі. Ну, што — яны таксама не могуць. Ну, ледзь-ледзь выцягнула галаву ад яго...» (з расказу Сюткінай Марыі Андрэеўны, былога парторга цэха Кіраўскага завода).

* МППА — мясцовая проціпаветраная абарона.

Трэба было хадзіць на завод, трэба было працаваць, хоць і проста ісці па вуліцы ленінградцу часам было не па сілах.

«— Пасля я яшчэ вельмі добра памятаю, як людзі ішлі. Ніколі я і нідзе не бачыла і не чула, каб чалавек ішоў так, як у блакаду: чалавек ішоў так, як насупраць ветру ідуць, разумееце, вось нахіліўшыся ўсім корпусам наперад, каб не ўпасці, цяжка вось так перастаўляючы ногі. Амаль усе так хадзілі. Не ведаю, чаму мне запомнілася гэта паходка.

— А самі вы лавілі сябе на тым, як вы ідзяце? Ці на гэта ўжо не звярталі ўвагі?

— Можа, я таксама гэтак хадзіла, я цяпер не памятаю. Толькі вось мне запомнілася тая паходка. Мая гэта была ці тых, хто вакол мяне? Не памятаю. Мне здаецца, што ўсе так хадзілі...» (Грыгаровіч Аляксандра Дзмітрыеўна).

«Вы ведаеце, і на мяне гэта рабіла ўражанне таксама: ідзеш гэта шоргаючай паходкаю, ледзь ногі перастаўляеш; і людзі вакол цябе ходзяць, дзе-небудзь у яго падвешаны партфель, таму што ў руках яму цяжка несці, і таму прывязаў яго сюды, на шыю. І ўсё нібы ў запаволенай кіназдымцы.

Вось мяне дзве рэчы ўразілі: гэта карціна-чалавек, што чытае аб'явы, а ад ягонай рукі цягнецца вяроўка, прымацаваная да фанеры з нябожчыкам. І яшчэ адзін раз, таксама з адной з самых глухіх мясцін я вяртаюся — з Інстытута эксперыментальнай медыцыны,— познім вечарам па вуліцы Паўлава. І ззаду за мною ішла нейкая група людзей. Я нават не звярнуў бы ўвагі, але я ўздрыгнуў і павярнуўся, калі пачуў рогат. Адбылося нешта зусім неверагоднае: аказваецца, што нейкія дзяўчынкі і нехта з нечага зарагатаў...» (Аляксандраў Уладзімір Якаўлевіч).

Голад мяняў людзей не толькі фізічна — ён мяняў характар, прывычкі, ён скажаў у некаторых людзей усё іх духоўнае аблічча.

«— Чым мне ўдалося падтрымаць сваіх супрацоўнікаў? — успамінае Зінаіда Аляксандраўна Ігнатовіч (Сярэдні праспект, 35).— Перад вайною мы займаліся ў лабараторыі харчовымі атручваннямі, якія выклікаліся бактэрыямі. Дзеля таго каб вырошчваць бактэрыі, гатуецца асобае асяроддзе. Яно гатуецца на мясным булёне. Ленінградскі мясакамбінат гатаваў нам такое асяроддзе, такі канцэнтраваны булён, гатаваў яго з нецеляў.

А што гэта такое. Гэта калі забівалі кароў і ў чэраве ў іх знаходзілі плод. І вось з гэтых пладоў яны гатавалі экстракт Лібіха і сушылі яго. У нас быў вялікі запас яго. Гэта выратавала многіх супрацоўнікаў. Калі пачаўся голад, я як намеснік начальніка па навуковай частцы, калі прыходзіла, вымала адзін слоік, вакол садзіліся супрацоўнікі, і я давала па сталовай лыжцы мяснога экстракту. Яго можна было так есці. Тут я хачу прыгадаць выпадак, які і дагэтуль хвалюе мяне. У нас быў у інстытуце супрацоўнік, культурны чалавек. Ён быў рослы і здаровы мужчына. І ён вельмі хутка здаў. Калі я раніцой раздавала гэты мясны булён, ён першы ўжо сядзеў за сталом. І такімі палаючымі вачыма вадзіў ён за гэтай лыжкаю! Адчувалася, што ўсе ягоныя думкі засяроджаны на ёй. Вельмі цяжка было ўявіць, што гэта той самы далікатны і такі разумны, такі цудоўны чалавек!

Калі пачалі адкрывацца так званыя стацыянары, нам удалося памясціць яго ў стацыянар. Але ўрачы тады яшчэ не ведалі, што нельга адразу пасля голаду даваць многа ежы. Яму далі дзвесце грамаў масла, паўбуханкі хлеба. Ён з’еў усё адразу і ўначы памёр.

— Няўжо ўрачы не ведалі?

— Спачатку не ведалі. Пасля яны ўжо ведалі, што чалавека трэба паступова выводзіць з галоднага стану».

У той самай маленькай лабараторыі былі другія людзі, якія жылі гэтыя месяцы і памiралі інакш.

«У нас быў такі Салаўёў, сядзеў у вестыбюлі. Ён просты чалавек, нават не вельмі добра пісьменны. Сыны ягоныя пайшлі на фронт. Дачка з ім адна засталася (жонка памерла перад вайною). Пасля зяця прызвалі ў армію, і дачка пайшла з ім на фронт. Ён у нас быў дзяжурным вартаўніком, здаецца, таму што да нас у лабараторыю, паколькі лабараторыя была харчовая, прыносілі аналізы і ўдзень і ўначы. І ён сядзеў у вестыбюлі, не ацепленым, халодным. Чалавек гэты быў малапісьменны, але перакананы, усім маладушным ён гаварыў: «Ды няўжо мы Ленінград аддамо? Мы ніколі яго не аддамо». А сам зацягваў рэмень усё больш і больш, худнеў і худнеў. Прымаў аналізы, выконваў свае абавязкі і ўсіх падбадзёрваў: «Пачакайце яшчэ крышку! Адстаяць Ленінград. І ўсе мы будзем жывыя». І вось аднойчы супрацоўнікі прыйшлі: нешта Салаўёва не відаць? А ён як сядзеў па сваім пасту на табурэтцы, так і памёр. Так і памёр, з моцнай вераю ў аба-

вязковую перамогу, у тое, што Ленінград абавязкова вызваляць».

З. А. Ігнатовіч не параўноўвала. Яна ні словам, ні інтанацыяй, нічым не асуджала памяць першага супрацоўніка. Людзі разумелі, што голад можа адужаць чалавека, кожны на сабе адчуваў яго ўсёразбуральную сілу і ў глыбіні душы баяўся — сёння выстаяў, а заўтра, можа, не хопіць волі і нешта хрусне, зламаецца...

«Я перанесла ўсю блакаду. Горш за ўсё — гэта голад,— сцвярджае Лідзія Сяргееўна Усава, якая была тады рабочай.— Гэта страшней за ўсё. Наш завод кожны дзень абстрэльваўся. Але мы не ішлі ў бамбасховішча: зусім перасталі гэтага баяцца. Першае, што мы рабілі, гэта хапалі кавалак хлеба і запіхвалі яго ў рот; крый бог, калі цябе заб'юць, а ён застанецца! Разумееце? Вось якая псіхіка была. А пасля ты жахаешся: ты ўсё з'ела, а бамбёжка кончылася! Гэта быў сорак другі год. Гэта быў самы жахлівы год!.. Памятаю, калі памірала мама, я ёй давала цукар кавалачкамі, і яна ўсё казала: харошанькая, харошанькая! А з сястрою падзяліцца я ўжо не магла. Яна была ў бальніцы, я несла ёй штосьці, але па дарозе пачынаўся абстрэл, і я ўсё з'ядала, я не магла ёй данесці. Тут я была ўжо ў такім стане, я ўжо ні пра што не магла думаць, апрача толькі аднае яды. Разумееце? Гэта вельмі жахліва».

Лідзія Сяргееўна бязлітасная да сябе. Яна з тых людзей, у якіх праз гэту бязлітаснасць відаць сумленне, якое ніякія хітрыя патуранні часу не супакоілі. Кожны раз у расказе пра сваю працу яна ўсё вяртаецца да ўспамінаў пра голад, да адчуванняў, мабыць, незабыўных.

«— Працавала я ў Пятым ПМТ. Пасля нас перавялі па завод «Чырвоная зара», куды хадзіць было вельмі далёка. На заводзе мы займаліся расчысткаю. Было вельмі цяжка, калі мы на снезе працавалі. Я ўпала. Мяне перанеслі ў прыёмны пакой бальніцы. І калі я прыходзіла да прытомнасці, я чула: «Ну, ну, тут поўны ўпадак сардэчнай дзейнасці». Верагодна, тады мне зрабілі ўкол. Калі я расплюшчыла вочы, мне далі кіпетню і зноў адправілі па працу. Усё-такі я была жывучая. Можа, нават тое, што мяне адправілі зноў па працу, гэта якраз і трэба было, таму што той, хто клаўся, той ужо не ўставаў.

— А ведалі тады ўжо, што той, хто клаўся, той не ўставаў? Ці гэта пасля ўжо, заднім чыслом?

— Не, мы яшчэ тады нічога не разумелі. Я скажу так: у мяне ўсе думкі былі накіраваны толькі на яду. Гэта было сапраўднае вар'яцтва. У сорак другім годзе я ўжо не магла данесці паёк з магазіна дамоў: калі там быў сыры гарох, я яго з'ядала на вуліцы... Так прайшла зіма сорак другога года, і наступіла вясна. У мяне выгляд быў жахлівы. Я вельмі моцна ацякла. Я была неверагодна худая: пры маім росце ў мяне была вага сорак два кілаграмы (я важылася ў бальніцы, гэта цікава было). Ногі былі нібы тумбы, вось такі апухлы твар, вочы — шчыліны. Страшэнны выгляд быў. І вось тут нас пачалі прапускаць праз узмоцненае харчаванне. Яно было вельмі правільна арганізавана: нас кармілі чатыры разы на дзень невялікімі порцыямі, давалі паўнацэнныя прадукты, але мы нават плакалі. Нам здавалася, што нас абрабавалі: у нас адабралі карткі і даюць вельмі мала. Гэта, канечне, псіхоз быў, безумоўна. Сталоўка была на рагу Неўскага і Уладзімірскага, дзе цяпер рэстаран «Масква». Было проста жахліва: прыедзеш — і дадуць табе маленькі сподачак кашы. Страшэнна хацелася больш. І тут я памятаю, як я сядзела ў садзіку і глядзела на скачучых вераб'ёў, і ў мяне былі зусім кашэчыя інстынкты: вось злавіць гэтага вераб'я і згатаваць з яго суп!

...Было ўзмоцненае харчаванне, і была траўка, якую мы пачалі есці. Кожную раніцу — гадзін у чатыры... Я ўставала і ішла на ўсякія звалкі збіраць крапіву. І калі ўдавалася набраць насоўку крапівы, гэта было шчасце! Ну, потым я ў Таўрыцкі сад хадзіла, дзе трава была да пояса. Я проста на смак каштавала. Гэта лебяда была, канечне. Я яшчэ здзіўлялася: навошта гэта людзі ядуць радыску, калі можна есці лебяду, гэта намнога смачней. Вось гэтай травою мы дапаўнялі той паёк-кашку, якую атрымлівалі».

Сустрэліся мы з рабочай сям'ёю Васільевых — Нікандрам Іванавічам і Зояй Яфімаўнай (праспект Металістаў, 105), запісалі іхнія расказы. Муж працаваў майстрам па Металічным заводзе, жонка дома ратавала дзяцей. Вось яе расказ пра гэта:

«— У мяне было эвакуацыйнае пасведчанне, у Омскую вобласць нас эвакуіравалі з завода. Многія жанчыны паехалі, я таксама сабралася, думала, што я тут буду рабіць, дзяцей жа няма куды падзець. А мне кажуць: «Як ты паедзеш? Хто ў цябе там ёсць?» Я кажу: «Ды нікога ў мяне няма, усе ў Ленінградзе». Тут я падумала-падумала: ку-

ды ж я з такімі двума малышамі паеду? Нас там ніхто не чакае. І рашыла, што не паеду, і ўсё! Усё распакавала!
І засталася! Ну, пасля пачаліся абстрэлы, яшчэ голаду мы не ведалі. І абстрэлы на нас так падзейнічалі, і мы так глядзелі, што лепш бы нам галадаць, толькі не такія абстрэлы страшныя, таму што рабочы раён, тут заводы кругом. І яны ж начамі бамбілі, і абстрэльвалі, і спускалі ракеты асвятляльныя ўсё роўна як на парасончыках такіх. Пасля прадуктамі перасталі забяспечваць. Дачка доўга ў тыя карткі гуляла, абразала талончыкі.

— Гэта пасля вайны? Непатрэбныя?

— Так, засталіся ж затаваранныя картачкі. Я хадзіла ў тры гадзіны ночы і станавілася ў чаргу за прадуктамі. Ды паліто, яшчэ зверху вяроўкаю завяжашся ці кушаком, каб шчыльней, таму што ўжо толькі скура ды косці былі. Муж заўсёды з раніцы на працу ішоў, на завод. А я вось гэту, старэйшую, пакідала з пемаўляткаю. Яна перабярэцца на наш ложак і глядзіць: мокрая — дык падсцеле ёй. А я ў чарзе па прадукты. І стаіш часам дарэмна — нічога не атрымаеш, прыйдзеш дадому з нічым. Адзінае, што памагло нам выжыць,— гэта агароды. Дзе цяпер шасэ Рэвалюцыі, забудаванае дамамі, тады там палі былі. Далі нам дзве соткі зямлі. Прыслалі насенне. Там была і морква, і рэпа, і бручка, і турнэпс. Такія пакеты былі зялянковага колеру, маленькія, так шчыльна заклееныя. Нам раздавалі насенне. А пасля, калі мы пачалі капаць гэтыя агароды, нам далі «вярхушкі» — зрэзы з бульбы, на заводзе раздалі па паўтара кілаграмы, як цяпер памятаю.

— Вочкі?

— Так, вочкі, вярхушачкі. Ну вось, мы тры кілаграмы атрымалі і пасадзілі. Бульба была цудоўная — проста вось такія бульбіны, чырвоныя, разварыстыя. І мы рады былі гэтай гародніне. І капусты вельмі багата. Спачатку, калі я збіралася эвакуіравацца, мне далі сухога малака на дарогу. Ну вось, я першы час маленькай крыху дабаўляла. Ды і яшчэ самі пакуль атрымлівалі прадукты, так што хапала. А пасля, калі ўжо зусім галадна стала, яна ў мяне схуднела вельмі. Але яна такая румяная была з твару. У мужа і маці, гадоў восемдзесят ёй было, а яна ўсё румяная — такі колер твару... Нейк некалькі дзён хлебазаводы, пякарні не выпякалі хлеб. Ну і давалі муку. Я гэту муку замест хлеба атрымала і згатавала такую баўтуху, ну проста дзве лыжкі мукі на каструлю вады і падсаліла. Вось гэтай мукі гарачай, што называецца, пасёрбалі па-

руску. А дачцэ згатавала гусцейшую кашу. Уначы я чую — рвота ў яе паднялася. Мы са старэйшаю дачкою на пліце спалі. Муж на сталах, два ці тры сталы было па кухні. А маленькай унеслі крэслы на кухню, і яна ляжала тут. Я хутчэй ускочыла, газоўку запаліла. Гляджу — яе вырвала і страўнік расстроіўся. Пасля гэтага я пайшла ў кансультацыю і кажу: «Няма чым карміць дзіця, хоць што-небудзь выпішыце!» Урач кажа: «У нас нічога няма, мы не выпісваем». Я кажу: «Вы паглядзіце на яе!» А яна: «Ды не, румянае дзіця!» — «Вы не глядзіце на твар, у яе ж рукі, ногі як вяроўкі!» — «Не раскручвайце, у нас тут холадна. І няма ў нас нічога». Так мне і адмовілі. Ну, яна хутка, канечне, і памерла, таму што карміць ужо зусім не было чым, пі круп, ні масла, нічога мы ў гэты час не атрымлівалі.

...А калі бамбілі, вы ведаеце, як бомба ўпадзе, дамы вось так і хістаюцца. Я ж у бамбасховішчы ні разу не была. Думала — калі заб'юць, дык усё роўна, у склепе ці тут. Часам падрыхтуеш сумку, трымала там сёе-тое, вадзіцы каб папіць, пялёнку трымала (гэта маленькай). Мы звычайна ў пярэднім пакоі садзіліся — я і яшчэ з другога пакоя жанчына з дзіцем. Садзіліся з сумкамі і сядзім усярэдзіне, каб шыбы не паляцелі на пас. І вось калі мяне ў шпіталь паклалі, старэйшая дачка засталася дома. Я там больш чым месяц ляжала. Ну, ён раніцай дачку пакорміць і ідзе на завод. У абед прыбяжыць і яшчэ падагрэе што-небудзь, тут блізка было. Л пасля я прыйшла з бальніцы. Тады вось і далі ўчастак па агародзе. Ён завёў мяне туды і кажа: вось, капай. А я стаю. Вецер быў моцны, як падзьме — я падаю. Сесці няма на што — вакол мокрая зямля...»

Спачатку бачылі толькі забітых бомбамі, снарадамі: Пасля пачалі з'яўляцца забітыя голадам. Іх некаторы час не тое каб не заўважалі — баяліся зразумець да канца, што гэта значыць, што насоўваецца на горад.

Галіна Іосіфаўна Пятрова вучылася ў медінстытуце, і яна ў ліку першых убачыла тых, хто памёр ад аліментарнай дыстрафіі. Але, убачыўшы труп на вуліцы, яна, без двух дзён урач, спалохалася, як дзяўчынка,— не мёртвага чалавека, а масавага голаду, які раптам разгледзела...

Чалавек ужо бачыць. Але бачыць яму не хочацца. Не хоча прымаць.

Мастак Іван Андрэевіч Караткоў добра запамятаў гэту вось бездапаможную хітрасць чалавечае свядомасці, для якой праўда занадта жахлівая.

«— Я стаю ў чарзе па хлеб у булачнай. Там гарыць каганец такі, і па картках нам даюць мокры кавалачак. Я адчуваю, што я чапляюся за штосьці і пераступаю. У мяне няма ўсведамлення, што гэта чалавек. Я думаю: хто гэта там мех нейкі кінуў? Ніяк не мог зразумець, што наогул адбываецца. Я пераступіў, і іншыя ідуць. Калі я выйшаў, толькі тады да мяне дайшло, што мы хадзілі па чалавеку, які тут упаў! Ступалі цераз яго, і ніхто, так сказаць, не ўсвядоміў гэтага. Вось гэта які жахлівы стан!

— А прадаўцы хлеба ахоўваліся?

— Не ведаю, можа, якая-небудзь патайная ахова і была. Неяк пра гэта ніхто і не думаў, і ў мяне ніякіх асаблівых думак не было. І вось такія незразумелыя рэчы: я ўвесь час дзесьці памыляўся. Вось у жонкі, Ліны Восіпаўны, сястра была — Марыя Восіпаўна. У яе за адну ноч памерлі муж і сын ад голаду. Нейкім чынам мне паведамілі пра гэта. Я прыйшоў да іх. У іх яшчэ быў адзін сып, які служыў у гэты час у шпіталі палітруком, таму што ў яго было толькі адно вока (другое страціў на вайне). Яму недзе зрабілі дзве труны (у той час гэта была рэдкая рэч), далі каня; і вось мы паставілі дзве труны на нейкія сялянскія развалкі, прывязалі, селі на гэтыя труны і паехалі з імі на могілкі. Я як цяпер памятаю гэта месца па Малой Пасадскай. Добры такі дом на рагу. Яны ў гэтым доме і жылі, Малая Пасадская, дзесяць. Балконы там такія. Я як цяпер памятаю, як Марыя Восіпаўна стаіць знізу, а мы ад'язджаем на гэтых дамавінах.

Ну вось, мы паехалі. Паехалі мы па Серафімаўскія могілкі. І па дарозе ўсе вязуць, значыць, па санках. Нехта папрасіў, каб мы прывязалі яго санкі да сваіх развалкаў, а яго пасадзілі з сабою. Аднаго пасадзілі, другога. Пасля ў нас ужо трое санак ззаду і сядзяць яшчэ трое. І павольна так мы едзем на Серафімаўскія могілкі. Прыязджаем па могілкі. Там працуе экскаватар, капае траншэі. У гэты час, я бачу, дзесьці далёка праходзіць машына. Неяк тады да свядомасці не даходзіла маёй. Пасля толькі скеміў, што гэта ў траншэі возяць мёртвых і закапваюць, і машыны ўсё падыходзяць, таму што яны збіраюць у горадзе ўсіх, хто дзе ляжыць, прывозяць сюды і хаваюць. Тады я недастаткова добра разумеў, ці гэта я так быў пастроены, каб не паддавацца,— я не ўспрымаў гэтага».

Дзмітрый Міхайлавіч Смірноў быў тады яшчэ падлеткам. Але ён добра памятае і ўсё, што было, і пачуцці свае.

«— Яны ў снежні месяцы яшчэ не ляжалі і ў студзені месяцы яшчэ не ляжалі, спачатку. Яны сталі ляжаць у канцы студзеня месяца. Яшчэ ў студзені месяцы іх вазілі нават у трунах. Пасля ўжо без труп, а пасля ўжо было, праз нейкі перыяд, што ў асноўным яны, як я прыпамінаю, ляжалі на вуліцах неяк зашытыя, неяк загорнутыя.

— У просціны?

— Так... Вязуць многа нябожчыкаў. Што значыць многа? Калі па дарозе сустрэнеш ад аднаго канца Вялікага праспекта да другога тры, чатыры, пяць нябожчыкаў... На саначках, у большасці выпадкаў на саначках, таму што снег быў ужо. Некаторыя везлі на спараных саначках. Часцей за ўсё жанчыны цягнулі. І ў мяне маці ледзь не памерла. Яна працавала ў аптэцы, і, можа, гэта яе выратавала. У яе пачаўся фурункулёз, на шыі былі страшэнныя нарывы. Пасля, некаторыя не верацць, а хвоя вельмі памагла ёй, мы пілі хваёвую настойку. Аднаго разу я вельмі быў узрушаны, калі ўбачыў (гэта і цяпер перад вачамі ў мяне) дзесьці на Вялікім праспекце — ці гэта там было рамеснае вучылішча, ці то ФЗВ, не ведаю што, можа, там быў пункт, куды звозілі трупаў. І вось ужо веснавы дзень (веснавы, таму што ўжо снегу не было), і ідзе машына, і на ёй трупы ляжаць. Гэта такое, такое... Я і цяпер бачу тое месца, па якім ідзе гэта машына і як яна ідзе. І тут трэба толькі адвярнуцца. Але цяпер ужо і адвярнуцца не магу... Прычым чамусьці, ведаеце, гэта была даваенная трохтонка, ведаеце, з такою вялікаю кабінай? Не бачылі такіх? Але думка: чаму, чаму не эвакуіраваліся, чаму не паехалі? Можна было, як гаворыцца, пешшу пайсці. У рэшце рэшт пасля быў арганізаваны перавазны канвеер па «Дарозе жыцця»: туды людзей, назад прадукты, туды людзей, назад прадукты».

Вельмі дакладна адлюстраваў гэты расказчык бязлітасную сілу «блакаднай памяці»: «І тут трэба толькі адвярнуцца. Але цяпер ужо і адвярнуцца не магу».

А вось як бачылі людзі адзін аднаго, калі збіраліся разам:

«— Універсітэт не ацяплялі, ваду не выключылі, вадзяное ацяпленне замерзла, трубы лопнулі, а раз трубы разрывае, пасля вада цячэ. І нашы аўдыторыі пад канец

лістапада ператварыліся ў такія ледзяныя пячоры-глетчары, дзе замерзлая вада на сценах, на століі вісела ў выглядзе ледзяшоў.

— А чаму на столі?

— Звычайна, гэта ж паравое ацяпленне. Думаю, што, калі б было больш вопыту, можна было б прадугледзець і выключыць ацяпленне, магчыма, той, хто мог бы выключыць, памёр ці паехаў, ва ўсякім разе факт такі, што са столі ледзяшы проста звісалі, а знізу былі сталагміты, як у пячорах. Гэта выглядала вельмі няўтульна. Студэнты сядзелі ў паліто, падзявалі на сябе паліто, колькі можна. Святло яшчэ электрычнае было, нават можна было займацца, але наогул нялёгка і наогул цяжка. Студэнтаў станавілася ўсё менш і менш, і часцей хто-небудзь з выкладчыкаў не з'яўляўся. Практычна заняткі — я не скалку, што цалкам спыніліся,— але сістэма заняткаў была парушана. Страшней за ўсё было тое, што страшнымі здаваліся твары студэнтаў, супрацоўнікаў, знаёмых. А як мяняецца твар чалавека, які глядзіць так, як глядзелі мы? Гэтага словамі апісаць нельга. Можа, гэта можна было б намаляваць. Гэта проста страшна. Не так страшна, калі чалавек проста хворы і памірае альбо калі памірае незвычайна (можа, цынічна так казаць), якога забіў снарад ці бомба. Але тое, што рабілася ў выніку голаду, гэта было асабліва жудасна, як мянялася аблічча чалавека. Мяняўся ўвесь ягоны выгляд, твар, чалавек быў нібы рухомы труп, а вядома, што труп — гэта відовішча цяжкае. Гэтыя жоўтыя твары вельмі страшныя, прычым з прыкметна спыненым поглядам. Гэта не тое, што калі баліць рука ці нага і чалавек вельмі моцна пакутуе. Тут увесь арганізм расстройваўся, часта меліся парушэнні псіхічных працэсаў. Жоўты твар, застылы погляд, прыкметна губляўся голас, нельга было па голасе вызначыць — мужчына гэта ці жанчына, брынклівы голас, істота, якая страціла ўзрост, пол...» (Ляпін Я.С.).

...Мукі былі страшэнныя, але і радасці траляліся такія, што запаміналіся назаўсёды.

Ніхто з блакаднікаў пра сябе не думае: мы здзейснілі подзвіг, праявілі геройства. Не. Але пасля таго, як прайшлі дзесяцігоддзі, для некаторых гэтыя цяжкія гады сталі нібыта апраўданнем жыцця, знакам грамадзянскай доблесці, мераю саўдзелу ў Перамозе. Пачуццё гэтае блізкае да

таго самага пучуцця, якое мае салдат Вялікай Айчыннай вайны. І яшчэ ёсць у блакаднікаў веданне бязмежных магчымасцяў чалавека, у тым ліку і сваіх магчымасцяў, павага да сябе. Вядома, шмат чаго супярэчлівага абуджае кожны дотык да мінулага, у кожнага сваё; жах і журба, сорам і прыгажосць, агіда і любоў — усё змяшалася настолькі шчыльна, што часам няма сілы адшчапіць якоенебудзь адно пачуццё.

Перад нашым прыходам П а в е л  П і л і п а в і ч  Г у б ч э ў с к і, навуковы супрацоўнік Эрмітажа, унутрана рыхтуючыся да размовы, разважаў: што ж такое была для яго блакада? Пасля ён нам сам прызнаўся ў гэтым.

«— Мне было цяжка самому сабе адказаць на гэта. Снарады? Ну дык яны ж усюды. Бомбы? Яны ўсюды. Голад? Ну, ён, канечне, не такі, як усюды, а ў больш страшэннай форме, але ж і ўсюды не так соладка жылося. Смерці? Дык яны ўсюды былі, і яшчэ якія! Ну, можа, не ў такой канцэнтраванай форме. І мне здалося, калі я сам захацеў аддаць сабе справаздачу (ніколі я пра гэта нідзе не гаварыў і сам з сабою ніколі не размаўляў), што блакада — гэта перш за ўсё чалавек. А чалавек — ён розны. А значыць, таму, верагодна, існуе і вельмі рознае ўспрыняцце вось гэтага паняцця «блакада» — у залежнасці ад індывідуальнасці чалавека.

І вось што дзіўна: пасля гэтага я падумаў наступнае: што ні разу ў жыцці, ні да, ні пасля блакады, я не меў такой усвядомленай і канкрэтнай мэты ў сваім жыцці. Яна, гэтая мэта, нават здавалася блізкаю. Іншая справа, што яна ўвесь час адсоўвалася ад мяне па розных прычынах. Але ж што адбывалася ўва мне, у чалавеку? Я не якінебудзь кіраўнік ці нехта там, я звычайны, просты чалавек, і я меў выразную і пэўную мэту, якая заўсёды дагэтуль (і вось цяпер, сёння) была растушаваная, размытая. А тады яна была канкрэтнаю. Вось што для мяне блакада (канечне, і ўсё астатняе, пра што вам ужо многія расказвалі). Чалавек набыў нейкую дзівосную цэльнасць. І як бы вам гэта сказаць? Гэта таксама, напэўна, неяк дзіка гучыць: я адчуваў, што ўва мне нешта знялося, вызвалілася. Канечне, былі тысячы «нельга» і «не магу». Канечне, я не мог выехаць за кальцо блакады альбо паехаць па чарнаморскі курорт. І, канечне, я не мог есці смачныя рэчы. Больш таго, я выконваў мноства розных абавязкаў — і паводле свайго становішча (я быў начальнікам аховы вялікіх будынкаў) — і адпаведна майму грамадзянскаму

абавязку. Мне, вядома, загадвалі, я атрымліваў інструкцыі, я ведаў, што я павінен, нешта абавязаны зрабіць, але гэтае «абавязаны» было для мяне свабодаю. Напэўна, вам дзікім здаецца тое, што я кажу, але я хачу быць з вамі шчырым, гэта так было, і гэта таксама блакада.

— Вось вы кажаце, што ўвесь час адчувалі мэту, бачылі яе...

— Я сядзеў у сваім пакоі і чакаў чарговага абстрэлу, які больш вымотваў духі тым, што ён доўга цягнецца,— разумееце? — і думаў: і які ж я быў дзівак, як я жыў раней! Я рэдка хадзіў у філармонію, рэдка хадзіў у Кіраўскі тэатр. А як жа багата для гэтага трэба! Трэба, каб у тэатры было цёпла, каб яго асветлілі, каб сабралі больш за сотню аркестранта і каб яны былі сытыя, каб сабралі артыстаў балета, каб публіка магла прыехаць туды і тысяча яшчэ «каб»! І гэтага я не цаніў, гэтага не заўважаў. Я не думаў тады, што вось скончыцца блакада і я буду есці прасяную кашу цэлымі каструлькамі (напэўна, вы гэта чулі, напэўна, вам гэта некаторыя блакаднікі кажуць). У мяне гэтага неяк не было. А была такая рэч: з'явілася мэта знайсці ў жыцці тое вялікае, калі гаварыць гучнымі словамі, нешта духоўнае, такое, што раней менш цаніў, мала карыстаўся, не змог ажыццявіць».

У залах Эрмітажа, заўсёды перапоўненых наведвальнікамі, гучаць на ўсіх мовах прыглушаныя галасы экскурсаводаў. Карціны, скульптуры, узорчатыя паркеты — здаецца, што так было заўсёды і што інакш і быць не магло ў гэтай славутай крыніцы прыгажосці, за якою прыязджаюць з далёкіх краін... Але ў службовым пакоі некалькі супрацоўнікаў музея расказваюць, як яны жылі тут у вайну.

Аляксандра Міхайлаўна Амосава:

«— Тут, пад бібліятэчным будынкам, быў арганізаваны морг. Перыядычна вывозілі з гэтага морга нябожчыкаў. Але я памятаю вельмі цяжкі выпадак. Гэта было ў канцы сакавіка. Іосіф Абгаравіч Арбелі, дырэктар Эрмітажа, здаецца, трыццатага сакавіка ад'ехаў. Вельмі мала народу засталося нас тут. Некалькі чалавек было з рабочай каманды. Яшчэ пры Арбелі былі афармлены дакументы на захаванне. Павезлі інжынераў групы, у тым ліку і нашых

старшых навуковых супрацоўнікаў. І там жа быў наш прафесар Кубе і яшчэ некаторыя вядомыя людзі».

Вольга Эрнестаўна Міхайлава:

«— Я вось гэты эпізод хачу яшчэ нейкім чынам дапоўніць, таму што ён засеў у маёй памяці асабліва глыбока і моцна, нельга яго забыць.

— Вы людзей гэтых ведалі?

— Так... Гэта вялікая машына, прычым яны ўсе свае, знаёмыя, карацей, блізкія табе людзі, таму што калегі, распасцёртыя ў розных становішчах... Ну, ведаеце, гэтага ж ніколі ў жыцці не забудзеш. А гэта, можа, і пісаць не трэба, і гаварыць не трэба?»

«Не трэба» — гэта чалавек пас шкадуе, ашчаджае. Ад цяжару, які сам нясе ўсё жыццё. Сам ён вызваліцца ад яго не можа — «адвярнуцца не можа».

«— Тут ужо не ведаеш, дзе фантазія, дзе праўда, таму што праўда была так фантастычна, што ты не магла разабрацца, што праўда, што няпраўда, што фантазія, што хлусня. Разумееце? Але гэта ж праўда, і не раскажаш усё да канца.

— Чаму?

— Толькі той, хто гэта перажыў, той разумее».

Апошняя — даволі распаўсюджаная памылка. Выключнасці тут ніякай няма, чалавек можа зразумець і ўявіць немаведама што. Любыя нягоды, любы цяжар блакаднага жыцця. Для гэтага трэба толькі расказаць усё як след, нічога не ўтойваць, не ўпрыгожваць ні ў той, ні ў другі бок. Памылка гэта і таму, што самі блакаднікі шмат чаго не могуць сабе ўявіць — як гэта магло быць з імі? — не вераць сабе ж. Чалавечая памяць пабудавана каварна. Іншая справа, што расказаць, перадаць тое, што было, гэта — сапраўды вельмі і вельмі нялёгка.

І тут хоць і неўпапад, не па тэме, а немагчыма абмінуць, адкласці на пасля адзін фрагмент з расказу Паўла Піліпавіча Губчэўскага. Выпадак, які чым далей, тым больш вымагае пра сябе думаць.

«— Трыццаць два снарады трапіла. Ступень разбурэння розная: снарад у Гербавай зале ўпаў дзесьці ў двух метрах ад Малой троннай залы. Паводле якіх законаў балістыкі, я не ведаю, але асколкі рванулся сюды, у Малую тронную залу. У Гербавай зале дзірка ў падлозе ўніз, у Растрэлеўскую галерэю, і больш нічога. А Малая тронная

зала ўся зрашэчаная асколкамі. Збітая люстра, яе не ўдалося аднавіць — крохкая вельмі бронза была... Апрача таго, асколкі літаральна зрашэцілі сцены і столь. Калі на сценах нічога не было (вось гэтыя ліёнскія аксаміты, вышываныя серабром, вельмі стыльныя, добрыя аксаміты, былі намотаны на валы і вывезены, эвакуіраваны), дык размалёўка там фенаменальна складаная для рэстаўрацыі. Выгляд гэта ўсё мела жахлівы. Альбо тая лесвіца, па якой вы цяпер падымаецеся ў музей — Пасольская, Іарданская, Галоўны пад'езд, як хочаце яе называйце,— яна таксама мела жахлівы выгляд. Снарад зрабіў прабоіну ў перакрыцці гэтай лесвіцы. Калі плафон толькі пачарнеў, зрабіўся чорны, бо амаль тры гады зменлівай тэмпературы зрабілі яго такім, дык уся ваколплафонная размалёўка, столь ва ўсіх памяшканнях — гэта жалеза (пасля пажару тысяча васемсот трыццаць сёмага года зрабілі жалезную столь). Жалеза пражжавела, не вытрывала, памірала. І вось гэта размалёўка, якую вы цяпер бачыце, усё гэта асыпалася лускою, крыху большаю за гэту кніжачку. Людзі, нашы супрацоўнікі, хадзілі па гэтых лускавінках. Выгляд, вядома, жалю варты.

— А карціны ўсе вывезлі?

— Увогуле Эрмітаж вывез мільён сто семнаццаць тысяч прадметаў, але тут ужо выступае статыстыка, а гэта сумна і нецікава. У залах карцін практычна не было. Але нельга было эвакуіраваць фрэску Анджэліка, нельга было эвакуіраваць агромністы кардон Джуліё Рамана — нават на вале ён рассыпаўся б, нельга было эвакуіраваць размалёўку лоджыі Рафаэля. Засталося і тое, што магло само па сабе захавацца, рамы напрыклад.

— Які выгляд мелі залы?

— Пустыя рамы! Гэта было мудрае распараджэнне Арбелі: усе рамы пакінуць на месцы. Дзякуючы гэтаму Эрмітаж аднавіў сваю экспазіцыю праз васемнаццаць дзён пасля вяртання карцін з эвакуацыі! А ў вайну яны так і віселі, пустыя вачніцы-рамы, па якіх я правёў некалькі экскурсій.

— Па пустых рамах?

— Па пустых рамах.

— У якім годзе?

— Гэта было вясною, недзе ў канцы красавіка сорак другога года. У дадзеным выпадку гэта былі курсы малодшых лейтэнантаў. Курсанты памаглі нам выцягнуць шыкоўную каштоўную мэблю, якая апынулася пад вадою.

Справа ў тым, што мы не змаглі эвакуіраваць гэту мэблю. Яна была вынесена ў памяшканне стайняў (на першым паверсе, пад вісячым садам). У сорак другім годзе зверху прарвала ваду, і мэбля, раскошны набор: сярэдневякоўе, французскі класіцызм — гэта аказалася пад вадою. Трэба было ратаваць, перацягнуць, а як і хто? Гэтыя сорак бабулек, што былі ў маім падпарадкаванні, з якіх не менш трэці было ў бальніцы ці стацыянары? І астатнія людзі — гэта ўсе інваліды працы альбо такія, каму семдзесят з гакам. А курсантаў прывезлі з Сібіры, яны былі яшчэ больш-менш моцныя, іх тут рыхтавалі на курсах малодшых лейтэнантаў. І япы peравалаклі мэблю ў тую залу, дзе было параўнальна бяспечна, і тут яна стаяла да канца вайны. Трэба было падзякаваць ім. Выстраілі іх у зале (вось між гэтымі калонамі), сказалі ім нейкія словы, падзякавалі. А пасля я ўзяў гэтых хлопцаў з Сібіры і павёў па Эрмітажы, па пустых рамах. Гэта была самая дзіўная экскурсія ў маім жыцці. Т пустыя рамы, як высветлілася тады, таксама ўражваюць».

...Можна ўявіць сабе, як гэта было — прамёрзлыя за зіму сцены Эрмітажа, якія пакрыліся шэранню зверху данізу, крокі, што гулка разносіліся па пустых залах... Прамавугольнікі рам — залатых, дубовых, то маленькіх, то вялізных, то гладкіх, то з дзівоснаю разьбою, аздобленых арнаментам, рамы, якіх раней не заўважалі і якія цяпер сталі самастойнымі: адны прэтэндавалі запоўніць сабою пустату, другія — падкрэслівалі пустату, якую яны абдымалі. Гэтыя рамы — ад Пусена, Рэмбранта, Кранаха, ад галандцаў, французаў, італьянцаў — былі для Губчэўскага азначэннем існуючых карцін. Ён неаддзельна бачыў у сярэдзіне рам палотны ва ўсіх падрабязнасцях, адценнях святла, фарбаў — фігуры, твары, складкі адзення, асобныя мазкі. Адсутнасць карцін для яго цяпер рабіла іх яшчэ больш наглядна. Сіла ўяўлення, вастрыня памяці, нутранога зроку павялічваліся, кампенсуючы пустату. Ён апраўдваў адсутнасць карцін словамі, жэстамі, інтанацыяй, усімі сродкамі сваёй фантазіі, мовы, ведаў. Засяроджапа, уважліва людзі разглядалі прастору, заціснутую ў раму. Слова ператваралася ў лінію, колер, мазок, узнікала пераліванне ценяў і паветра. Лічыцца, што словам нельга перадаць жывапіс. Яно так, аднак у тым блакадным жыцці слова аднаўляла карціны, вяртала іх, прымушала зіхацець усімі колерамі, прычым з такою яркасцю, з такою выяўленчаю сілаю, што яны назаўсёды ўразаліся ў па-

мяць. Ніколі пасля Паўлу Піліпавічу Губчэўскаму не ўдавалася праводзіць экскурсіі, дзе людзі столькі б у б а ч ы л і і адчулі.

...Вораг чакаў, пакуль Ленінград «сажрэ сам сябе». І няспынна нагадваў — снарадамі, бомбамі, лістоўкамі,— што пара ўжо, што ён чакае.

Зоя Аляксееўна Берніковіч расказвае пра зласлівасадысцкія напаміны фашыстаў:

«Так, а калі я на акопах была, ведаеце, якія там частушкі былі? Немцы кідалі лістоўкі: «Съешьте бобы — готовьте гробы!»* Гэта немцы кідалі з самалётаў. Альбо: «Чечевицу съедите, Ленинград сдадите!»** А мы толькі крычым: «Мы не здадзім!..»

Смерць у горадзе стала штодзённасцю. Савецкія салдаты, маракі, самі паўгалодныя, біліся, сплывалі крывёю на «Неўскім пятачку», ірваліся да чыгункі, каб паладзіць паўнакроўнае забеспячэнне Ленінграда, вярнуць сілу галадаючым, знясіленым людзям, захаваць ім жыццё. Ледзяная дарога праз Ладагу, якая адкрылася ў канцы лістапада, у снежні пачала даваць нейкія прадукты і падзею. Зноў з’явілася магчымасць эвакуіраваць ленінградцаў, хоць для людзей знясіленых, хворых маршрут быў вельмі цяжкі, і шмат хто загінуў па дарозе да жыцця і нават вырваўшыся за кальцо. Аж да самага лета 1942 года голад касіў людзей, нават калі крыху палегчала: у многіх надта далёка зайшла дыстрафія.

«—У загс прыходзілі сваякі і рэгістравалі памерлых людзей ад голаду і холаду,— расказвае Алена Міхайлаўна Нікіціна, настаўніца.— Гэта ўжо снежань сорак першага і студзень сорак другога года. У маёй памяці, у маім жыцці гэта былі найцяжэйшыя мінуты ўсёй блакады. Мала таго, што вайна, абстрэлы, бамбёжкі. Гэта ўсё было вельмі цяжка, страшна. Але гэта было яшчэ не так страшна, як голад, таму што есці зусім но было чаго. Мы па абаронных работах яшчэ выкопвалі бульбу, якая засталася ў зямлі, елі капуснае лісце, і каніну нам давалі часам (пакалечыць абстрэлам каня, і яго адразу прыразаюць, і нам давалі гэтае мяса). А тут ужо есці зусім не было чаго, таму што дома ўсе запасы канчаліся: спачатку былі нейкія су-

* «З’ешце боб і рыхтуйце труны!»
** «Сачыўку з’ясце, Ленінград здасце!»

харыкі, быў крухмал. У мяне яго было некалькі кілаграмаў. Але ўсё вычарпалася. І вось ідзеш на працу, у цябе ногі ледзь-ледзь пераступаюць. Трамваі ўжо перасталі хадзіць. Вады не было. Святла не было. У страшэнным стане былі людзі: яны не маглі хадзіць, не маглі нават выносіць вёдры з бруднай вадою... І вось я ў загсе працавала — снежань сорак першага года і студзень сорак другога года.

— Раскажыце падрабязней, як рэгістравалі.

— Ну, стаяла чарга. Прыходзіць якая-небудзь жанчына і кажа, што вось у мяне памерла мама, памерла суседка-бабулька. Падае іхнія пашпарты, дакументы. Я выпісвала пасведчанні. Выпісвала хутка, спяшалася. Чарніла замярзала. У будынку Кіраўскага райвыканкома ніякага ацяплення не было. Пасля ўжо нам паставілі печачкі, але не памятаю, каб гэтыя печачкі пас грэлі. Чарніла замярзала. Прыйдзеш і рукамі так пагрэеш, думаеш, што чарніла разагрэецца. Вось і выпісваеш ім дакументы. Я памятаю, як стаялі чэргі, каб рэгістраваць памерлых.

— Колькі ж за дзень рэгістравалі?

— Чэргі стаялі. Я не адна працавала, трое. Штодня чалавек па сто пяцьдзесят рэгістравала. Працавала ў снежні і студзені. Людзі стаялі знясіленыя, шкада было іх. І мы стараліся хутчэй іх адпусціць. Прычым слёз у іх не было. Я тады пасля працы вярталася дадому. А ў мяне яшчэ сям’я братава жыла (брат быў на фронце): жонка яго жыла, і дзіця ў яе было. Дзіцяці чацвёрты год быў (цяпер ён дысертацыю ўжо абараніў, той хлопчык). Прыйду, бывала, дамоў, а ён ляжыць на ложку ўвесь час, таму што ад холаду і голаду іншае што-небудзь прыдумаць і сіл не было. На ім такая была надзетая кашулька з доўгімі рукавамі, каб было цяплей. Вось ён устане ў кашульцы і пытае: «Цёця Лена, ты хоць кавалачак хлебіка прынесла мне?» Я скажу: «Не, не прынесла». Таму што ў мяне ў самой нічога не было. На карткі мы атрымлівалі тое, што нам было выдзелена. Я з усёй сям’і збірала карткі, пайду ў булачную і прынясу. Хадзіла заўсёды толькі я адна, таму што астатнія былі не ў стане хадзіць, усе былі старэйшыя за мяне. Вось дзіця кожны раз пытае: «А ты мне што-небудзь прынесла?» Глядзець на дзіця шкада было. Параўноўваеш цяпер вось з дзяцінствам нашых дзяцей, калі яблыкі даеш ім і яны яшчэ не хочуць есці. А тады нават хлеба не было.

— А брат?

— На фронце быў, вярнуўся. Праўда, раненне перанёс цяжкае, але нічога. І цяпер ён жывы... «Ты мне хоць скарыначку хлеба прынесла?» — ён пытае. Такі худзенькі, адны костачкі. І ў гэтай белай кашульцы, ну проста як смерць якая! А ідзеш дамоў, стукаеш (званкі ж не дзейнічалі) і кожны раз думаеш: ну, зараз адчыняць і скажуць, што нехта з сям'і памёр, таму што тады смяротнасць была суцэльнай, пагалоўнай. Насупраць нас, на адной пляцоўцы, жылі артысты з тэатра імя Кірава, Нікольскія. Прыходжу дамоў пасля працы, пад вечар, і раптам гэтага артыста выносяць з кватэры мёртвага. А тады ж ужо труны не рабілі, проста вось так у прасціну загорнуць чалавека і выносяць на мароз... Пасля гэтага, у лютым, а можа, у канцы студзеня райком партыі мяне перавёў у камісію па эвакуацыі насельніцтва. Была тэхнічным сакратаром. Выдавала дакументы, выпісвала накіраванні на той бок «Дарогі жыцця», цераз Ладажскае возера пераехаць.

— У Кабону?

— Туды. І выдавала ім карткі альбо такія талоны па прадукты. Каб яны адразу ж, на беразе Ладажскага возера атрымалі ўжо харчы... Былі мы там жа, у Кіраўскім райсавеце, але ў другім кабінеце, пакой дзвесце шэсцьдзесят. Там ужо стаяла печачка, у якой мы крышку прапальвалі. Але дроў не было, дык мы мэблю палілі, што заставалася там, крэслы старыя, лішнія пісьмовыя сталы, шафы, ламалі мэблю, якая была малапрыгоднаю. А пасля мы дровы здабывалі самі: хадзілі ламаць драўляныя хаты. У садзе «Дзевятага студзеня», побач, памятаю, я ламала. Для ацяплення райсавета і наогул для насельніцтва раёна, каб крышку людзі ў цяпле былі.

— А жыхароў драўляных дамоў перасялілі ці яны былі ўжо пустымі?

— Так. Нікога не было. Мужчыны пайшлі па фронт, а жанчыны — хто памёр з холаду ці голаду, некаторыя адпраўлены на Вялікую зямлю. Некаторыя былі пераведзены ў каменныя дамы, больш цёплыя. І вось калі я працавала ў камісіі па эвакуацыі, не магу забыць выпадак, калі да мяне прыйшоў адзін знаёмы мужчына. Ён быў блізкім прыяцелем майго першага мужа. Памятаю, калі яны скончылі караблебудаўнічы інстытут і разам працавалі па Адміралцейскім заводзе, яны вельмі любілі добра апранацца. Там яны зараблялі вялікія грошы і апраналіся хараша, як адзін, так і другі. І раптам гэты майго мужа сябар прыходзіць да мяне брудны, страшны, я яго спачатку і не

пазнала. Ён прыйшоў узяць дакументы на эвакуацыю на сябе і на сваю маці. Маці старэнькая, кажа, памірае з голаду. А тады было ўказанне, каб наогул усіх старых вывезці з Ленінграда, таму што няма чым карміць. Вось старых і дзяцей у першую чаргу і вывозілі. Я не ведаю, з якой нагоды ён не быў у арміі, можа, па стану здароўя. Але прыйшоў страшны, увесь у куродыме, запэцканы твар, у такой жаночай хустцы, нейкая касынка суконная паверх паліто была павязана, і вось так каўнер пастаўлены, і твар ледзь-ледзь відаць. Калі я пачала яму выпісваць дакументы, паглядзела і думаю: божа ж мой, дык гэта ж добра знаёмы чалавек, сябар майго мужа, малады, толькі што скончыў інстытут. Яму было гадоў дваццаць сем, напэўна, а выглядаў як стары-стары чалавек. Я выпісала дакументы па яго і ягоную маці. Ён кажа: «Я спачатку павязу маці да Фінляндскага вакзала на санках, а потым яна мяне таксама, можа, трошкі падвязе». Ён быў таксама вельмі знясілены голадам. Мяняючы адзін аднаго, людзі давозілі сябе да Фінляндскага вакзала, там іх везлі далей цераз Ладажскае возера, па «Дарозе жыцця». І вось памятаю — я ўжо пасля даведалася,— што ён нават не даехаў да Ладажскага возера, ён па дарозе памёр, і ён, і яго маці памерлі ад голаду і холаду».

Пра тое, як паміралі побач самыя блізкія людзі, нам расказвалі мала — ці таму, што памятаюць як скрозь імглу, ці расказваць надта балюча. Затое шмат аб тым, як хавалі.

Жорсткая праўда абставін, умоў, бязлітасная праўда пачуццяў (і галоднай непрытомнасці) мучыць і дагэтуль блакадніка. Але было тое, што было...

«Калі ён ляжаў, я думала толькі пра адно (мне не шкада яго было): «Калі ён памрэ, як я яго буду хаваць?» Усе хавалі неяк за хлеб, а ў мяне хлеба няма. І калі я выходзіла і бачыла гэтых нябожчыкаў, якіх везлі, я думала, што мне ж, па-першае, не абшыць яго вось так, па саначкі не пакласці. Але мне самым страшным было — пахаванне, а тое, што ён памрэ,— я пра гэта не думала...» (Рогава Ніна Васільеўна, настаўніца, вул. Братоў Васільевых, 19).

Выканаць перад памерлым апошні абавязак у тых умовах было нялёгка. Шмат каму гэта не пад сілу. І не па сродках, калі ўласных сіл не хапала. Пахаванні былі праблемаю. Расказы пра пахаванні часам пакутлівейшыя, чым расказы пра смерць. Але тут адно неаддзельнае ад другога.

Усе сілы любові, гора страты блізкага чалавека — усё цяпер ішло ў імкненне хаця б пахаваць, раз ужо нельга было выратаваць. Людзі заставаліся людзьмі. Кірэева Ірына Аляксееўна ўспамінае, як хавала яна сваю няню на Волкавых могілках:

«— Згадваю, як, разбіваючы гэту мёрзлую зямлю ламамі, два байцы доўга-доўга не маглі праламаць, таму што там аказаўся цэментны склеп. Нарэшце яны сяк-так ушчамілі туды труну.

І вось слёзная просьба нейкай жанчыны: умольвала пас пакласці ў гэтую ж магілу і яе дачку. Яна прывезла яе. Літаральна здымаючы з сябе ўсё, што было па ёй, яна прасіла, каб вось туды пахавалі і яе дачку. Сама яна ледзь трымалася на нагах».

Людміла Аляксееўна Мандрыкіна, гісторык, супрацоўнік Цэнтральнага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва, расказвае:

«— А пасля наступіла тое, што ва ўсіх,— галодны лістапад, галодны снежань. Гэта сорак першы год. Тут пачаліся вельмі вялікія страты. Тут памёр Аляксей Аляксеевіч Шылаў. Гэта быў адзін з заснавальнікаў архіўнай справы ў СССР.

— Як ён памёр?

— Як памёр? Захварэў, знясілеў. Мы ж усе атрымлівалі другую катэгорыю — карткі служачым. Аляксею Аляксеевічу ў той час было шэсцьдзесят гадоў. Жыў ён, як і ўсе мы, на казарменным становішчы. Ён працаваў у гістарычным архіве (гэта адна сістэма), жыў у падвале. І вось ён проста заснуў, як засыналі амаль усе, што паміралі ад галоднае дыстрафіі. Праз некаторы час мы паклалі яго на саначкі і, паколькі не было ніякай магчымасці хаваць на могілках, завезлі яго ў такое агароджанае штыкетнікам месца, дзе Новая Галандыя. Ведаеце? Туды прывозілі памерлых на санках, з трунамі, без труп — у якім хочаш выглядзе. Гэта было афіцыйнае месца. Тут сядзелі, дзяжурылі два-тры чалавекі. І пасля машынамі вывозілі гэтыя трупы.

— А каля Спаса-на-крыві як хавалі?

— А каля Спаса-на-крыві было зусім інакш. Сюды проста прывозілі мёртвых. Таксама шмат каго каля аптэк саджалі — паўмёртвага чалавека ці зусім мёртвага.

— Каля аптэк? Чаму менавіта каля аптэк?

— Я думаю таму, што раней тут усё-такі заўсёды аказвалася медыцынская дапамога. Каля бальніц таксама

саджалі. Не было сіл, не было магчымасці давезці куды-небудзь яшчэ. Мы вось так Аляксея Аляксеевіча адвезлі. А дзе ён пахаваны? Мяне шмат разоў пыталі ленінградскія вучоныя: «Дзе пахаваны Шылаў?» Не ведаю... А пасля памёр Міхаіл Ільіч Ахун. Гэта быў вельмі вялікі ваенны бібліёграф. Мы павезлі яго на Смаленскія могілкі, але давезці ўжо не маглі. Так і пакінулі труну ў снезе на паўдарозе. Гэта студзень. А другога сакавіка памерла мама. Гэта маё асабістае, але я вам хачу расказаць, што атрымалася. Калі памерла мама, у мяне быў нейкі ідэфікс. Мама памерла другога сакавіка. А картку ёй далі напярэдадні. Картачка была ўтрымальніцкая. Мама таксама заснула. Мама мая жыла вельмі блізка ад Ваеннага архіва; на вуліцы Герцэна, дом адзін, я працавала, а на Герцэна, адзінаццаць, жыла мама.

— Вы тут жылі? У гэтым доме?

— Але, я прыходзіла часта да мамы. Мы зрабілі жалезную печачку. Калі я выжыла, дык, канечне, дзякуючы маме, таму што гэта яна хлеб дзяліла. Яе і мой хлеб яна дзяліла на тры часткі, падсушвала на печачцы, залівала варам, і тры разы ў дзень мы гэта елі, калі гэта можна так назваць. А другога сакавіка мама аслабела, і калі я прыйшла, яна памерла. Яна пры мне памерла. Я хацела пахаваць маму на Волкавых могілках, дзе пахавана была мая сястрычка. Я пайшла на могілкі. Горад быў зусім пустэльны. Гэта цяжка сказаць нават, які быў горад. Чамусьці нам заўсёды здавалася, што гэта на дне мора, таму што ён быў увесь у суцэльным інеі. Усе правады былі ў шэрані, тоўстыя, вось такія, як калі ў халадзільніку намярзае. Такі быў кожны провад. Трамваі стаялі мёртвыя, застылыя. Гэта было застылае царства нейкага марскога цара. І нехта прыйшоў з зямлі і вось ходзіць! Прыйшла я на Волкавым могілкі. І сустрэла жанчыну, якая выглядала добра. Яна спытала: «Вам...» — Не, яна сказала: «Табе трэба пахаваць каго-небудзь?» — «Трэба».— «Я магу табе гэта зрабіць. Але не задарма».— «Добра»,— сказала я. «Тады паслязаўтра ў чатыры гадзіны ты прыйдзеш. Дзе мне капаць магілу?» Я кажу: «Я б хацела побач с сястрою». Мы пайшлі. Яна паглядзела і сказала: «Вось тут побач і выкапаю магілу».

Мне дапамаглі з работы, зрабілі труну, мы ўзялі санкі і паехалі па Неўскім. Гэта было сёмага сакавіка, там снегу мала ўжо было. Мы павезлі гэтыя санкі. Каля Ліцейнага быў такі абстрэл! Міліцыянер крычаў: «Што? Я за вас

буду адказваць?! Бяжыце пад браму!» А рабочы і наша прыбіральшчыца сказалі, што нікуды не пойдуць. І я кажу: я таксама. Мы селі на труну і пачакалі,.пакуль скончыцца абстрэл. Пайшлі далей. Доўга мы ішлі — гадзіны дзве, напэўна. Калі мы прыйшлі туды, магіла была выкапана толькі вось на столькі, таму што была зямля такая, што яе было сапраўды немагчыма капаць. Гэта жанчына сказала: «Ну, пачакай, я буду капаць». Мае сябры паглядзелі і сказалі: «Мы пойдзем, Людміла Аляксееўна». А быў такі вечар, такі захад, усё палала. На могілках усё відно. Я кажу: «Вы ідзіце, а я застануся». Ну, яны заплакалі, і я заплакала. І япы пайшлі. Я засталася. Я адчуваю, што замярзаю. А яна капае. Яна думная такая, здаровая была. Яна мне кажа: «Ты ж замярзаеш?» Я кажу: «Замярзаю».— «Я жыву ў гэтым доме царкоўным, вунь там вось. Ты пайдзі туды,— кажа яна мне,— у мяне адпачні крышку. Потым, праз гадзіну прыходзь. Паглядзім, што будзе далей». Ну, я пайшла туды. З гадзіну я пасядзела.

— Там было цёпла?

— Не, там было холадна. Але гэта ўсё-такі не мароз. Я пасядзела. Потым прыходжу — яна нічога не зрабіла, яшчэ, можа, вось на столькі прыбавілася. Тады мы вырашылі: паставім труну ў снег, зробім вялікі сумёт. Яна сказала: «Ну, ты прыйдзеш праз месяц, у пачатку красавіка, і я табе ўсё зраблю. Праз месяц улад растане. Я табе ўсё зраблю». У мяне не было ніякіх пачуццяў. Я кажу: «Добра. Я пайду». Яна на мяне так паглядзела і кажа: «Ты, напэўна, не дойдзеш».— «Ну, напэўна, не дайду»,— «Дык застанься ў мяне». А я прынесла ёй бохан хлеба, цукар. Потым яна звяртаецца да мяне і зусім спакойна мне кажа: «А ты не бойся, я табе нічога не зраблю». Я сказала: «Я пе баюся».— «Ну тады пойдзем».

І вось мы прыйшлі ў яе пакойчык — маленечкі, нічога ў ім не было. Нічога, толькі ўнізе нары, як у цягніку ў агульным вагоне, і зверху пары. Яна насекла трэсак ад труны нейкай, запаліла ў печачцы, сагрэла кіпень, адрэзала ад майго бохана кавалак хлеба, ад майго цукру кавалак цукру і сказала: «З'еш». Я з'ела. «Зараз, кажа, кладзіся наверх». Я правалілася. Мне было зусім усё роўна!»

А потым чалавек вяртаўся да жывых — жыць. Не багатае было радасцямі знешняга існавання тое жыццё, але ленінградцы шукалі і знаходзілі ў сабе (і ў іншых) сілу, волю, душэўнае багацце, і раптам святлей і цяплей рабілася ім у блакадным коле...

Вось і Людміла Аляксееўна вярнулася з той могільнікавай жудасці ў свой свет... «Мы не проста так жылі»,— кажа яна, быццам бы спрачаючыся з карцінай, якую нядаўна яна сама памалявала. І не яна, а само жыццё супрацьпаставіла іншыя карціны — карціны ўзлёту чалавечага духу.

«— Я хачу вось што цікавае расказаць. Быў такі — вы, напэўна, яго ведаеце, ён пасля працаваў дырэктарам Інстытута міжнародных адносін — Францаў Юрый Паўлавіч. Гэта быў прафесар. Ён таксама жыў на казарменным становішчы. На Мойцы тады быў кабінет вывучэння гісторыі партыі. І мы былі на казарменным становішчы. Я з ім не была знаёма раней. Аднаго разу ён прыйшоў да мяне і сказаў: «Я хачу паглядзець, як жывуць мае суседзі».— «Калі ласка». Ён вельмі мілы, вельмі цікавы чалавек. Аднаго разу, ужо вясною, ён мне сказаў: «Людміла Аляксееўна, давайце што-небудзь прыдумаем. Ну мы ж не можам толькі вось так. (Ён худы-худы, высокі такі быў, сіваваты). Мы ж не можам увесь час толькі так жыць». Я кажу: «Давайце. А што мы будзем рабіць?..» — «Давайце збярэм гісторыкаў і будзем гаварыць пра тое, пра што кожны хоча. А збірацца мы будзем у архіве Акадэміі навук, унізе». Ведаеце? На набярэжнай, там жа пустое месца было. І вось ён, я, мы сабралі тых, хто заставаўся ў Ленінградзе. Вось вы абавязкова пагаворыце, ёсць такая (яна, па-мойму, цяпер замяшчае дырэктара Інстытута гісторыі) Сербіна Ксенія Мікалаеўна. Яна ўсю блакаду пражыла ў Ленінградзе. І яна вам шмат чаго можа расказаць... Часам нас было пяць чалавек, часам сем чалавек. Гэта быў вельмі своеасаблівы семінар. І кожны гаварыў, рабіў такія рэфераты, даклады пра тое, пра што хацеў. Я, напрыклад, займалася дванаццатым годам, я гаварыла пра партызанскую тактыку Дзяніса Давыдава. Іраіда Фёдараўна Пятроўская, нага павуковы супрацоўнік (яна цяпер працуе ў Інстытуце тэатра і музыкі), гаварыла пра маскоўскае апалчэнне, пскоўскае апалчэнне, пра пецярбургскае апалчэнне. З Інстытута гісторыі Акадэміі навук (не помню яе прозвішча) гаварыла пра разбіўку вінаграднікаў у пятым стагоддзі ў Рыме *.

— Напэўна, і гэта памагала?

* К. М. Сербіна ахвотна назвала нам прозвішча дакладчыка: Сяргеенка Марыя Яфімаўна.

— І гэта памагала. Сербіна расказвала пра барацьбу ціхвінцаў са шведскімі інтэрвентамі.

— Толькі б далей ад голаду?

— Так, гэта ж была прадуха! Мы рабілі даклады гадзінамі, прычым слухалі так, што я не памятаю, каб калі-небудзь пасля так слухалі.

— А колькі сядзела народу?

— Тут ужо прыходзіла больш, пачынаючы з дзесяці чалавек і канчаючы трыццаццю. Ніхто нават не варушыўся, ніхто не выходзіў, ніхто! Вось мы кожную пятніцу і збіраліся. Сёння мы не змаглі, не кончылі, тады казалі: прадоўжым у наступны раз.

— І што, з задавальненнем пра гэта згадваеце?

— З велізарным задавальненнем я згадваю гэта! Гэта была такая вялікая аддушына, ты там займаўся тым, чым бы ты мог займацца, калі б усяго гэтага не было... Таму яшчэ так было. Прыйшоў неяк да мяне ў Ваенна-гістарычны архіў журналіст Віктараў Аляксандр Віктаравіч і кажа: «Людміла Аляксееўна, я хаджу збіраю звесткі, чым займаюцца вучоныя. Не важна, якой спецыяльнасці. Чым займаюцца, якой навуковай працаю? Дом вучоных імя Горкага вядзе работу па збору такіх матэрыялаў. Калі ласка, распытайце ў навукоўцаў». Аказваецца, амаль усе чым-небудзь займаліся. Пасля павінны былі выдаць кнігу. Гэта была б цудоўная кніга. Па-мойму, Арбелі ўзначальваў гэтую справу. Была нават карэктура. Але пасля насталі складаныя гады ў Ленінградзе, і засталася гэта карэктура ляжаць у нас у аддзеле рукапісаў. Яе лёгка паглядзець...»

## БЛАКАДНЫ ПОБЫТ

Фашысты катавалі Ленінград, ленінградцаў голадам. Мацярок катавалі жалем да канаючых на іхніх вачах дзяцей і мужоў, а салдат — жалем да згасаючых маці, жонак, дзяцей, спадзеючыся, што ленінградцы пахіснуцца, адчыняць вароты ў горад.

Гітлер так тлумачыў немцам і свету непрадбачаную затрымку з Ленінградам: «Ленінград мы не штурмуем цяпер свядома. Ленінград зжарэ сам сябе».

Тым часам штурмы наладжваліся імі адзін за адным. Працягваліся. У тым ліку і самы грозны штурм — голадам.

Патрэбы чалавека імкліва звужваліся, канцэнтраваліся, завастрыліся на хлебе, цяпле, вадзе.

«Голад — усё!» — кажа ўрач-блакадніца Г. А. Самаварава. І праверыла яна гэта не толькі на другіх — на сабе самой. «Ведаеце, якая найвялікшая радасць была? Гэта — калі прыбавілі да трохсот грамаў хлеба. Вы ведаеце? Людзі ў булачнай плакалі, абдымаліся. Гэта было светлае Хрыстова ўваскрэсенне, гэта ўжо такая вялікая радасць была!»

Але і 300 грамаў (без іншых прадуктаў) — гэта ўсё яшчэ «смяротная» норма. А было і 200, і 125 грамаў! Без вады, без дроў, без святла...

Умовы горада перашкаджалі прыстасавацца. Паравое ацяпленне не дзейнічала, а пячэй шмат у якіх дамах ужо не было. Вядро вады, таксама як і палена, рабілася праблемаю часта складанаю, а часам і такою, якую нельга ўжо і вырашыць. А асвятленне? Газоўка — здавалася б, проста. Але чым яе запраўіць? Дзе здабыць газу, лампадны алей? Нават жа дзённым святлом нельга было карыстацца, таму што ўва многіх дамах, магчыма, нават у большасці дамоў, ад абстрэлаў, ад бамбёжкі павыпадалі шыбы, і вокны былі «зашклёныя» фанерaю, пазавешваны коўдрамі, пазатыканы анучамі, матрацамі. Так што ў пакоях была пастаянная цемра (і слова з'явілася «зафанерыў» замест «зашкліў»).

«Бора прыдумаў добрую газовачку — чарніліца-невылівайка, у яе ўстаўляюць шкляную трубку-кноцік»,— запісвае ў дзённік Ф а і н а  П р у с а в а. Гэта было вынаходствам, гэта было падзеяй.

Нават на вуліцах цемра: у мэтах святломаскіроўкі ўкруцілі ў дамавых ліхтарах сінія лямпачкі.

«Калі пагаслі і сінія лямпачкі, дык даводзілася хадзіць па памяці. Калі ноч светлая, дык арыентуешся па дахах дамоў, а калі цёмная, дык горш. Машыны не хадзілі, натыкаешся на людзей, у якіх не было на грудзях значкасветлячка» (з дзённіка А. П. С а л а ў ё в а й, работніцы Прадзільна-нітачнага камбіната імя Кірава).

Цемра дзейнічала прыгнятальна. Да гэтай марознай цемры цяжка было прывыкнуць, прыстасавацца.

У наіўным і шчырым дзённічку семнаццацігадовай

«К. Л і д ы» *, якая працавала (пакуль яны дзейнічалі) у цырульні, начная прабежка па цесным ад бясконцай цемравы Ленінградзе апісваецца так:

«Бывала, выйдзеш з цырульні, а на вуліцы так цёмна, што нібы бездань якая, ідзеш і рукі перад сабою трымаеш.

Аднаго разу іду, зусім цёмна, месячныя ночы кончыліся, мне трэба было пераходзіць дарогу, чую, аўтамабіль едзе, я чакаю, чую, ехаў і дзесьці воддаль спыніўся. Я спакойна пераходжу дарогу, увесь час трымаючы ўперад рукі, адну пустую, другую з чамаданам, дзе я насіла свой інструмент, іду (а я ледзь не бягом хадзіла ў цемнаце) і, відаць, так шчыльна ішла паўз панель, што наткнулася на таксі і нават упала назад, таму што так хутка ішла. Ледзьве чамаданчык не выпусціла з рук. Чую, адчыняецца кабіна, шафёр пытае: «Хто ідзе?» — а я прыціхла, няёмка стала, ало падумала — напляваць, усё роўна не відаць. Тады вырашыла ісці па панелі (а чаму я не любіла на панелі хадзіць — з-за таго, што натыкаешся па людзей увесь час), ну, вось, даходжу я да вугла Савецкай вуліцы і Сувораўскага праспекта, іду каля сцяны і ведаю, што цяпер трэба павярнуць направа. Раптам — не разумею, што гэта, куды я зайшла? Наткнулася на нешта вялікае, круглае і тут уцяміла, што гэта бочка з пяском, значыць, гэта я з ёю ў абдымкі стаяла, пакуль меркавала, што гэта, на сваім жа двары і заблудзілася».

«— Значыць, вы вярнуліся са стацыянара? — пытаемся мы ў І р ы н ы  А л я к с е е ў н ы  К і р э е в а й .

— Але, праляжала там некаторы час і вярнулася. Няня была яшчэ жывая, але яна ўжо гінула ад голаду. Памятаю, што мы яе паднімалі. У стацыянары нам давалі нейкія парашкі — на вагу золата! — і мы лічылі, што калі гэтыя парашкі прынясем дадому, дык зможам выратаваць сваіх блізкіх. Памятаю, што ўзмоцнена кармілі няшо, якая, канечне, ужо моцна была аслабленая, настолькі, што ў яе пачаўся галодны панос. Яна сканала на нашых вачах. А перад гэтым памерлі наш дваюрадны васемнаццацігадовы брат, і цётка, і дзядзька. У студзені — лютым выміралі прама сем'ямі. Што тут было — жах! Цётка — у шпіталі, мама мая ляжыць са страшэннай вадзянкаю (узростам

* Нічога, апрача гэтага ініцыяла, у загалоўку прынесеных нам запісаў няма. Прозвішча аўтара не ўдалося ўстанавіць.

яна тады, напэўна, была маладзейшая, чым я цяпер). Ляжыць няня. Вады няма. Цёмна, холадна.

— Электрычнасці ўжо не было?

— Электрычнасці не было. Пастаўлена была такая часовая печачка. Прыйшоў баец і склаў нам такую печачку. Тут мне даводзілася, паколькі я аказалася самая жыццяздольная і самая старэйшая з дзяцей (сястра маладзейшая за мяне была), давялося хадзіць па ваду. Ваду мы бралі з люка. Кожную раніцу выходзілі — гэта таксама быў подзвіг. Вядра няма. Мы прыстасавалі збанок, напэўна, літраў на тры вады. Трэба было дастаць гэту ваду. Да Нявы ісці далёка. Адкрыты быў люк. Кожны дзень мы знаходзілі новыя і новыя трупы тых, што не даходзілі да вады, пасля іх залівала вадою. Вось такая гэта горка была: гара і наледзь, а пад гэтым лёдам трупы. Гэта было жахліва. Мы па іх паўзлі, бралі ваду і неслі дамоў.

— Іх відаць было праз лёд?

— Так, відаць было».

Клаўдзіі Пятроўне Дубровінай (вул. Сердабольская, 71) было тады дваццаць з нечым гадоў, працавала яна токарам, служыла ў МППА. Шмат што з яе блакаднае маладосці цяпер прыгадваецца ёй з усмешкаю. Нам быццам бы нічога вясёлага, а яна чамусьці ўсміхаецца таму свайму нялёгкаму быту.

«Перад вайною я была такая, што ў мяне нават простых панчох не было,— ведаеце, як кажуць, модніца была: усе шаўковыя панчохі на мне, туфелькі па абцасіках. І вось калі жыццё так стукнула мяне, дык я адразу перайначылася. Праўда, у Ленінградзе на працягу, можа, некалькіх дзён прапала ўсё адразу. У магазінах, напрыклад, раней ляжалі, вось як цяпер ляжаць, шакаладныя пліткі, і на працягу некалькіх дзён — абсалютна нічога! Усё адразу раскупілі: запасы пачалі сякія-такія рабіць. Але карткі былі хутка ўведзены. І таксама было з прамтаварамі. Я спахапілася: што ж гэта я так засталася? Я пабегла ў краму і паспела яшчэ захапіць простыя бавоўняныя, прычым чорныя, панчохі з рэльефам. Колькі там было, не памятаю, здаецца, шэсць пар, я купіла і ўсе шэсць пар на сябе надзела. І вось так гэтыя шэсць пар не здымаліся. Уяўляеце, чорныя панчохі, шэсць пар не здымаліся — гэта каб ад холаду выратавацца! Пасля — як я ногі абула. Таксама думаю — што ж мне рабіць! Я прападу. А ў мяне нейкія старыя лісіныя шкуры валяліся. І таксама я дзесьці схапіла, купіла з рук (тады яшчэ прадавалі

за кавалачак хлеба) такія нібыта бурачкі, яны былі літаральна сшытыя на машыне з байкі, тоненькія такія. Але ўсё ж туды можна было ўсунуць нагу. Я што зрабіла? Я гэтыя шкуры наматала сабе замест анучак і ўсунула ногі ў буркі. Але ў іх жа не будзеш хадзіць па вуліцы, гэта тыпу хатніх, падэшва ж тонкая. Недзе ў калідоры знайшла старыя мужчынскія галёшы велізарнага памеру (гэта быў, відаць, самы вялікі памер), з такімі вострымі насамі. Я буркі свае засунула ў гэтыя галёшы, пракалола дзірачкі, шнурочкамі, як лапці, перакрыжавала, завязала — і вось так я выратавала ногі. У цяпле я хадзіла ўвесь час. Інакш я загінула б... Цяпер наконт умывання. Канечне, вады не было. Вось калі я яшчэ выходзіла з дому, ішла на завод, у мяне адзінае што было — кавалачак матэрыі ў кішэні. Я выходзіла па вуліцу — снег. Я бяру, крыху патру рукі аб снег, гэта замест вады,— і ўсё. Ну, твар, здаецца, той матэрыяй працірала. А так больш ніколі не мыліся, вады ніякай не было. Ну, вады ў сталоўцы, дзе нас кармілі, было крыху».

Іван Андрэевіч Караткоў, мастак:

«Якія тут падзеі адбываліся? Водаправод дзейнічаў дзенідзе, і адтуль можна было вядром даставаць ваду, але атрымліваліся такія вялікія ледзяныя горы. На Неўскім, якраз каля Гасцінага двара, была такая вежа. Чаму яна ўтварылася? Таму што калі вёдры напаўнялі, дык ваду расплёсквалі, яна сцякала, лёд нарастаў, нарастаў і на два-тры метры падымаўся ад зямлі. Пасля ўскараскацца туды было цэлаю падзеяй. Ваду я насіў. Залезеш (я быў у салдацкіх чаравіках), а як назад? З вёдрамі? Ну, часам сядзеш на горку і скоцішся нічога, а часам грукнешся. І зноў разліваеш. І гара гэта расце без канца. Так і па спусках да Нявы, хто хадзіў па ваду на Няву».

Галіна Іосіфаўна Пятрова:

«А вазілі мы ваду з Нявы. Гэта я памятаю вельмі добра. Гэта насупраць Меднага конніка. Мы туды ездзілі праз Аляксандраўскі сад. Там палонка была вялікая. Я з татам заўсёды хадзіла. У нас вядро было і вялікі бітон. Мы на калені станавіліся каля палонкі і набіралі ваду вядром. І вось пакуль давязём гэту ваду, яна, канечне, ужо ператвараецца ў лёд. Прыносілі дамоў, адтайвалі яе. Гэта вада, вядома, брудная была. Ну, гатавалі яе. На яду крыху, а пасля трэба ж было і мыцца і мыць ёю. Даводзілася часцей хадзіць па ваду. І было страшэнна коўзка. Спускацца ўніз да палонкі было вельмі цяжка. Таму што людзі вель-

мі слабыя былі: часта набярэ вядро вады, а падняцца ўжо не можа. Адзін аднаму памагалі, цягнулі ўгору, а вада зноў разлівалася. Каля Сената і Сінода стаяў нейкі карабель. Там, бывала, маракі прыходзілі і памагалі старым. Ды бывала, што і не зразумееш, пажылы гэта чалавек ці малады, настолькі былі ўсе, па-першае, захутаныя, а па-другое, былі ж газоўкі, і з-за гэтых газовак мы былі як чэрці».

«Я неяк папрасіла мужчыну, а ён кажа (гэта з расказу Забароўскай Валянціны Аляксееўны, вул. Варшаўская, 116): «Дачушка! Калі б я мог дастаць, я дастаў бы табе хоць дзесяць Бёдраў».

Мужчына не мог дастаць мне вады! Не зразумееш: ці гэта малады мужчына, ці ён стары, нічога не зразумееш, таму што людзі неяк змяніліся.

Ну, неяк я дастала гэту ваду. Я яе падымала! Бабка жыла ў нас. Я зараз скажу,— на другім паверсе бабка жыла ў нас. І я, значыць, гэту ваду — па адной прыкупцы, і ўсё лічыла, колькі мне прыступак яшчэ прайсці! Вось прайшла я прыступку, лічу — раз, два, тры, чатыры. Колькі мне яшчэ прайсці трэба? Я не трымаюся за парэнчы, вяроўка ў мяне прывязана да каструлі, і я іду. Прыступку прайду — адпачну. Я не магла прынесці каструлі вады. Вось пакольні была знясіленая!»

«На лютым марозе мы прастаялі каля дзвюх гадзін, нарэшце напоўнілі ўвесь свой посуд. Мы везлі нашы санкі з мажлівай асцярожнасцю па абледзянелых вуліцах. Трэба яшчэ было праехаць цераз двор і завярнуць за рог дома. Двор быў завалены змёрзлым снегам, паміж сумётамі вузенькай траншэяй ішла сцяжынка. Калі мы набліжаліся да павароткі, з-за дома насустрач нам выйшла дзяўчына-дружынніца таксама з санкамі. На іх ляжалі два, напэўна, даўно ўжо закачанелыя трупы. Сцяжынка вузкая, размінуцца было цяжка, па павароце закасцянелая нага зачапілася за нашы санкі, і яны перакуліліся. Наша вада! Мы з сястрою стаялі ашаломленыя, зусім знясіленыя. Прыселі на санкі і расплакаліся...» (Зінаіда Уладзіміраўна Астроўская, вул. Леніна, 34).

На паліва, на дровы разбіраліся драўляныя дамы для заводаў, устаноў, частку дроў давалі тым, хто выходзіў на разборку. Гэтым пастаянна займаліся байцы МППА. Гучыць мужна: «байцы», а на самой справе — васемнаццаці-дзевятнаццацігадовыя, прытым знясіленыя голадам, дзяўчынкі.

Вось расказ аднае з іх — Дубровінай Клаўдзіі Пятроўны:

«І вось абавязкова кожны дзень выдзялялася некалькі чалавек на злом дома і каб прывезці вось гэта. Не ведаю, колькі ў нас тады сіл было,— але было, можа, таму што маладыя былі.

У нас такія вось вялікія сані былі, самыя звычайныя вялікія сані, мы ламы туды клалі. Спярша мы блізка — вось у Новай Вёсцы, вось тут — ламалі, а потым нам ужо даводзілася далёка ехаць — Азяркі, Шувалава, вось туды ехалі. Ехалі раніцою і па цэлы дзень, ламалі там дамы гэтымі ламамі, узвальвалі на гэтыя сані і везлі сюды.

— На сабе?

— На сабе.

— Коней не было?

— Не! Ну што вы!

Везлі мы на сабе, але нас некалькі чалавек. Ну, калі зіма была — гэта яшчэ лягчэй, а калі наступіла вясна, дык было ўжо вельмі цяжка. Мы літаральна цягнулі праз мост: на масце снег хутка раставаў і на ім было цяжка цягнуць.

Але зноў я мушу сказаць: няхай гэта і было цяжка, але ж гэта нас выратавала! Дома я не магла б, мне не было б чым,— наперадзе яшчэ былі тры страшныя зімы,— мне не было б чым паліць у печы, і я б загінула. А тут мы везлі і для шпіталяў, і для райкома, і для сваёй казармы. Мы жылі ў цяпле, мы ацяпляліся. Для сябе ж мы везлі. Мы ацяпляліся, мы сушылі свае анучы, нам трэба было ўсё сушыць, на нас жа ўсё было мокрае, трэба было сушыць, і мы такім чынам, значыць, жылі...»

Але кожны ленінградзец шукаў, што бліжэй і што было яму па сілах.

«У нас цэнтральнае ацяпленне было ў доме сорак, але яго не ўключалі. Холадна ў пакоях, а на кухні дрывяная пліта была. Суседка там у нас адна заставалася, дык мы з ёю хадзілі. Платоў жа нам не дасталася — усе паспілоўвалі (платы вакол драўляныя былі). А мы з ёю слупкі — вось такія ад зямлі — падпілоўвалі. То я лежачы папілую нажоўкай такою аднаручкай (што там сілы мае былі), то яна лежачы папілуе. Так вось прынясем, спалім, часам і згатуем там усё...» (Зоя Яфімаўна Васільева).

Яшчэ дзіцем была, але памятае і ўжо не забудзе Галіна Аляксандраўна Марчанка (Прыморскі пр., 55), як гэта бязмерна важна — хлеб, вада, дровы:

«— Пасля, як я сказала, мы перасталі хадзіць у бамбасховішча, таму што ў пас і сіл не было. І як трывога, мы проста клаліся і накрываліся. Мы жылі на другім паверсе, вокны ўсе наглуха былі забітыя; ніколі не выходзілі. З кватэры ўсе выехалі. Кватэра была камунальная. Там чатыры пакоі было. Мы перабраліся ў самы маленькі пакойчык — маёй цёткі. А ва ўсіх астатніх пакоях мы паціху ламалі падлогу. Падлогі ўжо не памятаю: паркетная была ці простая, фарбаваная? І мы яе палілі. Кніг у нас было не вельмі багата, і іх шкадавалі паліць. Засталіся ў нас адзін ложак, крэслы і канапа. На канапе тры нейкія падушачкі і валікі, іх таксама паступова спалілі, там была стружка. Адкуль з’явілася буржуйка, хто яе прынёс, калі мы яе купілі? Я не памятаю. Невялікая буржуйка. Мы так дробненька-дробненька наразалі хлеб долькамі маленькімі і на ёй сушылі, проста ляпілі на яе. Хлеб жа быў клейкі такі. Гэтыя сухарнай і жавалі.

— Хлеб вадзяністы, а есці яго было лепш сухім? Чаму?

— Таму што так даўжэй захоўваўся смак хлеба...»

А былая работніца ленінградскага радыё Аляксандра Барысаўна Дэн, расказваючы, паказвала:

«Вось тут у нас была печачка, і паркет сапсаваны дагэтуль... Спачатку паліцы з кухні пайшлі, кухонныя сталы. А пасля пайшла мэбля наогул».

Уладзімір Рудольфавіч Дэн, сын Аляксандры Барысаўны, таксама ўступіў у гаворку:

«Размовы пра яду, па-мойму, лічыліся непрыстойнымі. Людзі добра навучыліся, прыйшоўшы да каго-небудзь у дом, весці сябе так, як быццам яны зусім есці не хочуць. Можна было пры чужым чалавеку есці, хоць гэта наогул і лічылася дрэннай манераю. Так, але патрэбна было, і людзі вельмі ўмела прыкідваліся, што яны не хочуць...»

Гэта назіраў, прыкмеціў, запомніў ён, тады яшчэ хлопчык.

«— Яшчэ не кранаді пытання, на чым гатавалі,— прыгадала Аляксандра Барысаўна.

— Кніжкі я паліў уласнаручна, прычым я стараўся неяк іх адбіраць, спачатку што горшае,— працягвае Уладзімір Рудольфавіч, пазіраючы па маці.— Спачатку ўсякую непатрэбшчыну — тое, чаго я нават да вайны не ба-

чыў. За стэлажом знайшлося шмат такой непатрэбшчыны — нейкія брашуры, інструкцыі па тэхнічных пытаннях,— яны выпадкова, відаць, трапілі. Пасля пачаў з найменш цікавых мне — часопіс «Вестник Европы», штосьці яшчэ было. Пасля спалілі спачатку, па-мойму, нямецкіх класікаў. Потым ужо Шэкспіра я спаліў. Пушкіна я спаліў. От і не памятаю, чыё выданне. Па-мойму, мардоўскае, сіняе з золатам. Талстога — выдатны шматтомнік, шэра-зялёная такая вокладка, і медальён на ражку ўклееены металічны.

— Я ў асноўным пхала ў печ Шылера, Гётэ — нямецкіх класікаў,— вінавата і ціха дадала маленькая расточкам Аляксандра Барысаўна.

— Палілі мэблю,— працягвае Уладзімір Рудольфавіч.— Быў такі гардэроб старарэжымны, ведаеце, з дзвюма шуфлядамі ўнізе. Палілі ім дваццаць дзён. Бацька быў чалавек пунктуальны, ён рашыў паглядзець, па колькі яго хопіць? Заўважыў. Дваццаць дзён палілі гэтай шафаю».

Вось так нам расказвалі маці і сын, а іх кватэра, уцалелыя ў кватэры рэчы, сцены, абпалены паркет таксама нібыта ўдзельнічалі ў гаворцы, «успаміналі».

Цаніліся не рэчы — сапраўднымі блакаднікамі, ва ўсякім разе,— не шафа, напрыклад, а дровы з масіўнае шафы...

«Прыяцель мужа расказвае: ён вывез на рынак шафу — і ніхто не купляе. Ён тады тут жа, на вачах ва ўсіх, гэтую шафу паламаў; прычым за шафу ён там прасіў,— я не ведаю колькі,— дапусцім, дзесяць рублёў, а дроў ён прадаў рублёў на дваццаць! Я памятаю толькі, што ўдвая больш выручыў ён за дровы, чым каштавала тая шафа» (Рогава Ніна Васільеўна).

...У пакоі, у якім жыла Аляксандра Міхайлаўна Арсеньева, не было самага галоўнага — печы!

«Няма печы! Я не ведаю, дзе мне купіць печачку за хлеб? І як хлеб адарваць? У мяне ж служачая картка, а на дзіцячую картку ў сталоўцы нічога не даюць. Дзіцячая картка прападала, а ў сталоўцы на адну служачую харчаваліся з дачкою ўдзвюх. Я ведала, што не сёння-заўтра ўпаду. Дзяўчынка яшчэ нічога была. Праўда, яна такая маўклівая была, ціха сядзела і чакала, калі мы пойдзем у сталоўку...»

Знаходзілі часам дзе-небудзь па гарышчах буржуйкі ад першых гадоў рэвалюцыі. Палілі рыззём, старым абут-

кам, паркетам, матрацамі, але галоўным палівам сталі драўляныя дамы. Імі ацяпляліся ўстановы, прадпрыемствы. Іх размяркоўвалі арганізавана, праз райвыканкомы.

Мала было знайсці, купіць, выменяць, здабыць дровы, трэба было пасекчы іх, прынесці. І гэта была праблема.

«Пайшла шукаць якіх-небудзь дроў у падвал, знайшла палена, якое неабходна пасекчы на дробныя трэскі для буржуйкі, а сілы не аказалася, я падняла сякеру, і яна адразу ж апусцілася на зямлю. Я расплакалася; казала: што са мною, я не хворая, здаровая, а сіл у мяне няма?» (З дзённіка Паповай Ульяны Цімафееўны, Васільеўскі востраў, II лінія, 46).

Спалі, не распранаючыся. Месяцамі так. Жывыя побач з мёртвымі.

Да Дубровінай Клаўдзіі Пятроўны перайшла жыць суседка («Мне яе вельмі шкада было»), І памерла ў яе кватэры.

«— Вось тут ляжала разам са мною: тут я ляжала, тут – яна ляжала (паказвае, дзе стаялі ложкі).

— І доўга так было?

— Доўга, да вясны.

— Да вясны?

— Да вясны, і так вось і ляжалі мы. У кватэры ў нас, побач,— дзяўчынка, мужчына і яшчэ жанчына ляжалі мёртвыя...

— А вы ходзіце на працу, вяртаецеся дамоў?

— Так, я дома днём не бываю, дома мне, уласна кажучы, не было чаго... Я там па картцы і ела на рабоце што давалі.

— Ну, а начавалі вы дзе?

— Дома, тут. Начаваць было, канечне, страшна, таму што вось гэта ўсё выбіта, мароз, холад страшэнны. Папершае, я канчаткова пазбавіла сябе дзённага святла: яшчэ пакуль сілы былі, я ўзяла гэтыя два акны пазапхала — адно коўдраю, другое — старым кілімам, так, каб хоць не дзьмула сюды. Але гэта, уласна кажучы, пазбавіла мяне святла. І я прыстасавалася так: я прыходзіла ў цемры і ведала, што вось тут — у мяне ложак, залазіла ў гэту нару, як я яе называла, клалася і ў такім холадзе аж да раніцы... Але я як рабіла? Некалькі падушак на сябе навальвала. Я, уласна кажучы, зрабіла нару.

— І не распраналіся?

— Не! Не распраналася наогул.

— Што, і ў валёнках?

— Не, гэта я здымала. Вось з ног здымала, паліто здымала, а астатняе не здымала і так да вясны не здымала.

— Да якога часу?

— Я неяк падлічыла: датуль, пакуль мяне не прызвалі ў МППА ў сакавіку,— вось да сакавіка месяца.

— Гэта значыць, са снежня да сакавіка?

— Так, так, прыкладна так, можа, нават і больш.

— А з суседкаю вы жылі разам у гэтым пакоі?

— Не, яна побач жыла, але яна была такая старая пажылая жанчына, зусім ужо не магла... Хваравітая такая. Дык яна яшчэ мяне папрасіла, каб я хаця б спачатку вады прынесла ды сагрэла б яе. Вось я набыла такую буржуечку таксама за хлеб, маленькую такую. Ну што гэта за буржуечка. Пакуль паліш, пакуль ваду на яе паставіш... І вось мы спалілі ў гэтай буржуйцы... увесь паркет разабралі, усе крэслы паламалі (гэта я ўсё рабіла, паколькі я дужэйшая была), кнігі. У мяне было шмат кніг, і ў яе нямала іх было (яна такая інтэлігентная жанчына, у яе было вельмі багата кніг). Мы не глядзелі — мы ўсё палілі. Але гэтага хапіла ненадоўга, а потым — ужо нічога не было! Вось яна памерла ў мяне.

— У вас у пакоі?

— Ага, я прыходжу, а яна мёртвая ляжыць. Мне гэта таксама неяк абыякава было: тут навокал паміралі людзі. І я вось толькі залазіла ў гэту нару,— здымала паліто, здымала валёнкі,— залазіла туды, таму што халадэча страшэнная, такую старую хустку на сябе завязвала. І калі я раніцою ўставала, дык у мяне ўсё тут да шыі прымярзала. Я ўсё гэта адрывала, падымалася, падзявала паліто і ішла на працу...»

«Спала пад дзвюма ватнымі коўдрамі і клала два разагрэтыя прасы: адзін саграваў ногі, а другі — грудзі і рукі. Раніцою коўдры пакрываліся белай шэранню» (Папова Ульяна Цімафееўна).

«Колер скуры неймаверны — шматмесячныя газоўкі, і ўсё гэта ўядалася... У валёнках спалі... Світэр, валёнкі, паліто, братава паліто» (Бабіч Мая Янаўна).

І пасля гэтага — лазня! Уяўляеце?

«Першая лазня! — усклікнула Мая Янаўна.— Ой!.. У першыя дні стаялі гадзін па восем — з дзесяці раніцы займалі чаргу і пад вечар толькі дабіраліся туды. Я ўсё-такі прарвалася туды тыдняў праз два.

Гэта быў такі жах, калі яны ўсе голыя і падалі — сілы не было несці тазы. Божа мой! Які кашмар можна было

там убачыць! Шмат у каго мыла не было, цёрліся-цёрліся і без мыла некаторыя. І тут жа падалі. Чарга павольна рухалася, павольна і мыліся, але гарачая вада была».

Нам перадалі шмат дзённікаў блакаднага часу. Некаторыя аўтары нам чыталі іх — для запісу на магнітную стужку. І самі каменціравалі. Галіна Рыгораўна Бабінская — высокая, прыгожая, хоць і не маладая ўжо жанчына, спецыяліст па краязнаўству, навуковы супрацоўнік — сваю кватэру ўспрымае, здаецца, як своеасаблівы «музей» перажытага яе сям'ёю ў блакаду. Паказала асколкі шкла, што ўсё яшчэ блішчыць у пашкоджаным глянцы раяля. Ляпная столь — старая пецярбургская кватэра — была таксама пашкоджана, і гэта таксама прыкметна.

У дзённіку Галіны Рыгораўны ёсць пра лазню (ёй было тады 18 гадоў). І іншыя прыгадваюць гэтае рэдкае вясною 42-га дзіва — выпадковую лазню. І пра тое, якім сябе чалавек раптам усведамляў, адчуваў, калі нанова бачыў сваё і іншыя голыя целы.

Вось запіс з дзённіка: «Трэцяга сакавіка адкрылася Разначынная лазня (гэта лазня на Разначыннай вуліцы). Пайшлі мы ў гэтую лазню ўсёй сям'ёю». Альбо яшчэ расказ пра тое самае — Маргарыты Фёдараўны Няверавай, былой актрысы (вул. Рубішнтэйна, 26).

«І раптам нам кажуць:

— Бяжыце, дзяўчаткі. Лазню на Казацкім напалілі. Хутчэй, хутчэй.

І вось увесь выканком пабег у лазню».

Марыя Андрэеўна Сюткіна — былы парторг аднаго з цэхаў Кіраўскага завода:

«Пабудавалі мы лазню. Пры стацыянары. Лазня была курная, як вясковая лазня».

Алена Мікалаеўна Авяр'янава-Фёдарава, якая вяла дзённік, прыгадвае тое самае:

«...Нам далі талончыкі — гэта ўлад сакавік 42 года. І хадзілі ў Мытнінскую лазню, талончыкаў вельмі мала, і давалі лепшым работнікам, не ўсім. Мы вельмі добра памыліся».

Вада, дровы, цяпло... І канечне ж — хлеб. У першую чаргу ён, да яго і цяпер сцягваюцца галоўныя ніці ўспамінаў, з ім звязаны, можа, самыя вострыя і пакутлівыя перажыванні. Грамамі хлеба (ленінградскімі грамікамі) мераліся ў тыя дні шанцы і надзеі чалавека выжыць, дачакацца непазбежнай перамогі.

Вераніка Аляксандраўна Апахава
з дочкамі Лорай і Даларэс



Уваход у Эрмітаж (з вуліцы Халтурына)




МУЖЕСТВЕННО ВЫПОЛНИМ
СВОЙ ДОЛГ ПЕРЕД РОДИНОЙ!
ЗАЩИТИМ РОДНОЙ ЛЕНИНГРАД
ВСЕ СИЛЫ
НА ЗАЩИТУ РОДНОГО ГОРОДА!
Ленинград врагу не отдадим,
чести своей не опозорим!
ВРАГ У ВОРОТ ЛЕНИНГРАДА.
НЕ ЖАЛЕЯ СИЛ И ЖИЗНИ,
ОТСТОИМ РОДНОЙ ГОРОД
ОТ ПРОКЛЯТЫХ ГИТЛЕРОВСКИХ
РАЗБОЙНИКОВ!



**Сяргей Аляксандравіч Васільеў з сынам Валодзем,**
**Еўдакія Васільеўна Васільева, яе дачка Кіра,**
**хлапчук Бора (сын нампаліта), 1942**



**Родныя Веры Мікалаеўны Лабады**
**(справа ў верхнім радзе Вера Мікалаеўна), 1936**

**Зінаіда Аляксандраўна Ігнатовіч**



№ 221142

1944 г. 113

рамв.-Тро
горисп
ухгалтер

Цена билета 40 р.





Меняю на продукты:

1. Золотые запонки.
2. Отрез на юбку (темносиняя шерсть)
3. Мужские ботинки: желтые. N40 и лакированные N41
4. Чайник, типа самовара - кипятится углем.
5. Фото-аппарат „ФЭД" с увеличителем.
6. Дрель

Здесь же продается ажурная машина, в 72ой класс, фирмы „Зингер", барометр и качалка.

Обращаться по адресу:

Ул. Дзержинского д. 12 кв. 91. Гладкова

с 11ч. до 4ч. дня.





Объявление

(Горячий)
Продается кипяток для
населения 45го домохозяйства
часы продажи кипятка
с 1 часа до 3х часов.
1й литр на человека
цена 3 (три) копейки 1л.
Объявление подписывал
управхоз

8/II-42г



І якія драмы — бачныя і нябачныя свету — разыгрываліся штодзённа вакол кавалачка хлеба (ён жа быў мераю жыцця і смерці!), якія складаныя, самыя высокія і самыя нізкія пачуцці віравалі ў чэргах, дзе чакалі хлеба, над буржуйкамі, дзе яго сушылі!

Бясцэнныя і бязлітасныя грамікі — пра іх і сёння гавораць з захапленнем і жахам:

«Калі нам давалі гэты хлеб — 125 грамаў, уяўляеце?! І адпускалі нам буханкаю, і вось прыносілі мы вагі і пачыналі дзяліць па 125 грамаў.

Вы ўяўляеце, што ў пакоі! Вось усе гэтыя рабочыя глядзяць. Нават вачам не вераць, што гэта такі кавалачак, і прычым кожны баіцца за кожную крошку хлеба» (Сюткіна М. А.).

«У паш дом трапіла авіябомба. Яна не разарвалася, але пас выселілі ў суседнія бамбасховішчы. Гэта былі старыя царскія падвалы пад будынкам Эрмітажа, з боку Дварцовай набярэжнай... Падвалы агромністыя, скляпеністыя, цэлая анфілада... Святла не было, дзе-нідзе гарэлі газоўкі. У адной са скляпеністых нішаў, па парах, знайшла прытулак мама — зусім дзяўчынка — з трыма малымі дзецьмі. На дзяцей жахліва было глядзець — маленькія старыя: вялікая галава на топкіх ножках, што ледзь пераступалі па падлозе ў цемрадзі агромністага падвала. 25 снежня я ўранні зайшла ў бамбасховішча. Каля тытана (кіпяцільніка) стаяла дзяўчынка-мама. Рукі ў яе трэсліся, яна са слязамі радасці паказвала ўсім кавалак ліпучай і цяжкай буханкі і ўсё паўтарала: «Прыбавілі, бачыце, прыбавілі! Будзе цяпер дзеткам...»

У гэты дзень павялічылі норму выдачы хлеба, і яна атрымала па ўсіх чатырох — 800 грамаў.

І з’явілася надзея» (Астроўская Зінаіда Уладзіміраўна).

Траплялiся некаторыя гісторыі — цьмяныя, другасныя — пра тое, як адбіралі хлеб (падлеткі альбо мужчыны, што найбольш цярпелі ад пакут голаду і найменш, як высветлілася, вынослівыя). Але калі пачынаеш распытваць, удакладняць, колькі разоў, ці самі бачылі, дык усё-такі высвятляецца, што гэта былі не вельмі частыя выпадкі. Рознае, зразумела, у вялізным горадзе бывала.

«Аднаго разу я ішла раніцою на працу, на рагу Ляснога і Нішлоцкага завулка ехаў на кані дзядок з хлебам. Хлеб быў накрыты брызентам. Адкуль ні вазьміся з пятнаццаць хлапчукоў у форме ФЗН. Жалезнымі кручкамі

павыцягвалі хлеб і пабеглі. Спыніць іх не было каму, ды і немагчыма. Бедны стары плача: мяне, кажа, расстраляюць! Але тут падскочыў міліцыянер і некалькі рабочых — тых, што бачылі, склалі акт; высветлілася, што не хапае пяцьдзесят дзве буханкі. Што было далей, не ведаю, думаю, што старога не абвінавацілі. Гэта былі не зладзеі, гэтыя хлопцы. Яны былі галодныя, халодныя, не мытыя і зусім-зусім яшчэ дзеці, у многіх з іх ужо не было родных, а працавалі ж яны за станкамі» (з запісак-успамінаў Кацярыны Паўлаўны Янішэўскай, Грамадзянскі праспект, 90).

Альбо разбіла снарадам воз з бочкамі, павідла параскідала. Хапаюць, хто ў што збірае! Але зноў-такі не гэта дзіва, а зусім іншае: машыну снарадам разнесла, хлеб ляжыць, сабралі і ніхто сабо но ўзяў!

«Пачаўся моцны абстрэл... Я сяк-так дапаўзла да булачнай, на рагу ў нас на праспекце Стачак была булачная, цяпер там кафэ. Крык там быў, шум. Усе кінуліся. Хто ляжыць на падлозе, хто схаваўся за прылаўкам. Але ніхто нічога не крануў! Буханкі хлеба былі — і ніхто нічога» (Яўгенія Сямёнаўна Казлоўская, пр. Стачак, 8/2, працавала ў блакаду намеснікам старшыні Кіраўскага райвыканкома).

Няпоўнай будзе карціна, калі ўспамінаць пра адпы расказы і маўчаць пра другія. Вось і пра гэтых выкрадальнікаў хлеба, хлебных даважкаў. Пра іх расказваюць таксама па-рознаму. З аднаго боку, вельмі ўрэзаліся ў памяць такія выпадкі. Дзіва што: жанчына, яе дзеці марылі пра гэты «заўтрашні» хлеб яшчэ ўчора, уначы бачылі скрозь сон, як ядуць яго,— і раптам чыясьці рука хапае, запіхвае ў рот!.. Запомнілася, хоць самыя лютыя абстрэлы і маглі ўжо выпасці з памяці. І так гэтага даважка шкада — усе трыццаць гадоў ён у памяці! Нават самім расказчыцам няёмка. Але яшчэ больш шкада ім тых падлеткаў, мужчын, што зганьбілі так сябе. І тады, у тое імгненне, таксама іх шкадавалі, хоць і крычалі на іх разам з абуранай чаргою, нават білі.

«Са мною разам жыла мая братавая з дзіцем маленькім, чатырохгадовым, і яе маці старэнькая, пасля яшчэ карткі яе сястры далі мне і прасілі, каб я найшла атрымаць хлеб. Вось я пайшла ў булачную. Я атрымала хлеб на ўсю сям'ю. Ну, далі мне такую маленькую буханачку і невялічкі даважак. Не ведаю, колькі ў гэтым даважку

было, грамаў пяцьдзесят, ці што. І вось толькі я бяру ў прадаўца гэты хлеб, і раптам якісьці хлапчук, галодны, знясілены хлапчук гадоў шаснаццаці-семнаццаці, як выхапіць у мяне гэту буханку хлеба! Ну і пачаў хутчэй кусаць з голаду — есць, есць, есць яе! Я закрычала: «Ой! Што ж мне рабіць, я ж на ўсю вялікую сям'ю атрымала хлеб, з чым жа я прыйду дамоў?!» Тут жанчыны адразу зачынілі дзверы булачнай, каб ён не ўцёк, і пачалі яго біць! Што ты, кажуць, зрабіў, ты пакінуў сям'ю без хлеба! Л ён хутчэй глытае, глытае. Астаткі буханкі адабралі ад яго, і ў мяне гэты даважак астаўся. Я стаю і. думаю: з чым жа я прыйду дамоў? І ў той жа час і яго так шкада; думаю, гэта ж голад прымусіў яго зрабіць так, інакш ён гэтак не зрабіў бы. І так мне яго шкада стала. Я кажу: «Годзе, перастаньце ўжо яго біць». Гэты выпадак мне запомніўся, думала: трэба ж, каб голад штурхнуў чалавека па такі ўчынак! Гэта ж з-за голаду ён выхапіў хлеб!» (Ульяна Цімафееўна Папова).

Са слязамі няёмкасці, віны, здзіўлення перад тым, што голад з ёю зрабіў, успамінае Таіса Васільеўна Мяшчапкіпа пра такі выпадак. Падышла яна да магазіна, і там якраз падобная сцэна: выхапіў хлопец хлеб, упаў і есць, глытае, глытае леяіачы... Караючы гнеў, крыўда ў ёй загаварылі, яна таксама пачала яго біць, штурхаць, каб выратаваць чыйсьці хлеб. Рантам яе рука памацала на зямлі, кавалак... Але лепш паслухаць яе, яе расказ, пачынаючы з тых трох дзён у студзені, калі ў магазінах зусім хлеба но давалі. Не было. Хлебазаводы сталі.

«— У гэтыя тры цяжкія дні я ў адну ноч адчула — паміраю. У мяне доўгая бясконцая сліпа была. Побач ляжала дзяўчынка, мая дачка. Я адчуваю, што гэтай ноччу я, напэўна, памру. Ало паколькі я веруючая (я гэтага не буду ўтойваць), я стала на калені, ноччу, у цемнаце, і кажу: «Божа мой, пашлі мне, каб я да раніцы дажыла, каб дзіця маё но ўбачыла мяне мёртваю. Пасля яе возьмуць у дзіцячую ўстанову, а вось каб яна мяне мёртваю не ўбачыла». Я пайшла па кухню. Гэта было ў чужой кватэры (мы там жылі, мой дом па вуліцы Камсамола, пяцьдзесят чатыры, разбамбілі). Пайшла па кухню і — адкуль сілы ўзяліся — адсунула сталы. І за сталом знаходжу (вось перад богам кажу) паперу з-пад сметанковага масла, валяецца там яшчэ тры гарошыны і шалупінне бульбянае. Я з такою прагнасцю падымаю ўсё гэта: гэта,

думаю, пакіну, згатую заўтра суп. А паперу запіхваю сабе ў рот. І мне здаецца, што з-за гэтае паперы я дажыла.

— Толькі папера з-пад масла? Л масла не было?

— Толькі папера. З-за гэтае паперы я дажыла да шасці гадзін раніцы. У шэсць гадзін раніцы мы пабеглі ўсе па хлеб. Прыходжу я ў булачную і бачу — там б'юцца. Божа мой! Чаго ж гэта яны б'юцца? Кажуць: б'юць хлопца, які ў некага адабраў хлеб. Я, ведаеце, таксама пачынаю яго штурхаць — як жа гэта ты так, мы тры дні не атрымлівалі хлеба! І вы ўяўляеце сабе, не ведаю як, але ягоны хлеб трапляе да мяне ў руку, я кладу ў рот — ЦУД — і зноў пачынаю таго хлопца таўчы. А пасля кажу сабе: «Божа! Што ж гэта я раблю? Хлеб жа гэты ў мяне ўжо ў роце?!» Я адышлася і пайшла з булачнай.

— І не атрымалі хлеба?

— Я пасля прыйшла па хлеб. Мне зрабілася сорамна, я апамяталася. Прыйшла дадому і даравацъ сабе не магу. Пасля пайшла і атрымала хлеб. Я атрымала дзвесце пяцьдзесят грамаў, я была рабочая, і дзяўчынка сто дваццаць пяць».

...Але сапраўднаю трагедыяй была страта картачак. Асабліва калі значатку месяца і асабліва калі картачак пазбаўлялася ўся сям'я. Той, хто іх страціў, мог лічыць сябе забойцаю ўсяе сям'і. «Я крыкнула так, што спыніўся трамвай»,— успамінае Гайна Віктараўна Кузьміна. Рука вярнулася да кішэні, а там — ні кішэні, пі картак... Крык быў такі, што спыніўся трамвай, падышла нейкая жанчына, запрапанавала ехаць з ёю. Яна, незнаёмая жанчына са сталоўкі, і падкарміла чатырнаццацігадовую Аню, яе сястрычку і маці некалькі крытычных дзён нейкімі рэштками капусты, нейкімі крошкамі.

Ва ўспамінах Кацярыны Паўлаўны Янішэўскай ёсць сцэна, што, здаецца, увабрала ў сябе ўсю трагедыю згубленых картак і асаблівую маральнасць першае блакаднае зімы.

«Бачыла на праспекце Энгельса такое: вязе стары мужчына поўныя сані трупаў, злёгку прыкрытых рагожаю. А ззаду бабулька ледзь сунецца: «Пачакай, мілы, пасадзі». Стары спыніўся: «Ну, што, бабка, хіба не бачыш, якую паклажу вязу?» — «Бачу, бачу, вось мне і па дарозе. Учора я згубіла картачку, усё роўна паміраць, дык каб мае не гаравалі са мною, давязі мяне да могілак,

пасяджу на пяньку, замерзну, а там і закапаюць»... Выў у мяне ў кішэні кавалачак хлеба грамаў сто пяцьдзесят, я ёй аддала...»

Вядома ж, звужваўся круг інтарэсаў, запатрабаванняў чалавечых. Але тыя патрэбы, што заставаліся, пабывалі значэнне, сілу, былі не толькі патрэбы ў ежы ды ў цяпло буржуйкі. Але і ў цяпле спагады. Ніколі так не патрэбна была ленінградцу дапамога, падтрымка, і ніколі ягоная падтрымка так не патрэбна была некаму іншаму, як у дні, месяцы, гады блакады. «У кожнага быў свой збавіцель»,— перакапана сказала нам ленінградка. Кожнаму ён быў неабходны, і сам ён быў патрэбны, як хлеб, вада, цяпло, другому.

І не толькі дапамога фізічная.

Страва духоўная, калі так мала было проста хлеба, яна не абясцэньвалася, яна значыла больш, чым у «сытыя» часы.

«Я думаю, што ніколі больш не будуць людзі слухаць вершы так, як слухалі ў тую зіму вершы ленінградскіх паэтаў галодныя, апухлыя, ледзь жывыя ленінградцы,— піша Вольга Бергольц у прадмове да зборніка «Гаворыць Ленінград».— Мы ведаем гэта таму, што яны знаходзілі ў сабе сілы *пісаць* пра гэта ў радыёкамітэт, нават прыходзіць сюды па той ці іншы верш, які ім запомніўся; гэта былі самыя розныя людзі — студэнты, хатнія гаспадыні, вайскоўцы».

У блакаднага Ленінграда была свая багіня Спагады і Надзеі, і яна размаўляла з блакаднікам вершамі. Вершамі Вольгі Бергольц.

«А яе вершы часта зусім проста, проста вось так, пастолькі яны запаміналіся, пастолькі неяк рытмічна ўкладваліся ў галаву... Ну, вось ідзеш і так, на хаду, шэпчаш гэтыя яе вершы... «Пусть так стоит всегда зарей покрытый...» Калісьці я ведала гэта на памяць, і неяк гэта вельмі памагала, калі я лезла на вышку і калі даводзілася стаяць там пад абстрэлам па нашым бібліятэчным даху» (*Озерава Галіна Аляксандраўна*, вул. Сядова, 124).

«Пасля па радыё пачалі перадаваць вершы Вольгі Бергольц. Гэта я выдатна памятаю, сапраўды было цудоўна, гэта было пад настрой. Гэта вельмі скаланула ад гэтага жывёльнага думання пра яду!» (Бабіч Мая Янаўна).

Здавалася, хлеб, перш за ўсё хлеб, ну яшчэ вада і цяпло! І ўсе гаварылі і думалі, што ўсе жаданні засяроджваліся толькі на гэтым, на самым надзённым. Нічога іншага. Дык жа не. У вычарпаным арганізме душа, пакутуючая і прыніжаная голадам, таксама шукала сабе стравы. Жыццё духу працягвалася. Чалавек часам сам сабе здзіўляўся, сваёй успрымальнасці да слова, музыкі, тэатра. Вершы ператварыліся ў патрэбу.

Вершы, песні, якія дапамагалі верыць, што не бескарысныя і не марныя яго бязмежныя пакуты. І яшчэ шмат чаго патрэбна, проста неабходна было ленінградцу. Жывы голас брата па лёсу — асаднага Севастопаля. І ўпэўненасць, што Масква выстаіць і адкіне танкі Гудэрыяна. І абавязкова — больш, чым нават хлеб, вада, цяпло! — неабходна была надзея, святло перамогі ў капцы ледзянога тунеля...

Па гэтым тупелі людзі і рухаліся, зацiснуўшы ў сабе ўсё, што магло здавацца лішнім, не галоўным.

Але варта чалавеку атрымаць крыху больш цяпла, святла, як пачуцці яго з неймавернаю вастрынёю пачыналі ўспрымаць простыя радасці: сонца, неба, колеры. Нічога не было смачнейшага за скавароднікі з бульбянага шалупіння. Ніколі так ярка не свяціла электрычная лямпачка. Чалавек навучыўся цаніць самае простае і самае галоўнае.

Аляксандра Міхайлаўна Амосава, супрацоўнік Эрмітажа, расказвала, як вясною 1942 года блакаднікі зноў — але нібы ўпершыню ў жыцці! — вырваліся да зелянiны, да зямлі-карміцелькі...

«Набралі мяхі лебяды, конскага шчаўя (гэтае дзікае шчаўе лічылася далікатэсам), набралі ўсякай травы. І вось у мяне было такое пачуццё, што хацелася легчы на зямлю і цалаваць яе за тое, што толькі яна, зямля, можа выратаваць чалавека. Нават калі б у цяжкія часы, зімою, была б гэтая трава, дык, можа, такой гібелі, такой колькасці мёртвых, такой смяротнасці не было б. Святло. Сонца. Дзесьці ў нябёсах жаўрук спявае. А тут мы проста гэтае травы наеліся ўволю. Канечне, гэта не харч. Але памятаю гэтае пачуццё вельмі добра: хацелася легчы, распластацца і цалаваць зямлю! Разумееце?! Зямлю, якая дае нам усё — і хлеб, і ўсё літаральна, чым можа існаваць чалавек».

...Найменшага палягчэння было дастаткова, лішняе пайкі хлеба, талеркі крапіўнага супу, каб прачнулася

сціснутая дарэшты, здранцвелая душа. І тады з небывалым дагэтуль захапленнем цаніліся простыя радасці: сухі чысты асфальт, аконная рама з цэлымі шыбамі, нагрэтая сонцам сцяна, зеляніна дрэваў, ні ў адну вясну не былі яны такімі зялёнымі, як у гэтую вясну! Цудам быў і ложак з чыстымі прасцінамі, і кветка, якую можна было не рваць, не жаваць, не гатаваць з яе салату, а пакінуць проста кветкаю, што вырасла на газоне.

## НА ПРАЦЫ

Што ж можна было супрацьпаставіць такому голаду? Даволі хутка шмат хто адчуў выратавальную сілу таварыскасці, стараліся аб'яднацца, быць разам. Адбывалася гэта і арганізавана, пад кіраўніцтвам партыйных камітэтаў. Адбывалася і інстынктыўна, стыхійна, аб'ядноўваліся праз працу, пераходзілі на так званае казарменнае становішча. Прыстасоўвалі ў рабочых памяшканнях пакоі, ставілі ложкі, наладжвалі ацяпленне, быт. Скучваліся, збіраліся па цэхах, па аддзелах, ціснуліся адзін да аднаго, шукаючы цяпла і дапамогі. Ды і працаваць гэтак было лягчэй, не хадзіць з дому і дамоў пешшу і ў непагадзь. Першымі, натуральна, пераходзілі на казарменнае становішча адзінокія і тыя, у каго сем'і былі эвакуіраваныя. Горш даводзілася, калі сям'я жыла ў горадзе і нельга было пакінуць маці, жонку, дзяцей адных.

Многія па казарменным пражылі ўсю блакаду, амаль не выходзячы «ў горад». Усе сілы забірала праца, дзяжурства, аднаўленне разбураных цэхаў. Свет скурчваўся, як скурчваецца чалавек на марозе, уцягвае галаву ў плечы, увесь убіраецца ў сябе. Так уваходзілі ў выратавальнае лона свайго прадпрыемства, стараліся быць сярод людзей. На людзях і памерці не страшна, грамадзе са смерцю спрачацца лягчэй.

Галоўны бібліёграф Публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына Озерава Галіна Аляксандраўна пра гэта так расказвае:

«—Я думаю, што яны памерлі таму, што заставаліся ў гэтай кватэры адзіночкамі. А мы — хто былі на казарменным становішчы ў першую блакадную восень у Цэпт-

ральнай бібліятэцы,— мы захаваліся дзякуючы калектыву. Усё-такі ў каго было больш сілы і спрыту, тыя нарыхтоўвалі паліва, пілавалі і секлі дровы, расчышчалі снег, здабывалі ваду. Прымушалі людзей — тых, што клаліся ў пасцель і не хацелі рухацца,— прымушалі іх рухацца і выходзіць на паветра. Ну, скажам, я на далёкія канцы горада цягала па саначках дровы нашым супрацоўнікам, якія вырашылі адседжвацца ў сябе на кватэрах і не мелі ўжо сіл хадзіць у бібліятэку. Яны памерлі.

— А вы цягалі ім дровы?

— Абавязкова.

— Ну, вось, вы памятаеце ваша з'яўленне ў гэтых кватэрах? Як гэта выглядала?

— Гэта вельмі страшна: зацемненыя кватэры, замёрзлыя, зусім жоўтыя, апухлыя людзі.

— Сустрэчы адбываліся моўчкі?

— Ды не, мы размаўлялі. Яны цікавіліся, што робіцца ў нас у бібліятэцы, хто жывы, хто памёр — вось самае галоўнае; якія прагнозы адносна немцаў, што, прасоўваюцца яны, не прасоўваюцца... Але вось, галоўным чынам, як жыве і як працуе бібліятэка, і хто з таварышаў жывы, і хто як сябе паводзіць, як трымае сябе,— вось такія размовы былі галоўным чынам».

Але і «ў горадзе» таксама адбывалася нібыта канцэнтрацыя. У камунальных кватэрах усе ссяляліся ў адзін пакой: чым цясней, тым цяплей. Састравалі адзін аднаго сваім дыханнем. Пераязджалі да сяброў, блізкіх. Па дзве, па тры сям'і збіраліся разам, з розных раёнаў горада. Ажывалі сваяцкія сувязі. Гуртам лягчэй было ўправіцца, стаяць у чэргах па хлеб, насіць ваду, даглядаць дзяцей.

Казарменнае становішча было ў тых абставінах, можа, найбольш дзейснай дапамогаю людзям. Арганізаванасць, воля, розум калектыву адкрывалі, здавалася б, зусім неверагодныя магчымасці. Работнікі друкарні, у якой друкаваліся карткі для горада, расказвалі: калі па гэтыя картачкі пачалі даваць усё менш (з 20 лістапада рабочым — 250 грамаў хлеба, служачым, утрыманцам, дзецям — 125 грамаў хлеба, чорнага, ліпкага, як замазка, вадзяністага, з дамешкаю цэлюлозы і апілкаў, і нічога апрача гэтага), пачалі шукаць, аглядваць, быццам бы правяраць нанова ўсё, што было над рукою, у сэнсе ежы, свідраваць наваколле распаленымі вачыма голаду.

"— Матрыцы былі. Там папяросная папера і нейкая

колькасць мучнога клею, каб змазваць. Матрыцы выкарыстаныя — свінцу, фарбы няма, толькі папера. Дык мы малолі іх, гатавалі кашу і казалі, што каша неблагая. Альбо сталярны клей — гэта ж студзіна.

— Атрымліваецца, што ў вас была прафесійная страва, з матрыцаў?

— Гэтак. Мы гэтую кашу елі, і нічога! Доля мукі там была вельмі мізэрная, у асноўным была папера, клей і шэраг іншых кампанентаў» (Я ў г е н і й А л я к с а н д р а в і ч Т р э н к е, набярэжная Мартынава, 12).

Харчаванне хоць якое-небудзь на прадпрыемстве арганізаваць было лягчэй.

«Харчаваліся мы ў сталоўцы,— расказвае Клаўдзія Пятроўна Дубровіна і адразу ж перапытвае: — Калі вам, канечне, цікава? Харчаваліся па картачках...»

Яна працавала зімою сорак першага — сорак другога года токарам на заводзе. У апавяданнях яе каштоўныя падрабязнасці, але яна час ад часу сарамліва абрывае сябе:

«Я коратка... Можа, лішняе што кажу, можа, карацей трэба?»

«Нам выдалі талончыкі. На іх дадуць крыху рэдкай-рэдкай кашы, а мы яшчэ падыходзім і разбаўляем варам, каб яе было болей, нібыта ўражанне, што больш паеў. Там вар стаяў у сталоўцы, і мы яшчэ разбаўлялі. Пасля ў пас без картачак гэтак званы драждждавы суп давалі. Ну, у той час што толькі ішло ў рот, як кажуць, тое і елі. Вось пасля мужчыны, якія ў нас засталіся па ўзросту ці па броні, таму што было што рабіць, ведаеце, вось нават у сталоўцы сядзіць за сталом і, бачыш, упаў і памёр. Такой ціхаю смерцю панміралі, так спакойна... На заводзе было, вядома, страшна. Ну і што? Галодныя каля станкоў працавалі, усюды былі выбітыя шыбы, рукі прымярзалі да металу. Я працавала ў пальчатках, таму што ўсё прымярзала. Памагалі мне, нават да майстра не звярталася. Там інжынер-тэхнолаг адзін, такі Вася Кірычэнка, перайшоў на станок, дык ён часта падыходзіў да мяне. Прыйдзе: «Ну што, не ўмееш? Дык я памагу табе». (А яго не прызывалі таму, што ён марак, а маракоў не прызывалі, трымалі да вясны.) І вось ён мне паказваў, і я такім чынам навучылася і працавала.

Пасля мы ўжо і так не працавалі. Прыйдзем па свае рабочыя месцы — няма электраэнергіі. Майстар кажа: «Сядзіце, чакайце». Спачатку сядзім па некалькі гадзін,

чакаем — няма электраэнергіі. Потым гэта пачало ўжо ў цэлыя дні ператварацца, ужо цэлымі днямі яе не было. Нам кажуць: «Прыходзьце толькі дзён праз тры». Мы сталі менш хадзіць на працу. Вось так прыкладна мы і працавалі, з прамежкамі працавалі. Я коратка!»

Марыя Андрэеўна Сюткіна пад канец свайго расказу раптам успомніла, што ў яе ёсць меню сорак другога года сталоўкі аднаго з цэхаў, і прачытала нам назвы страў, якія замянялі мясныя, рыбныя, мучныя. Але і гэта ўжо вясна — лета 1942-га, калі з харчаваннем стала крыху лягчэй:

«Суп з падарожніка
Пюрэ з крапівы і шчаўя
Катлеты з бацвіння
Біточкі з лебяды
Шніцэль з капуснага лісця
Пячонка са жмакаў
Торт з макухі
Соус з рыбнакоснай мукі
Аладкі з казеіна
Суп з дрожджаў
Соевае малако (па талонах)»

Чаго толькі не гатавалі, чаго не елі, чаго не вышуквалі! Сапраўды, як гаварылі старажытныя германцы: «Найлепшы кухар — гэта голад!»

«Дзядуля! А танкавы тлушч?» — напомніла раптам унучка З я н ь к о в а, якая прысутнічала падчас нашай размовы, і П ё т р  Я ф і м а в і ч сам са здзіўленнем прыгадаў, відавочна, адно з сямейных апавяданняў:

«Во! Танкавы тлушч еў! Божа мой! А ведаеце як? Адна мая знаёмая працавала. А перад вайною я ў тым цэху працаваў. Быў там адно скліканне вызваленым сакратаром. Так. І вось яна кажа: «Ведаеце што, Яфімавіч? У мяне цэлая бочка тлушчу — якім змазваюць танкі. Прыходзь!» І я ўзяў. Якая цудоўная рэч! Як жа мы яго елі! І дамоў прынёс. Разумееце?..»

Галоўным у казарменным становішчы, у гэтым калектыўным жыцці была ўзаемавыручка, узаемадзеянне, якое падтрымлівала дух.

Частка суднабудаўнічага завода імя Жданава была эвакуіравана на Выбаргскі бок, там пачалі рабіць міны, працавалі да снежня, пакуль была электраэнергія. А пас-

ля маглі разысціся дамоў, але многія заставаліся на заводзе, жылі там.

Чым галадней станавілася, тым цяжэй было працаваць, але тым больш патрэбнай была праца і фронту і гораду, дый самому ленінградцу. Праца памагала трымацца. І гэтай працаю даражылі. У гэтым замёрзлым, бязлюдным, знясіленым горадзе прадаўжалася дзейнасць большасці ўстаноў. Паштальёны разносілі лісты, друкарні выпускалі карткі, газеты, лістоўкі, працавалі райвыканкомы, дзіцячыя сады, паліклінікі, тлела жыццё ў архівах, у Публічнай бібліятэцы, у сімфанічным аркестры. Праца заглушала няспынныя думкі пра яду, якія маглі давесці да шаленства. Цераз працу людзі далучаліся да жыцця краіны, ад якога яны былі адрэзаны.

Г. А. Князеў і яго супрацоўнікі працягвалі пісаць «Гісторыю Акадэміі навук СССР». Гэта праца ў першую чаргу патрэбна была ім самім. Яны выконвалі свой абавязак, яны, архівісты, гісторыкі, рабілі што маглі, што ўмелі.

А большасць займалася куды больш падзённымі справамі — дзеля таго, каб падтрымліваць жыццё горада, а галоўнае, дзеля таго, каб забяспечваць Ленінградскі фронт, і, дарэчы кажучы, не толькі Ленінградскі. Выраблялі зброю, міны, снарады.

Марыя Андрэеўна Сюткіна прыгадала, як па Кіраўскім заводзе жылі ў пакоях тэхналагічнага бюро, як палілі ў печах драўлянымі шашкамі, якімі выслана была падлога ў цэхах.

«Ну, значыць, калі пачалася ў нас вясна, мы вырашылі — паколькі кожны дзень скідвалі на нас лістоўкі: маўляў, усё роўна вы загінеце, памрэце з голаду, з холаду,— мы вырашылі, што трэба неяк маральна падпяць народ. Вы разумееце, калі кожны дзень такое! Трэба неяк паднясць дух у людзей. І вось вырашылі мы аднавіць медналіцейны цэх. Частка жанчын была ў нас шпеньшчыцамі. Нам далі заданне рабіць пяцідзесяцідвухміліметровую міну. Рабілі адпаведна сваім сілам — каб можна было трамбоўкаю трамбаваць у скрынях. Асноўны медны ўчастак пусціць было нельга — у нас не было металу. А для вагранкі ў нас быў метал. Мы наважыліся пусціць вагранку. Ало ж як пусціць вагранку? У нас застаўся толькі адзін ваграншчык з сямі. Ваграншчыкі былі такія здаровыя мужчыны, высокія і загінулі ад голаду. Астаўся адзін Чагінскі. Ён добра ведаў вагранку. Але што рабіць? У яго выпадалі зубы — цынга! Шмат хто захварэў тады

цынгою, пад весну. Вырашылі вучыць жанчын на ваграншчык І вось гэтаму Чагінскаму мы спавівалі ногі (!), каб паставіць яго на ногі і весці да вагранкі (ад стацыянара гэты цэх быў за метраў пяцьдзесят якіх). І туды яго вадзілі над рукі. Ён інструкціраваў, як пусціць вагранку. Вагранку мы пусцілі. Жанчыны пачалі працаваць па вагранцы. Гэты ўчастак у нас пайшоў. Як толькі стаў працаваць участак, вы ўявіце сабе, народ быццам бы ўваскрэс, нейкая жывасць у яго з'явілася. Пачаў ён верыць, што ўсё-такі мы пераможам».

У рамках самой працы ўсё змянілася. Блакада і голад зрабілі асаблівым усё, пачынаючы ад руху транспарту аж да, здавалася б, непахіснай тэхналогіі станочнікаў.

Праца звязалася з бытам, з сям'ёю, звязалася як ніколі раней. Расказы аб працы незвычайныя нават сярод усяго гэтага неверагоднага быту. Неяк скрануліся паняцці магчымага. У звычайных прывычных абставінах цэхаў з'явіліся рэчы, здавалася б, немагчымыя для вытворчасці. Цемра. Жанчыны, якія не ведаюць найпрасцейшых прыёмаў працы. Хлопчыкі і дзяўчынкі, зусім дзеці. Усе слабыя, няўмелыя...

Фёдар Юсцінавіч Казадой (вул. Трактарная, 13), начальнік цэха, а потым партработнік, сакратар райкома, цяпер, больш чым праз тры дзесяцігоддзі, зусім не можа зразумець, якім чынам яны змаглі без ліфта, без крана ўцягнуць у чатырохпавярховы будынак цяжкія станкі, калі арганізоўвалі вытворчасць мін на Выбаргскай старане.

Расказы аб працы ўражваюць.

«— У якім жа гэта годзе? Гэта ў сорак першым годзе, значыць,— намагаецца ўспомніць Вера Антонаўна Гаўрылава (Пастаўская вул., 14).— Завод пластмас эвакуіраваўся ў Варонічы. Абсталяванне ў нас было вельмі нядрэннае, вельмі дружны калектыў, як мне прыгадваецца. На заводзе асталіся амаль пустыя цэхі. Самыя лепшыя станкі вывезлі. Усе цэхі ўжо стаялі — не было пластмасавай сыравіны. І вось мы пачалі асвойваць гранаты «Ф-1» і «РГД». У нас ішло гэта добра. Працавала палова жанчын, палова мужчын. Начная змена ў дванаццаць гадзін, дыспетчара няма, гляджу, там два станкі стаяць — людзей няма. Іду шукаць. А мы перад гэтым

прынялі на завод па размеркаванню з дзіцячага дома хлонцаў-рамеснікаў. Іду да іх у інтэрнат (інтэрнат быў побач). Гляджу: Пецька жывы ляжыць, спіць, а зверху яго мёртвы...

— Пачакайце? Я не зразумеў. Дзе яны ляжаць?

— Ды ў інтэрнаце! Ну, хлопцы змарнелыя, галодныя, падкарміць жа няма чым — апрача картак, нічога ж не было. Гэта пазней здагадаліся есці казеін. Ну, прыходжу. «Божа мой, Пецька! Ты чаго?» — «Ды я праспаў!» — «А Віцька што?» — «А Віцька, ну, што — ён ужо мёртвы!» І вось хлапчук прыйшоў і пачаў працаваць. Не пытайцеся, як ён стаяў! Але ўсё роўна дзірачкі і ўсё што трэба ў гранатах лепш вось, чым гэтыя хлопчыкі, ніхто, канечне, не рабіў».

Працавалі па-рознаму. Электраэнергіі не было, не давалі, калі і ўключалі на некалькі гадзін, дык у першую чаргу тым прадпрыемствам, якія выраблялі зброю. А працаваць трэба было і астатнім. І тады дзе толькі можна працавалі ўручную. На фабрыцы імя Бебеля было так, што круцілі машыны рукамі. Шылі гранатныя сумкі, рамантавалі кажухі, рамяні.

«Летам будзе лягчэй, там святло будзе, а ўзімку самы цяжкі час. У цэху холадна, не паляць. Цэх вялікі, вокны з двух бакоў. На вуліцы мароз 30 градусаў. Рукі, ногі калеюць. Машыны круцім рукамі, машыны замёрзлыя».

Гэта з дзённіка Алены Мікалаеўны Авяр’янавай-Фёдаравай. Яна чытала нам свае запісы, тлумачыла іх. Чытала, тлумачыла і плакала.

«***20.1.1942 г.*** Сёння так перамерзла па працы, нягледзячы па тое, што цёпла апранутая! Але калі ў жываце пуста, дык хоць што надзявай — цёпла не будзе...

***27.1.1942** г.* Нідзе не было хлеба. Чэргі стаялі з пяці гадзін раніцы. Адчынілі булачныя — і пустыя. Даводзілася чакаць, пакуль спякуць ды падвязуць. Шура стаяла з сямі раніцы і толькі ў сем вечара атрымала хлеб. Дванаццаць гадзін прастаяць на паветры. А мы гэты хлеб у адзін момант з’елі. За цэлы ж дзень нічога ў роце не было: канечне, раз прынеслі хлеб, дык не ўстрымаешся. Вось раней маглі яго дзяліць на нейкі час, а тут не да гэтага было.

Сёння я працавала адну гадзіну, пасля адпусцілі дадому, каб дастаць хлеб.

Другі дзень іду на працу і нічога не ела. Як працаваць у такім холадзе і што рабіць? Так і пайшла. Па дарозе, на Кірылаўнай, каля дома 22, кінуты два нябожчыкі. А ты вось ідзеш і хоць бы што! Наколькі прытуплена ўсё, з'ява лічыцца звычайнаю, быццам бы так і трэба, ужо не бянтэжыць гэты выпадак, мы ўжо прызвычаіліся да яго.

Але горш за ўсё тое, што сёння надзея толькі на хлеб. Прадуктаў жа зноў не даюць. Падражнілі крыху, далі круп па 50 грамаў і думаюць, хопіць. А тут ужо горш быць і не можа. Хлеб — гэта ж жыццё. Адным словам, трымацца! Як складана пераўжыць гэтыя цяжкія дні!

***28.1.1942 г.*** Сёння з работы не адпусцілі, нягледзячы на настойлівыя просьбы адпусціць дамоў. Дырэктар у нас жорсткі — не дазволіў адпусціць. Але што з гэтага? Усё роўна ніхто працаваць не можа. Машыны ўсе замерзлі. Мы ўсе нібы качаны. І не дзіва замерзнуць, калі ў цэху кіпецень адразу ператвараецца ў лёд. Сцены ўсе пакрыліся снегам, а ўсе шыбы пакрыліся тоўстым слоем лёду. Ды хіба можна працаваць у такім цэху, дзе мароз мінус 25, калі на вуліцы 30,— толькі што ветру няма?!

Закончылі працу ў 3 гадзіны. Пайшлі дадому. Зноў дрэнна, зноў нічога няма. Я пайшла шукаць, дзе даюць хлеб на 29-е. Без хлеба ж пагібель».

...Вернемся да сям'і Васілёвых. Расказ Зоі Яфімаўны мы прыводзілі раней, цяпер звернемся да таго, што паведаміў нам яе муж, Нікандр Іванавіч, майстар Металічнага завода. Калі б можна было не спыняць апавяданне, не вяртацца назад, не размяшчаць расказы адзін за адным, а як-небудзь паказаць адначасова, што адбывалася з дзецьмі Васільевых, і з людзьмі па ягоным заводзе, і дома з жонкаю, а пасля з ёю ж у бальніцы, і параўнаць, як у гэты ж самы час працавалі і жылі іншыя сем'і, як працавала паштальён Наталля Сідараўна Пятрушына і трамвайшчыца Ганна Аляксееўна Пятрова і як працавалі ў сваіх разбітых цэхах кіраўцы, чырваназораўцы...

У розных частках агромністага горада змагаліся, пакутавалі, пераадольвалі гэтыя пакуты і не спраўляліся з імі, і ўсё ў адны і тыя самыя дні, і ўсё гэта злівалася ў адзіную карціну, і не злівалася, таму што кожны лёс меў сваю асаблівую гісторыю, непаўторныя падрабязнасці, і памяць захоўвала іх таксама па-рознаму.

Хацелася перадаць гэту множнасць жыцця, не вяртаючыся кожны раз назад. Хаця б так: «А ў гэты час». Альбо: «А ў гэты ж самы момант...» Але ўсё роўна даводзіцца вяртацца. А вяртацца ж значыць паўтарацца. І нам нямала давядзецца паўтарацца. Гаворка ідзе пра тое самае — і ўсё-такі пра іншае. Таму што кожны расказ тоіць у сабе новы, хаця б і невялікі паварот жыцця. Таму што бясконцыя гэтыя паўторы ў апавяданнях людзей не былі паўторамі. Яны адкрывалі новыя і новыя абставіны, здавалася б, дастаткова вядомага. Яны пацвярджалі і вялі ўглыб, надавалі тым самым падзеям усеагульнасць, заканамернасць, аб'ёмнасць.

Вось расказ Нікандра Іванавіча Васільева:

«— Мне цяпер шэсцьдзесят адзін год, значыцца, у вайну мне было дваццаць шэсць. У войску я не служыў, таму што мяне адразу ўзялі на броню. Калі пачалася вайна, я быў старшым майстрам: у мяне было каля васьмідзесяці чалавек хлопцаў і мужыкоў. І вядома ж, адразу ўсе — я сам заклікаў ісці абараняць Радзіму,— усе хлопцы, канечне, пайшлі ў войска. А мяне адразу за рукаў: «Ты што? (Я быў, вядома, камсамолец.) Не толькі на фронце ваяваць трэба. Патрэбна і тут ваяваць, цэх неабходна рыхтаваць, зброю выпускаць». Карацей кажучы, атрымалася, што ад мяне пайшлі лепшыя людзі, кваліфікаваныя, а мне далі, канечне, жанчын.

— І рамеснікаў?

— Рамеснікаў тады мала было. Былі, але ж яны былі настолькі слабыя ад галадухі... Два-тры чалавекі іх у мяне было. А ў асноўным, канечне, жанчыны. Жанчын забіралі са сталовак, адусюль... Вы разумееце, што такое майстар? На заводзе, у цэху? Яму трэба выкопваць заданне і працаваць з людзьмі. Л людзі, разумееце, галодныя, халодныя. Я вось не забуду, мы выконвалі такі заказ. Ужо «Кацюша» пайшла, а нам далі заданне: мы снарады вытачвалі, жанчыны на аперацыях. Як цяпер памятаю, трыццаць сем аперацый (мяне нават узнагародзілі ордэнам Чырвонай Зоркі), і на ўсіх — жанчыны. Спачатку нават плакалі, а пасля асвоілі. Халадэча — мінус дваццаць два — дваццаць пяць градусаў у цэху. А нам далі такія трубы доўгія, з «Бальшавіка» прывезлі. Дыяметр міліметраў сто восемдзесят — дзвесце, сцяна таўшчынёю міліметраў дваццаць. Сталь такая вязкая (спецыяльна для зброі). Трубы метраў восем даўжынёю, а трэба нарэзаць загатоўкі па восемсот міліметраў. І рэзаць на стругаль-

ных станках, па вялікіх. А робіцца гэта вельмі доўга, таму што трэба паліваць, а вада замярзае па ляху. Стружка не вылятае. Разец ламаецца. А разцы ў той час дзе ты возьмеш? Кузня там была тады — тры-чатыры малаткі. Я пасля, значыць, мужыкоў сваіх узяў, якія былі больш ці менш нічога, і самі разцы кавалі. Навошта я гэта кажу? А таму, што гэты холад, мароз нам з трубамі памог. І па «Бальшавіку» таксама мучыліся з гэтай рэзкаю, самая цяжкая была аперацыя. (Я сам у мінулым токарам быў, перад тым як майстрам стаць. А майстрам я стаў у трыццаць восьмым годзе.) Мы пачалі рабіць так. Пачынаеш падразаць, прыкладна міліметраў дзесяць надрэжаш, потым цюк па пярсцёнку — усё, гатова, труба абломваецца. Таму што яна крохкая на марозе. Карацей кажучы, мы здзівілі ўсіх.

— І роўна?

— Роўна, як нажом. Карацей кажучы, усё гэта ішло датуль, пакуль не памерлі ў мяне асноўныя людзі. Вось памятаю хакі выпадак. У мяне да вайны быў адзін шліфоўшчык, адзіны! Гэта такі чалавек быў! Ну, грунтоўны наш рускі мужык. Выпіваў, закладваў, канечне. Ну, гэта не важна. Вы зразумейце, як ён працаваў! І яго настолькі хвалілі на заводзе! Ну, усюды плакаты, ну, герой, разумееце? Я яго падтрымліваў усяляк. У мяне былі маракі, але і яны галадалі. Сёе-тое нам давалі, а мы ўсё яму падсоўвалі. І вось гэты мужык прыходзіць да мяне і кажа: «Ведаеш, Васільевіч (ён так мяне зваў), я памру зараз». Я кажу: «Ды ты што! Ты адзін шліфавальшчык, ты што?!» — «Памру!» І ён пайшоў з кабінета. Шхо вы думаеце? Прыходзіць да мяне мінух праз дваццаць жанчына і кажа: «Памёр!» Жыў ён недзе на Васільеўскім востраве, хадзіць было далёка. У нас у механіка была канторка, я яе ацяпліў, ну, вядома, там асаблівага цяпла не было. Ён там спаў. Сям'я? У яго жонка памерла, двух хлопцаў узялі ў армію, вось ён адзін і застаўся. Гэты чалавек дакладна ведаў, што ён праз некалькі мінут памрэ. І ён да самай смерці цягнуў, разумееце?»

Ці гэта асаблівасць смерці ад дыстрафіі, ад голаду, ці абвостранае адчуванне смерці, якой так багата было навокал, але вядома было тады, што многія дакладна адчувалі момант яе набліжэння. Быццам бы чулі яе надыход, бачылі яе.

«— Навошта я гэта кажу? Людзі ў такіх цяжкіх умовах працавалі, і сапраўды безадмоўна. Да вайны былі

ўказанні: за дваццаць мінут спазнення — звальненне, пасля судзіць. Ледзь не кожны абедзенны перапынак збіралі людзей: такі і такі прагуляў! А вось у цяжкі час блакады не было выпадку, каб чалавек, які можа яшчэ рухацца, каб ён не працаваў. Не было такіх.

— Так што тады не трэба было загадаў?

— Ніякіх загадаў! І я ніколі не забуду. Я бачу, што народ валіцца ад голаду, а больш ад холаду. Я вырашыў буржуйку зрабіць. Быў у нас такі чырвоны куток, і ў ім я разам з рабацягамі зрабіў буржуйку. І рашылі: паўгадзіны працаваць — дзесяць мінут абагрэў. І я потым прыйшоў да такой высновы, што яны ў мяне за гэтыя паўгадзіны даюць больш, чым за дзве гадзіны... Прызначылі новага дырэктара. Ён у шынялі пачаў хадзіць. Я і не ведаў, што сп дырэктар. Ён дагэтуль адзін раз быў у мяне. Нічога не сказаў. А пасля прыходзіць і кажа: «Дзе твае людзі?» Я кажу: «Грэюцца».— «Фронт патрабуе зброі, заданні трэба выконваць, а тут у цябе людзі сядзяць!» Я кажу: «Не сядзяць, а грэюцца. Яны пасля больш зробяць». Карацей кажучы, ён спагнанне на мяне наклаў. Прыйшоў кур'ер, прынёс мне вымову. А праз два тыдні, калі ён лепш пазнаёміўся, прыйшоў прасіць у мяне прабачэння і аддаў загад: усюды зрабіць буржуйкі. Вось так... Таму што мая сям'я жыла побач, я, разумееце, на тыдзень разы два-тры дома бываў. Тут хутка можна дабегчы, мінут за пяць. У мяне дзве дачкі былі і жонка. Мы жылі тут, у доме сорак. І адна дачка памерла. Я яе сам пахаваў. Пасля жонка звалілася. Яе паклалі не ў стацыянар, а ў шпіталь. Вось у мяне адна дачка памерла, а другая сама сядзіць дома. А ёй усяго тры, чацвёрты гадок. Дык я што? Напалю ў пліце (мы не ў пакоі жылі, а па кухні). Я дачку на пліту, анучамі ўсякімі накрыю, а сам на завод. Пасля вяртаюся. Бурдою накармлю, каб яна не памерла. Так і бегаў. Прыбягу, пакармлю яе, пераапрану, разумееце? І назад на завод. А яна зноў адна! Я думаў, што яна азвярэе. Я часам прыйду, адчыняю дзверы, а яна стаіць — маленькая дзяўчынка адна ў кватэры, у якой усе там вымерлі.

— А якая частка работнікаў вашых памерла?

— Большая. Добрыя, кваліфікаваныя былі людзі. Ну, што ж зробіш?! Калі ўзяць, напрыклад, лістапад — снежань сорак першага года, дык менш чым палова, не — трэцяя частка засталася. Калі ўзяць сорак другі год, дык

я вам прама магу сказаць: у цэлым па заводзе прыкладна тысячы паўтары-дзве засталося з васьмі.

— І на фронт шмат хто пайшоў?

— Так, на фронт многа пайшло, вельмі многа».

На месца тых, хто пайшоў на фронт, станавіліся падлеткі і жанчыны. Так было на ўсіх прадпрыемствах. Горад, што спыніў каля сваіх сцен фашысцкія арміі і стрымаў штурм, працягваў забяспечваць сваіх абаронцаў зброяй. Нават на Вялікую зямлю трапляла яго прадукцыя ў самыя цяжкія для Масквы месяцы. Цяпер здаецца незразумелым, як маглі аслабелыя ад голаду дзіцячыя рукі падымаць, замацоўваць у станкі цяжкія загатоўкі.

«Прывязваліся да станкоў... Каб у станок не ўпасці. Не проста баяліся ўпасці, а ў станок каб не ўпасці, не пакалечыцца,— прыгадвае Міхаіл Пятровіч Пялевін, які пятнаццацігадовым хлапчуком працаваў на заводзе імя Кулакова.— Нас, хлапчукоў, выкарыстоўвалі на падсобных работах. Ашчаджалі метал, і даверыць яго часам нам, нядаўнім вучням-рамеснікам, не заўсёды было можна. У тыя дні брак быў выключаны. І, канечне, калі некага з нас часова і ставілі за станок, галоўнай нашай запаведдзю было — не спяшайся!» Няма патрэбы ўтойваць цяпер і тое, што на завод такі хлапчук імкнуўся з апошніх сіл яшчэ і таму, што там у заводскай сталоўцы можна было на адзін крупяны талончык у 12,5 грамаў атрымаць адразу тры талеркі гарачага дражджавога супу і пляшку соевага малака. Гэтае малако толькі-толькі пачало з'яўляцца. Яго вынайшлі тут, у блакадным горадзе.

Была ў нас сустрэча з Вольгай Мікалаеўнай Мельнікавай-Пісарэнка. Яе ваенны (ды і пасляваенны) лёс звязаны быў са славутай «Дарогаю жыцця» цераз Ладагу (пра гэта будзе ніжэй). Але ў яе расказе было і такое вось адступленне:

«— Я ніколі не забуду таго, што бачыла на Кіраўскім заводзе. Я выпадкова трапіла туды. Якраз мы адтуль вазілі дровы. Там багата было драўляных дамоў. Дровы для шпіталяў вазілі. І выпадкова я туды забегла. Гляджу — падлеткі, хлапчукі па дванаццаць-трынаццаць гадоў, дзяўчынкі па чатырнаццаць гадоў стаяць каля станкоў і працуюць. Яны замянілі сваіх бацькоў альбо сваіх старэйшых братоў. Гэтым падлеткам падстаўлялі лаўкі альбо скрыпкі, каб яны маглі працаваць. Расказвалі, што адна дзяўчынка, працуючы на станку, яшчэ гуляла з лялькаю... Гэта няпраўда! Гэта яна брала ляльку, ідучы на працу.

Яна вымушана была браць з сабою якую-небудзь, ведаеце, дарагую рэч, вядома, для яе дарагую. Яна ляльку брала з сабою, таму што лічыла яе такой каштоўнай рэччу.

— Гэта, мабыць, таму, што дом могуць разбамбіць?

— Так. Яна не гуляла, а гэта проста была яе асабістая рэч. Пра якую гульню з лялькамі можна гаварыць, калі яна недаядала, недапівала, калі ведала, што трэба дэталь зрабіць. Яна ляльку брала, каб захаваць яе: дом можа разбурыцца, а гэтая яе дарагая рэч захаваецца.

— А колькі гэтым дзяўчынкам было гадоў?

— Па трынаццаць-чатырнаццаць... Часам бяжыш куды-небудзь, глядзіш: стаіць падлетак. Кажаш: «Чаго ты стаіш? Давай, выходзь, ужо ўсё, абстрэл закончыўся». Падыдзеш да яго, а ён мёртвы! Ён, канечне, ад голаду паміраў. І вось так стоячы, прыхіліўшыся да сцяны, паміралі!»

Расказвае Пётр Яфімавіч Зяцькоў, былы майстар Кіраўскага завода.

«— Я дваццаць пяць дзён праляжаў у бальніцы, у стацыянары... Пасля паправіўся. Прыйшоў у цэх. Начальнікам быў Іван Іванавіч Плотнікаў. Ён цяпер жывы-здаровы. Плотнікаў і кажа мне: «Зяньков, расчышчай каля цэха снег. Трэба пачынаць працаваць». А з кім працаваць? Вось у мяне быў адзін слесар Машкін, а астатнія ўсе жанчыны. І дзяўчынкі былі на шаснаццаць-семнаццаць гадоў, слабыя былі, розны народ. Ніхто нічога не ўмее. Сам я і майстар, і настройшчык, і рабочы — што хочаш! Свердзел затачу, разец затачу, разец пастаўлю, пушчу станок. А Нарышкіна была ў мяне, дык яна паглядзіць на мяне і плача,— чамусьці яна мяне баялася, сам но ведаю чаму, і станка баялася, і мяне.

— Гэта дзяўчынка была?

— Жанчына! Пажылая. У яе муж стары бальшавік, яшчэ з дарэвалюцыі. На «Жданава» працаваў. Ну, я пачаў набіраць народ. Пачаў гэтых людзей вучыць. Цікава — зварка. Сам я ніколі зваршчыкам не быў. А трэба было апокі рабіць. Гэта на цяперашніх часах — злачынства, але я рабіў апокі алюмініевыя, каб хворым жанчынам падымаць, выбіваць міны было лягчэй. Вось рабіў алюмініевыя апокі, і туды тры міны ставілі. І адзін бок усё неяк прыварваўся. Шкода ж — адна міна но выходзіць, яна прыварваецца, брак атрымліваецца. Вось думаў-думаў, што рабіць. Прыдумаў: пяціміліметровую шайбу зрабіў адсюль, а тут контргайку ўсярэдзіне зацяг-

ваў... Атрымалася ў мяне. Начальнік кажа: «Ну і малайчына ж ты!» Стала выходзіць тры міны — во!!! Ну і рабіў я гэтыя алюмініевыя апокі. І ўтулачкі залівалі там, і ўсё з гэтымі бабкамі. Ну, усё самі апрацоўвалі. На карусельным станку апрацоўвалі. Знайшоў закінуты карусельны станок. Устанавіў. Думаю, па-гаспадарску гэта будзе, добра будзе. Міны: ж патрэбны. І дот зрабіў — там хаваліся, калі быў моцны абстрэл.

Аднойчы такі абстрэл быў! А ў мяне была ўкраінка Карміліцына. У яе муж на Кіраўскім працаваў. Пайшоў на фронт і загінуў. Ну вось, абстрэл, а я там каля стругальнага калупаюся. Я каіку Карміліцынай: «Пайдзі паслухай, дзе снарады кладуцца». Яна пайшла. Ідзе. «Гаспадар! За фасоннаю!» Толькі яна сказала — як ахне ў мяне над галавою снарад! Мяне кантузіла. Я нічога не намятаю. Я гэту Карміліцыну, таксама параненую, вяду праз увесь цэх і не адчуваю, што ў мяне чалавек у руках. А калі падышоў, зачапіўся за апокі, апрытомнеў — чалавек у руках. Прыйшоў. Кроў тут у мяне цячэ, ну — смерць! Значыць, трэба, напэўна, было застацца жывым: у мяне тамбур быў, дзверы падвойныя. Я ў гэтым тамбуры паваліўся і думаю: тут ужо смерць! Кусак стаяў у мяне якраз перад дзвярыма. І ў гэты час як ахне снарад на гэтым кусаку! Калі б я ступіў два крокі — мне б адразу смерць! А пасля я ўжо як беспрытомны ляцеў, снарады — жжы-жжы! Я прыляцеў у падвал, у медпункт. Прыйшла жонка, брат прыбег. Плачуць. Я кажу: «Чаго плакаць? Жывы-здаровы».— «У бальніцу!» — «Нікуды не пайду». Працаваць няма каму. Працаваць жа трэба. Хто будзе рабіць усё гэта? У бальніцу я не пайду». Пасля немец пачаў так біць! Адзін раз я выйшаў, гляджу — самалёты. Лічу — сем, восем. Ну, думаю, пашы ляцяць! Як ён тут пачаў бамбіць! Божа мой! Вось так стаю, і зямля пада мною хадуном. Усё дрыжыць. Ён многа тады набіў у нас. Цэх адзін паклаў, літаральна паклаў!.. Пасля — труба стаяла ў нас. Агромністая труба. Як пачаў біць па гэтай трубе! А ў нас якраз печы тут.

— Гэта ў якім цэху?

— У медна-чыгунналіцейным. У гэту трубу папаў і прабіў. Некалькі прабоін зрабіў. Валіць яе трэба, інакш можа ўпасці і пас пазабівае. А мая майстэрня побач — паміж сталоўкаю і медналіцейным, мяне таксама эвакуіравалі з народам. І паклалі гэту трубу, яна нібы струнка ўпала. Перастаў страляць па гэтай трубе. У нас памерла

больш, чым на фронт пайшло нашых кіраўцаў. Вось я не ведаю, як я застаўся жывы! Галадалі моцна. Але я піў соевае малако і еў шроты... Пасля пачалі даваць нам рацыёны — пяцьсот грамаў хлеба. І пасля давалі рацыёны і на рабочых, і на пас. Гарэлку давалі. Піва давалі — па талончыках нам як рабочым. І тут ужо становішча палепшала».

Валянціна Сцяпанаўна Мароз, што якраз была адной з тых дзяўчынак чатырнаццацігадовых, якія павінны былі на заводах, у майстэрнях замяняць не проста мужчын, а кваліфікаваных мужчын-рабочых, намятае гэта «са свайго месца»:

«Смерць мацеры на мяне падзейнічала прыгнятальна. Я наогул не магла знаходзіцца дома. Я некалькі дзён правяла ў суседзяў, а потым адвялі мяне на завод, там жа каля нас, на Петраградскай старане. Я ўладкавалася на заводзе і перайшла на казарменнае становішча. Завод стаў абаронным. Перад вайною выпускаў касавыя апараты ці нешта накшталт гэтага. Цяпер, у блакаду, ён ператварыўся ў абаронны завод. Абсталяванне вывезлі ў Свярдлоўск, але сёе-тое заставалася. Ну, я прыйшла, нічога не ведаючы. Стала вучаніцаю токара, таму што трэба было вельмі хутка што-небудзь асвоіць. Я рабіла такія маленькія эксцэнтрыкі. Гэта калі стабілізатар прыварваецца да снарада, маленькія эксцэнтрыкі патрэбны на гэту заточаную частку. Работа была па мікраметру, вельмі клапатлівая і дакладная работа. У мяне не было зменшчыцы, і я адна пад гэтымі эксцэнтрыкамі працавала...»

Л яшчэ была работа — прыбіраць трупы, звозіць іх у траншэі, ратаваць горад ад эпідэмій. Работа штодзённая, пастаянная, нават «прывычная» ўжо. І ўсё роўна жахлівая для чалавека.

У блакаднай памяці яна «запісана» побач з іншымі работамі і справамі ленінградцаў. Але калі гэты «запіс» гучыць сёння — не толькі таму, хто слухае, чытае, але і таму, хто расказвае, піша, памятае г э т а, т а к о е — не па сабе...

Л яе ж, гэтую работу, неабходна было выконваць. Прытым часта — жанчынам, жаночымі рукамі.

«Я баялася нябожчыкаў, а давялося грузіць гэтыя трупы. Проста па машыны з трунамі садзіліся, зверху, і везлі. І сэрца было быццам бы выключанае. Чаму? Таму што

мы ведалі, што сёння я вязу іх, а заўтра, магчыма, мяне навязуць.

Але нехта ж усё-такі застанецца жывы. Мы цвёрда верылі, што горад ні за што немцы не возьмуць» (Арсеньева А. М.).

Сэрца «выключылася» — такое не прыдумаеш, такое трэба перанесці, як перанесла Ганна Аляксееўна Пятрова (Басейная, 74).

«— Потым была яшчэ такая работа. Вазілі ў 1942 годзе нябожчыкаў, якія былі ўжо апошнімі ў галодную зіму. Нас паслалі на вуліцу Марата — маё аддзяленне МППА. Прыязджаем на трамваі. Бралі ў розных раёнах і месцах. І розныя людзі былі. У Кіраўскім раёне, там больш мужчын, мажныя і потым жываты вялікія, а калі нясём насілкі, дык у гэтых нябожчыкаў пераліваецца вада, нібы ў бочцы. У Неўскім раёне большасць — дзеці і старыя. Нам сказалі — без дакументаў не браць трупы. Вось з гэтае прычыны быў у нас такі выпадак. Была нядзеля. Мы бралі трупы ў бальніцы Бехцерава. Там быў толькі вартаўнік. І вось я сказала сваім падначаленым узяць у трупярні столькі чалавек, колькі было дакументаў. Пакуль я з вартаўнікам афармляла паперы, мае паспелі ўжо загрузіць трупы. І тут ён пачаў лаяцца, навошта, маўляў, не тых узялі, патрабаваў, каб назад выгрузілі. Да гэтых, кажа, яшчэ родныя прыйдуць...

Дзяўчаты адмовіліся згружаць, тады гэты вартаўнік сам залез у кузаў машыны. За нябожчыка, цераз плячо і назад у трупярню. Трупы яшчэ не застылі і гнуліся ў любым напрамку, і вось такім чынам вартаўнік забраў сваіх нябожчыкаў. А нам давялося самім забіраць тых, што чорныя. Лаяў мяне шафёр: не дакранайся да трупаў, а то не пасаджу ў кабіну!»

Яна расказвала мне без гідлівасці, гэта была работа, такі выпаў лёс Г. А. Пятровай, і нічога тут не парадзіш, некаму ж трэба было... Вы прасілі расказаць усё як было, калі ласка, вось гэтак таксама было. І нам таксама неабходна расказаць пра гэта не саромеючыся, без манернічання, адкідаючы ўсе папрокі ў натуралізме, антыэстэтычнасці, расказаць, каб аддаць належнае ўсім, хто так, як Ганна Аляксееўна, рабіў гэту цяжкую працу.

Якія складаныя функцыі набывалі, здавалася б, самыя непрыкметныя, быццам бы самыя простыя прафесіі, якую значнасць і дзейнасць яны атрымалі! Напрыклад, паштальён. Прыгаданая ўжо намі Н а т а л л я  С і д а -

р а ў н а  П я т р у ш ы н а (Вялікі праспект, 51/9) і цяпер яшчэ вельмі рухавая жанчына, нягледзячы на свае гады (яна з 1914 года нараджэння). Так і ўяўляеш яе з цяжкай сумкаю, а ў блакаду гэтая сумка выдавалася куды цяжэйшай, і дом ад дома стаяў далей, і лесвіцы былі больш стромкія. Тады ж лісты насілі проста ў кватэру, у кожную кватэру, ды яшчэ асабіста адрасату стараліся ўручыць.

«— Канечне, я ж і сама была ледзь-ледзь. Калі пачалася блакада, мы жылі ў Новай Вёсцы, там быў інтэрнат. Бамбілі рынак — там нейкія аб'екты былі,— і наш інтэрнат, вядома, разбамбілі. Ну, пас перавялі сюды, па Вялікі праспект, дом трыццаць адзін. Мы тут, значыць, жылі. Нас было шэсцьдзесят чалавек. А я працавала ў сто дваццаць дзевятым паштовым аддзяленні. Гэта Каменны востраў. Ну, сёй-той ад нас паехаў, а большасць, канечне, памерла ад голаду. Муж у мяне на заводзе загінуў ад артабстрэлу. Пайшоў туды і не вярнуўся. Дзеці ў час вайны таксама памерлі, двое. Пачаўся сапраўдны голад: ужо на карткі мы нічога не атрымлівалі прыблізна з паловы снежня.

— І вы па-ранейшаму працавалі?

— Працаваць я працягвала. Я абслугоўвала якраз вуліцу Акадэміка Паўлава, а там Інстытут эксперыментальнай медыцыны і вакцынсываратак. Калі я туды прыходзіла, гэта ўжо калі голад пачаўся, мне медыцынскія работнікі растлумачылі: «Ні ў якім разе, таварыш паштальён, як бы вы дрэнна сябе ні адчувалі, не кладзіцеся, а старайцеся працаваць».

— Гэта вам вучоныя сказалі?

— Так, якраз там быў прафесар Гурэвіч (яму было шмат карэспандэнцыі), ён мне сказаў: «Я, кажа, эвакуіруюся, таму што мяне прымушаюць. Але я вам растлумачу: вы ніколі не кладзіцеся. І не падайце духам. Колькі можаце, столькі і хадзіце». Ну, вось, я гэтыя пастаўкі і ад многіх іншых чула і не падала духам! Карэспандэнцыю, пакуль вазілі нам, мы, значыць, разносілі, гэта пакуль вялікіх маразоў не было. А потым не стала ўжо ў нас машын. Нам даводзілася, значыць, вось так рабіць: у чатыры-пяць гадзін два-тры чалавекі самі ехалі з санкамі на паштамт. Там іншы раз карэспандэнцыі тыдзень не было, два, а пасля яна ўся прарываецца. Тады мы яе забіралі ў мяхі і везлі. Але як везлі? Адзін аднаго падштурхоўвалі і так за цэлы дзень прывозілі. Аддзяленні амаль не ацяп-

ляліся, але нас, праўда, пускалі ў ЖАКТ. А там былі дзяжурныя, там палілі ў печы (якраз у доме семдзесят дроб семдзесят пяць).

— Вы памятаеце, як хадзілі ў дамы?

— Мы карэспандэнцыю разбіралі на працягу дня, таму што ішло па дваццаць лістоў у кватэру. Гэта трэба было разабраць. Вы ўяўляеце сабо, мяхі якія?! А разбіраць? Рукам холадна, хоць і палілі там. Адзін разбірае, адзін нясе. А лесвіцы гэтыя! Нясеш прыблізна гадзіны дзве, таму што прыходзіш — цёмна. На лесвіцах цёмна, коўзка, адходы, хто мог, сюды вылівалі, таму што туалеты не дзейнічалі (не было вады), людзі ўсё на лесвіцу! Іншы раз ідзеш, упадзеш і назад скоцішся ўніз, таму што коўзка, асабліва калі цёмна. Ну, прыходзіш у кватэру: пакоі адчыненыя, кватэры не замыкаліся, цёмна, спатыкаешся. Другі раз прыйдзеш — чалавек ляжыць. Думаеш — мёртвы! Патузаеш яго крыху: вам ліст! Чалавек, калі прытомны, дык ён, натуральна, пачынае варушыцца. А іншаму абыякава, ліст, ці што. Ну, пачынаеш тузаць яго. Калі просіць — прачытаеш. Часам нават такое паведамленне чытаеш, што такі-та без весткі прапаў ці паранены, адпраўлены ў шпіталь,— не плачуць. «Ну, кажуць, добра». А другі раз прыйдзеш — чалавек ужо мёртвы на ложку ляжыць... Ідзеш па вуліцы, канечне, людзей амаль не бачыш. А калі ідзе чалавек, дык яго не пазнаеш: дзіця гэта, ці бабуля, ці дзяўчына, ці хто?! У такім стане ўсе былі.

Былі ў мяне два такія выпадкі. Бацька чакаў ліст ад сына. Пайшоў у сталоўку паесці. Ну, а які там харч? Вада ды дзве крупінкі! І то не заўсёды давалі. Пастаіш у чарзе і пойдзеш, таму што не хапала і гэтага. Я прыйшла, а ён сядзіць на лесвіцы. Я звярнулася да яго (забыла ўжо ягонае імя і імя па бацьку), кажу: «Вам ліст!» Ён кажа: «Прачытайце, калі ласка». Я прачытала. Сын піша, што баі цяжкія, было якраз наступленне,— і ўсё. Ён узяў гэты ліст, падзякаваў. Пасля кажа: «Ведаеце што? Памажыце мне ўстаць». Уяўляеце сабе — устаць! Мужчына! Ну, праўда, ён худы быў. Я пачала падымаць — і сама ўселася на лесвіцы. І мы ўжо не маглі ўстаць — ні адзін, ні другі. Вось такі жах! Тут, праўда, ішоў яшчэ другі мужчына, відаць, больш моцны. І вось мы адзін за аднаго так і падняліся. Ну, пайшоў ён ледзьве-ледзь дамоў. Потым яшчэ такі выпадак: таксама па дарозе ўручыла ліст аднаму мужчыне (большасць вось так) на вуліцы Акадэ-

міна Паўлава. Дык ён гэты ліст нават не прачытаў. Быў абстрэл, і яго хваляю як адкіне. І ён ударыўся аб дом. Тут якраз былі работнікі Дома піянераў, дворнікі. Яны і падабралі яго. Так што чалавек нават ліст не паспеў прачытаць.

— А чаму вас прасілі чытаць лісты? Такія слабыя былі?

— Слабыя, канечне. Улю не мог чалавек нават рукою варухнуць. Вось як той мужчына, што на лесвіцы сядзеў, сетачку нейкую ў руках трымаў. Ён сеў і ўжо не мог устаць. У яго рукі адубелі ўжо. А паколькі чалавек не варушыцца, з ім ужо ўсё.

— А вашы дзеткі былі дома, калі вы хадзілі?

— Не. У мяне сын памёр у пачатку вайны. Л дачка ў канцы лістапада. Мы ўсе ў бамбасховішча хадзілі, яна прастудзілася, захварэла па запаленне лёгкіх і памерла. А той, маленькі, у яслях быў, і яго хацелі эвакуіраваць з яслямі, але еп прастыў і таксама памёр ад прастуды. Так што дзеці ў мяне памерлі абое ледзь не ў адзін год, і муж загінуў па заводзе ад артабстрэлу... Было так, што вось бачыш, чалавек сядзіць без сіл, а ты не можаш яму памагчы — не можаш, таму што яму дасі руку і сама сядзеш. І не можаш падняцца. Не было ні боязі, нічога. Хадзілі, канечне, адзін раз на дзень, карэспандэнцыю насілі. Сяк-так ускараскаешся, а ўжо з лесвіцы, лічыце, што як па саначках едзеш, лёд, трымаешся за парэнчы... Прыходзіш — кватэры зусім пустыя, людзей няма: альбо па казарменным, альбо ў сваякоў — тады з’язджаліся ў адно месца. Мой рост — сто пяцьдзесят адзін. Цяпер я важу пяцьдзесят два кілаграмы, а вы ўяўляеце, тады было трыццаць шэсць кілаграмаў! Пасля, калі прыйшла ўжо вясна (праўда, ранняя вясна), пайшлі раз на Каменны востраў. Там шмат дрэў. Падыходзіш да маладога дрэўца, зрываеш маленькія зялёныя лісточкі і тут жа ясі іх. Потым пабярэш у сумку. Калі карэспандэнцыю разнясеш, набярэш гэтых лісцяў, нарвеш крапівы, лебяды. Прыходзіш, намнеш мокрыя — і на буржуйку! Напячэш і ясі! Уставала я ў пяць гадзін, каб узяць свае дзвесце пяцьдзесят грамаў хлеба.

А часам стаіш у чарзе, і хто-небудзь мацнейшы, пакуль табе хлеб важаць, ззаду схапіў яго,— у рот, і ўсё.

— У вас былі такія выпадкі?

— Былі некалькі разоў,— мацнейшы чалавек, асабліва мужчына альбо жанчына мацнейшая (кожны здаваўся

ёй моцным!). Стаяць. Ты ж не думаеш, што яна хоча схапіць. І яна ж з карткай. Але такая хцівасць і абыякавасць, што толькі сабе. Хлеб быў нібы гліна ці як зямля. Такі кавалачак — 250 — яго адразу ў рот пакладзеш. Прадавец нічога не можа зрабіць. Падышоў чалавек — галоўнае, што адразу — у рот. Нічога не зробіш! Пасля я ўжо навучылася,— стаіш і, калі важаць, вось так! (Складвае рукі буданчыкам.)

— Як над агеньчыкам?

— Так».

Гэта паштальён. А вось іншая прафесія — друкар. І яна атрымала непрадбачаную значнасць, нават больш таго...

Яўгеній Аляксандравіч Трэнке працаваў у друкарні імя Валадарскага ў цэху, дзе друкаваліся карткі.

Гэтым цэхам, зразумела, цікавіліся рознага роду махляры, фашысцкая агентура. Стараліся дэзарганізаваць работу цэха, даведацца, якія карткі выпускаюцца на паступіш месяц. Мяняўся ж і колер картак і памер іх.

«...У канцы месяца нам давалі ўказанне: колер такі-та, сетка такая-та, памер такі-та. Мы за якіх-небудзь шэсць дзён, працуючы, канечне, круглыя суткі, не выходзячы з друкарні, павінны былі іх надрукаваць... Гэта ж як грошы. Улік быў найстражэйшы. Папера была спецыяльная. Былі картачныя бюро на кожны раён. Яны павінны былі ў нас за дзень-два прыняць гэтыя картачкі, па ліку, строга. На выдачу картак насельніцтву давалася два дні. Усё гэта рабілася, каб не паспелі выпусціць фальшывыя карткі».

Як жа самі яны забяспечваліся, тыя, хто выпускаў картачкі Ленінграду? Ды ніяк, на агульных падставах. Галадалі. І сам Трэнке галадаў, і яго сям’я. Ягоны пятнаццацігадовы сын, а за ім і жонка Яўгенія Аляксандравіча памерлі ў пачатку 1942 года.

Людзі працавалі, і праца іхняя была патрэбная. Праўда, часта сувязь яе з лёсамі вайны, горада, іншых людзей угадвалася цьмяна.

Але была праца, ад якой усё залежала, былі на той працы людзі, якія ўсведамлялі, бачылі, што ад таго, зробяць яны ці не зробяць, змогуць насуперак усім цяжкасцям ці не змогуць, ад іх непасрэдна залежыць, памруць яшчэ тысячы і тысячы сёння-заўтра альбо пратрымаюцца...

Гэта пекары, работнікі хлебазаводаў.

У кватэру Мікалая Антонавіча Лабады (Новасібірская, 4) мы трапілі падчас абеду. Вера Мікалаеўна, гаспадыня, пагадзілася з намі, што перш за ўсё праца, а пачастунак паспеецца і пасля, і ахвотна, нават весела расказвала пра блакаду, пра сябе, пра свае школьныя гады. Яе муж панура, як нам падалося, адмоўчваўся. «Ну, з гэтага чалавека багата не выцягнеш»,— прафесійна прыкідвалі мы. Так, здаецца, і пайшлі б, калі б не трапіла нам на вочы ў кучы сямейных дакументаў старая газета, у якой паведамлялася пра подзвіг Лабады М. А., што адрамантаваў гарачую печ, і дзякуючы гэтаму завод да раніцы змог даць прадукцыю. Даць хлеб Ленінграду.

Тут Мікалай Антонавіч упершыню ўсміхнуўся, вінавата так, і пачаў, каб адцягнуць увагу ад сваёй асобы, усаджваць пас за абедзенны стол...

Ягоны расказ усё-такі нам удалося запісаць. Мікалай Антонавіч паводле службы марак, механік.

«...— Гэта быў першы месяц вайны. Ну што ж? Прыйшоў я па завод. Нікога няма: дырэктара няма, галоўнага энергетыка няма. Галоўны механік Міхайлаў (цяпер еп ужо на пенсіі) быў за месяц да вайны ўзяты на зборы, і абавязкі галоўнага механіка выконваў я. Пяклі мы круглы хлеб. Мінуў месяц. Гэта ўжо ў верасні. Мукі няма. Кажуць: трэба пераходзіць на фармавы хлеб, а но, дык закрываць завод.

— А чаму на фармавы хлеб?

— Розніца паміж фармавым і круглым у прыпёку. Большы прыпёк у фармавым. У форму вы можаце даліць вады альбо чаго хочаце, а ў круглы — ён па чарэнь кладзецца — не можаце, таму што ўсё расплываецца... Быў у нас начальнік упраўлення Смірноў. І быў тады (яго ўжо няма) дырэктарам Мачалоўскі. І вось выклікаюць яны мяне і кажуць: «Вось што, паедзем у гарвыканком»,— «Ну што ж, паедзем». Прыязджаем. Папкоў і Кузняцоў кажуць: «Таварышы! Трэба хлеб, толькі пе круглы, а фармавы і з дамешкамі». (Цэлюлозу дадавалі.) — «Але мы выпускаем круглыя буханкі».— «А колькі спатрэбіцца часу, каб вы пераладкаваліся? Вось даем вам дваццаць дзён — падумайце і далажыце!»

Прыехалі мы назад. Я, значыць, прыкінуў. Няма матэрыялаў, і няма з чаго іх рабіць. Я кажу: так і так, мне патрэбна палоса дзвесце міліметраў любой таўшчыні, каб люлькі выкінуць, а формы паставіць па трынаццаць штук — чортавы тузін (так і дагэтуль называецца). Вось,

значыць, я напісаў, што мне патрэбна — і тэрміны і людзей. Мне далі з «Вулкана» дзесяць чалавек, і мы за сем дзён пераабсталявалі. Л матэрыялы? На Каменным востраве былі нейкія склады. Мне далі пропуск. Я туды прыехаў на машынах, нагрузіў адну, нагрузіў другую. Прыехаў з трэцяй. Прыходзяць два таварышы ў цывільным: «Хто вам дазволіў браць?» Я кажу: «У мяне ёсць паперка».— «Гэта толькі Масква можа дазволіць»,— «Я не ведаю, вось у мяне ёсць». Тут мяне ў машыну і павезлі ў «Вялікі дом». Там, відаць, сазваніліся і кажуць: «Прабачце! Вы тут пі пры чым. Вышэйшая ўлада дала распараджэнне». Вось мы першае кольца перарабілі. Калі выпускалі першы фармавы хлеб, дык я вам скажу — вось так у руку ўзяць, сціснуць, дык там палова вады. І вось такога — сто дваццаць пяць грамаў! І нічога болей... Калі пачалася бамбёжка, вады стала не хапаць. Дык мы пабудавалі на Малой Неўцы (гэта ўжо ў снежні) помпавую станцыю, працягнулі туды правады. А трубаў жа няма! Што мы зрабілі? Узялі шлангі пажарныя і гэтыя шлангі працягнулі замест труб. Тут пачаў прыпякаць мароз: праз кожныя два-тры дні прамярзалі ўсе шлангі. Што мы рабілі? Ізаляцыю накруцілі на іх... А спярша, як ваду адключылі, дык спрабавалі насіць вёдрамі з Неўкі па сёмы паверх».

Вось так, уручную, цягалі ваду для цэлага хлебазавода. Па лесвіцы ды на сёмы паверх! А якое здароўе, сілы ў людзей былі, мы ўжо ведаем.

«Побач быў лесапільны завод Калініна. Энергіі не было. У нас была свая маленькая блок-станцыя, але яна не забяспечвала. Дык вось па тэрыторыі лесапільнага завода была вялізная колькасць бярвення (дошкі яны рабілі) і розных адыходаў. Яны тры месяцы гэтым бярвеннем палілі і давалі нам энергію. Спачатку мы пабудавалі помпавую станцыю на лёдзе; потым ужо, калі горад стаў даваць ваду, дык гэты завод Калініна нам даваў электраэнергію. Мы правялі адтуль кабель, а машыны ж ходзяць і перасеклі кабель. Машыны яшчэ нічога, а танк, відаць, прайшоў — гусеніцамі кабель разрэзаў. Тады мы вымушаны былі падняць кабель на два з паловаю метры, каб уверсе ён быў. І гэтак жылі ўжо да мая месяца. Пачалі нам даваць больш стабільную электраэнергію з Волхава, а паліць у печах не было чым. Дык вось па Каменным востраве разбіралі дамы. Нам кажуць: вось вам дзесяць дамоў. А там усё — мэбля, адзенне, усё. Разбіралі, нату-

ральна, удзень: той, хто працуе ўвечар, выходзіць удзень, і хто ўначы — ідзе таксама ўдзень.

Вайсковая часць дала нам два трактары «Сталінец». Дык вось стальны трос прапусцім цераз верх (а там усе дамы былі драўляныя, аднапавярховыя і двухпавярховыя) і тросам «рассмыкаем». Вайсковая часць дала нам таксама тры машыны. На машынах вазілі на тэрыторыю хлебазавода дровы, каб паліць у печах і выпякаць хлеб. І давалі па адным метры таму, хто разбіраў дамы (кватэры таксама не было чым абаграваць). Аднаго разу работніца недагледзела — і заткнула печ. Я прыкладна прыкінуў, што па сем метраў ад таго месца, дзе пасадачны механізм ходзіць, там і нагрувашчваюцца формы.

Адмераў і кажу: дзяўбі! Вось прадзяўблі, каб можна было залезці туды. А тэмпература дзвесце сорак градусаў! Пагасіў печ, усё! Спярша лінуў туды вады. Пара валіць угору. Збіў тэмпературу. Напэўна, ужо было прыкладна сто шэсцьдзесят — сто восемдзесят градусаў. Абвязаў галаву, ватнік намачыў, валёнкі, ватныя штаны, двое рукавіц. Залез туды. За першы раз я так і не здолеў.
І ўжо адчуваю, што я трачу прытомнасць. Я тады вылез, мінут дзесяць пасядзеў — і другі раз. Вось за другі раз выцягнуў усё. Я кажу: «Ну, цяпер закладвайце». І паехалі! Стаялі прыкладна каля дзвюх з нечым гадзін — і пусцілі, гота значыць, што мы не сарвалі забеспячэнне хлебам. Мяне за гота ўрад адзначыў: узнагародзілі за гэту работу ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга...»

## ШТО МОЖНА
## БЫЛО ЗРАБІЦЬ

Вуліцы, засыпаныя снегам, заваленыя абломкамі разбураных дамоў.

Снег то не па-гарадскому цнатліва белы, то густа прысыпаны лятучай сажаю пая«араў.

Горад стаў пешым. Адлегласці набылі рэальнасць. Яны вымяраліся сілаю сваіх ног. Не часам, як раней,— трамвайным часам, аўтобусным,— а крокамі. А нярэдка і колькасцю крокаў. З гэтае прычыны горад набыў новыя абрысы, незалежныя ад транспартных маршрутаў. Ка-

лісьці толькі свая вуліца і бліжэйшыя ад яе мелі працяглασць, выхаджаную нагамі, фізічна адчувальную. У блакадную зіму трапіць з Васільеўскага па Петраградскую, з Выбаргскай на Неўскі азначала паход, і рыхтаваліся як да паходу.

Сцяжынкі пятляюць паміж снежнымі сумётамі, абледзянелымі тралейбусамі, сцяжынкі да дамоў, палонак, да магазінаў, сцяжынкі цераз Няву, цераз плошчы, сцяжынкі да райкомаў і райсаветаў. Тратуары заваленыя, людзі ходзяць пасярэдзіне маставой. Вокны павыбіваныя, забітыя фанераю, пазатыканыя падушкамі, матрацамі, і ўсюды тарчаць коміны буржуек.

На шчытах, што засланялі ад асколкаў вітрыны магазінаў, аб'явы: «Прадаецца труна», «Раблю печачкі», «Мяняю кубаметр дроў на проса»... Аб'явы таго часу — дзівосныя дакументы жыцця. Яны захаваліся толькі па рэдкіх, выпадковых фатаграфіях ды ў чыёй-небудзь памяці, і то не дакладна. І няма ніякай магчымасці аднавіць надзвычайныя іх тэксты-сведчанні.

А ленінградскія двары, а ленінградскія лесвіцы...

А сталоўкі, дзе рухаліся маўклівыя чэргі людзей з каструлькамі, кацялкамі.

Можна бясконца прыводзіць здзіўляючыя ўяўленне карціны разбурэння, галоднага быту блакаднікаў, карціны горада замураванага, паралізаванага, знясіленага...

Куды цяжэй убачыць за ўсім гэтым жалезныя скрэпы волі — энергічную, мэтанакіраваную дзейнасць, якая падтрымлівала жыццё горада ў жахлівых умовах. Некаму ж даводзілася размяркоўваць мізэрныя ліміты электраэнергіі, даваць заданні заводам, вышукваць сыравіну. Патрэбна было прыбіраць трупы, хаваць іх, трэба было ствараць стацыянары, збіраць камсамольскія бытавыя атрады, пабіраць дзяўчат у МППА...

Нічога не рабілася само па сабе. Тыя самыя печачкі: неабходна ж было наладзіць іх вытворчасць сіламі мясцовай прамысловасці, знайсці для гэтага жалезны ліст альбо пракатаць метал, а дзеля гэтага выдзеліць металакамбінату электраэнергію... Адкрыліся лазні. А каб яны дзейнічалі, трэба было даць ім вугаль, а гэты вугаль неабходна ж прывезці... Усё было амаль невырашальнай праблемаю і патрабавала перш за ўсё агромністых намаганняў арганізатарскіх.

Ужо ў студзені бюро Ленінградскага гаркома запатрабавала ад выканкомаў: адагрэць замёрзлыя водаправод-

ный сеці і паводле графіка распачаць падачу вады ў верхнія паверхі дамоў для прамыўкі каналізацыі. Выдзялялі газу і бензін, каб адаграваць замерзлыя трубы. У сваю чаргу для гэтага трэба было забяспечыць домагаспадаркі паяльнымі лямпамі. І ў гэта ўнікала бюро Ленінградскага гаркома, таму што ва ўмовах блакады вырабіць пяцьсот паяльных лямпаў было сур’ёзнай праблемаю. Пастановы, рашэнні тых месяцаў, жорсткія, катэгарычныя, здаюцца часам нерэальнымі (а тады наогул выглядалі непасільнымі), і тым не менш яны выконваліся, і ў большасці выпадкаў выконваліся ў тэрмін, без агаворак і спасылак па абставіны. Без спасылак на абстрэлы, на смерці выканаўцаў, на пажары, на адсутнасць матэрыялаў. Прычын хапала, вырашалі не гэтыя прычыны, вырашала настойлівая патрэба, выкананне кожнага пункта ратавала жыцці людзей, ратавала горад.

Работа райкомаў і райвыканкомаў праходзіла ва ўмовах непрывычных, нават неверагодных. Горад быў той самы — тыя ж самыя раёны, тыя самыя кварталы, домагаспадаркі, тыя ж установы, тыя ж склады, тыя ж маставыя, школы, крамы. Але гаворка ішла ўжо не, як раней, пра патрэбы раёна, пра планы паляпшэння быту, пра рамонт — гаворка ішла пра жыццё і смерці жыхароў.

Упершыню на плечы партыйных і савецкіх работнікаў легла такая цяжкая адказнасць.

А магчымасцей у іх станавілася ўсё менш. Не было транспарту, фронт забіраў урачоў, міліцыянераў, будаўнікоў — фізічна моцных мужчын,— ды яны і самі рваліся па перадавую. Другіх забірала дыстрафія. Голад не адрозніваў прафесій — ён касіў ліцейшчыкаў і пракурораў, вадаправодчыкаў і кампазітараў.

Колькасць месцаў у стацыянарах была абмежавана. Часам самі сакратары райкомаў размяркоўвалі гэтыя выратавальныя месцы. Але перад усім трэба было яшчэ арганізаваць гэтыя самыя стацыянары. Наладзіць там ацяпленне, харчаванне, догляд.

А арганізацыя эвакуацыі з яе незлічонымі складанасцямі дастаўкі людзей, нагрузкі, рэгістрацыі. Адных неабходна было перакопваць, другім памагаць, трэба было вызначаць чарговасць, збіраць дзяцей, выдзяляць суправаджальных.

Кожнаму з гарадскіх раёнаў штодзённа даводзілася займацца мноствам падобных праблем, сярод якіх, аказваецца, не было дробных. Іх немагчыма ні пералічыць, ні

аднавіць у жывых падрабязнасцях. Тое, што нам удалося сабраць,— усяго толькі паасобныя факты, яны зусім но даюць поўнай карціны, але ўяўленне пра гэтую работу яны даюць.

Сяргей Міхайлавіч Гасцееў быў адным з тых раённых кіраўнікоў, якія непасрэдна і займаліся ўсім гэтым. Ён працаваў у Ленінскім раёне начальнікам жыллёвага ўпраўлення, намеснікам старшыні райвыканкома. Вось ён расказвае пра драўляныя дамы, якія давалі на злом для дроў. Людзей адтуль трэба было перасяляць у дамы свайго раёна, а для гэтага знайсці плошчу, падрыхтаваць ордэры, прапісаць.

«— ...За два-тры дні, памятаю, мне трэба было ледзь не пяцьдзесят дамоў на злом тэрмінова размеркаваць шпіталям, дзіцячым садам і што застанецца — сталоўкам, лазням, пральням. Патрэбна было тэрмінова паліва, а паліва не было ніякага. Крэсламі палілі. Я сам бачыў — пасля бамбёжкі палілі вечкамі ад піяніна і раяляў... Увойдзеш у кватэру — нічога няма, пуста, сядзець няма дзе. Таму вельмі строгае было распараджэнне гарвыканкома — тэрмінова ламаць. «Даеш паліва!» Людзі замярзалі. Разбамбяць дом альбо снарад разарвецца — усё расчынена, шыбы выбітыя, фанеры няма, закрыць няма чым — людзі ідуць у другі раён. Да родных, блізкіх. Кватэры накідаюць пустымі... Як снарад разарвецца — усе шыбы ляцяць. Людзі бягуць, таму што страшэнны мароз. Куды — невядома. Пасля іх шукаюць. Мне даводзілася падчас бамбёжкі тэрмінова перасяляць людзей, якія засталіся жывыя... Выклікаеш некалькі кіраўнікоў домагаспадарак, якія найбліжэй ад разбамблёнага дома, і пытаеш: «Якія ў цябе пакоі, кватэры вольныя?» — і адразу паводле спісу тэрмінова перасяляў. Тут ужо не да ордэраў было. Людзі на вуліцы стаяць, трымцяць, няма ж дзе грэцца. Гэта мой абавязак быў — бамбасховішчы, газасховішчы, кватэры, перасяленні і дамы драўляныя ламаць. Мне давалі, напрыклад, для раёна каля Кіраўскага завода сотню дамоў (Правая Цянцелеўка, Левая Цянцелеўка), і я павінен быў у кароткія тэрміны перасяліць людзей у свой раён.

— Як яны перацягвалі свае рэчы?

— На санках, канечне. А было яшчэ рашэнне гарвыканкома кожнаму раёну падрыхтаваць памяшканне-склад і, перш чым дамы ламаць, скласці рэестр рэчаў жыльца, які адсутнічае. І рэчы згодна з рэестрам на склад... І ў гэтых складах загадчыкі павінны былі расстаўляць на кут-

ках мэблю, рэчы такога-та дома, такой-та кватэры... Толькі пасля гэтага можна было разбіраць дамы».

Цяжка ўявіць сабе, якім чынам ухітраліся ў тых умовах выконваць гэту клапотную юрыдычную працэдуру ва ўсіх раёнах горада.

У расказе старшыні Выбаргскага райсавета А л я к с а н д р а Я к а ў л е в і ч а Ц і х а н а в а паўтараецца тая самая гісторыя.

«На ўсіх драўляных дамах вывелі крэйдай літары «ПС» — «подлежит сносу»... Многія не хацелі выязджаць, асабліва тыя, хто меў каля свайго дому лапінку зямлі. Былі такія моманты: дом ламаюць, а бабулька сядзіць, не адыходзіць: «Я туды не паеду». Людзі яе пераконваюць: «Усё роўна трэба. Сама загінеш тут без паліва, і людзі загінуць...» А некаторых людзей, што ад’язджалі, пасля разбамбіла, і ім даводзілася яшчэ раз перасяляцца.

Была і другая цяжкая задача. Вось, напрыклад, быў такі Дом спецыялістаў. Мы там, як і ўсюды, праводзілі інвентарызацыю маёмасці ўсіх эвакуіраваных. Самі інвентарызавалі маёмасць, што ў іх засталася, і захоўвалі яе на складзе завода «Чырвоная зара». Ніякай тэхнікі ў пас не было. Гэта цяпер можна сказаць: «Падрыхтуйце дваццаць машын». А тады людзі былі аслабленыя, паспрабуйце з іх дапамогаю вывезці каштоўныя рэчы на склады. Доўга па гэтых складах захоўвалі потым рэчы, спецыяльна ацяпленне наладзілі, надабралі кладаўшчыкоў, зарплату ім плацілі, і яны ахоўвалі маёмасць грамадзян. Гэта здавалася крыху фантастычным: горад у блакадзе, немцы абстрэльваюць — і ў гэты момант райком, выканком займаюцца не толькі захаванасцю дзяржаўнай маёмасці, але і ахоўваюць маёмасць грамадзян, якія эвакуіраваліся. Сачылі і каб кватэры не разбураліся пасля бамбёжкі — фанераю забівалі вокны, дзверы забівалі.

Калі наступіў прарыў блакады, былі і такія эпізоды. Дапусцім, піша грамадзянін: «Прышліце мне вопіс, як захавалася мая кватэра». Пішуць з Сярэдняй Азіі, з Свярдлоўска, усе запытанні ішлі на райвыканком. Трэба было даць адказ. Стварылі спецыяльныя групы дэпутатаў, актыў, хадзілі на гэты склад, ішлі на кватэру, калі рэчы захоўваліся там, і складалі адказ».

Драўляныя дамы, якія згаралі ў катлах, у буржуйках, у плітах, не маглі забяспечыць усіх цяплом.

«Усім даць дровы мы не маглі,— кажа А л я к с а н д р П я т р о в і ч Б а р ы с а ў (Неўскі праспект, 84),— але

хто прыходзіў, давалі крыху паліва. Нам выдзялялі драўляныя збудаванні ў Новай Вёсцы. У многіх дамах усё роўна было холадна. Вось па вуліцы Рубінштэйпа, 17, быў вялікі дом, у ім жыло да пяці тысяч чалавек. Прыйдзеш у кватэру — адчыненая, людзі паўжывыя, некаторыя ляжаць, некаторыя блукаюць па кватэры, маткі паміралі, дзеці заставаліся жывымі. Былі страшэнныя выпадкі. Як кіраўніцтва выканкома мы павінны былі рабіць такія абходы».

Аляксандра Пятровіча Барысава вайна застала па пасадзе намесніка старшыні выканкома Куйбышаўскага раёна, аднаго з цэнтральных раёнаў горада. Пасля вайны з ім здарылася цяжкае няшчасце. Аляксандр Пятровіч ужо шмат гадоў сляпы. Па тым, як знешне лёгка нясе гэты чалавек сваю найцяжэйшую бяду, стараючыся не засмучаць блізкіх, можна здагадвацца, якім ён быў там, у блакадным сваім раёне, як многа чужога гора браў на сябе. І цяпер ён часам бывае на Піскароўскіх могілках. Слухае вечную музыку і за ёй цішыню, спакой зялёнага мемарыяла і бачыць...

«Мне ўяўляецца толькі тая карціна, якую я бачыў сам. Гэта не цяперашнія могілкі, імпазантныя, асабліва, калі ўлічваць там помнік Маці-радзіме. А ў той час гэтыя трупы, гэта траншэя метраў у сто даўжынёю!.. Туды закладвалі тысячы трупаў, закопвалі трактарамі, рыдлёўкамі, як толькі маглі. Баяліся, каб вясною не было эпідэміі, але ўсё абышлося, без гэтае бяды, таму што ў нейкай ступені ўдавалася захоўваць санітарны рэжым».

Памяць яго ўжо ўвабрала ў сябе шмат чаго не толькі ў маштабе свайго дома ці завода, а ў маштабе раёна, а раён гэты і паводле колькасці насельніцтва і паводле сваіх памераў — цэлы горад.

«— Мне давялося правяраць адзін хлебазавод. Там, на тым заводзе, людзі быццам бы ўсе былі цалкам забяспечаны хлебам, аднак вялікі працэнт рабочых не выходзіў па працу — хварэлі на цынгу. Што ратавала? Настой шыпулькі. Гэта вельмі памагала. У першыя дні, калі пачаўся голад, глядзім — людзі ідуць з хваёвымі лапкамі. У чым справа? Высветлілася, што яны гэту хвою настойвалі на вадзе і пілі гэту ваду... А трэба сказаць, што наш раён — раён служачых, самым галодным раёнам быў: атрымлівалі хлеба сто пяцьдзесят грамаў. Ну, канечне, гэта не такі хлеб, што мы цяпер ядзім. Зранку мы заўсёды аб’язджалі раён. Едзеш — тут труны выкінутыя, тут таксама пакіну-

лі іх. І не ведаеш, адкуль трупы. Гэта таксама з'яўлялася формаю забеспячэння жывых — смерць не рэгістравалі, каб карткі заставаліся... Калі прыйдзеш, спытаеш: калі памёр? — не скажуць, што памёр паўмесяца назад, скажуць, што сёння памёр, учора.

— Карткі забіралі ў такіх выпадках?

— Не, пакідалі карткі...

— І што ж вы маглі зрабіць у такіх кватэрах?

— Некаторым дапамагалі. Часцей удавалася выратаваць людзей, што неяк былі звязаны з вытворчасцю, з установамі. А так толькі паспявай трупы збіраць. Кучы трупаў былі каля бальніцы Куйбышава. І ў іншыя пункты збіралі з розных месцаў трупы, каб потым звозіць па могілкі. Спецыяльныя машыны былі выдзелены, яны штодзённа збіралі трупы і везлі на могілкі... На Шскароўскіх могілках многа хавалі з нашага раёна. Капалі равы. У нас былі трактары, мы мабілізавалі людзей з раённых арганізацый. Набіралі чалавек дзвесце і накіроўвалі туды, каб яны капалі равы і закопвалі ў іх трупы. Карціна жахлівая. Трупаў — вокам не акінеш! Асабліва па Багаслоўскім і Піскароўскім могілках. Трупы былі розныя. І дзеці і старыя, хто ў сядзячым становішчы, у каго падцятыя рукі, у каго сагнутая нага...»

Пахаванне памерлых — зімою гэта зрабілася праблемаю ледзь не першачарговай: пагражалі эпідэміі, якія дабілі б жывых, калі б раптам скончыўся мароз.

«Калі пачалася масавая смяротнасць,— працягвае свой расказ Ціханаў Аляксандр Якаўлевіч,— за раёнамі пазамацоўвалі могілкі. Нам дасталіся Піскароўскія могілкі (за лесам тут было). Мы павінны былі выкапаць равы сіламі насельніцтва нашага раёна. Трупы на вуліцах валяліся. Раён разбілі на мікрараёны. Да кожнага мікрараёна прымацавалі райвыканкомаўскі актыў. Стварылі бюро па арганізацыі пахаванняў. Вялі ўлік: кожны дзень павінны былі даваць зводку ў гарком партыі — колькі сёння выкапалі мы равоў, колькі пахавалі трупаў. Самае максімальнае пахаванне мы рабілі да дзвюх тысяч... Ну, месяцаў са два доўжыліся масавыя пахаванні, а пасля пад вясну колькасць іх пачала памяншацца.

Я на могілках быў па чатыры разы па дзень. Пачынаў свой рабочы дзень з могілак і канчаў могілкамі...»

Вучоныя горада вышуквалі магчымасці прыгатаваць нейкія паўнацэнныя заменнікі прадуктаў, чым-небудзь памагчы насельніцтву. Кожны раён імкнуўся ўдзельнічаць

у гэтай справе, вышуквалі сыравіну па сваіх прадпрыемствах, прапаноўвалі абсталяванне.

Выбаргскі райком на чале з сакратаром райкома Кедравым наладжваў вытворчасць бялковых дрожджаў з драўніны.

Гэтыя славутыя блакадныя дрожджы выратавалі, папоўна, нямала ленінградцаў. Бялковыя дрожджы выдавалі як дадатковае харчаванне. У шмат якіх расказах мы чулі пра талеркі супу з бялковых дрожджаў. Але ні апавядальнікі, ні мы неяк не задаваліся пытаннем, адкуль з'явіліся гэтыя бялковыя дрожджы.

Між іншым з імі звязана імя выдатнага ленінградскага вучонага Васілія Іванавіча Шаркова, які не толькі распрацаваў тэхналогію вытворчасці гэтых дрожджаў, ало больш таго — ён прапанаваў выкарыстоўваць у якасці дамешкі да мукі гідрацэлюлозу, наладзіў вытворчасць гэтай харчовай цэлюлозы, і ўжо ў сярэдзіне лістапада яна пачала паступаць на хлебазаводы. Гідрацэлюлоза не мела ў сабе нічога спажыўнага, але яна павялічвала прыпёк, дазваляла даваць насельніцтву вызначаную норму хлеба, рабіла яго порыстым, ядомым.

Доктар тэхнічных навук В. І. Ш а р к о ў быў адным з тых вучоных, веды якіх захавалі жыццё сотням тысяч галадаючых гараджан. Было створана 18 дражджавых заводаў, частка ў Выбаргскім раёне.

«Усё рабіла прамысловасць нашага раёна. Было размеркавана, хто павінен зрабіць вось гэтую частку да машыны, хто робіць кузаў, хто — кантэйнер, хто дастае матор, хто мусіць яго пераматаць. Усё да драбнейшых дэталяў размеркавалі. Калектыўна ўдзельнічалі ўсе арганізацыі. Хутка пусцілі цэх. Вытворчасць (у тонах) была вялікая. Выкарыстоўвалі для гэтага бярозу».

Тут жа, пры фабрыцы, а пасля пры хлебазаводах пачалі гнаць вітамін з хвоі для хваёвага экстракту.

«Некаторыя самі прыходзілі і пыталі: «Чым я магу памагчы ў рашэнні гэтае задачы?» Адчуванне локця было надзвычай высокае, можа, вышэйшае, чым адчуванне страўніка.

Востра стаяла пытанне: як абагрэцца? Размеркавалі сілы членаў выканкома і стварылі ўцепленыя чайныя, каб знясіленыя людзі, у якіх не было паліва дома, маглі папіць кіпетню. Паставілі кіпяцільнікі. Ацяплялі іх дворнікі. Забяспечылі іх палівам. Бытавыя камсамольскія атрады насілі кіпецень тым, хто з-за сваёй слабасці не мог спус-

ціцца з верхніх паверхаў. Частку дэпутатаў замацавалі за кватэрамі, яны насілі слабым хлеб па картках. У чайных праводзілі бяседы пра становішча на франтах.

Мы наладзілі выраб буржуек насельніцтву, наладжвалі падвозку дроў, стварылі склады».

Чым толькі не займаліся раёны. Вось, напрыклад, зімою 1942 года пускалі трамвай праз Ленінскі раён, і С. М. Гасцееў успамінае:

«Усе пуці замарожаныя, рэйкі залітыя вадой. А было вырашана пусціць трамваі напярэдадні Новага года, 1943-га. Маім абавязкам было расчысціць участак ад Нарвскіх варотаў да Калінкіна Моста. Мне далі сто жанчын з «Чырвонага трохвугольніка». Мы працавалі цэлую ноч, пакуль не закончылі. Лом, рыдлёўкі, кіркі...»

Раённым кіраўнікам даводзілася быць там, дзе было асабліва цяжка, дзе адбываўся якраз абстрэл, дзе палымнелі пажары, дзе ішла бамбёжка, дзе лопнулі трубы, дзе трэба было мабілізаваць людзей, дзе штосьці здаралася... Таму іх памяць увабрала нямала падзей надзвычайных, гісторый уражлівых. Так, у А. П. Барысава адбілася ў памяці бамбёжка Гасцінага двара:

«Была ў Гасціным невялікая футравая фабрыка. Жанчыны прыходзілі з дзецьмі, фабрыка фактычна жаночая была. Пачалася трывога. Частка спусцілася ў бамбасховішча, а частка засталася на фабрыцы. Будынак рухнуў, і адна дзяўчынка з маткаю трапілі ў прамежак паміж сейфамі. І дачка суцяшала маму. А дачцэ было сем гадоў. «Мама, нас выратуюць»,— казала яна і падтрымала гэтым маму. Маці пасля, калі мы выцягнулі іх, казала: «Вось мая збавіцелька». Другая жанчына аказалася паміж бэлькаю і цэглай. Яс заціснула бэлькаю так, што яна не магла варухнуцца. Раскопвалі яе асцярожна, таму што калі хутка разбіраць завал, дык маглі б рухнуць сцены. Трое сутак па цагліначцы разбіралі. Прыйшоў муж і ўвесь час знаходзіўся побач з ёю. У яе была адзіная думка: выратуюць ці не? Мы размаўлялі з ёю ў шчыліну, і яна казала, што яе акружае смерць і, напэўна, ёй не вырвацца. Але ўсё-такі выратавалі...»

Ён спачатку быў інструктарам Дзяржынскага райкома партыі, Д у б р о ў с к і А н а т о л і й І в а н а в і ч .

Праз камсамольскую работу, праз спорт, навуку шукаў ён сваё месца ў жыцці. Тут пачалася вайна, ён вярнуўся з Каўнаса ў Ленінград, яго накіравалі працаваць інструктарам у райком партыі, і еп адразу ж паехаў на абарон-

ныя работы — у першыя дні, тыдні вайны будаванне абаронных рубяжоў было галоўным клопатам райкомаў, райвыканкомаў. Неабходна было забяспечыць «штосутачную колькасць працуючых на абаронных умацаваннях да 500 тысяч чалавек»*.

Усё было ўпершыню, і ўсё было нечаканым, цяжкім, і не толькі людзям маладым і нявопытным, такім, як А. І. Дуброўскі. Вопыту т а к о й вайны, т а к і х выпрабаванняў і цяжкасцей ніхто не меў. Затое была агромністая самаахвярнасць, адданасць справе. Першыя абарончыя рубяжы ленінградцы будавалі за Ноўгарадам. І ўжо там атрымалі першае баявое хрышчэнне. Анатолій Іванавіч Дуброўскі, адзін з радавых удзельнікаў напружанай працы па арганізацыі насельніцтва па адпор ворагу, і сёння хвалюецца, калі ўспамінае свае першыя «інструктарскія заданні». У ягонае апавяданне пра бамбёжкі, пад якія траплялі ленінградцы «на акопах», аб параненых, якіх давялося яму эвакуіраваць у Ленінград, урываюцца такія карціны вайны:

«А той эшалон пад Шымскам быў з коньмі, і там жа былі бензабакі. Бомбы папалі ў бензабакі і ў сам эшалон, эшалон загарэўся, і памятаю ўражанне, як палаючыя коні скакалі з вагонаў і беглі... гарэлі і беглі...»

Вайна адразу апякала душу, ало абставіны патрабавалі стрыманасці, штодзённай напружанай дзейнасці. У кастрычніку, згадвае Анатолій Іванавіч, двухсотпяцідзесяцікілаграмовая бомба трапіла ў будынак Дзяржынскага райкома, пранізала яго наскрозь. Запомніўся чырвоны слуп пылу... З асаблівай вастрынёю і чалавечым болем помніцца яму той дзень, калі адразу загінулі тры яго інструктары (ён ужо загадваў аргінструктарскім аддзелам райкома).

«Гэтыя жанчыны — тры іх — заўсёды з самага ранку ішлі па справах на свае прадпрыемствы... У той час. немцы не толькі фугаснымі і запальнымі нас закідвалі, але пачалі біць таксама і шрапнельнымі. Каб як найбольш акоп высадзіць. А зіма, а мароз — дамы без вокнаў, разумееце? Пад такі шрапнельны снарад яны і трапілі ўсе тры адразу. Ішлі па вуліцы Чайкоўскага, і там, дзе ў нас 17-я пажарная каманда і ваенкамат, там іх і забіла. Парамона-

* «900 героических дней». Сборник документов.— М.— Л.: Наука, 1966, с. 47.

ва, Пазняк, а трэцяя была новенькая, я нават прозвішча не памятаю...» *

Не, не проста было гэта кожнаму чалавеку, які б пост ён ні займаў,— высакародна дзяліць, несці лёс ленінградца-блакадніка. Затое, калі ты аказаўся на вышыні, сёння гэта помніцца, усведамляецца з гонарам.

«— Раённы камітэт у гэты час у сябе не меў нічога. Я кажу пра харчаванне. Работнікі райкома партыі, таксама як і ўсе работнікі іншых арганізацый і тыя асобы, што засталіся ў гэту першую зіму ахоўваць памяшканні пасля эвакуацыі ці наогул не паехалі,— яны былі ў роўным становішчы. Таму чым-небудзь непасрэдна памагчы ў гэтай частцы я, напрыклад, нікому не мог. Адзінае, што... Нам вось давалі гэту поліўку — дражджавы суп, ну, часам вось прыйдзе сакратар партыйнай арганізацыі, ведаеш, што еп галодны, і вось у пас была так званая сталоўка, ну, запросіш яго. І сабе і іншым у нас было правіла: не класціся, як бы ні было цяжка, не класціся! Таму што практыка паказала: як залёг знясілены чалавек, дык у большасці выпадкаў ён ужо не ўставаў... Ну, пасля крыху палепшала, палепшалі абставіны з харчаваннем, калі адкрылася Вялікая дарога цераз Ладагу. І асабліва, калі мы вясною пачалі арганізоўваць падсобныя гаспадаркі. Спярша пачалі, выводзіць людзей, як кажуць, на траўку. І там яны поўзалі, ірвалі і елі што можна і чаго нельга. І потым, калі сталі мацнейшыя, пачалі капаць агароды, заводзіць гаспадаркі. Кожная арганізацыя мела свае ўчасткі.

Што датычыцца самога райкома партыі, дык нам былі адведзены грады ў Міхайлаўскім садзе, і мы стараліся апрацоўваць іх. Імкнуліся пасеяць такую культуру, якая хутчэй дала б ураджай.

— І мужчыны таксама?

— Усе, усе! Пачынаючы з першага сакратара і канчаючы тэхнічным работнікам. Усе капалі, усе сеялі, даглядалі... Як правіла, паціскалі на гуркі. У некаторых яны атрымліваліся, у іншых наогул нічога. Выгарала, не ўзышло. Ну, тут дзяліліся... Ну, а большая частка арганізацый выведзена была за межы раёна і там асвойвала свае ўчасткі. І пасля гэтага былі вялікія, добра арганізаваныя дапаможныя гаспадаркі, з добрай ураджайнасцю. Мы на-

* Урач Б. Прусаў напісаў нам, што ў расказе А. І. Дуброўнага ёсць недакладнасць: адна з трох — Пазняк — была параненая, але засталася жывая.

ват наладзілі выстаўку гатовай прадукцыі. Шмат хто і цяпер можа пазайздросціць таму, што мы атрымлівалі. Таму што людзі, якія нагаладаліся, пачалі разумець, што і як расце і што з чым ядуць. Даглядалі, як сваіх родных...»

Работнікі райкомаў, райвыканкомаў, усіх арганізацый, што накіроўвалі жыццё блакаднага горада, самі былі настаўлены ва ўмовы, якія выключалі ўсякую дзейнасць для праформы, для выгляду.

Сілы, энергія, розум, пачуцці, сумленне накіроўваліся па самае галоўнае і няўхільнае, без чаго заўтра ў магазіны не паступіць хлеб, без чаго да смерці замерзнуць тысячы людзей, наваляцца эпідэміі...

У гароднiне, якую ўдалося сабраць, назапасіць для Ленінграда, завёўся небяспечны грыбок. Кожны разумеў: грыбок сажрэ не проста бульбу, а тысячы і тысячы чалавечых жыццяў, калі неадкладна не прыняць меры ў маштабах усяго горада... Гэта захворванне фітафтораю, якое з'яўляецца па пятнаццаты дзень пасля конкі: пачынаецца загніванне, бульба «плача», макрэе, і захоўваць яе ўжо нельга, ніякая сіла не дапаможа.

Высокі, ужо пасівелы чалавек — С т а н і с л а ў А н т о н а в і ч П р ж а в а л ь с к і *, які і да вайны, і ў гады блакады працаваў кіраўніком Леннарыхтплодгародніны, расказвае пра сваю галіну, пра служачых сваёй установы, пра свой «прадукт» з но меншым пафасам, чым любы военачальнік пра свае перамогі і паражэнні. Дзіва што! Ад таго, захаваюць яго людзі гэту змакрэлую бульбу ці не, рэалізуюць ці загубяць яе, залежала вельмі многа. У блакадным Ленінградзе, на ўсім Ленінградскім фронце гэта ўсе разумелі, і таму рашэнне прымалася вельмі адказна і на самым высокім узроўні.

«— Я далажыў у Смольны... Панкоў і Лагуцін паехалі са мною на камбінат. Я зрабіў ім пробную закладку і сказаў, што прыязджайце праз тыдзень — паглядзіце! Прыехалі праз тыдзень, разрэзалі клубень: клалі добрую бульбу, разрэзалі — хворая! Вось тады яны пераканаліся, што гэтую бульбу трэба з'есці. І было рашэнне Ваеннага савета: забараніць спажыванне круп.

— На які час?

* С. А. Пржавальскі памёр у 1977 годзе — да таго як быў надрукаваны яго расказ.

На пэўны час, і пусціць усю бульбу ў расход. Так што мы грама не сапсавалі бульбы. Усё было скарыстана, але на працягу вельмі кароткага перыяду. У дадзеным выпадку бульба стала заменнікам круп. Гародніна была з'едзена.

— Хіба ўся бульба ўраджаю сорак другога года, якая паступіла ў Ленінград, была заражаная?

— Уся, літаральна ўся. Вось якая была трагедыя. Да зімы не маглі мы яе трымаць, да зімы ўсю яе мы з'елі. Калі б пакінулі да зімы, мы загубілі б усе запасы».

...На асаджаны, галодны, халодны горад насоўваўся і яшчэ адзін смяртэльны вораг — цынга. І з ім патрэбна было арганізаваць барацьбу. Загадчык хіміка-тэхналагічнага аддзела Вітаміннага інстытута Аляксей Дзмітрыевіч Бязубаў расказваў, як рыхтаваліся навуковыя рэкамендацыі «па здабыванню вітаміна С з хвоі». Пра гэта ў нас ужо ішла гаворка.

Але інструкцыю-рэкамендацыю пра спосабы «атрымання антыцынговай хвоевай настойкі ў прамысловых і хатніх ўмовах» яшчэ неабходна было рэалізаваць, дастаўшы ці прыстасаваўшы нейкую тэхніку. Для некалькіх мільёнаў жыхароў і салдат трэба было гатаваць выратавальны сродак. І трэба было яшчэ дабрацца да той хвоі. І даставіць яе ў Ленінград... Толькі ўявіўшы сабе ўсю складанасць у тых умовах, здавалася б, няхітрае справы — прыгатаваць настой з хвоі,— можна зразумець, чаму Станіслаў Антонавіч Пржавальскі называе гэту працу вучоных, кіраўнікоў, ленінградскіх жанчын эпапеяй!

«— І вось гэта эпапея нідзе не апісана. Прычым у літаратуры яна выглядае, што вось, маўляў, хвойны настой... Слёз было ўдосталь — жанчыны прыходзілі са сцёртымі пяткамі... Магу вам расказаць, як гэта было. Гэта на Дзягцярным, пяць. У нас там была невялікая плодагароднінная перапрацоўка. Вось там мы арганізавалі перапрацоўку гэтага хвойнага настою. Выкарыстоўвалі мы нашы шаткавальныя машыны.

— Гэта тыя, што капусту шынкуюць?

— Так, так, тыя самыя машыны. Мы прымянялі іх для драблення хвоі. Але для таго, каб зрабіць хвойны настой, трэба было нарыхтаваць хвою, прычым яе нямала ішло на гэту справу. У Паргалоўскім лесе мы нарыхтоўвалі гэту хвою сіламі нашай пагрузачна-разгрузачнай канторы, дзе былі толькі адны жанчыны.

— На гэта ішла сасна?

— Так, сасна. І вось каторы дзень група жанчын, галодных, ішла ў Паргалава. Пасля сяк-так мы змаглі арганізаваць дастаўку іх коньмі (машын жа нам не давалі).

— А спачатку проста цягнулі на сабе?

— Ага, на сабе, нават без коней. Гэта ад Калінінскай канторы, ад Піскароўкі, прыкладна дзесьці шаснаццаць кіламетраў было.

— Шаснаццаць кіламетраў гэту хвою па сабе насілі?!

— Спачатку на сабе. Потым мы арганізавалі дастаўку на конях (у нас было некалькі коней на пашай піскароўскай базе) і дастаўлялі яе на Дзягцярны, пяць. Там яе крышылі. Дабаўлялі туды воцат. Гэты настой фільтравалі. І я вам мушу сказаць, што мы гэты настой выраблялі ў такой колькасці, што цалкам забяспечвалі ўсе шпіталі, усе сталоўкі. І больш таго: мы нават арганізавалі для цывільнага насельніцтва выпуск хвоі ў пакетах, з інструкцыяй, як гатаваць. Саму хваёвую іголку мы ачышчалі ад сучкоў, расфасоўвалі ў пакеты і давалі інструкцыю, як рыхтаваць гэту хвою. Калі мне не здраджвае памяць, мы штодня давалі ў аптэкі недзе каля двухсот тысяч доз. Прычым гандлявалі мы імі праз аптэкі кожны дзень, бесперабойна. І, такім чынам, як мне пасля медыкі казалі, усё-такі цынговых захворванняў у тым выглядзе, як яны чакалі, не было. Вось гэта хвоя. Цяжкасці нарыхтоўкі яе былі агромністыя... Ну, Ваенны савет нам памог. У якім плане? Мы ўсё-такі гэтым жанчынам далі трэцюю катэгорыю вайсковага пайка, так што яны былі нароўні з байцамі (не франтавымі байцамі, а тылавымі — тылавы паёк). Гэта ў нейкай ступені дало магчымасць нарыхтаваць хвою...

— А настойвалі яе ў бочках?

— У бочках.

— І колькі яна павінна стаяць?

— Ну, калі мы раніцай рабілі, да вечара яна была ўжо ў шпіталі. Адтуль прыязджалі да пас, станавіліся ў чаргу і адразу забіралі і пілі настой».

І так у вялікім і малым. Зрэшты, нішто не пазавеш малым, калі ад яго залежыць жыццё стольніх людзей. Калі мы прыгадваем, гаворым пра легендарную «Дарогу жыцця», пра хвойны настой, пра паліва, ваду, пахаванне трупаў, стацыянары, пасільную дапамогу галадаючым дома, якую аказвалі работнікі МППА ці камсамольскія «бытавыя групы»,— за ўсім гэтым бачым, адчуваем складанейшую арганізатарскую працу.

Быў такі лозунг: «Ленінграду дапамагае ўся краіна!» — і гота сапраўды ажыццяўлялася, нягледзячы на смяртэльную аблогу горада. Вось адзін з характэрных прыкладаў, які мы бярэм з расказу Станіслава Антонавіча Пржавальскага:

«— Па «Дарозе жыцця» і гародніна таксама паступала?

— Так, паступала, у вялікай колькасці. Паўночна-ўсходнія раёны нам далі ў тыя гады вялікую колькасць сушанай бульбы. Што мы зрабілі? Гэтыя ж паўночна-ўсходнія раёны былі бездарожныя. Гэта сёння можна гаварыць пра нейкія праезды на машынах. Мы арганізавалі там вытворчасць сушанай бульбы, каб з гэтае глыбінкі выцягнуць бульбу. У пас працавалі дома. Адных надомнікаў у пас было дзесяць тысяч калгаснікаў.

— Яны самі сушылі ў печах?

— Калгаснікам раздавалі нарыхтаваную бульбу, і яны яе сушылі. А частку мы сушылі ў сваіх сушыльных печах, якія нам удалося неяк зляпіць.

— Дзесяць тысяч надомнікаў працавала?

— Працавалі надомнікі, сушылі бульбу гораду Ленінграду...»

Мы ўжо шмат прыводзілі расказаў, дзе людзі ўспамінаюць, як голад прымушаў кожнага трывожна і з надзеяй зноў і зноў аглядаць, вывучаць куткі і шуфляды ў сваёй кватэры — ці не завалялася дзе штo-небудзь ядомае. Таго, што раней і не лічылася ядомым... Але і цэлы горад у галоднай асадзе наводзіў сябе амаль таксама, як і паасобны чалавек. Згарэлі Бадаеўскія склады 8 верасня, а зямлю на тым месцы капалі яшчэ доўга самі жыхары. Але таксама і арганізацыя — тая самая Леннарыхтнлодгародніна...

«Ці шмат там згарэла цукру?

— Але я перавёў яго ўвесь на варэнне,— пярэчыць Станіслаў Антонавіч.— Праўда, яно было з пясочным хрустам. Засталася нейкая колькасць згарэлага, які не паддаваўся апрацоўцы. Але той цукар, які спёкся, мы яго пусцілі ў справу».

І далей ён расказаў гісторыю, якую шмат хто сёння прыгадвае са здзіўленнем, нават весела. Як блакадны горад нечакана знайшоў у сябе над нагамі агромністыя залежы кіслае капусты.

«— Мне сакратар райкома партыі тэлефануе, Капусцін: «Чаго ты сядзіш? Ведаеш, што ў цябе на камбінаце

адбываецца?» Я кажу: «А што?» — «Там, кажа, больш дзесяці тысяч народу капаюць увесь твой камбінат».

Яму пра гэта далажылі. Я сеў, паехаў.

— А калі гэта было? Увосень?

— Гэта было ў сорак другім годзе. Ну, паехаў. Сапраўды, адных лапат там назбіраў дырэктар камбіната пятнаццаць тысяч. Яны капаюць, рыдлёўкі кідаюць і капусту бяруць. Хтосьці ведаў, што быў пераразавоз у Ленінград у трыццаць пятым годзе (гэта яшчэ перад маім прыходам па работу) квашанае капусты і яе не з’елі.

— У якім годзе?

— У трыццаць пятым.

— З трыццаць пятага года яна ляжала?

— Прама ў бочках. А закопвалі яе ў пясчаную глебу, прычым у такую, я сказаў бы, глебу, якая стварала добрае асяроддзе для захавання. І нехта пра гэта ведаў. І вось пайшла раскопка гэтай справы. Ну, гэтае капусты там было няць тысяч тон. Разнеслі яе на працягу адных сутак!

— Ну, і якая яна? Вы спрабавалі гэту капусту?

— Цудоўная.

— Сур’ёзна? З трыццаць пятага года?

— Закансерваваная кіслая капуста з захаванымі кансістэнцыяй, смакам. Усё як трэба!

— Бралі бочку, а рыдлёўкі кідалі? Вы кажаце, пятнаццаць тысяч рыдлёвак сабралі?

— Пятнаццаць тысяч лапат мы сабралі. Іх кідалі людзі.

— Значыць, пятнаццаць тысяч чалавек прыйшло?

— Выходзіць, што так. Не спыняць жа іх, няхай прадракаюць і далей. Так ачысцілі тэрыторыю».

Умовы склаліся так, як склаліся. Былі і пралікі ў завозе і захоўванні прадуктаў, эвакуацыі насельніцтва на тым першым этапе, калі мелі месца разгубленасць, неразуменне маштабаў таго, што адбываецца, таго, як і куды разгортваюцца падзеі. Нават вялікі станоўчы фактар, які сыграў вялізную ролю ў стойкай абароне Ленінграда,— беззапаветная адданасць ленінградцаў свайму гораду, патрыятызм — прывёў да пагібельных вынікаў. Не выехалі з горада, не эвакуіраваліся тыя, хто мог, хто мусіў выехаць не толькі дзеля сябе самога, але ж і ў інтарэсах актыўных абаронцаў горада.

Дастаткова прыгадаць, што смяротэльнае кальцо блакады замкнулася і вакол 400 тысяч дзяцей. Засталіся маці, бабкі, а з імі і дзеці... Летам і восенню сорак першага не

было дастатковай настойлівасці, цвёрдасці, паслядоўнасці ў эвакуацыі насельніцтва, гэта прыйшло пазней, ва ўмовах непараўнальна больш цяжкіх, зімою, калі давялося вывозіць (і нават выводзіць пешшу за сотні кіламетраў!) каля мільёна жанчын, дзяцей, аслабленых голадам людзей, у маразы, і ўсё пад тымі самымі бамбёжкамі і абстрэламі.

Пра ўсё гэта гавораць, пішуць самакрытычна многія, ацэньваючы складаныя абставіны тых гадоў.

«Трэба сказаць, і гэта не навіна,— кажа Іван Андрэевіч Андрэенка,— што ў пас перад вайною не была распрацавана сістэма нарміраванага забеспячэння харчовымі і прамысловымі таварамі на выпадак вайны. У нас было распрацавана, як змагацца з запальнымі снарадамі, пажарамі і г. д., а як тут — не... Я яшчэ хачу сказаць пра такую складаную акалічнасць. Яна заключаецца ў тым, што ў блакіраваным горадзе засталіся 2 мільёны 544 тысячы чалавек і плюс яшчэ ў прыгарадных раёнах Ленінграда ў кальцы блакады 38 тысяч. Прычым багата старых, дзяцей больш за 400 тысяч, утрыманцаў больш чым 700 тысяч. І вось у першую эвакуацыю, якая пачалася ў нас з 29 чэрвеня (Ленінградскі Савет прыняў рашэнне), мы фактычна эвакуіравалі ўсяго 63(3 тысяч. Прычым нават была такая гаворка, што абставіны напаліліся, а ленінградцы не ўцякаюць, ніхто не бяжыць, ніхто не ад’язджае. З раёнаў паступалі такія паведамленні ў Ленінградскі Савет, што, так сказаць, насельніцтва настроена нікуды не ехаць, а абараняць горад Ленінград. Бачыце, з аднаго боку, добра, а з другога боку, дрэнна, таму што нам трэба было не 636 тысяч вывезці, а ў паўтара-два разы больш, а можа, і ўтрая больш. Тады мы не цярпелі б такога становішча, якое цярпелі,— засталося яе 2 мільёны 544 тысячы.

Вось пасля ўжо, калі была спецыяльная пастанова Дзяржаўнага Камітэта Абароны пра эвакуацыю народа па Ладазе і прыехаў Аляксей Мікалаевіч Касыгін, у адзін канец пачалі завозіць прадукты харчавання, а ў другі — людзей вывозілі. І трэба сказаць, што са студзеня сорак другога года да кастрычніка сорак другога вывезлі больш за 900 тысяч. У мяне дзесьці была дакладная лічба... Вось яна: са студзеня сорак другога года да кастрычніка сорак другога ўключна ўсяго эвакуіравана 961 тысяча 79 чалавек. Да сорак трэцяга года засталося каля 700 тысяч. Так, у лістападзе — снежні 1943 года была ўжо толькі такая колькасць насельніцтва».

Прозвішча Івана Андрэевіча добра помніцца блакаднікам. Шчымліва чакаемыя ўсімі паведамленні пра нормы выдачы прадуктаў замацоўваліся яго подпісам: «Андрэенка І. А.» Ён расказваў нам:

«Андрэй Аляксандравіч Жданаў гаварыў: «Выкарыстоўваць патрэбна «Ленинградскую правду» і радыё. Хто ў нас нясе персанальную адказнасць за забеспячэнне? Андрэенка Іван Андрэевіч... (Я намеснікам старшыні Ленінградскага гарадскога Савета працаваў, загадваў аддзелам гандлю). Няхай,— кажа Жданаў,— ён і паведамляе пароду...»

Была горкая неабходнасць паведамляць пра ўсё новыя і новыя зніжэнні і без таго галодных, а ў канцы ўжо і смяртэльных норм. Іван Андрэевіч у тыя дні і тыдні (кастрычнік — снежань 1941 года) зусім не здаваўся блакаднікам добрым геніем. І ён гэта ўсведамляў. Узнагародаю яму былі дні, калі пачалося паляпшэнне абставін, з арганізацыяй «Дарогі жыцця». І можна было надпісваць сваім прозвішчам зусім іншыя паведамленні...

«Я памятаю, як у снежні я быў вечарам у сакратара гаркома партыі Аляксея Аляксандравіча Кузняцова. Яшчэ раз мы праверылі наяўнасць запасаў харчавання. Зніжаць хлебную норму насельніцтву не было ўжо куды, нельга ўжо было, народ і так паміраў. Меркавалі-меркавалі, прыкідвалі. Аляксея Аляксандравіча я і да вайны ведаў, сустракаўся з ім. Ён быў валявым чалавекам. Шмат зрабіў дзеля таго, каб як найбольш захаваць жыццяў ленінградцаў, але такім хмурым я яго яшчэ не бачыў. І ўсё-такі ён пасля сказаў (пра гэта запісана ў мяне): «Ведаеш, мы не можам апускаць рукі, нельга!» І прывёў такі прыклад: «Ведаеш, што мне на Кіраўскім заводзе сказаў адзін рабочы? Каменне будзем грызці, але Ленінград не здадзім!»

...Пайшлі мы да таварыша Жданава, далажылі. І знізілі мы тады харчовыя нормы не насельніцтву, а вайскоўцам, маракам і салдатам. У снежні месяцы дрэнныя ў пас былі справы. Што рабіць далей? Зніжаць няма куды.

— А завоз? Праз Ладагу?

— А завоз спачатку быў такі, ведаеце,— па кроплі. Тады ў нас былі недатыкальныя запасы — сухары ў армейскіх злучэннях і мука. Знаходзілася ўсё гота на ваенных караблях у Кранштаце. Гота былі недатыкальныя запасы. Ваенны савет Ленінградскага фронту прыняў рашэнне выкарыстаць гэтыя сухары і гэтую муку для забеспячэн-

ня маракоў, салдат і насельніцтва, таму што далей ужо ніяк нельга было памяншаць нормы».

Вось нарэшце! Пералом нарэшце намеціўся...

«Калі з 21, 22, 23 снежня завоз мукі пачаў перавышаць расход, тады мы ўсе сабраліся ў Андрэя Аляксандравіча Жданава. Пасля перанеслі разгляд гэтага пытання на пасяджэнне Ваеннага Савета. І прыпялі там рашэнне: з 25 снежня сорак першага года прыбавіць рабочым 100 грамаў, значыць, замест 250—350 грамаў, а астатнім групам насельніцтва прыбавіць па 75 грамаў.

Я павінен вам сказаць, што прыбаўка, канечне, была невялікая, але як народ, разумееце вы, сустрэне гэта?! (Тады таксама займаліся тым, як пародна гэта рэагуе.) Таму што людзі не ведалі (гэта было зроблена ўвечар), што яны прыйдуць у булачную, у магазін, а ім не 125 грамаў будуць даваць, а 200 грамаў.

Людзі адчуюць у гэтай справе сілу не столькі ад таго, што чалавек пачаў наядацца гэтымі дадатковымі 75 грамамі, не, а веру ў тое, што справа ўсё-такі ідзе на тое, што мы пераможам гэтага фашыста і справімся з пытаннямі, звязанымі з забеспячэннем».

У кожнага кіраўніка, хоча ён таго ці не, ёсць рэпутацыя ў народзе. Ад суда гэтага не схаваешся нікуды. А тым больш чалавек, які абвяшчаў вам прысуд: жыць ці не жыць, будзе павелічэнне ці, наадварот, памяншэнне мізэрнай хлебнай нормы... Патрабаванні да такога чалавека асабліва высокія. Тым больш што быт у тых умовах но быў аддзелены ад работы. Усё праглядалася наскрозь. Большасць людзей жыла па казарменным. Можна ўявіць, з якой патрабавальнасцю да сябе імкнуўся ставіцца ўсякі сумленны работнік. Да сябе і да другіх... Пра «далікатнасць» таго часу расказвае Станіслаў Антонавіч Пржавальскі, прыводзячы такі выпадак, прыклад:

«Камандуючы фронтам захварэў. І ад'ютант прыехаў да мяне, ведаючы пра тое, што ў мяне паводле распараджэння Паўлава ў саўгасе Мяглава было пакінута няць жывых дойных кароў, прычым з запіскаю ўрача прыехаў, што патрэбна малако. Я дакладваю Андрэенку, што вось зрабіў такую справу: выдаў пяць літраў. Ну і што я ад яго атрымаў? Ён кажа: «Разумееш, што ў ваенны час за такія справы расстрэльваюць? Якое ты меў права без дазволу харчовай тройкі даваць? У нас ёсць харчовая тройка».

Я кажу: «Я ж даў не абы-каму, а камандуючаму, якому харчовая тройка падначалена». Ён кажа: «Незалежна ад гэтага. Раз ёсць парадак, значыць, ён не павінен парушацца». Я кажу: «Вас жа не было, усё роўна вы не адмовілі б».— «Не. У наступны раз такіх рэчаў не рабі!» Вось вы разумееце адносіны чалавека да тых парадкаў, што былі вызначаны?»

Усё яшчэ энергічны, сабраны Іван Андрэевіч, нягледзячы на блакадныя і пасляваенныя жыццёвыя нягоды, не страціў хуткай, жывой усмешкі. Як вялікую ўзнагароду сабе ён захоўвае ў памяці такі выпадак:

«Аднойчы на адным заводзе — я не памятаю цяпер на якім — пасля выступлення я ішоў з дырэктарам і сакратаром парткома. Ідзём. І вось нехта басам так гаворыць: «Ну вось ён які, Андрэенка! Сам сябе накарміць не можа, куды ж яму агульным катлом кіраваць?!» А я быў вельмі худы. Калі б я быў поўны, канечне, сказалі б: «Усё зразумела!» Але за мяне заступіліся жанчыны, яны назвалі таго: «Вяпрук ты! Значыць, ён не паядае тваё, а паядаў бы тваё, дык ён во які быў бы!»...»

...Калі вывучаеш умовы жыцця, працы ў блакіраваным горадзе, калі думаеш пра людзей, якія павінны былі прымаць няпростыя, цяжкія рашэнні, непазбежна прыходзіш да гэтага — узаемаацэнак кіраўнікоў і падначаленых. Кіруеш людзьмі так, як разумееш, як бачыш, як цэніш іх. У Івана Андрэевіча Андрэенкі погляд на ленінградца-блакадніка зусім не спрошчаны, не абстрактна-рамантычны — звярталіся людзі розныя ў самыя крытычныя моманты жыцця, ратуючы сябе і сваіх блізкіх...

У расказах Івана Андрэевіча нямала добрага пра людзей тых гадоў, ён разумеў цану праяўленняў — прытым масавых праяўленняў — свядомасці, дысцыпліны, дабрыні чалавечай.

Ва ўмовах, якія, здавалася б, павінны былі развязаць самыя эгаістычныя і грубыя інстынкты: масавы голад — становішча крытычнае!..

«— Быў такі выпадак. Гэта было дзесьці ў лістападзе ці снежні сорак першага года — у самы цяжкі час. У адну з булачных у Валадарскім раёне (цяпер гэта Неўскі раён) зайшоў мужчына такога моцнага целаскладу. Ён не падобны быў на ўсіх пакупнікоў і прадаўцоў (яны таксама мала чым адрозніваліся ад пакупнікоў). Ён, значыць, паглядзеў так і адразу пайшоў да паліцы і сказаў: «Паслухайце, што я вам скажу. Нас хочуць замарыць голадам!»

І пачаў гэтыя батоны хлеба, гэтыя самыя цаглінкі шпурляць. «Бярыце, кажа, і ешце!» Разумееце? Але народ не браў. Прысутных там было чалавек дванаццаць. І было тры прадаўцы. Яны скемілі, і хоць былі яны не надта моцныя, але ўзялі яго сваёй колькасцю — яны яго павалілі. І яшчэ школьнікі прынялі ўдзел у гэтай справе — пабеглі ў аддзяленне міліцыі (тэлефона ж не было). Прыйшлі, яго забралі. Ён аказаўся правакатарам.

— А наогул дысцыпліна была?

— У Ленінградзе ў той час, я памятаю, у гэтых адносінах было добра. Ну, спачатку народ прывыкаў. Я ўжо пра гэта гаварыў: як мы прывыкалі, так і астатнія прывыкалі. Выпадкі абрабаванняў былі адзінкавыя. Ну, тады можна было што? Вы ж ведаеце, што за кілаграм хлеба можна было залаты гадзіннік купіць.

— А хто ж на рынку займаўся гэтым гандлем?

— Розныя людзі прыходзілі туды. Я магу прывесці вам такі прыклад. Таксама на барахолку, разумееце, хлопец прыйшоў. У сям'і засталіся толькі два хлопчыкі — адзін падлетак ужо, другі яшчэ малы. Карткі ў іх ёсць. Бацька на фронце. Маці загінула ад голаду. І яны прыйшлі на рынак прадаваць бушлат. Яны прыйшлі туды. У іх мужчына купіў бушлат за трыста грамаў хлеба. Ну, вось прыйшлі дамоў і хлеб з'елі. А на другі дзень прачнуліся — бушлат, значыць, яны праелі, а карткі дзе? А карткі засталіся ў бушлаце. Хлопец, які прадаваў, запамятаў пакупніка па бародцы. І гэты мужчына з бародкаю прыйшоў да іх. Па картках — там адрас быў напісаны — знайшоў, прынёс і аддаў. Бачыце?

— А як вы даведаліся пра гэты выпадак?

— Ну як, былі ж данясенні. Па Ленінградзе заўсёды збіраліся ўсякія праявы і адмоўнага і станоўчага характару. Адмоўных было мала, але былі, а станоўчых, канечне, было больш.

— А данясенні ішлі вам па якой лініі?

— У Ленінградскі Савет. Наконт продажу прадуктаў харчавання ў мяне ёсць яшчэ такі выпадак. Ішла машына з хлебам. У машыну трапіў снарад. Шафёра забіла. Гэта сапраўды было так. Цёмна. Народ сабраўся — хапай і бяжы! Але гэтага ж не зрабілі, усё захавалі да крошкі. Выклікалі міліцыю, усё пагрузілі і павезлі... Альбо, разумееце, такі выпадак з дзвюма школьніцамі. Загарэўся магазін... Не, іх чатыры школьніцы было. Дык вось чатыры школьніцы кінуліся ў гэты магазін і пачалі цягаць

разам з работнікамі цукар і яшчэ крупы, ці што. І адначасова адна з іх пабегла і далажыла, каб прыехала, значыць, пажарная каманда. Так выратавалі вельмі шмат прадуктаў харчавання, якія падлягалі раздачы. Такі выпадак... Але я вам яшчэ не сказаў, што, як гэта пі дзіўпа, хоць было вельмі туга, а ўсё-такі Ленінградскі Савет, паш выканком пры падтрымцы Ваеппага Савета Ленінградскага фронту, гарадскога і абласнога камітэтаў партыі, прынялі рашэнне аб арганізацыі школьных ёлак з першага па дзесятае студзеня сорак другога года. У мяне ёсць адзін дакумент. Вось ён: «Наладжваць навагоднія ёлкі ў памяшканнях, забяспечаных бамбасховішчамі». Ленгалоўрэстаран арганізаваў абслугоўванне ўдзельнікаў навагоднім абедам без выразкі талонаў з прадуктовых картак і ёлачнымі падарункамі. Вось прыйшлі ленінградцам мандарыны з Грузіі. Тады вырашылі, што гэтыя самыя мандарыны трэба даставіць у Ленінград да Новага года, і дастаўку гэту даручылі шафёрам трыста дзевяностага аўтабатальёна. І яны былі дастаўлены. Калі праводзілі навагоднія ёлкі, давалі дзецям гэтыя падарункі».

Гэтыя фантастычныя ў тых умовах мандарыны памятаюць сотні людзей. Памяць гэта цёплай хваляю звязвае тых, хто здабываў, дастаўляў іх у Ленінград, хто іх атрымліваў, браў дзіцячай ручкаю, хаваў, прыціскаў пад адзеннем, прынёс дадому — маме...

Гэтыя расказы мы прыводзім у раздзеле «Ленінградскія дзеці».

Асаблівая і вялікая тэма ленінградскае блакады — арганізацыя «Дарогі жыцця». З літаратуры добра вядома, хто і як удзельнічаў у ажыццяўленні, рэалізацыі выратавальнай ідэі, якіх намаганняў, працы, самаадданасці патрабавала гэта ад кіраўнікоў і ад работнікаў ледзяной трасы. Але гэта асаблівая тэма. Скажам толькі, што брацца за такую нябачаную па смеласці і складанасці задачу — арганізацыю ледзяной дарогі цераз Ладагу — можна было, толькі паверыўшы ў тое, што нашы людзі здольныя на немагчымае...

Нічога дзіўнага, што ў большасці былых блакаднікаў і дагэтуль захавалася пачуццё таварыскасці і доўгу да многіх сяброў па тым ліхалецці. Каб зразумець, чаму Емяльян Сяргеевіч Лагуткін, генерал-маёр, які атрымаў баявую загартоўку яшчэ ў Іспаніі, да сённяшніх дзён заклапочаны лёсам ветэранаў МППА— неадступна дамагаецца, каб нарэшце іх прыраўнялі да «паўнацэн-

ных» байцоў, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны,— трэба паслухаць ягоныя расказы пра гэтых «дзяўчынак семнаццаці-дзевятнаццацігадовых», якія, замяніўшы мужчын, што пайшлі ў акопы, вынеслі і змаглі ўсё...

«—Я расказваў пра цяжкі перыяд блакады, я маю на ўвазе першую зіму. Гэта была, я б сказаў, самая страшэпшая схватка з ворагам каля сцен Ленінграда. Апрача абароны непасрэдна горада, перад намі часта стаяла задача дапамагаць фронту.

— Вы кажаце, восем тысяч адправілі па фронт?

— Так, восем тысяч.

— У якія дні?

— У самы цяжкі момант, і высветлілася, што ў пас, калі не памыляюся, засталося ўсяго дзве з паловаю тысячы асабовага складу. Я наставіў пытанне: а што далей? І далажыў камандаванню, у прыватнасці начальніку штаба фронту генералу Гусеву Дзмітрый) Мікалаевічу: «А што далей будзем рабіць? Не будзе з кім абараняць горад». Ён мне сказаў: «Емяльян Сяргеевіч, не хвалюйцеся, мы вам паможам». Праз некаторы час выклікаў камандуючы фронтам Говараў. Камандуючы выслухаў і сказаў таксама мне: «Мы вам паможам». Праз некаторы час мяне выклікаў начальнік штаба фронту генерал Гусеў і сказаў: «Радуйцеся, Емяльян Сяргеевіч, да вас ідзе папаўненне!» — «Якое? Хто? Адкуль?» — «Да вас прыйдуць жанчыны-ленінградкі». А пасля я спытаў: «А што вы так глядзіце на мяне?» — «Жанчыны да вас прыйдуць!» Я кажу: «Слухайце! З арміі?» Ён мне сказаў ціхім голасам: «Вы зразумейце, зразумейце, таварыш Лагуткін, дарагі! У пас мужчынскага кантынгенту ў Ленінградзе не засталося. А цяпер вы зрабіце вывады самі, зрабіце ўсё, каб яны былі салдатамі!» Праз некаторы час да нас прыйшлі каля семнаццаці тысяч жанчын-ленінградак, маладых жанчын і дзяўчат. Гэта быў цудоўны кантынгент... Добра ведаю гісторыю наогул, нашу ваенную гісторыю: бадай што, ніколі не было такога выпадку, каб кадравыя часці войск камплектаваліся жанчынамі. Я наогул не сустракаў такога. І таму ў першы час мы разгубіліся... пакуль зразумелі, што і з гэтым складам трэба ўмець ваяваць, тым больш што вораг рыхтаваў наступленне на горад. І мы пачалі іх абучаць.

— Гэта пачатак сорак другога года?

— Калі не памыляюся, сакавік сорак другога. І мы пачалі іх вучыць, асабовы склад вучыць».

Лёгка сказаць — вучыць. Спрадвеку мужчынскай справе — жанчын, часта амаль дзяўчынак, ды яшчэ галодных, надзвычайна знясіленых.

Як гэта выглядала спачатку і як было потым, нам расказваў (не без гумару, таксама спрадвеку мужчынскага) К а л я г і н  І в а н  В а с і л ь е в і ч — былы падводнік, а пазней — памочнік дырэктара Кіраўскага завода па МІША...

«— Ну, па-першае, калі жанчын прывялі ў казармы (а казармы ў нас былі таксама занядбаныя; мужчыны ж не надта там упрыгожвалі свае харомы — яны і не заўсёды памыюць), вось у гэтыя харомы прыйшлі жанчыны. Мы займалі школы і дзіцячыя сады.

Ну, як і належыць, камандзірамі рот заставаліся мужчыны. Скамандавалі: «Смірна!» І вось вы ўяўляеце сабе,— стаў строй жанчын: захутаныя ў хусткі, валасы тырчаць адусюль, твары сінія! Я паглядзеў — спалохаўся. Адвёў убок камандзіра роты Лапіна і пытаю:

«Чаму ў цябе ўсе жанчыны цяжарныя? Яны ж толькі прыйшлі яшчэ».

Ён кажа:

«Ды не, што вы! Гэта яны травы наеліся. Ведаеце, травы пашчыпаюць, згатуюць баланды-суну і ядуць. Есці ж хочацца?!»

І ўсё ж жанчыны заставаліся жанчынамі, стараліся нават спадабацца: інакш, чаго добрага, і не возьмуць...

Арсеньева Аляксандра Міхайлаўна так уступала ў «камсамольскі полк», сяброўка ўбачыла яе і паклікала:

«Ведаеш, кажа, працаваць вельмі шмат даводзіцца, але кормяць тры разы на дзень гарачай стравай».

Я кажу:

«Люсенька! Ну, як жа мяне возьмуць? Я ж нібы былінка,— па мяне дзьмухні, я і ўпаду!»

Яна кажа:

«Ведаеш што! Ты нафарбуйся! Ты добра апраналася. Прыходзь прыгожа прыбранай. Цябе возьмуць. Ты толькі нафарбуйся!»

А ў мяне ні памады, нічога ўжо няма. Я ў суседкі прашу памаду, фарбую шчокі, фарбую губы. Надзяваю футравы капялюш і іду! Ну, гэта Люсенька Будакова, якая знайшлася цяпер у Алтайскім краі, сказала ўжо камандзіру, што вось развітая дзяўчына, вельмі палітычна падрыхтавала, мастак — яна шмат чаго нагаварыла,— малюе, піша і чорт ведае што. (Я тады там усё вершы пісала.) Каман-

дзір ужо быў неяк падрыхтаваны. Калі ён мяне сустрэў, я добра трымалася, і вось ён мяне паслаў на Пясочную. Ведаеце Пясочную? З Баскава завулка, з канца Баскава завулка — на Пясочную ісці афармляцца ў штаб палка. Гэта было жахліва!

— Ён паверыў вашаму румянцу?

— Стойкая фарба была! Але калі я дайшла да гэтай Пясочнай — назад, думала, не дайду! Дзесьці ляжала, дзесьці сядзела і думала: як жа мне дайсці? Але трэба ж, трэба! У мяне дзіцёнак на Мохавай сам-адзін сядзіць. І вось дзіця мяне і падганяла ўвесь час — дзіця! Калі б не дзіця — я ўпала б духам. Але ў мяне дзяўчынка — цудоўная такая дзяўчынка была. Мне неабходна было ўстаць дзеля дачкі. І вось я ішла, ішла. Іду Марсавым нолем і раптам бачу: мужчына схіліўся, нагнуўся так, штосьці са снегу выкалупнуў і ў рот — чырвоныя нейкія, малінавыя плямы. І ўсе ідуць, выкалупваюць — і ў рот. Я пахілілася: высвятляецца, хтосьці сіроп нейкі разліў. Тады давалі сіроп, і вось кропелькі сіропу выкалупвалі са снегу! І я выкалупнула гэтага сіропу — крышачку! Іду, іду, іду. Бягом. Спынюся. Не, нельга спыняцца — упаду. Трэба ісці — там жа дачка. Зноў пра сваю дачушку! Ну вось, дайшла. Камандзір пытае:

«Не стамілася? Прынесла дакументы?»

Люся мне міргае, а я ўсміхнулася такою бязглуздай-бязглуздай усмешкай: «Не!» І думаю: толькі б ногі вытрымалі, толькі б не ўпасці!

«— Ну, пасля мы іх прывялі ў парадак,— кажа Калягін І. В.— Я спачатку спужаўся, падаў рапарт (таму што я спецыяліст марскога флоту і мяне запрашалі па флот),— адпусціце мяне! Ну, атрымаў належную водпаведзь.

— Наганяй?

— Так. Мяне назвалі баязліўцам. Што, кажуць, захацеў паёк першай нормы? А тут баішся памерці з голаду? Ну, гэта мяне кранула за жывое, і я, канечне, застаўся. Нам неабходна было з гэтых жанчын зрабіць салдатаў. Пачынаць трэба было з сяржанцкага саставу. Ну, стварылі школу сяржанцкага саставу — трохмесячную. Патрэбна ж адпаведных камандзіраў каб яны падрыхтавалі. У мяне падвярнуўся адзін камандзір, які выйшаў са шпіталя,— кавалерыст. У першых баях на подступах да Ленінграда ён быў увесь пасечаны, на яго, шчыра кажучы, страшна было глядзець: увесь твар спаласаваны пісягамі. Але ён кадравы камандзір. Ён не ўяўляў сабе, каб звольніцца з

арміі (яго звальнялі таму, што ў яго чэрап быў пашкоджаны). Я папрасіў ваенкома аддаць мне яго. І ён стаў начальнікам школы. Ну, дзеўкі, канечне, плакалі, калі цяпер за іх па-сапраўднаму ўзяліся. Але за тры месяцы трэба прайсці праграму шасці гадоў. Ну, абстрэльваць нас не было чаго — у нас вакол усе абстрэленыя былі. Але ўсё-такі я атрымліваў часам паведамленні, што школа знялася з месца дыслакацыі і накіравалася к фронту.

— Што гэта значыць?

— Гэта значыць, што ён настроіў школу ўначы па трывозе і павёў іх па перадок абстрэльваць. Ну, праўда, спачатку мы панікавалі, думалі, што, можа, чалавек хворы, можа, у яго заскок які-небудзь. Не! Ён гэта рабіў з мэтаю. Працаваў ён з імі і дзень, і ноч.

— І як гэта выглядала стажыроўка па фронце?

— Ну, як? Давёў да бальніцы Фарэля, там іх мінамётным агнём пакрыла, усе распаўзліся па канавах, прапаўзлі, выпаўзлі з зоны абстрэлу. Пастроіў — і назад павёў. Гэта проста было па вайне, даволі проста. Мы адказвалі маральна за жыццё чалавека, але яго трэба рыхтаваць. Пасля заканчэння школы адбыўся выпуск. І ў нашай школе ні адзін не быў выключаны — усе атрымалі званне сяржантаў. Некаторыя атрымалі старшых сяржантаў, а некалькі чалавек — старшын. Усе жанчыны. І вось, калі прыйшоў падрыхтаваны састаў у роты, яны, канечне, зрабілі рэвалюцыю: роты на вачах ператвараліся ў салдат — сапраўдных салдат. Я потым камандаваў палком па аднаўленню чыгуначнай лініі да Пскова і, працуючы на Карэльскім перашыйку, працуючы па мінных палях, меў справу з воінскімі часцямі. І калі камандзіры часцей сапраўды пераконваліся, што гэта за народ, я неаднаразова чуў ад іх, кажуць: «Любую роту мужчын мяняем на тваіх дзяўчат».

«— Цяпер,— у тон Калягіну пачаў генерал Лагуткін,— згадваючы мінулае, я прама сказаў бы: перад нашымі жанчынамі мы, салдаты, афіцэры, мужчыны, павінны зняць шапкі, пакланіцца. Гэта ж яны скідалі занальныя бомбы з дахаў дамоў, з будынкаў, тушылі пажары, адкопвалі заваленых, памагалі галодным, паміраючым, хавалі мёртвых, ратуючы горад ад эпідэмій... Пасля прарыву блакады, праўдзівей пасля таго, як знялі яе, нашы часці — падкрэсліваю, усё тыя самыя дзяўчаты — згодна з заданнем камандавання Ленфронту памагалі часцям фронту граміць праціўніка. У цяжкіх зімовых умовах, часта на замініра-

ванай тэрыторыі нашы палкі, рухаючыся за наступаючымі войскамі, аднаўлялі чыгункі на самых галоўных напрамках. Яны адрамантавалі дзвесце два кіламетры чыгунак, пятнаццаць чыгуначных мастоў і семнаццаць мастоў драўляных. Яны размініравалі шмат плошчы, каб прайшлі нашы войскі. Калі я быў на адным з напрамкаў і па гэтых дарогах, якія аднаўлялі пашы байцы, рухаліся эталоны войскаў, дык з вагонаў салдаты і афіцэры так крычалі «ўра», так яны віталі са слязамі на вачах гэтых цудоўных байцоў-дзяўчат, так дзякавалі! Далей. Нельга спісаць з рахункаў і такія мерапрыемствы, як размініраванне прыгарадаў Ленінграда. Вось узяць Пулкаўскія высоты, Пушкін, Колпіна, Петрадварэц і безліч іншых. Л там жа былі мільёны мін і снарадаў! Хто іх размініраваў? Большасць з іх размініравалі салдаты МППА.

— Гэта значыць, дзяўчаты?

— Дзяўчаты. Яны абясшкодзілі на вялікай тэрыторыі больш за сем мільёнаў выбуханебяспечных прадметаў. Што гэта? Ці ж гэта не гераізм? Ці ж гэта можна забыць? (Калягін І. В.: «Многа падрывалася. У нас былі страты 18 працэнтаў».) Яны ж аднавілі амаль усе асноўныя будынкі горада. Якраз з іх падрыхтавалі тысячы тынкоўшчыкаў, электраманцёраў, шафёраў, цесляроў і іншых неабходных спецыялістаў... Гэта ж яны аднаўлялі набярэжную Фантанкі, яны праклалі трамвайны пуць па Стара-Неўскаму, яны аднавілі сотні будынкаў школ, бальніц і г. д. ...Вось перада мною зараз устае карціна, як мы адпраўлялі людзей пасля дэмабілізацыі. Але яны не ад’язджалі! Раз дэмабілізаваны — можна дадому! Дык не! Гэтага нельга забываць. Яны не пайшлі дамоў, яны пайшлі па разнарадцы аднаўляць прамысловасць на заводы, фабрыкі і ў шмат якія месцы...»

З дапамогаю МППА рабілася і вялікая справа, надзвычайна важная дзеля абароны ўсяе краіны — вывозілі з Ленінграда зімою 1941/42 года унікальнае абсталяванне, бранявую сталь, каляровыя металы, неабходныя для прамысловасці Урала.

Людзі, з якімі мы сустракаліся, якіх распытвалі, запісвалі, называлі нам імёны сваіх калег і таварышаў па працы, аддаючы ім усе заслугі, расказваючы аб працы і подзвігу вядомых і забытых кіраўнікоў блакаднага фронту, якія ўносілі ў жыццё горада волю, спакой, распарадчасць і кемлівы пошук выйсцяў са становішчаў падчас безвыходных. Пра тых, хто спачатку ў думках, а пасля па

карце і па слабым яшчэ лёдзе Ладагі пракладваў дарогу да выратавання, хто знайшоўся і распарадзіўся, калі спыніліся хлебазаводы і горад замёр у перадсмяротным забыцці, даць электраэнергію з ваенных караблёў, хто здабыў насенне і бульбяныя вочкі і забяспечыў імі ленінградцаў вясною і летам 1942 года, калі гараджане зрабіліся яшчэ і земляробамі,— усяго і ўсіх не пералічыць і не назваць.

Нас здзіўлялі невычэрпныя рэзервы душэўных сіл людзей. Але ўражвала таксама і іншае: чаго можна дасягнуць арганізаванасцю, якія магчымасці стварала тая праца, якую называюць такім халодным словам — арганізацыйная. Колькі можна, высвятляецца, зрабіць, калі нічога ўжо зрабіць нельга, якія можна знайсці словы, якія пачуцці выклікаць са свайго сэрца, як багата можна (і спакойна!) патрабаваць ад іншых і ад сябе самога, калі, здаецца, ніхто і нічога ўжо не ўстане...

Падлічана, што за няпоўных шэсць ваенных месяцаў 1941 года рабочы Ленінград здаў Чырвонай Арміі 713 танкаў, 480 бронемашын, 58 бронепаяздоў, 2405 палкавых і, 648 процітанкавых гармат, каля 10 тысяч мінамётаў, вырабіў звыш 3 мільёнаў снарадаў і мін, больш за 80 тысяч рэактыўных снарадаў, авіябомб. Апрача гэтага, на Кіраўскім заводзе, па заводзе «Металіст» і іншых было адрамантавана каля 500 танкаў і больш чым 300 гармат. Адміралцейскі, Балтыйскі і іншыя заводы пераўзброілі, адрамантавалі 186 караблёў.

У найцяжэйшым 1942 годзе было эвакуіравана каля аднаго мільёна чалавек...

І ўсё гэта, і ўсё гэта ў тых умовах, у т а к і х умовах!..

## ДЗЕНЬ ПРЫ ДНІ

Жывыя працягвалі жыць: праца, трывожныя думкі пра апошнюю радыёзводку, клопаты пра ежу, цяпло, блізкіх,— у сутках былі ўсё тыя самыя дваццаць чатыры гадзіны, кожны дзень праходзіў скрозь чалавека, і ні адзін міма. У расказах, у сённяшніх успамінах блакаднікаў шмат дакладных фактаў, карцін, дэталяў. У іх і штодзённае

жыццё адлюстравана: намяць (асабліва жаночая) учэпіста, рэзка зафіксавала неверагодную рэальнасць тых дзён і начэй.

Але менавіта дзённікі асабліва поўна перадаюць подых таго часу, той ліхаманкавай паўсядзённасці, калі жыццё і смерць сышліся гранічна блізка, схіліліся разам з блакаднікам над ягонаю ледзь цёплаю буржуйкай...

Як пі дзіўна, шмат хто вёў дзённікі. Некаторыя паводле старой звычкі, паводле старой прывычкі да паперы, да пяра. Нярэдка ў гэтых дзённіках не толькі ўменне фіксаваць факты і перажыванні, але і імкненне асэнсаваць нанова і чалавека, і гісторыю, і наогул цэлы свет: вайна, блакада давалі для гэтага дастаткова і падстаў, і «матэрыялу». Да такога тыпу дзённіка можна аднесці «надзённыя запіскі» дырэктара Архіва Акадэміі навук СССР Г е о р г і я  А л я к с е е в і ч а  К н я з е в а «У асадным Ленінградзе», якія перадала нам яго ўдава М а р ы я  Ф ё д а р а ў н а  К н я з е в а. Дакумент готы (у ім больш за 1200 машынапісных старонак!) заслугоўвае спецыяльнага вывучэння і размовы. Пакуль прывядзём толькі некаторыя месцы, што раскрываюць саму «ідэю» дзённіка Г. А. Князева.

«Адыходжу па службу*. Намагаюся думаць аб працы, аб гісторыі культуры... Пішу пра сябе не як пра суб'ект, а як аб'ект. Усё, што я перажыў, перажываюць і многія іншыя... Шмат хто перажывае тое самае, але ўсё і канчаецца «трапятаннем» сэрца, цьмяна адбіваючыся, без яскравых вобразаў, без яснае думкі ў галаве. Колькі перажыванняў! І ўсе яны забываюцца, затухаюць, знікаюць. Потым усё здаецца інакш, як т р э б а  п а с л я. І якімі героямі, разумнікамі выдаюцца многія сапраўды звычайныя людзі. Катурны, хадулі з'яўляюцца па сцэну толькі калі бачыць глядач.

Але ніхто не ведае, што дзеецца ў чалавечай душы, калі ён сам з сабою, з усімі сваімі супярэчнасцямі, пад'ёмамі і слядамі духу. Вось мне і хочацца паказаць такога чалавека... Самае ганебнае, што можа быць у воіна,— гэта маладушнасць, баязлівасць. Гэтае самае датычыцца і пас — цывільных. Але 24 гадзіны ў суткі «абываце лю» ніяк не ўдаецца застацца ў нанятым, як стальная струна, стане. Усякую струну неабходна настройваць».

* Г. А. Князеў жыў непадалёку ад Архіва АН СССР, на 7-й лініі Васільеўскага вострава, 2 — дом Акадэміі навук. Ён ездзіў у інваліднай калясцы, ногі былі паралізаваныя.

Вось чалавек, аўтар дзённіка, і настройвае сябе — і праз дзённікавы самакантроль таксама. Каб не дазволіць голаду зжэрці разам з мышцамі і душу. Запісваючы тое, што назірае па «малым радыусе» (дом, вуліца па дарозе да архіва, праца), намагаецца выходзіць на «вялікі радыус».

Пра «неваенных» абаронцаў Ленінграда, пра тых, што загінулі і гінулі ад голаду, абстрэлаў, расказвае з навагаю, але паколькі гэта і пра сябе, фармулюе так: «пасіўныя гераічныя абаронцы Ленінграда», «гераічныя пасіўныя абаронцы» (маючы на ўвазе, што но бачаць ворага і не могуць панесці яму прамой страты).

«Інтэлігентшчына! Так, так, чым мы былі, тым і застанёмся... У нас ёсць яшчэ сорам, сумленне. Гэта старыя «смешныя» інтэлігенты стваралі вялікую рускую гуманістычную культуру і перадумовы Вялікага Кастрычніка... Я ўсе сілы напружваю, каб захаваць у адносінах з людзьмі далікатнасць, мяккасць, каб лягчэй было. У мяне няма хлеба, але ёсць пакуль слова, бадзёрае і добрае слова. Яно не заменіць хлеба... Але як прыкра, калі іншыя, не маючы хлеба, шпурляюцца камянямі...

***1941.X.12.*** Нядзеля. Сто трынаццаты дзень.

Цэлы дзень прыводзіў свае папкі з паперамі ў парадак. Запакаваў у тры папкі — адну ў другую — свае запіскі. Захаваюцца яны ці прападуць: згараць, выбуховая хваля нараскідае іх? Што б там ні здарылася, склаў іх, а таксама і ўсё напісанае раней у кніжную шафу на ніжнюю паліцу».

Сярод розных меркаванняў яму ні ў лістападзе, ні ў снежні, пі пазней не прыходзіць думка, што ягоныя запісы могуць дастацца ўвайшоўшым у горад фашыстам. Ні разу ў дзённіку, што ў любую хвіліну мог абарвацца смерцю, а значыць, у дакуменце сумленным, думаецца, спавядальна шчырым,— ні разу Князеў усур'ёз не ўяўляе сабе падзення Ленінграда. Ён не тое каб гнаць гэтую думку як слабасць, ало проста ў я в і ц ь  с а б е  гэтага не можа.

Дзённік свой ён вёў не дзеля таго, каб бавіць час. Архіў АН СССР працягваў працаваць. Пад кіраўніцтвам Г. Князева працягвалася стварэнне «Гісторыі Акадэміі навук», супрацоўнікі хадзілі на працу, збіралі дакументы, частку дакументаў, найбольш каштоўных, эвакуіравалі. Гэта быў дзённік рабочага чалавека. Штодзённыя запісы па некалькі старонак рабіліся пасля працоўнага дня. У іх не толькі

апісанне трывог, бамбёжак, голаду, у іх — работа архіва, быт установы, супрацоўнікаў, грамадскае жыццё горада.

Цікава сачыць на дзённіку, як мяняліся погляды і ацэнкі самога аўтара і на вайну, і па голад, і на прызначэнне чалавека. У такога роду аўтэнтычных дакументах каштоўныя падрабязнасці гарадскога быту, выгляд вуліц, будынкаў, пахі, фарбы, гукі — усё, з дапамогаю чаго можна ўявіць сабе Ленінград таго часу. Дэталі такога роду ўцалелі большай часткаю толькі ў дзённіках. Там яны захоўваюцца трывала і но заложаць ад капрызаў памяці.

«Сфінксы, мае старажытныя сябры, адзінока стаяць па апусцелай набярэжнай...

Насупраць іх панура глядзіць забітымі вокнамі масіўны будынак Акадэміі мастацтваў. Нейкай цяжкай белаю веліччу ён і цяпер прыгнятае. Стаў рэдкі і голы Румянцаўскі сквер. Там бівак. Блукаюць чырвонаармейцы, гарыць вогнішча, конь шчыпае рэшткі пажаўцелае травы. Каля абеліска стаіць нейкі фургон; на алеях — некалькі грузавых аўтамабіляў; астатнія, што амаль цалкам запаўнялі сад, кудысьці падзеліся. На Няве цёмная свінцовая вада рабацее пад падаючымі крупінкамі мокрага снегу. Насупраць Сената стаіць трохкомінны ваенны карабель, ледзь не закрываючы з боку Нявы велічны будынак. Цудоўны помнік Пятру патануў у насыпаным вакол яго пяску... Заснавальнік горада — у цемнаце драўлянага футарала з пясочнымі мяхамі... Асенні пейзаж. Я кожны дзень і кожны раз усхвалявана перажываю праяву гэтай дзіўнай ленінградскай панарамы. Выходзячы з дзвярэй параднай, я першым позіркам пераконваюся: сфінксы цэлыя, Ісакій цэлы, Адміралцейскі шпіль цэлы, цэлы і анёл з крыжам па Аляксандраўскай калоне...

***1941.XI.8.*** Субота. Сто саракавы дзень вайны.

Сумнае відовішча ўяўляе сабою шэраг старых дамоў па набярэжнай ад 1-й лініі да універсітэта: усе яны стаяць з разбітымі вокнамі. І Меншыкаўскі палац быў, верагодна, у цэнтры выбухоўнай хвалі, усе яго круглыя вокны зверху і вокны ў сярэднім паверсе пад балконам зеўраць пустатою, не засталося ніводнае шыбіны. У ніжнім паверсе выбітыя толькі асобныя шыбы. У крылах Меншыкаўскага палаца таксама мноства разбітых шыб, рам без шыбін, папсаваных рам. Такія ж разбурэнні ў доме былога Архіва ваенна-навучальных устаноў і ў філалагічным факультэце універсітэта. Што здарылася, так я і не мог зразумець: дамоў, якія былі б разбураны бомбамі, няма,

цэлая набярэжная. Дворнік мне сказаў, што бомба ўпала ў Няву блізка ад берага і разбіла ўсе шыбы ў дамах па набярэжнай. Але, можа, гэта вынікі снарадных разрываў падчас учарашняга артылерыйскага абстрэлу, калі мы раніцай чулі кананаду. Ёсць і трэці варыянт. Насупраць, каля Сената, стаіць трохкомінны ваенны карабель з марскімі дальнабойнымі гарматамі. З іх, кажуць, тры дні таму назад у час налёту сцярвятнікаў зрабілі некалькі залпаў. Мне і раней казалі маракі, што калі загавораць дальнабойныя гарматы з караблёў на Няве, дык у нас на набярэжнай усе шыбкі з вокнаў вылецяць.

У Акадэміі павук пакуль усё па-ранейшаму; толькі старыя рамы ў вокнах Заалагічнага і Этнаграфічнага музеяў закрываюць пластырам з фанеры.

Углядаўся ў набярэжную супрацьлеглага берага Нявы. Новых пашкоджанняў у вокнах не відаць, таму што большасць з іх даўно забілі шчытамі.

***1941.XI.19.*** Коміны караблёў, што стаяць уздоўж набярэжных на Няве, пафарбавалі ў белы колер. Грузавыя аўтамабілі, што былі пафарбаваны зялёнымі плямамі, пакрылі белай фарбаю, пад колер снегу.

Нява пачынае зацягвацца лёдам.

Каля будынка Першага кадэцкага корпуса па З’ездаўскай лініі ўвесь час каля брамы і пад’ездаў тоўпяцца жанчыны, маладыя і старыя, дзеці, што чакаюць сустрэчы з роднымі — параненымі і ачуньваючымі байцамі. Часам натоўп чамусьці хутка перабягае з аднаго месца па другое, зазірае ў вокны. У адных раптам вочы павесялеюць, другія стаяць панурыя, раздражнёныя альбо зусім да ўсяго абыякавыя. У некаторых у руках вузельчыкі.

І дагэтуль ленінградцы дрэнна апраналіся, а цяпер яны зусім страцілі ўсякі стыль, асабліва жанчыны. Учора бачыў пару: ён у вайсковай форме, яна пад ручку з ім у шэрай целагрэйцы, ватовых штанах-шараварах і карычневай фесцы з кутасікам. А твар маладой, просты, задаволены. Ідзе, відавочна, з жаніхом ці маладым мужам. Вопратка іншых зборная, з «храналагічнымі наслаеннямі». Цяжка, амаль немагчыма будзе аднавіць некалі мастаку, пісьменніку гэты натоўп, як ён выглядае на вуліцы, непазбежна давядзецца звяртацца да выдумак і бутафорыі».

Такія дзённікі рэдкасць. Большасць людзей запісвалі свае перажыванні, сваю барацьбу за жыццё, за блізкіх.

Ёсць дзённікі — трагічныя апавяданні пра лёс якой-небудзь сям'і альбо чалавека, пра тое, як ён адчайна супраціўляўся, як працаваў (большасць дзённікаў вялі людзі, якія працавалі). Траплялiся нам дзённікі, у якіх апісвалася галоўным чынам, дзе і што з'едзена, як атаварвалі картачкі, колькі выдавалі прадуктаў. У адным з іх з усё ўзрастаючай скрупулёзнасцю А. В. Белякоў запісваў:

*«**6 студзеня 1942 г.*** Хадзіў у сталоўку на Чубаровым завулку. З'еў чатыры порцыі кашы з макухі — больш нічога не было. За кашу абарвалі 50 гр. крупаў... Каша дрэнна пераварваецца, адчуваю болі ў страўніку...

***16 студзеня.*** Стаяў у чарзе па хлеб каля дзвюх гадзін. Устаў у 5 гадз. раніцы... і толькі ў 8 гадз. атрымаў цёплы хлеб... Абед сёння пабыў казачны характар, ён доўжыўся з 11 гадз. да 16.30. За гэты час з'еў адну талерку капусты, адзін суп-локшыну і адзін ячны суп. Многа піў вады, твар моцна апух...»

З незразумелаю цяпер настойлівасцю пералічваюцца амаль кожнага дня гэтыя лічбы, талеркі, грамы. У гэтым было жыццё, а магчыма, гэта здавалася найважнейшым, найкаштоўнейшым і для гісторыі? І тут жа дзень пры дні доўжыцца расказ пра тое, як ён, Белякоў, шукаў, хто б гэта яму перарабіў баксёрскія пальчаткі на рукавіцы, таму што рукі мерзлі люта, а трэба было насіць і дровы, і хлеб, і ваду.

Шмат хто толькі з паступленнем блакады пачаў — упершыню ў жыцці — запісваць. Людзі раптам адчулі, што апынуліся ў цэнтры такіх падзей, у якія заўтра яны самі не паверацы: ды ці было, ці магло такое адбывацца, ці можна было перажыць усё гэта? Вось запісы нашае размовы з Галінай Рыгораўнай Бабінскай. Пра яе мы ўжо ўпаміналі — высокая немаладая прыгожая жанчына, якая жыве ў старой «пецярбургскай» кватэры, дзе і раяль, і сцены, і ляпная столь таксама нібыта частка «блакаднага дзённіка».

«— Вось абваленая столь была пасля затынкавана, ведаеце, як гэта ні дзіўна, палоннымі немцамі.

— Што? Вось гэтыя малюнкі — гэта яны рабілі?

— Не, там тынкоўка проста была. Вось гэтая латка, светлая, гэта затынкавалі яны. У нас быў сусед, якому далі немцаў на рамонт ягонага пакоя, а ён да нас іх накіраваў рамантаваць столь. Гэта было, напэўна, у сорак шостым ці сорак пятым годзе. Калі но ў сорак чацвёртым.

Тут патрэбна аднавіць лепку і роспіс, але гэта дарага і рукі не даходзяць. А вось асколкі шкла тут, у раялі, блішчаць і дагэтуль. У доме насупраць узарвалася бомба. Дом быў тады двухпавярховы (цяпер надбудавалі яшчэ два паверхі). Я была на працы. А мае мама і бабка заставаліся тут. Гэта быў сорак другі год. Цяпер я старэйшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага музея этнаграфіі народаў СССР. Так што я этнограф, у нейкай ступені вандроўнік. Заадно мы яшчэ і турысты: удваіх з мужам лодачнікі. Вось у нас і байдарка тут стаіць.

— Дзённік пісаўся, калі вам было дзевятнаццаць гадоў?

— Але, мне было дзевятнаццаць.

— Скажыце, з якою думкаю вы яго пісалі?

— Цяжка сказаць. Верагодна, усё-такі падзеі былі такія, што застацца ніяк незафіксаванымі яны проста не маглі. Самая галоўная думка была тая, каб некалі, як усё гэта скончыцца (а ў гэтым сумнення не было, раз мы пісалі такія рэчы), вось калі ўсё гэта скончыцца, і самой чытаць, і, зразумела, прачытаць тым, каму гэтага не давялося бачыць.

— А да вайны вы вялі дзённік?

— Ну, нейкі там школьны, дзіцячы... Прывычка пісаць, трэба сказаць, захавалася ў мяне і дагэтуль.

— І была ўпэўненасць, што выжывеце?

— Хутчэй за ўсё ў гэтым не было ніякага сумнення! Гэта якаясьці бязглуздая падзея была. Вось нават ідзеш па вуліцы,— абстрэл і бамбёжка, і чамусьці думкі пра тое, што гэта можа закрануць мяне ці маіх блізкіх, у мяне ніколі не было: дзесьці з кімсьці, але не са мною і не з маімі блізкімі.

— А якая ў вас была сям’я? З кім вы тады жылі?

— Я, мама і дзве бабкі было на той момант».

Галіна Рыгораўна чытала нам свой дзённік і тлумачыла яго час ад часу:

«— 15 снежня 41 года. Прайшоў апошні трамвай. Трамвайныя пуці замецены снегам і пакрытыя лёдам. Правады пашкоджаны. Вагоны стаяць на пуцях»... А трэба сказаць, што пасля я пайшла працаваць у Трамвайна-тралейбуснае ўпраўленне і аднавіла якраз вось тую самую трамвайна-тралейбусную сетку, пра якую першыя радкі майго дзённіка. «25 снежня. Павялічылі норму хлеба: са 125 грамаў да 200 грамаў (гэта служачым) і з 250 да 350 — рабочым. Кузька выратаваны ад смерці...» Кузька —

гэта кот. Гэтага ката мы з дня па дзень збіраліся з'есці, з дня па дзень замахваліся на яго жыццё. Кот быў чысты, хатні, вельмі харошы і вельмі любімы намі. І запіс гэты невыпадковы, паколькі нейкім чынам той момант быў адтэрмінаваны. Ну, мы думалі, што ён наогул выратаваны, але нічога не атрымалася. «28 снежня. У кватэру перастала паступаць вада. Даводзіцца браць яе на першых паверхах... Далікатны момант: 30 снежня апошні раз карысталіся прыбіральняй. Двор прыняў першы падарунак у канверціку...» Зразумела? Так? Можна не каменціраваць. «Рэдка чысцім зубы. Мыемся не больш аднаго разу ў суткі. Вада ў вёдрах і слоіках на кухні замярзае. У канцы студзеня пераставіліся ў пакоі: у пакоі буржуйка. Грэемся, гатуем ежу тры разы на дзень і карыстаемся ёю (гэта значыць, буржуйкаю) як асвятленнем. 18 студзеня. Дагарэла апошняя свечка. У газавую лямпу наліты бензін. Карыстаемся ёю толькі ў час яды...» А вось гэта істотна, гэта наогул сведчыць пра наша становішча: у час ранішняга снедання, на ложку, побач з абедзенным сталом, у тым вось пакоі памёр Меншыкаў. Гэта адной з нашых бабак прыёмны сын. Ну, гэта, зрэшты, няважна — прыёмны не прыёмны. Важна тое, што чалавек ляжаў тут жа, у пакоі на ложку, пакуль мы прымалі вось гэту самую долю ранішняе ежы. Ён памёр, ало снеданне было даведзена да канца. Наступіла ўжо нейкае тармажэнне, не было месца такім эмоцыям, якія з'яўляюцца натуральнымі ў нармальнага чалавека, у нармальным стане... «За тое, каб выкапаць магілу, пахаваць чалавека, бралі кілаграм хлеба і 300 рублёў грашамі».

— За пахаванне 300 рублёў?

— Так, і адзін кілаграм хлеба. А дзе ўзяць кілаграм хлеба, калі па картцы не хапае, а на рынку зусім шалёныя цэны. Вось таму так і звозілі — у прасціradле, па саначках і кудысьці ў куток. У сувязі з гэтым абавязацельства кіраўніка гаспадаркі (гэта, відаць, паводле распараджэння міліцыі — кіраўнікамі гаспадаркі, напэўна, міліцыя загадвала): «Абавязваюся трупы памерлых бязродных грамадзян не вывозіць на могілкі без дамавін». Таму што часта трупы знаходзілі ў дварах, на гарышчах, на лесвіцах. «Паводле слоў урача К., памірае 80% мужчын»... Гэта ўсё сярэдзіна студзеня. «Дровы з паветак пераносяцца ў кватэры, таму што з паветак і дровы крадуць, і самі паветкі разбіраюць на дровы... Мама кожны дзень размяркоўвае нормы хлеба на кавалкі...» Гэта тое, што я вам ужо

казала. Ну, уся гэта норма дзялілася на тры часткі ў дзень, а пасля яшчэ кожная гэта частка павінна была дзяліцца на колькасць членаў сям'і. «На вуліцах няма ніводнага ката, ні сабакі: усе былі з'едзеныя ў студзені. А яшчэ ў пачатку лістапада дохлыя каты валяліся, загорнутыя ў паперу».

— Выкідвалі?

— Іх тады яшчэ выкідвалі, а цяпер ужо не.

— А ваша кошка ўжо з'едзена?

— Яшчэ не... «У пачатку лістапада атрыманы дазвол на разборку засцерагальных скрынак з-за недахопу святла ў дзень, у сувязі з чым рэзка пагоршылася святломаскіроўка... Снежань і студзень — месяцы астранамічнай смяротнасці: людзі паміраюць каля дамоў, на вуліцы, па рабоце... Паміралі літаральна па вуліцы ад голаду, пераносілі звышнатуральныя нягоды — адсутнасць святла, бытавых выгод і г. д., а галоўнае, дастатковай колькасці ежы,— і ніколі не чулі ад іх ні скаргаў, ні паражэнчых гаворак...» Вось так у мяне запісана. І гэта сапраўды было так: абсалютна ніхто нічога. Характэрна, што большасць ленінградцаў чым далей, тым больш успрымалі свае жаданні за рэчаіснасць. Так было з прарывам кальца блакады, прыбаўкаю норм, заняткамі Мгі і г. д. Тут яшчэ запісаны цэлы шэраг момантаў: зачыненыя цырульні, зачыненыя кінатэатры, Тэатр камедыі, Ленінскага камсамола. Музкамедыя працавала спачатку перыядычна, а хутка спыніла сваё існаванне. Горад замёр. «Аб'ява на дзвярах крамы: «Прадаецца новая труна». Далей ідзе цана, паморы...» 17 студзеня. Па Піянерскай вуліцы рэзка пранеслася аўчарка. Прахожыя праводзілі яе прагнымі бяссільнымі поглядамі»... Наогул дзіўна: адкуль гэтая аўчарка, ды яшчэ так рэзка пранеслася?..

— Можа, ваенных?

— Так, магчыма... «Выгараюць цагляныя будынкі. Пажары доўжацца цэлымі тыднямі. Мер да тушэння не прымаюць: няма вады, пашкоджаны водаправод. Затапіла праспект Карла Лібкнехта па ўчастку Блахіна — Піянерская — Увядзенская. Гэта ледзь не ад Тучкова Моста і Піянерскай і Увядзенскай. Вада выйшла на панель, у ваду трапляюць аўтамабілі амаль да паловы колаў». І тут вось здарылася страшнае. Я сама бачыла гэта таксама. Выйшлі мы на вуліцу. І вось тут, каля маёй школы (цераз дарогу ад школы, дзе я вучылася), у ваду ўпала жанчына. Яе выцягнулі і паставілі на прыступку перад дзвярыма

школы. Але ж яе толькі прыставілі. Вось так прысланілі да сцяны. Але паколькі быў вельмі моцны мароз, дык, відаць, нічога з ёю не маглі зрабіць. Вось так і пакінулі. Я яе бачыла сама, вось такую замёрзлую.

— Стаяла замёрзлая?

— Ну так, таму што рухацца яна не магла. Дайсці дадому яна не магла, і дацягнуць яе таксама ніхто не мог.

«Характэрная фраза адной старэнькай: «Пападзіся ён мне, сукін сын (гаворка ідзе пра Гітлера), я яму ўчыніла б лазню!» А сама гэта старая ледзьве гаворыць з-за слабасці і старасці. Усе драўляныя дамы, ларкі і стадыён Леніна — усё знесена на паліва... 15 красавіка. З трампарку выйшаў першы маршрут пасажырскіх трамваяў — 3, 7, 9, 10 і 12. Пайшоў вулічны гадзіннік на Вялікім праспекце... Восеньскія плакаты «Усе на фронт!» змяніліся плакатамі «Усе на агароды!»... Аб'явы аб продажы дамавін змяніліся аб'явамі аб продажы мэблі, начыння, адзення... Картачкі атаварваюцца цалкам, але прадукты ўсё роўна не сталі танней (рынчачныя, вядома), дастаць іх амаль немагчыма, яшчэ больш немагчыма, чым зімою... Разбураныя дамы маскіруюцца дэкаратыўнымі сценамі. Вельмі доўга разбураны дом на рагу Неўскага праспекта і вуліцы Герцэна (дзе быў будынак інстытута) быў замаскіраваны ўсякімі фанеркамі, плакатамі і г. д. Месцы, дзе знаходзіліся разбураныя будынкі, распрацаваны пад грады...» Ну, далей цэлыя старонкі ўсякае лірыкі...»

Цяпер з дзённіка Алены Мікалаеўны Авяр'янавай-Фёдаравай.

— Як вы пачыналі гэты дзённік, чаму?

— А я не пачынала... Я нават не ведаю, што мяне штурхнула. Я праводзіла чалавека, ён пайшоў добраахвотнікам на фронт. Думаю: трэба запісаць, як там будзе што... Ну, не ведаю...

— Прачытайце, калі ласка, што вам самой здаецца цікавым.

— А мне цяпер гэта здаецца не вельмі цікавым... Значыць, спачатку ідзе пра гэтага Федзю. Потым: «Хлеба пачалі даваць ужо па 600 грамаў». Пачынаецца ўжо збаўленне... Далей: «14 жніўня 1941 года. Да нас прыйшлі жыць бабка, цётка Таня, кока (мая хросная) і сястра. У іх нічога, апрача сваіх картак, няма. У Тані крыху круп, кілаграмаў два, бульбы кілаграм і цукру крыху, у бабкі нічога. Але затое ў нас з мамай крупаў (проса) 4 кілаграмы, сачыўкі 3 кілаграмы, рысу 4, манкі 2,5, аўсянкі кілаграм

і нешта яшчэ, цукру 6 кілаграмаў (не, «пяску» 5 кілаграмаў), чай, кава, соль, гарчыца... Усе прадукты пусцілі ў агульнае карыстанне: гатавалі ўсё на ўсіх, ні з чым не лічыліся. Купілі капусты на 150 рублёў, пасалілі і ўвесь час гатавалі яе, а потым кашу і кожны дзень елі ўволю. Усё было добра, ды яшчэ атрымлівалі прадукты на карткі. У верасні мы яшчэ жылі прыстойна, так што на пяць чалавек хапала. Толькі вось кожны дзень вечарам у 7 гадзін пачыналася бамбёжка. Але мы ў бамбасховішча не хадзілі».

Адчуваеце: «увесь час гатавалі капусту», «кожны дзень елі ўволю» — якая прыкрасць і горыч суправаджаюць гэту неразважлівасць! Праз два-тры месяцы гэта неэканомнасць будзе мучыць галоднымі прывідамі. Хто мог ведаць, як яно ўсё павернецца. У вопытных старых піцерцаў, што бачылі голад дваццатых гадоў, і ў тых не было ні прадчування, ні прадбачлівасці.

А Алена Мікалаеўна ўсё гартала дзённік:

— Далей ідзе зноў пра Федзю... Ага, вось: «Пліту палім цераз дзень. Гатуем усё на пліце. Газы не даюць, даводзіцца паліць дровы. У нас іх пакуль багата. Думаю, на зіму хопіць. Больш пакуль ніхто не дае, хоць у пакоі пяць чалавек. Ну, а ўсё-такі трымаецца наша гаспадарка, пакуль усё ёсць. Пра далейшае не клапоцімся. Ну добра, спадзяюся, што хопіць на ўсіх, а там будзе відаць, што далей. Мы яшчэ жывыя. А гэта ж не так мала. Бамбяць, і страшна. Разбурана шмат дамоў, ну, вядома, не без ахвяр».

А з Федзем... Хочаш не хочаш — не абысці, не абмінуць, яна ўваходзіць, урываецца ў блакаднае існаванне, гісторыя таго першага кахання. У Ленінградзе, як нідзе, фронт і горад спляліся, злучыліся роднасна на ўсе дзевяцьсот дзён. На фронт адыходзілі пешшу, з фронту таксама. Горад быў бачны з акопаў, было відаць, як ён гарэў, выгараў. Кожную ноч свяціліся воддаль барвовыя выскалы пажарышчаў. А ўдзень сілуэт горада, знаёмы, родны, вывучаны да найменшага выгібу, курыўся і тлеў чорным дымам. Горад з'ядалі абстрэлы, бамбёжкі, пажары. А коміны не дымілі. Ні заводскія, ні незлічоныя пячныя над снежнымі хвалямі дахаў. І паветра было празрыстае, аптычна чыстае, так што відаць было далёка. Ніколі яшчэ горад не праступаў з такой выразнасцю па бледным паўночным небе. Горад быў бачны з пярэдняга краю з-пад Пушкіна, і з Пулкаўскіх вышыняў, і з Краснага Бору.

«9 кастрычніка. Сёння ездзіла да Федзі на ст. Шуша-

ры. Апішу ўсё па парадку. Яшчэ звечара сабрала ўсё, што трэба адвезці; узяла яму цёплыя шкарпэткі, яго шлем, прасіў прывезці люльку, тытунь, а замест хлеба купіла пернікаў, 600 грамаў цукерак «Агрэст», цукру, нават віна маленькую бутэлечку, папяросаў, канверты, паперу — усё. Раніцою сабралася, выйшла ў 6 гадзін. Зайшла за Наташаю». Была ў мяне такая знаёмая, што хадзіла разам са мною... «Вельмі многа часавых давялося прайсці — альбо ўгаворваць, ці падманваць, ці даць папяросаў за тое, каб прапусцілі. Адных абышлі мінным полем, а не па шашы, і доўга ішлі полем, а пасля ўжо каля Шушар выйшлі на сапраўдную дарогу. Але тут зноў патрулі не прапускаюць, кажуць: «Куды вы ідзеце, там фронт». І праўда, страляюць вельмі моцна. Але я вырашыла не адступаць, усё роўна ісці. Наташа кажа: «Ну, добра, вернемся дадому». Я кажу: «Не, цяпер ужо амаль прыйшлі, засталося нямнога, і назад я не пайду. Можаш вяртацца, я пайду адна».

Пайшлі ўдзвюх. Сустрэлі вайскоўца. Ён памог угаварыць часавых, і нас прапусцілі. Па дарозе мы сустрэлі жанчыну — ваеннага ўрача, і якраз таго палка, дзе нашы хлопцы. І таго, і другога яна ведае. І вось дзякуючы ёй мы хутка знайшлі зямлянкі, дзе яны знаходзяцца. Але іх нядаўна раз'ядналі, і Кузю перавялі далей, а Федзя застаўся тут. Наташа пайшла далей, я стала чакаць Федзю, паколькі яго на месцы не было: ён быў сувязным. За ім камандзір наслаў байца, а мяне запрасіў у зямлянку пагрэцца, таму што на вуліцы было холадна, а я была ў асеннім паліто, замёрзла. І вось я зайшла ў зямлянку. Хутка прыйшоў Федзя. Спачатку мы нават не ведалі, што сказаць, нічога не знайшлося. Камандзір адпусціў яго. Сказаў: «Схадзіце пагуляйце. Калі праводзіш, дык прыйдзеш і скажаш».

Вось мы пайшлі з ім у адзін дом. Там была гаспадыня. Пасадзіла, пачаставала нас. Паразмаўлялі. Пасля зноў пачаўся абстрэл. Перайшлі ў зямлянку, там было няўтульна. Пасля я пайшла дадому. Усё, што прывезла, аддала яму. Канечне, ён быў рады і мне, і падарунку. Так ён праводзіў мяне да першага паста. Далей яму нельга было ісці. Я пайшла дадому зноў пешшу па шашы. Выйшла з Шушар у 2 гадзіны, а ў 6 гадзін вечара мне трэба было па працу. А ісці далёка, ды і стамілася і цяжка. Але нічога, затое Федзю бачыла! Толькі стала падыходзіць да мясакамбіната, зноў пачаўся абстрэл, і так блізка рваліся снарады — проста жах! Спыніцца нельга — час не чакае,

баюся спазніцца на працу. Бегла, сагнуўшыся, аж да самага трамвая. Стамілася, як сабака! Прыехала дамоў ужо пасля пяці гадзін і толькі паспела паесці, пераапрануцца — трэба ўжо на працу. Прыйшла на працу стомленая, спаць хацелася. У 8 гадзін трывога. Пайшла ў бамбасховішча, дык я там заснула. Крыху адпачыла. Але я не змагла нават працаваць — так я стамілася.

10 кастрычніка. Сёння ад учарашняе прагулкі баліць усё цела, быццам бы на мне вазілі цяжкія грузы, як усё баліць! Але затое Федзю бачыла! Не ведаю, задаволены ён ці не, што я да яго, нягледзячы ні на якія цяжкасці і абстрэлы, усё-такі прыехала, але я задаволеная, што бачыла яго. Ён выглядае добра, расказаў мне, як былі ў баях, як па пяць дзён нічога не елі, як разбілі іх часць, як яны хацелі бегчы ў Ленінград, але па дарозе сустрэлі сваіх і засталіся ў Шушарах.

Так, у 18 гадоў шмат перажыў — не добрага, не лёгкага, а цяжкага. Ён рана зразумеў, што жыццё цяжкае, і цяпер яму яшчэ і вайну і баі давялося прайсці. Малады, а перажыць давялося нямала. Вось за гэта ён мне яшчэ даражэйшы, што нічога добрага не бачыў і зноў давялося перажываць цяжкія выпрабаванні. Вайна! «Вось,— ён кажа,— у мяне няма ні бацькі, ні маткі, а ў другіх жа ёсць, і ні да кога ніхто не прыйшоў, а вось да мяне ты прыйшла». Я яму кажу, што пастараюся замяніць табе бацьку і маці, сябра і сястру, усіх, і ўсё, што залежыць ад мяне, я заўсёды табе зраблю. І я сваё абяцанне выконваю...» Я яшчэ думала тады, што сустрэнемся, доўга была надзея. Загінуў ён...

«11 кастрычніка. Федзя прасіў мяне дастаць пальчаткі і рукавічкі. І вось я вырашыла дастаць на фабрыцы. Мне дапамаглі ў фабкоме, выдалі не толькі рукавічкі скураныя, стралковыя, добрыя, але і цёплую бялізну, і я паеду да яго ў нядзелю яшчэ раз, завязу. Дзякуй ім, яны паклапаціліся, памаглі мне ўсё дастаць Федзю.

Сёння збіралі грошы на падарункі байцам. Усе давалі па пяць — дзесяць рублёў, а я ўжо і не лічыла, дала трыццаць. Гэта ж нашы байцы, яны нас абараняюць.

14 кастрычніка. Сёння паменшылі норму хлеба да 500 грамаў.

15-е. Зноў збавілі норму да 400 грамаў.

16-е. Сёння зноў ездзіла да Федзі ў Шушары. На гэты раз давялося цяжэй. Ездзіла сама — Наташа больш не захацела. Я вырашыла дабрацца, як бы цяжка ні давялося».

І дабралася. Колькі напісана кніг, колькі прыкладаў жаночага кахання, і ўсё роўна зноў здзіўляешся, слухаючы гэта скупое, няўмелае апісанне паходаў з горада на фронт, у акопы. Пакуль голад не паваліўся. Пасля ўжо не было сіл.

«— З тых хлопцаў, што пайшлі ў нас добраахвотнікамі, амаль ніхто не вярнуўся. Дзяўчаты некаторыя вярнуліся. Іх неяк адразу адправілі далей за Ленінград. Яны вярнуліся, некалькі чалавек, дзве ці тры. І я дагэтуль яшчэ сустракаю сяброўак.

— А Федзя, ён з вашага завода?

— З нашае фабрыкі, дзе мы тады працавалі... «17 студзеня 1942 года. Цяжкі час! Ужо сем месяцаў, як працягваецца вайна з Германіяй. Усё, што мы перажылі за гэты час, вельмі цяжка апісаць. Але гэтыя цяжкасці яшчэ не скончыліся, а толькі цяпер самы цяжкі перыяд гэтага часу. Апішу некаторыя факты. 15 студзеня. У гэты дзень мы хавалі сваю бабку, і тое, што я бачыла ў гэты дзень... Я ніколі не магла падумаць, што можа такое здарыцца. Хаваць давялося без труны, таму што труну нідзе не купіш, а самі зрабіць не ў сілах, а каго-небудзь прасіць, каб зрабіў гэта, можна толькі за хлеб. Але дзе ж яго ўзяць, калі мы самі атрымліваем 350 грамаў на дзень і, апрача хлеба, больш...» (Плача.) Што гэта такое!.. Нават не думала, што буду плакаць... Ну, нічога... Ну, дзе ж яго ўзяць, калі мы самі атрымліваем 350 грамаў на дзень і, апрача хлеба, больш нічога. Ужо 18 дзён, як жывём на адным хлебе. Голад доўжыцца ўжо чацвёрты месяц. Мы з’елі ўсё, што ў пас было, агульнай камунаю, і ўсё было добра. А цяпер, калі ў нас ужо нічога не засталося...»

— Вы працягвалі жыць разам?

— Так. А вось зараз будзе распад. Калі ў пас нічога не стала, пачнецца распад, усе будуць ужо адыходзіць. Мы з мамаю застанёмся ўдзвюх. Праўда, яна потым на абаронныя работы пойдзе, а я перайду на казарменнае. Але ў найцяжэйшы час я працавала на фабрыцы і жылі мы ўсё-такі дома.

— Вам тады было дваццаць, а маме?

— А маме было пяцьдзесят. Яна тысяча восемсот дзевяностага года... «Не давалі нічога з прадуктаў. Яшчэ ў тым месяцы такія-сякія прадукты давалі, але затое хлеба давалі толькі 250 грамаў...» Гэта значыць, яшчэ ў снежні было дзвесце пяцьдзесят грамаў. Гэта ў блакаду была найменшая норма рабочым, а потым — трыста пяцьдзесят.

Але ў нас былі рабочыя карткі, мы ж працавалі... «А прадукты такія, што ў той голад, у васемнаццатым годзе, нават, напэўна, зусім...» Не разбіраю, што напісана... «Хлеб вельмі кепскі, з рознымі дамешкамі.., Але цяпер нават і гэтага не даюць... Везлі мы бабку на могліцы на санях па чарзе: я, мама, Тоня, Шура. Самі ледзь ногі валаклі. Ад такога харчавання, не ведаю, як мы яшчэ жывём... А адзін за адным — бясконцы ланцуг з нябожчыкамі, большасць без дамавін. Ало гэтага мала. Добра, калі вязуць свае родзічы, а то часценька — правязуць цэлы грузавік нагружаны, раздзетыя, разутыя, хто як і хто ў чым...» Збіралі людзей на вуліцы. Ідзе чалавек, падае, памірае — і яго ў машыну. І вось там, на могілках, такія агромністыя брацкія магілы былі... «Шэсць грузавікоў і тры вазы на конях — гэта пры нас прывезлі,— поўныя нябожчыкаў. Глядзець жахліва. А колькі перавазілі ўжо і не паспелі закапаць! Рабочыя, што прысланыя сюды з фабрык і заводаў (таму што заводы не ўсе працуюць), не паспяваюць капаць ямы, хаваць. Хаваюць цяпер усіх у агульную магілу, без дамавін, адзін на адным... Вось яшчэ месяц назад, гэта значыць, 19 снежня, калі мы хавалі Коленьку...» Сястрычкі Шуры маленькі сыночак, мой пляменнічак... «дык магілы былі ўжо за межамі могліц, на новых участках. А цяпер яшчэ далей агульныя магілы».

— Гэта якія могілкі?

— Охценскія, Вялікая Охта. Яны і дагэтуль існуюць. Там вялікія брацкія магілы. Вось туды мы везлі бабку. А Коленьку мы пахавалі яшчэ на нашым месцы, дзе ў нас тата пахаваны, па Георгіеўскіх могілках — так яны называліся... «22 студзеня 1942 года. Святла няма, вады няма, ніякага руху няма. Трамваі не ходзяць. Аўтамашыны праходзяць вельмі рэдка. Затое вельмі шмат пешаходаў з санямі, трунамі, з мерцвякамі. Гэта адзіны рух у горадзе. Крамы ўсе зачыненыя, толькі булачныя ды некаторыя прадуктовыя магазіны, і тыя пустыя і цёмныя. Людзі ўсе апухлыя, страшныя, чорныя, брудныя, худыя. Прайшло сем месяцаў. Здаецца, што прайшло сем гадоў. Усе пастарэлі. Маладыя зрабіліся такія страшныя, старыя, што ажно жахліва глядзець на іх. Вельмі багата разбурана дамоў. Хто вернецца сюды, дык наўрад ці пазнае горад адразу. Але ўсё гэта не так страшна, як голад. Мы менш за ўсё чакалі, і гэта атрымалася... Толькі б усё гэта перажыць! Тады ўжо будзем цаніць кожны кавалачак хлеба — не так, як раней, нават не хацелі глядзець на яго... А цяпер усё

жыццё залежыць ад гэтага хлеба і вады. Вось як сёння: вады нідзе не было, вось і хлеб не выпякалі. Разбіла воданапорную вежу, і не было вады на хлебазаводзе, была затрымка, і ў чарзе давялося стаяць за ім па 4 гадзіны на такім марозе!..

15 лютага 1942 года. Найвялікшае няшчасце — у мамы ўкралі хлебныя карткі. Гэта ж смерць. Да І-га яшчэ далёка. Без хлеба жыць немагчыма. Што рабіць? Калі я прыйшла з працы і мне мама пра гэта сказала, я проста не ведала, што рабіць. Я з гарачкі на яе накрычала, пасля расплакалася. Але гэтым жа не паможаш. Пайшлі на рынак. Купілі 500 грамаў, заплацілі 150 рублёў. Дзякуй яшчэ, што прадалі. Але ж кожны дзень немагчыма купляць на рынку, не хопіць жа ніякіх грошай. Добра, калі будуць даваць якія-небудзь прадукты, а калі не, дык вельмі цяжка будзе перажыць гэты час. Я прыкладу ўсе сілы, патрачу ўсе грошы свае і Федзевы, каб толькі выжыць. А будзем жывыя, усё тады прыдбаем. Толькі б перажыць! Вельмі складана, але што ж рабіць? На маму но магу крыўдаваць. Пэўна, лёс наш такі».

У пакоі за сталом, апрача нас траіх,— асветленая ціхаю старасцю худзенькая мама Алены Мікалаеўны. Запомнілася: як дрэва, што па-асеннему свеціць кронаю,ззяе. Моўчкі, уважліва слухае, як дзіця жудасную казку, у якой, ужо ведае, канец усё-такі шчаслівы...

## У КОЖНАГА БЫЎ СВОЙ ЗБАВІЦЕЛЬ

Мы запісалі мноства апавяданняў, з якіх відаць, як людзі выжылі, хоць па ўсіх аб’ектыўных дадзеных павінны былі памерці. Адна з жанчын, Аляксандра Міхайлаўна Арсеньева, гэты цуд сфармулявала так: «У кожнага быў свой збавіцель». І сапраўды так. Не ў тым толькі сэнсе, што многія выжылі толькі таму, што ў найцяжэйшы момант нехта некага падняў на вуліцы, вярнуў згубленую картачку, падзяліўся апошнім. Была і больш складаная ўзаемазалежнасць.

Людзі засталіся ў жывых таму, што іх трымала на нагах пачуццё любові, абавязку, адданасці — дзіцяці, дарагому чалавеку, роднаму гораду...

Як кажа Яршова Зоя Аляксандраўна (вул. Мартынаўская, 19):

«— Выратавала нас усіх (ну, ці ўсіх, я не ведаю) надзея, любоў. Ну, я кахала мужа, муж любіў сям'ю, дачку. Ён блізка служыў, ваяваў. І вось калі мы садзіліся што-небудзь есці, ягоная фатаграфія стаіць каля нас, і мы чакаем, што ён павінен вярнуцца. І вось толькі дзеля любові, дзеля надзеі гэтай, мы ўсе маглі выжыць. Вельмі было цяжка. Вось цяпер не ўяўляю сабе — ну як мы выжылі».

Ратаваліся, ратуючы. І калі нават памерлі, дык па сваім апошнім шляху некага паднялі. А выжылі — дык таму, што некаму былі патрэбныя нават больш, чым самому сабе. Вось і А. М. Арсеньева памятае, што цяперашнім сваім жыццём яна абавязана людзям, што выратоўвалі яе. І не адзін раз.

«Хто мяне выратаваў? Вось нядаўна я знайшла свайго, можна сказаць, збавіцеля. Яна мяне ўладкавала ў камсамольскі полк. Знайшла я яе зусім выпадкова: яна прыехала на сустрэчу школьных сяброў з Алтайскага краю.

А першы мой збавіцель? Я нават не памятаю ягонага прозвішча, але ведаю (мы працавалі з ім разам), што ён быў шафёр. Каго ён вазіў, цяпер ужо не памятаю, ведаю, што яго звалі Саша. Вельмі сімпатычны быў хлопец. І вось неяк ён прыехаў да аднае жанчыны і вырашыў забраць свайго пляменніка. Прывёз ён ёй крышачку спірту, крышачку грэчкі і, канечне, цуркі — ацяпляцца. Вось яны сядзяць за сталом, нейкі сыр, нібы мыла, ядуць. А я ляжу. Саша глядзіць. «Хто гэта ў цябе?» — «Ды вось жанчыну знайшлі непрытомную. Была бамбёжка. Не ведаю, хто яна такая». А я ж яго пазнала, я так слаба-слаба Кажу: «Саша!» Ён так паглядзеў, падышоў да мяне і кажа: «Аляксандра Міхайлаўна! Гэта вы?» Я кажу: «Я, Саша».

І вось ён пайшоў на працу (а я там была спісана як прапаўшая без весткі), пайшоў, сказаў, дзе я. Да мяне прыйшлі, пасля ўлад на саначках даставілі дадому; бальнічны далі. А я памірала ўжо! Ну, дзяўчаты ў нас былі добрыя. Яны з мяне здымалі сукенку (у мяне сукенка з Неўскага, 12* — залацістая, шаўковая). Вось гэту сукен-

* Вядомае ў Ленінградзе атэлье.

ку памыюць (я ляжу голая) — надзенуць, памыюць — надзенуць. Кожны, хто прыходзіў, усе чамусьці сукенку мылі. Я ляжала ў чыстым, у мяне не было вошай. На рабоце я засталася галоўным бухгалтарам. Ну які я галоўны бухгалтар, калі я думала толькі пра хлеб? І дачку я ўзяла з сабою на работу».

Колькі іх, падобных выпадкаў! Кожны паасобку можа выдацца нечаканым, але калі чуеш пра іх запар, пачынаеш разумець, што за гэтым стаіць.

«Ідзём мы з Ларысаю (дачка маёй сяброўкі Лены) праз Баварскі мост, што каля «Чырвонай Баварыі», падыходзіць марак і кажа: «На, дзяўчынка, трымай ад дзядзі Вані!» — і даў кілаграмовую бляшанку амерыканскае тушонкі. Мы бягом дадому, і ўсе чацвёра елі, не разаграваючы»,— згадвае Вера Іванаўна Паўлава.

Такія выпадкі запамінаюцца ва ўсіх падрабязнасцях. На ўсё жыццё ўрэзалася: і Баварскі мост, і аблічча гэтага невядомага марака, і як яны елі гэтую тушонку, якая, можа, выратавала іх, і Ларысу, і Колю, дарослых цяпер людзей, што маюць ужо сваіх дзяцей. І калі В. І. Паўлава наведвае сваю сяброўку Лену, якая ўжо няньчыць Ларысіных дзяцей, яны ўспамінаюць таго марака на Баварскім мосце, і ён ужо існуе і для ўнукаў, якія яго ніколі не бачылі.

«У канцы студзеня мы згубілі хлебныя карткі,— піша нам Зінаіда Уладзіміраўна Астроўская,— запасаў у пас ніякіх не было, гэта згуба магла аказацца нам фатальнаю. У суседняй кватэры жыла сям’я Іваненка. Апрача чатырох дарослых, там яшчэ засела сям’я нявесткі з Лугі з трыма дзецьмі. Малодшая дачка гаспадыні, Ірына, была замужам за капітан-лейтэнантам, які загінуў у першыя дні вайны...»

І вось выстройваецца ланцужок ратаўнікоў і выратаваных: маракі, якія самі жылі на паўгалодным пайку, час ад часу прыносяць сям’і загінуўшага таварыша нейкія прадукты («тады ж усё вымяралася на грамы»), і штосьці перападае, у крытычны для іх момант, і суседзям... («Валянціна Ільінічна Іваненка... прынесла нам шклянку рысу. Зараз немагчыма ўявіць, што гэта тады азначала. А ў яе ж самой было 8 галодных душ. Мне гэтага навек не забыць. З іх сям’і засталіся ў жывых толькі Ірына і нявестка з дзецьмі, якая эвакуіравалася ў лютым».)

Незнаёмы, невядомы, безыменны салдат выратаваў Марыю Яршову. Ён прыйшоў да яе на прыём у паліклініку,

пачаў скардзіцца, што ў яго сапсаваўся жывот. Яна спытала, што ён еў. Ён сказаў — каніну.

«Я заўсёды вельмі сарамлівая была, а тут папрасіла, ці не змог бы еп дастаць мне каніны. Ён кажа: «Доктар, што вы? Няўжо вы будзеце есці каніну?» Папытаў адрас і прынёс мне вялікі кавалак каніны. Ну, я ўзяла, пасля падзялілася з суседкамі.

Я ўжо атрымлівала рабочую картку. І ўсё роўна я прадала ўсё, што магла, на рынку. Зарплата ў мяне была прыстойная на тым часе, я ўсё-такі ўрач. І я ўсё ж толькі сабе адной. Дзяцей жа вывезлі. І ўсё роўна я памірала. Мяне тады выратавала суседка. Яе цяпер няма ўжо ў жывых. Але я сустракаюся з яе дачкою Алай. Адзін раз я проста не пайшла на працу — не магла. Нарэшце мая суседка дазналася, што я ляжу дома, устаць не магу. Есці няма чаго. Зусім не ацяплялася кватэра. Паліна крыху мацнейшая была. Ламала, цягала нейкія дроўцы, паліла. Дачцэ яе было гадоў шэсць, напэўна. Паліна сагрэе нас, чай нагрэе.

Я захварэла ў гэты перыяд на запаленне лёгкіх. Дык яна пойдзе на базар, памяняе там чорны хлеб на кавалак чаго-небудзь салодкага. Аднойчы дачка пакінула ёй вось такі кавалачак хлеба — не з’ела сама. Мамку яна любіла. І вось мая суседка Паліна Георгіеўна гэты кавалак доўга не ела, хавала. Пасля ўсё-такі з’ела».

Ніхто не мог пакінуць на памяць нават кавалачак таго ленінградскага хлеба. Якім бы дарагім, святым ён ні быў. Усё ж мы дапытваемся:

— Чаму суседка ўзяла вас да сябе? Што яе прымусіла?

Яршова думае. Спачатку яна адказвае:

— Мы ў адной кватэры жылі.— Пасля кажа: — Мы сябравалі.— Потым яна ва ўсім гэтым знаходзіць нейкую больш важную, надзённую думку: — Мы і дагэтуль сябруем. Цяпер мае ўнучкі сябруюць з яе ўнучкамі, ездзяць да іх у госці, яны сюды прыязджаюць.

Думка яе ўзыходзіць нібыта да годнасці такога сяброўства, да знакамітасці яго паходжання. Блакадныя выпрабаванні быццам бы ўпрыгожылі «генеалагічныя дрэвы» абедзвюх сем’яў; прыстойнасць, высакароднасць у час блакады зрабілася сямейнай гордасцю. Так, прынамсі,назіралася шмат у якіх сем’ях патомных ленінградцаў.

У працоўных калектывах, устойлівых, карэнных, такіх, дапусцім, як Кіраўскі завод, Публічная бібліятэка, Металічны завод, міліцыя — там таксама рэпутацыя блакадных гадоў з'яўляецца нібы гарантыяй годнасці.

Гісторык Таццяна Мікалаеўна Токарава памятае, ведае шчаслівыя моманты свайго блакаднага жыцця-быцця, і звязаны яны ўсё з тым самым — з чалавечай узаемавыручкай, дабрынёю і дабром, зробленымі табе, зробленымі табою...

«— А ў нас печачкі не было. Была кватэра, але не было печачкі, а была вялікая печ, у якой мы налілі класічныя энцыклапедыі і гэтак далей. Яны не хацелі гарэць, але наогул нічога, палілі. І вось мы ідзём з хлебам. Карацей кажучы, мы з мамаю яго атрымалі, і насустрач ідзе пячнік і нясе печачку. Мы яго спыталі — што ды як. Ён кажа: «Гэтую я ўжо прадаў, хочаце, пойдзем да мяне». І мы пайшлі. Гэта было на Бяляўскім полі. Прыйшлі, прыходзім у ягоную кватэру. У яго восем чалавек дзяцей.

Прычым у яго там яшчэ пляменніца і палова дзяцей ужо ляжачых, уласна кажучы, з галадухі; яны ўжо не ўставалі і былі вельмі слабыя. Сам ён яшчэ ходзіць, жонка — таксама. Ды вось, дае ён нам гэту печачку. А ў нас становішча такое, калі нам ісці дамоў, уласна кажучы, няма чаго, там бацька ляжыць, ён ляжыць мёртвы, і мы не змаглі яго пахаваць, нічога не змаглі зрабіць... А пячнік кажа: «А ведаеце што? А ў нас цяпло, заставайцеся ў нас. Есці і ў вас няма чаго, і ў нас няма чаго, але ў нас затое цяпло».

І мы застаёмся. Мы з мамаю застаёмся. Ён нам сцеле на падлозе, тут жа і яго дзеці, восем чалавек. Гаспадыня прыносіць аднекуль з разбуранага побач дома дровы, і вось печачка ўвесь час гарыць. Усе ляжаць ледзь не покатам. Што можна было абмяркоўваць, як не смачныя рэцэпты? І размова ідзе вельмі доўга — усю ноч. І мы застаёмся ў яго тры дні...

І вось мы застаёмся. І тады вырашаем пайсці паглядзець пошту, пайсці дадому...

— ...А ад каго вы чакалі пошту?

— А ў мяне муж быў на фронце... паглядзець газеты і гэтак далей. Мы прыходзім — газет няма. Прычым тут

высвятляецца, суседзі насупраць кажуць: «Ды вось прыходзіў нейкі вайсковец, забраў газеты. Але мы яму сказалі, што вы памерлі, таму што вас тры дні не было (а гэта ўжо звычайна было: калі тры дні не было чалавека, значыць, ён загінуў).

Але ўсё-такі ён сказаў, што ён яшчэ прыйдзе». Карацей кажучы, гэта, высвятляецца, быў мой муж. Ён зноў прыйшоў. Прыехаў з фронту і без усякіх, канечне, паведамленняў, з мяшком за спіною, са згушчоным малаком, крупамі і гэтак далей. Першае, што мы рашаем,— гэта пайсці да таго печніка. І тут, натуральна, усё вельмі экспромтна. Значыць, мы забіраем туды яду...

І там у яго застаёмся да вечара. Ну... такая крыху сентыментальная гісторыя. Пячнік вельмі задаволены. Ён разумны быў, цікавы дзядзька. Я б сказала, катэгорыя людзей, што нядаўна з вёскі выйшлі, яны аднекуль з вёскі прыехалі. Гэта такія вялікія сем'і... Вось у яго восем чалавек. Ну, і праходзіць шмат часу. А мама мая выкладала ў школе. Пасля блакады мы вяртаемся ў Ленінград,— гэта, напэўна, сорак шосты год,— і мама, натуральна, паступае назад у сваю школу (у Валадарскім раёне). Раптам нейкі хлопец падыходзіць і кажа, што вось... увогуле пачынае гаварыць, што «я вельмі рады вас бачыць», што «тата багата расказваў пра вас». Ну, увогуле высвятляецца гісторыя сям'і печніка: бацька памёр і памерла чацвёра ягоных дзяцей. Засталося чацвёра хлопчыкаў, частка іх засталася.

Гэта было вельмі зварушліва, што ў іх сям'і памяць пра нас і наогул пра ўсю гэту гісторыю,— што мы прыйшлі, мы засталіся, мы з імі размаўлялі, яны прынялі нас быццам бы ў сваю сям'ю, а мы былі такія няшчасныя, увогуле страшэнныя, канечне,— і неяк усё гэта было вельмі зварушліва. Мне не хочацца гэта дэталізаваць...»

Адкрывалі другіх, адкрывалі сябе — з лепшага боку. Блакаднае жыццё, бясспрэчна, агаліла і самыя патаемныя, схаваныя заганы чалавечыя, якія ў звычайным мірным жыцці часта маскіраваліся прыгожымі словамі, абяцаннямі, уменнем спадабацца, быць душою грамадства і ўсякімі іншымі спосабамі. Але адбывалася і адваротнае. За маўклівасцю, рэзкасцю, непачцівасцю раптам адкрывалася такая гатоўнасць памагчы, такая сіла пяшчотнасці, любові, спагады!..

Супрацоўніца Эрмітажа Вольга Эрнестаўна Міхайлава кажа:

«— Блакада нас настолькі моцна звязала, што развязаць гэту сувязь мы не можам і дагэтуль. Блакада раскрывала людзей да канца, людзі заставаліся нібыта голенькімі. Ты адразу бачыў усё станоўчае і адмоўнае ў чалавеку. Добры пачатак, добрыя бакі расцвіталі такімі пышнымі кветкамі! Магу расказаць вам пра Ганну Паўлаўну Султан-Шах, якая працуе ў аддзеле Усходу. Яна і цяпер яшчэ працуе. Яна больш за пяцьдзесят гадоў працуе ў Эрмітажы. Гэта чалавек, які зрабіў для Эрмітажа неймаверна многа. І вось яна ў блакаду ўзяла па сябе клопат пра старых супрацоўнікаў Эрмітажа.

— А ёй колькі было гадоў?

— Яна была сярэдняга веку. (Цяпер ёй восемдзесят з нечым.) Вось як яна за імі хадзіла, як старалася іх захаваць (ну, гэта занадта гучна сказана, але ўсё-такі можна так сказаць): даць гарачы чай, праведаць лішні раз, калі не прыйшоў на працу,— схадзіць выкупіць хлеб, памагчы там што-небудзь зрабіць. А сама ж яна была не ў лепшым становішчы, чым усе. Яна ж не на асаблівым нейкім хлебе была, яна таксама працавала, як і ўсе. Дзіўна, што і цяпер яна засталася такой самай, хоць знешне гэта чалавек нават крыху суровы, не адразу скажаш, што яна такая добрая. А калі чалавек меў якія-небудзь дрэнныя задаткі, ён і заставаўся кепскім, можа, нават рабіўся яшчэ горшым. Прагны, безумоўна, мог старацца выжыць за кошт другога. А той, хто не быў эгаістам, той усё-такі не рабіў гэтак, ён апошнім дзяліўся».

Ужо знаёмая вам Таіса Васільеўна Мяшчанкіна горача пераконвала нас (сама яна перакананa ў гэтым), што блакітныя вочкі ў дзяўчынкі, якая заўсёды так кідаецца з двара ёй насустрач (суседчына дачка),— адтуль, з блакаднага часу. Не т а к і я, а г э т ы я вочкі былі ў дзяўчынкі, якую яна падабрала на снезе...

«— ...Ідзе жанчына, крокаў трыццаць наперадзе, а ззаду за ёй ідзе дзяўчынка. Гэта дзяўчынка падае ўжо і адстае. А дзяўчынцы гадоў пяць. Я іду гэтым бокам, дзе завод «Прагрэс». У мяне дачка ў дзіцячым садзе. А гэтая дзяўчынка паслізнецца, потым устае і зноў караскаецца па гэтай каменнай сцяне. А гэта бабулька (бабулька, можа, такая, як я) азіраецца на яе і зноў ідзе. Чаму яна не бярэ дзіцяці? Я не магла стрываць. Я перайшла дарогу (дом 13 насупраць дзіцячага сада) і бяру гэту дзяўчынку.

А яна вось так глядзіць на мяне. У яе былі нейкія асаблівыя прыгожыя вочы. Гэта дзяўчынка ў шэрым футэрку, у шэрай футраной шапцы. Гэта ў самы моцны мароз. Не ведаю, адкуль у мяне ўзяліся сілы? Я гэтае дзіця бяру на рукі і нясу ў гэты дзіцячы сад, дзе была мая дзяўчынка.

Ніна Мікалаеўна мне кажа:

«Куды вы нясеце?»

«Ніна Мікалаеўна! Я не магла прайсці так міма».

Толькі я яе ўнесла, як яна кажа:

«Я есці хачу!»

А там пахне супам, хлебам. Я кажу:

«Ніна Мікалаеўна! Я інакш не магла, прабачце. Адыміце ад майго дзіцяці паёк, вазьміце гэтую дзяўчынку».

Я не ведаю, чаму я не магла, я больш нічога не зрабіла, толькі вось гэта».

Аднак вернемся ад знаёмага да таго, другога, незнаёмага чалавека, да сустрэчнага.

Хто ён быў, гэты чалавек, які памог работніцы Лідзіі Георгіеўне Ахапкінай цягнуць санкі з рэчамі, а галоўнае — з пасылкаю, дзе былі прадукты, прысланыя мужам з фронту?

Гісторыя Лідзіі Георгіеўны Ахапкінай — гэта асаблівы расказ, шкада парушаць яго цэласнасць, але ж надта пасуе прыклад.

Настаў вечар. Цэлы дзень яна хадзіла, цёгаючы за сабою гэтыя санкі, афармляла свой ад’езд, выратавальную эвакуацыю, і вось цяпер трэба было вяртацца дамоў, з вуліцы Чайкоўскага на Васільеўскі востраў.

«Чамадан і пасылку мне было вельмі цяжка везці, і я выбівалася з апошніх сіл. На вуліцах Ленінграда, як толькі пацямнее, народу зусім не было. Вуліцы былі пустынныя, ціхія, была пурга, з-за яе ісці было яшчэ цяжэй. На дарогах і панелях ляжаў снег. У тую зіму яго ніхто не прыбіраў. Ногі мае застрагалі ў снезе, і я іх ледзь перасоўвала. Часта спынялася, цяжка дыхала. Уся ўзмакрэла, адчувала, што па твары і па спіне бяжыць пот. Пачала лічыць крокі. Раз, два, тры, так да дзесяці, пасля спыняюся, адпачну. І зноў раз, два, тры, зноў спыняюся. Я сябе параўноўвала з загнаным канём, якога б’юць пугаю, а ён не можа зрушыцца з месца. Адзін раз я спынілася, каб адпачыць, а потым зусім не магла нават варухнуцца. На-

валілася на сваю паклажу і з жахам думала, што мне рабіць. Была гадзіна ночы. На дарозе ні душы. Я ішла па набярэжнай Нявы, чым далей ад дамоў: баялася, што хтонебудзь ад дамоў, з-пад варот можа мяне забіць і адабраць пасылку. А бедныя мае дзеці доўга будуць плакаць і, не дачакаўшыся мяне, памруць. Ад гэтых думак у мяне разрывалася сэрца. Яны ўжо з васьмі гадзін раніцы не карменыя, знаходзяцца цяпер у халодным, неацепленым пакоі, у цемнаце. А я тут, на вуліцы, і ніяк не магу да іх даехаць. Што рабіць? Што? Пастукаць каму-небудзь у дзверы і папрасіць дапамогі? Азірнулася вакол — цёмна. Ды хто ўначы пойдзе? Хутчэй прыстукнуць мяне і ўсё забяруць. Не, трэба неяк рухацца самой. Павольна зрушыла з месца санкі. Зноў лічу: раз, два... Раптам аднекуль з'явілася жанчына, падышла да мяне і кажа: «Давайце памагу». Я ўзрадавалася. Яна ўзялася за вяроўку і павезла, а мне загадала штурхаць ззаду. Я за ёю не паспявала. Яна навезла адна. Я расхвалявалася, што яна можа ўцячы. Пачала крычаць: «Спыніцеся, пачакайце!» — але яна ўсё везла не азіраючыся. Я хацела бегчы за ёю, але адразу ж упала. Ляжу і думаю: ну вось, цяпер яна павязе сабе мае санкі, а я тут замерзну. Гляджу — яе ўжо няма. Я ўстала і паціху пайшла, гляджу — мае санкі стаяць, а на іх усё ляжыць як ляжала. Я ўзрадавалася, думаю — дзякуй ёй, дзякуй! Узялася і павезла зноў сама. Даехала да Ліцейнага моста, хацела праз яго праехаць. Задыхаюся, дыхаю цяжка, уся ўзмакрэла, сэрца калоціцца. Але масты ахоўваліся. Стаялі два вайскоўцы з вінтоўкамі і не прапусцілі мяне. Як я іх прасіла, умольвала, плакала! Яны адно толькі паўтаралі: «Нельга!» Яны раілі некуды ў абход ехаць. Але я больш не магла, у мяне зусім не было сіл. Вось тут, каля санак, я замерзну. Значыць, другі раз у мяне зрываецца ад'езд. Тады згубіўся сынок, а цяпер я не магу. Знясіленая і адзінокая, на ўсёй вуліцы ні душы, я паўляжала на санках з гэтага боку Нявы, а дзеці на другім. Ці жывыя яны там? Можа, паўміралі ўжо, клічучы мяне, галодныя, у халодным цёмным пакоі? Ад гэтай думкі я нібы ўджаленая ўскочыла. Трэба з санкамі праехаць па сцяжынцы па Няве, але яе замяло снегам, і я не магу яе дакладна знайсці. Кінула санкі на набярэжнай, спусцілася, паспрабавала новай крыху прайсці, але адразу ледзь не па калені патанула ў снезе. Узнялася наверх. Раптам бачу — едзе грузавая машына. Я пачала крычаць: «Памажыце! Памажыце!» Машына спынілася. Спыталі ў мяне, у чым спра-

ва. Я растлумачыла. Машына была вайсковая. Адзін салдат перакінуў мае санкі, дапамог мне ўзлезці, і мы паехалі. Ехалі нядоўга. Галоўнае — перавезлі мяне па другім мосце. Ім трэба было ў другі бок. Яны спяшаліся па справах. Па іх заклапочаных тварах я зразумела, што ім не да мяне. Але ўсё-такі я ім вельмі ўдзячна. Пасля ўжо я ледзь-ледзь дабралася сама, даехала нарэшце дадому. Ужо была трэцяя гадзіна ночы».

Па сутнасці, праз усю гісторыю Лідзіі Георгіеўна: Ахапкінай праходзіць цэлы ланцужок падобных вызваленняў, выручак, ланцужок, што выцягваў яе, вяртаў да жыцця.

У кожнага быў свой збавіцель. Яны з'яўляліся з цемры прамерзлых вуліц, яны ўваходзілі ў кватэры, яны выцягвалі з-пад руін.

Яны не маглі накарміць, яны самі галадалі, але яны казалі нейкія словы, яны падымалі, падстаўлялі плячо, працягвалі руку. Яны з'яўляліся ў тую самую апошнюю, крайнюю хвіліну, калі чалавек, прысланіўшыся да сцяны, спаўзаў уніз, калі, прысеўшы на прыступку пад'езда, ён ужо не знаходзіў сіл падняцца. Гэта была асаблівая, пагранічная хвіліна паміж жыццём і смерцю, апошняга адзінокага дыхання ў грудзях, як пісаў Твардоўскі, гэта было

то неисходное томленье,
что звало принять покой.

І тут магло дапамагчы толькі нешта збоку, толькі нехта другі мог яшчэ вярнуць чалавека, утрымаць. Патрэбен быў нехта, хто б крышачку дапамог, паколькі «ўсё, што мог, ты асабіста зрабіў; ды ўвесь выйшаў». І нехта прыходзіў, аддаючы свае сілы, і сілы гэтыя часта памагалі адпаўзці ад той цемры апраметнай.

«—Я вось што згадваю,— сказаў Ніл Мікалаевіч Бяляеў,— Я быў на бюлетэні некаторы час — студзень і люты сорак другога года. Схадзіў удзень у паліклініку. Атрымаў «дабро» на тое, што можна ісці на працу. Ну, лячыць мяне, вядома, нічым не лячылі, а проста крыху за гэтыя дні прыйшоў у сябе. Справа ў тым, што ў мяне было не толькі застуднае захворванне. Мяне тады вельмі мучылі нырачныя справы. Я атрымаў на абаронных работах, на акопах, спачатку запаленне нырак, а потым прычапілася нырачна-каменная хвароба, і мяне пачалі апаноўваць ны-

рачныя колікі. Л гэта рэч — калі вы не ведалі, дык лепш вам і не ведаць. Гэта страшэнная рэч. Вось у студзені мяне ўпершыню наведала гэтая з’ява, і я быў на бюлетэні. Пасля таго, як я крыху паправіўся, я вырашыў адразу ж пасля паліклінікі, у той самы дзень, пайсці на працу, праверыць, як і што, таму што я ведаў, што на рабоце ў гэты час амаль нікога не было. Мы працавалі ў гэты час з маім таварышам — добры такі таварыш, пажылы ўжо чалавек, Дзмітрый Іванавіч Вараб’ёў. І мне хацелася наведаць яго, даведацца, як ідуць справы, таму што аднаму чалавеку там цяжка было.

— А дзе вы працавалі?

— У Радыёкамітэце. Гэта тут, на цяперашняй Малой Садовай. Тады называлася вуліца Пралеткульта. Было гэта ў гадзін чатыры ці тры папоўдні. Гэта люты, дваццаць восьмага лютага сорак другога года... Непадалёку ад Маскоўскага вакзала я адчуў, што не дайду. Пад вечар такі мароз закруціў, што я думаю: завалюся, замерзну. Я вырашыў вярнуцца. Павярнуў назад, абмінуў Суворaўскі праспект і быў ужо недалёка ад дому — я жыў на Неўскім, у доме сто пяць. А гэта здарылася каля дома сто адзін. Я прываліўся да сцяны адпачыць. Прываліўся я з такім разлікам, каб не ўпасці. Там стаялі такія адхоны, напоўненыя пяском і зямлёю, якія засланялі ранейшыя вітрыны магазінаў. Я думаў: тут я пастаю, крышачку апрытомнею, направа ці налева я не ўпаду, таму што мяне затрымаюць гэтыя сцены. Але пасля адчуваю — дарэмна я спыніўся. Лепш мне было б сабраць сілы і як-небудзь дапаўзці. Таму што варта было толькі спыніцца і даць нагам спокай, як хваць! — а яны далей і не ідуць! Я тут, значыць, стаю ў горкім роздуме. Як быць? І самым крыўдным мне здавалася, што цераз адзін дом — мой! Я каля сто першага; значыць, сто трэці — і я буду каля сто пятага. Але, на жаль, Неўскі бязлюдны, ледзьве-ледзьве поўзаюць дыстрафічныя людзі. Але, на маё шчасце, падышла нейкая жанчына. Даволі яшчэ маладая, верагодна, у лепшай моцы, чым я. Спытала: «Вы што, грамадзянін?» Я кажу: «Што? Стаю і рухацца далей не магу. А дом п о б а ч».

І вось гэта акалічнасць, што я сказаў «д о м п о б а ч», паўплывала станоўчым чынам. Калі б я жыў дзесьці далёка, яна, канечне, не стала б са мною звязвацца. А паколькі гэта было праз адзін дом, яна сказала: «Ну, я цяпер паспрабую вас давесці. У вас там ёсць хто-небудзь?»

Я кажу: «Дома павінна быць маці». (Маці яшчэ была жывая ў той час.) І яна ўзяла мяне пад руку. Я абхапіў яе за плячо. Паступова-паступова, значыць, дабрылі да дому. Падняла яна мяне, так сказаць, па лесвіцы да трэцяй пляцоўкі. Пазваніла. Канечне, не ў электразванок, а патузала. Электрычнасці ў гэты час не было. Здала проста з рук у рукі маці. Маці спярша спалохалася: што ж гэта такое? Думала, што я ўжо зусім кепскі. Але калі ўжо зайшоў у кватэру, яна бачыць, што я ў такім стане, у якім быў усе гэтыя месяцы. (Яна была крыху ў лепшым стане, чым я ў той час.) І ўзрадавалася. Падзякавала гэтай жанчыне. Дзверы зачыніліся. Калі мы крыху ачухаліся, у пас узнікла думка: як жа гэта я не спытаў нават, хто яна, гэта жанчына, адкуль? Ці тутэйшая яна? Альбо прыезджая аднекуль ці карэнная ленінградца? Таму што мне хацелася пасля яе ўбачыць і як-небудзь аддзячыць літаральна за выратаванне мне жыцця. Але тады, шчыра кажучы, не надта вялікая была надзея на гэта. Таму я і перастаў аб гэтым тужыць. Думаю, напэўна, мне не выжыць, а можа, і яна ў такім становішчы, як я, усё роўна яе не ўбачыш».

Што можа быць прасцей, натуральней, чым памагчы падняцца чалавеку, давесці яго дамоў? Калі гэтага не робяць сёння, дык толькі з прычыны нейкай ганебнай абыякавасці, чэрствасці, подлага эгаізму. Ніхто цяпер не можа ўявіць, што чалавек пройдзе міма проста ад бяссілля, што ў некага не знойдзецца сіл працягнуць руку, пагнуцца. І ў галаву не прыйдзе ўявіць, што чалавек хоча дапамагчы — і не здольны гэтага зрабіць. Уявіць, як гэта было цяжка, можна лепш за ўсё з расказаў не тых, хто дапамог, а хто не здолеў дапамагчы. Менавіта яны адкрылі нам усю непасільнасць гэтага, здавалася б, такога найпрасцейшага парыву.

Былая трамвайшчыца Варвара Васільеўна Сямёнава:

«— Неяк я ішла з Петраградскай стараны. І ўпаў дзядзька. Ведаеце, такі, відаць, быў салідны, высокі мужчына. І ляжыць. Ён крычаць не можа, толькі вось так рукамі паказвае. Падышла. Ну а што? Я адна нічога не магу зрабіць. Пешаходы праходзяць, праходзяць. Усе такія, ведаеце, страшныя, што саміх трэба было б, каб хто

падтрымаў. Пасля неяк іду, а наперадзе жанчына. Упала яна. Худзенькая такая! Гэту я падняла сяк-так. Яна сама крыху паспрыяла, і я падняла яе. Яна просіць: «Давядзі мяне да тых вунь парадных дзвярэй». Я кажу: «Не, даражэнькая! Скажы дзякуй, што я цябе падняла. Я сама, кажу, завалюся, і мяне ніхто не падыме. Я падняла, давай-ка ідзі!» А слізка! Не тое, каб не пасыпалі, але і лёд наогул не сколвалі. Вось так.

— А куды ж вы ішлі?

— Я на Крастоўскі хадзіла. Тады ж усе толькі пешшу. А я хадзіла чаму? Таму што дроў не было зусім. Л ў мяне брат быў кравец, і ў яго стол быў доўгі такі, нібыта варштат. Дошкі тоўстыя такія. Я дошкі памаленьку адтуль цягала. І ўнук пойдзе і аднекуль якіх-небудзь палачак прынясе. І вось буржуйку палілі і па ёй сушылі сухарыкі. Кожны сваё месца займаў. Пойдзе адзін, другі садзіцца. Абавязкова сушылі сухары.

— Навошта сушылі?

— Сушылі таму, што думалі, што гэтак спарней будзе. Кладзём сухары і наліваем кіпетню гарачага, соль, крышачку перцу і п’ём гэтую ваду. Потым яшчэ адзін кубак вады вып’еш і потым ужо бярэш размочаныя сухары ў якасці другой стравы. І гэта настолькі ўелася, што і пасля блакады так елі — спачатку рэдкае з талеркі, а потым густое».

Была і нячуласць, была чэрствасць, кралі карткі, вырывалі з рук кавалак хлеба, абіралі паміраючых («Паміраць — дык памірай, толькі карткі аддай!»), усякае было, але здзіўляе не гэта, здзіўляе тое, як многа было выратаванняў, падобных на бяляеўскае! Такіх расказаў мы пачулі мноства. Колькі іх было — невядомых прахожых! Яны знікалі, вярнуўшы чалавеку жыццё; адцягнуўшы ад смяротнага краю, знікалі бясследна, нават іхняе аблічча не паспявала адбіцца ў памутнелай свядомасці.

Здавалася, што ім, невядомым прахожым,— у іх не было ніякіх абавязкаў, ні сваяцкіх пачуццяў, яны не чакалі ні славы, ні платы. Спагада? Але вакол была смерць, і міма трупаў ішлі раўнадушна, здзіўляючыся сваёй ачарсцвеласці. Большасць кажа пра сябе: смерць самых блізкіх, дарагіх людзей не даходзіла да сэрца, бо ў арганізме ўжо дзейнічала нейкая ахоўная сістэма, нішто не ўспрымалася, не было сілы адгукнуцца на гора.

І ўсё-такі адгукаліся. Абвастрылася другое пачуццё — грамадзянскае, а апрача таго горад-фронт нараджаў салдацкае пачуццё ўзаемавыручкі. Кожны ў нейкай ступені адчуваў сябе франтавіком, і памагаў ён не проста прахожаму, што ўпаў, а свайму аднапалчаніну. Армія змагалася побач, дзесьці каля трамвайнага кальца, і законы воінскага гонару ператвараліся агульнымі законамі горада.

«...у кожнай кватэры нябожчыкі ляжалі. І мы нічога не баяліся. Раней хіба вы пойдзеце? Непрыемна ж, калі нябожчыкі... Вось у нас сям'я вымерла, дык яны так і ляжалі. І калі ўжо прыбралі ў хляўчук!» (М. Я. Бабіч).

«У дыстрофікаў няма страху. Каля Акадэміі мастацтваў на спуску да Нявы скідвалі трупы. Я спакойна пералазіла цераз гэтую гару трупаў... Здавалася б, што чым слабейшы чалавек, тым яму страшней, а вось і не, страх знік. Што было б са мною, каб гэта ў мірны час,— памерла б ад жаху. І цяпер жа: няма святла на лесвіцы — баюся. Як толькі паелі — страх з'явіўся» (Ніна Ільінічна Лакша).

Увесь запас душэўнасці, што захаваўся, аддавалі жывым.

Нейкае асаблівае ўладнае пачуццё прымушала людзей падаваць руку тым, хто спаўзаў у нябыт. Давесці дамоў — па тых часах гэта быў подзвіг. Падчас гэта было адзінае, што мог зрабіць чалавек чалавеку. На гэту самаахвярнасць часта траціліся апошнія сілы. Такая простая рэч, здаецца, самая элементарная, была, магчыма, адной з найвышэйшых праяў чалавечнасці. Дзеля чаго гэта рабілася? Дзеля сябе, сваёй душы, дзеля таго, каб адчуваць сябе чалавекам. Дзеля таго, каб выстаяць, не паддацца ворагу.

Невядомы Прахожы — прыклад масавага альтруізму блакады. Ён агаляўся ў крайнія дні, у крайніх абставінах, але тым праўдзівейшая яго прырода.

Большасць збавіцеляў засталася невядомай. Але некаторыя выяўляліся. Рысы іхнія праступалі слаба і выпадкова ў расказах, якія, па сутнасці, толькі называлі, толькі намячалі лёс, што заслугоўвае даследавання, падрабязнай гісторыі.

Яго спярша называлі Мікалай Іванавіч. Здаецца, Лебедзеў. Напэўна, Лебедзеў. Дзіцячая памяць ненадзейная. Ірыне Кірэевай (цяпер работніцы Эрмітажа) было тады чатырнаццаць гадоў. Яна не ўяўляе, колькі было там дзя-

цей, у стацыянары, які арганізаваў Лебедзеў. Ён хадзіў і збіраў па Дзяржынскім раёне знясіленых дзяцей, бясконца стараўся, здабываючы ім нейкія маленькія дадатковыя пайкі.

«— Мы выратаваліся, таму што са стрыечнаю сястрою апынуліся ў бальніцы ў Мікалая Іванавіча. Ён засяліў абсалютна ўсе цёплыя памяшканні, якія можна было ацяпляць. Памятаю, калі прывозілі дзяцей, яны часта ўжо не маглі есці, такія былі знясіленыя. Мяне ўразіла і тое, што ў тры з паловай гады дзеці сталі зусім дарослымі... Гэта было жахліва. Гэта снежань, тут ужо быў голад. У верасні — кастрычніку нас запальнымі бомбамі закідвалі. Тады мы, дзеці, яшчэ дзяжурылі на дахах. Да гэтага ставіліся лёгка. Неяк усё было цікава... Цяпер ужо настала іншае. Памятаю, прывезлі дзяцей-блізнятак...
І вось бацькі прыслалі ім маленькую перадачку: тры пернікі і тры цукеркі. Сонечка і Сярожка — так звалі гэтых дзетак. Хлопчык сабе і ёй даў па перніку, трэці пернік падзялілі папалам. Застаюцца крошкі, ён аддае крошкі сястрычцы. А сястрычка кідае яму такую фразу: «Сярожачка, мужчынам цяжка пераносіць вайну, гэтыя крошкі з’еш ты». Ім было па тры гады.

— Па тры гады?!

— Яны ледзь-ледзь размаўлялі, так, тры гады, такія крошкі! Прычым дзяўчынку пасля забралі, а хлопчык застаўся. Не ведаю, выжылі яны ці не...»

Пра яго варта б дазнацца падрабязней — хто ён быў, Мікалай Іванавіч Лебедзеў?* Як ён усё гэта рабіў? Сабраць тое, што яшчэ не канула ў вечнасць: гэта ж чалавек, які выратаваў сотні дзяцей.

Іх сустракалася нямала ў розных расказах — работнікаў РАНА, урачоў, настаўнікаў, байцоў камсамольскіх атрадаў, тых падзвіжнікаў, збавіцеляў, каму абавязаны жыццём ленінградцы. Шмат хто з іх заслужылі спецыяльнай аповесці, трэба было адшукаць матэрыялы пра іх, але мы паспявалі толькі падхапіць гэтыя мільгацеўшыя перад намі імёны, адцягнуць хоць так ад патоку забыцця...

* Пасля публікацыі ў часопісе «Новый мир» мы атрымалі ліст ад Д. Г. Басанеўскай, дзе яна піша: «Я вельмі добра ведала Мікалая Васільевіча Лебедзева (а не Іванавіча, як напісана)... гэта быў цудоўны чалавек і ўрач...»

Ратавалі людзей па-рознаму.

Дапамагала часам самае-самае найсціплейшае пасільнае спачуванне. М а р ы я  А н а н ь е ў н а Ш ч а л ы в а н а в а перад вайною ўсынавіла хлопчыка Валерыя, пра якога, зрэшты, будзе яшчэ асобны расказ. Сама яна працавала ў домакіраўніцтве, аніякіх дадатковых магчымасцей, як кажуць, у яе не было. А меўся яшчэ толькі абавязак донара, які ўсклала яна на сябе, каб чым-небудзь яшчэ памагаць фронту.

«А было гэта вось так. Калі я вярнулася, Валерый, канечне, адразу да мяне прыйшоў: «Цёця Муся! Я ўжо да вас».— Ну, кажу, давай, ладна. Больш таго, у майго мужа была пляменніца. Яна была студэнткаю Тэхналагічнага інстытута. Яна ўжо была на трэцім курсе і выйшла замуж. Муж быў інжынер, яго паслалі ў Барнаул, яны нажылі ўсяго толькі тры месяцы. І вось гэта Ніна была паслана на акопы. У мяне Валерык у пакоі (а пакой дванаццаць метраў, меншы, чым гэты), і вось цяпер Ніна. Увогуле, яна жыла ў інтэрнаце, дзе Лясное, але яна туды не пайшла, а прыйшла да мяне. Яна з Новасібірска. У яе такі шырокі твар быў, нярускі крыху, і вельмі густыя чорныя косы. І вось гэта Ніна прыходзіць — сапраўдны дыстрофік, ні шчок, нічога няма, так яна змянілася на гэтых акопах. Нават размаўляць не магла. Я кажу: «Ніна, а карткі ў цябе ёсць?» Яна кажа: «Ёсць картачкі».— «А хлеб ты выкупіла?» — «Я, цёця Муся, за тры дні наперад усё з’ела». За тры дні! А ў мяне толькі штодзённае, я не дазваляла сабе браць наперад. Я кажу: «Ну добра, Ніна, распранайся, будзеш у мяне жыць».

Вось, значыць, Валерый, а цяпер Ніна. А ў мяне якія запасы прадуктаў былі? Зараз я вам раскажу. Я запасаў, як другія людзі, не рабіла. У мяне нават захоўваць іх не было дзе. У мяне і шафа была такая камбінаваная. Увесь час я легкадумна жыла — ніколі не было ніякіх запасаў. Але вось аднойчы, яшчэ ў першыя дні, я іду, і латочніца прадае рыс у пакетах па паўкілаграма. Нікога не было. Я падыходжу, кажу: «Можна паўкіло?» Яна кажа: «Можна». Я бяру паўкіло. Пасля я нібыта застыла і думаю: можа, яна дала б мне яшчэ? Не, думаю, я вазьму лішняе, а другому не дастанецца. І я рашуча адправілася дадому і закінула гэты рыс як НЗ за печ, высока, далёка, каб не дастаць. Ну вось, гэтая Ніна проста-такі, ведаеце, як ненармальная ад голаду, проста не ведаю што. Я кажу: «Ніна, я цябе тры дні буду карміць сваім хлебам (я

атрымлівала як донар рабочую картку, але я яшчэ дзялілася з Валерыем) я выраўняю тваю картку, і ты будзеш, як усе».

— А донарам давалі што-небудзь яшчэ, апрача хлеба?

— Вы ведаеце, у гэты час нічога не давалі. Ніна прыйшла да мяне ў кастрычніку. Тады — увесь сорак першы год — нічога больш не давалі, толькі картку хлебную рабочую... Вось я яе так выраўняла. Яна ўвесь час такая дзіўная хадзіла і казала, каб сабаку купіць. Я кажу: «Навошта гэта ты, Ніна, сабаку хочаш купіць?!» — «А я хачу яе з'есці». Вось яна па рынках і хадзіла.

Ну, суседкі ў нас былі пажылыя, яны вельмі курылі і яе навучылі курыць. Вось пра гэтых суседак я таксама раскажу. Яны былі старыя дзеўкі. Яны хлеб мянялі на курыва. Яны бачылі, што я і Валерыю дзялю хлеб, і Ніне. Вось яны думалі, што Марыя Ананьеўна неяк адметна ўсё гэта ўмее рабіць. Настасся Аляксееўна нават сказала: «Якая Марыя Ананьеўна прадбачлівая! Каб мы ведалі, што донарам будуць даваць картку рабочую, мы б таксама пайшлі ў донары». І вось аднойчы яны мяне проста збянтэжылі: у іх было такое блюда вялікае, спецыяльна для хлеба; яны паклалі вось такусенькі кавалачак хлеба свой і нясуць удзвюх гэтае блюда з вось такім нажом і кажуць: «Марыя Ананьеўна, вы гэтак добра ўмееце хлеб дзяліць. Мы ўсё з Ленаю гаворым, як вы ўмееце хлеб дзяліць. Вось падзяліце нам гэты хлеб». Я, канечне, не падаю выгляду, што ніяк асабліва я не магу дзяліць, кажу: «Давайце». Бяру нож і рэжу: «Вось гэта вам на раніцу, гэта па абед, а гэта на вечар».— «Дзякуй, Марыя Ананьеўна, вялікі дзякуй!» І панеслі тое блюда. Пасля гэтыя бабулькі перабраліся да брата па Савецкую і там паўміралі з голаду. Гэта былі пашы суседкі. Харошыя былі ў нас суседзі. Мы дружна жылі — пяць пакояў, дванаццаць чалавек. Мы ніколі адно аднаму нават рэзкага слова не сказалі».

Зноў: усяго толькі хлеб падзяліць, разрэзаць на тры кавалачкі, па сутнасці, толькі знак, рух насустрач. І гэта падтрымлівала, выручала.

«— А з Нінай жа, ведаеце, што атрымалася? Пра рыс я не расказала? Яна аднаго разу ў мяне захварэла... Ага, я не сказала, што ў мяне брат ад голаду памёр, у жонкі. І я вось як яго хавала. Як гэта страшна! Можа, вы пасля дазволіце мне расказаць?

— Канечне. Але спачатку пра Ніну.

— Спачатку пра Ніну? Добра. Ніна хадзіла па рынках, хацела штосьці купіць там, але я пра гэта не ведала. Аднойчы яна атруцілася і пачала паміраць: валасы падняліся, потым пазногці пасінелі. Яна памірае! А я толькі пахавала брата. Адвезлі яго на гэтыя могілкі страшэнныя, на Смаленскія, дзе я бачыла столькі нябожчыкаў! Мяне такі жах ахапіў, што я яе таксама буду хаваць! У яе з жыватом стала кепска, ванітаваць пачало. Я кажу: «Ніна, што ты з’ела? Раскажы, у чым справа?» І вось яна мне кажа: «Прабачце мне, цёця Муся, я пайшла на рынак і купіла там кавалак — вось такусенькі — масла і там жа яго і праглынула, гэтае масла». Высветлілася, што гэта было мыла, толькі зверху памазанае маслам. І яна яго праглынула. І вось яна памірае! Тады, канечне, «хуткай дапамогі» не было. І тут я прыгадала той рыс, што купіла паўкіло. Якія тут лекі? Чалавек памірае, ужо рукі сінія. Я бяру гэты рыс, адварваю яго. Дала ёй узвар гарачы, і яна яго выпіла, а пасля і ўвесь рыс з’ела. І вось дагэтуль... Зараз пакажу яе фотакартку!»

Тыя, хто ратаваў, тыя, хто за некага клапаціўся, некаму памагаў, вызваляў і кагосьці цягнуў, тыя, на кім ляжала адказнасць, хто з апошніх сіл выконваў *свой абавязак* — працаваў, даглядаў хворых, сваякоў,— тыя, як ні дзіўна, выжывалі часцей. Зразумела, правіла тут няма. Паміралі і яны. І выжывалі ўсякія махляры. Кіраўскі райком партыі вылучыў на пачатку 1942 года Ганну Аляксандраўну Кандрацьеву загадваць райаддзелам аховы здароўя. Сакратар райкома В. С. Яфрэмаў прасіў перш за ўсё звярнуць увагу на дзіцячыя яслі, па дзяцей. Ганна Аляксандраўна — патомная пуцілаўка. Усе яе родныя былі звязаны з Кіраўскім заводам. У агульным ліку, як яна падлічыла, яны адпрацавалі там больш трохсот гадоў.

Яна пачала з ясляў Кіраўскага завода. Высветлілася, што нехта дазволіў «на базе ясляў харчавацца шэрагу супрацоўнікаў». Атрымлівалася так, што дзеці паміралі, а сваякі супрацоўнікаў «харчаваліся». І ў туберкулёзным дыспансеры таксама адбываліся крадзяжы...

Сярод людзей адбывалася быццам бы палярызацыя. Альбо рабіць паводле сумлення, паводле справядлівасці, нягледзячы ні на што, альбо выжыць любою цаной, любымі спосабамі, за кошт бліжняга, роднага, каго папала.

Ставіліся ў найцяжэйшыя выпрабаванні ўсе чалавечыя пачуцці і якасці — каханне, шлюб, сваяцкія сувязі, бацькоўства, мацярынства.

Асаблівую гісторыю расказала нам Марыя Васільеўна Машкова. Ёй было даручана ў 1941 годзе эвакуіраваць дзяцей супрацоўнікаў Публічнай бібліятэкі, аднак дарогу перарэзалі, і хутка ёй давялося вярнуцца з дзецьмі ў Ленінград.

«...У ліку дзяцей, з якімі я выязджала, быў хлопчык нашай супрацоўніцы — Ігар, чароўны хлопчык, прыгажун. Маці яго вельмі пяшчотна, са страшэннай любасцю апякала. Яшчэ ў першай эвакуацыі казала: «Марыя Васільеўна, вы таксама давайце сваім дзеткам казінае малако. Я Ігару бяру казінае малако». А мае дзеці размяшчаліся нават у другім бараку, і я ім старалася нічога не ўдзяляць, ні грама звыш вызначанага. А потым гэты Ігар згубіў карткі. І вось ужо ў красавіку месяцы я іду каля Елісееўскага магазіна (тут пачалі ўжо выпаўзаць на сонейка дыстрофікі), і я бачу — сядзіць хлопчык, страшэнны, ацёчны шкілецік. «Ігар? Што з табою?» — кажу. «Марыя Васільеўна, мама мяне выгнала. Мама мне сказала, што яна мне больш ні кавалачка хлеба не дасць».— «Як гэта так? Не можа гэтага быць!» Ён быў у цяжкім стане. Мы ледзьве ўскараскаліся з ім на мой пяты паверх, я яго ледзьве ўцягнула. Мае дзеці ў той час ужо хадзілі ў дзіцячы сад і яшчэ трымаліся. Ён быў такі страшны, такі мізэрны! І ўвесь час казаў: «Я маму не асуджаю. Яна робіць правільна. Гэта я вінаваты, гэта я згубіў сваю картку».— «Я цябе, кажу, уладкую ў школу» (якая павінна была адкрыцца). А мой сын шэпча: «Мама, дай яму тое, што я прынёс з дзіцячага сада». Я накарміла яго і пайшла з ім на вуліцу Чэхава. Заходзім. У пакоі страшэнны бруд. Ляжыць гэтая дыстрофная, ускудлачаная жанчына. Убачыўшы сына, яна адразу закрычала: «Ігар, я табе не дам ні кавалка хлеба. Ідзі прэч!» У пакоі смурод, бруд, цемната. Я кажу: «Што вы робіце?! Засталося ж усяго якіх-небудзь тры-чатыры дні,— ён пойдзе ў школу, папраўіцца».— «Нічога! Вось вы стаіце на нагах, а я не стаю. Нічога яму не дам! Я ляжу, я галодная...» Вось такое пераўвасабленне з пяшчотнай маці ў такога звера! Але Ігар не пайшоў. Ён застаўся ў яе, а потым я даведалася, што ён памёр.

Праз некалькі гадоў я сустрэла яе. Яна была гнятучай, ужо здаровай. Яна ўбачыла мяне, кінулася да мяне,, закрычала: «Што я нарабіла!» Я ёй сказала: «Ну што ж цяпер гаварыць пра гэта!» — «Не, я больш не магу! Усе думкі пра яго». Праз некаторы час яна скончыла самагубствам».

Распад чалавечай асобы канчаўся трагічна.

Амплітуда чалавечых эмоцый у блакаду ўзрастала надзвычайна — ад самых цяжкіх падзенняў да найвышэйшых праяў свядомасці, любові, адданасці.

Вельмі часта, калі мы дапытваліся, як выжылі, якім чынам, якім спосабам, што спрыяла, дык высвятлялася — сям'я згуртавалася, дапамагалі адзін аднаму, змаглі стварыць ва ўстанове, на прадпрыемстве калектыў, нехта патрабаваў, прымушаў падпарадкоўвацца дысцыпліне, не дазваляў апускацца. Маці Марыны Ткачовай прымушала дзяцей усю блакаду чысціць зубы. Не было зубнога парашку — чысцьце драўляным вугалем. Многа значыла для гэтай сям'і тое, што не быў з'едзены кот. Ратавалі ката. Страшэнны ён стаў, увесь абгарэлы, таму што цёрся бакамі аб распаленую буржуйку. Але не з'елі. І гэта — паводле чыста дзіцячай, захаванай з тых гадоў гордасці — першае, што паведаміла ў сваім расказе Марына Аляксандраўна Ткачова. І такое таксама падтрымлівала, падымала самапавагу людзей. З самых розных гісторый і выпадкаў пераконваешся, што для большасці ленінградцаў існавалі не спосабы выжыць, а хутчэй спосабы жыць.

## БРАТЫ МЕНШЫЯ

Мы пераканаліся, што блакадная памяць здольна ўтрымаць многае. І на многія гады. Патрэбна толькі гатоўнасць спытаць у яе праўду, выслухаць праўду. Усю праўду. Хаця б праз трыццаць пяць, праз сорак гадоў.

Але калі памяць захоўвае выбарачна, штосьці рэтушыруе, ад нечага адмаўляецца забываннем, дык дзённікі

абыякавыя да часу. Гады нічога не могуць зрабіць з імі. У дзённіках важным з'яўляецца асоба аўтара, тое, наколькі ён быў бясстрашны.

У дзённік настаўніцы Ползікавай-Рубец К. У. упісаны старонкі з дзённіка школьніцы. Тыя, якія паказала ёй дзяўчынка па імені Валя: мелася на ўвазе, што Валя прачытае іх на школьным ранішніку 30 красавіка 1942 года. У Валіным дзённіку запісаны падзеі, зусім яшчэ блізкія па часе і ўсім, хто павінен быў яе слухаць, знаёмыя з уласных перажыванняў.

Але глядзіце, колькі хваляванняў у сувязі з гэтай ідэяй: прачытаць, паслухаць тое, што ўсе яны, і чытальнік, і слухачы, ведаюць, памятаюць і без дзённіка.

«Хвалююся неймаверна,— запісвае Ксенія Уладзіміраўна.— Як пойдзе ўся гэта справа? Дзеці страшэнна зацікаўлены, але што скажа ГарАНА? Мы любім усё прыхарошваць. Асабліва хвалюе Валін дзённік. Яна прыйшла да мяне з ім і сказала: «Я прачытаю толькі тое, што змагу. Усё я не змагу прачытаць». Я, вядома, не пастойвала».

«Валя дае дзённік непасрэдна Лебедзеву (работнік Інстытута гісторыі партыі.— *А. А., Д. Г.).* Мне яна кажа: «Там вельмі, вельмі цяжкія рэчы». Вочы поўныя слёз, і яны павольна сцякаюць».

*3.V.1942.* Даю ўрок у VIII класе,— працягвае настаўніца Ксенія Уладзіміраўна Ползікава-Рубец.— Пачынаецца абстрэл, і вучні прыкметна нервуюцца. Гэта вынік 1-га Мая*. Дагэтуль яны пераносілі ўсё спакойна. І я лаўлю сябе на думцы, што магчымасць смерці стала больш рэальнаю.

Валя працягвае мне сшытак. «Прачытайце і рашыце, ці даваць мне гэта».

Тоненькі брудны сшытак. На вокладцы напаўсцёрты эпіграф. Разабраць яго я не магу.

Прыводжу тыя выпіскі, якія яна дапамагла мне прачытаць.

*«9.X.41 г.* Такім чынам, пачынаю апісанне працякаючага жыцця і падзей. Магчыма, заўтра пачнуцца заняткі ў школе. Я з нецярплівасцю чакаю гэтага жаданага дня, калі прыступім да заняткаў.

Сумна!

Адна ўцеха — ірландскі сетэр Сільва. Збіраюся ў клуб

* 1 Мая немцы асабліва раз'юшана абстрэльвалі горад.

Сувязі глядзець, але... дарэмна, ісці не магу, многа там «народу». Непажаданых мне манер.

***15.X.*** За мінулы нас я нямала перажыла.

Сільву вырашылі забіць — і як!

Аляксандр Пятровіч вырашыў пакончыць з ёю так: спачатку аглушыць малатком, а пасля зарэзаць, але атрымалася не тое, што чакалася, а менавіта: Сільва моцна завішчала, і, каб пазбегчы моцнага шуму, А. П. не стаў яе біць».

Забіць мы яе хацелі, з аднае прычыны, дзеля мяса, а з другой — што яе няма чым карміць. Калі яе забівалі, я ўся перахвалявалася. Сэрца так моцна білася, нібы хацела выскачыць з грудзей.

Пасля мы ўжо прыдумалі спосаб: вырашылі забіваць катоў і карміць яе іх мясам.

А. П. аднаго забіў, я злупіла скуру, вытрыбушыла яго і разрэзала на кавалкі. А другія каты з такім задавальненнем разрывалі мяса свайго суродзіча, што дзіўна было глядзець.

Я таксама паважылася паспрабаваць смак кацінага мяса, падсмажыла з перцам і часнаком, а пасля пачала жаваць... і што ж, мяса аказалася даволі смачным, бадай што не ўступіць і ялавічыне, а смак — нібыта ясі куру.

***20.X.*** Я цяпер выдатна разумею, што такое голад. Раней я сабе дакладна не ўяўляла гэтага адчування. Праўда, мяне крыху нудзіць, калі я ем кацінае мяса, але паколькі я хачу есці, дык і агіднае здаецца смачным. А хіба я адна такая галодная? Хто ж у гэтым вінаваты? Я ніколі не была злою. Я імкнулася ўсім зрабіць што-небудзь добрае. А цяпер я ненавіджу гэтых подлых немцаў за тое, што яны так сапсавалі наша жыццё, знявечылі горад. Горад пусцее.

***3 лістапада 41 г.*** Сёння мы пайшлі вучыцца. Якая я радая! Абяцалі карміць абедам і даваць 50 гр. хлеба ў дзень без картак. Настаўнікі ўсе новыя...

Бедную маю Сільву хочуць усыпіць. Шкада.

***8.XI.41 г.*** Учора было свята. 24-я гадавіна Кастрычніка.

Немцы не бамбілі, аж не верыцца.

Пакуль вучуся. Па геаметрыі атрымала добра. Настаўніца на рускай мове ўвесь час падбадзёрвае нас. Яна кажа, што да Новага года вайна скончыцца. А ці ж праўда гэта? Цяпер вельмі цяжка.

А. П. вельмі злуецца, што няма чаго есці. А пры чым

тут я і мама. Дзе ж мы возьмем. Адна надзея, давядзецца засаліць Сільву. Яе надоўга хопіць. А мне яе шкада.

Што рабіць?

***12.XI.*** Абеды ў школе перасталі даваць. Усё па картках. Становішча цяжкае. Хлеба, напэўна, заўтра збавяць, атрымаем па 150 гр. У мамы таксама амаль нічога не дастанеш. Настаўнікі раяць зацягнуць тужэй паясы. Горад у акружэнні. Засалілі ката. Сільва яшчэ жыве. Верагодна, хутка і яе засолім. Ад Аліка зусім няма лістоў. Зараз пайду абедаць да мамы. Пакорміць ці не? Не ведаю.

***15.XI.*** Пакуль з вучобаю ўсё нармальна. Маю дзве чацвёркі і адну пяцёрку, а троек няма. З ядою вельмі блага. Сёння ў роце не было ні крошкі да 3-х гадзін. А пасля з'ела адну талерку рэдкай кіслай капусты без хлеба і выпіла два кубкі чаю з цукеркай за 4 руб. 20 кап. кілаграм. Галава кружыцца ад недаядання. А што будзе далей?

Трэба ўсё-такі вучыцца як мага лепш, усё ж гэта залічыцца на дарозе будучага жыцця! Трэба быць мужнай! Быць вынослiваю і пакуль цярпець. Іншага выйсця няма.

***13.XII.41 г.*** Нарэшце я выбрала свабодную хвілінку, каб запісаць свае думкі і жаданні.

Колькі адбылося перамен за гэты прамежак часу! Колькі бедаў здарылася! Колькі перанесена цяжкіх мінут!

Маю бедную Сільву ўкралі і з'елі. Пра катоў цяпер гавораць як пра ласунак (але, на жаль, іх няма). Аляксандр Пятровіч аказаўся вельмі агідным чалавекам: несвядомы, вымагае з усіх усё, клапоціцца толькі адно пра сябе, абібок, крывадушнік, падліпала і пляткар (карацей, з усімі адмоўнымі якасцямі). Я яго зразумела, зразумела яго і мама. Але ж як пазбавіцца ад яго? Ён вельмі злы і можа забіць ні за што ні пра што (як кажуць).

Мы збіраемся ўцякаць з горада (не з-за боязі нямецкіх бамбёжак і голаду, а каб ад яго пазбавіцца). Мама хварэе, зрабілася нібы цень. Яна ўсё стараецца для пас з айчымам, сама не з'есць, часам паціху плача. Я ведаю, што яна непакоіцца пра Аліка, ад яго няма ніводнага ліста. Я намагаюся падтрымліваць яе. Няўжо яна не выжыве? Я баюся пра гэта думаць. Наша мілая і дарагая суседка Пелагея Лукінічна выехала. Я радая за яе і ад душы жадаю ёй шчасця за яе дабрыню. Гэта ж выключны чалавек! Яна абяцала пахадайнічаць і наконт нашага ад'езду. Хачу ўсё кінуць! Выехаць на поўдзень і там жыць ціхім і мірным жыццём, як пустэльнік!

***18.XII.*** Нядаўна мне хацелася выехаць з горада. Вы-

ехаць і жыць, як «пустэльнік». Ну, ці не бязглузда гэта? А як жа вучоба? Паўгода ж усё-такі правучылася! Ці справядлівая я, ненавідзячы айчыма? Не магу сама разабрацца. Чаму я клапачуся пра ўсіх, а ён толькі пра сябе? Гэта агідна мне. А можа, голад зрабіў яго такім? Да вайны ж ён быў не такі. Ён хацеў замяніць мне бацьку! О! Каб я магла, дык прыдумала б Гітлеру жудасную смерць. Ён вінаваты ва ўсім. Ён віноўнік вайны, а вайна калечыць людзей.

***25.XII.41 г.*** Сёння выключны дзень! Прыбавілі хлеба на 75 гр. Мне належыць цяпер 200 гр. і таксама маме 200 гр. Якое шчасце. Усе такія радыя, што ад шчасця ледзь не плачуць! Айчым сёння невыносны. Мне сорамна грубіць яму, але я не магу больш. Ён з'еў увесь хлеб свой, а пасля мамін і мой. Сённяшняя прыбаўка для нас не існуе.

Ненавіджу яго! I но разумею, як можна гэтак подла рабіць.

***29.XII. 41 г.*** Кажуць, што шчасце не заўсёды спадарожнічае чалавеку. Так, часткова гэта правільна, але сёння ў мяне дзень шчасця! А чаму? Радуюся смерці майго айчыма Кукліна. Я так чакала гэтае хвіліны! Я яго страшэнна ненавідзела. Голад раскрыў ягоную брудную душу, і я яго пазнала. О, гэта страшэнны падлюга, якіх мала. I вось сёння ён памёр. Памёр ён увечар. Я была ў другім пакоі. Бабка прыйшла і сказала: «Ён памёр!» А я спярша не паверыла, а потым мой твар сказіўся ў жахлівай усмешцы. О! Каб хто толькі бачыў выраз майго твару ў гэту мінуту, дык сказаў бы, што я ўмею Жорстка ненавідзець. Ён памёр, а я смяялася. Я гатовая была скакаць ад шчасця, але сілы ў мяне былі слабыя. Голад зрабіў сваю справу. Я не магла нават добра рухацца».

Няшчасная дзяўчынка нібыта сама ўбачыла сваю жахлівую ўсмешку... Так, паводзіны айчыма, які шмат што растраціў пад прыгнётам голаду, былі прамой прычынаю яе нянавісці. Але ўсмешка, што напалохала саму дзяўчынку, таксама і ад тых страт, якія непрыкметна панесла і сама Валя. I катоў, якіх яна трыбушыла, і замах сям'і па жыццё любіміцы Сільвы — усё мела сваё значэнне. Справа не ў тым, ці ядомыя, ці «смачныя» «меншыя браты» пашы. А ў тым, што яны — таксама наша «прадполле». Без ч а л а в е ч ы х адносін да іх мы не зусім людзі...

Лёс жывёл блакаднага Ленінграда — гэта таксама частка трагедыі горада. *Чалавечая* трагедыя. А інакш не вытлумачыш, чаму не адзін і не два, а ледзь не кожны дзесяты блакаднік памятае, расказвае пра гібель ад бомбы слана ў заапарку. Многія, вельмі многія памятаюць блакадны Ленінград цераз вось гэты стан: *асабліва няўтульна, жахліва чалавеку, і ён бліжэй да гібелі, да знікнення таму, што зніклі каты, сабакі, нават* птушкі!..

Ф. А. Прусава ўпісала ў свой дзённік пачутае па радыё з верша Веры Інбер — тое, што яна сама бачыць, перажывае: «Ні брэху, ні мяўкання, ні птушынага піску».

А вось у Г. А. Князева:

«Я ўсё запісваю, што трапляе ў мой кругагляд. Але вось даўно ўжо ў мой кругагляд не трапляе ніводнага сабакі, ніводнага ката, ніводнага голуба... Нават вераб'ёў не бачу, хоць харч ім на вуліцах ёсць. Першых з'елі. Вераб'і, мабыць, памерзлі ад моцных маразоў. Праўда, аднаго жывога сабаку я ведаю, гэта ў Лосевай. Яна трымае яго ў пакоі, нікуды не выводзіць. Страціўшы мужа, яна прывязалася да свайго пса, як да сябра. Цяпер яна ўзяла дзяўчынку, дачку паміраючай О. А. Дзяўчынкай яна не зусім задаволена. Вера ў яе часова, але і гэта робіць ёй гонар, што яна ўзяла яе да сябе ў такі цяжкі час».

Нам перадалі рукапіс *Ірыны Каржанеўскай*, і, хоць аўтар рукапісу — сапраўдны пісьменнік і тое, што мы працытуем, ужо зусім літаратура (а ў нашай кнізе гэта хутчэй недахоп, чым добрая вартасць), мы ў якасці выключэння прывядзём некалькі ўрыўкаў:

«...Хлебны магазін, дзе я атрымлівала паёк, знаходзіўся на рагу насупраць. Там, як і ўсюды, вокны закладзены мяшкамі, і продаж ідзе пры святле газоўкі. Нядаўна я заўважыла, што ля ўваходу ў магазін сядзіць аўчарка. Шкура і шкілет. Яна сядзіць і глядзіць на людзей, што ўваходзяць і выходзяць, і вочы ў яе гараць і просяць. Але хто можа з ёю падзяліцца? Усе праходзяць не гледзячы, а яна ўсё сядзіць і сядзіць. Глядзіць на кожнага, і на мяне ў тым ліку. Аднойчы я бачыла, як яна ішла на свой пост. Яна ішла на трох лапах. Пярэдняя левая баліць. Можа, вывіхнутая? Дзе ж яе гаспадары? Памерлі ці выпусцілі яе, каб сама кармілася?

Сабачка далікатны. Просіць без прыніжэння. Погляд

яго кажа: «Я паміраю ад голаду. Можа, вы дасце хоць крошку?» Я прылашчыла гэтага сабаку і прыўзняла яму губу, каб зірнуць на зубы. Зусім маладая аўчарка. І я паднялася да сябе на чацвёрты паверх. Адчыняю дзверы, гляджу — аўчарка прыйшла за мною. Якраз я напярэдадні знайшла зялёны хлеб. Давядзецца з ёю падзяліцца. Я дала акамянелы кавалак, і сабака прагна яго грыз. Пасля я памыла бутэльку і напаіла «госця» цёплай вадою. Сабака нічога не прасіў, быў удзячны, скруціўся абаранкам і заснуў. А не можа ж такога быць, каб ён не разумеў, што людзям цяпер вельмі цяжка...

Колькі часу жыў у мяне гэты сабака, я не магу прыпомніць. Памятаю толькі, што я выходзіла з кватэры, куды трэба, а ён заставаўся. Ён не віляў, калі я вярталася. Можа, яму было цяжка віляць, а можа, аўчаркі наогул не віляюць. Я была рада, што ў мяне дома ёсць нехта жывы і ён чакае мяне. Часам я размаўляла з ім, але часцей за ўсё мы моўчкі глядзелі адзін на аднаго. Я назвала гэтага сабаку Просперам. Проспер азначае «Удачны». Гледзячы на ліхаманкава палаючыя вочы Проспера, я думала, што можа прыйсці момант, калі нехта з нас ашалее ад голаду і кінецца на свайго выпадковага сябра, каб з'есці яго. Але пакуль я пры сваім розуме, я не магу забіць істоту, якая папрасіла ў мяне прытулку. Сабака ж настолькі слабы, што, бадай, не зможа кінуцца на мяне. Апрача таго, аўчаркі ўдзячныя і памятаюць і крыўду, і ласку.

Я пачала адчуваць, як я слабею. Я кепска спала, ува сне бачыла харчы. Штохвілінна прачыналася і слухала, як цікае ў рэпрадуктары. Выключыць радыё нельга было — яно папярэджвала пра налёты. Але начныя налёты здараліся рэдка, а ўдзень і ўвечар немец бамбіў заўсёды ў адзін і той самы час.

Зялёны хлеб скончыўся, і я аднавіла разведку ў кватэры. Трэба было знайсці і паліва. Табурэткі папалілі ўжо, спалілі і мой кухонны столік. Цяпер я звярнула ўвагу на вялікі кухонны стол ветэрынара. Яго хапіла б, але пасекчы яго будзе-такі цяжкавата мне, а перад усім яго трэба апаражніць.

Я выцягнула верхнюю шуфляду. Там ляжалі кухонныя нажы, драўляныя лыжкі, качалка для цеста... Засунула рукі глыбей і намацала штосьці незвычайнае... Гэта быў чысты белы вузельчык, велічынёю з кулак... У ім было нешта сыпучае... Можа, гарох? Я развязала вузельчык і ўбачыла там кукурузнае зерне. Вось дык сюрпрыз! Але ад-

Намеснік старшыні Ленгарвыканкома, загадчык
аддзела гандлю Іван Андрэевіч Андрэенка, 1941



Ліст Тані Багданавай да бацькі

Фашистский зверь голоден. Он подбирается к нашему хлебу. Бдительно охраняйте продовольствие. При вынужденном отходе ничего не оставляйте врагу. Пусть фашистские гады подыхают с голода

Дорогой папочка! пишу я вам это письмо во
время моей болезни когда думали, что я умру
и пишу не из-за того что я жду смерть, а
потому-что она приходит сама неожиданно
тихо. В моей смерти прошу никого нивинить.
Сознаться по совести виновата я сама, так-как
нивсегда слушалась маму. Дорогой папочка я
знаю, что вам тяжело будет слышать о моей
смерти да и мне-то помирать больно нехоте-
-лось но ничего не поделаешь раз судьба такая
Я знаю, что трудно вам будет понять мою болезнь
так я о ней пишу вам ниже. Сильно старал-
ась поддержать меня мамочка и поддержива-
ла всем тем чем могла и что было. Она
даже для меня отрывала и от себя и ото
всех понемногу но так-как было очень трудно

Ліст Тані Багданавай да бацькі

поддержать пришлось поэтому мне помереть Па-
почка болела я в апреле, когда на улице было
так хорошо и мне я плакала, что мне хотелось
гулять, а я немогла встать с кровати так
спасибо дорогой мамочки она меня одела и
вынесла на руках во двор на солнышко
погулять. Дорогой папочка вы сильно не расстра-
ивайтесь ведь и мне то умирать больно нехо-
телось потомучто скоро лето да и жизнь цве-
тет впереди. Пишу я вам это письмо и сама
плачу, но сильно боюсь расстраиваться так-как
руки и ноги начинает сводить судорога, а
ведь как не заплакать, жить больно хочется.

Вот какая болезнь была у меня.

Сильно болели у меня все кости и ноги я
немогла ходить и поэтому все лежала.
Спать я совсем не спала, а только приходила
в забытие и мне начинало что-нибудь казаться
Хотелось [redacted] мне только | дной тишины, которая

Марыя Міхайлаўна Яршова, 1945



куль у Ленінградзе кукуруза? Да вайны неяк прадавалі кукурузныя крупы, падобныя на манку. З іх можна было гатаваць «мамалыгу»... Але цэлага кукурузнага зерня ў Ленінградзе, бадай што, не знойдзеш... І навошта яны тут, дзе не павінна быць нічога ядомага, ды яшчэ засунутыя ў самы дальні куток і завязаныя нібы сінька?.. А калі іх зварыць, яны ж набракнуць удвая, і я змагу працягнуць яшчэ два-тры дні.

Я з'ела ўсяго толькі некалькі зярнят і дала жменьку Просперу, раніцою я падзяліла кукурузу на дзве часткі. Адну аддала Просперу, а другую паклала ў торбачку і пасля лекцый аднесла цётцы Волі.

...Проспер не вытрымаў. Зялёны хлеб скончыўся, кукурузу ён з'еў... І вось дзён праз два пасля гэтага, калі я ішла ў інстытут, ён устаў і пайшоў разам са мною.

— Я не буду цябе трымаць,— сказала я яму.— Але, дальбог, у мяне табе ўсё-такі лепш... Я, пэўна ж, не заб'ю цябе, і ў маім пакоі крыху цяплей, чым на вуліцы... Мне будзе без цябе сумна...

Усё-такі ён пайшоў. Я бачыла, як, хістаючыся, ён папляўся да памыйніцы. Наіўны нёс!»

«Унізе, пад намі, у кватэры нябожчыка прэзідэнта, настойліва змагаюцца за жыццё чатыры жанчыны — тры ягоныя дачкі і ўнучка,— фіксуе Г. А. Князеў.— Дагэтуль жывы і іхні кот, якога яны насілі з сабою ў кожную трывогу.

Днямі да іх зайшоў знаёмы студэнт. Убачыў ката і ўмольна прасіў аддаць яго яму. Проста прычапіўся: «Аддайце, аддайце». Ледзь-ледзь ад яго адчапіліся. І вочы ў яго загарэліся. Бедныя жанчыны нават напалохаліся. Цяпер баяцца, што ён можа падкрасціся да іх і ўкрадзе іхняга ката.

О любячае жаночае сэрца! Пазбавіў лёс натуральнага мацярынства студэнтку Нехарошаву, і яна носіцца, як з дзіцем, з катом, Лосева носіцца са сваім сабакам. Вось два экземпляры гэтых парод на маім радыусе. Усе астатнія даўно з'едзены!»

Гэтаксама «насілася» з жывою істотаю і яшчэ адна жанчына, Маргарыта Фёдараўна Няверава, а пасля адбылася трагедыя. Так, трагедыя, калі і праз тры з лішнім дзесяцігоддзі ўспамін пра гэта мучыць чалавека, пячэ душу.

«Я выйшла з дому. Пайшлі мы з маім сабачкам, вось такім маленькім, па хлеб. Выйшлі. Ляжаў старэнькі. Вось у яго ўжо так малітоўна тры пальцы складзены, і ён так, замерзлы, ляжаў у валёнках.

Калі мы прыйшлі ў булачную, хлеба не было, мой сабачка раптам мяне носам тык-тык у валёнак. Я нахілілася.

— Ты чаго?

Высвятляецца, ён знайшоў кавалачак хлеба. Мне аддае яго. Прычым я, ведаеце, як крумкач, ускочыла, хлеб заціснула. А ён на мяне глядзіць: «Дасі ты мне ці не дасі?» Я кажу:

— Дам, міленькі, дам!

А я з гэтага хлеба такую поліўку згатавала, што вы нават не ўяўляеце, як мы з ім частаваліся!

А назад мы ішлі — той старэнькі ляжаў ужо без валёнак. Ну, канечне, яму на тым свеце валёнкі не патрэбны,— я разумею... Ды, вось ужо крыж свой скінуў з сябе, не данёс, бедалага.

Перад вайною было вельмі многа птушак розных у пакоі.

— Канарэек?

— Не, канарэек не было, толькі лясныя былі. Увогуле, у нас было 18 акварыумаў шасцівёдзерных з рознымі экзатычнымі рыбамі (гэта было мужава хобі), а я завяла дваццаць чатыры птушкі, сто восемдзесят Гаршкоў з кветкамі было ў нас...

— А колькі ў вас пакояў было?

— У мужа — тры, а ў нас быў адзін. У нас было шэсць сабак. Пасля, праўда, пяць раздалі, таму што такія сабакі былі пародзістыя. Пакінулі вось толькі нашага маленькага факстэр’ерчыка Зору. Пасля яе наш сусед зжэр.

— Украў, напэўна?

— Не, горш, чым украў, за горла мяне схапіў і... Вось калі дом пачалі ламаць, трэба было мне рэчы куды-небудзь пераносіць, а я — самі разумееце — не магу. Вось толькі адзінае — на дзіцячых саначках вазіла кнігі сюды. Дык вось за тое, што ён дапамог мне перавезці буйныя рэчы, ён узяў сабе буфет, атаманку, шафы... Я ўжо цяпер нават не памятаю, што яшчэ... і на закуску сабаку, каб я яму скарміла. А сабака ж быў маленькі, там і есці не было чаго. Ну вось, вы разумееце, гэты сабака, які ў мяне з каленяў не злазіў, а асабліва ў блакаду; усё-такі нейкае цяпло ад мяне ішло...

— І ўсё-такі аддалі вы сабачку?

— Вось я доўга супраціўлялася, пасля кажу яму: «Зорын, ну ўсё роўна, ну пойдзем». І так загадала... (А той ужо і атаманачку перавёз да сябе, усё перавёз...) Я яму кажу: «Сеня, ну вазьмі яшчэ што-небудзь... ікону, вазьмі ікону. Толькі не бяры сабаку. Няхай ён памрэ смерцю. Усё роўна ён ужо... Есці ж яму няма чаго».

І вось характэрны выпадак. Прыйшлі... Я загадала... Калі сабачка ўстане і пойдзе,— я забяру яго. Чорт з ім, няхай у яго рэчы астануцца, няхай усё там валіцца... (І я б не трымалася за рэчы, калі б я ведала, што муж не вернецца. Божа, колькі мне трэба!.. Я і дагэтуль абыякавая да рэчаў.)

А вось, уявіце сабе, сабачка прыйшоў і сеў. Я ўстала, пайшла да дзвярэй,— ён нават галавы не павярнуў. Я дайшла да парога... Ен адвярнуўся ад мяне (вось так) і не варухнуўся! Я выйшла за дзверы — ну вось на адзін марш я спусцілася — і адразу вярнулася. Кажу: «Сеня, аддай сабаку! Бяры што хочаш, альбо... не трэба, няхай, не памагай мне зусім...»

— А я,— кажа,— забіў ужо яго...»

Вось вы ведаеце, вось гэта першы раз за вайну я раўла. Я не плакала... Я мужа праводзіла, а не плакала. Я неяк тады акамянела... А тут я...»

А што, калі сабачка адвярнуўся таму, што зразумеў — здрадзіла яму гаспадыня?

А можа, проста ахвяраваў сабою — дзеля гаспадыні, раз ёй гэта трэба?..

Колькі прайшло гадоў, а мучыць гэта Маргарыту Фёдараўну — на сваёй натуры жанчыну жыццялюбную, якая шмат да чаго ўмее ставіцца іранічна.

У нас запісаны расказ работніка Эрмітажа Вольгі Эрнестаўны Міхаілавай — пра тое, як атруцілася дзяўчына, калі ўбачыла, што яе маці трыбушыла хатняга любімца — ката. Вось што для чалавека заставалася мераю маральнага і немаральнага ва ўмовах, у якіх, здавалася, мера гэтая магла рэзка знізіцца. І зніжалася — для некаторых людзей. Рамантык і адначасова цвярозы гісторык — Г. А. Князеў запісвае:

«...Нават у лоне сям'і некаторыя не давяраюць адзін аднаму і трымаюць, напрыклад, хлеб пры сабе ў замкнёным партфелі. Цікуюць адзін за адным. Грызуцца, як галодныя сабакі, з-за кавалка. Як хутка можа зваліцца ча-

лавек з вяршынь культуры да свайго першабытнага звярынага стану!»

Калі гэта праўда, то і другое таксама праўда: у тых самых умовах другія людзі здолелі захаваць сябе, не дапусціць да «звярынага стану». Па-рознаму пераадольвалі ўмовы, саміх сябе. Некаторыя потым усё-такі не вытрымлівалі. Але і не вытрымлівалі таксама па-рознаму...

«...Таму я глыбока пераканана,— кажа Міхайлава В. Э.,— што, хто быў прыстойны, той і застаўся прыстойным. Хто быў непрыстойны, у тым, безумоўна, усе чалавечыя рысы, адмоўныя, яны, напэўна, развіваліся. Гэта дакладна.

Тут шмат чаго можна было б сказаць, і розныя пачуцці віруюць у табе, калі ты ўспамінаеш. Апаноўваюць цябе і пачуцці цяжкія, і пачуцці радасныя, таму што ў гэты цяжкі час усё-такі сустракаліся з такімі незвычайнымі людзьмі. Як я сказала, у той час людзі былі нібыта голенькімі, іх адразу можна было адчуць, убачыць. Усё раскрывалася. І вось гэта было шчасце сустракацца з цудоўнымі людзьмі.

І вось яшчэ такі выпадак з маёй сяброўкаю дзяцінства, якая жыла ў нашым доме. Яна скончыла самагубствам.

— Не вытрымала?

— Яна сама пайшла ў Публічную бібліятэку, прачытала там нейкія кнігі, прыгатавала атруту. Не буду называць яе прозвішча. Яна дачка некалі вядомага вучонага (ён памёр да вайны). Навошта яна гэта зрабіла? Таму што засталася з маці. А ў іх быў вялікі кот. І маці з'ела свайго ката, якога яны так па-сапраўднаму любілі, да вайны ўсё было для яго. Вы ж ведаеце, як часам жывёлы становяцца такімі вось маленькімі бажкамі ў сям'і!

Калі яна ўбачыла, што яе маці з'ела ката, яна падумала, што ўжо ўсё скончана, што і жыццё ўжо скончана, бо тыя прынцыпы, якія былі раней у іхняй сям'і, тыя нормы,— яны ўжо рухнулі, і нават сама любімая яе маці гэта зрабіла, найбліжэйшы ёй чалавек. Вось такія былі рэчы. Яна таксама была даведзена да дыстрафіі, але вось сілы, маральныя ўстоі ў яе ўсё-такі аказаліся мацнейшымі, чым у маці. Верагодна, яна разумела, што гэта ўжо ідзе працэс унутранай дэградацыі, што ён ідзе ўсё далей, далей і далей. Увогуле, для яе была трагедыя ўбачыць маці ў гэтым святле.

— А маці ведала, чаму яна скончыла самагубствам?

— Я не ведаю, але думаю, што маці, нягледзячы на

тое, што яна аплаквала сваю дачку і ката, да канца ўсяго гэтага не разумела. У некаторых людзей адбываўся маразм на глебе дыстрафіі, калі ў іх былі нейкія перадумовы, як я кажу, у горшы бок ад прыроды. Вось тут гэта дыстрафія і па глебе дыстрафіі другое, будзем яго ўмоўна называць — маразмам. Я думаю, што маці не разумела. Яе вось дачка дакладна разумела. Я з ёю ўжо бачылася пасля таго, як маці з'ела ката. Яна мне пра гэта расказала з жахам: «Ты разумееш! Маці з'ела ката, Максіма з'ела! Злупіла скуру і з'ела, і ўсё сваімі рукамі. І прапанавала яшчэ мне!!!»

І па тым, як яна мне гэта расказала, мне было зразумела, што гэта быў тупік».

Па-рознаму людзі бачылі, адчувалі набліжэнне гэтага тупіка. І па-рознаму паводзілі сябе: не мелі сіл утрымацца і набліжаліся да яго альбо ратаваліся ад яго — таксама па-рознаму.

Так, тая дзяўчына не вытрымала. Але п а - ч а л а - в е ч ы  н е  в ы т р ы м а л а, а не па-жывёльнаму.

Князеў яе, бадай, зразумеў бы. Хоць у яго запас трываласці большы. Больш аргументаў на карысць барацьбы да апошняе магчымасці, больш веры ў сябе, у чалавека.

Не толькі ратавалі жывёл, але таксама ратаваліся самі праз жывёл, вярталі дзецям іхняе дзяцінства. Ленінград жа пасля сорак другога года быў пазбаўлены якой бы там ні было жыўнасці. Ні катоў не было, ні сабак, ні птушак — нічога. Захаваўся толькі адзін куточак у горадзе, не цудам захаваўся, а любоўю некалькіх чалавек. Пра гэтыя дзіўныя рэчы расказала нам М а р ы я  М е ч ы с л а в а ў н а  Б р у д з і н с к а я.

«— Мне трэба было перш за ўсё падрыхтаваць жывёл, жывёлы былі зусім не падрыхтаваны. Трэба было як быццам дрэсіраваць, каб яны рабілі нейкае ўражанне. Перш за ўсё трэба было выпрацаваць нейкі тэкст, каб расказваць дзецям. Клеткі я сама рабіла жывёлам, каб можна было ехаць.

Была ў нас маленькая паўпоні, такі конік маленькі — Хлопчыкам звалі. І Цімоша — не конюх, але добры душою чалавек, які згаджаўся з намі ездзіць. Усё ж трэба было грузіць. І вось мы пачалі вазіць гэтых жывёл. (Тое, што вы бачылі на малюнках, на фатаграфіях,— гэта раскоша, гэта ўжо ў самым канцы, калі ў нас была машына.)

Вось мы ўсталёўвалі гэтыя клеткі, прывязвалі іх. І так мы ўтраіх — Цімоша, я і вось Тамара Сямёнаўна — ехалі ў тыя пункты (як я называла), куды я атрымала дагаворы. Вось прыязджалі. Нас сустракалі вельмі добра. Але не думайце, што мы чакалі там якой-небудзь палёгкі ў сэнсе яды. Не, там усё было ўлічана, так што нічога не перападала нам.

— Гэта сорак трэці год?

— Так, у сорак трэцім годзе. Выбіралі вялікі пакой, расстаўлялі гэтых жывёл. Дзеці шумелі, таму што ім гэта было ўсё...

— Яны не бачылі пі сабак, ні катоў?

— Вядома, не бачылі. Вочы вялізныя. Яны сядзелі, глядзелі. Ну, я ім маленькую такую ўступную лекцыю чытала, а пасля, значыць, паказвалі: сабачкі танцуюць, лісічку можна пакратаць (яна не кусалася). Чым яе карміць — яны не ведалі, тыцкалі ёй цукерку-крошачку, якую ім далі.

Ну, вось у пас гэтая малпачка Інка,— яна была даволі лютая, так што да яе наогул цяжка было падступіцца.

Ну, вось пасля, калі ўсё гэта прадстаўленне заканчвалася, мы зноў усё складвалі. І вось адзін раз мы ехалі па Неўскім і трапілі ў страшэнны абстрэл. І вы ведаеце? Но пра сябе тут думаеш, а як выратаваць жывёл. Мы праскочылі ў двор (здаецца, будынка Публічнай бібліятэкі, у іх вялікі двор). Мы сталі пад арку. Я якраз нахілілася да той клеткі, дзе сядзела малпа Інка, а яна, зладзейка, замест удзячнасці, адчула, што нешта цёмна стала, штосьці незвычайна (яны ж вельмі рэагуюць на ўсё гэта), і яна пачала мяне шчыпаць і дзерці халат, што быў на мне. Ну, тут ужо даводзіцца цярпець.

Усё-такі выбраліся і паехалі. Гэты раз скончыўся нам добра. А аднаго разу мы ехалі ўдзвюх з Рукавішнікавай (так яе прозвішча). І толькі мы падняліся, вось помнік Сувораву, а гэта, значыць, Троіцкі мост, і пра нешта размаўлялі, і раптам нейкі шум — імчалася пажарная машына і не заўважыла гэты няшчасны вазок, а там у нас качкі былі, там у нас былі куры, кураняткі нейкія,— т р а х ! І мы аказаліся ўсе на зямлі. Яна паламала ў нас аглоблю.

— А вы на поні ехалі?

— На ім. Ехалі самі. Я заўсёды кірую левай рукою. Конік напалохаўся, пацягнуў мяне далей наперад. Я толькі ўдарылася, але не разгубілася, узяла яго, ён дрыжаў. Настолькі быў моцны ўдар, што ў яго зляцела нават пад-

кова з задняй нагі. Прывязалі яго да першага слупа, які нам трапіўся, і пачалі збіраць. І можаце сабе ўявіць: вось гэты самы вазок, і гэтыя кудахтаюць, шум. Народу зусім мала, бяжыць хтосьці, але ён жа не можа нам памагчы. А гэта ж як маёмасць, гэта ж каштоўнасць, за яе ты адказваеш.

Вось я сабрала ўсё ў кучу (Рукавішпікава мне сяк-так дапамагала). Трэба было адцягнуць ад дарогі куды-небудзь убок. Я адтуль, з Троіцкага гэтага моста, цягнулася з гэтым Хлопчыкам у заасад, каб паведаміць, што мы вось хоць і пашкамуталіся, але цэлыя. І адтуль ужо за намі прыехаў вялікі воз, які падвозіў корм жывёле. І ўсю гэту гаспадарку забралі.

— Скажыце, а дзеці малодшага ўзросту жывёл не ведалі?

— Не, но ведалі. Адкуль яны маглі ведаць? Там жа малышы. І школьнікі амаль не ведалі, ужо забылі. Сабак жа не было зусім — іх з’елі,— ні галубоў, ні сабак, нічога жывога.

— Скажыце, а вось як заапарк уцалеў, выжыў у сорак першым, сорак другім годзе?

— Запасы былі. У нас жа там Удзельнінскі парк. Касілі сена. Слон у сорак першым загінуў. Бамбёжка была, і яго параніла. Вельмі потым шкадавалі і наракалі (гэта ўжо калі я паступіла туды), наракалі, што не зберагглі мяса — маглі ж яго засаліць ці яшчэ як, а яго закапалі, і так вялізная колькасць мяса прапала. А ўвогуле, нягледзячы на голад, нягледзячы на абстрэлы, у заалагічным садзе жывёлы не загінулі. Не, не. Вось захварэла і памерла сваёй смерцю тыграня. Большасць жывёл адсюль была вывезена, не памятаю дакладна, здаецца, у Саратаў. А частка засталася. Не маглі вывезці слана і не маглі вывезці агромністую бегемоціху Прыгажуню.

— Яна выжыла?

— Выжыла. Яна памерла сваёй смерцю ўжо ў мафусаілавым веку.

— Не квапіліся пасля па яе мяса?

— Не. Бывала, здаецца, не на мяса, а на корм яе рабілі замах.

— Але ж яна травоядная?

— Але тады і трава ішла. Вы ведаеце, што я вам хачу сказаць: яна больш за ўсіх астатніх прычыняла нам пакуты. Яна ж не магла жыць без вады — у яе трэшчыны на скуры робяцца. Там, ззаду заапарка, ёсць такі канал, і нам

даводзілася проста на саначках вазіць ваду без канца. Гэта быў цяжкі для нас нарад, проста, ведаеце, па чарзе нас абавязвалі рабіць гэта. І вось, некалькі разоў у дзень, яе аблівалі, змазвалі (калі не з'ядалі) усякім жывёльным тлушчам.

А так, разумееце, гэты заапарк быў на балансе на харчовым у гарадскім Савеце, так што малпам выдзялялі вітаміны (як там даставалі — я так і не ведаю).

Ацяпленне таксама было для нас вельмі цяжкім. Я жыла на Васільеўскім востраве. Так заўсёды я ішла з заасада (ну, канечне, з процівагазам, само па сабе зразумела) з вязаначкаю якіх-небудзь дроў, трэсак — усе маленькія кавалачкі, але каб прыйсці дадому і напаліць буржуйку.

Ну, што яшчэ я вам скажу? Пасля мы арганізавалі катанне дзяцей на поні. Там заставаліся два поні. Вупражы не было — сякая-такая, падраная. І я сама за рымара была: шыла ўсялякія сядзельнікі, хамут абцягвала, усё гэта рабіла. Возік прыбраны быў. І вось Цімоша, наш славуты Цімоша — мы яго ўсе вельмі любілі... Цімоша — гэта дзядок, што нам памагаў. І вось ён вазіў гэтых дзетак, і, канечне, гэта была ім вялізная радасць.

Цяжкае ўражанне, канечне, пакідалі гэтыя самыя наведванні параненых у шпіталях. Гэта было проста жахліва. Яны ж, разумееце, прыкутыя часам да ложка, са страшэннымі раненнямі, і ўсё-такі ўсміхаліся. А гэта ўсмешка такая дарагая нам была! Не трэба было нічога, каб толькі ён усміхнуўся.

— На вашу малпачку?

— Канечне, стараліся ўжо, выкручваліся, каб як-небудзь ісці да іх на сустрэчу.

Да нас сцякалася багата дзяцей. Ведаеце, прымалі мы толькі тых, што добра вучыліся, чым-небудзь адзначыліся, дапамагалі старэйшым ці яшчэ што-небудзь. І яны ахвотна ішлі, вельмі ахвотна. А работа таксама была такая, што яны павінны былі прыбіраць заасад, дапамагаць у кармёжцы, а галоўным чынам назіраць за пэўнай жывёлаю, запісваць. Мы выязджалі з імі ва Удзельнінскі парк, назіралі за пералётам птушак ці за гэтымі дробнымі жывёламі.

Вы ведаеце, халадэча гэтая, шчыліны, прамерзлая столь, шэрань. І дзеці — юнаты — і мы ўсё-такі нешта такое робім. Не думаем пра нейкі хлеб, а пра хлеб д у х о ў н ы, тут у нас і Брэм — «Жыццё жывёл»...»

## ЧЫМ ЛЮДЗІ ЖЫЛІ?

Голад катаваў, насмерць забіваў дзяцей на вачах у ленінградскіх маці. І дзеці бачылі пакуты сваіх мацярок, але па-сапраўднаму зразумелі іх, можа, толькі праз многа гадоў, калі самі сталі бацькамі.

Магдалина билась и рыдала,
Ученик любимый каменел,
А туда, где молча мать стояла,
Так никто взглянуть и не посмел.

*Ганна Ахматава*

У нас ёсць некалькі запісаў, дзе адначасова і пра адно і тое самае ўспамінае маці і яе дзіця, цяпер ужо дарослы чалавек. Вось адно з такіх сучасных апавяданняў Вольгі Іванаўны Маскоўцавай і Валянціны Аляксандраўны Гаўрылавай (дачку будзем называць Валя, хоць яна ўжо даўно дарослая).

«Вольга Іванаўна:

— Я ў ахове была, і нам дазволілі браць дровы. Папрашу адну суседку, другую, набярэм дроў — яны цягнуць, я таксама дацягну дамоў і хутчэй на дзяжурства. Потым гэтыя дровы паколем і — на рынак, там побач рынак быў, Клінскі. Мне дык самой нельга стаяць прадаваць. Я Валю пастаўлю. Я прывожу яе на вазку ледзь жывую, каб яна толькі стаяла каля гэтых дроў, каб адчувалася, што ёсць чалавек. А я стаю іназіраю. І вось, ведаеце, аднаго разу нам пашанцавала: падышла да мяне жанчына і сказала: «Я, кажа яна, дам вам кілаграм круп».

Валя:

— Проса кілаграм, проса!

Вольга Іванаўна:

— «Проса кілаграм. Нікому не кажыце. Я вам сваю кватэру не пакажу. А толькі вы мне падвязіце да дому гэтыя дровы і зваліце каля яго». А мне трэба і дровы везці, і Валю цягнуць на санках.

— Вы дровы везлі, а яе пасадзілі наверх?

Вольга Іванаўна:

— Так, яна не хадзіла. Ну, давезлі. Далі нам гэтыя крупы. Куды іх дзець? Валя крычыць: «У нас адбяруць, у нас адбяруць гэтыя крупы!» Я кажу: «Добра, давай схаваем табе за паліто».

Валя:

— Тады адбіралі.

Вольга Іванаўна:

— Было такое. Ну, я ёй крупы сюды схавала і кажу: «Садзіся ў санкі, а лепш кладзіся. Я цябе павязу дадому». І вось мы прывезлі крупы дамоў. Валя гэтыя крупы так ужо ашчаджала, яна ж у мяне за гаспадыню была. Я прыйду з працы, яна нальe мне супу і лічыць, колькі крупінак. Датуль далічыцца, што суп астыне. Я заплачу, мне цёпленькага хочацца з вуліцы, а яна ўсё лічыць: «Доктар мне сказаў, каб ты не адкусіла лішні раз ад мяне, ні я ад цябе, каб пораўну было. Тады будзем жывыя». Ведаеце, з галавою ў яе нешта было — яна была нібы ненармальная.

Валя:

— Ажно я была ненармальная.

Вольга Іванаўна:

— Як ненармальная: у яе ні памяці не было, нічога.

— А гэта які год быў? Да Ладагі?

Вольга Іванаўна:

— Так, так, так. Да Ладагі, я яшчэ не працавала на Ладазе. На Абводным быў абарончы завод, там муж працаваў. Мяне ўзялі туды ў ахову — я ўжо хворая была, у мяне была трэцяя група інваліднасці. Вось адсюль і бралі дровы. Гэта да Ладагі было.

Валя:

— Тады давалі шроты, макуху...

Вольга Іванаўна:

— У мяне воўна была, я вязала панчохі, кухару аддавала. Што было, я ўсё ёй давала, а яна мне цыбулінку дасць, шалупінне аддасць. З шалупіння я рабіла катлеты бульбяныя, з дрожджаў суп дражджавы гатавала. Пасля далі мне клею. З клею зрабіла студзень (клей вось гэты, якім клеяць). Я не магла есці, а Валя ела. Яна ела з задавальненнем гэты клей як студзень.

— А наконт круп гэта яе ўрач навучыў у бальніцы?

Вольга Іванаўна:

— Як жа ж... У яе з лёгкімі было ненадзейна, увесь час з лёгкімі было кепска. І вось, значыць, урач даваў ёй соевае малако. Прыйдзе яна і робіць нібыта каву. Я хачу, каб яна з’ела, а яна — каб я. Вось сядзім, спрачаемся. Яна мне: «Я не буду есці, памру — тады і ты памрэш. А калі я буду есці, а ты не — ты памрэш тады, але і я без цябе». Мне даводзілася ўступаць ёй і ўсё дзяліць пароўну. І по-

тым: прадукты атрымлівала яна. Вось бачу — палавінка цукеркі засталася. Я кажу: «Валя, чаму ты гэта не з'ела?» (Я ўсё хачу, каб яна больш за мяне ела.) Яна мне: «Не, не, што ты! Я толькі палову цукерачкі. Доктар сказаў, каб мы ўсё пароўну елі, усё пароўну. Тады мы будзем з табою жыць».

Валя:

— Адносна таго, як выратавацца ў такіх умовах, па ленінградскім радыё, напрыклад, гаварылі: «Не ешце адразу свае сто дваццаць пяць грамаў, дзяліце напалам». У мяне хапала сіл дзяліць напалам. Я чамусьці за акно хавала, за раму, таму што пацукі былі, мышы. Гэта спачатку. А пасля ўжо ні мышэй, ні катоў, ні сабак — нічога ў Ленінградзе не было. І вось я дзяліла так: кавалачак з'ядала раніцай, кавалачак увечар. Я прыслухоўвалася да таго, што гаварылі па радыё.

Вольга Іванаўна:

— У нас было кацяня. Я казала — аднясіце яго кудынебудзь. А хросны прыйшоў і кажа: аддайце яго мне, я яго з'ем. А Валя як заплача: «Што ты кажаш! Кошачку хочаш з'есці!» Пасля я ўгаварыла суседку, яна кандуктарам працавала. Я кажу: «Слухай, Каця, скажы Валі, што занясеш кошачку ў сталоўку, яна там будзе жыць, яе карміць будуць, а пасля вернуць ёй. Але толькі туды нельга хадзіць, нельга глядзець. Скончыцца вайна, і табе тады вернуць». Угаварылі.

Валя:

— І яшчэ запомнілася: мне вельмі хацелася жыць. Я так хацела жыць, такая вялікая была гэтая сіла, што я была гатовая падпарадкоўвацца ўсяму, што гаварылі, усім парадам, толькі б жыць! Проста дзіўна неяк! Яшчэ мне запомнілася прадаўшчыца, што выдавала нам паёк. Былі выпадкі, калі не выдавалі пайка: не было мукі альбо хлебазавод не выпусціў хлеба па нейкіх прычынах. Нават такія выпадкі былі! А вось калі ўсё нармальна і хлеб прывозілі, гэта былі вельмі вялікія буханкі. На мяне гэта рабіла ўражанне, што яны вельмі вялікія былі. Але яны былі мёрзлыя. І прадаўшчыца не магла буханку хлеба разрэзаць нажом, яна рассякала яе сякераю. Гэта я вельмі добра памятаю. Булачная была ў нашым доме, у доме семдзесят шэсць. Тут мы і блакаду пеpажылі. І вось яна секла гэтыя буханкі сякераю, каб адсекчы маленькі кавалачак — сто дваццаць пяць грамаў. Наперад не атаварвалі, таму што мала было ў Ленінградзе такіх магчымасцей, каб ата-

варваць наперад. І ў мяне была тады мара: «Мама! Няўжо мы дажывём да таго часу, калі ў булачнай будуць поўныя паліцы хлеба?!» Мне не верылася, што будзе такі час. Я не марыла пра нейкія там булачкі, хаця б хлеба былі поўныя паліцы. І я казала: «Якія ж мы будзем шчаслівыя, калі мы дажывём да гэтага!» Я дажыла да гэтага часу, убачыла поўныя паліцы хлеба... Але і дагэтуль мы сушым сухары, не выкідваем хлеб.

Вольга Іванаўна:

— Яна казала, што мы будзем вельмі заможна жыць, калі ў нас будзе ўдосталь хлеба і солі (тады ж і солі таксама не было), будзем з табою піць вар з соллю і хлебам!

Валя:

— І яшчэ такі момант я запамятала. Мы жылі побач з Варшаўскім вакзалам: Маскоўская застава, шмат заводаў, побач Бадаеўскія склады. Таму і бамбілі вельмі моцна гэты раён. Пулкаўскія вышыні недалёка, і Маскоўскі раён прымаў усе гэтыя снарады. Як толькі пачыналі бамбіць, я сябе лічыла шчасліваю, што жыву на першым паверсе, таму што зверху ўсе беглі да нас хавацца. Звычайна першы паверх лічыўся кепскім: цемнавата там, сыравата, а падчас вайны гэта было вялікае шчасце. Гэта, магчыма, нас выратавала, таму што ў наш дом нямала снарадаў трапляла ў чацвёрты паверх, у трэці, і тады ўсе беглі да нас ратавацца. Мама мяне ў гэты момант так збірала: яна здымала з мяне маё дзіцячае паліто і надзявала сваё, таму што яно было з бастону, з футравым каўняром і ўсё-такі было даражэйшае, чым маё дзіцячае. Яна вешала мне на шыю торбачку і туды клала свае і мае картачкі і казала: ці мала што можа здарыцца, на першы час, на першы месяц у цябе будуць карткі, прадасі мае рэчы, маё паліто і неяк праіснуеш, а можа, прарвуць блакаду і ты зможаш эвакуіравацца...»

Ленінградская жанчына... Яна жыла крышачку даўжэй, чым магла жыць, калі нават пасля смерць, знясіліўшы яе, звальвала. Яе «затрымлівала» — на дзень, на два, на месяц — думка, страх, клопат пра дзіця, пра мужа...

«І вось, ведаеце, часам я адчуваю, што слабею, слабею. Зусім рукі, ногі халодныя. Бацюхны мае! Я ж памру! А Вова? І, ведаеце, я ўставала і нешта рабіла. Гэтага я цяпер проста не магу вытлумачыць» (Аляксандра Барысаўна Дэн).

Многія з іх толькі дзякуючы гэтаму і самі выжылі — насуперак навуковым падлікам, што, маўляў, той, хто ляжыць нерухома, траціць менш калорый, чым той, хто поўзае на заледзянелую Няву па ваду, цераз сілу цягне на саначках дровы, цэлымі суткамі стаіць у чэргах, каб атрымаць хлеб свайму дзіцяці... Тут і навука павінна была нешта пераглядаць ці ўспамінаць забытае. «Мне трэба было прынесці прадукты на сябе і яшчэ на пяць чалавек, якія сядзяць і чакаюць мяне, трэба было прынесці дзіцяці соевае малако, мне трэба было схадзіць атрымаць карткі на жыхароў дома; увогуле мне ўвесь час даводзілася хадзіць, і, пэўна, я таму і выжыла. Я амаль не ацякала. Здаецца, я ў блакаду ляжала ўсяго толькі адзін дзень» (В о л ь г а І о с і ф а ў н а Р ы б а к о в а, інжынер, працавала кіраўніком гаспадаркі: вул. Кутузава, 12).

Я. С. Ляпін, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар матэматыкі, які сам усё гэта і назіраў, і перажыў, выказаўся так:

«Але адзін момант я ўсё-такі адзначу, бо ён адыграў для нас сваю ролю, ды і для многіх людзей таксама. Я размаўляў з урачамі ў гэты перыяд, і пасля яны гэта пацвердзілі. Нармальна ж людзі ўяўлялі сабе, што чалавек — гэта нібы печ: пакуль дровы падкладваюць, у печы будзе паліцца, калі няма дроў, іх не падкладваюць, дровы згарэлі — і ў печы патухла! Ну, а чалавеку падкладваюць там усякія калорыі, па гэтых калорыях ён жыве, дзейнічае. А калі іх няма, дык расходуецца тое, што назапашана ў арганізме: тлушчавыя адклады, мускулы. Ён усё гэта з'ядае. Калі ў яго ўсё «згарэла» (усякі фізік ведае энергасістэму), няма ад чаго рухацца — ён памірае. Але часта чалавек паміраў тады, калі ў яго арганізме нейкі яшчэ невялікі запас калорый — у фізічным, прымітыўным сэнсе — заставаўся: печ працаваць яшчэ магла, а ён паміраў. Чалавек усё-такі ж не печ. Чалавек вельмі складаная канструкцыя, надзвычай складаная. У гэтых адносінах важную ролю іграла тое, як чалавек сябе паводзіў, наколькі ён мог змагацца. Я памятаю людзей у пачатку голаду, якія перасталі мыцца, перасталі галіцца. Калі атрымлівалі па картках, дык тут, у магазіне, усё з'ядалі адразу. Калі давалі на тры дні, яны з'ядалі ўсё ў адзін дзень, а пасля ў іх нічога не было. І гэта не страшныя, бязвольныя людзі, не, нармальныя, добрыя людзі. Яны сыходзілі з прынцыпу той самай печы: на рух чалавека трацяцца калорыі, калорый не хапае, трэба ляжаць, ляжаць столькі, колькі мож-

па. Не трэба варушыць пальцамі, трэба ляжаць. І гэта было памылкаю, таму што чалавек не печ. Праўда, ідзеш па пакоі, тым больш мыешся, тым больш халоднаю вадою, траціш на ўсё гэта нейкія калорыі. А на самой справе ты працягваеш заставацца чалавечаю істотай, якая ў нейкай ступені функцыяніруе.

Трэба сказаць, што многія людзі ў гэтых адносінах сталі на пазіцыю захоўвання жорсткага рэжыму, канечне, рэжыму, які адпавядаў тым умовам, што былі, але гэта было цвёрда на кожны дзень. У цяжкі перыяд блакады абед складаўся з кіпетню, у якім размочвалі пяцьдзесят грамаў не прыдатнага для яды хлеба. Елі з талеркі лыжкаю. Можна падумаць, што я пра дробязі гавару: хіба но ўсё роўна, калі з'есці свае сто дваццаць пяць грамаў, размочваць хлеб ці не, есці лыжкамі альбо так. Не, і гэта таксама было важна. Трэба было стварыць нейкі рытм, падобны на жыццё нармальнага чалавека. Гэта я ведаю па сабе, ведаю па сваіх блізкіх, ведаю і чуў ад урачоў, якія маглі назіраць усё гэта ў масавым парадку. Канечне, гэта не гарантыя; натуральна, што ў рэшце рэшт ніякі рэжым не дзейнічае, калі чалавек не атрымлівае ежы, рана ці позна смерць яго захопіць.

Паўтараю, гэта не гарантыя, але гэта адсоўвала наколькі можна гібель. Трэба сказаць, што я свае думкі, свае пачуцці намагаўся трымаць у норме; апускацца так, як апускаліся некаторыя людзі,— гэта было няправільна і памылкова».

...У нас ёсць два дзённікі — маці і сына Прусавых. Дзённік маці, Фаіны Аляксандраўны, асабліва цікавы: медыцынская сястра, што пісала яго, не толькі яркая асоба з трагічным мацярынскім лёсам, але таксама чалавек з літаратурным дарам. Яна і сыну падказала запісваць. Калі студэнта-медыка мабілізавалі ў армію, яна ўзяла тоўсты сшытак, сказала: «Запісвай сюды самыя цікавыя рэчы, таму што ёсць такая фраза: «І кепскія запісы сучаснікаў каштоўны нашчадкам». Ёсць у запісах яе сына-ўрача Барыла Прусава старонкі, якія закранаюць тую самую праблему калорый — харчовых і, так сказаць, «духоўных калорый».

«Мая мама Прусава Фаіна Аляксандраўна была медыцынскай сястрою ў прафесара Грэкава ў Абухоўскай бальніцы. І пасля працавала ў хірургіі ў бальніцы Соф'і Пя-

роўскай. Дзякуючы нашай маме мы і выжылі, таму што неяк яна падымала дух усіх нас. Мы не апускаліся: мы мыліся элементарна, рабілі сабе такую-сякую ванну. Прычым вельмі цікава, што ў яе была свая тэорыя, якая, дарэчы, пацвердзілася жыццём: не залежвайцеся, не залежваецеся! Калі я, як медыцынскі работнік, спрабаваў ёй пярэчыць: «Мама! Калі ты ляжыш, дык энергіі траціцца ж менш, харчавання ж трэба менш»,— яна казала: «Гэта парадаксальна, але факт: хто ходзіць — будзе жыць і працаваць. Хадзіце!» Калі я зусім выбіўся з сіл (гэта ў сорак другім годзе) і ўжо не хацеў хадзіць у інстытут, дык сястра і маці сказалі: «Ты павінен скончыць медыцынскі інстытут. Хадзі! Калі ты не будзеш хадзіць, ты памрэш!» І я хадзіў. Я хадзіў ад Марсава поля да плошчы Льва Талстога кожны дзень туды і назад, і яшчэ рабіў кватэрныя выклікі, і прымаў хворых у бальніцы Соф'і Пяроўскай.

Вось такая была мама. Хто б да нас ні прыйшоў, у нас заўсёды было чыста. Стол заўсёды быў засцелены абрусам. І неяк заўсёды было весела. Усё прыбрана, акуратна, чыста. І вось гэта самая чысціня, вось гэта самая дысцыплінаванасць маці — яна перадавалася нам. І гэта, па-мойму, дапамагло нам выжыць. Маці ніколі не давала нам падаць духам... Паёк дзяліўся, кожнаму давалася порцыя, прычым, як яны потым ужо прызнаваліся, мама з сястрою, у самы цяжкі час больш давалі мне, не ведаю чаму. Але вось што самае цікавае: мама лічыла, што ў яе пакоі чыста, заўсёды памытая падлога, усё блішчыць, але калі ўжо знялі блакаду і яна зняла зацямненне (шторы), далі электрычнасць, яна паглядзела па шпалеры і сказала: «Божа, божа! Да чаго ж я сябе падманвала! Усё-такі ў якім брудзе я жыла...»

З дзённіка Вольгі Яфімаўны Эпштэйн:

«5 ***мая.*** Я пасля бюлетэня выйшла на працу. Завод выпускае новы ваенны заказ. Народу мала. Са старых рабочых амаль нікога няма. Вымерлі, а частка выехала. Я асвойваю новыя дэталі. Усё яшчэ хаджу ў зімовым паліто. Гэты заказ значна цікавейшы за папярэдні. Па-першае, разнастайнасць дэталяў і значна дакладнейшых, прычым з каляровага металу. Сёння прывезлі ў сталоўку ікру з макухі, мне далі адзін кілаграм. Раней я і ў рот не ўзяла б, а цяпер мне гэта здаецца вельмі смачным.

***13 мая.*** Пайшла праведаць Эдзіка... Вечарам слухаю паведамленне Інфармбюро, пасля іду ў булачную, выкупляю 250 грамаў хлеба і, калі ёсць, масла. Памажу на хлеб і смакую. Потым іду на працу. Прыходжу з працы, разаграю чай, выпіваю яго і кладуся спаць. Я працую самастойна, замяняю і майстра, і кантралёра, падсобніцу, нарадчыцу і інш.

Сёння мы праводзілі заводскі сход. Падвялі вынікі мая месяца. Заданне мы выканалі.

Сёння была ўрачэбная камісія. У мяне прызналі дыстрафію першай стадыі. Пачалі адбіраць самых хворых дыстрофікаў на ўзмоцненае харчаванне. Я не магу трапіць. Дзёсны ў мяне ўжо выраўняліся. Я нават здзівілася, што я так лёгка адкараскалася, і зубы на месцы засталіся. Сёння нам далі па аднаму літру соевага малака.

***10 чэрвеня.*** Да мяне падыходзіць парторг і кажа: «Вось табе даведка, і пойдзем хутчэй да ўрача».— «А навошта?» — «На ўзмоцненае харчаванне»...»

Ленінградская жанчына адчайна і бясстрашна змагалася супраць голаду. Гэта быў яе фронт. Тыя, хто выжыў у Ленінградзе, абавязаны не толькі войскам, не толькі «Дарозе жыцця», але і жаночай стойкасці, жаночаму цярпенню, вынослівасці, жаночай сіле і, нарэшце, яе любові.

А як жа ёй хацелася і тады быць не самай моцнай і вынослівай, а «ўсяго толькі» жанчынаю, якую нехта б і пашкадаваў. Часам так нязносна ёй было ўяўляць з сябе і самую сытую, і самую здаровую ў сям'і...

«Вось я прыгадваю такі выпадак. Давалі ў адзін час замест цукру гэтак званыя соевыя батончыкі. Ну, там было не столькі соі, колькі... я не ведаю, што там было. І я іх дзяліла паміж намі трыма. І я памятаю выпадак ці два, калі я ім сваю порцыю аддавала і выходзіла ў калідор. І адзін раз я выйшла ў калідор і заплакала. Ведаеце, увогуле я і дагэтуль даволі раўнадушная да яды: есці дык есці, не дык не. А вось тады... Дагэтуль памятаю, як я выйшла ў калідор і заплакала» (Аляксандра Барысаўна Дэн).

Ёй, жанчыне, маці, жонцы, даводзілася быць мацнейшай, трывалейшай, больш мужнай за саму сябе.

# ЛЕНІНГРАДСКІЯ ДЗЕЦІ

«— Я выходжу са свайго двара, побач з Генеральным штабам, і бачу — каля каліткі, зусім прыціснуўшыся да яе, сядзіць хлопчык. Мне падалося, што яму гадоў шэсць. Я пытаю: «Што ты тут робіш?» Ён кажа: «А я прыйшоў сюды паміраць»,— «Паміраць? Ты глядзі, які ты,— раз ты змог сюды прыйсці, ты не паміраеш! І дзе ты жывеш?» — «Я жыву на Мойцы. У нас вельмі цёмны двор і кватэра вельмі цёмная. А тут вунь як светла. (Гэта на Дварцовай плошчы.) Я прыйшоў сюды паміраць». Ну, я са сваімі дзяўчатамі ўзяла яго да сябе ў архіў. Мы яго напаілі цёплай вадою, нейкія скарыначкі яму далі. І клею сталярнага, вось гэтага самага. І ён нам сказаў: «Калі я астануся жывы, я заўсёды буду есці гэты клей».

— А колькі ж яму было гадоў?

— Мне здавалася, што яму гадоў шэсць. А яму аказалася адзінаццаць. Я яго спытала: «Ну, чаму ты прыйшоў сюды? У цябе нікога не засталося?» Ён сказаў: «А хіба ты не разумееш? Калі б у мяне хто-небудзь застаўся, я не прыйшоў бы. Тата на фронце, мама памерла, ляжыць. Сястрычка памерла». Ну, я завяла яго ў дзіцячы пакой і сказала ягоны адрас (ён ведаў свой адрас), яны туды пайшлі. А больш я пра яго нічога не ведаю». (З расказу Л. А. Мандрыкінай.)

«Ленінградскія дзеці»... Калі гучалі гэтыя словы — на Урале і за Уралам, у Ташкенце і ў Куйбышаве, у Алма-Аце і ў Фрунзе,— у чалавека сціскалася сэрца. Усім, асабліва дзецям, прынесла гора вайна. Але на гэтых абрушылася столькі, што кожны з міжвольным пачуццём віны шукаў, каб хоць што-колечы зняць з іх дзіцячых плячэй, душы, перакласці на сябе. Гэта гучала як пароль — «Ленінградскія дзеці»! І насустрач кідаўся кожны ў любым куточку нашае зямлі... Да нейкага там моманту яны былі як усе дзеці, заставаліся вясёлымі, вынаходлівымі. Гулялі з асколкамі снарадаў, калекцыяніравалі іх (як да вайны калекцыяніравалі маркі ці паперкі ад з’едзеных цукерак). Уцякалі, прарываліся на перадавую, добра, што фронт побач, рукою падаць. Азартна закідвалі пяском у сваім два-

ры нямецкія запальныя снарады, нібыта гэта навагоднія камедыянты.

«Едзем далей, да Абводнага канала,— успамінае былы вадзіцель трамвая Ганна Аляксееўна Пятрова,— тут на мосце Нова-Каменным дзеці венікамі змятаюць бомбы ў Абводны капал, проста ў ваду...»

Калягін І. В.: «Ну, хлапчук вырашыў, што калі пабягу вакол, крычаць, ніхто не пачуе. Пабягу вакол — дом загарыцца. Ён надумаўся скакаць з вялікага дома на ніжэйшы дом.

— Колькі паверхаў?

— З чацвёртага на двухпавярховы. Два паверхі. Што думаць? Ён скокнуў і запальны снарад выкінуў. І таксама прозвішча згубілася».

А пасля яны станавіліся самымі ціхімі дзецьмі на зямлі.

«Сядзім мы, і навокал нас, навокал школы, разарвалася шаснаццаць снарадаў! Шыбы ўсе выбіла. Хлапчукі ўсе за мяне вось так пальчыкам трымаліся. Вы разумееце чаму? Верагодна, я... Я адчуваю, што я дрыжу. Я напружыла ўсе сілы, каб, разумееце, вось гэту дрыготку зняць. І вы ведаеце, мне гэта ўдалося! Вы ведаеце, вось я напружыла ўсе сілы! І потым я сябе пераканала, што я зараз не ў Ленінградзе, што я зараз у Малодзіне ў мамы, што ўсё зусім добра» (Рогава Ніна Васільеўна).

«Перада мною стаяў хлопчык, гадоў, можа, з дзесяць яму. Ён быў захутаны ў нейкую хустку, у ватную коўдру, стаяў увесь прамёрзлы. Холадна. Частка людзей выйшла, частку змянілі іншыя, а хлопчык не ішоў. Я пытаю ў гэтага хлопчыка: «А ты чаму ж не сходзіш пагрэцца?» А ён: «Усё роўна дома холадна». Я кажу: «Што ж ты, адзін жывеш?» — «Ды не, з мамкай».— «Дык што ж, мамка не можа пайсці?» — «Ды не, не можа. Яна мёртвая». Я кажу: «Як мёртвая?!» — «Мамка памерла, шкада ж яе. Цяпер-то я здагадаўся. Я яе цяпер толькі на дзень кладу ў пасцель, а ўначы стаўлю да печы. Яна ўсё роўна мёртвая. А то холадна ад яе» (Ігнатовіч З. А.).

Ленінградскія дзеці развучыліся ў тую зіму свавоціць. І нават смяяцца, усміхацца развучыліся, таксама як мамы і бабулькі і таксама як іх бацькі і дзяды, што першымі паміралі.

«Людзі, нават дзеці, не плакалі і не ўсміхаліся»,— пра гэта шмат хто ўспамінае. Як гаварыла Вольга Бергольц «сваім» ленінградцам: «...гора большае за нашы слёзы».

А на ўсмешку, аказваецца, таксама патрэбны сілы. А сіл столькі не было, не хапала на працу, на жыццё!.. Калі мінула страшэнная зіма смерці, голаду, жанчына аднойчы — нешта сказалі, зрабілі пры ёй — адчула: «з маім тварам штосьці адбываецца, нейкае непрывычнае становішча мышцаў...» А гэта чалавек зноў заўсміхаўся...»
(З расказу Лідзіі Сяргееўны Усавай.)

«— Памятаю, як стаяла ў хлебнай чарзе,— кажа нам, але з сумам глядзіць некуды глыбока ў сябе, на тую блакадную трынаццацігадовую Галю, спявачка Ленінградскай акадэмічнай капэлы Галіна Аляксандраўна Марчанка.— У нас быў такі вялікі двор, а трэба было збоку абысці неяк домікаў паўтара, і там была булачная. Я памятаю, мы стаялі ў чарзе звечара, стаялі суткамі, напіналі на сябе літаральна ўсё. А мама ўвогуле не магла рухацца, яна неяк хутка аслабела. Яна ўвесь час грэла мне цагліны, у нас на буржуйцы заўсёды ляжалі цаглінкі, дзве альбо тры. Я ўладкоўвала сабе на грудзі цёплую цагліну, каб саграваццa. Памятаю — замерзну, прыпаўзу дамоў, мне дадуць другую цагліну, і я зноў, у мяне сіл было больш, адпаўзаю разам з цаглінаю. Ну, урэшце я атрымлівала сваім па сто дваццаць пяць грамаў хлеба і вярталася дадому.

— Бывала, каб вы смяяліся?

— Мы не смяяліся, увогуле, я не памятаю такога выпадку. Мы наогул не размаўлялі, таму што проста сіл не было. Не, не магу прыгадаць, каб я смяялася. Я ўвесь час хадзіла з карткамі, таму што мама баялася згубіць іх: бо гэта ж смерць.

— А вы плакалі?

— Не, і плакаць не плакалі, проста была ўжо нейкая абыякавасць. Мы ўжо не спускаліся ў бамбасховішча, а проста зачыняліся ў сябе дома і нікуды не хадзілі.

— Вось нам расказвала адна жанчына, як яна ўпершыню пасля ўсяго перажытага ўсміхнулася і як сама здзівілася гэтаму забытаму ўжо мышачнаму руху. Вы не памятаеце сваю першую ўсмешку?

— Пра ўсмешку я не памятаю. Па-мойму, я ўсміхнулася ўжо тады, калі мы выехалі ў эвакуацыю. Можа, раней. Не, калі мы былі ўжо ў Жыхараве».

Аляксандра Аляксандраўна Агронская, загадчыца нотнай бібліятэкі Ленінградскай акадэмічнай капэлы, мілая, са смяшлівымі ямачкамі жанчына, адразу

пасур'ёзнела, пасмутнела, як толькі загаварыла пра ўсмешкі, якіх так мала было, якія так рэдка свяціліся на дзіцячых тварах. Жыла яна ў дзіцячым доме, блакадным дзіцячым доме (маці — «па мабілізацыі», бацька — на фронце).

«— Ну, а вось дзеці як сябе паводзілі? Нехта еў адразу, нехта хаваў, так?

— Вы ведаеце, я магу толькі сказаць, што мы вельмі дробнымі частачкамі елі. Мы ніколі не кусалі хлеб, а адшчыпвалі кавалачкі хлеба і бралі ў рот. І ў сталоўцы (у нас быў вялікі пакой, дзе мы, усе дзеці, елі), у сталоўцы мы па чарзе мелі магчымасць аблізваць каструлі пасля другой стравы, ну, пасля кашы...

— А чарговасць хто вызначаў?

— Выхавацельніца. Нас там багата дзяцей было.

— Па чарзе ці ў парадку якой узнагароды?

— Не, гэта было па чарзе. Вы ведаеце, я думаю, што мы не надта сваволілі. Нас, па-мойму, не было за што караць, толькі разварушыць можна было. Ва ўсякім выпадку, калі я пайшла ў школу... Вось запомніла імя сваёй настаўніцы ў першым класе — Алена Ігнатаўна. Гэта была дзвесце другая школа, на Жалябава... Яна, калі мы ўпершыню ад нечага засмяяліся ў класе,— гэта было ўжо, напэўна, у сорак чацвёртым годзе, у канцы, клас чамусьці зарагатаў,— яна пасля гэтага пайшла па дамах, абышла бацькоў і ўсім гаварыла: «Сёння вашы дзеці смяяліся!» Гэта было найважнейшым паведамленнем.

— А дзіцячы дом дзе быў размешчаны?

— Дзіцячы дом быў на Някрасава. Ад вуліцы там нейкая царква, а ў двары быў наш дзіцячы дом. Падчас адной прагулкі гэты дзіцячы дом быў разбіты снарадам. Дзеці не пацярпелі. Нас перавялі ў іншае наша памяшканне.

— А ў самым дзіцячым доме не ўдавалася вас рассмяшыць?

— Я думаю, не, хоць мы і танцавалі. Вось Лісічкаю я была. Яшчэ памятаю — у нас пастаноўка была, «Снягурачка», і я там Снягурачкаю была, спявала, але, напэўна, гэта было не вельмі весела, я так думаю.

— А дзеці ўсе вашага ўзросту ці былі і старэйшыя?

— Былі і старэйшыя дзеці, былі і меншыя за мяне.

— А пасля з дзіцячага дома вярнуліся дамоў?

— Так, з дзіцячага дома я вярнулася дамоў разам з сястрою.

— А бацька?

— А бацька ў мяне нядаўна памёр. Ён усю вайну прайшоў. Ён быў у Германіі. А пасля працаваў — хачу пахваліцца! — у экспедыцыях. На «Обі» і «Лене» хадзіў у Антарктыду. І цяпер яго імем названа банка ў Антарктыдзе.

— Агронскі?

— Не, Пажарскі.

— А чаму ў вас іншае прозвішча?

— А вы ведаеце, я замуж выйшла.— Смяецца.— Увогуле, канечне, успамінаў шмат, у асноўным не вельмі вясёлых. Мне страшным выдаўся тады нават дзень зняцця блакады. Мы з сястрычкаю і мамай былі дома. Мы ядалі ў самым цэнтры горада — на Соф'і Пяроўская Тут, вы ведаеце, канал Грыбаедава, усё побач, самы цэнтр горада. І нічога па радыё я не чула, ніякіх аб'яў, ні сястра, ні я. Мы з мамай выйшлі на вуліцу, і насустрач трапілася маміна прыяцелька. Яна нешта страшэнна гучна крычала, падхапіла маму, і яны пабеглі, а мы з сястрычкаю засталіся. І ў гэты момант такі грукат быў. Вы ведаеце, у час вайны я такога грукату не памятаю і такога страшнага адчування, быццам нешта бурыцца... Увесь горад асвятліўся. А аказваецца, гэта быў салют!.. Мы з сястрычкаю ўпалі ў сумёт. Нас выцягнулі адтуль, з таго сумёту, нейкія вайсковыя мужчыны. Мы страшэнна плакалі. Нас ледзьве-ледзь супакоілі.

— Вы яшчэ не ведалі, што адбылося?

— Так, мы не зразумелі, у чым справа. Мы наогул не ўяўлялі сабе, што такое перамога. Дзецям перамога ў той час была, па-мойму, вельмі адцягненым паняццем. Але к таму часу, да дня зняцця блакады, мы, разумееце, ужо нешта елі, нам нешта давалі, не толькі храпку, ну я вось са школы прыносіла ў кубку кашу, і яе можна было паесці. Нам ужо здавалася, што гэта лепш. І, канечне, зняцце блакады — дзень гэты быў вельмі знамянальны, хоць мы з сястрою вельмі напалохаліся».

Усё ж мы папрасілі вярнуцца да гэтай настаўніцы, пра якую Аляксандра Аляксандраўна расказала спачатку. Упамінанне пра яе не давала спакою. У першым смеху дзяцей яна ўбачыла падзею. Яна ацаніла гэту падзею як вялікую, можа, вырашальную. Настолькі, што абышла ўсіх бацькоў. Яна разносіла гэту вестку як найдаражэйшы падарунак — яны смяяліся!

Яны зноў смяюцца!

«— Як вы дазналіся, што яна хадзіла?

— Нам бацькі сказалі. Я не ведаю даваеннага лёсу гэтай настаўніцы, я не ведаю яе сямейнага ящчця ў часе вайны. У мяне таксама склалася ўражанне, што яна жыла толькі школай і толькі намі. Мы прыходзілі ў школу галодныя, халодныя. Яна нас распранала, глядзела, што ў нас знізу надзета. Загортвала (у каго нічога не было) у газету, зверху надзявала сукенку, каб дзеці не мерзлі. Калі хто-небудзь пачынаў плакаць на ўроку, у яе заўсёды нейкія скарынкі знаходзіліся ў кішэні. Кофта ў яе была вялікая, кішэні дзесьці ўнізе (магчыма, такое ўражанне тады было ў мяне). Вось яна давала нам гэтыя скарынкі пасмактаць, толькі б мы не плакалі. У час абстрэлаў яна збірала нас у калідоры і літаральна накрывала сабою. Нярэдка наведвала нас дома. Калі хто з дзяцей хоць адзін раз не прыйдзе ў школу, яна ў той самы дзень ішла да яго дамоў. Як яна сябе адчувала, я гэтага, канечне, нічога не ведаю, ці была ў яе сям'я, ці была яна адзінокая, таму што я ў яе правучылася толькі першы, другі і пачатак трэцяга класа.

— І далейшы яе лёс вы не ведаеце?

— Я яе больш не бачыла. Я перайшла ў іншую школу. Пасля, калі я вярнулася ў сваю школу, яе там ужо не было.

— А як яе імя і імя на бацьку?

— Алена Ігнатаўна.

— А прозвішча не памятаеце?

— Не»*.

...Успаміны дзяцей, гэта значыць тых, хто былі ў блакаду дзецьмі, не падобны на ўспаміны дарослых, хоць цяпер расказваюць іх нам людзі дарослыя, самі ўжо бацькі, маці, нават бабкі.

Памяць дзіцячая захавала надзвычай шмат, данесла дакладна, ярка. Нейкія карціны цяперашнім усведамленнем нават нельга расшыфраваць. І нейкія страхі таксама малазразумелыя нам.

Шасцігадоваму тады Віцю (Віктару Васільевічу Корбунаву) з усіх бамбёжак урэзалася: вялізная шафа заскакала на ножках! І тое, што ў іхнім дзіцячым садзе пасля бамбёжак асколкі шкла былі ў ложках.

* Пасля публікацыі ў «Новом мире» нам пачалі званіць яе вучні: «Гэта ж Нікалаева, Алена Ігнатаўна Нікалаева!..»

Валодзю (Уладзіміра Рудольфавіча Дэна), якому тады было гадоў дванаццаць, маці выпусціла на вуліцу пагуляць. Быў люты 1942 года. Пасля невылазнага сядзення дома ад паветра яго злёгку пахіствала. Але больш за ўсё яго ўразіў высокі снег, вышэй галавы — снежныя траншэі, сумёты, заваленыя снегам першыя паверхі, снежныя горы. І снег не гарадскі, а чысты, які зіхацеў і сляпіў.
І вось праз трыццаць пяць гадоў, таксама ў лютым, ён паехаў у Кіраўск катацца на лыжах.

«Вось там я іду па вуліцах і — што такое? Нейкія дзіўныя асацыяцыі. Вось гэты снег! Тратуары, канечне, занесены не так, як тут было. Ну, скажам, калі газоны, дык яны вышэй галавы засыпаны снегам — гэта ўсю зіму чысцяць і адкідаюць».

Праз гэты чысты снег, праз палярную снежнасць раптам ажыло дзіцячае, блакаднае. Яно вяртаецца, яно раптам праяўляецца ў характары, прывычках, снах. У кожнага па-свойму, ды і так, што чалавек часам не ведае, адкуль у яго гэта.

У асцігадовага Колі (Мікалая Віктаравіча Хлудава) снег звязаны з голадам: «Калі выпаў снег, мне стала няспынна хацецца есці». Так гэта і аб'ядналася ў ім.

Карцінкі, выразаныя дзіцячай памяццю, звычайна зіхацяць усімі колерамі.

«Каля Фінляндскага вакзала маю ўвагу прыкоўвалі тралейбусы, што зімавалі на плошчы. Побач стаяў згарэлы дом. Яго тушылі, і струмені вады, упаўшы на тралейбусы, застылі вялізнымі ледзянымі слупамі. У промнях веснавога сонца слупы іскрыліся і прасвечвалі, і ўсё вакол здавалася мне падобным на ледзяное царства» (Лідзія Іванаўна Мельнікава).

А васьмігадовай Жанне (Жанне Эмільеўне Уманскай) блакада ўспамінаецца як страшэнны холад. Увесь час холад, пад коўдраю, у футры — і ўсё роўна холад. Яшчэ агромністы кош, абшыты кавалкамі ватовай коўдры, у якім маці насіла абед. Хлеб, кавалачкамі па дзвесце грамаў, хавалі ў чамадан, а чамадан клалі ў канапу, каб не з'ядаць гэты хлеб адразу.

«Неяк не існавала ні раніцы, ні вечара. Нічога. Здавалася, што цемрава суцэльная ўвесь час. Я навучылася адрозніваць цыферблат гадзінніка. І дагэтуль, па свой со-

рам, успамінаю, што памятаю толькі час, калі мама павінна была пакарміць мяне. Часам я ведала, што раніца, часам не ведала, таму што практычна мы не спалі, у нейкай дрымоце ўначы былі. Кажуць — хлеб спіць у чалавеку. А пакольні хлеба не было, нам не спалася».

У сярэдзіне блакаднай пакуты, сярод усіх нягод, нястач, жахаў, смерцяў галоўнай трагедыяй былі дзеці. Пра іх клапаціліся перш за ўсё і гарадскія ўстановы, і само насельніцтва, іх мучэнні, іх становішча было для ўсіх найпакутлівейшым болем. І нават у памутнелай галоднай свядомасці дарослых дзеці, дзіцячае захоўвалася, як правіла, святым.

«Прадукты з базы вазіла на санках адна дарослая жанчына-экспедытар. Яна заўсёды брала з сабою двух хлопчыкаў гадоў па чатырнаццаць. Вось наступіла мая чарга. База знаходзілася за Нарвскімі варотамі. Туды і назад мы ішлі пешшу. Туды ўлегцы, назад — схапіўшыся за вяроўчыну санак. Адзін з нас заўсёды ішоў ззаду назіральнікам. На адной выбоіне сані нахіліліся, і соевыя цукеркі рассыпаліся з карабка на снег. Вакол нас імгненна ўтварылася цеснае кола з праходзячых міма пешаходаў. Экспедытар замахала рукамі, завойкала, з яе крыку зразумелі, што цукеркі вязуць у дзіцячы дом, ды і мы, два заморкі, былі добрай ілюстрацыяй. Народ тоўпіўся вакол нас, растапарыўшы ў бакі рукі, вочы гарэлі, але ніхто не нахіліўся. Мы сабралі ўсе цукеркі ў карабок, падабралі пакеты, паправілі сані і рушылі далей. Людзі яшчэ доўга праводзілі нас вачыма» (Аляксандр Іванавіч Любімаў).

Дзеці, што нагадвалі старэнькіх, без ценю ўсмешкі, маўклівыя, вялыя, усё разумелі і нічога не разумелі. Немцы, вайна, фашысты дзесьці там, за горадам, ды і сама блакада заставалася для шасці-васьмі-дзесяцігадовых дзяцей паняццем абстрактным. Канкрэтнымі былі цемра, голад, сірэны, выбухі,— незразумела, чаму ўсё гэта абрынулася на людзей? Куды знікла яда, куды зніклі блізкія? Вайна не ўвасаблялася ў людзях, у ворагах, у паліцаях, у чужой мове, як гэта было, напрыклад, на акупіраваных землях. Мы гаворым пра малышоў, тыя, хто старэйшы, хутка сталелі. У малышоў жа дзяцінства спынялася. Не проста было гэтым маленькім старым вяртацца потым у жыццё, у дзяцінства, да саміх сябе.

Н і н а  В а с і л ь е ў н а  К а в а л ё в а, жанчына вельмі імпульсіўная, жвавая, удумлівая, разважлівая, расказвае пра сябе дзяўчынку так, што міжволі хочацца тую дзяўчынку ад яе ж абараніць, ад яе бязлітаснай памяці.

«— Колькі вам было тады гадоў?

— Шэсць. Мама захутала мяне ва ўсё, што было. Я памятаю — на мне нейкія анучы, хусткі. Нават некалькі паліто было надзета.

— Напэўна, холадна было і таму, каб рэчы з сабою ўзяць?

— Не ведаю, нашто так было зроблена. Памятаю, я нейкая непаваротлівая была. Па-мойму, толькі адна дзесятая гэтых ануч была я сама. Запомніла, што ехалі на падводзе, пасля некуды заехалі. Нейкі мужчына ў кажусе спыніў рух. Кажа: «Куды? Немцы!» І мы павярнулі. Мама, па-мойму, побач была. Яна пытала: «Ніна! Есці хочаш?» Я страшэнна хацела есці, а сказаць не магла. Крычу недзе ўсярэдзіне: «Мама, хачу есці!» А сказаць не магу. І так страшна было таму, што язык не паварочваўся.

— А чаму не маглі сказаць?

— Уражанне, што язык зусім размяк, вата нейкая. Но магу ні варухнуцца, нічога. Проста трупам была. А голас усярэдзіне крычаў: «Хачу есці!..» Памятаю далей яшчэ эпізод, калі нас ужо прывезлі на Урал. Куды спачатку, нават не памятаю. Памятаю, я сядзела дзесьці ў кутку. І нам дзялілі пернікі. Пернікі дзялілі не ўпоперак, а ўздоўж, каб бачнасць цэлага перніка была, а не паловы... Гэтыя пернікі давалі і ўсё пыталіся: «Смачна?» А я нават не разумела. Памятаю, сядзела і разважала: што такое смачна, нясмачна? Што такое хочацца есці ці не хочацца есці? Клянуся, сяджу ў кутку, і вось гэтая думка ў мяне: што такое значыць «не хачу есці»?.. Пасля, памятаю, на Урале такі эпізод. Калі дзеці ўсе спалі, я пабегла ў поле. Усе гаварылі: хлеб расце. Я разумела гэта ў прамым сэнсе. Думаю, трэба раскапаць ямку — і там буханка свежага хлеба. Я яе вазьму і буду сытая. Сяджу капаю, капаю. Ямку глыбокую выкапала, а хлеба там і няма! Сяджу плачу. І вось, памятаю, нейкі вельмі высокі дзядзька ідзе: «Што ты тут робіш?» Я кажу — хлеб капаю. І вось ведаеце, ці людзі добрыя былі, ці мне так здавалася, узяў мяне пажылы чалавек, пасадзіў на плечы, кудысьці прынёс. Памятаю — у цёмны пакой. Бульбы ён мне даў і доўга расказваў, што хлеб спачатку трэба пасеяць, пасля вырасціць, зжаць, муку змалоць, потым спячы. Тады гэта

будзе хлеб... І памятаю, няня ў нас была тоўстая. Бывала, яна прытуліць мяне да свайго жывата і так гладзіць, гладзіць. А да мяне не даходзіла, настолькі наогул атупела. Нават калі ў школу пайшла, слаба разумела. Доўга такая была.

— А мама дзе была?

— Я нават не ведаю. Калі нас перавезлі праз Ладагу, пасадзілі ў машыну (ці на падводу, не памятаю), здаецца, мамы ўжо са мною не было. Сястра мая хварэла. Памятаю, яна ляжала ў бальніцы, у палаце. Па-мойму, туберкулёз у яе быў. Ёй давалі лыжку цукру і кавалачак масла. А я хавалася пад ложкам, і яна мяне карміла. Долю, якая ёй належала, яна мне аддавала, а я злізвала з гэтай лыжкі.

— Яна лыжку падсоўвала пад ложак?

— Так. Я казала: «Валя, калі яшчэ будуць даваць табе?»

— Вы доўга ляжалі? Блізка ваша палата была?

— Не, я не ляжала. Я не ведаю, што было. Памятаю, што яна ляжала ў ложку, ёй давалі цукар і масла. Яна не магла есці, а я была пад ложкам і ўсё злізвала. А потым — настолькі я атупела! Я памятаю, калі мы ўжо вярталіся, мы ехалі з Валяй у цягніку. Я так баялася яго! Мяне поцягам цягнулі ў вагон! Страшэнна баялася паравоза, пары, дыму. Валя кажа: «От глядзі, зараз мама будзе сустракаць цябе». Яна была старэйшая. Калі мне было шэсць, ёй — дзевяць. Яна ўжо ў разумным узросце. А я — я — слова «мама» ўжо забыла. Вось я памятаю, мама ўжо па пероне, Валя кажа: «Вунь мама ідзе». А я маму адштурхоўваю і кажу: «Дзе ж мая мама?» Валя кажа: «Ды вось яна! Тут!» А я вельмі доўга яе не прымала. Я да такой ступені яе не прымала, настолькі была зацятаю, што мы вось ужо ў школу пайшлі, мне выдавалі дзённікі ці сшыткі, дык я двойкі ставіла сама сабе і падкладвала маме і з-за кутка падглядвала. Што гэта такое было? Адчування такога, што ў мяне ёсць мама, што я яе знайшла, гэтага ў мяне не было.

— А яна добра абыходзілася з вамі?

— Канечне, добра. Яна ж столькі перажыла, бачыла сваіх дзяцей у жахлівым становішчы, думала, што згубіла іх. Як яна магла кепска абыходзіцца? Яна вельмі пакутавала, але мне яе пакуты быццам бы нават давалі асалоду. Я не ведаю, што гэта такое? Цяпер я нават зразумець не магу той злосці. І шкадую аб гэтым. Я ж зусім іншая стала. А ў той час была нейкая страшэнная, і да

мяне доўга нічога не даходзіла. Я вось памятаю, настаўніца матэматыкі задачку на прасцейшыя лікі ўдзёўбвала. Дзяўбе, дзяўбе — не разумею. Нават да дваццаці не навучылася лічыць. Не ведаю, што гэта такое! Жахлівая была.

— А дзе ваша мама цяпер?

— Мама на пенсіі. Тата таксама на пенсіі. Хворыя людзі. Мама асабліва хворая. Бацька здаравейшы за яе, мужчына.

— А мама часта ўспамінае Ленінград, блакаду?

— Ведаеце, не ўспамінае. Мы яе распытваем, а яна не гаворыць. Неяк я паспрабавала: «Можа, раскажаш штонебудзь?» А яна быццам бы, ведаеце, закрычала на мяне: «Не, не хачу!» Кіно пра вайну яна наогул не глядзіць, стараецца не хадзіць на гэтыя фільмы. Слова «вайна» яна не пераносіць цяпер і не хоча нічога слухаць.

— Раскажыце пра Дзень Перамогі, калі ласка.

— Вось такі выпадак быў. У канцы вайны нам давалі тваражныя сыркі, соевыя. Памятаю Дзень Перамогі каля Пяці кутоў. Музыка ўсякая грымела, грамафоны з вокнаў раўлі. Вясна ўяіо была. Поўна народу. Я запомніла, што два салдаты неслі вялікі крэндзель, вялізны белы крэндзель. Па-мойму, гэта быў сапраўдны крэндзель. Усе ім нешта кідалі. З балкона кветкі ляцелі і нейкія паперкі. А ў мяне нічога не было ў руках, толькі сырок. Я падышла і аддала салдату, што нёс крэндзель, свой сырок.

— Ён узяў яго?

— Не памятаю, узяў ці не ўзяў, увогуле, аддала замест кветак — падарунак».

У дзіцячым стацыянары Ірыне Кірэевай запомнілася дзяўчынка. Яе прывезлі паміраючай ужо. Дзяўчынка была старэйшая за Ірыну.

«Яна мне кажа: з’еш, калі ласка, мой хлеб (ну колькі там? Норма — сто дваццаць пяць грамаў хлеба), я не дажыву да заўтрашняга дня. Ляжыць яна побач са мною. Ложкі стаялі вельмі блізка адзін каля аднаго, каб больш можна было ўвапхнуць.

Памятаю, як я ўсю ноч не магла спаць, таму што думала: узяць хлеб ці не ўзяць? Усе ведаюць, што яна не можа ўжо есці. Але калі вазьму гэты хлеб, дык падумаюць, што я ўкрала яго ў яе. А страшэнна хацелася есці. Страшэнная барацьба з сабою: чужое ж! Так я хлеба не ўзяла. Вось цяпер, калі кажуць: галодны можа ўсё зрабіць, і ўкрасці, і гэтак далей,— я ўспамінаю свае пачуцці, дзіцяці, калі чужое, хоць мне і аддавалі яго, я ўзяць усё-

такі не магла. А дзяўчынка сапраўды памерла, і гэты кавалак хлеба застаўся ў яе пад падушкаю».

Скрытая палеміка час ад часу загараецца ў самых розных расказах. Зводзіцца яна, груба кажучы, да двух меркаванняў: адны, як Ірына Кірэева, лічаць, што чалавек не мае права траціць сваёй годнасці, парушаць законы чалавечнасці, сумленнасці, гонару. Яны не даруюць, не апраўдваюць выпадкаў, калі людзі кралі хлеб, адымалі яго ў бліжніх, пускаліся на махлярства, хітрыкі. Яны самі прайшлі цераз усе выпрабаванні, не спатыкаючыся і не адступаючы ад ніводнага правіла чалавечнасці, і быццам бы зарабілі сабе права на такую патрабавальнасць. Другія таксама перанеслі мукі голаду і бачылі, як галоднаму чалавеку цяжка адказваць за свае ўчынкі.

Гэтая палеміка — адна з тых спрэчак, якія не вырашаюцца з дапамогаю матэматычнай логікі. Яны доўжацца, цягнуцца гадамі, пакаленнямі, адлюстроўваючы розны лад чалавечае душы, разнастайнасць яе волі, стойкасці, яе выхаванне, а можа, і яшчэ нейкіх невядомых нам уласцівасцей.

...Пазней нам сустрэўся яшчэ адзін выпадак, падобны на той, калі дзеці засмяяліся ў класе. Амаль такая самая гісторыя, але ўсё-такі іншая. Мы прывядзём і другую. Выбіраць паміж імі цяжка.

Гэта было глыбокай восенню 1942 года. Некаторыя школы пачалі працаваць. У школе, дзе вучылася Ірына Кірэева, сабралі ўсяго адзін клас, чалавек семнаццаць дзяцей.

«Мы ўцяклі з урока. Раптам нам закарцела такое свавольства. А дзверы зачынялі, каб мы не выходзілі на вуліцу. Мы зламалі дзверы на чорны ход і ўцяклі з урока.
І натрапілі на нашага загадчыка РАНА. Ен сказаў: ідзіце неадкладна ў школу! Таму што былі абстрэлы і нам не дазвалялі хадзіць па вуліцы. Увогуле, нам не было чаго рабіць і на вуліцы. Мы вярнуліся ў школу, прыйшлі да завуча, а яна раптам заплакала.

...Цяпер я разумею, што настаўнікі радаваліся, таму што гэта была першая дзіцячая правіннасць і, увогуле, дзеці вярталіся да жыцця, гэта было зразумела і ім надзвычай прыемна».

Эпізоды гэтыя і падобныя, і непадобныя. У першым

смех, у другім свавольства: розныя рэакцыі настаўнікаў, але аднолькавае разуменне надзеі. Кожны выпадак па-свойму варты ўвагі. Іншыя адценні, іншыя пачуцці і абставіны. Ці ж можна было нам выбраць з іх адзін і прытым не абядніць усю карціну? Кожны раз, абмяжоўваючы сябе, мы бачым не выйгрыш, а страты, страты...

Калі апавяданне за апавяданнем слухаеш дзень за днём, з'яўляецца пякучая патрэба яшчэ і яшчэ раз пераканацца, што ўсмешка магчыма, што дзяцінства магчыма, што ўсё гэта ёсць, ёсць, бывае, магчыма!

«— Мы сядзелі, і яны гаварылі толькі пра яду: «Мама прыносіла яблыкі», «Мама гатавала манную кашу»... Адным словам, яны сядзелі, як старэнькія, і гаварылі толькі пра яду. І раптам ад гэтых дзяцей выбягае дзяўчынка ў беленькай сукеначцы і пачала скакаць на скакалачцы. Усе дзеці так здзіўлена на яе паглядзелі. Я нават не пацікавілася, чыя гэта дзяўчынка, але было вельмі прыемна, яна, як матылёк, успырхнула, яна нават, ведаеце, у мяне ўсяліла бадзёрасць, лёгкасць нейкую» (Рогава Ніна Васільеўна).

Аж да снежня 1941 года па Ладазе прабіваліся ў Ленінград буксіры з баржамі. Да гэтага часу Ваенны Савет фронту ўжо зрабіў усё для падрыхтоўкі будучай «Дарогі жыцця». 21 лістапада 1941 года пайшоў, пацягнуўся па першым лёдзе конны абоз, неўзабаве пайшлі і аўтамашыны, 60 аўтамашын рушылі да ўсходняга берага возера па муку. Ленінград пачаў атрымліваць хлеб. Але спатрэбіліся тыдні і месяцы, пакуль на карткі пачалі выдаваць ужо не 125 грамаў, а 200, а пасля 300 грамаў. Хлеб падвозілі, прабіваючыся цераз завірухі, абмінаючы ледзяныя палонкі, трэшчыны, машыны з Кабоны. «Дарога жыцця» не адразу магла папоўніць хутка знікаючыя запасы харчоў у горадзе. Краіна слала Ленінграду ўсё, што магла. Эшалоны з падарункамі, партызанскія абозы. А назад, з Ленінграда, машыны вывозілі мацярок з дзецьмі. Самых гаротных. Дваццаць тысяч салдат, афіцэраў, вольнанаёмных абслугоўвалі «Дарогу жыцця». Яны рабілі, што маглі, ды яшчэ і тое, што немагчыма ў звычайным жыцці. Гераізм гэтых людзей складае адну з найпрыгажэйшых старонак гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Яны былі героі — кожны зноўтакі па-свойму, сваімі асаблівымі, непаўторнымі паводзінамі.

«Усе мы вельмі баяліся памерці на лёдзе. Чаму? Таму што мы баяліся, што нас рыбы з'ядуць. Мы казалі, што лепш няхай нас заб'е на зямлі, на дробныя кавалкі разарве, але толькі не на лёдзе. Асабліва я, я была баязліўка. Я гэтага не хаваю. Баязліўка. Баялася, што мяне рыба з'есць! І вось з таго часу я пачала баяцца вады. А калі была дзяўчынкай, я наогул добра плавала. Калісьці я спартсменкаю была... А потым, пасля лядовай дарогі, пачала баяцца вады. Нават не магу ў ванне седзячы мыцца. Я абавязкова павінна проста пад душам стаяць. Баюся вады».

Так расказвае пра сябе кавалер ордэна баявога Чырвонага Сцяга, атрыманага ў ліку першых на Ленінградскім фронце, баец, пра якога ў свой час пісалі ў нарысах і Фадзееў і Сіманаў, Вольга Мікалаеўна Мельнікава-Пісарэнка. Слухаеш гэту маленькую-маленькую (хочацца менавіта двойчы паўтарыць) жанчыну і верыш, што ёй было страшна, таксама як верыш у яе ордэн (трэці па ліку, атрыманы ленінградкамі), у яе подзвіг на «Дарозе жыцця»*.

«— Эвакуацыя пачалася ў другой палове студзеня. Спачатку эвакуіравалі цяжкараненых. Вельмі страшнаю гэта эвакуацыя была. Эвакуіравалі дзяцей, хворых, жанчын. Гэта называўся найкаштоўнейшы груз, таму што гэта жывыя людзі былі, знясіленыя, галодныя! Гэтыя людзі былі настолькі страшныя, настолькі схуднелыя, што яны былі захутаны і коўдрамі і хусткамі — чым давялося, толькі б праехаць гэту лядовую дарогу. А перад світаннем, калі машыны праязджалі праз Ладажскае возера, шафёры вельмі імчалі, каб хутчэй праехаць гэтыя трыццаць — трыццаць два кіламетры,— на досвітку мы знаходзілі па пяць, па шэсць трупікаў. Гэта былі маленькія, змардаваныя дзеці. Яны ўжо былі мёртвыя, таму што ўявіце: дзіця на поўным ходу вылятала з рук маці, ён пры вылеце слізгацеў, ударыўся аб гэты лёд... Мы стараліся дазнацца — чыё гэта дзіця? Разгортвалі, але там ні запіскі, нічога не было. Гэта былі дзеці ад васьмі месяцаў да годзіка, хлопчыкі і дзяўчынкі.

— Маці не магла ўтрымаць?

— Вы зразумейце, маці трымае дзіця на руках. Дапусцім, машыну трасяне на ледзяных ухабінах, і ў маці ад слабасці дзіця вылятае з рук. Яна ж была такая слабая:

* Мы сустрэліся з Вольгай Мікалаеўнай Мельнікавай-Пісарэнка, калі яна працавала ў музеі «Дарога жыцця».

у яе дыстрафія ледзь не трэцяй ступені, можа, нават і трэцяй. Яе ж на руках саджалі на гэтыя машыны, каб пераправіць на Вялікую зямлю. А часам ехалі цэлыя калоны з дзецьмі ў закрытых машынах, у аўтобусах. Гэта ўжо былі дзеці дзетсадаўскага ўзросту, школьнага ўзросту. І хаця тыя машыны былі закрытыя, але ацяплення не было. Яны вельмі халодныя былі. Не тое што ў нас цяпер — ацяпляюцца і аўтобусы і тралейбусы. І нярэдка падчас пургі, мяцеліцы ў машыны перахоплівала радыятар, таму што вада замярзала імгненна. Каб разагрэць гэты радыятар у адкрытым лядовым полі, шафёру даводзілася затраціць паўтары гадзіны, а можа, нават і ўсе дзве. І добра, калі ён блізка спыніцца ад палаткі, тады дзяцей мы забіралі ў палатку, аказвалі ім медыцынскую дапамогу, кармілі. Ну, чым мы кармілі? Давалі па кавалачку — грамаў пяцьдзесят — сухарыкаў. Чай салодкі давалі. І калі бачылі, што дзіця кепска сябе адчувае, мы рабілі ўсё, каб ён даехаў да Вялікай зямлі. Даводзілася часам рабіць уколы — камфару ўводзіць, каб сэрцайка працавала.

У мяне ў палатцы ў лютым стаялі сібіракі-ўральцы: здаровыя такія мужчыны былі гэтыя байцы — мае санітары. І вось яны казалі: «Вольга Мікалаеўна, гэтыя ж дзеці мёртвыя!» Кажаш: «Не, яны жывыя, у іх яшчэ б’ецца сэрцайка, яны жывыя». А тое, што ў іх былі такія змярцвелыя вочы, гэта толькі таму, што яны вельмі знясіленыя былі. Часта ў іх, у гэтых дзяцей, на тварыку нават валосікі раслі.

— Як у старэнькіх?

— Так. Мы іх і называлі маленькімі глыбокімі старымі. Калі гэтыя дзеці траплялі ў палатку, у іх адсутнічалі і сіла, і воля, і руху не было (не тое што ў нашых цяпер дзяцей). Бывала, возьмеш іх ручку — тонкай-тонкай скурачкаю абцягнута. І ўсе костачкі літаральна можна было палічыць праз гэту скуранку. І вось калі шафёр прыходзіў і паведамляў, што машына гатова, што можна іх зноў пагрузіць у аўтобус, дзеці, ведаеце, такое супраціўленне аказвалі! Яны не хацелі выходзіць з цяпла. Яны адчувалі, што ім тут удзялілі ўвагу, што ім далі кавалачак сухарыка, салодкага чаю. Яны супраціўляліся. Ну, мы ўгаворвалі, што яшчэ ў лепшае месца трапіце, вам там дадуць супу, дадуць мяккую булачку, там вас будуць лячыць і там будзе яшчэ цяплей. Добра вам будзе. Я кажу: «Мы будзем вас суправаджаць да самай Кабоны». І часам даводзілася суправаджаць да самай Кабоны, каб супакоіць малышоў.

Яны бачылі, што мы едзем з імі, і супакойваліся. А вочкі ў іх былі настолькі мёртвыя, ведаеце, нават ніякага бляску ў іх не было, мёртвыя вочы, як шкляныя, калі можна гэтак сказаць. Калі вось гэты сухарык давалі, у іх на імгненне з'яўляўся бляск, а пасля неяк умомант гэты бляск патухаў».

Гэта пра дзяцей найменшых, якія яшчэ нічога не ўсведамлялі, не разумелі, пра тых, што, выжыўшы, сёння самі нічога расказаць не могуць. Яны не памятаюць. Яны былі ва ўзросце, калі жывуць яшчэ без памяці. Калі цяпер і з'яўляюцца перад імі нейкія цьмяныя карціны ранняга дзяцінства, дык расшыфраваць іх значэнне яны не могуць.

З усяго выслуханага, запісанага некалькі расказаў вылучаліся сваёй значнасцю і памяццю, праўдаю пачуццяў, данесеных праз гады. І ў першую чаргу расказ Марыі Іванаўны Дзмітрыевай (праспект Газа, 54). Праўда, Марыю Іванаўну трэба бачыць, калі яна расказвае, альбо хоць голас яе чуць, каб адчуць яе блакадную аповесць на ўсю глыбіню. Але раз ужо не расказ яе слухаеце, а чытаеце запіс, дык хоць колькі-небудзь трэба расказаць пра яе самую.

Гэта папаўнелая і, вядома ж, пастарэлая (у параўнанні з ваеннай фатаграфіяй) жанчына — увасабленне дабрыні. Дзейснай дабрыні. І расказ яе — таксама дзеянне, якое патрабуе вялізнай душэўнай аддачы. Яна так бачыць, так адчувае тое, што адбывалася трыццаць пяць гадоў назад, што нібыта зноў удзельнічае ва ўсім, пра што расказвае вам. І вы ўжо самі не расказ слухаеце, а нібы спяшаецеся з ёю, з яе байцамі самаахові, ад барака да барака, ад пажару да пажару, ад смерці да смерці...

Свае аб'екты начальнік групы самаахові ЖАКТа Кіраўскага раёна Марыя Іванаўна Дзмітрыева і сёння ўсе памятае па нумарах.

«— Здарылася гэта прыкладна ў снежні. Ці ў студзені? Было гэта зімою. Быў вялікі мароз. Пачаўся абстрэл. Абстрэл быў вельмі моцны. Мы доўга прабіраліся туды. Гэта вуліца Швяцова, там дом быў абстраляны, дом сорак сем, насупраць і сюды яшчэ бліжэй — дом трыццаць шэсць. Вось мы бяжым. Дом трыццаць шэсць. Тут нават непрыкметна. Снарад пайшоў неяк у акно. І, высвятляецца, праз акно — вось шыбы прабітыя! — прайшоў і ў кватэры разарваўся. І забіла дзяўчынку. Мы ўжо толькі па дарозе назад

убачылі. Але яна ўжо ўсё роўна была мёртвая. Стаіць на каленях пасярод пакоя ў адной сподняй кашулі. Мабыць, яна ўскочыла, хацела бегчы некуды, але не паспела. І ў яе знесла галаву. Толькі адны валасы ляжаць. А дзяўчына гадоў васемнаццаці. Мы прабраліся ў дом сорак сем. Прыкладна каля гадзіны ночы было часу, а можа, і другая гадзіна ўжо была. Я прыйшла туды, крычу — нідзе нікога не чуваць. Вокны асветлены. Лесвіцы цёмныя. Ну, у мяне быў ліхтарык, на гузіку вісеў, чамусьці і ён кепска свяціў. Пайшла наверх, на другі паверх. Крычу — нідзе ніхто не адгукаецца. І вось першыя дзверы, на якія я патрапіла на другім паверсе, адчыніла. Я не памятаю — ліхтарыкам спярша я асвятляла ці там гарэла нейкае святло? Не магу ўдакладніць. І толькі адчыніла, а гэтая Дземіна Каця, маладая жанчына, сядзіць на канапе каля печы (печ там была такая круглая). У яе на адной руцэ дзіця маленькае, месяцаў тры яму, можа, і менш, а на другой руцэ — так упоперак ног — ляжыць яшчэ дзіця, хлопчык, гадкоў чатыры. Я падышла, гляджу, пачынаю пытаць — святло ж дрэннае! Тут ліхтарыкам я зусім асвятліла. А ў яе, гляджу, палова галавы адарваная асколкам — вось так! Яна мёртвая. А гэтае дзіця, якому месяцаў два ці тры, не ведаю,— жывое! Уявіце сабе! Як ён уцалеў? А той, што на каленях ляжыць, хлопчык, гадкоў трох-чатырох (ён вялікі, рослы такі), гэты мёртвы. У яго перабітыя ножкі і паясніца.

— Снарад разарваўся звонку?

— Снарад разарваўся каля дома, і асколкі папалі паміж перакрыццем і вушаком рамы. А яна тут сядзела — і ўсё! Пасля чую, нехта яшчэ прыйшоў. Я адчыніла дзверы, крычу: «Заходзьце сюды!» І не намятаю, нейкая жанчына прыйшла да мяне. Кажа — у саракавы дом таксама снарад трапіў (а саракавы насупраць). Але там абышлося. Там кагосьці злёгку раніла, але ахвяр не было. У гэтай Каці муж на фронце... Ну што ж — да раніцы. А раніцаю выклікала з МППА, з РОККа* прыйшлі. Забралі, павезлі каго куды.

— А куды дзіця аддалі?

— Дзіця доўга ў нас знаходзілася: вось тут дзяжурны прыёмны пункт быў, накшталт ясляў, на гэтай — як вуліца называецца, забыла,— паміж Балтыйскаю і Швяцова. Мы нямала туды здавалі дзяцей.

* Расійскае Таварыства Чырвонага Крыжа.

чарнавокі. Што рабіць? Праўда, я тут паставіла вядро вады, памыла яго. Брудны, запушчаны такі — кашмар. Памыла. Разам з сабою накарміла. Мне трэба на працу. Узяла яго з сабою. Прынесла туды. Пазваніла Кацельнікаву Івану Васільевічу, начальніку крымінальнага вышуку. Ён усё сваё жыццё працуе ў нас у раёне. А я таксама ўсё жыццё пражыла ў Кіраўскім. Ну вось я кажу: «Іван Васільевіч, вось такая справа. Што мне рабіць з ім?!» А ён кажа: «Ну што ж, здавай сюды». Я кажу: «Здавай! Дык там не бяруць без нічога, проста так, трэба накіраванне нейкае. Якое накіраванне я дам?» Ён кажа: «Так, сапраўды, ад нейкага часу там гэта патрабуюць, а то, бывае, сваіх дзяцей прыводзяць. Пачакай. Зараз я прышлю салдата. Прынясе накіраванне». А ў нас было некалькі жанчын, яны дзяцей у нас адводзілі ў прыёмнік. Мы іх на іншыя справы не бралі, а на гэта яны былі яшчэ здольныя. І адна з гэтых бабулек, Усця, і не памятаю ўжо яе прозвішча (яна потым хутка памерла), гэта Усця пайшла разам з салдатам. Здалі гэтага хлопца. А вось яшчэ выпадак, вуліца Швяцова, пяцьдзесят шэсць, па-мойму, дом гэты пасля ўвесь разбіла. Таксама не выходзяць і не выходзяць з кватэры. А ніжняя кватэра. Людзей жа мала засталося ў дамах. Іду. Ды не адна я, узяла двух чалавек з сабою: хто ж яго ведае, там жа амаль ніхто не жыве, дом жа ўвесь разбіты. Вось зачынены пакой. Мы ўжо біліся-біліся. Дворнічыха прынесла багата ключоў, і вось мы пачалі адчыняць. Адчынілі. І што ўбачылі, якую карціну? Адчынілі дзверы — стаіць ложак. Маці ляжыць мёртвая. Маладая жанчына, Бялова яе прозвішча. А муж на фронце. А дзіця — не ведаю, яму годзіка паўтара — жывое. І вось па ёй поўзае, прычым цягне яе грудзі ў рот і ссе іх. Кашмар нейкі! Ну, як вы думаеце?! Вось такая карціна перад вачыма. Ну, што рабіць, узялі гэтага дзіцёнка...»

Спынім пакуль расказ Марыі Іванаўны...

Голад і дзеці, блакада і дзеці — найвялікшае злачынства фашыстаў перад Ленінградам, ленінградцамі. Мучаючы голадам, забіваючы дзяцей, яны жалем да дзяцей катавалі ленінградцаў, чакаючы, каб альбо вымерлі абаронцы Ленінграда, альбо здалі яго — увесь паўночны фланг усходняга фронту.

У расказе Івана Васільевіча Калягіна аб дзеяннях МППА Кіраўскага раёна, дзе ён быў камандзірам, ёсць

невялікі эпізод, у якім сабраліся нібыта ўся сіла і ўвесь боль мацярынскі...

«Я памятаю такі выпадак, калі далажылі, што вось тут, па Трактарнай вуліцы, снарад не разарваўся ў кватэры. Ну, паслаў туды піратэхніка. Піратэхнік паехаў туды. Прыехаў. Звоніць адтуль, што не можа снарад адабраць. «Як не можаш снарад адабраць?» — «Не магу. Прыязджайце самі». Прыехаў сам. Зайшоў у пакой. Ляжыць жанчына на падлозе, абняла снарад, захутала яго ў шаль (снарад цёплы яшчэ) і не аддае нікому. Не аддае снарад! Пачалі высвятляць, у чым справа. Аказваецца, у яе груднное дзіця было. З жаху, у паніцы сваячка схапіла немаўля і пабегла з ім. А маці засталася. Убачыла гэты снарад і прыняла яго за сваё дзіця. Ну, значыць, чалавек быў ужо ў ненармальным стане...»

Калі іх прывозілі на Вялікую зямлю, іх пазнавалі адразу: ленінградскія дзеці!

І іх не пазнавалі.

Пазнавалі па старэчых тварыках, паходцы, але перш за ўсё па вачах, што бачылі ў с ё ! Бачылі ўсё тое, што ленінградцы «схавалі ад Вялікай зямлі...» (Вольга Бергольц).

А знаёмыя ці родныя, калі сустракалі сваіх, часта не маглі іх пазнаць. Як той вайсковец (аб гэтым у запісках згадвае пра сябе Лідзія Георгіеўна Ахапкіна), што ўскочыў па прыехаўшую ў Чарапавец машыну, паглядзеў на жонку, дзетак сваіх і хацеў злазіць назад: не пазнаў! А калі паклікалі: «Татка!» — ён паглядзеў яшчэ раз і... чамусьці шапку зняў».

Галіна Аляксандраўна Марчанка толькі пасля таго, як выехала з блакаднага Ленінграда, зразумела, якая яна «на нармальны погляд».

«— У Валагодскай вобласці мы трапілі ў нейкую вёску. І побач аказалася вёска, у якой жылі родныя маёй суседкі. А дзяўчынка іхняя прыязджала калісьці ў Ленінград, да нас прыходзіла ў госці. І вось калі мы прыехалі, яна звярнулася да мяне: «Бабулька, а дзе Галя?»

— Гэта пра вас трынаццацігадовую? Гэтак былі адзеты?

— Гэтак была адзета, ды і сама — адна скура і косці. «Кланя, кажу, Галя — гэта я». Яна заплакала і кажа: «Я цябе не пазнала!..»

Троіцкая Вольга Гаўрылаўна (Дзягцярны зав., 39), выхавацельніца дзіцячага дома, згадвае першыя ўражанні, рэакцыю дзяцей, калі яны з блакаднага, які ўжо стаўся прывычным, свету траплялі ў нармальны, звычайны.

Першыя ўражанні дзяцей:

«— Вольга Гаўрылаўна, паглядзіце, трава расце!» (А мы яе адразу ж выстрыгалі і елі.)

Альбо:

«Вы ведаеце, паш праваднік бульбу варыць, а шалупінне выкідае!» — з жахам казалі яны мне. І вось я расказала праваднiку пра гэта. Яна кажа: «Ну ўжо бульбаю дык я вас пачастую». І мы сядзелі і чакалі, пакуль яна нас пачастуе, але так і не дачакаліся...

У групе ў мяне была дзяўчынка (прозвішча яе забыла). Яе прывезлі з нейкага маленькага паўстанка. Там перад яе вачыма спалілі пасёлак, забілі яе маці і астатніх жыхароў, а яна некуды затаілася і такім чынам выратавалася. Яна сядзела як мышка. Але ўсё-такі — дзіця, хацелася яе неяк ажывіць, што-небудзь ёй раскажаш, але яна ніяк ні на што не рэагуе. Я звярнулася да ўсіх сваіх блізкіх — пашукаць у сябе і даць ёй якія-небудзь цацкі. Нарэшце я сабрала нейкія стракатыя акраўкі і прынесла ёй, і раптам яна пацягнулася да іх! Альбо адзін хлапчук. Па Ладажскім возеры плыла баржа. Яе разбамбілі, усе патанулі, а на хлопчыку была бацькоўская куртка (надзіманая камізэлька), і ён у ёй не патануў. І вось нам перадалі яго ў дзіцячы дом. Хлапчук хадзіў нібы ваўчаня, нікога не падпускаў да сябе і не дазваляў зняць з сябе гэтую куртку. Альбо — Люся Волкава. Яе забралі з нейкага дома. Яна ляжала ў кватэры з трупам сваёй маці. Маленькая дзяўчынка, гадоў васьмі. І вось, калі мы пераехалі ў Яраслаўскую вобласць, яна ўначы як заплача. Я кажу: «Люсенька, што з табою?» — «У мяне зубы баляць». Ну, канечне, ніякія зубы ў яе не балелі. І вось яна абдыме мяне, прыціснецца і супакоіцца».

«Я памятаю, што пачуўся нейкі дзіўны гук на двары. Я спытаўся ў мамы, і яна сказала, што нічога страшнага, што гэта аддзіраюць дошкі ад паркана. Высвятляецца, што гэта зенiткі рыхтавалі. Гэта было ў самым пачатку вайны. Вось першае дзіцячае ўражанне ў пачатку вайны».

Гэта расказвае Жанна Эмільеўна Уманская, якая цяпер спявае ў Акадэмічнай капэле.

«На вуліцу я выходзіла вельмі рэдка, вельмі рэдка. Бачыла гэты заснежаны горад, страшэнны беспарадак на вуліцах, мноства трупаў. Мама неяк старалася адцягнула маю ўвагу. Бачыла я і апошнюю агонію чалавека: чалавек карабкаўся, не мог устаць, чапляўся за сцяну. Жахліва было. Але ў дзіцячае ўсведамленне гэта неяк не ўсяляла такога жаху і адчаю, таму што гэта здавалася тады прасцей. Цяпер ужо розумам сваім адчуваеш, колькі давялося перажыць жахлівасцей. Запомніла я блакадную ёлку навагоднюю. Магчыма, гэта будзе цікава. Я тады яшчэ дзіцёнкам была. Г эта быў трагічны дзень — адзінаццатага студзеня, дзень, калі памёр бацька.

— Дзе ён памёр?

— Дома. Яму прыйшла павестка на фронт. Ён быў у запасе, вышэйшы камсастаў, а дагэтуль ён быў на акопах. Верагодна, там вельмі цяжка было з харчамі: ён прыйшоў увесь апухлы. І вось, калі ён прыйшоў па гэтай павестцы ў ваенкамат, яму сказалі, што на фронт яму ўжо нельга ісці, забракавалі. І неяк хутка-хутка (я лічу) падкасіла ўсіх мужчын у Ленінградзе, што засталіся тут (гэта якраз першая зіма, першыя месяцы сорак другога ўжо года). Ён мне пацішку ад мацеры аддаваў усе мізэрныя крохі, якія яму выпадалі. Я гэтага не разумела, каб адмовіцца. Увогуле ён сябе абкрадваў. Ён ужо ляжаў, не ўставаў і ўсё намагаўся неяк мяне падтрымаць, як-небудзь мне жыццё захаваць. Цяпер гэта ўсё разумееш!

— Не памятаеце, пра што ён гаварыў з вамі?

— Гэтага не памятаю. Ён мала гаварыў. «Беражы мамку»,— казаў. «Слухайся яе, не хвалюйся, калі што-небудзь здарыцца»,— часам казаў. Але я не разумела, што можа здарыцца. Вось адзінаццатага студзеня далі білет па ёлку. Я ўжо не памятаю паходжання гэтага білета. Відаць, я тады павінна была вучыцца недзе ў першым класе. Пайшла я адна. Нам было сказана, што вось такі мяшэчак мы павінны сшыць. Гэтыя торбачкі надзявалі пад футэрку, каб ніхто не бачыў, як панясём назад падарункі, таму што людзі былі ўсякія, і азвярэлыя ад голаду былі. Не ўсе маглі трымаць сябе ў руках, не ва ўсіх заставалася пачуццё прыстойнасці. Усялякае здаралася. І вось як цяпер памятаю, змарнелыя мы ўсе нейкія, маленькія, замардаваныя дзеці, і такі самы фокуснік-мужчына: пінжак на ім матляецца, горла шалікам абкручана. Ён спрабаваў паказ-

ваць нейкія там штукі. І такія абыякавыя сядзяць дзеці. Пасля не вытрымалі і адзін спытаў: «Л ці хутка нам абед будуць даваць?» Наколькі мала дзіцячага засталося ў нас усіх. Ну, далі абед. Ён выдаўся нам шыкоўным па тым часе. І падарункі далі. Не памятаю, што там было: яблык, пячэнне, нейкая цукерка. Я запхнула гэты падарунак у мяшэчак — і пад паліто. Але каб хто-небудзь звярнуў увагу, дык на маёй фізіяноміі ясна было напісана, што я нешта страшэнна ахоўваю, нясу, рукі сціснутыя каля гэтага падарунка, выраз твару спалоханы.

Я шчаслівa прынесла гэты падарунак дамоў. І калі мы з цяжкасцю сагрэлі чай, літаральна на свечцы, мама кажа: «Схадзі разбудзі тату, ён штосьці моцна спіць. У нас будзе свята. Няхай у нас гэта будзе Новы год». (Нам не было чым сустрэць Новы год, калі ён быў.) Мне здалося, што бацька неяк дзіўна раскідаўся, раскрыўся. Ён заўсёды мяне прасіў: «Жануля! Падаткні мне коўдру, тут дзьме, там дзьме». Я прыйшла, тата, тат, тата, тат! А ён увогуле ніяк! Я закрычала, маму паклікала. Мама кажа: «Супакойся, супакойся! Ён спіць». І вывела мяне. А ён чамусьці ў другім пакоі ляжаў, ён яшчэ раней папрасіўся, можа, ён адчуваў свой канец, і яго перанеслі туды. Да мяне гэта не даходзіла, я не разумела, я нават ніколі не пацікавілася, чаму ён у другім пакоі ляжаў. І так разважыла, што жанчыны ў адным пакоі, а мужчыны павінны быць у другім. Карацей кажучы, наступіла яго канчына. Памёр яшчэ і наш сусед. Мы агульнымі намаганнямі знеслі іх на кухню, загарнулі ў коўдры. Месяц яны ляжалі на кухні, таму што не было сілы вынесці іх. І мяне дагэтуль здзіўляе поўная адсутнасць страху перад мёртвым целам. Ніякага жаху мы не адчувалі. І калі толькі чуўся шоргат у кватэры, мы паўзлі на кухню паглядзець: ці не прачнуліся яны. Таму што большасць ленінградцаў была ўпэўнена, што многія пазасыналі летаргічным сном, як бывае ад голаду. Ці не заснулі і яны? А раптам яны прачнуліся? Вось ніяк не хацелася прымірыцца са смерцю. Але, відаць, цудаў не бывае! Я заходзіла часта. Мама мяне пачала пускаць, таму што я ніяк не рэагавала на тое, што бацька мёртвы, не разумела, што мёртвы, і думала, што ён заснуў, думала, што ён прачнецца.

— Ведалі пра летаргію?

— Так, ведала, што бывае летаргічны соп. Гэта растлумачыла мне мама.

— Але сама яна не верыла?

— Не. Яна ведала, што гэта канец».

А з галавы не выходзіць тая навагодняя ёлка, замардаваныя дзеці і такі самы замардаваны мужчына-фокуснік. Ён паказвае штукі, сядзяць абыякавыя дзеткі. І ўсе марань пра абед. І сам фокуснік, і ягоныя гледачы. І немагчыма было нічым адцягнуць іх ад жадання есці.

Пра навагоднія ёлкі 1942 года памятаюць многія школьнікі. Звычайная для тых дзён школьная ёлка была, напрыклад, у Леаніда Пятровіча Папова. Цяпер ён інжынер і, дарэчы кажучы, нямала памагаў нам у зборы матэрыялаў.

«Сядзелі мы ў класе. Вокны былі зацемненыя, у калідорах таксама цёмна. Нас развялі па класах. Калі мы прыйшлі, быў канцэрт. Я яго не памятаю. Памятаю, ёлка без агнёў стаяла, змрочнае дзённае святло.

Нядаўна я з дачкою пайшоў на ёлку ў гэту школу. Стаў каля акна і пачаў успамінаць... Памятаю, як мы сядзелі, але які там быў канцэрт, зусім не намятаю — ніякай увагі на яго не звярнулі. Сядзелі мы ў паліто, а пасля пайшлі ў сталоўку. Школа знаходзіцца па праспекце Металістаў, за «Гігантам». Запрашэнне разаслалі на 5 студзеня.

Да вайны я скончыў 5 класаў. Зіму сорак першага — сорак другога года зусім не вучыўся. Сядзеў каля печачкі ў штабе аб’екта (маці была начальнікам аб’екта). Нехта (хто — не ведаю) адшукаў мяне і майго таварыша Арвіда Калніна. Мы пайшлі на ёлку разам. Нашы маці сядзелі дома, непакоіліся. Мы пайшлі раніцай. Гадзін у тры мы паабедалі, нам далі абед. Была трывога, нас спусцілі ўніз. Доўга стаялі на падвальных лесвіцах. Потым пачало цямнець. Вырашылі: мусіць, справа ідзе к канцу. Падняліся, хоць адбою трывогі яшчэ не было. Пайшлі ў сталоўку. Настаўнікі ішлі з лучынамі, адна з іх, Шарова,— яна цяпер жыве ў Яраслаўскай вобласці — была нашай першай настаўніцай. Настаўнікі хадзілі паміж сталамі і глядзелі, ці ўсё нам далі. Мы сядзелі спакойна, ціха. А ёлку дык мы бачылі яшчэ перад гэтым у актавай зале. Стаяла вялікая ёлка, настаўнікі яе зрабілі.

У сталоўцы мы распрануліся. Раздалі нам суп з храпы, катлетка маленькая, храпа на гарнір, на трэцяе быў кісель з эсенцыі. Паабедалі. Хуценька ўсё з’елі. Пайшлі па класах. Кожны клас прыйшоў да сябе. Там навобмацак пачалі раздаваць — кожнаму было падлічана — васемнаццаць разыначак у шакаладзе! Кожны праверыў: васем-

наццаць разыначак! Схавалі — ніводнае не з’елі тут, з’ядзім дома. Гэта было ўжо ў шэсць гадзін вечара. Маці нашы страшэнна непакоіліся. У нас маглі адабраць падарункі, маглі пабіць. Мы выходзілі са школы па два-тры чалавекі і, прабіраючыся амаль навобмацак, прыйшлі дамоў. Маці ўзрадаваліся, што мы прыйшлі ды яшчэ і падарункі прынеслі».

Ён не памятае, што за канцэрт быў і што была за ёлка, а перш за ўсё памятае васемнаццаць разыначак у шакаладзе. Здавалася б, усё зразумела. Але вось на што міжвольна звяртаеш увагу: усе дзеці выразна ўсведамляюць, што не звярнулі ўвагі на фокусніка, на канцэрт, на ёлку. Сваю абыякавасць памятаюць, сваю недзіцячасць. Заднім нібыта числом усведамляюць і гэту ёлку, наладжаную з такой цяжкасцю, і гэтага штукара, усё не ўспрынятае імі, тое, што для іх быццам бы не было і тым не менш — было.

Марыя Ананьеўна Шчалыванава жыве сёння адна-адзінюткая і, можа, таму так востра памятае, успамінае свайго «прыёмыша» Валеру. Яшчэ перад вайною ён уцёк з п’янага дому роднае маці, пасля ўцякаў і ад ласкавай прыёмнай маці Марыі Ананьеўны, а пасля ўцёк — ужо назаўсёды — па Ленінградскі фронт.

Гэты надзвычайны, нават калі глядзіць з дзіцячае фатаграфіі, хлопчык, ленінградскі Гаўрош, у яе расказах выяўляецца такім жывым, такім жывучым! Ніяк не хоча ён застацца, растаць у супакойлівым «ніхто... і нішто...». Ён, менавіта ён хоча жыць у нашай з вамі памяці, у нашых сэрцах. Жыць! І захавацца сваёй натурыстасцю, незалежнасцю кароткага свайго жыцця ленінградскага хлапчука!

«— Кіраўніком гаспадаркі быў не надта пісьменны Кананові́ч. У ліпені ён мяне паклікаў. Тады картачную сістэму аб’явілі. Я яму памагла раздаць карткі. І калі прыйшла дамоў, яшчэ ў двары бачу — Валера. Ён у акно глядзіць і кажа: «Цёця Муся! Прывітанне! Я прыйшоў».

— Гэта ваш прыёмыш? Зноў вярнуўся?

— Ага, мы перад вайною яго ўсынавілі, і ўсё было добра. Але перад самай вайною ён раптам знік. Мы так перажывалі з мужам. Вайна пачалася — аб’явіўся наш Валерый... У яго маці алкагалічка. Яны жылі каля Неўскага. Чаму ён зладзюжкам стаў? Там зладзюжкі былі, і ён, значыць, падпаў пад іхні ўплыў, яны яго ўзялі таму, што ў яго была імгненная рэакцыя. Я вам фатаграфію яго пакажу. Хлапчук быў такі цікавы, вясёлы. Пра яго ў школе казалі: альбо гэта будзе вялікі прайдзісвет, альбо славу-

тасць нейкая. Увогуле, ён мяне так узрадаваў: «Цёця Муся! Я прыйшоў». Я кажу: «Ну добра. А што я буду з табою рабіць?» Ён паставіў мне такую ўмову: «Уладкоўвайце, цёця Муся, калі ласка, мяне ў ФЗВ* тут, каля Андрэеўскага сабора. Толькі туды!» Са школы ён быў выключаны за свае свавольствы — гарэза быў такі. Мы тады нанялі яму дзвюх настаўніц. Адна настаўніца была па ўсіх прадметах, старэнькая, ёй семдзесят з нечым гадоў было. А другая — студэнтка. Яна арыфметыкаю з ім займалася. Ён хадзіў да іх займацца перад вайною да тых пор, пакуль не ўцёк. Гэтыя настаўніцы былі ў захапленні ад яго: такі здольны, што лёгка за чатыры месяцы прайшоў гадавую праграму! І вось ён з'яўляецца і кажа: я пайду ў ФЗВ. А яму ўсяго дванаццаць гадоў. Я пайшла да і Анашкіна, дырэктара ФЗВ. Ён кажа: «Мы яго не можам прыняць — яму гадоў мала і патрэбна даведка са школы». А ў школе ён не вучыўся. Тады я пайшла да Марыі Канстанцінаўны і кажу, што мне трэба Валерыя ўладкаваць у ФЗВ. Дайце даведку, што ён прайшоў там усё. Яна дала такую даведку, заверыла яе. І вось, вы ведаеце, я некалькі разоў хадзіла ў тое ФЗВ, і ўсё мне адмаўлялі. Я заплакала і кажу: «Ён мне няродны. Муж у мяне пайшоў добраахвотнікам. Як жа мы будзем жыць? Я вельмі прашу вас прыняць». І пасля шматлікіх паходаў я неяк прыходжу (Валерый мяне ўжо сустракае) і кажу: «Ну, скажы мне дзякуй, Валерый, цябе прынялі ў ФЗВ». Ён быў экспансіўны хлапчук, ён выказаў сваё дзякуй ведаеце як? Распластаўся і пацалаваў мне нагу! Я і дагэтуль не магу забыць, як ён быў рады.

Пачалі мы жыць з Валерам. Яму выдалі шынель ледзь не да пят, ён быў маленькага росту, дванаццаць жа гадоў толькі. Там хлапчукі вялікія. Вось аднойчы майстар прыслаў мне запіску: трэба з вамі паразмаўляць. Ну, я прыйшла. Ён кажа: «Ваш сын проста залатыя рукі, проста дзівуемся, як у яго ўсё атрымліваецца. Але вы ведаеце (і высоўвае шуфляду стала — поўны стол грошай!), вось, кажа, адбіраем у хлапчукоў грошы. І ў вашага сына. Вы дасце яму грошы?» — «Якія ў мяне грошы? У мяне грошай няма».— «Вось забірайце, у яго шэсцьдзесят рублёў узялі». Як высветлілася, маці, якія эвакуіравалі дзяцей, часта забывалі сумачкі ў магазіне і нават карткі, а хлапчукі з ФЗВ усё падбіралі. Адзін раз Валерык мне кажа: «Цёця

* ФЗВ — фабрычна-заводскае вучылішча.

Муся, у мяне такі блат! Вы хочаце мець крупы, рыбу?» Я кажу: «Адкуль у цябе можа быць блат?» А ен пацiскае плячыма і кажа: «А ў мяне ёсць блат, я магу ўсё ўладзіць!» Вось такі шпінгалет мне такія рэчы кажа: «Я магу ўсё!» Я кажу: як жа гэта? Цяпер жа ўсё па картках. І адмовілася ад гэтага. Вось аднойчы ён прыходзіць і кажа: (а ўвогуле хлусіць ён умеў, як Хлестакоў, яшчэ й лепш): «Цёця Муся! Уявіце сабе, я заходжу ў магазін, а там працуе цёця Нюша, сяброўка маёй мамы. Яна кажа мне: «Валерый, як ты трапіў у гэты раён?» — «А я жыву тут у цёці Мусі».— «Як жа ты жывеш? Моя?а, ты будзеш хадзіць сюды да мяне па малако? Ты бяры бутэлечку, і я табе буду наліваць малака...» Я, не падазраючы нічога, даю яму паўлітровую бутэлечку. Ён прыносіць гэтае малако і амаль усё сам выпівае. І вось аднойчы — а ён ужо зрабіў сабе такія пагоны чырвоныя з матэрыі (хлопчык жа ён маленькі), падперазаўся папругай і шашку зрабіў сабе з дрэва, з хлапчукамі ў вайну гуляе,— і вось адзін раз я кажу: «Валерый, ідзі дамоў, я табе павінна штонікі памыць. Ты пераапранешся, а я памыю». Калі я ўзяла гэтыя штонікі, у кішэні аказаліся карткі. Па картках ён атрымліваў малако, вось і ўсё! На дзіцячыя карткі! Я яго паклікала і кажу: «Валерый! Я ў цябе знайшла дзіцячыя карткі. І ты мог атрымліваць дзіцячае малако? Ёсць у цябе сумленне ці няма? Як ты мяне падмануў! Як мне з табою жыць пасля гэтага?!» Яго гэта скаланула, ён сказаў: «Ну, цёця Муся, з вамі кашы не зварыш». Я кажу: «Каб гэтага больш не было ніколі! Ты ведаеш, што такое маленькія дзеці, што такое ім малако, а карткі ў цябе!» — «Я знайшоў іх».— «Ну і што, што знайшоў. Гэта ж дзіцячыя карткі».

Настала зіма, у яго быў знаёмы хлопец на ніжнім наверсе, так гадоў шаснаццаць. Я кажу: «Валерый, вось як было б добра, каб ты з’ездзіў з ім на правы бераг Нявы. Там бульба ў полі яшчэ ёсць, кажуць, і капуста таксама. Узяў бы капусты, і мы з табою што-небудзь зрабілі б». Ён кажа: «Ну што ж, цёця Муся, калі ласка, я магу паехаць. Я дамоўлюся з Колем». І вось у нядзелю раніцаю яны выпраўляюцца туды. Я яму дала мяшок. І вось, ведаеце, як я пакутавала, таму што пачаліся абстрэлы. Думаю, што я зрабіла? Паслала дзіця па капусту, а там абстрэл. Дакараю сама сябе. Месца сабе не знаходжу. Пяць гадзін ужо, і шэсць, і сем, а яго няма. Ну, думаю, загінуў Валерый з-за мяне. І раптам гадзін у дзевяць ён з’яўляецца.

І такі, ведаеце, вось як дзед-мароз — з мяшком. І вось ён так у тры пагібелі сагнуўся, ідзе, нібы пілігрым божы. Я кажу: «Валерый, ты жывы!» Ён кажа: «Так. Цяжка было. Пераправіліся на катэры, пяць рублёў (а я яму пяць рублёў дала з сабою) не спатрэбіліся, цёця Муся, вазьміце». Я ўзяла гэтыя пяць рублёў. Ён прывёз мне пяць качаноў капусты. Я гэтыя качаны пасля пасаліла. Ён мне, напрыклад, мог сказаць, кладучыся спаць: «Цёця Муся, сёння ў нас збіралі на Чырвоную Армію. Давялося даць дваццаць пяць рублёў». Я з жахам у душы думаю: адкуль у яго дваццаць пяць рублёў? Я ж яму не даю. Значыць — крадзеныя. Так і ёсць, ён застаўся зладзюжкам. Я маўчу. Мне проста няёмка казаць, што ты ўкраў і даў Чырвонай Арміі.

Вось тут, на набярэжнай (а мы жылі каля Вялікага праспекта), быў калісьці такі рэстаран «Залаты якар», а цяпер гэта была сталоўка гэтага ФЗВ. Вось аднойчы ён мне кажа: «Цёця Муся, заўтра дзецям будуць даваць шакалад па дваццаць пяць грамаў — вось такі кавалачак шаколаду. Але вы ведаеце, я не люблю гэты шакалад. Я магу аддаць яго вам. А вам дадуць батончыкі соевыя, а я ж батончыкі страшэнна люблю. Давайце мяняцца?» Гэта ён ад душы хацеў зрабіць мне прыемнае. Але аднойчы ён мяне па-сапраўднаму ўразіў: раптам ён прыходзіць (а ён такі галодны быў! Хоць ім давалі чатырыста грамаў хлеба, але ён не мог наесціся, ён такі маленькі быў, галодны, і яшчэ перад вайною ён набегаўся — невядома дзе быў),— вось прыйшоў да мяне ў пакой і кая?а: «Зараз сёе-тое я вам пакажу». Лезе за пазуху, дастае маленькі скрутачак у паперы: «Цёця Муся, чым я вас частаваць зараз буду, вы і не паверыце! Нам на вячэру далі па кавалку пірага — белага. І вось, цёця Муся, я прынёс вам. Я не дакрануўся да гэтага пірага». Уяўляеце, якое сэрца было ў гэтага хлопчыка, у зладзюжкі?! Я кажу: «Давай папалам падзелім»,— «Не, не, цёця Муся, я толькі вам прынёс». І ён сапраўды шчыра гэта зрабіў! З гэтым пірагом ён, галодны хлапчук, ішоў два прыпынкі. Які чалавек мог бы быць, каб ён не загінуў! Гэты выпадак проста ўразіў мяне... Раптам ён знікае, няма і няма яго, не ідзе начаваць. Я пайшла ў ФЗВ, кажу: «Скажыце, калі ласка, дзе Валерык? Можа, паслалі куды?» Мне адказваюць: «Ведаеце, ваш Валерык з хлапчукамі — тыя большыя за яго, па семнаццаць-васемнаццаць гадоў,— усе яны ўцяклі на фронт». Так ён уцёк, і больш я ніколі не бачыла Валерыка.

— Гэта пачатак сорак другога года?

— Так, гэта было зімою сорак другога года. Больш я яго не бачыла. Наводзіла даведкі і пасля вайны — нічога. Уцёк на фронт, прапаў. Можа, над абстрэл трапіў, вельмі багата людзей садзілася ў паязды, паязды траплялі пад абстрэл, бамбілі, усё гарэла. Так Валерый прапаў. Я яго не магу без слёз успамінаць».

У франтавых запісках артылерыста Сяргея Герасімавіча Міляева шмат старонак прысвечана неадступным думкам салдата пра дзяцей, якія там — у Ленінградзе,— зусім блізка і для фашысцкіх снарадаў блізка!

Напярэдадні 1942 года С. Г. Міляеў запісаў:

***«31.12.41—1.1.42.*** Пачынаю запісваць у новай кніжачцы ў апошні дзень 41 года — закончу ў першы дзень 1942 года. Значыць, падвядзём вынікі: 1) 6 месяцаў 10 дзён вайны, дакладней — 190 дзён. Я — 180 дзён у арміі, 40 дзён на перадавой. Артылерыст. Удзельнічаў у «мясцовай» аперацыі стралком узвода. Амаль асвойтаўся са сваёй новай роляй камандзіра артылерыста. 2) За 40 дзён ад сям'і, ад дзяцей ніводнай вестачкі. (Употай спадзяюся, што жывыя, таму ніякіх пакуль вывадаў...) 3) На фронце наша становішча паляпшаецца: паступленне, што пачалося ў снежні, працягваецца, хоць і павольна. Масква ў бяспецы, Растоў таксама. Распачата дэсантная аперацыя ў Крыме (занятыя Керч, Феадосія). Але Ленінград яшчэ ў акружэнні, а значыць, яшчэ вельмі цяжка маім героям, маім маленькім героям...»

***«21.1.42.*** Вялікая радасць: нарэшце атрымаў ад дзяцей ліст, датаваны 4 студзеня. Ёсць, такім чынам, надзея, што яны цяпер жывыя. Ліст стрыманы, але па сутнасці роспачны. Як гэта піша 13-гадовая дзяўчынка. Маленькія героі! Пра маці і ад маці ні слова, мабыць, яна хворая альбо злуе, думае, што я магу памагчы...

«Добры дзень, дарагі тата!

Твае лісты мы атрымалі ўсе. Прабач, што не адказалі. У пакоі холадна, рукі мерзнуць. Печачку нам паставілі, але палім у ёй, калі ёсць што варыць. Дроў няма. Многа я ўсё роўна не напішу, а хочацца расказаць пра ўсё. У школу я не хаджу. Шурык вельмі схуднеў, плача ўвесь час. Валічка таксама. Думаем, што хутка будзе лепш. Хлеб выкупляем (1 кг) і адразу з'ядаем, таму што есці больш няма чаго. Рэдка што-небудзь гатуем. Па ваду ходзім на прыпынак. Вада за ноч замярзае. Я нічога не чытаю, і не хочацца. Пішы часцей. Калі мы атрымліваем ад цябе лі-

сты, нам быццам бы становіцца цяплей. Тата, Васілій (у кватэры брат цёці Нюшы) 24.12 памёр. І Вовін бацька (памятаеш, да Шурыка хлопчык хадзіў) таксама памёр. Пісаць больш няма пра што. Пра кепскае пісаць не хочацца, а добрага няма. Прывітанне ад Шурыка, Іны і Валічкі. Да пабачэння. Люда. 4.1.42. Пішы часцей».

***«23.1.42.*** Жылін прывёз адразу два лісты ад дзяцей і Марыі... Марыя піша: у нашым пад'ездзе памерла 18 чалавек. Жылін кажа, што горш за ўсіх выглядаюць Шурык і Валя, астатнія мае, кажа, вытрываюць. Асабліва спадабалася Марыя — энергіяй і імкненнем утрымацца. Марыя так і піша: «Чапляемся за жыццё». Так, голад аказаўся значна страшнейшы за бомбы: і снарады. Цяпер, можна меркаваць, справы пойдуць на папраўку. Нават нам прыбавілі 100 гр хлеба. Па-мойму, лепш прыбавілі б ленінградцам, чым нам, армія яшчэ можа цярпець».

Каб адчуць цану апошніх слоў, трэба прачытаць запіс, зроблены перад тым, як прыбавілі гэтыя 100 грамаў:

***«17.1.42.*** Я спрабую хадзіць менш... два дні, як адчуваецца агульная слабасць. Вельмі крыўдна, калі звалюся не ад кулі, а ад голаду...»

Людзі, якія вышуквалі, прыдумвалі харчы і вітаміны з бог ведае якіх заменнікаў; галадаючыя ўрачы, што міжволі на саміх сабе ставілі «эксперыменты» па грунтоўна забытай дыстрафіі і лячылі ад яе ленінградцаў; людзей, якія здабывалі паліва, цяпло, зберагалі культурныя, навуковыя каштоўнасці, дзіцячыя жыцці і г. д. і да т. п.,— у гераічным процістаянні Ленінграда гэта не было настолькі прыкметным, як залпы Кранштата. Але гэта было процістаянне і не менш важнае — дзеля выніку барацьбы на паўночным флангу бяскрайняга фронту. Паэт Сяргей Нараўчатаў, які ваяваў пад Ленінградам, неяк заўважыў: салдаты маглі ўтрымліваць Ленінградскі фронт, галадаючы і замярзаючы, таму што ведалі: ёсць жывыя душы ў Ленінградзе, мы не балота, мы Ленінград утрымлівалі...

Намаганні невядомай жанчыны-маці, што ратуе ў горадзе жыццё дзяцей, працягваліся і завяршаліся ў атацы танкістаў ці пяхоты, у артылерыйскай дуэлі з фашысцкімі дзетазабойцамі...

У блакадным музеі Ленінградскага педвучылішча № 5 настаўніца Любоў Барысаўна Берагавая паказала нам арыгінал ліста з Ленінграда на фронт — трынаццацігадовай Тані Багданавай бацьку. Як хочацца дзіцяці-ленінградцу, як неабходна яму наскардзіцца салдату-бацьку і

як баіцца параніць сваім болем, сваёй блізкай пагібеллю таго, хто ратуе Ленінград! А ёй жа, Тапі Багданавай, толькі трынаццаць гадоў!

«Дарагі татачка! Пішу я вам гэты ліст у час маёй хваробы калі думала, што памру і пішу з-за таго што я чакаю смерць, а таму што яна прыходзіць сама нечакана і вельмі ціха. У маёй смерці прашу нікога нівініць. (У тэксце нічога не правім.— *А. А., Д. Г.).* Прызнацца паводле сумлення вінаватая я сама, таму што нізаўсёды слухалася маму. Дарагі татачка я ведаю, што вам цяжка будзе слухаць пра маю смерць ды і мне паміраць вельмі нехацелася але нічога не зробіш раз лёс такі. Я ведаю, што цяжка вам будзе зразумець маю хваробу дык я пішу пра яе вам ніжэй. Моцна старалася падтрымаць мяне мамачка і падтрымлівала ўсім чым магла і што было. Яна нават для мяне адрывала і ад сябе і ада ўсіх пакрыху але таму што было вельмі цяжка падтрымаць давялося таму мне памерці. Татачка хварэла я ў красавіку, калі на вуліцы было так добра і я плакала, што мне хацелася гуляць, а я немагла ўстаць з лонжа дык дзякуй дарагой мамачцы яна мяне адзела і вынесла на руках ва двор на сонейка пагуляць. Дарагі татачка вы моцна не хвалюйцеся і мне ж таксама паміраць вельмі нехацелася таму што хутка лета ды і жыццё квітнее наперадзе. Пішу я вам гэты ліст і сама плачу, але вельмі баюся хвалявацца таму што рукі і ногі пачынае зводзіць сутарга, а як жа не заплакаць, жыць вельмі хочацца... Я вельмі старалася, што-небудзь зрабіць каб не прыходзіць у забыццё але няма на гэта ніякага жадання ляжу і кожны дзень чакаю вас, а калі забудуся дык вы мне пачынаеце казацца. Я ўжо стараюся нічога не думаць, але думкі не выходзяць з галавы. Ну дарагі татачка вельмі не хвалюйцеся і да слоў маёй смерці прашу аднесціся паспакайней. Вельмі я ўдзячна адной толькі мамачцы ды сястрычкам з брацікам за ўвесь іх клопат і догляд за мной, а асабліва мамачцы, якой я не магла выказаць словамі сваю ўдзячнасць, дзякуй вялікі ёй, бо яна ж мяне падтрымлівала ўсім чым магла».

Салдат Багданаў вярнуўся з вайны. Але дома ў яго загінула пяцёра дзяцей. І ў іх ліку — Таня.

А Сяргей Міляеў убачыў сваіх раней, чым загінуў сам. Яны жывуць і цяпер, яго дзеці. Але тады бліжэй да смерці былі яны.

*«19.2.42.* З 11 гадзін раніцы 13.2 да 5 гадзін раніцы 16.2 дома ў сям'і. Горад смерці сустракаў і праводзіў тру-

намі, цемраю, брудам, цішынёй, злавеснай цішынёю. Сустрэты слязамі і трупам Валічкі, адвёз яе на брацкія... Шурык распух, Марыя, Іна, Люда, думаю, вытрымаюць... Праз 4—5 дзён апішу ўсё, цяпер жа такі цянькі асадак, што няма сілы пісаць. Апрача таго, фізічна так стаміўся, вось ужо два дні не магу ачуняць, прайшоў за 11 гадзін 60 кіламетраў.

***20.2.42.*** Па-ранейшаму фізічная слабасць, разумовае атупенне, добра, што заняты справаю, а то б... Пачакаем...

***22.2.42.*** Значыць, я пачынаю «Аповесць для сябе» пра Ленінград лютага 1942 г. У перадсвітальным тумане далёка ўздымаюцца сілуэты галоўных будынкаў прыгажуна — роднага горада. А ў 9.00 я ўжо быў на вуліцах прадмесця (2-гі Мурынскі).

Першая сустрэча — труна, санкі з трупам без труны, карацей, саначкі з трупам. Знешне горад выглядае так, як ён уяўляўся мне паводле слоў іншых людзей: гразь, сумёты, спег, холад, цемра, голад, смерць.

Аднак, прайшоўшы пешшу да Ліцейнага моста на пр. Валадарскга, завярнуў да Маскоўскага на пр. 25 кастрычніка, прайшоў усю Неўскую заставу і далей, усюды сустракаў змрочныя, змарнелыя, але цвёрдыя твары.

11.00 я каля дзвярэй свайго пакоя, з трывогаю ў сэрцы стукаю і кажу: «Дзеці, адчыніце». Там радасныя воклічы: «Тата» і адразу ж роў, слёзы. Марыя: «Валічка памерла».

Самае страшнае — снежань 1941 — студзень 1942. Люты ўжо быў месяцам надзеі на самае лепшае: хутчэйшы разрыў блакады (праўда, люты прайшоў, засталося 5 дзён, і кальцо яшчэ канчаткова не разарвана, і імкненне да «слаёнага пірага» не вызваляе немцам чыгуначнага пуці да горада і можа хутка павярнуцца сумна, калі Ладага пачне пеніцца веснавою бездаражжу).

500 гр. рабочым, 400 служачым, 300 утрыманцам і дзецям, крыху дабавілі мяса, круп, сухой гароднiны... Я прывёз 1 кг добрага мяса, крыху рыбы, круп, хлеба. Прагна варылі і елі тры дні. Сам я адлежваўся, даваў адпачыць нагам, рыхтаваў іх да 60-кіламетр. пераходу, хадзіў толькі на ваду і крыху пілаваў дровы. Дымаход у печачкі кепскі, у пакоі дымна, холадна, непрыемна.

Радыё працавала ўсе дні да ночы на 16.2 (я выйшаў з дому ў 5.00. 16.2.42. у напрамку да Фінляндскага вакзала), дрэнна саграваўся.

Першыя мае словы пры ўваходзе дадому: «Жывыя! Родныя!» І гэтае пачуццё, што ў асноўным дарослыя мае

і жонка жывыя — гэта супакойліва бадзёрае адчуванне не пакідала мяне ўвесь час.

Людачка хадзіла па маёй просьбе ў кніжна-канцылярскія магазіны. Кніг няма (зачынена), паперу, блакноты, алоўкі купіла, кажа, што 99 прац. магазінаў зачынена. Дарэчы пра гандаль: гандлююць на рынках. Валюта: хлеб, тытунь. За хлеб і тытунь (апошні становіцца даражэйшы за хлеб) усё, літаральна ўсё можна купіць. Марадзёры, спекулянты... Злосць разбірае, калі ўспомніш, што таксама, як Н., падлюгі ўладкаваліся ў горадзе і, вядома ж, не галадаюць...

Дзень першы майго побыту ў горадзе 18.2 прамільгнуў хутка. Паелі юшку, чайку папілі, палілі ў печачцы, надымілі, леглі спаць і ўсю ноч у размовах не заснулі. Перада мною разгарнулася карціна шчамілаўскага побыту ў гэтыя жахлівыя для Ленінграда дні: жах перад смерцю, барацьба тытанічная за жыццё... Гэта як у Гейнэ: «І пакуль не зразумееш смерць для жыцця новага — панурым вандроўнікам жывеш на зямлі суровай...» Шмат агіднага. Але такое жыццё: маці 4 дзяцей адымае ад грудзей немаўлятка, каб не памерці самой. Немаўлятка гіне. Але затое жывыя яшчэ трое, якія без маці памерлі б. Дык справядлівае рашэнне маці? Безумоўна, так. Маці. Марыя купляла крадзеныя карткі на хлеб, правільна рабіла, так яна ратавала жыццё трох дзяцей.

Шурык стаў «старэнькім», «гномам», і яшчэ тысячу эпітэтаў і мянушак яму давалі ў сям'і за яго пануры выгляд, за сядзенне каля агню і нежаданне нават прайсціся па пакоі, за яго размовы толькі пра яду, у якіх ён даходзіў аж да таго, што патрабаваў «выдзеліць мой хлеб асобна», за сою і ваду, якую ён употай піў і еў і ў выніку гэтага ўжо тройчы апухаў.

Вось і цяпер ён у паліто, апухлы, бледны, скура ды косці, толькі дзве чорныя пацерачкі-вочкі гавораць яшчэ пра ранейшага ружовага Шурына.

Людзін настрой: «Не чытаю і яшчэ 1—2 месяцы не буду. Не магу». Целы ў Марыі і дзяўчынак ад голаду брудныя, ад дыму і адсутнасці лазні вось ужо 3 мес.

У пакоях ленінградцаў гаршкі і вёдры... каб пасля выліць у люк каналізацыі. Гэта ўдзень і ўначы, прыбіральні не функцыяніруюць. Мяркуючы па «Ленправде», у горадзе шмат дамоў ужо пусцілі каналізацыю і адагрэлі водаправод і ацяпляльную сістэму. Можа, хутка гэта будзе і на Шчамілаўцы? Святла няма, дасталі газалін, гарыць

Добра. Я ж тут прызвычаіўся да газоўкі. Электрычнасці хутка не чакаюць. І калі чысцяць трамвайныя рэйкі, пуці, дык размовы такія: «Пусцяць два-тры паравозікі з прычэпам па 4—5 вагонаў — вазіць рабочых на працу».

Сапраўды, вельмі пакутліва хадзіць галоднымі ці паўгалоднымі, ва ўсякім разе зусім знясіленаму чалавеку з-за Неўскай, напр., на Петраградскі бок.

Другі дзень майго побыту пачаўся добра: пад раніцу ў мяккай пасцелі, пад коўдраю, амаль раздзеты, я добра заснуў. Раніцай чай з цукрам. У абед мяса з крупамі і каша на другое. «Як у мірны час»,— з радасцю казалі мае галчаняты, з'еўшы па 2—3 порцыі супу, па поўнай талерцы кашы. Гэта адзначалі дзень нараджэння Людачкі і Шурыка. (18 лютага Людзе 14 гадоў, Шурыку 6 гадоў)... Людачка схадзіла па пакупкі, дастала за 50 рублёў пачак «Норд», я ляжаў і раскашаваў.

А вось сёння абяцаюць даць 12 грам (дванаццаць — не блытаць) у гонар свята, і я гэтыя крошкі, жывучы без курыва з 18.2, г. зн. 4 доўгія дні, чакаю нібы манны нябеснае.

Людачка пешшу дайшла да Садовай. Прынесла амаль усё, што я прасіў. Вельмі стамілася.

Дзень, суткі, трэція, што я быў дома, прайшлі ў спробах напаліць печ, сагрэцца. Пасля ў суседа каля добрай гарачай печачкі пагрэў ногі, нацёр іх нашатырным спіртам. Лёг спаць да 4 х гадзін. Спаў другую і трэцюю ночы моцна і доўга.

Потым пачаліся зборы. Пацалункі. Выхад у цёмную мяккую (снег нават не хрусціць, а мнецца) ноч. Дзве гадзіны да агітпункта Фінляндскага вакзала, адтуль далей.

У 8.00 ішоў па ўскраіне горада, поўны ўражанняў бадзёрасці і пакутлівай тугі, свежасці і бруду, гераічнага дыхання вялікага горада...»

Міляеў С. загінуў у 1944 годзе ў баях пад Віцебскам.

«...Тым, хто не перажыў блакаду», запісвае ў дзённіку настаўніца Ксенія Уладзіміраўна Ползікава-Рубец, «ніколі не зразумець», што смерць тут «такая самая непазбежнасць, як на фронце».

Вось яе запіс за 2 сакавіка 1942 года:

«Сяджу ў кабінеце загадчыка навучальнай часткі. З'яўляецца маленькая прыгожанькая дзяўчынка — дачка Бубіна, якога я хавала ў кастрычніку: «Добры дзень, Ксе-

нія Уладзіміраўна,— а ў нас у доме ўсе памерлі!» — «Хто ўсе?» — пытаем мы з загнавучам у адзін голас, гледзячы на прыгожанькі і зусім не сумны тварык.

«Спярша бабулька, а потым мама і Валодзя ў адзін дзень, а мяне ўзяла да сябе цётка, а кватэру нашу, пакуль я была ў цёткі, абакралі, вось я цяпер і прыйшла па рэчы, якія былі ў нас у бамбасховішчы, такі чырвоны клунак».

Так вось спрабуе абараняцца дзяцінства, дзіцячая псіхіка: не ўбірае, адштурхоўвае...

«А па дарозе Валя Петэрсон эпічна спакойна расказвала пра зіму,— запісала Ползікава-Рубец 3 жніўня,— пра тое, як бацька памёр ад голаду, як «тата любіў лес і паляванне», як ёй было цяжка пракарміць сетэра і як яны яго з'елі».

І зноў: «Па дарозе эпічна спакойна расказваў (хлопчык Колабаў) пра гібель маці на дзяжурстве ад фугаснай бомбы. Бэлька раздушыла яе грудную клетку. Ён з айчымам выскачыў у кухню. Калі б яны засталіся ў пакоі, і іх не было б у жывых. Суседка ў вагоне кажа на пасівелыя скроні 19-гадовага сына на фронце: «Вось і ён, напэўна, так спакойна расказваў бы пра маю смерць, раней быў такі клапатлівы, ласкавы, а цяпер парады не даб'ешся; пыталася, ці эвакуіравацца, а ён адказвае — як хочаце...»

Дарослых здзіўляў і палохаў спакой дзяцей, іх абыякавасць да смерці блізкіх, да страт. Што гэта было — дзіцячая няздольнасць успрыняць празмернае гора, усеагульнае бедства, якое абрынулася на іх? Ці гэта ахоўная рэакцыя неўзмацнелай псіхікі?

Мы не ведаем, як растлумачыць гэта, але мы ўбачылі і іншае, не менш уражлівае. Сустрэўшы гэтых былых хлапчукоў і дзяўчынак блакады праз трыццаць пяць гадоў, мы пераканаліся, як свежа памятаюць яны тыя самыя падзеі, не імкнуцца абысці горкія ўспаміны, накшталт многіх, хто быў тады старэйшы. Наадварот, чытаюць усё пра тыя дні, ведаюць блакаду, уключаюцца ў пошукі матэрыялаў, збіраюць сваіх блакадных аднакашнікаў... Жыве ў іх цяга да гэтага заледзянелага, галоднага, пазбаўленага дзіцячых радасцяў часу. А галоўнае — тое, тады непражытае, быццам бы адхіленае гора страт, усе бачаныя цярпенні, яны, аказваецца, назаўсёды ўвайшлі ў сэрцы, адбіліся ў дзіцячай, яшчэ падатлівай душы. Яны працягваюць жыць, перажытыя сто разоў. Многіх яны зрабілі больш сардэчнымі, чулымі да цярпенняў другіх, да чужой бяды...

## А НАПЕРАДЗЕ
## ЯШЧЭ ДВА ГАДЫ...

Мінулі найдаўжэйшыя месяцы блакады — зіма 1941-га і вясна 1942 года. Вось яны ў асноўным і забралі жыцці ленінградцаў, якія памерлі ў горадзе альбо праз некаторы час пазней, многія ўжо ў эвакуацыі.

Выходзіў з зімы, з холаду і голаду Ленінград цяжка, але выходзіў. Трэба было яшчэ выратаваць сябе ад вясенняй эпідэміі — прыбраць з вуліц трупы, нечыстоты, усё, што пакінулі голад і бяссілле змардаваных людзей. Рукамі іх жа, знясіленых. Ленінградцы ішлі на ачыстку горада, як па фронце ішлі ў атаку. Трэба было ачысціць дамы, двары, кватэры, і не памерці вясною, летам ад невылечнай глыбокай дыстрафіі, і не даць памерці іншым. А тут — зноў небяспека, чаканне на варожы штурм. І зласлівыя, начныя і дзённыя, абстрэлы, сляпыя — «па плошчах» і прыцэльныя — па трамвайных прыпынках, шпіталях, кінатэатрах...

«Так, смерць глядзела гэтай зімою ў самыя нашы зрэнкі, глядзела доўга і няспынна,— расказвала Вольга Бергольц тым ленінградцам, што выжылі, пра іх саміх, як расказваюць чалавеку пра крызіс хваробы, калі ён мінуў,— але яна не змагла загіпнатызаваць нас, як гіпнатызуе ўдаў абраную ахвяру, абязвольваючы яе і падпарадкоўваючы. Фашысты, што заслалі да нас смерць, зноў пралічыліся».

Горад адчуваў сябе, як чалавек пасля найцяжэйшай хваробы: слабасць, але ж і неймаверны прыліў душэўных сіл, прага да жыцця.

«Я працавала санітаркаю ў эвакашпіталі № 68 на рагу В. Пушкарскай,— піша Вера Іванаўна Паўлава з Тосна.— Ні вады, ні святла, ледзь не ва ўсіх быў галодны панос. І вось у такой палаце амаль паміраючыя раптам закрычалі: «Хлопцы, перамога, ура, ура!» Гэта быў красавік 1942 года, па-мойму, 15 красавіка. І палезлі хто як мог да акон. Ура! Перамога! Аказваецца, зазвінеў трамвайны званочак і прайшоў трамвай, які цэлую зіму стаяў на Вялікім праспекце. Каб вы толькі бачылі, колькі было радасці! Хто здаравейшыя гаварылі: «Гэта перамога ўжо!» — пераконвалі, растлумачвалі...»

У некаторых запісах і дзённіках гучыць захапленне, радасць летніх дзён 1942 года, калі на горад палілíся патокі сонечнага святла, запозненага цяпла, зялёныя лісцікі з'явіліся на галінках, трава пырснула са знявечанай зямлі.

Такая вось безаглядная, неразважаючая радасць вычытваецца ў дзённіку дзевятнаццацігадовай Г эліны Бабінай:

***«27 чэрвеня 1942 года.*** Горад — як хочацца пісаць пра яго, пра наш Ленінград! Той, хто не перанёс гэтую зіму тут, не адчуваў, не перанёс усіх яе цяжкасцей на сабе, не можа зразумець радасці ленінградцаў, якія назіралі аднаўленне свайго роднага горада. Пра гэта хочацца гаварыць і гаварыць няспынна, гаварыць пра гэтае вяртанне да жыцця. Цяпер асабліва ажыўленне горада прыкметна на кожнай драбніцы. Гэта непрыкметна для староннягa вока, для вока, што не бачыла Ленінград зімою.

Вуліцы і праспекты зусім чыстыя, з шумам і званкамі. Як прыемна чуць гэтыя званкі, седзячы дома каля акна за працаю. І так, са званкамі, прабягаюць побач, зіхацяць чысцінёю шыбін трамваі. Усяго некалькі маршрутаў, але ўсё-такі гэта сапраўдны трамвай. І колькі чалавечых жыццяў выратаваў трамвай. Трамвай выратаваў жыцці! А раней, казалі, наадварот. Так, нам зразумела гэтае выказванне — трамвай выратаваў жыцці!

На трамвайных прыпынках — натоўп. Па вуліцах ходзяць туды і сюды дзелавыя людзі. Але ёсць і жанчыны прыгожа адзетыя, мужчыны і жанчыны, дзеткі. У садзіку каля тэатра асабліва прыгожая публіка: жанчыны з мадэльнымі прычоскамі, у шыкоўных туфлях, у шыкоўных сукенках усіх колераў вясёлкі; мужчыны ў начышчаных касцюмах, у прыгожых чаравіках. Але галоўным чынам вайскоўцы. На некаторых дзяўчатах выключна складна сядзяць шынялі, дзяўчаты здаровыя, румяныя, вясёлыя.

У касах кінатэатраў і тэатраў, у Музычнай камедыі — чэргі. Перад пачаткам спектакля каля пад'ездаў збіраецца вялікі натоўп няўдачнікаў, што не дасталі білетаў. У садзе Палаца піянераў канцэрты джаза Клаўдзіі Шульжэнка і Уладзіміра Каралі. Адчыняецца сад адпачынку. Дае канцэрты філармонія. На вуліцах група людзей каля чарговага нумара свежай газеты. Народ заходзіць у прамтаварныя і прадуктовыя крамы. Прадаўшчыцы ў чыстых белых халатах. На паліцах чыстыя белыя фіранкі. Прадукты выдаюцца ў тэрмін і без чэргаў. А на рагах вуліц

чысцільшчыкі ботаў. Цырульні поўныя дам па манікюр і гарачую завіўку — са сваёй газай!..»

Альбо як успамінае С. С. Л а к ш ы н прыказку тых дзён: «Заходите с керосинками — выходите блондинками!»

Вось як яно ўспрымалася пасля блакаднае зімы! Тут усё гіпербалізавана. Але гэтая перабольшанасць, гэтае захапленне, замілаванне, жаданне бачыць, знаходзіць толькі добрае паказвае не столькі вясну і лета 1942 года, колькі лютасць мінулай зімы, нечалавечы жах перажытага.

Тое, што ачысцілі горад, што аслабелыя рукі змаглі падняць лом, уваткнуць рыдлёўку, вывезці тачку, было цудам. Сягоння, здалёк, гэта ўспрымаецца натуральна. Выйшлі, выходзілі кожны дзень людзі ў двары, па вуліцы, плошчы, скалолі лёд, прыбралі завалы бруду, адкідаў, нечыстот, вывезлі, вычысцілі, адмылі... Штосьці падобнае на цяперашнія красавіцкія суботнікі. Але тады ў саміх жа ленінградцаў вынікі працы выклікалі здзіўленне. Яны і не думалі, што змогуць гэта зрабіць, што адолеюць. Сакратары райкомаў, старшыні райвыканкомаў ведалі, што зрабіць гэта неабходна, але не разумелі, якім чынам знясіленыя, вялыя ад слабасці, падобныя на здані людзі здолеюць справіцца — уручную, без механізмаў, машын — з такою велізарнаю цяжкасцю.

Ледзь не ў кожнага блакадніка старанна захоўваецца даведка, якую давалі тым, хто ўдзельнічаў у ачыстцы горада.

Як жа было ў горадзе летам 1942 года?

Горад грэўся.

Людзі стаялі, сядзелі на сонейку, стараліся прагрэць замерзлае, здавалася, да самых касцей цела. Холад выходзіў марудна, доўга. Да чэрвеня сцены дамоў яшчэ дыхалі холадам. Сонца было таксама і святлом, ад якога адвыклі. Людзі цешыліся яркім святлом, адчынялі вокны, заштукаваныя фанераю, завешаныя коўдрамі, анучамі. Сонца бязлітасна высвечвала вантробы кватэр. Закураныя сцены, столь. Абломкі няспаленай мэблі. Павыварочаны на дровы паркет. Буржуйка. Анучы на ложках, канапах. Гразь, бруд, нечыстоты, абломкі, асколкі шкла, посуду — сляды бамбёжак... Апусцелі кніжныя паліцы. Паў-

сюдна праступалі сляды страт і смерці. Ува што ператварыліся лесвіцы, двары! Дахі прадзіраўленыя, прапалены запальнымі снарадамі, прабітыя асколкамі. З усіх вокнаў тырчалі каміны буржуек. Вызваліліся ад снегу руіны, каркасы гарэлых дамоў...

Чалавеку патрэбна магчымасць агледзецца, убачыць сябе і жахнуцца. Гэта было неабходна.

Горад ажываў.

Аднекуль з'явіліся сілы. Нарыхтоўваліся дровы, торф для электрастанцыі. Зніклі чэргі па ваду, аднавіўся вадаправод, не ўсюды, але ў дамы адзін за адным пачалі падаваць ваду, хаця б у ніжнія паверхі. Адчыніліся лазні, пральні. Сталі вырабляць падэшвы. Іх штампавалі са старых аўтамабільных і авіяцыйных шын. Рэстаўрыравалі адзенне. Пачалі зноў шыць паліто, касцюмы. Шмат чаго рабілася. Аднак абстрэлы працягваліся. І бамбёжкі. Харчу не хапала. Мізэрным пайком немагчыма было цалкам аднавіць сілы змардаванага арганізма. Давалі значна больш, чым зімою. Ужо з 11 лютага 1942 года ленінградцы сталі атрымліваць: рабочыя — 500 грамаў хлеба, служачыя — 400 грамаў, дзеці і ўтрыманцы па 300 грамаў, пачалі выдаваць крупы, сметанковае масла. І ўсё-такі гэта было недастаткова, харчу не хапала, патрэбны былі вітаміны, гародніна...

«На нашым двары на дрэве з'явіліся першыя лісцікі. І вось з акна свайго дома я бачу: падышоў да дрэва грамадзянін, пачаў зрываць гэтыя лісцікі і класці ў рот, а пасля адкрыў партфель і пачаў кідаць лісты ў партфель... Гэтае дрэва і цяпер стаіць каля сцяны дома ў нашым двары...» (В е р а  Я к а ў л е ў н а  Б о к і н а).

У парках і садах немагчыма было ўбачыць ніводнага дзьмухаўца. З лісцяў дзьмухаўца варылі суп, з карэння, з мясістага, сакавітага, рабілі катлеты. Па дзьмухаўцы даводзілася ездзіць усё далей — ва Удзельную, у Азяркі. Па знаёмству дванаццацігадовую Марыну Ткачову прапусцілі ў заапарк нарваць дзьмухаўцоў. Яна не можа забыць, што там яна раннім летам 1942 года ўбачыла жывога бегемота. Якраз суседка, якая запрасіла яе (яна працавала ў бегемотніку), і выратавала бегемота. Гэта таксама адна з праўдзівых ленінградскіх легендаў, пра

якую, на жаль, Марына Аляксандраўна падрабязнасці не ведае. Памятае толькі свае жахі і захапленне, з якімі абмінула клетку, пазіраючы па бегемота, памятае, як пасля суседка вывела яе па траву да дзьмухаўцоў. І памятае яшчэ, як праходзіла служка і штосьці сярдзіта прабурчала наконт гэтых дзьмухаўцоў, якія, маўляў, расцягваюць невядомыя людзі. Яна, напэўна, мела па ўвазе інтарэсы заасадаўскіх звяроў.

«На рынках пачалі траву розную прадаваць — просяць па 30—40 рублёў за сто грамаў шчаўя, а то і хлеб ім давай. Я купіла крапівы і зварыла суп, а па наступны дзень лебяду зварыла. Да чаго голад давёў людзей, глядзіш, знешне прыстойная дама, нагнуўшыся, шчыпае траўку і кладзе ў рот, як каза» (з дзённіка Вольгі Яфімаўны Эпштэйн).

Людзі мыліся ў лазнях, прыводзілі сябе ў парадак, чысцілі сваё жыллё, капалі агароды, нарыхтоўвалі дровы — спакваля рыхтаваліся да наступнае зімы.

У ліпелі 1942 года Л. М. Ф і л і п а в а атрымала найдаражэйшы ёй падарунак — пакет лебяды. У той час гэта быў каштоўны дар, але тут важна таксама і тое, што папярэднічала гэтаму падарунку. Любоў Міхайлаўна дагэтуль хвалюецца, варта толькі закрануць той выпадак. А справа была так.

Зімою прыйшоў ёй ліст з фронту ад яе таварыша па гаркому камсамола І. К. Коўбаса. Ён пытаў, чым можна памагчы яго жонцы і дачцэ. Л. М. Філіпава сама атрымлівала 200 грамаў хлеба, што яна магла? Але яна (звіла жанчына вялізнае энергіі і сабранасці, нездарма ўсе гэтыя гады яна кіравала партарганізацыяй Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі.

«...— Думаю, пайду я да Панкова, старшыні гарвыканкома, пайду да Пятра Сяргеевіча. З чым пайду? Скарыстаю свой дэпутацкі білет. Не сабе ж, а дзеля дапамогі. І сапраўды, напісалі запісачку на Тамбоўскі халадзільнік: дзвесце грамаў сухароў, плітка шакаладу, сушаная бульба, нейкія крупы. Я да Панкова ў Смольны адразу ж зранку прыйшла, адтуль на Тамбоўскую. Я такая была

шчаслівая, што столькі атрымала! Толькі б застаць мне родных Коўбаса жывымі. (Ільля Кірылавіч быў камісарам нейкай брыгады.) Дайшла я да Нявы. Ужо вечар. А каб скараціць адлегласць, не цераз мост пайшла, а па Няве, там да Аляксандраўскага саду была сцяжынка. Завіруха страшэнная! І вось вы ведаеце, гэта найстрашнейшы момант у маім жыцці. У мяне пакет, там шакалад, я іду цераз Няву і падаю ўжо. Каб толькі не з'есці! Гэтага пачуцця я вам не магу перадаць ніякімі словамі. Страшэнны выпадак. У мяне там шакалад і сухая бульба, а я павінна данесці. Разумееце? Іду цераз Няву. Завіруха задзімае, думаю, мне ўжо не дайсці. Вось вуліца Леніна. Знайшла гэты самы дом. Паднялася на трэці паверх. Шукаю пакой, дзе яны жылі (гэта была камунальная кватэра). Заходжу. Мне стала лягчэй ад таго, што данесла.

— Барацьба з сабою была вам цяжэйшая, чым з завірухай?

— Гэтага нельга перадаць. Гэта было жахліва. Калі я пераступіла парог гэтага пакоя, мне стала лягчэй, што я данесла. Я такая ж галодная, такая хворая, я не магу рухацца, але ўжо шчаслівая. Думаю — былі б толькі яны жывыя! Бачу — з аднаго боку ложак, з другога боку ложак. Пытаю: «Ксеня Пятроўна? Люся?» У адказ слабы голас Ксеніі Пятроўны і больш моцны дзяўчынкі. «Я вам ад бацькі прынесла прывітанне!» Ну, ведаеце, што тут было! Мала таго, што шчасце пераадолення! Я нейкае крэсла чарговае, нейкія ўцалелыя яшчэ кнігі выцягнула, распаліла буржуйку, паставіла кіпень. Яны, канечне, падняліся. Мы селі каля гэтай буржуйкі. Яны мяне частавалі, і я ўжо, не саромеючыся, паела, таму што інакш я не дайшла б з вуліцы Леніна да Публічнай бібліятэкі. Гэта быў вельмі шчаслівы выпадак. На шчасце, яны абедзве выжылі. Пасля мне ўдалося адправіць іх на Вялікую зямлю, эвакуіраваць, таксама праз гарком партыі. І вось самы дарагі падарунак, які я атрымала ў блакаду. Я прыходжу дадому, ляжыць вялікі-вялікі пакет. Любові. Міхайлаўне Філіпавай. Я ўдакладняю: гэта ўжо калі яны ўсталі і падумалі, вясною. Я іх пасля адправіла. Яны той паёчак раздзялілі і абедзве выжылі. І жылі ўжо па Крыжовым востраве, былі на сваіх нагах, сабралі там лебяду і вясною сорак другога года вось такі вялікі пакет прынеслі мне і зварушлівы ліст. З гэтае лебяды мы нарабілі такіх катлет! Такі ў нас быў банкет! Яны ж паміралі ўжо абедзве — дзяўчынка і Ксенія Пятроўна. І той паёк, што я

прынесла і яны паступова елі, іх усё-такі выратаваў, я так мяркую. Яшчэ памятаю нейкія дзьмухаўцы, якія мы таксама елі. Але галоўнае — лебяда. Дзьмухаўцы — у салату, а з лебяды вельмі добрыя мой; на было зрабіць катлеты. Гэта быў шыкоўны падарунак!»

Расказвае З. А. Ігнатовіч:

«— У першую вясну сорак другога года, калі з'явілася трава, дык народ быццам бы ператварыўся ў жывёл: любую траву рвалі і елі. Ніводнае травінкі ў Ленінградзе не заставалася пад парканамі. Аднойчы мы з адной з супрацоўніц, Софіяй Хатанавай, паехалі ў Батанічны сад, хацелі дамовіцца там з імі, каб розныя травы пасылаць ім на аналіз. Трэба было высветліць, якія травы атрутныя, якія не атрутныя. Батанічны сад быў замкнёны. Мы пазванілі. Калі мы туды зайшлі, убачылі маркоўнік вось такой вышыні! Божа мой! Нас папрасілі пачакаць, пакуль прыйдзе навуковы супрацоўнік. Мы ж пачалі гэты маркоўнік есці — з такім задавальненнем!

— Маркоўнік — гэта трава?

— Трава. Лісце яе падобнае на лісце морквы. І мы гэтага маркоўніку так наеліся. Ніхто нам не замінае, усюды пуста, і мы елі сабе. Калі зайшоў да нас Нікіцін, нам стала няёмка. Мы дамовіліся, што травы на аналіз, канечне, мы будзем пасылаць. Мы спыталі яго: ці можна нам маркоўніку нарваць? Ён кажа: «Гэта ж пустазелле». Я кажу: «Ну, усё роўна». І вось мы з ёю напакавалі дзве сумкі, прыйшлі ў лабараторыю. Наеліся ўсе і былі шчаслівыя. З такім задавальненнем елі гэтае пустазелле: маркоўніку наеліся!»

***«Чэрвень месяц 1942 года.*** З кожным днём арганізм слабеў, хоць хлеба прыбавілі, я ўжо атрымлівала 400 грамаў у суткі, але есці яшчэ больш хочацца... Бамбёжкі, абстрэлы, паветраныя трывогі працягваліся, але было добра ўжо таму, што мы грэліся на сонейку, як мухі...

***Ліпень месяц 1942 года.*** На вуліцы цёпла. Распусціліся дрэвы, вырасла трава. Мы з мамай і іншыя хадзілі на могільнік і збіралі нейкія карэнні, варылі і елі. Крапівы і травы амаль не было, таму што галодныя людзі збіралі ўсё для харчавання...» (З дзённіка Ульяны Цімафееўны Паповай).

К таму часу Ульяна Цімафееўна Папова пачала працаваць у сталоўцы касірам. Расказваючы пра сваю пра-

цу, яна прыгадвае і меню, і абставіны ў сталоўцы таго часу:

«Давалі суп з сушанай марской капусты, а таксама дражджавы суп, давалі кашу, на 200 грамаў талон, выдавалі таксама на нумарныя талоны дадаткова шротавую запяканку.

...Талеркі вылізвалі... Вечарам я клеіла выразаныя талоны па сто штук на паперу... Клеіць талоны не было на што. Не было паперы. Клеілі на газеты альбо на старыя ноты, якія хто-небудзь прыносіў».

Што ні расказ, дык сваё, не падобнае на іншыя, успрыманне вясны 1942 года. Па-рознаму людзі выходзілі з блакаднай зімы, па-рознаму ажывалі. Не да ўсіх вярталася вера.

Было цікава звярнуцца да найбольш поўнага з усіх дзённікаў — як сустракаў вясну і лета 1942 года на сваім «малым радыусе» Г. А. Князеў. У яго запісах адчуваецца стомленасць. Ён увесь час падбадзёрвае сябе, абнадзейвае, але гэта ўсё цяжэй даецца яму.

«***26 мая 1942 г.*** Кепскае здароўе акадэміка фізіёлага Ухтомскага. У яго на глебе запушчанай цынгі пачалася гангрэна. Урачы лічаць яго становішча безнадзейным. Здароўе акадэміка Крачкоўскага ўвесь час вагаецца, як агеньчык свечкі. Днямі ў яго быў кансіліум. Яго ўзялі пад свой нагляд лепшыя ўрачы горада.

***3 чэрвеня.*** Каля нашага архіва разламаныя на дровы вароты... Некаторыя «паляўнічыя» выпільваюць бэлькі па гарышчы... Найстрашнейшае для быту ленінградцаў пытанне — як праіснаваць зіму?

***12 чэрвеня.*** На маіх вачах ад голаду гіне Матрона Яфімаўна, былая наша хатняя гаспадыня, якую я часова ўзяў на службу. Яна на ўтрымальніцкай картцы. Сёння яна ўся пачарнела. У яе, як яна прызналася мне, пачаўся галодны панос».

Ён з усяе сілы хоча захаваць аб'ектыўнасць. Ён старанна адзначае ўсё добрае, любыя поспехі, прыкметы аднаўлення жыцця.

***22 чэрвеня.*** На градах у Румянцаўскім скверы падняліся ўсходы... Зусім не сустракаю транспарту з нябожчыкамі — ні ручнога, ні аўтамабільнага. Верагодна, не ў тыя

гадзіны правозяць, калі я іду па службу. Бачу нямала людзей, і нестарых, што з цяжкасцю перасоўваюцца, некаторыя нават трымаюцца за сцены дома. Насупраць нашага дома на самым беразе жанчыны працягваюць капаць траншэі.

У горадзе, прынамсі на маім участку, малым адрэзку радыуса, вельмі чыста; кожны дзень падмятаюць. Дворнікі — выключна жанчыны. У Акадэміі мастацтваў у адным акне сёння маляр уставіў шыбу.

***28 чэрвеня.*** Вялікая трывога на сэрцы. Пад Севастопалем няспынныя жорсткія баі... Ці пісаць далей нататкі? Надта ж яны становяцца цяжкімі.

Нам, сучаснікам, не відаць усяго, а тое, што мы бачым, магчыма, зусім не тое, што павінна ўвайсці ў гісторыю. Ці патрэбны такія нататкі, як мае, ці не занадта яны аднабаковыя, суб'ектыўныя?.. І ўсё-такі працягваю пісаць. Я ўлад дзесяткі разоў тлумачыў, што вяду свае запісы як сучаснік вялікіх падзей, але не актыўны іх удзельнік. Я абавязаны і мушу зрабіць сваю справу, запісваць датуль, покі ў стане буду пісаць.

М. Ф.* катастрафічна худзее. Картак не хапае. Пайка не выдаюць. Купіць па спекулянцкіх цэнах нічога не ўдаецца. Сціскаю зубы і гляджу лёсу ў вочы...

Давялося спыніць выпіску. З выццём і віскам праносяцца пад дахам снарады і недзе рвуцца непадалёку. Падышоў да акна. У дваровым садзіку корпаюцца ў пяску дзеці; нехта ідзе са збаном. Яркае сонца, амаль бязвоблачнае неба. М. Ф., на шчасце, толькі што вярнулася дадому. Мы разам. Чаго ж непакоіцца? Працягваю.

Страшныя зноў прыходзяць думкі ў галаву... Неатрыманне пайка паставіла нас у цяжкае становішча. М. Ф. кепска сябе адчувае.

Змагаюся. І буду змагацца. Еду зараз правяраць дзяжурства ў архіве. Выконваю свой абавязак да канца...»

...Вясна і лета 1942 года ўспрымаліся па-рознаму Г. А. Князевым і дзевятнаццацігадовай Галінай Бакінскай. Спярша здаецца, што гэта зусім розныя гарады. Альбо розныя часы блакады. Але варта ўдумацца, угледзецца — і высветліцца, што яны не абвяргаюць адзін другога і нават не супярэчаць. Існавала і тое і другое. Усё залежала

* М. Ф.— Марыя Фёдараўна, жонка Г. Л. Князева; гэта яна ласкава перадала нам дзённік нябожчыка мужа і шмат што памагла зразумець у асобе і працах Георгія Аляксеевіча.

ад таго, хто глядзеў і якімі вачыма. Трэба пакласці некалькі розных карцін, каб узнік перад намі павольна ажываючы Ленінград 1942 года, дзе яшчэ паміралі, не будучы ў сілах аправіцца ад дыстрафіі, і дзе капалі, апрацоўвалі кожную лапінку зямлі ў садах, парках, на бульварах, пад агароды. Мойша зразумець Галіну Бабінскую, калі любая драбяза бачылася ёй перабольшанаю. Дзве-тры сустрэтыя жанчыны ў туфлях і летніх сукенках былі здарэннем, надзеяй, шчаслівай прыкметаю. Чысцільшчык ботаў выклікаў захапленне. І можна зразумець Г. А. Князева, які разумеў, што блакада працягваецца. Ленінград па-ранейшаму ва ўпор расстрэльваюць варожыя гарматы, і наперадзе другая блакадная зіма, а сілы канчаюцца.

Можна зразумець і настрой чатырнаццацігадовай школьніцы Д. Л а з о ў с к а й, адлюстраваны ў яе дзённіку:

*«21 чэрвеня.* Без аднаго дня гадавіна вайны. Сёння мы займаліся алгебраю чатыры гадзіны, але не ведаю, да чаго гэта прывядзе, баюся, што правалю. Пасля абеду хадзіла ў кіно, глядзела «Машаньку». Я магу сказаць, што карціна толькі так сабе, не больш... Я так баюся алгебры, проста не ведаю.

*26 чэрвеня.* Экзаменам канец! Па літаратуры ў мяне добра, па геаметрыі чацвёрку атрымала. Я вельмі радая, таму што ўчора, замест таго каб рыхтавацца, я хадзіла з Асяй гуляць у сад. Між іншым, у сад Палаца піянераў ходзяць вельмі добрыя хлопцы, Рома і Лёва. Яны былі з Аськай у доме адпачынку. Мне яны абодва вельмі падабаюцца. Увогуле хлопцы на ўсе сто: культурныя, ветлівыя, добра апранаюцца, не падкапаешся... На сняданне нам далі два кексы з соі і кісель, шклянку салодкай кавы і 100 грамаў хлеба. Было вельмі смачна прыгатавана. На абед гарохавы суп, нейкая рыба з локшынаю, на трэцяе стопачка морсу і 200 грамаў хлеба. На вячэру нам далі соевую запяканку з таматным соусам, шклянку салодкага чаю (на сахарыне) і 100 грамаў хлеба».

І побач іншае. Нам дала сваю фотакартку Марыя Ананьеўна Шчалыванава. Паказала і сама жахнулася:

«Вось глядзіце, якія валасы, які твар, зусім як у мёртвай. Вось якія косы былі, а ад голаду пачалі вылазіць.

Я сказала сваёй знаёмай: я адрэжу валасы, куды яны мне. Няма мыла, нічога няма... Гэта сорак другі год, пад восень. Апошні раз я распусціла валасы, і яна мяне сфатаграфавала. Не, звярніце ўвагу, які ў мяне быў страшны твар!»

З многіх сведчанняў мы адбіралі не толькі падобныя, але і розныя, несупадаючыя, супярэчлівыя. Мы не хацелі выводзіць з іх сярэдняе. Сярэдняе не азначае праўдзівае.

Усе чатыры Евангеллі выкладаюць адно і тое самае. Чатыры аўтары апісваюць адзін і той самы лёс, адны і тыя самыя падзеі, але кожны па-свойму. І калі падысці да гэтых твораў як да з'явы літаратурнай, дык узнікне пытанне: навошта, чаму гэтыя чатыры аповесці існуюць разам? Чаму чытальніцкая цікавасць не гасне, не падае па меры чытання кожнай новай аповесці? Кожная наступная дае ўсё меншую інфармацыю, усё менш новага. Аўтары паўтараюцца, хоць у кожнага ёсць сваё — і свой стыль, і свае факты, і сваё бачанне. І ўсё-такі ўсе чатыры аповесці разам цікавейшыя, чым кожная паасобку. Яны ствараюць нейкае ўстойлівае адзінства, нягледзячы на ўсе паўторы, нягледзячы на розныя тлумачэнні... А можа, менавіта дзякуючы гэтаму? Яны нібыта падтрымліваюць адна адну, памагаюць, высвечваюць, чамусьці не перашкаджаючы, а ўзмацняючы адна адну. Якое ўзаемадзеянне паміж імі адбываецца? Таямнічы, складаны гэты ўзаемаўплыў не ўкладваецца ў вядомыя законы літаратуры. Калі Рэнан спрабаваў на падставе чатырох Евангеллі і ўсёй вядомай яму літаратуры напісаць «Жыццё Ісуса», атрымаўся твор, пазбаўлены мастацкае сілы. Такі ж самы лёс спасціг і «Евангелле» Л. М. Талстога, створанае як штосьці зводнае, больш дакладнае. Прыклад гэты павучальны...

Чатыры Евангеллі ствараюць аб'ёмнасць: можна абысці з усіх бакоў, гэта значыць, з чатырох бакоў абгледзець гісторыю Хрыста. Супярэчлівае, шматаблічнае апавяданне людзей пра блакаду паўтараецца і не паўтараецца, і нясецца далей, і ўваходзіць у глыбіню пакут, выпрабаванняў. Зрэшты, справа не ў адных толькі пакутах, пакуты адсланяюць нам больш важныя сведчанні, якія можна пачуць у гэтых апавяданнях,— граніцы чалавека, чалавечыя рублямі. Яны расшыраюць гэтыя сферы сілы і вышыні ча-

лавечай, прасоўваюць іх у межы, што выдаваліся дагэтуль бязлюднымі, шалёнымі, дзе нельга захоўваць законы маралі, дзе душа гіне, а высвятляецца, што і там чалавек можа астацца Чалавекам.

## ГЭТА НЕЎМІРУЧАЯ, ГЭТА ВЕЧНАЯ МАРЫЯ ІВАНАЎНА!

А Марыя Іванаўна з ЖАКТа — памятаеце яе, камандзіра групы самааховы? — Яна ўсё яшчэ там, каля сваіх «жылых аб'ектаў»... І сёння памяць яе мітусіцца паміж дамамі і баракамі, цягне і нас следам туды, дзе з грукам і дымам разарваўся снарад, альбо дзе, наадварот, падазрона ціха, альбо куды яе паслаў ліст франтавіка, устрывожанага маўчаннем сваёй сям'і...

Сёння Марыя Іванаўна Дзмітрыева займаецца садоўніцтвам, чакае летам у госці ўнучак («дзве дзяўчынкі-школьніцы, цудоўныя»), піша лісты дачцэ, якая жыве на Поўначы з мужам-лётчыкам, абмяркоўвае з суседкамі мясцовыя навіны...

Але памяць яе блакадная пры найменшым штуршку зноў там, каля «жылых аб'ектаў»...

«— А тут быў у нас моцны абстрэл, на Швяцова, трыццаць восем. Справядлівей, тут так было: спачатку, нам здавалася, нас моцна абстрэльвалі, а калі размясціліся тут «кацюшы», вось тады сапраўды пачалося... Тут ёсць завод металалому, і туды падвялі рэйкі і паставілі «кацюшы»... Іх хутка выкацяць, нацэляцца і страляюць. Пасля яны знікнуць, а мы ж застанёмся. Па нас і білі. Так білі, што дамы былі разбураны дашчэнту. Атрымалася гэта прыкладна, калі не памыляюся, у сакавіку месяцы. Гэта ўдзень было. Я памятаю, што паснедала ўжо і пайшла ў кантору. Пачаўся люты абстрэл. Я дайшла да канторы. І не памятаю, хто крыкнуў: «Марыя Іванаўна! Там разбілі дамы!» Снарад трапіў у трыццаць трэці дом. Ну, было цяжка падысці. Пайшла я. Пайшла, прабралася ўсё-такі. Гэта далекавата, пад Ценцялёўку, туды, убаку дом. Вось прыйшла, заходжу. А там нейкі стыль быў, не ведаю,— на абодва бакі пакоі, а пасярэдзіне скразны калідор. Нібыта жылі будаўнікі ці нешта накшталт гэтага.

— Інтэрнат?

— Так, нібы інтэрнат. І былі не кватэры, а толькі пакоі. Прычым калідор доўгі. Двухпавярховы дом. Ну вось, я прайшла па першым наверсе, нікога няма. Пастукала туды, сюды, усё зачынена. Тады я прайшла наверх, а там сцяна разбітая. Дом жа драўляны, і калі яго снарадам стукнула ў вугал у верхнія перакрыцці, бярвенні ўсталі, як карты. Але гэта ў адным кутку толькі, а астатнія ўсе нармальныя.

— А вось у гэтых зачыненых пакоях, куды вы стукаліся, там, можа, людзі былі?

— Вось я і думала, толькі ніхто не адгукнуўся. Потым, калі я павярнулася ўжо і пайшла назад (але абстрэл яшчэ не скончыўся, і асколкі жых, жы-ых у гэты дом), я пачула нейкі звярыны роў, нейкі ненармальны, нібы звер раве, прычым такім пранізлівым, моцным голасам. Я спынілася. Пасля выйшла на вуліцу і гляджу наверх: як там разбіта кватэра і дзе? Пачала прыслухоўвацца: адкуль гук даносіцца? Бачу — з гэтай разбітай кватэры. Я падышла да дзвярэй, чую, што тут. Але дзверы настолькі шчыльна зачынены, што і варухнуць іх нельга. У гэты самы час бяжыць да мяне хлопчык, падлетак, гадоў яму пятнаццаць-шаснаццаць. Вельмі хацела б знайсці яго цяпер. Гэта Юрык Лебедзеў. Я яго запомніла. Бацькі ў яго эвакуіраваліся даўно. Старэйшы брат, лётчык, пайшоў на фронт, гэта ён мне расказаў. А ён быў у рамесленым чыгуначным вучылішчы. У іх паверсе была кватэра (тaксама ўсё разбіла). І вось ён з’явіўся аднекуль. (Юра пасля, калі эвакуіравалася рамесленае, часта прыходзіў да пас памагаць — тушыў запальніцы і ўсякае там іншае.) Ну вось. Я кажу: «Дзе ж гэта крычаць? Хто тут жыве? Я ва ўсе дзверы стукала — усюды зачынена». А ён кажа: «Ах, гэта Дуся!» Ён у доме ўсіх ведаў. Я кажу: «Ну а як жа мы з табою трапім туды? Дзверы ж не паддаюцца». Ён кажа: «Пачакайце, Марыя Іванаўна, зараз». Ну, ён жвавы такі, хударлявы. Ён пайшоў другім бокам. Адсюль стралялі, а ён другім бокам абышоў і кажа: «Я зараз у гэту дзірку, што прабіта вунь, палезу». Я кажу: «Асцярожна, глядзі: асколкі». Пралез. І крычыць: «Марыя Іванаўна, я тут!» Дзверы мы ні за што не адчынілі б. Аказваецца, ад штуршка рэчы пападалі. У іх гардэроб вялікі стаяў, і гэты гардэроб на дзверы перакуліўся. Ну, Юрык гэты гардэроб адсунуў, прачыніў дзверы, і я туды зайшла. Там, ведаеце, вапна, як воблака! Таму што ўсё асыпала-

ся, уся тынкоўка. Вось такія кучы тынкоўкі! Ну, калі троху гэта пачало асядаць, я ўбачыла, ложак стаіць. Ён быў увесь завалены, затым канапа ці атаманка, таксама ўся завалена. І ўсюды дошкі параскіданы. Я кажу: «Пачакай, Юрык, не рухайся». Таму што я пачула піск нейкі, нешта падобнае на піск, кажа, можа, прыдушыла там. Я кажу: «Пачакай, Юрык, мы павінны быць асцярожныя». Ну вось — і раптам зноў роў гэтай жанчыны! Яна непрытомная, параненая, пад ложкам! Яна чамусьці была зашчэмлена пад ложак. Ложак нізкі, жалезны, і яе зашчаміла туды.

— Можа, ад абстрэлу запаўзла сама?

— Можа, яна запаўзла сама, а хутчэй хваляю яе закінула туды. І зноў такім самым страшным голасам яна зараўла. Толькі таму мы ўбачылі, што нехта пад ложкам ляжыць. І раптам зноў піск — вось такі, нібы каціны. Не ведаем, з чаго пачынаць. Я кажу: «Юрык, як можна асцярожней ідзі, таму што прыціснеш». Вы ведаеце, на дыбачках прасоўваліся цераз гэтыя пліты, тынкоўку.

— Якія на ложку ляжалі?

— Не, на ложак мы не ступалі. На падлозе. Цяпер, значыць, стол. Ён пасярэдзіне стаяў. Але нічога там ад стала не засталося, толькі дошкі ляжаць. Падышла я, як узяла, сярэдняя дошка і паднялася. На маё здзіўленне (я, далібог, не ведаю, як толькі без языка не засталася!), ляжыць нібыта дзіця. Але бруднае, у нейкай вапне, у гліне, мокрае!

— Голенькі? Толькі што нарадзіўся?

— Але, вядома, толькі-толькі нарадзіўся, толькі што з мацярынскага чэрава. І вы ведаеце, за ім цягнецца пупавіна. Гэта ад маці, з-пад ложка, праз усё гэта... Кашмар! Ніколі нічога такога не бачыла. Але ў гэты час, я не ведаю, адкуль што-небудзь бралася. Я кажу: «Юрык, шукай вады. Вады і нажніцы!» Юрык пабег. Бегаў, бегаў (іх кватэра таксама наверсе). І нясе мне: «Марыя Іванаўна, не знайшоў я нажніц. Вось нож прынёс і графін, шыпулькамі настоены»,— «Ну,— я кажу,— ён жа, пэўна, варам наліты. Нічога страшнага». А на ложку, ведаеце, я ўбачыла такія прыгожыя брыжы вязаныя. Ну, я выцягнула гэтыя брыжы з-пад абломкаў, пруг ад іх, так, збоку, адарвала пупок перавязаць. Усё гэта страсянула — больш нічога ж не зробіш, у нас нічога іншага няма. Падышла, брыжамі гэтымі дзіця накрыла — і на ложак у куточак.

Загарнула я дзіцёнка. Ён запішчаў. Ад бруду задыхаецца, плакаць нават не можа, разумееце, як кацяня пішчыць. Я кажу: «Ну вось, пупок я перавязала, трэба абрэзаць, каб не цягнуўся». А сама не ведаю, колькі пакінуць. Пакінула сантыметраў восем, напэўна.

— Вам ніколі не даводзілася прымаць роды?

— Ніколі не даводзілася, канечне, дзе ж там. Не даводзілася і не бачыла нават ніколі. Ну вось, я пупок абрэзала нажом. Перавязала.

— І Юрык памагаў?

— А Юрык мне вось што сказаў. Я кажу: «Зараз будзем выцягваць хворую адтуль». А ён: «Марыя Іванаўна, няёмка мне».— «Што ты! Мы ратуем жыцці! І ты пра нейкую няёмкасць кажаш! А як жа ўрачы? Ды ты што? Ніякай няёмкасці! І слухаць но хачу!» І ён узяўся мне памагаць. І вось я гэтага дзіцёнка загарнула. Потым кажу: «Цяпер ты мне палівай». Ён з графіна мне палівае. А я хоць загарнула, але адзін канец пакінула (брыжы ж доўгія), і вось ён мне на гэты канец лье. Я пачала чысціць усё з рота, каб дыханне адкрыць дзіцёнку. І ён заплакаў сапраўдным голасам. А то ён задыхаўся ад гэтага бруду. На ложку расчысцілі месцейка. Паклалі дзіця. Маўчыць. «Давай выцягваць». Як яе выцягнуць? Яна аказалася такая здаровая, такая моцная жанчына, прычым косы распушчаныя, расплеценыя. Доўгія, ніжэй паджылак валасы — прыгожыя светлыя валасы. Божа мой! Мы з ім цягнулі-цягнулі яе. А ў яе так: у яе тут па галаве паранена ўсё, відавочна, асколкам. І валасы прыліплі, з крывёю, з граззю. І яна як варухнецца, у яе моцны боль: таму яна і крычыць. Я кажу: «Ведаеш што, Юрык, даруе яна нам, калі жывая будзе. Давай абрэжам гэта, каб яе не трывожыла».

— Валасы?

— Валасы.

І я нажом гэту пасму. А астатнія пасмы пакінула. Я кажу: «У бальніцы адмыюць». Ну вось мы яе выцягнулі. Выцягнулі — яна непрытомная. Толькі зрэдку, ведаеце, нібы тыгрыным голасам раўла. Жахлівае штосьці! І вось падцягнулі яе да канапы. Мы ўсе гэтыя пліты, ведаеце, расчысцілі. Мы цяпер ужо хадзілі свабодна, таму што расчысцілі сабе дарогу. Мы яе падцягнулі да канапы, але ніяк нам яе не пакласці на канапу. Увесь бруд за ёю цягнецца. У яе месца не выйшла, нічога, разумееце? «Юрык, ты трымай. Трошкі прыпадымем. Ты толькі трымай, пад-

стаў калена. А я тут буду захінаць». Усё-такі паклалі! Толькі мы паспелі пакласці, яшчэ тут падбіраем усё, раптам дзяўчына бяжыць. «Марыя Іванаўна,— крычыць,— Марыя Іванаўна! Вы жывая?» Мы ўжо і забылі тут пра абстрэл. А абстрэл не закончыўся, яшчэ бачым успышкі, асколкі! Гэта была Муся, Смірнова яе прозвішча. З дома трыццаць шэсць. А кватэру не ведаю. Маладзенькая дзяўчына, таксама, напэўна, вось такая, як Юрык, ёй гадоў шаснаццаць. Я кажу: «Жывая я, Мусенька, жывая». І яшчэ кажу: «Нам неабходна зараз жа выклікаць машыну. Ты ідзі назад да тэлефона. Асцярожна прабірайся!» — «Я асцярожна. І вы будзьце асцярожней, бо ён жа сюды ўсё б'е!» І пасля яна мне паведаміла: «Марыя Іванаўна! Яшчэ разбіла дом шэсцьдзесят сёмы на Ценцялёўцы, усё прабіла адным снарадам, і печ там упала». А там ляжалі ўсе хворыя, і печ — круглая, вялікая — ім на ногі. Яны ўсе і паўміралі. Я кажу: «Муся, мы таксама павінны закончыць тут усё. Выклікай машыну. Скажы, што парадзіха, яны хутчэй прыедуць». Ну, праўда, хутка-хутка, мы не паспелі тут прыбраць па-сапраўднаму, як машына прыехала. Здала я іх.

— Ні прозвішча, ні імені не памятаеце?

— Імя яе Дуся. А прозвішча? Калі толькі вось знойдзеце Юрыка гэтага Лебедзева, дык ён, канечне, ведае. Яны ў адным доме жылі. Ён наверсе там, на другім паверсе жыў. Ён ведае добра. Нешта такое... Не, не хачу, таму што магу наблытаць, так я хачу сказаць. Пасля гэтага я даведвалася. Праўдзівей як? Не даведвалася. Мяне выклікалі неяк у Дом культуры (напэўна, ужо гадоў праз два пасля гэтага ўсяго, пасля вайны). Выклікалі ў Дом культуры і папрасілі расказаць асобныя эпізоды. Там былі стэнаграфісткі. І калі я закончыла, я кажу: «Вось чаго я не ведаю: я забыла нават пaглядзець — хлопчык гэта быў ці дзяўчынка. Вельмі шкадую. І не ведаю цяпер, ці жывы ён». Тады паднялася нейкая жанчына з крэсла і кажа: «Марыя Іванаўна! Жывы хлопчык, і жывая яго маці». Яны атрымалі пакой, калі яны выйшлі з бальніцы. Доўга ляжала ў бальніцы, недзе каля Чорнай рэчкі, на Петраградскай. Так я не знайшла. Усё хацела напісаць у бюро добрых паслуг — можа, яны знайшлі б.

— А Юрык пасля куды падзеўся?

— Пра Юрыка таксама не ведаю. Калі ўсё тут скончылася, ён знік. Напэўна, яны атрымалі плошчу. Лебе-

дзеў Юрык. Яго брат — лётчык. Маці і бацька былі эвакуіраваны».

Калі разбураўся пад цяжарам злачынстваў эфімерны «тысячагадовы рэйх» і фашысцкаму Берліну непасрэдна пачалі пагражаць акружэнне, штурм, Гітлер раптам успомніў пра Ленінград.

А ў цыркуляры рэйхсфюрэра СС Гімлера, які стаў Камандуючым групай войск «Вісла», Ленінград прыводзіўся як прыклад паводзін жыхароў, абароны горада, стварэння непрыступнай крэпасці. Цыркуляр № 40/10 заканчваўся фразаю: «Нянавісць насельніцтва стварыла найважнейшую рухаючую сілу абароны».

З якім «павуковым» спакоем імкнуліся яны задушыць, знішчыць, сцерці з твару зямлі Ленінград. Не атрымалася. Цяпер даводзілася «навукова» (з улікам ленінградскага вопыту) ратаваць сваю сталіцу.

Так, толькі ні там, ні тут іх канібальская «навука», іх самыя прадбачлівыя загады не маглі вырашыць задачу, прывесці іх да перамогі.

Трэба было штосьці большае, чым іх збродлівы страх перад расплатаю, за жыццё сваё страх.

Трэба было нешта такое, што мацней за любыя загады, за ўсе пакуты голаду. Што мацнейшае і за страх, і за смерць. Менавіта тое, чым трымаліся ленінградцы, што жывіла волю і гераізм савецкіх людзей пад Масквою, і ў Севастопалі, і ў Сталінградзе, і ў партызанскіх краях і рэспубліках — вялікая, высокая чалавечая праўда і справядлівасць барацьбы да апошняга дыхання.

Марыя Іванаўна, бессмяротная, вечная Марыя Іванаўна во капітуліравала. Капітуліравалі яны — тыя, што хацелі забіць яе бомбамі, снарадамі, пахаваць пад руінамі дамоў, замарыць голадам, холадам, стомай, безнадзейнасцю. Перамаглі яна і той безыменны хлопчык, які нарадзіўся, здавалася б, у самым царстве смерці. Жыццё перамагло.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## ТРОЕ З ТРОХ МІЛЬЁНАЎ

У першыя дні вайны, хоць фашысцкія полчышчы прасоўваліся імкліва, ніхто яшчэ не мог прадбачыць, які будзе ваенны лёс Ленінграда і што чакае ленінградцаў.

Слова «блакада», што ўвабрала ў сябе ўсе натуральныя і звышнатуральныя цяжкасці, пакуты, беды, з'явілася і замацавалася ў трывожным жыцці гараджан не адразу. Штосьці грознае адбывалася, насоўвалася, і ленінградзец прагна шукаў, дзе ж патрэбны яго асабістыя намаганні, яго самаахвярнасць, гатоўнасць змагацца, а калі трэба, дык і памерці. Толькі б не доўжылася гэтае бездапаможнае чаканне найгоршага. Адшукаць у справе, у агульнай і галоўнай справе выйсце гневу і неспакою...

Апалчэнне! Народнае апалчэнне!.. Гэта ўстала і загучала надзеяй, упэўненасцю, нібыта выкліканае з гістарычнага мінулага народа, з гераічнага мінулага горада-рэвалюцыянера.

Слова было знойдзена, яно вызначыла і справу — для тысяч і тысяч людзей, гатовых усё аддаць, усё на сябе прыняць...

З першага дня вайны, з 22 чэрвеня 1941 года, да дзвярэй парткома Кіраўскага завода выстраілася чарга. І ўнізе, па першым паверсе, па ўсім калідоры працягнулася чарга да дзвярэй камітэта камсамола. Некалькі сутак абедзве чаргі не меншалі. У іх стаялі пажылыя рабочыя і маладыя хлопцы, нават дзяўчаты і жанчыны, камсоргі, парторгі, актывісты і ніякія неактывісты, зусім пасіўныя, як іх дагэтуль лічылі, беспартыйныя і некамсамольцы.

Тут жа ў калідоры, на лесвіцы, на падаконніках, пісалі заявы. Стараліся вытлумачыць, як толькі можна пераканаўча, чаму іх трэба адправіць на фронт. І ў першую чаргу. Прыпісвалі сабе ваенныя здольнасці. Даказвалі,

што яны артылерысты, паколькі іх цэх рабіў гарматы. Высветлілася, што апрача гэтага неабходна даказаць, што завод зможа без цябе абысціся, трэба было атрымаць дазвол ад начальніка цэха. Таму што завод працаваў на абарону, рабіў танкі, і ўсе былі патрэбны і мелі так званую бронь. У парткоме добраахвотнікам даводзілася яшчэ цяжэй, туды ішлі майстры, канструктары, інжынеры — гонар завода, пуцілаўская гвардыя. Калі б адпусціць усіх, хто рваўся на перадавую, у знішчальныя батальёны, завод давялося б спыніць.

Яшчэ не было аб'яўлена пра народнае апалчэнне (гэта адбылося па восьмым дні вайны), але на ўсіх заводах, у райваенкаматах, усюды стаялі такія самыя чэргі. Ах, гэтыя палымяныя, абуральныя, малітоўныя цудоўныя скаргі і заявы! Выказаныя з чуллівай і наіўнай перакананасцю, што, калі нас пусцяць, мы неадкладна разграмім, знішчым ворага. Вядомая справа, мы — кіраўцы, нуцілаўцы — маем права першымі ісці ў апалчэнне. І янатакі атрымала першы нумар, Кіраўская дывізія народнага апалчэння — Першая ДНА!

За Нарвскай заставай маршыравалі ўзводы, роты першых апалчэнцаў. Вучыліся ў парках поўзаць па-пластунску, кідаць гранаты. Старанна адбівалі крок — яшчэ ў туфлях, чаравіках, у макінтошах, падперазаных папругамі. Начавалі ў клубе імя Газа. Час ад часу высвятлялася, што гэты работнік планавага аддзела і той лякальшчык — удзельнікі грамадзянскай вайны, што яны сапёры, кавалерысты, а не проста пажылыя людзі, якія не могуць хутка бегаць са снараднымі скрынямі, што яны ваявалі, камандавалі...

Для маладых гэта яшчэ было паперадзе. Сумныя ліпеньскія зводкі не маглі збіць захопленага настрою. Выдалі гімнасцёркі, шынялі, сінія шаравары, у іх добраахвотнікі-апалчэнцы горда хадзілі па заводзе, развітваючыся, і ўсе ім зайздросцілі. Эшалоны ішлі на фронт, напаўняючы наваколле песняю «За далёкай за Нарвскай заставай хлопец ідзе малады...».

Будні вайны навалiлiся адразу за Лугаю, наляцелі з першымі бамбёжкамі, выццём пікіруючых самалётаў, першымі баямі, першымі магіламі.

Вядома, апалчэнне было арміяй своеасаблівай. Наспех абучаная, неабстрэленая, слаба ўзброеная, дысцыпліна зусім не вайсковая, хутчэй вытворчая. Вакол заводскія, свае. Камандзір роты — майстар, узводныя ў яго — меха-

нік, брыгадзір. Звярталіся да камандзіраў па імені- па бацьку. Патрэбны былі баі і баі, каб цэхавыя аўтарытэты замяніліся вайсковымі.

Але затое ў гэтай арміі былі некаторыя перавагі — яна хутка прыстасоўвалася да непрывычных для кадравікоў умоў вайны, яна ведала цану кожнай гармаце, кожнаму танку, тут царыла свая працоўная спайка...

Найцяжэйшыя выпрабаванні абрынуліся на толькі што сфарміраваныя дывізіі. Нават удзельнікі тых падзей з цяжкасцю могуць вытлумачыць, якім чынам маглі выстаяць гэтыя народныя палкі, батарэі — нават спыніць фашысцкія калоны цяжкіх танкаў, падтрыманыя з паветра, іх кадравыя механізаваныя дывізіі, што прайшлі ўсю Еўропу. Гэта быў цуд — чаго? Не, не роспачы. Учапіўшыся ў зямлю, стаялі насмерць, аглухшы ад бамбёжкі, добра разумеючы, што ўсё цяпер залежыць ад іх,— рабочыя Нарвскай заставы, суднабудаўнікі, кіраўцы, партавікі, настаўнікі, наборшчыкі, гісторыкі... Гарэла жыта, гарэлі вёскі, полымя, і едкі дым, і кіслы смурод узрыўчаткі, і паўсюль трэск нямецкіх аўтаматаў. Нашы — з гранатамі і бутэлькамі гаручай сумесі — ляжалі прытаіўшыся, каб падпусціць танкі бліжэй.

Было ўсякае. Але Кіраўская дывізія не ўцякла, палкі працягвалі ваяваць, трапляючы ў акружэнне, лясамі і балотамі прабіваючыся ў Ленінград.

Горад ствараў усё новыя дывізіі — Маскоўскага раёна, Фрунзенскага, Калінінскага, Кастрычніцкага,— яны збіралі пад свае сцягі людзей без адрознення званняў і ступеняў. У апалчэнне ўступілі: выдатны артыст Мікалай Чаркасаў, настаўнік Леанід Папоў, партработнік Аляксандр Ермалаеў, прафесар Кірыл Агароднікаў, літаратуразнавец Ісак Ямпольскі. Ніхто не думаў, як лепш выкарыстаць свае веды. Магчыма, гэта было безгаспадарліва — але стаць салдатам было вышэй меркаванняў пра карысць сваёй спецыяльнасці. У гэтым быў патрыятызм тых дзён, гэта лічылі найпатрэбнейшым.

Страты, раненні — ніштo не спыняла добраахвотнікаў. Толькі б хапіла вінтовак, толькі б было з чаго страляць!

Горад аддаваў у армію лепшых. Апалчэнне стала выдатнай школаю мужнасці. Апалчэнцы праяўлялі гераізм легендарны, як, напрыклад, Дзмітрый Падрэзаў, начальнік палітаддзела Кіраўскай дывізіі, альбо Феадосій Смалячкоў, славуты снайпер фронту.

Эпапея ленінградскага апалчэння пераўтварыла горад.

Праз апалчэнцаў кожнае прадпрыемства было непасрэдна звязана з арміяй і вайною. Пасля вераснёўскіх баёў апалчэнне ўлілося ў кадравыя дывізіі Чырвонай Арміі. Баі на дальніх подступах ператварылі апалчэнцаў у салдат. Вайна вучыць кожную гадзіну, кожны дзень без перапынку, вучыць надзейна.

Калі зімою сорак першага — сорак другога адзін з нас сядзеў у мёрзлых акопах за Шушарамі, міжвольна ўспомніўся завод, родныя вуліцы, Нарвскія вароты, той рэстаран, дзе спехам сабраліся, каб развітацца, члены заводскага камітэта камсамола. Адзін ішоў у лётную часць, другі — у артдывізіён; мы развітваліся лёгка і ўпэўнена, не задумваючыся над тым, што многія з нас не вернуцца.

Мы жылі весткамі з завода. У апусцелых цэхах, пакрытых інеем, работа не спынялася. Быў ужо другі Кіраўскі, эвакуіраваны ў Чалябінск, на ЧТЗ*, весткі адтуль даходзілі рэдка. Былыя апалчэнцы пісалі проста на свае цэхі, па свае фабрыкі, таму што шмат каму гэта было адзінае, што заставалася ад мірнага жыцця. Сям'я загінула, сябры на франтах, быў толькі свой завод. І на заводзе ж, вывезеным кудысьці за Урал, многае змянілася, але ўсё роўна гэта была апошняя радня. І яны сапраўды былі надзейнай раднёю, яны клапаціліся пра дзяцей, мацярок, памяталі і чакалі.

Аднойчы ў Мінску была ў нас размова з Канстанцінам Сіманавым. Пра тое, як ён збіраў расказы салдат — кавалераў ордэнаў Славы, як запісваў успаміны маршалаў. І Жукаў, і Ракасоўскі, і Конеў, ды амаль усе нашы маршалы апублікавалі мемуары, і ўсё-такі К. М. Сіманаў пасля гэтых публікацый запісваў іх расказы — у кожнага набіраліся сотні старонак недагаворанага, таго, што па розных прычынах у кнігі не ўвайшло. Так з'явіліся бясцэнныя матэрыялы. «Мы павінны,— гаварыў Канстанцін Міхайлавіч,— хаця б паспець запісаць усё, што можна. Гэта матэрыял не толькі для гісторыкаў, але і для будучых пісьменнікаў, для тых, хто зможа стварыць эпапею Вялікай вайны».

Ён меў рацыю. Дзякуючы яго энергіі сабраны сведчанні салдат і буйнейшых военачальнікаў, кінакадры, кінарасказы. Канстанцін Сіманаў прарабіў вялізную гістарычную работу. З яго боку такая работа была самаахвярнасцю: замест таго каб пісаць уласныя раманы і аповесці, ён

* Чалябінскі трактарны завод.

збіраў чужыя сведчанні, выступаючы пры гэтым як храніграф, як збіральнік, стымул...

Аддаючы належнае подзвігу Канстанціна Сіманава, мы ўсё-такі не маглі цалкам вызваліцца ад сваіх сумненняў: які сэнс нашае працы над «Блакаднай кнігаю»? Дзеля чаго трэба выцягваць па свет боскі, аднаўляць паўнату чалавечых цярпенняў тых часоў? Гісторыя адабрала ўжо тое, што трэба, з ленінградскай блакады, паставіла помнік яе гераізму і мужнасці — чаго ж мы шукаем?

Нас цікавілі в ы т о к і, тое, як нараджалася ў тых ці іншых людзей усведамленне неабходнасці цярпець любыя нягоды ў імя перамогі, як узнікаў, фармаваўся дух стойкасці, супраціўлення, які захаваў нязломнасць і чалавечую годнасць у самых адчайных абставінах. Нам патрэбен быў працэс праўдзівы, не падпраўлены веданнем здзейсненай перамогі. Адзінаю магчымасцю пазнаць, раскрыць тое, што адбывалася ў душах людзей, было звярнуцца да дакументаў тых гадоў. І лепшымі з іх былі дзённікі. Яны дазвалялі бачыць унутранае жыццё без паправак па тое, што будзе. Нашы героі не ведалі пра перамогу. Яны не ведалі, ці выжывуць яны, што будзе з Ленінградам, з краінаю. Сумненні і нават роспач ахоплівалі іх, але ж і ў тыя дні, калі ўчытацца ўважліва, у іх жыве вера ў перамогу справядлівасці. Больш таго, гэтая вера прадметная — яны пераканаsucc, што Ленінград выстаіць. І нарэшце, самае характэрнае: мы можам бачыць, як паступова мацнее гэтая вера, хоць з дня на дзень становіцца ўсё цяжэй, галадней і смяротны змрок паглынае надзеі.

За некалькі дзён да сваёй смерці Дзяржавін напісаў грыфелем на аспіднай дошцы апошні свой верш. Ніколі яшчэ не пісаў ён так проста. Слабеючай рукою ён выводзіў радкі, падымаючыся з імі над пражытым жыццём, над сваім часам, над магутнай кацярынінскай эпохаю:

Река времен в своем стремленья
Уносит все дела людей
И топит в пропасти забвенья
Народы, царства и царей.
А если что и остается
Чрез звуки лиры и трубы,
То вечности жерлом пожрется
И общей не уйдет судьбы!

Трэба мець немалую мужнасць, каб, адыходзячы, асу-

дзіць на забыццё ўсё, чым захапляўся, дзеля чаго жыў і тварыў. Але яшчэ больш уражвае тут думка пра тое, што калі што і застанецца на нейкі час, дык гэта тое, што апета лiраю і трубою, гэта значыць, паэтам, кампазітарам, мастаком.

Сучаснікам ужо не дазнацца, што з перажытага імі гісторыя захавае на вякі, што струхлее ў газетнай падшыўцы, а што ператворыцца ў легенду. Вядома, хочацца спадзявацца, што ленінградская блакада застанецца надоўга ў памяці народаў. Але якою яна здасца нашчадкам? Як час перакроіць яе, што створыць з тысяч трагедый, які міф складзе са стойкасці і жаху, з марозу і голаду? Пра гэта мы не даведаемся, як не ведалі жыхары абложанай Троі, што чалавецтва з дзевяцігадовае аблогі іх горада захавае міфы пра цудоўную Алену, пра траянскага каня, пра залаты яблык разладу. Колькі ў тыя часы было войнаў значнейшых і страшнейшых, а ў жывой памяці чалавецтва засталася гэтая, звязаная з маленькім горадам Трояй. Вядома, тут заслуга аўтара «Іліяды» і «Адысеі», але ж у гісторыі ёсць свае капрызы, яна дазваляе часам самавольства і несправядлівасць, аддаючы часта забыццю і герояў і ахвяры, што прыносіліся народамі. Аднак жа Ленінград... Адкуль гэтае адчуванне будучай легенды, доўгага яе жыцця? Не павінна гэта загінуць... Не таму, што так хацелася б нам, а таму, што ў подзвігу ленінградцаў ёсць такія вышыні чалавечага духу, якія не могуць загінуць.

Іх трое, галоўных герояў другой часткі нашай кнігі. Яны ніколі не бачыліся, не ведалі адзін пра аднаго. Два мужчыны і адна жанчына. Першы — Георгій Аляксеевіч Князеў, гісторык, другі — пятнаццацігадовы хлопчык Юра Рабінкін і трэцяя — Лідзія Георгіеўна Ахапкіна.

Для першай часткі «Блакаднай кнігі» мы запісвалі, збіралі цяперашнія расказы людзей, якія перажылі ленінградскую блакаду, для другой выкарысталі перш за ўсе дзённікі таго часу.

У час блакады дзённікі вялі многія. А некаторыя блакаднікі па свежых слядах запісвалі тое, што перайшлі. Нам прысылалі, прыносілі сшыткі, старыя канторскія кнігі, у якіх алоўкам, бледным чарнілам, акуратна альбо спехам, коратка альбо падрабязна, часам адубелай ад холаду рукою людзі запісвалі перажытае.

З усіх дзённікаў і запісак мы адабралі тры гісторыі, тры розныя лёсы, якія найбольш нас уразілі.

Яны сапраўдныя, яны дазваляюць прасачыць ва ўсіх падрабязнасцях гісторыю душы коланага нашага героя ў дні блакады. Ніводнага слова ў іх не ўпісана, не зменена, мы дазвалялі сабе толькі скарачаць, апускаць паўторы ці запісы, якія не маюць адносін да галоўных падзей.

У Ленінградзе мемарыяльныя дошкі ставяць скупа. Надта іх многа — мясцін, дамоў, якія вартыя таго, каб іх адзначылі, памецілі. Таму той дом на Васільеўскім востраве заўсёды прыцягвае ўвагу.

Калі ісці па набярэжнай Нявы ад універсітэта ў напрамку да гранітных сфінксаў, што ляжаць над неўскай вадою каля былой Акадэміі мастацтваў, а цяпер Інстытута імя Рэпіна, дык адразу за сфінксамі бачны трохпавярховы дом з порцікам, які падтрымліваецца чатырма дарычнымі калонамі. Дом старой пабудовы, мілай, сціплай пецярбургскай архітэктуры, у 1806—1808 гадах еп быў перабудаваны славутым дойлідам Захаравым. Усе яго сцены абвешаны чыгуннымі мемарыяльнымі дошкамі. Ні адзін дом у Ленінградзе, ды і ў Маскве, бадай, а можа, і наогул у свеце не мае столькі мемарыяльных дошак. Іх тут 27. Дом належыць Акадэміі навук. Жылі тут — рэфарматар рускай арфаграфіі і складальнік рускага слоўніка Якаў Карлавіч Грот; візантолаг Фёдар Іванавіч Успенскі; даследчык старажытнарускай літаратуры Аляксандр Сяргеевіч Арлоў; фізік, вынаходнік сучаснай гальванатэхнікі Барыс Сямёнавіч Якобі; буйнейшы рускі і савецкі мінералог Аляксандр Яўгеньевіч Ферсман; стваральнік тэорыі фігур нябесных цел Аляксандр Міхайлавіч Ляпуноў; першы рускі электрамеханік Васілій Уладзіміравіч Пятроў; мовазнавец Мікалай Якаўлевіч Мар; вялікі наш геолаг, геахімік, чалавек, які стварыў сучасную тэорыю біясферы і ноасферы, Уладзімір Іванавіч Вярнадскі; тут жыў і памёр у 1936 годзе Іван Пятровіч Паўлаў. Што ні імя, то цэлы раздзел навукі. За паўтара з лішнім стагоддзя гісторыя адабрала гэтыя дваццаць сем буйнейшых імёнаў, а колькі яшчэ жыло тут выдатных рускіх і савецкіх вучоных.

У гэтым доме, што ў нейкім сэнсе стаў сімвалам рускай навукі, жыў перад пачаткам вайны дырэктар Архіва Акадэміі навук СССР Георгій Аляксеевіч Князеў.

Ён мог жыць і ў іншым доме, там завяршыць свой жыццёвы круг, напісаць працы па гісторыі Акадэміі на-

вук, па архіўнай справе, але тое, што ёй жыў у гэтым доме ўсю блакаду і тут пісаў свой дзённік «Паўвеку жыцця сярэднярускага інтэлігента», набывае нечаканы і важны сэнс.

Часта здаецца, што калі б вы жылі ў іншым доме, з іншым відам з акна, дык вы былі б крыху іншым чалавекам і вашае жыццё склалася б інакш. Можа, гэта не проста гульня фантазіі.

У Георгія Аляксеевіча Князева ногі былі напаўпаралізаваныя, хадзіць было цяжка, з дому на працу і назад перасоўваўся ён на калясцы, «самакаце». Больш далёкія паездкі былі рэдкія. Архіў Акадэміі навук знаходзіўся непадалёку, на набярэжнай, за універсітэтам, у будынку Акадэміі навук, метрах у васьмістах ад дому. Па сутнасці, гэты адрэзак шляху па набярэжнай і складаў галоўны шлях Г. А. Князева ўсю блакаду, гэта быў той кавалак, кавалачак горада, які ён мог бачыць, той малюсенькі радыус, на якім разгортвалася для яго вайна — блакада, абстрэлы, бамбёжкі, голад, эвакуацыя.

На першы погляд, прастора вельмі абмежаваная, але ў гэтыя ж самыя месяцы мы, седзячы ў акопах на Ленінградскім фронце пад Пулкавам, пад Пушкінам, каля Сінявіна, што бачылі мы? Свой акоп, свой участак, даўжынёю ў тыя самыя паўкіламетра, «сваіх» фрыцаў, замініраванае поле, пятачок, ды ззаду зямлянку штаба батальёна, два сваіх доты і дзесьці ўдалечыні бяздымны сілуэт горада. Свой маленькі радыус, дзе адбывалася наша Вялікая Айчынная, дзе гінулі, стралялі, наступалі, дзе было ўсё.

Князеў запісвае:

***«1941.VI.23.*** Другі дзень вайны. Так і не даведаўся я аб падрабязнасцях ускрыцця грабніцы Цімура. Ваенныя падзеі засланілі звесткі пра археалагічныя раскопкі ў Самаркандзе.

Як усё паўтараецца на свеце. Цімур, альбо Тамерлан, у XIV стагоддзі заваяваў Індыю ад Інда да Ганга, Персію, Сірыю, Турцыю, паўднёвую Расію.

І вось цяпер зноў, але далёка перасягнуўшы Вялікага Кульгаўца — нахабны Гітлер, што прынёс гэтулькі пакут і свайму народу, і ўсім іншым народам, як зняволеным і прыніжаным, так і тым, што змагаюцца з ягоным д’ябальскім рэжымам.

У Ленінград прывезлі першых раненых. Новая лінія Манергейма за Выбаргам прарвала нашымі часцямі ў некалькіх месцах, паводле слоў Чэрнікава. Таксама знішчаны паветраны дэсант у некалькі тысяч чалавек.

Закончыўся другі дзень вялікай айчыннай вайны*.

Стаміўся за дзень. У галаве шуміць кроў, і нібы гул прапелераў увесь час шуміць у вушах».

Гэты гул прапелераў, які яшчэ толькі чакаецца, доўга будзе праследаваць Г. А. Князева — пакуль не адбудзецца першы вялікі налёт на Ленінград у першых чыслах верасня. І тады гэты нервовы гул знікне, заменіцца сапраўдным выццём самалётаў і выбухамі, да якіх таксама хутка людзі прывыкнуць.

*«1941.VI.25.* Чацвёрты дзень... Сёння раніцаю, калі ўсе вокны праклеілі белымі палоскамі, прыйшла адна жанчына і сказала, што ў іх установе атрыманы загад заклейваць не белымі, а чорнымі палосамі... Усё-такі ўсе вокны ў дамах спярэшчаны белымі палоскамі паперы.

Вывучаем па карце становішча на фронце. Напружаныя страшэнныя баі. Найбольш нас хвалюе пытанне, ці ўдасца немцам перарэзаць Кіраўскую (Мурманскую) чыгунку. Асабліва напружаныя баі ідуць у раёне Кандалакшы.

На службе вёў перагаворы з прадстаўнікамі спецыяльных архівасховішчаў. Вырашылі ў некаторых выпадках не пераносіць найбольш каштоўныя матэрыялы ў сырыя і залiваемыя вадою падвалы...»

Што ў вас пад акном, па дарозе па працу: бярозы? рака? дамы? У Георгія Аляксеевіча Князева — сфінксы. Нібыта спецыяльна — таму, што ён гісторык. І яшчэ таму, што збірае, запісвае факты, якія сведчаць аб прагрэсе ці рэгрэсе чалавечага роду. Заўсёды перад вачамі яны — старажытныя сфінксы.

Ляжаць ружавата-каменныя, пад колер гранітных набярэжных, з чалавечымі тварамі і звярынымі лапамі, звернутыя адзін да аднаго, а старая вязь паведамляе пра тое, што сфінкс са старажытных Фіваў у Егіпце перавезены ў град святога Пятра ў 1832 годзе. Дык, дарэчы, тут яны — сведкі немалой ужо гісторыі бясконцых, як піша Князеў, «узлётаў і падзенняў чалавецтва па шляху прагрэсу».

* Заўважце, Г. А. Князеў прадугадаў, як гэта вайна ўвойдзе ў нашу гісторыю — Вялікая Айчынная.

Запіскі Князева з ранніх гадоў прысвечаны былі — даўно і пастаянна — аднаму пытанню: куды ідзе чалавек, чалавецтва? Цяпер гэта нататкі ленінградца, што яшчэ не ведае, які лёс чакае горад і яго жыхароў у бліжэйшыя месяцы, але які ў першыя ж дні вайны зразумеў: «Нам многа давядзецца перажыць — гэта зразумела».

«...два бронзавыя свяцільнікі, што стаялі каля сфінксаў, разабралі і вывезлі. Сфінксы яшчэ стаяць... Сёння я гляджу на іх з глыбокім хваляваннем... Але вершаў складаць не мог.

Але вось усё-такі пішу гэтыя нататкі. Дзеля чаго? Не магу не пісаць. Але не ганяюся за неабсяжным.

«На маім малым радыусе» — вось змест маіх запісаў. Каму ж пішу? Табе, мой далёкі сябар, член будучага камуністычнага грамадства, якому будзе чужая і арганічна агідная вайна, як агідная нам, ненармальная антрапафагія — людаедства... А людзі ж, нашы продкі, з задавальненнем пажыралі адзін аднаго!.. Я веру, і тут я непапраўны летуценнік, што настане такі час, калі не будзе вайны на зямлі.

Вось чаму я ўсё-такі пішу свае нататкі. І мяне не палохае думка, што яны, можа, загінуць, згараць у які-небудзь страшны момант магчымай бамбардзіроўкі нашага горада. Як не палохае і тое, што магу загінуць я.

І калі дойдуць да цябе, мой далёкі сябар, можа, хоць ва ўрыўках, абгарэлыя гэтыя старонкі, ты перажывеш разам са мною, чым жыў і хваляваўся твой няшчасны папярэднік, якому давялося жыць у «дагістарычную» эпоху, але па золку сапраўднай чалавечай гісторыі. У афіцыйных паперах, што захаваліся яшчэ да цябе, ты знойдзеш матэрыялы для павуковай гісторыі, у маіх запісках ты адчуеш біццё пульсу жыцця аднаго маленькага чалавека, які перажыў на сваім малым радыусе вялікае, неабсяжнае складана-трагічнае жыццё...

На двары, у садзіку, сход жыхароў дома. Там і мая жонка. Зараз яна прыйдзе і раскажа, што там адбывалася.

10 гадз. 30 мін. Апошнія паведамленні па радыё. Турцыя заявіла пра свой нейтралітэт. Грандыёзны выбух народнага натхнення ахапіў краіну ў сувязі з пачаткам вялікай айчыннай вайны.

Павінны ж паўстаць народы Еўропы!

***1941.VI.26.*** Пяты дзень. Ноч праспалі спакойна. Тры-

вой не было. Значыць, у вушах шумела. Цікава, што гэтая ілюзія слыху не ў мяне аднаго, а і ў іншых назіральнікаў.

На службе нармальны рабочы дзень. Правёў экскурсію са студэнтамі і чытаў ім лекцыю з вялікім уздымам.

Вечарам чыталі правілы паводзін і мер пры паветранай трывозе. М. Ф. хадзіла ў медыцынскі пункт. Я разбіраў запасы медыкаментаў на выпадак апёкаў альбо раненняў».

Вякі і нават тысячагоддзі, абжытыя розумам і фантазіяй адукаванага гісторыка Князева, не перашкаджаюць яму заставацца «сярэднярускім інтэлігентам свайго часу». Пасля мы пераканаемся (і запісы гэта засведчаць), што тыдні, месяцы жыцця ва ўмовах блакаднага Ленінграда акажуцца роўнымі многім дзесяцігоддзям у жыцці чалавека. Ён перадумае, адчуе, зразумее столькі, што ўсё ягонае папярэдняе жыццё выдасца падрыхтоўчым класам.

*«1941.VI.28*. Субота. Сёмы дзень. Нервовы, нервовы дзень. На службе лішнюю нервовасць унесла І. Л.* Яна пад уздзеяннем абвешчанага пагрозлівага становішча і паведамлення пра эвакуацыю дзяцей склала, відаць, змрочнае заключэнне аб становішчы на фронце ў сувязі з пранікненнем танкавых часцей у размяшчэнне нашых войск на мінскім і іншых напрамках. Гэты настрой адразу перадаўся другім, асабліва тым, што прыйшлі стомленымі з начнога і марнага дзяжурства ў галоўным будынку Акадэміі навук. Я прыпяў усе меры, каб падняць гэты настрой. Указаў І. Л., што яна напярэдадні парушыла мой загад, зняўшы вечарам з дзяжурства ў Архіве Свікуль і накіраваўшы яе ў галоўны будынак. Паводле выказванняў супрацоўнікаў, якія там дзяжурылі, яны «ахоўвалі крэслы ў кабінеце прэзідэнта», у той час як Архіў заставаўся без аховы. Раніцаю ўсе супрацоўнікі насілі пясок на гарышча».

Запісы, ды яшчэ падзённыя, зробленыя ў тыя месяцы і дні, адрозніваюцца ад таго, што прыгадваецца праз трыццаць гадоў. Адрозніваюцца перш за ўсё тым, што ў дзён-

* Многія прозвішчы поўнасцю не публікуем, таму што ацэнкі людзей маглі быць выпадковымі, прадыктаванымі невыразнасцю сітуацыі альбо мінутным настроем.

ніку чалавек не ведаў, што будзе. Ён тут са сваімі надзеямі, якія аказаліся ілюзіямі... Так, Князеў перакананы, што народы Еўропы паўстануць, што начальства ўсё прадугледзела...

Сёння блакада ўспамінаецца як адна з трагічных старонак пераможнай вайны. Многія падрабязнасці таго жыцця памяць страціла альбо па-свойму завастрыла, але, адбіраючы факты і пераплыванні, узбуйняючы і завастраючы іх, яна губляе некаторыя фарбы, душэўныя рухі, а бывае, вызваляецца ад былых слабасцей, жахаў.

Па апавяданнях ленінградцаў — па тым, што і як яны памятаюць,— добра заўважаецца такая асаблівасць блакаднае памяці: чалавек знаходзіцца там (у блакадзе) і тут (у нашым часе) адначасова. Жорсткая, нічога не хаваючая памяць быццам бы сцірае межы часу. (Таму, дарэчы, апавядапні-ўспаміны блакаднікаў так натуральна і проста манціруюцца з дакументамі і дзённікамі.)

Яўгенія Аляксандраўна Раўдэль, жанчына дакладнага і назіральнага розуму, вельмі ёміста сфармулявала нам тое самае падвойнае (ці здвоенае) бачанне — характэрную асаблівасць блакаднай памяці:

«Калі я адсюль гляджу туды, дык у мяне такое адчуванне, што я стаю ўвесь час перад адкрытымі магіламі, але калі я пераношуся туды ўся, тады я добра памятаю, што была і цікаўнасць да ўсяго, што нас чакае, нейкае радаснае адчуванне, што адкрыецца неверагоднае...»

Альбо чытаем у дзённікавых запісах Т. В. Рабінінай, у якіх такое самае здзіўленне перад нечаканасцямі, складанасцю чалавечых перажыванняў і паводзін:

«Тады мы даведаліся, што выйсця з горада няма, што мы акружаны шчыльным кальцом. Але не было панікі і не было жадання вырвацца. Што датычыцца мяне, дык я, апрача таго, была поўная дурной дзіцячай цікаўнасці. Я хацела ўсё бачыць і ўсё выпрабаваць. Жаданне маё лёс пасля цалкам задаволіў. Я бачыла і паспрабавала досыць».

Так, дзённікавы матэрыял адрозніваецца і мусіць адрозніваецца ад тых запісаў блакадных успамінаў — праз трыццаць гадоў,— якія ў асноўным склалі першую частку «Блакаднай кнігі».

Але якое гэта адрозненне, у чым яно? Прыводзячы ў другой частцы дзённікі ваенных гадоў, мы быццам бы падвяргаем праверцы і пераправерцы тую, першую частку.

Ці вытрымае праўда ўспамінаў выпрабаванне дзённікавым дакументам?

Сумненні былі, нам іх выказвалі: усё-такі мінула трыццаць гадоў! Наколькі можна давяраць такім успамінам?

Але своеасаблівую праверку гэтыя ўспаміны прайшлі ўжо. Яна зафіксавана ў водгуках-лістах былых блакаднікаў, тых, з якімі мы не змаглі сустрэцца, пагаварыць. І амаль ва ўсіх лістах: так, і ў мяне так было, у нас таксама менавіта гэтак было!.. І адразу ж — свае выпадкі, падрабязнасці, пацвярджэнні.

Дзённікі не абвяргаюць, не адмаўляюць праўду ўспамінаў блакадніка. Памяць гэтая асаблівая, час на яе, вядома, дзейнічае, як дзейнічае ён і на горныя пароды: мяккія выветрываюцца, асыпаюцца, затое цвёрдыя выступаюць на паверхню, агаляюцца. Наймацнейшае робіцца прыкметным. Але цяпер, чытаючы дзённікі, мы спускаемся да мацярыковых парод, у нічым не парушаную аўтэнтычнасць таго жыцця...

Ю р а Р а б і н к і н — ён прадставіўся ў сваім дзённіку кароткай аўтабіяграфіяй:

«А ў т а б і я г р а ф і я

Я нарадзіўся ў 1925 годзе 2 верасня ў Ленінградзе.

Жыву з маці, з сястрычкай і цёткаю. Маці мая працуе ў Абл. камітэце саюза прам. бул. цэнтра, загад. бібліятэчнага фонду, член ВКП (б) з 1927 года. Цётка — урач, цяпер на фронце. Сястрычцы — 8 гадоў. Бацька кінуў сям’ю ў красавіку 1933 года, ажаніўся і паехаў у Карэлію; пасля. кажуць, у 1937 годзе, ён быў сасланы ў г. Уфу.

Да 7-гадовага ўзросту я гадаваўся ў цёткі за горадам.

У 1933 годзе паступіў у школу і цяпер скончыў 8 класаў, перайшоў у 9-ы клас.

У 1938/39 годзе вучыўся яшчэ ў марскім гуртку Куйбышаўскага раёна, прайшоў летнюю практыку ў Стрэльні і атрымаў значок «Юны марак». Апрача таго, адначасна са школаю займаюся 3-ці год у Палацы піянераў у гістарычным гуртку. Выступаў з дакладамі па тэмы: Баграціён, Сувораў і г. д. За вучобу маю «добрыя» адзнакі.

***Ю. Рабінкін».***

Значыць, яму яшчэ няма і шаснаццаці, жыве ён у цэнтры, на вуліцы Трэцяга ліпеня (тады так называлася, цяпер зноў Садовая вуліца). Ён, як і ўсе, апісвае дзень пачатку вайны з мноствам дэталяў. Гэты дзень запомніўся ўсім. Не толькі тое, што адбывалася пасля паведамлення пра вайну, але і папярэднія гадзіны памяць таксама прыхапіла, высветліла з самымі малымі падрабязнасцямі.

*«22 чэрвеня 1941 г.* Усю ноч мне не даваў спаць нейкі гул за акном. Калі нарэшце ён крыху сціх, быў ужо досвітак. Цяпер у Ленінградзе стаяць месячныя, ясныя, кароткія ночы. Але калі я паглядзеў у акно, убачыў, што ў небе шнарацць некалькі пражэктараў. Усё-такі я заснуў. Прачнуўся я ў адзінаццаць гадзін дня, праўдзівей раніцы. Хуценька адзеўся, умыўся, перакусіў і пайшоў у сад Палаца піянераў. Гэтым летам я вырашыў атрымаць кваліфікацыю па шахматах. Як бы там ні было, а я выйграю часта нават у трэцяй катэгорыі.

Выйшаў на вуліцу і адразу заўважыў нешта незвычайнае. Каля брамы нашага дома я ўбачыў дворніка з процівагазам і чырвонай павязкаю на руцэ. Каля кожнай падваротні было тое ж самае. Міліцыянеры былі з процівагазамі, і нават на ўсіх скрыжаваннях гаварыла радыё. Нешта мне падказвала, што ў горадзе пагрозлівае становішча.

У Палацы я застаў толькі двух шахматыстаў. Магчыма, было вельмі рана. Сапраўды, крыху пазней падышлі яшчэ некалькі чалавек.

Расстаўляючы на дошцы шахматы, я пачуў нешта новае. Павярнуўшыся на галасы, я заўважыў групку дзяцей, якія тоўпіліся вакол невялічкага хлапчука. Я прыслухаўся і... здранцвеў...

— ...Учора ў 4 гадзіны ночы германскія бамбардзіроўшчыкі наляцелі на Кіеў, Жытомір, Севастопаль і яшчэ некуды,— горача гаварыў хлопчык.— Молатаў па радыё выступаў. Цяпер у нас вайна з Германіяй!

Я проста, ведаеце, сеў ад здзіўлення. Вось гэта навіна! А я нават і не падазраваў такой рэчы. Германія! Германія ўступіла з намі ў вайну! Вось чаму на ўсіх процівагазы.

У мяне закруцілася, зашумела ў галаве. Нічога не кемлю. Аднак неяк згуляў тры партыі. Дзівак, усе тры выйграў і паплёўся дамоў.

На вуліцы спыніўся каля гучнагаварыцеля і выслухаў прамову Молатава.

Калі я вярнуўся дадому, тут была толькі мама. Яна ўжо ведала, што здарылася.

Паабедаў і пайшоў блукаць па вуліцах. Усюды адчувалася нейкая напружанасць, ёю была напоўнена ўся душная, пыльная атмасфера горада. Падыходзячы назад да свайго дома, я стаў у чаргу, каб купіць газету. Газет яшчэ не было, тым не менш чарга была агромністая. Па чарзе хадзілі цікавыя размовы, праносіліся жарты на міжнародныя тэмы, скептычныя заўвагі.

— А што будзе, калі Германія заключыць мір з Англіяй і разам з ёю ды на нас?

— Цяпер усё будзем бамбіць, не так, як у Фінляндыі, і жылыя кварталы, няхай загаворыць пралетарыят, няхай ён зразумее, па што ідзе.

— Чулі, пад Ольгінам збілі нямецкі самалёт!

— Вунь куды заляцеў!

— Так, значыць, рыхтуйся да бамбёжкі. А то як наляціць на Ленінград сотні тры...

— Без гэтага не абыдзецца. Усё сваім парадкам.

Прастаяўшы каля дзвюх гадзін, я вырашыў ісці дадому, як раптам аб'явілі, што хоць газет і няма, але будзе нейкі афіцыйны бюлетэнь, праўда, невядома, калі ён паступіць. Я пастаяў яшчэ з паўгадзіны і ўсё-такі пайшоў дахаты. Па газету пайшла наша хатняя работніца Ніна.

Дзень канчаецца. На гадзінніку — палова дванаццатай. Пачалася рашучая сур'ёзная барацьба, сутыкнуліся два антаганістычныя рэжымы: сацыялізм і фашызм! Ад будучыні гэтага вялікага гістарычнага змагання залежыць лёс усяго чалавецтва».

Урыўкі з дзённіка Юры былі надрукаваны ў 1970 годзе ў ленінградскай газеце «Смена». Копію дзённіка нам дала Ала Белякова, былы рэдактар гэтай газеты. Выратавала і захавала дзённік медсястра Р. І. Трыфанава.

Усе, хто сутыкаўся з дзённікам Рабінкіна, беспамылкова адчувалі сілу і таленавітасць гэтага дакумента. Хоць пачатак яго даволі звычайны. Таксама як і Г. А. Князеў, Юра выконвае свой абавязак, імкнецца чым-небудзь памагчы дарослым, гораду. Вайна, блакада яшчэ не ставяць перад ім сур'ёзных праблем, яму яшчэ не трэба змагацца...

Да гэтай звычайнасці варта прыгледзецца. Пры ўсёй хлапечасці Юравых запісаў і хоць гэта першыя дні вайны, у дзённіку няма страху, ёсць дзелавыя спакойныя адносіны, ёсць праца, якою Юра крыху любуецца. Але прыкметна, і далей будзе ўсё выразней, як хутка ён сталее.

*«26 чэрвеня.* Сёння, як устаў, пайшоў у Палац. Адтуль разам з хлопцамі пайшоў на будоўлю Казанскага сабора. Працаваў я з адзінаццатай раніцы і да дзевятай вечара з абедзенным перапынкам. Перапынак адна гадзіна. На абедзвюх руках — мазалі, стрэмкі. Цягаў дошкі, капаў зямлю, пілаваў, сек — усё даводзілася рабіць. Пад канец рука разбалелася так, што пілаваць не мог. У абедзенны перапынак дома пачаў чытаць Тургенева «Цаліну». Вечарам дома. Мама вярнулася з свайго дзяжурства рана — яе падмянілі. Ну, пісаць шмат не магу — няма часу, трэба ісці ў Палац.

*28 чэрвеня.* Сёння працаваў зноў у Палацы піянераў па будаўніцтве бамбасховішча. Праца была пякельная. Мы сталі сёння мулярамі. Я ababiў усе свае рукі малатком — усе яны цяпер у драпінах. Але змянілі нас рана — у 3 гадзіны. Папрацавалі мы, такім чынам, 4 з паловаю гадзіны, але як!!!

З Палаца я пайшоў да мамы. Мама неспакойная, усё ходзіць панурая... З'явілася магчымасць хімічнай вайны, цяпер пачынаюць арганізоўваць эвакуацыю. Узяў 5 рублёў і схадзіў у сталоўку. Пасля прыйшоў дадому. Прыходзіла нейкая жанчына, якая запісвала ўсіх дзяцей да 13 гадоў. Ірку запісала. Камендант загадаў Ніне дзяжурыць каля брамы з паловы дзесятай і да трох. Дарэчы, паведаміў, што на выпадак трывогі мы павінны бегчы да Хамадуліна, у першы паверх. Але там усё роўна небяспечна. Ад фугаснай бомбы не выратавацца, ад паветранай хвалі таксама: хваля знясе дом, а яго руіны пахаваюць нас у гэтым падвале; ад хімічнай бомбы не выратавацца тым больш.

*29 чэрвеня.* Працаваў у Палацы на будаўніцтве бамбасховішча. Да гэтага быў на плошчы Ласаля — грузіў пясок. Але работы там было ўсё ж мала. Хлопцы вылепілі з пяску морду Гітлера і пачалі біць яе рыдлёўкамі. Я таксама далучыўся да іх. У Палацы зноў цягаў цэглу і пясок.

Пайшоў з Палаца а шостай гадзіне. Дома атрымаў нечаканы сюрпрыз.

Я яшчэ не паспеў і пераступіць парог, як да мяне падбегла Іра з крыкам: «Паглядзі, што мне мама купіла! А табе не купіла! Не купіла!» Я пайшоў у сталоўку. На канапе ляжала купленая Ірцы матроска і лялька. На стале стаялі новыя Ірчыны ж боты.

Маці мне ўсунула ў рукі нейкую запіску. Я машынальна разгарнуў яе. Гэта была заява ў ваенкамат пра добраахвотнае ўступленнем мамы і мяне ў рады Чырвонай Арміі.

Як высветлілася, у мамы быў раніцай партсход, і ўсе партыйцы вырашылі ўступіць у рады нашай Чырвонай Арміі. Ніхто не адмовіўся. Спярша я адчуў нейкі гонар, пасля некаторы страх, нарэшце першае перасіліла другое.

Вечарам я і мама пайшлі да ўладальніцы аднаго з дамоў у Сіверскай. Мама надумала адправіць туды Ніну і Іру, калі мы пойдзем на фронт. Пра сёе-тое дамовіліся там.

У гэты ж вечар я — ого-го! — схадзіў у цырульню. Напэўна, месяцаў з два не стрыгся.

***30 чэрвеня.*** Прыходжу ў Палац і застаю хлопцаў за гульнёю ў більярд. З паўгадзіны згуляў і я; пасля мы пайшлі на працу ў бамбасховішча. Я зноў цягаў пясок з саду. Вызваліўся толькі каля 7 гадзін. Пайшоў у фонд. Там другая навіна — мяне, напэўна, у армію не возьмуць: малады яшчэ плеўрыт; бо дрэнна сябе адчуваю, разгуляўся і мой плеўрыт; напэўна, вызваляць ад працы ў Палацы піянераў і пашлюць у лагер.

З Цінай* сувязь парушана. Яна не можа сюды прыехаць — прапісана ў Шлісельбурзе, а да яе ехаць небяспечна. А дзевятай вечара схадзіў да Додзіка Фінкельштэйна. Ён нідзе не працуе — вольны. Паслязаўтра адпраўляюць яго брацікa у Малую Вішару. Расказаў яму пра Палац. Ён наважыў таксама ісці туды працаваць. Я пайшоў ад яго каля адзінаццатай гадзіны».

І трэці персанаж гэтае кнігі — Лідзія Георгіеўна Ахапкам. Ёй было тады дваццаць восем гадоў. 22 чэрвеня 1941 года яна з раніцы сабралася вяртацца на дачу, дзе жыла з дзецьмі. Муж яе, Васілій Іванавіч, быў у камандзіроўцы, і Лідзію Георгіеўну прыйшлі праводзіць яе пляменнік і мужаў сваяк Шура Самсонаў.

«Усё было ўжо сабрана, я карміла дачку, ёй было пяць

* Ціна — Валянціна Іванаўна, Юрава цётка, матчына сястра.

месяцаў. Раптам па радыё прагучала: «Увага, увага!» І пачаў выступаць Молатаў. Я сказала, што па дачу мы не паедзем. Трэба дачакацца мужа. Я зусім не папалохалася, прыгадаўшы фінскую вайну, якая зусім не была страшнай, ва ўсякім разе для мяне і для Ленінграда. Волю, сястру мужа, і майго пляменніка паслала ў магазін па прадукты на абед. Накарміўшы дачку, з ёю на руках я і Шура выйшлі на вуліцу. Шура мяне супакойваў, казаў, што вайна доўга не працягнецца, але, аднак, яму і Васю давядзецца ісці ваяваць».

Удакладнім: нататкі Лідзіі Ахапкінай адрозніваюцца ад Юрыных і князеўскіх, гэта не дзённік, а запісы, і зроблены яны крыху пазней.

«Пачала я іх якраз у дзень перамогі. Усе весяляцца, а на мяне нахлынула, і я села пісаць. Спецыяльна мужу і сыну пісала — муж ваяваў за «кальцом», а сын нічога не памятае. І я паклялася, што напішу толькі праўду. Толькі праўду! За месяц усё запісала. А тады, у блакаду, мне не да таго было, зусім не да таго было, зусім не да таго...» — вось гісторыя запісак Л. Г. Ахапкінай, як яна сама яе расказвае.

«26 чэрвеня 1941 г. прыехаў муж. З Ленінграда пачалі эвакуіраваць людзей і некаторае абсталяванне заводаў. Дастаць білет на поезд ужо цяжка. Усіх дзяцей дзетсадаўскага і школьнага ўзросту мяркуюць вывезці ў іншыя гарады, таму што Ленінграду будзе пагражаць небяспека».

Далей запісы ідуць не па числах.

«Мы з мужам вырашылі адправіць толькі сына з дзіцячым садам... А я з дачкою застануся, і мне лягчэй у выпадку трывогі бегаць у бамбасховішча. Ён таксама мяркуе, што вайна працягнецца лета і да зімы закончыцца».

Жыла Ліда Ахапкіна ў двухпавярховым драўляным доме за Волкавымі могілкамі.

«28 чэрвеня мы адправілі сына. Бедная дзіця, яму пяць гадоў. Я прыгатавала яму адзенне, усё памеціла, вышыла ніткамі яго імя і прозвішча.

Апранаючы яго тады раніцай, я падумала, калі мне давядзецца яшчэ яго адзяваць. І раптам мяне ўзяла трывога і неспакой, калі я яго ўбачу наогул, а раптам ён згубіцца. Я вельмі расхвалявалася, занепакоілася і сказала пра гэта мужу, азірнулася на яго і гляджу, у яго па шчоках пякуць слёзы.

...30 чэрвеня Вася паехаў. Перад ад’ездам ён сказаў, што яго адпраўляюць на спецваенныя работы (ён быў ін-

жынер), а не на фронт, дзе ідуць баі, каб я не турбавалася. Гэта была праўда і няпраўда. Яго адправілі некуды пад Смаленск, і ён трапіў у акружэнне немцаў. Доўга блукалі і хаваліся ў лесе, пасля ўсё-такі выйшлі. Але пра гэта ні ён, ні я яшчэ не ведалі.

...Бамбёжкі працягваліся 20—30 мінут, а часам яны працягваліся гадзіну і дзве. Я ад перапалоху ўся дрыжала і бляднела. У вушах нешта звінела і быццам бы лопалася. Ногі слабелі, і я не ў стане была рухацца. А трэба было браць на рукі дачушку і бегчы ў бамбасховішча».

Так пачынаецца эпапея маці.

Згаладнелая, а пасля і па-сапраўднаму галодная жанчына выратавала сваіх дзяцей. Ратавала не раз, не два, а сотні разоў, праяўляючы выдумку, выкрутлівасць, рызыкоўную смеласць.

## «НІКУДЫ Я З ГОРАДА НЕ ПАЕДУ»

Архіў і дом. Абодва гэтыя пункты жыцця Князева зазнавалі змены. Вайна пераўтварала, здавалася б, самыя ўстойлівыя, маларухомыя, нязменныя апоры. Г. А. Князеў няспынна назірае гэта, параўноўвае, асэнсоўвае. Можна падумаць, што ён рыхтуецца да доўгіх запісаў і тысячааркушнай аповесці,— такі грунтоўны зачын яго дзённіка. І, як ні дзіўна, менавіта такую аповесць яму ўдалося завяршыць, а многія дзённікі, што пачыналіся спехам, кароценькія запісы, дзе меркавалася, што пасля, далей будзе запісана падрабязней, былі спынены рознымі абставінамі.

***«1941. VII.I.*** Дзесяты дзень вайны. Акад. Паўлоўскі, перадаючы мне рукапіс, які знаходзіўся ў яго, сказаў: «Захавайце, калі можна. Становішча вельмі сур'ёзнае».

Праз некаторы час прыйшоў заг. Архіва ІРЛІ*. Доўга раіліся па пытанню пра адпаведнае захаванне тут, у Ленінградзе, каштоўных матэрыялаў — рукапісаў Пушкіна,

* Інстытут рускай літаратуры АН СССР (Пушкінскі Дом).

Ламаносава, Лермантава, Тургенева, Дастаеўскага, Талстога і інш. На Гарадзецкім твару няма. Не можа спаць. «Якую ж мы нясём з вамі адказнасць!»

Так, велізарную мы нясём адказнасць (не пра юрыдычную, адміністрацыйную ці службовую адказнасць тут даводзіцца гаварыць), адказнасць маральную, перад нашчадкамі.

***1941. VII. 2.*** Адзінаццаты дзень. Будынак Архіўнага ўпраўлення, на плошчы Чырвонага Флоту, што так многа пабачыў па сваім вяку, цяпер пералівае яшчэ адзін этап у сваёй гісторыі. На лесвіцы, па якой калісьці стукала шабля гвардзейскага афіцэра Лермантава, па якой некалі, прабягалі ў мітусні, абшукваючы дом, салдаты з насадачнымі на штыкі сальнымі свечкамі ў ноч на 15 снежня 1825 года, пасля няўдалага паўстання на Сенацкай плошчы,— цяпер вісіць на правым баку адсечаная рэйка на тоўстым дроце і побач металічны прэнт — біла. Гэта па выпадак хімічнае трывогі. На верхняй пляцоўцы цёмна: гараць сінія лямпкі. Ішоў па калідоры амаль упоцемку і адчуваў штосьці падобнае на пастаноўкі Меерхольда.

Жахлівае ўражанне зрабіла на мяне архівасховішча ІРЛІ. Я не пазнаў рабочых пакояў. Усё ў нейкім хаосе.

У першым, прахадным пакоі ззаду статуі Аляксандра Весялоўскага стаяць дзве саракавядзёрныя бочкі з вадою, адна з іх падцякае ўжо; усюды скрыні з пяском і рыдлёўкамі; па калідоры расцягнуты пажарны шланг. Каля пушкінскага пакоя скрыні пад архіўны матэрыял. Некаторыя пустыя, другія запоўненыя. Трэба аддаць справядлівасць — упакоўка пушкінскіх рукапісаў ідэальная... Але многа нервовасці, мітусні! Адразу ж каля скрыняў адзін з супрацоўнікаў дыктуе машыністцы артыкул пра фашызм. Нехта піша вопісы таго, што мусіць быць укладзена ў скрыпі. Пад нагамі пясок, вадзяныя плямы ад расцягнутага па падлозе пажарнага рукава, відавочна, пакінутага для прасушкі ці пакладзенага там дзеля нейкай засцерагальнай патрэбы. Усюды, як у службовых памяшканнях Архіва, так і на лесвіцах Музея, штурхаюцца людзі, нясуць мяшэчкі з пяском... Каля дзвярэй у чытальную залу прыціснуліся два бюсты пісьменнікаў. Іх аднекуль у спешцы знялі і паставілі па падлозе. Загадчык Гарадзецкі вельмі многа зрабіў, каб захаваць матэрыялы, але і перабольшыў. Успенская, дачка пісьменніка і супрацоўніца Літаратурнага архіва, сказала мне, паказваючы на развал: «Бадай што, і перастараліся...»

Сам Гарадзецкі стаміўся да знямогі. Ён трэцюю ці чацвёртую ноч не спіць: увесь час у Архіве, хвалюецца, змагаецца з адміністрацыяй. У выніку зусім змардаваны. «Абавязкова кіну, як толькі выканаю свой абавязак. Ні за што не застануся загадваць Архівам. Мяне не разумеюць, і адміністрацыя папракае за надта вялікія клопаты пра архіўныя матэрыялы, за настойлівасць...»

Помнік Пятру Вялікаму абкладваюць мяшкамі з пяском.

У Румянцаўскім скверы закончаны траншэі ці зямлянкі.

Сфінксы яшчэ стаяць. Ім ні да чаго няма справы, як заўсёды!

Ніяк не зразумею — ці гэта шум у сваіх вушах ці шум прапелераў чую. Ціха, злавесна ціха... І вось некалі прыйдзе час — і такую цішыню будзе разрываць страшэнны трэск. Пачнуцца пажары. Пад ударамі фугасных бомбаў ператворацца ў руіны вялізныя дамы... Раненыя... Забітыя... Звар'яцелыя... Засыпаныя абломкамі зажыва. Усё гэта давядзецца перажыць, і, можа, зусім у недалёкай будучыні. Калі думаць увесь час пра гэта, трэба страціць прытомнасць; у лепшым выпадку згубіць Жыццяздольнасць і зрабіцца нікчэмным чалавекам. Спадзяюся, са мною гэтага не здарыцца. У мяне дастаткова яшчэ волі да жыцця.

***1941.VII.3.*** Дванаццаты дзень. Тыя, хто чуў прамову самога Сталіна, перадаюць, што было вельмі кепска чуваць і многія мясціны прамовы яны не зразумелі. Мой шафёр слухаў гэтую прамову і заўважыў, што надта моцна выдзяляўся акцэнт і былі паўзы, у час якіх было чуваць булькаценне вады, што налівалася ў шклянку...

Акадэмік С. І. Вавілаў, які размаўляў са мною, вельмі цвяроза глядзіць на рэчы. За Ленінград ён спакойны. Абмеркавалі з ім усе пытанні па гісторыі Акадэміі навук і іншых працах. Работу камісіі па гісторыі Акадэміі навук мы працягваем.

Смяротэльная барацьба... Адступаючы, нічога не пакідаць ворагу,— такі лозунг у прамове Сталіна.

***1941.VII.5.*** Чатырнаццаты дзень. Жонка ўсю раніцу прыбірала гарышча, насіла на двор дошкі і ўсякія транты. Чаго толькі не скінулі з гарышчаў, засмечаных больш чым за сто гадоў. (Наш дом капітальна перабудоўваўся за 6 гадоў перад першай Айчыннай вайною, гэта значыць, у 1806 г.). Ніяк не можам арганізаваць дастатковай і паў-

нацэннай пажарнай аховы на нашай лесвіцы № 3. Магчыма, зацікавяцца калі-небудзь вось гэтым невялікім дакументам, што складзены таварыскім і мілым сямідзесяцітрохгадовым дзядком, былым інжынерам Снітко, які жыве ў кватэры акад. Крачкоўскага: «Спіс жыхароў дома № 2 па 7-й лініі Васільеўскага вострава, па лесвіцы № 3 (кв. №№ 1, 2, 3, 4, 6, 29)»*.

...Пра што я, гуманіст, цяпер мару? Вось пра што (гл. ілюстрацыю, выразаную з газеты): «У адказ на пагрозу германскага нападу насельніцтва Лондана паставіла каля аднаго з разбураных бамбардзіроўкай дамоў шыбеніцу з надпісам: «Угатавана Гітлеру».

Але не адразу павесіць, а спачатку судзіць. Запрасіць ад кожнай разбуранай Гітлерам краіны прадстаўнікоў: мужчыну і жанчыну з асабліва моцна пацярпелых мясцовасцей у якасці прысяжных засядацеляў. Сабраць дакументы і ўзорчыкі з неабсяжнай колькасці «рэчавых доказаў» лютай жорсткасці Гітлера і гітлераўцаў. Стварыць з гэтых «рэліквій» музей у навуку нашчадкам, паказаць будучаму чалавецтву «музей» жахаў і пакут, прычыненых людзям жорсткім заваёўнікам. Сабраць у гэтым «музеі» і папярэднікаў Гітлера — сусветных забойцаў і грабежнікаў, удачлівых і няўдачлівых, накшталт Напалеона і Вільгельма, Тамерлана і Атылы і рознай іншай нечысці так званай сусветнай гісторыі чалавецтва, дакладней, гісторыі чалавечага грамадства... Бадай што, нават не сярод гэтага зборышча «вялікіх», а проста ў шэрагу смуродных паганцаў, як Каін, Ірад, Юда, месца Гітлера. Агіднае імя ва ўсім свеце. Смуроднае імя».

І спіс жыхароў-суседзяў, які прыводзіць Г. А. Князеў, дзе эпічна, на роўных суседнічаюць імёны выдатных (арабіста Крачкоўскага, кітаіста Аляксеева) і невядомых «хатніх» (удоў і родных акадэмікаў, пенсіянераў, хатніх гаспадынь, школьнікаў: усе людзі, усе роўныя перад трагедыяй, што насоўваецца), і падрабязнасці таго, што адбывалася ў архіве Інстытута літаратуры — усё пранізана адчуваннем гістарычнай значнасці падзей. Каштоўнае пачуццё, натуральнае для аўтара-гісторыка, але, на жаль, не настолькі ўжо распаўсюджанае. Падрабязнасці жыцця, побыту, нават значных падзей цяпер не запісваюцца, не

* Спіс доўгі, з эканоміі месца мы яго апускаем.

фіксуюцца так, як гэта было, скажам, у XIX стагоддзі. Мы, напрыклад, куды лепш уяўляем сабе дэталі, падзеі, абставіны, круг чытання, густы, мэблю, ежу, касцюмы і да т. п. у дваццатыя гады XIX стагоддзя ў Расіі, чым усё гэта праз сто гадоў у дваццатыя гады XX стагоддзя. Мы нібыта перакладваем абавязкі летапісца і бытапісца на газеты, кіно, журналістыку. Надзеі гэтыя часта застаюцца няздзейсненымі.

Мы хацелі ілюстраваць «Блакадную кнігу» фатаграфіямі. Мы адправіліся ў архіў ТАСС, каб знайсці фатаграфіі заводаў і фабрык часоў блакады. Мы ведалі, як гэта было: разбітыя снарадамі цэхі, змардаваныя, ледзь жывыя людзі, што прывязвалі сябе да станкоў, каб не ўпасці. Мы перабіралі тысячы фатаграфій, зробленых рэпарцёрамі ў тыя гады. Мы бачылі за станкамі людзей, рабочых — мужчын, жанчын, суровых ці лагодных, але нязменна бадзёрых. І зусім няшмат прыкмет голаду, пакут,— хоць цяпер друкуй іх у газеце. Мала знайшлося здымкаў, якія паказалі б, што тварылася на фабрыках і заводах, як цяжка было працаваць, якія цяжкія былі ўмовы.

Спачатку нас гэта абурыла: упрыгожванне, фальсіфікацыя... але, распытаўшы фотакарэспандэнтаў тых гадоў, мы пераканаліся, што тут адбывалася іншае: гэта была тая баявая задача, якую яны і выконвалі ў сорак другім — сорак трэцім гадах, лічачы сваім абавязкам паказаць, як, нягледзячы на блакаду, голад, холад, абстрэлы, людзі працягваюць працаваць і выконваць свой абавязак. Са сваёю задачаю фотажурналісты блакаднага горада бліскуча справіліся. Яны былі журналісты, а не мастакі. Тыя думалі б інакш: пра тое, каб пакінуць для гісторыі каштоўныя кадры побыту, гераізму ленінградцаў.

Ні ў адных успамінах пра блакаду не захавалася тэкстаў аб'яў аб продажы, абмене, паслугах, якімі тады стракацеў горад. Вядома, як багата іх было, якія сярод іх былі незвычайныя, характэрныя, самі ж тэксты забыліся. Ні ў каго не трапілася нам падрабязных апісанняў блакаднага рынку альбо першых гітлераўскіх ваеннапалонных, якіх правялі па вуліцах горада. Вось чаму такія дарагія падрабязнасці жыцця, якія старанна заносіць у свой дзённік Г. А. Князеў.

*«1941.VII.7.* Шаснаццаты дзень. Напружаны дзень. Чатыры разы аб'яўлялася паветраная трывога. Страляніны не чулі. Учора, кажуць, з'явіліся над горадм адзінкавыя варожыя аэрапланы. Але трывогі не аб'яўлялася. Усе пе-

радаюць, што быў збіты ў ваколіцах Ленінграда варожы самалёт, які, упаўшы, згарэў.

Ісакій: са сваім грандыёзным пазалочаным купалам, бачны за многія дзесяткі кіламетраў, як стометровай вышыні маяк, губляе свой эфектны выгляд. Пазалочаны асноўны купал і іншыя малыя пазалочаныя купалы пакрываюцца нейкай шэрай масаю.

Медны коннік усё яшчэ не абкладзены мяхамі; таксама зусім не абкладзены сфінксы. Але вось Пётр Растрэлевай працы, які стаяў перад Інжынерным замкам з надпісам «Прадзеду праўнук», зняты. Застаўся адзін пусты п'едэстал.

Трэцяга дня эвакуіраваліся дзеці. Цяпер мяркуюць эвакуіраваць не толькі дзяцей, але ж і дарослых, якія могуць суправаджаць сваіх дзяцей.

Усе галоўныя каштоўнасці Эрмітажа эвакуіраваны ў невядомым кірунку. Сёння ў мяне быў акад. С. І. Вавілаў. Вырашылі далучыць да другога эрмітажнага эшалона і нашы архіўныя каштоўнасці. Некаторыя мы ўжо і перадалі: мазаічныя партрэты Пятра ламаносаўскае працы, два планы Пецярбурга XVIII стагоддзя (Леблона і Махаева) і пазалочаны каўчэг, у якім захоўваўся ў Акадэміі навук Наказ Кацярыны II, пісаны ёю самой.

Няма слоў, каб апісаць мой настрой, калі здымалі са сцяны мазаічны партрэт заснавальніка Акадэміі навук Пятра I, які я ахоўваў з такой любоўю і клапатлівасцю; калі выносілі пазалочаны каўчэг топкай работы майстра XVIII стагоддзя; калі агалялася і разбуралася сховішча, якому я аддаў столькі сіл і любові. Эрмітажныя рабочыя асцярожна знялі партрэт са сцяны і панеслі яго па аўтамабіль. Я праводзіў іх, не ўтаю, вельмі расхваляваны. Я ясна ўсведамляў, што больш іх не ўбачу. Я будаваў як мог архіў і музей гісторыі адной дзялянкі вялікай рускай культуры — Акадэміі павук. Вайна парушыла парадак і агаліла' тыя месцы, дзе так клапатліва захоўвалі гэтыя помнікі.

Спярша мы гаварылі пра надзейнае захоўванне на месцы, цяпер, у сувязі з падзеямі на фронце, клапоцімся пра эвакуацыю; думаю, што эвакуацыя разам з Эрмітажам будзе справа больш надзейная... Ало баліць сэрца. Прыйшоў дамоў зусім разбіты.

***1941.VII.13.*** Дваццаць другі, дзень. Не дачакаўся аўтамабіля і чатыры гадзіны прастаяў і прасядзеў пад калонамі нашага акадэмічнага дома. На адлегласці якіх-небудзь

некалькі сот метраў (да кіламетра) па радыусе раскінуліся перада мною: Нява, мост, сфінксы, Акадэмія мастацтваў, Ісакій, Адміралцейская ігла, помнік Пятру (схаваны ў дашчаным футарале), будынак былога Сената, старыя дамы на набярэжнай, удалечыні Зімні, адразу каля моста б. дом Румянцава з яго славутым музеем, колішняя Англійская набярэжная, на захадзе — Новае Адміралцейства, на правым беразе Нявы — Балтыйскі завод, Горны інстытут, Марское вучылішча, б. Кіеўскае падвор'е, старыя прамыя лініі Васільеўскага вострава, караблі каля прычалаў, высокія магутныя краны каля берагоў, дзе Нява заварочваецца мысам Васільеўскага вострава. Гэта мой горад, прыгажосцю якога вось з гэтага былога Мікалаеўскага моста захапляўся яшчэ Дастаеўскі, вось гэту Сенацкую плошчу і адкрыты адтуль від на стрэлку Васільеўскага вострава з Акадэміяй навук і Пушкінскім Домам усхваляў Блок, вось гэты горды помнік Пятру I, Медны коннік, і Няву апяваў Пушкін; вось гэтыя сфінксы, што хвалявалі многіх паэтаў, вучоных, якія праходзілі паўз іх. Цудоўны горад!.. I няўжо яму пагражае небяспека быць занятым ворагам? Не, не, не!..

Чатыры гадзіны я любаваўся дзівоснай панарамаю свайго роднага горада. Нікуды я з яго не паеду. Калі здарыцца няшчасце, няхай лепш вось тут, дзе-небудзь на набярэжнай ці ў водах глыбокай Нявы, загіну... Але наш горад, я цвёрда веру ў гэта, не трапіць у рукі ворага!

***1941.VII.15.*** Дваццаць чацвёрты дзень. Сёння адправілі з Архіва ў Эрмітаж найвялікшыя нашы каштоўнасці — рукапісы Ламаносава, Кеплера, малюнкі Кунсткамеры і да т. п. Яны будуць адпраўлены з другім эрмітажным эшалонам у надзейнае месца. Якое? Нам невядома.

Усяго закапалі 30 скрыняў. Прынялі ўсе меры супраць вільгаці і пранікнення пылу (руберойд, цэлафан, цырата, папкі, папера). Працавалі ўсім складам Архіва па працягу 2-х тыдняў. На ўсе матэрыялы склалі вопісы — асобна на кожную скрынку. Скрынкі перавязалі дротам і запламбіравалі.

Праводзіў ад брамы да Набярэжнай грузавік са скрынкамі. Так праводзяць некага роднага: сына, дачку, жонку... Доўга глядзеў, як павольна грузавік (я прасіў шафёра быць асцярожным) рухаўся па Дварцовым мосце... Асірацелы вярнуўся ў Архіў...

Уводзяцца прадуктовыя картачкі. Прапанавала заўтра да 10 гадзін скласці спісы. Праводзіцца гэта вельмі спеш-

на. Само насельніцтва толькі вітае гэта новае ці, дакладней, старое ўвядзенне.

Прапанавана ўсе даведнікі, планы Ленінграда-Пецярбурга здаць у спецчастку.

***1941.VII.16 і 17.*** Дваццаць пяты і дваццаць шосты дні... Даносяцца чуткі пра крайнюю няўзгодненасць, неарганізаванасць. Гэта мяне палохае. Чым страшныя немцы? Менавіта сваёй выключнаю арганізаванасцю, дакладнасцю, зладжанасцю дзеянняў...

З эвакуіраванымі дзецьмі кепска... Маці едуць за сваімі дзецьмі. Я адпусціў Т. К. Арбелі, якая служыць у нас машыністкаю, у Баравічы па сваіх дзвюх дачок 9 і 12 гадоў».

## ПЕРШАЯ ЭВАКУАЦЫЯ ДЗЯЦЕЙ

Мы запісалі нямала апавяданняў пра эвакуацыю дзяцей, першую і наступныя. Г. А. Князеў добрасумленна падкрэслівае, што радыус яго назіранняў малы. За яго межы ён выходзіць асцярожна, каб не збіцца на чуткі: Князеў па першай сусветнай вайне ведае, як многа гэтага дабра ў цяжкія часы. Пра гэта, дарэчы, папярэджвае і народны вопыт: «У голад намруцца, а ў вайну налгуцца».

Дзе можна і дзе гэта дарэчы, будзем пашыраць малы радыус Г. А. Князева з дапамогаю дадатковых дакументаў — дзённікаў, расказаў, успамінаў іншых ленінградцаў.

М а р ы я  В а с і л ь е ў н а  М а т к о ў с к а я якраз займалася ў тыя дні эвакуацыяй дзяцей. Памятае падзеі ва ўсіх падрабязнасцях. Немаладая ўжо жанчына, яна і дагэтуль цяжка перажывае, што так усё атрымалася...

«— Цяпер мы разумеем, што ехалі мы насустрач немцам, а тады ніхто гэтага не разумеў. Што вы! Раён вельмі добры, глыбінны раён. І я была прызначана ўпаўнаважанаю райвыканкома па вывазу дзяцей у Ноўгарадскую вобласць, канкрэтна ў Дзямянск. І прама туды мы і прыехалі. У мяне было дзве легкавыя машыны і адна грузавая. Са мною паслалі двух таварышаў адказных, і мы паехалі.

— А кім вы працавалі?

— Я загадвала ў гэты час раённым аддзелам народнай

асветы Кіраўскага раёна, членам выканкома была. Вось таму мяне і накіравалі. У мяне быў вельмі добры намеснік, Анатолій Іванавіч Тадорскі, які павінен быў адпраўляць, а я — як след размяшчаць дзяцей. І вось я... Не ведаю, ці варта пра гэта гаварыць?

— Гаварыце, калі ласка.

— Атрымалася так. Мы прыехалі туды... Трэба вам сказаць, што Дзямянск, як кажуць, падняў увесь раён, каб сустракалі ленінградскіх дзяцей... Мы памецілі, дзе будзе якая школа размешчана, усё такое. А праз некалькі дзён атрымалі распараджэнне тэрмінова зноў эвакуіраваць дзяцей.

— А вы ўжо і дзяцей завезлі?

— Так, дзяцей размясцілі. Але яны толькі дзве-тры ночы там пераначавалі: паступіў загад аб рээвакуацыі. Ды і мы ўжо адчувалі, што рухаецца, хутка рухаецца немец.

— А многа дзяцей з вамі было?

— Многа, вельмі многа.

— Некалькі сот?

— Дзе там сот — больш! Зараз ужо не скажу колькі. Увогуле з Кіраўскага раёна было каля шасці тысяч эвакуіравана, але частка потым была адпраўлена ў Яраслаўскую вобласць. Вось так, значыць, рээвакуацыя. Разумееце, якая гісторыя? Былі ў нас і яслі. Мы яслі таксама вывозілі, і амаль без адпачынку ім таксама трэба было ехаць. А тут ужо, ведаеце, немец падступаў (Дзямяпск у сарака кіламетрах ад чыгуначнае станцыі Лычкова). Немцы там скінулі надзвычай вялікі дэсант, і мы аказаліся адрэзанымі. Потым тут былі знішчальныя атрады арганізаваны і дэсанты ўсе рассеялі. Ну вось, мы пачалі дзяцей рээвакуіраваць.

— На чым вы вярталіся?

— Ой! Хто на чым мог. Тут нам армія моцна памагла. Ваенныя машыны пачалі вывозіць дзяцей. Я нават памятаю такую дэталь: еду, гляджу — на абочыне стаіць аўтобус, значыць, нашых дзяцей вязуць. Я выскачыла. Чаго ж яны стаяць? Трэба ж хутчэй вывозіць! Падыходжу: шафёр ляжыць на зямлі, спіць. Я падышла да яго, кажу: «Таварыш!» А ён кажа: «Ну, цяпер я магу ехаць. Я ш чатыры ночы не спаў. Я трохі адпачыў і паеду. А так я баяўся далей ехаць». Памятаю — добры быў дзень, цудоўны дзень. І пачалася бамбёжка ў Лычкове, на чыгуначнай станцыі. У гэты час у Лычкове былі дзеці Дзяржынскага

раёна. Яны былі яшчэ далей, чым нашы,— у Малаасьмінскім раёне. Дзе дзеці? Я ўскочыла ў нейкі вялікі дом, таму што ведала, што дзяцей заўсёды ў добрых дамах размяшчалі. Сядзіць выхавацельцы. Каля яе дзеці. Колькі іх! І вось як бомба разарвецца, яны крычаць: «Мама! Мама! Мама!» Жахліва! Я першы раз у жыцці схлусіла дзецям: «Не бойцеся! Не бойцеся! Гэта нашы!» Сама выйшла на ганак. Вы ведаеце, ён лётае так нізка, паглядзіць, пацісне, і бомба адразу разрываецца. Потым казалі, што яны не ведалі. Глупства! Выдатна ведалі і, канечне, выдатна бачылі. Справа ў тым, што Дзяржынскі раён ужо грузілі ў эшалон у гэты час, і ён бамбіў дзяцей на вакзале. Цудоўнае надвор'е. Дзеці добра адзетыя. Ён выдатна бачыў, каго бамбіць... Ну, пасля, калі мы ўжо ўсіх з Лычкова адправілі, я кажу: усё-такі паеду ў Дзямянск, таму што я мушу праверыць, ці ўсіх мы вывезлі.

Прыехалі туды. Усе сельсаветы абзванілі: засталіся толькі параненыя. І вось, як цяпер памятаю, ідзём мы з Васіліем Якаўлевічам у бальніцу, дзе ляжаць нашы дзеці, ідзём, а тут вядуць немцаў палонных (там, напэўна, некалькі дэсантаў было). Кажу: «Чорт вазьмі вас! Пачакайце, пачакайце, прыйдзе час, калі пашы лётчыкі таксама будуць вашых дзяцей забіваць!» Васілій Якаўлевіч мне кажа: «Што ты, Марыя Васільеўна! Хіба будуць пашы лётчыкі дзяцей забіваць? Гэта яны толькі вось так забіваюць». Пачалі адпраўляць параненых дзяцей. Мы іх адправілі ў Ленінград добра: з урачамі, з медыцынскімі сёстрамі. А самі мы ў Кіраўскую вобласць паехалі. Тут мне на дапамогу Ленінград прыслаў майго намесніка. Ён прыехаў памагаць таму, што з роднымі, з бацькамі рабілася штосьці страшнае! Дзіва што! Што ж можа быць даражэй за дзіця?!

Не даехалі да станцыі Кацельніч — прыйшоў у поезд начальнік станцыі, кажа: «Тут едзе ўпаўнаважаны Кіраўскага выканкома?» Я кажу: «Так».— «Ведаеце, перадалі з Кірава і рэкамендавалі вам не выходзіць у Кацельшчык Я кажу: «Чаму?» — «Там вас натоўп бацькоў чакае!..» Вы разумееце, у чым справа? Бацькі прыехалі ў Кацельніч услед за намі. Разумееце? Анатолій Іванавіч, мой памочнік, кажа: «Марыя Васільеўна, не выходзь! Давай я выйду!» — «Ты што? Маё сумленне чыстае. Я выйду сама. Ты мне нават не кажы пра гэта!»... Ну, прыехалі ў Кацельніч. Я памятаю, у мяне такое светлае паліто было, ведаеце. Іду я, і жанчыны — а! а! — пачынаецца шум. Ну,

бачаць, што я спакойная. Я кажу: «Ведаеце што, таварышы, калі так будзеце сябе паводзіць, мы нічога не разбяром. Пытайце, што каго хвалюе, я вам на ўсё адкажу, таму што ўсіх дзяцей вывезлі, апрача тых, каго параніла».— «Тых дык мы сустрэлі, тых дык мы бачылі»,— гэта яны кажуць. Я кажу бацькам: «Перш за ўсё вам скажу: літаральна ўсіх мы вывезлі. Вось не магу толькі сказаць пра адну дзяўчынку, пра Бялову...» Пасля яны мяне пра асобных дзяцей пачалі ўжо распытваць. І я не магу сказаць, дзе адна дзяўчынка. Разумееце! Мы ўзялі спісы, усе перакапалі — няма! Я кажу: «Пачакайце, усё роўна я яе знайду!» І што мне запомнілася: я ў светлым паліто. Там шпалы. Я прама села ў гэтым светлым паліто! А жанчыны: «Устань, устань! Што ты села? Паліто ж запэцкаеш!» Я, значыць, бачу, што настрой ужо другі. Ну добра. Я там два дні прабыла, у Кацельнічы, усё гэту дзяўчынку маленькую шукала. Яна аказалася ў тым самым інтэрнаце, але пад іншым прозвішчам. Я мацеры яе кажу: «Вунь ідзі туды, там твая дачка...» Пасля я паехала ў Кіраў, і там мы пачалі ўжо жыць.

— Скажыце, які лёс гэтых дзяцей? Іх некуды далей па ўсход вывезлі?

— Не, навошта? Большая частка засталася ў Кіраўскай вобласці, але туды быў не толькі наш раён эвакуіраваны, там было каля шасцідзесяці тысяч эвакуіраваных дзяцей»,

Але многія хутка ўсё-такі вярнуліся ў Ленінград.

Вярнулася ў Ленінград і Аляксандра Міхайлаўна Арсеньева са сваёю дачкою.

« — Калі мы вярнуліся ў Ленінград, дык нас пыталіся: «Бежанцы, вы адкуль? (Прычым, я ленінградка карэнная, у мяне і дзед ленінградзец). Вы адкуль, бежанцы?» І толькі касірка з нашага магазіна пазнала нас і кажа: «Ой! Ды гэта ж суседзі нашы, гэта ж з гэтага дома, я іх добра ведала!»

— Гэта вы вярнуліся такімі не падобнымі на сябе?

— Мы выйшлі з вагона хто ў паліто, хто ў халаціку. Мы вельмі доўга ехалі да Мгі, нешта каля трох сутак. Калі пачаўся абстрэл уздоўж вагонаў, адразу былі раненыя і забітыя. Мы дзяцей — пад лаўкі, матрацы на іх клалі, закрывалі матрацамі, самі кідаліся на іх.

— У вагонах?

— У вагонах. Бомба трапіла ў паравоз... Усё-такі нам

удалося, калі было зацішша, выбрацца з вагона. Ужо цямнела. Станцыя гарэла. Нікога не знайсці. Гэта быў нейкі жах! Начальнік эвакапоезда сядзеў на пні і трымаў галаву вось так — абхапіўшы рукамі. Ён страціў сям'ю і не ведаў, хто дзе... Як толькі пачынаўся дзесьці абстрэл, нейкі гук — мы адразу тут жа ў канаву, дзяцей вось так, носам у зямлю, і самі на іх. І коўдры накідвалі. Пасля, калі мы ўставалі, дзеці ўсё роўна ўжо самі нацягвалі на галовы. Вось так яны закрываліся гэтымі коўдрамі. Потым, значыць, мы ўбачылі, што рухаецца нешта — усё ў елках і рухаецца. Усё закрыта. У адных дзвярах стаіць салдат і кажа: «Дзяўчына! Дай мне гэты матрацік. У мяне раненых тут поўны вагон». Я даю яму матрацік і кідаю дачку.

— Туды? У вагон?

— Так! Кідаю дачку і кажу: «Давязі!» І сама хачу сесці. Але колы пакаціліся. А дачка ўжо ў вагоне! Раптам бачу — колы спыніліся! Я бягом. Дагнала, Кажу: «Вазьмі мяне!» А ён: «Не магу! Не магу! У мяне плюнуць няма Дзе. Запалку запаліць нельга. Раненыя стогнуць». Я кажу: «Слухай! У мяне для раненых ёсць бутэлька віна. І ў рукзаку сёе-тое». (Рукзак у мяне вялікі.) Ён кажа: «Ну давай сюды!» Кінула я мяшок і сама зачапілася. Ён мяне, не ведаю як, за спіну і ўцягнуў у вагон. Пасля з гэтага рукзака я ўсё аддала раненым. І разынкі мае пайшлі па руках, і віно пайшло па руках. Усе стагналі. Я зняла з сябе паліто, таму што яны мерзлі, раненыя. А калі па Сартавальнай нам трэба было разгрузіць раненых, аказалася, што маё паліто ўсё ў крыві. І я засталася ў адной сукеначцы, а холад быў сабачы!

— Гэта верасень?

— Гэта было трыццатага верасня, ужо Мгу ўзялі. Прыехалі. Пачалі разгружаць раненых. Мне тут сказалі: «Дачка ўжо на вакзале, знойдзеш яе там». І я яе пасля знайшла. Яна пад калонаю сядзела па вакзале. Нехта ёй ватнік даў, ватнікам накрыў яе.

— Як вашу дачку звалі?

— Мая дачка — Яўгенія Парфір'еўна Строганава. Яна кіраўнік групы ў праектнай арганізацыі.

— Тады ёй было пяць гадоў?

— Так, пяць гадоў. Вось дачка, яна мяне сапраўды выратавала. Хто — каго, не ведаю. Вось так. Разумненькая, негаваркая. Пасля Мгі яна доўга не размаўляла ні з кім. І ў школу пайшла, па пяцёркі вучылася, а не размаўляе...»

Трэба было тэрмінова вывозіць дзяцей з раёнаў, што апынуліся ў небяспецы. Займаліся гэтым і ленінградскія арганізацыі, і мясцовыя ўлады, і самі мацяркі. Лідзія Ахапкіна таксама спрабавала вярнуць сына.

«Неяк пасля абстрэлу я пабегла з дачушкаю на руках па хлеб, трэба было паспець, пакуль сціхла. Перада мною стаяла жанчына гадоў 60—63, у акулярах, з выгляду інтэлігентная, і пачала гаварыць, што вось, маўляў, возьме хлеба на два дні наперад і паедзе па ўнука. Я спытала яе, куды быў адпраўлены яе ўнук. Яна адказала, што з 21-м дзіцячым садам (памятаю дакладна нумар), гэта значыць, туды, куды і мы адправілі свайго сыночка. Я, спярша нерашуча, пачала прасіць яе прывезці і майго. Яна пачала адмаўляцца, запэўнівала мяне, што дарогі бамбяць, што не дай бог нас заб'юць, і яна не хоча на душу браць грэх. Я з ёю, вядома, пагаджалася, але іншага чалавека ў мяне няма, і я за яе ўхапілася, у думках, канечне, і пачала яе так прасіць, умольваць, ад хвалявання я заплакала. Потым узяла яе рукі і пачала цалаваць. А сама ўсё кажу: ну, калі ласка, прашу вас, пашкадуйце яго і вось гэтае дзіця, што па руках. Як я з ім паеду, чым карміць, малю вас, зразумейце, памажыце, я ніколі не забуду вас — і да таго падобныя словы.

Яна згадзілася, нават сама крыху праслязілася. Яна спытала, колькі гадоў хлопчыку. Я сказала, што хутка будзе шэсць (схлусіла). Ён моцны, добра бегае і можа пешшу прайсці, калі трэба будзе, многа.

На наступны дзень трэба было праз райсавет узяць дакумент на зварот дзіцяці. Я думала, што гэта проста, але высветлілася — даволі цяжка. Калі я зноў, канечне, з дзяўчынкаю на руках прыехала ў Маскоўскі райсавет, там ужо сабраўся натоўп жанчын-маці. Усе яны былі расхваляваныя, шумелі, а некаторыя нават крычалі: «Вярніце нашых дзяцей! Няхай лепш яны з намі тут будуць, а памрэм, дык разам, хоць будзем ведаць, як і дзе». Мужчына, што выпісваў дакументы, супакойваў як мог, растлумачваў, што хацелі як лепш, і паспешліва выдаваў дакументы. Ён выпісаў мне даручэнне, якое я зрабіла на тую жанчыну. Адразу паехала да яе. Дала ёй увесь хлеб, што ў мяне быў, і крыху грошай. Яна ў гэты ж дзень паехала. А я з нецярплівасцю пачала чакаць іх вяртання.

Аднойчы я толькі што вярнулася з бамбасховішча пасля адбою трывогі стомленая, змучаная, адразу легла і заснула. Раптам прачнулася ад страшэннага артабстрэлу.

Юра Рабінкін, 1937



Старонка дзённіка Юры Рабінкіна



Старонка дзённіка Юры Рабінкіна

Дневник. 1941 год.
22 июня
Всю ночь мне не давало спать ка-
кое-то жужжанье за окном. Когда,
наконец, к утру оно немного за-
тихло, поднялась заря. Сейчас в
Ленинграде стоят лунные светлые
короткие ночи. Но когда я взгля-
нул в окно, я увидел, что небу хо-
дят несколько прожекторов.
Все-таки я заснул. Проснулся я
в одиннадцатом часу дня, вернее
утра. Наскоро оделся, умылся, поел
и пошел в сад Дворца пионеров. В
это лето я решил получить ква-
лификацию по шахматам. Как-никак
а я выигрываю часто даже у тре-
тьей категории.
Выйдя на улицу, я заметил что-то
особенное. У ворот нашего дома я
увидел дворника с противогазом и
красной повязкой на руке. У всех по-
дворотен было то же самое. Мили-
ционеры были с противогазами, и
даже на всех перекрестках говори-
ло радио. Что-то такое подсказало мне,
что по городу введено угрожаемое по-
ложение.
Придя во дворец, я застал только
двоих шахматистов. Вероятно, было
очень рано. Действительно, немного
позднее, пришло еще несколько чело-
век.
Расставив шахматы на доске, я
услышал что-то новое, обна-
деживающее. Я заметил кучку ребят,
столпившихся вокруг одного неболь-
шого паренька. Я прислушался и
замер...
— ...вчера в 4 часа ночи германские
бомбардировщики совершили на-
лет на Киев, Житомир, Севастополь
и еще куда-то, — с жаром говорил
паренек. — Молотов по радио высту-
пал. Т. . У нас война с Германией

Старонка дзённіка Юры Рабінкіна




13, 14, 15, 16, 17, 18, 19, 20, 21 августа

Произошло много перемен: Бима взята в армию, Бабушка возвращена в эвакопункте в Бокситогорске. Финкельштейн уезжает с семьей в г. ... уезжает в Кировскую область. Недавно немцы взяли Кингисепп. Вчера девушка немецких самолетов безнаказанно летала над Ленинградом, но бомб не сбросила. Со всей ясностью встает вопрос, что надо эвакуироваться. Но куда? Я хотел бы в Омск, мама хочет куда-то в Белоруссию, ... к Ленинграду. Поезда с Московского вокзала не ходят: ... Сегодня опубликовано обращение Ворошилова к населению Ленинграда. Говорится, что опасность велика. Новости идут одна другой хуже.

Чарніліца і ліст Юры Рабінкіна да цёткі Ціны

Альбом сям'і Рабінкіных





На другім паверсе вокны кватэры,
у якой жыў Юра





Я ўскочыла, спала я тады не распранаючыся, у сукенцы і панчохах. Схапіла Ніначку, рукзак, у якім было падрыхтавана самае неабходнае дзіцяці, дакументы і грошы. Выбегла з пакоя ў калідор. Вокны — шыбы — у мяне даўно ўжо былі разбітыя. А ў той момант ад выбуховай хвалі зляцелі дзверы з завесаў. Я выбегла на ганак і ўбачыла, што снарады ляцяць проста па нашай вуліцы і так нізка, прыкладна не вышэй тэлеграфных слупоў. Я не ведала, што мые рабіць, бегчы ў бамбасховішча я пабойвалася, таму што яны там лётаюць, бамбяць. Я так перапалохалася, што рукі і ногі ў мяне дрыжалі і аслаблі, і дачка пачала выпадаць з рук. Я села на ганак. Калені ў мяне хадзілі хадуном. Да мяне падбегла суседка і ўзяла дзіця. «Чаго ты тут сядзіш, супакойся, пойдзем у бамбасховішча,— гаварыла яна.— Глядзі, яны падаюць і разрываюцца крыху далей, вунь дзесьці каля карбюратарнага завода».

Раптам мы пачулі страшэнны выбух, і пайшоў чорны дым. Гэта снарад упаў дзесьці непадалёку, дзе стаялі цыстэрны з бензінам. Але бензін усё-такі паспелі вывезці, а пустыя, вялізныя, ледзь не з наш дом бакі засталіся, дык вось туды пацэліў снарад. Запахла гарам, гарэла зямля, набрынялая газаю і бензінам, патокі дыму і агню разыходзіліся ўсё далей і далей. І мы напалохаліся, каб пажар не дасягнуў да нашага дома. А бліжэйшыя дамы згарэлі. Неба было барвова-чорным з чырвона-жоўтымі сполахамі.

Я вярнулася дадому. Адзін сусед, стары дзядзька, павесіў мне дзверы, і я пачала варыць дачушцы рэдзенькую манную кашку на газніцы. Я вырашыла, як толькі мне прывязуць Таляшку, неадкладна куды-небудзь выехаць».

Прайшло два тыдні. Увесь гэты час Лідзія Георгіеўна жыла ў страшэнным напружанні і чаканні сына.

«Нарэшце гляджу неяк у акно і бачу, стаіць тая лейчына з двума хлопчыкамі. У адным я, канечне, пазнала свайго, хутчэй выбегла, схапіла яго, пачала цалаваць і дзякаваць той жанчыне. Яна стала расказваць, што дарога была вельмі цяжкай. Яны ехалі крыху на поездзе, калі бамбілі, выбягалі з вагонаў. Многа ішлі пешшу, ехалі на спадарожных грузавых машынах, на падводах і конях... Я падзякавала ёй. На наступны дзень я зноў паехала ў райсавет — па пасадачныя дакументы. Куды ехаць, я не ведала. Ды мне было ўсё роўна, толькі б выехаць з Ленінграда. Мне хацелася ў Саратаў, дзе жыла мая мама, але гэта цераз Маскву, а туды паязды не хадзілі. Быў гэта канец жніўня. Але мая паездка сарвалася, таму што я зноў

згубіла Толіка. Калі я пад’ехала да райсавета, каля яго дзвярэй было вельмі многа народу — больш жанчын, але былі і мужчыны. Усе яны хацелі выехаць і прыйшлі таксама па дакументы. Дзверы былі зачынены. Усе хвалявaліся, крычалі, стукалі ў дзверы. Я Толіка адвяла ўбок, каб не задушылі яго. Раптам абвяшчаюць паветраную трывогу. Дзверы адчынілі, мяне туды ўпіхнулі людзі, якія былі ззаду мяне. Я паспела крыкнуць: «Толік, бяжы хутчэй сюды!» — але пасля я агледзелася і яго не знайшла. Я прасіла адчыніць дзверы, але іх не адчынілі. Я пачала хутчэй афармляць дакументы, папрасілася без чаргі, растлумачыўшы, што ў мяне на вуліцы засталося дзіця. Хвалявалася страшэнна. Калі далі адбой паветранай трывогі, я выбегла на вуліцу, стала шукаць яго, крычаць: «Толя! Толя!» — але яго нідзе не было. Я пачала распытваць усіх, хто трапляўся: «Ці не бачылі хлопчыка, адзетага ў белую панамачку і сіняе паліто, такога каравокага, пяці гадоў?» Мне ўсе адказвалі: «Не, не». Я кінулася ў адзін бок, усё працягваю распытваць: «Ці не бачылі хлопчыка?» — пасля ў другі. Усе адказваюць: «Не, не». Дзе ён цяпер, божа? Што мне рабіць, куды бегчы? У такой мітусні, далёка ад нашага дома, ён жа згубіцца. Быццам наш адрас ён ведае, дык мог жа забыць, пераблытаць!

А па Міжнародным праспекце едуць танкі ў напрамку да Сярэдняй Рагаткі і ідуць строем салдаты. Многія апрануты па-вайсковаму, а многія ў цывільным. Яны ідуць па перадавую. За імі, праўдзівей, з імі ідуць па баках тыя, хто праводзіць, канечне, больш жанчыны. Некаторыя плачуць. А наперадзе — духавы аркестр.

Я падумала — ці не пабег мой сынок за імі? Я кінулася за імі, крычу ўвесь час: «Толя, Толя!» Дачка на руках у мяне плача. Напэўна, хацела есці і ўся мокрая. Дагнаўшы строй, я ішла побач, гляджу па баках і працягваю клікаць: «Толя, Толя!» Людзі і салдаты думаюць, што я клічу каго-небудзь з іх. Некаторыя азіраюцца. Я стамілася. Валасы ўскудлачыліся. Берэт, што быў на галаве, згубіўся. Бачу, што сына няма, я села на нейкі ганак і заплакала. Думаю: ну вось усё, значыць, мне заўтра не выехаць, значыць, мне наканавана застацца ў Ленінградзе. Да мяне падышла нейкая жанчына і спытала, чаго я плачу. Я ёй расказала, што згубіла хлопчыка, што заўтра зранку павінна выехаць. Яна мне параіла звярнуцца ў міліцыю, сказала, што там абавязкова памогуць. Калі я туды прыйшла і пачала гаварыць, міліцыянер не мог нічога зразу-

мецъ, таму што я гаварыла скрозь рыданні. Ён даў мне шклянку вады, каб я супакоілася. Калі я нарэшце супакоілася і растлумачыла, міліцыянер пачаў званіць у другія аддзяленні, паўтараючы, што згубіўся хлопчык, звацъ Толя, прывесці ў такое і такое аддзяленне. Я прачакала яго да 9 гадзін вечара. Дачка плакала, я яе ніяк не магла супакоіць. Мне прапанавалі ісці дадому, таму што без пропускаў пасля 9 гадзін не дазваляецца хадзіць. Я паехала дамоў.

Усю ноч, вядома, не магла заснуць. Ні пра які ад'езд я, канечне, ужо не думала. Наступнай раніцаю я паехала ў міліцыю. Толіка я адразу ўбачыла, ён сядзеў на акне. На шчоках размазаныя слёзы. Мы абое ўзрадаваліся, ён заплакаў, міліцыянер расказаў, што ён усё стараўся сесці па трамвай, ехаць дадому, казаў, што яго мама чакае. Сеў, кудысьці паехаў, але дзе выйсці, не ведаў. Сеў, вядома, не па той трамвай. Пасля пачаў плакаць. Яго нейкая жанчына адвяла да паставога міліцыянера, а той толькі тады, калі здаў пост, завёў яго ў аддзяленне, але ў другое, там ён і начаваў. І толькі раніцаю прывялі яго ў гэтае аддзяленне.

Было 10 гадз. 30 мін., а ехаць трэба было ў 8 гадзін раніцы. Мы ўжо спазніліся. Хадайнічаць зноў сёння ці заўтра я не магла. Гэты выпадак са згубаю сына і вырашыў, чаму я не выехала з Ленінграда».

Выпадак гэты вызначыў далейшы лёс Лідзіі Ахапкінай і яе дзяцей. Каб сын не згубіўся, каб не было ў той час трывогі, каб з міліцыі яго прывялі адразу, калі маці яшчэ чакала яго, дык яна з дзецьмі выехала б наступнай раніцаю, не засталася б у Ленінградзе і далей усё склалася б інакш. У думках яна часта вярталася да гэтага выпадку, ад якога вяла адлік павароту свайго лёсу.

## «МАЛЫ РАДЫУС» ГЕОРГІЯ АЛЯКСЕЕВІЧА КНЯЗЕВА

Але вернемся на «малы радыус» Князева — на набярэжную Нявы, па якой ён ездзіць на сваім «самакаце» з ручнымі рычагамі ад дому да Архіва,— усё тыя самыя восемсот метраў.

*«1941.VII.19.* Дваццаць восьмы дзень. Калі я сядзеў у садзе ў час трывогі, перада мною ў нязвыклым ракурсе сілуэціліся на фоне яснага ліпеньскага неба мае нязменныя спадарожнікі — сфінксы. Сонца адсвечвала ад іх бура-рыжых блішчастых спін... Колькі ў мяне з імі звязана думак, вобразаў у сувязі з мінулым і будучым... Я імгненны, яны амаль што вечныя. Нават калі побач з імі ўпадзе фугасная бомба, наўрад ці загінуць абодва сфінксы, адзін хоць з іх, напэўна, застанецца. І запіскі мае, і вершы мае за многія гады таксама цесна звязаны з неўскімі сфінксамі, з маімі думамі, з маёй трывогаю, з «прадчуваннем», ці «прагнозам» таго, што здарылася. Канкрэтна я не мог уявіць сабе, канечне, усіх падзей, але чорную ноч вялікай гуманістычнай культуры я прадбачыў. Наперадзе, удалечыні — зноў світанне, сонца. Але цяпер страшэнная, крывавая чорная ноч культуры... Сэрца абліваецца крывёю, калі падумаеш, што тое, што з такой цяжкасцю і гераізмам будаваў савецкі народ на працягу 23 гадоў, разбураецца цалкам. Страшэнная нянавісць ахоплівае пры адной толькі думцы пра заваёўнікаў, якія мараць падпарадкаваць сабе, як рабоў, усіх заваяваных. Рабамі заваёўнікаў мы не будзем!.. У нас ёсць свяшчэнная мэта — самаабарона ад разбойнікаў... Што нясуць у свет заваёўнікі? Панаванне касты «выбраных», гаспадароў «новага парадку»...

Я сядзеў у садзе, і гэтая перспектыва туманіла мой мозг. Я глядзеў на сфінксаў... «Вы ўсё бачылі, але такога жахлівага чалавечага няшчасця вам яшчэ не ўдавалася бачыць. Увесь свет гарыць! І на папялішчы старога свету страшэнныя морды, што авалодалі дасканалаю тэхнікаю шакалаў! Вы, сфінксы, стварaліся ў рабаўладальніцкім Егіпце. Але гэта было тры з паловаю тысячы гадоў назад... Няўжо вы зноў будзеце маўкліва стаяць сярод калісьці вольных людзей, што сталі рабамі?»

Так было прыемна чуць гарманічныя гукі адбою. Усе

выйшлі з земляных насыпаў і ўзяліся за сваю справу альбо пайшлі сваёй дарогаю...

***1941.VII.20*** Дваццаць дзевяты дзень. Патрэбна арганізацыя, самая строгая дысцыпліна. А ў нас гэтага мала! Не ўмелі мы яшчэ арганізавана і зладжана працаваць. Вучымся толькі ў ваенных умовах. Я дзе толькі магу стараюся ўвесці гэты настрой бадзёрасці. Але я ж толькі пясчынка ў неабсяжным людскім моры.

Настольная лямпа завешана з трох бакоў, каб святло падала толькі на стол і не асвятляла куткоў пакоя. Пішу гэтыя радкі і думаю: а хто ведае, можа, праз некалькі дзён ці праз некалькі гадзін ад усяго гэтага пісання нічога, апрача попелу, не застанецца. І ўсё-такі пішу. Стараюся перадаць тое, чаго другія не запішуць, нават дробязі, нават такія штрыхі, як тое, што жонка акадэміка Аляксеева сядзіць падчас свайго дзяжурства каля брамы ў капялюшыку і лайкавых пальчатках. Сёння ў Румянцаўскім скверы за столікамі я бачыў рабочых і служачых, якія прыходзілі туды гуляць. Усе тыя самыя твары, як і тры і пяць гадоў таму назад. Гуляюць, быццам бы нічога не здарылася; у час трывогі лезуць у траншэю. Па вуліцах ідуць прахожыя, шумяць трамваі, сноўдаюць хлапчукі. Асабліва яны аблепліваюць маіх любімцаў — сфінксаў. Залазяць на спіну, на галаву, тыкаюць палкамі ў вочы, у вушы акамянелага, некалі гордага ўладара. Каля сфінксаў — кучы прывезенага пяску. Яго зграбаюць жанчыны, дзяўчаты, падлеткі. Насыпаюць у аўтамабілі. Горад жыве напружаным дзелавым жыццём. Ніякай нервовасці, прыгнечанасці не заўважаецца. Рух транспарту толькі рэзка скараціўся. Затое асобныя ваенныя машыны праносяцца з неверагоднай хуткасцю і не вельмі клапоцяцца аб правілах руху. На ручным самакаце я таму аддаю перавагу яздзе па тратуары з хуткасцю, якая не перавышае чалавечае хады.

Разгаварыліся з камендантам нашага дома. «Сумна,— сказаў ён,— што ваююць на нашай тэрыторыі... Шмат разбурэнняў. Чаму без бою здалі ўмацаванні старой дзяржаўнай граніцы?..» Я адказаць нічога не мог. Мы вельмі мала інфармаваны. Я так і не ведаю, ці блізка, ці далёка немцы. Ёсць сур’ёзная пагроза Ленінграду ці няма?

У цудоўны летні дзень такі шматлюдны Ленінград. Вечарам на набярэжнай шмат адпачываючых людзей. Пад Ленінградам гарыць торф, і над горадам стаіць дымок. Проста не верыцца, што ў нас вайна: усе спакойныя, хаця б

знешне. Каля сфінксаў — цэлае гулянне дарослых і малых. Тут жа, нягледзячы на вечар, хлапчукі купаюцца. Мы пакуль но бачылі ні раненых, ні бежанцаў. Куды ж накіраваны паток жыхароў Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, Літвы, Латвіі?..

Глядзеў на маці з дзіцем — дворнічыху. Такая мірная ідылія, але яна з процівагазам. Яна гуляе з дзіцем, а сама пазірае на неба — ці не ляцяць? І колькі такіх маці страцілі дзяцей, дом, жыццё!

Я не здымаю са стала чорта з яго зласліваю ўсмешкаю. Як ён нахабна глядзіць на мяне і быццам бы цэдзіць: «Ну што, гуманны гуманіст, дачакаўся над старасць «дакументаў прагрэсу»?.. Наіўны бязглузды летуценнік! Не мір, а вайна — закон усяго жывога...»

І мне робіцца нясцерпна душна. Не муч мяне, д’ябле, і без гэтага змучаны мой мозг.

Не менш нацысцкае заразы я баюся і шавіністычнага чаду. Вайна для нас свяшчэнная як абарона ад сцярвятнікаў, што наляцелі на нас, але не як вайна дзеля панавання аднаго народа над другім. Тут узнікае пытанне пра сапраўдную віну германскага народа, які прынёс гэтулькі пакут чалавецтву. Што зрабіў бы Гітлер, калі б яго не падтрымала значная частка германскага народа? Пакутлівае пытанне...»

Гэта піша «пасіўны абаронца Ленінграда» —чалавек, які ўсё-такі не страляе па ворагу. І па якім (пакуль яшчэ) таксама не страляюць. Толькі «гул прапелераў» — рэальны ці толькі ад нервовага напружання — вісіць над ім.

Але вось перад намі нататкі чалавека, які страляе, знаходзіцца пад агнём — артылерыста Сяргея Герасімавіча Міляева, былога супрацоўніка Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына. Праз два гады ён загіне над Віцебскам, а пакуль сваёй батарэяй памагае ўтрымліваць Ленінград. У яго свой «малы радыус агляду», але гэта ўжо і радыус абстрэлу — ён салдат. І таксама ленінградзец, таксама інтэлігент, і мучаць яго амаль тыя самыя пытанні, што і Князева:

«Дачытаў «Чырвонае і чорнае», перачытваў з вялікім задавальненнем. А зараз няма чаго чытаць. Канечне, сумна. Сяджу ж у абароне. Паколькі рабіць няма чаго, дык выпішу вельмі вядомае, найважнейшае месца з «Развіцця сацыялізму ад утопіі да навукі». Энгельс: «...і гэта будзе скачком чалавецтва з царства неабходнасці ў царства сва-

боды». Паколькі мне жыць яшчэ нядоўга (нават калі застануся пасля гэтае вайны), дык памру я ўсё-такі ў пераходны перыяд, і таму большая частка часу пойдзе зноўтакі на індывідуальную барацьбу за існаванне, выказваючыся моваю Энгельса. Як многа цудоўных дзён патрачана ў гэтай барацьбе!»

Ленінградзец-артылерыст Міляеў прачытаў урывак з папулярнага ў тыя дні твора і адразу запісвае:

«Мне здалося па ўрыўку, што аўтар абвяшчае тэзіс «класавай крыві» (і выпладкі ворага застануцца ворагамі). Чым гэта лепш за тэзіс пра «арыйскую кроў»?»

Не ў тым справа, правільна ці няправільна прачытаў рэч Сяргей Герасімавіч Міляеў. Важна іншае — жывучая і ў ім і ў Князеве насцярожанасць да найменшага спаўзання па пазіцыі шавінізму, якім і так быў атручаны свет.

Вось такімі былі яны, абаронцы Ленінграда, на пачатку вайны. Выявілася і ленінградская інтэлігентнасць, і настойлівае інтэрнацыянальнае выхаванне народа ў перадваенныя гады.

Дзённікі Г. А. Князева сведчаць: нялёгка было зноў і зноў утрымліваць у сабе высокае пачуццё братэрства. Справядлівая нянавісць да лютага ворага, які прынёс столькі гора, станавілася часам нязносна востраю. Але — знікалі наіўныя формулы, схемы, і ўсё-такі заставалася і нават узмацнялася свядомасць, што жорсткая барацьба, усе ахвяры і пакуты таму і апраўданы, што яны не дзеля панавання аднаго народа над другім, а ў імя будучыні без вайны, жорсткасці, дзеля жыцця, годнага чалавека.

Пісалася гэта ў першыя тыдні вайны, калі нянавісць да немцаў узрастала, калі мы, салдаты, нібыта вызваляліся з горыччу і болем ад даваенных ілюзій, ад надзеі на неадкладную інтэрнацыянальную дапамогу, на класавую свядомасць нямецкага рабочага класа. Пазней, намнога пазней мы занава вучыліся аддзяляць немцаў ад фашыстаў.

*«1941.VIII.10.* Пяцідзесяты дзень. Так усё мяняецца. Яшчэ год таму назад хвалілі Англію, яе марскую і сусветную магутнасць. Цяпер Англія — не труна, што плавае па марскіх хвалях. Англія пры дапамозе ЗША ўтрымлівае сваё панаванне па марах. І Англія не вораг, а саюзнік. Мы змагаемся разам з Англіяй супраць агульнага ворага — гітлераўскае Германіі. І якім анахранізмам з’яўляецца гэта карцінка з труною-караблём цяпер!

Колькі паваротаў перажыта за апошнія гады ў сусветнай палітыцы, непрадбачаных, нечаканых паваротаў. Нам, простым людзям, хоць і гісторыкам, цяжка разабрацца ва ўсім гэтым. Таму я не спрабую многа аналізаваць. Я толькі канстатую факты. У мінулым годзе мы і ўявіць сабе не маглі тое, што здарылася сёлета. Што ж прынясе нам наступны год? Камунізм жа чужы ліберальна-кансерватыўнай буржуазнай дэмакратыі Англіі, як і нацысцкай Германіі... Колькі тут закладзена супярэчнасцяў.

***1941.VIII.11.*** Пяцьдзесят першы дзень. Наш качагар Урманчэеў пайшоў у армію. Засталіся трое дзяцей і маладая, але някемлівая жонка... Толькі ён пайшоў, перажыўшы цяжкую сцэну расставання, здаўшы пад нашу апеку дзяцей і жонку, як мы даведаліся, што аб'яўлена абавязковая эвакуацыя дзяцей да 14 гадоў і іх маці. Бамбёжка Ленінграда непазбежна, і той, хто распаўсюджвае меркаванні, што немцы не будуць бамбіць Ленінград, зласлівы правакатар ці дурны балбатун. Дзеці і маці мусяць выехаць з Ленінграда ў абавязковым парадку. Вызначаны дзве чаргі. 15-га для непрацуючых маці, 23-га — для працуючых. Эвакуацыя мяркуецца на баржах. Маці ў адчаі. Што яны будуць рабіць, чым жыць у тых мясцінах, куды іх эвакуіруюць!

Да маёй калекцыі «дакументаў прагрэсу». Ілюстрацыя з «Огонька», 1941, VI, 11. Помнік англійскаму паэту Мільгану, разбураны бомбаю гітлераўскіх бандытаў. Гэта ў Англіі. Што разбурана ў гарадах Заходняй Украіны, Заходняй Беларусі, Літвы, мы здымкаў пакуль што не маем. Відаць, калекцыя склалася б вельмі грунтоўная.

З кожным днём усё мацней расце нянавісць да гвалтаўнікоў, што спустошваюць нашы землі, дамы, нацыянальныя каштоўнасці. Але не знікла яшчэ і міласэрнасць да ворага. Вось адзін з дакументаў. Ілюстрацыя. Палоннаму нямецкаму лётчыку Эрнсту Рэетцу аказваюць першую дапамогу доктар Е. І. Невіровіч і сястра В. П. Васільева.

***1941.VIII.14.*** Пяцьдзесят чацвёрты дзень. Сёння пакутліва клапатлівы дзень. Нешта нядобрае здарылася па фронце. Апоўдні стала вядома, што паў Смаленск. Гэтая вестка каменем паклалася на сэрца. Немцы дзесьці за Ільменем-возерам. Горад поўны ўсялякіх чутак. Асабліва ў нервовым стане жанчыны. Да апошніх дзён яны мацаваліся. Цяпер не вытрымлівалі нервы. Таму, чаму я так радаваўся — спакою, вытрымцы,— прыйшоў канец. Адной

жанчыне, якая не пажадала падвяргаць сваё дзіця ўсім выпрабаванням, у раённым Савеце адказалі: «Не хочаце выехаць арганізавана, пасля пешшу пойдзеце». Што ж гэта? Падрыхтоўка да эвакуацыі ўсяго насельніцтва, да здачы Ленінграда? Сёння нават стойкія людзі спужаліся.

Спрабаваў чытаць цяпер пачатую гісторыю чалавецтва, але не змог пераадолець стомленасці. Не давялося адпачыць сёння: такі ўжо дзень выдаўся. Збіраю ў сабе апошнія сілы, каб пераадолець усе цяжкасці. Лёс робіць мяне сведкам, дакладней, сучаснікам найвялікшых і надзвычайных падзей. Смаленск таксама паў у жніўні 1812 года. Барадзінскі бой быў 26 жніўня. У верасні Напалеон увайшоў у Маскву. Як жа цяпер разгорнуцца падзеі? І адкуль у немцаў гэтулькі сілы, гэтулькі д'ябальскай напорыстасці!»

## ПРА ТЫХ, ХТО БЫЎ ПОБАЧ

У дзённіках Г. А. Князева, натуральна, шмат запісаў пра людзей, якія жылі, працавалі побач з ім на яго «малым радыусе»,— пра жонку Марыю Фёдараўну, пра супрацоўнікаў архіва, пра жыхароў дому, супрацоўнікаў Акадэміі навук, універсітэта, Заалагічнага музея і г. д. Запісы гэтыя падрабязныя, падзённыя, дзе-нідзе прадузятыя (страсці і ацэнкі перадваенных гадоў не маглі не ўплываць на Князева), але паступова перад тварам смяртэльнай небяспекі, што навісла над радзімай, перажываючы як чалавек і гісторык сусветную драму, Георгій Аляксеевіч Князеў вызваляецца ад розных старых і новых памылковых поглядаў.

Дзелячыся са сваім дзённікам думкамі пра тых, «з кім не пераможаш» і «з кім пераможаш», апісваючы дзесяткі рэальных чалавечых тыпаў і лёсаў, Г. А. Князеў паступова стварае складаны вобраз блакадніка, як ён яго назіраў на сваім «малым радыусе». Сярод многіх — вобраз цудоўнай, самаадданай жанчыны Марыі Фёдараўны Князевай. Георгій Аляксеевіч і Марыя Фёдараўна сустрэліся ў маладосці, былі, што называецца, на роўных — і ён і яна рыхтаваліся да навуковай працы,— але паступова, абое такія незалежныя, з характарам, нібыта зліліся ў

адну істоту. Незвычайная духоўная энергія маленькай жанчыны-зыранкі сканцэнтравалася на каханым, скаваным хваробаю, але апантаным працаю чалавеку. Усведамленне таго, што яна пахавала сябе як работнік навукі, як вучоны, калі і ўзнікала, дык пераадольвалася іншым пачуццём, разуменнем: Георгій Аляксеевіч з яе дапамогаю робіць за дваіх, без яе ён не мог бы столькі рабіць.

«М. Ф. гаварыла мне: «Я люблю жыццё, прыроду. З дзяцінства люблю...» Яна цвёрда і гераічна перажывае гэтыя гарачыя дні. Як і я, да ўсяго гатова. Дзіўная, цудоўная жанчына! Няўжо нас лёс раздзеліць, прымусіць быць сведкамі няшчасця альбо смерці другога? Калі і паміраць ужо, дык хоць разам...»

У тыя дні хадзіла нямала розных чутак пра знаёмых людзей. Нялёгка было аддзяліць выдумку ад праўды. Г. А. Князеў імкнецца захоўваць максімальную сумленнасць у сваіх запісах. Папраўляе сам сябе, абвяргае, калі высвятляецца што-небудзь новае.

«Я не запісваю мноства недарэчных чутак. Мне не хацелася, каб у маіх запісах паведамлялася пад выглядам факта што-небудзь выдуманае».

Таму ён, напрыклад, абвяргае плётку пра вядомага літаратуразнаўцу, пра ўцёкі яго з Ленінграда, ды яшчэ на маторнай лодцы! Не, чалавек гэты ў Ленінградзе, Князеў бачыў яго і запісвае гэта, высветліўшы, што ён некуды выязджаў, і «гэта з'явілася прычынаю да гнюснай і ганьбячай яго плёткі».

Мяняе ён сваю думку аб супрацоўніцы Архіва І. Л., пра якую раней гаварыў адмоўна:

«І, гледзячы на яе ў гэтыя суровыя дні, я ёй многае дарую. Яна шчыра пакутуе і ўдзельнічае ў агульнай працы калектыву. Нясе вялікі цяжар абавязкаў і па службе, і па грамадскай лініі. Цяпер ёю кіруе бескарыслівае пачуццё, а не кар'ерызм, як мне здалося ў пачатку вайны, калі яна пайшла ў добраахвотнае апалчэнне. Справядлівасць патрабуе і яе адзначыць у нашым актыве. З такою пераможаш!»

Яшчэ шмат разоў у сваіх запісах ён будзе вяртацца да вобліку гэтых і іншых людзей, ацэньваць іх больш аб'ектыўна, markdown рознабакова па меры таго, як абставіны, што рабіліся ўсё больш і больш жорсткімі, прымусяць глыбей заглядваць у самога сябе, лепш бачыць, праўдзівей разумець чалавека. А пакуль у многіх думкі падчас дыктуюцца не развагаю, а першымі эмоцыямі.

«С. А. Ш., этнограф, заходзіла да нас у Архіў здаваць свае навуковыя матэрыялы. Разгаварыліся.

— Адчуваю агіду да жыцця. У сярэдзіне XX стагоддзя — і раптам такія масавыя забойствы, разбурэнні.

Агіда да жыцця, культуры, што перакульвае сама сябе,— вось што пачынае авалодваць мозгам думаючых людзей. Людзі не зрабіліся лепшымі; горшымі, больш жорсткімі, каварнымі, паскуднымі сталі... Так многія думаюць цяпер...

Падышоў зноў у суседнім пакоі да адчыненага акна. Зорная, ціхая, цёплая ноч. Бліскавіцы (ці ўспышкі стрэлаў) перасталі мігаць... Зоры, далёкія, халодныя, хвалюючыя душу, рассыпаліся ўзорам па цёмным небе. Няўжо і ў вашых зорных галактыках, дзе ёсць жыццё, адбываецца тое самае? Няўжо вайна, масавае, жорсткае забойства сабе падобных, братоў сваіх,— закон вечны, нязменны?

Вось і ноч канчаецца. Днее. Канчаецца і маё дзяжурства. Трывогі не было. Немцы зноў не бамбілі Ленінграда. Гэта выклікае вялікае здзіўленне і мноства выдумак, часам дужа прымітыўных. Напрыклад: гітлераўскай дачцэ патрэбна неразбураная цудоўная паўночная сталіца!

Што прынясе сённяшні дзень? Засталося дзве гадзіны да сну перад адыходам у Архіў. На сэрца быццам бы нехта наступіў, прыціснуў яго. Надрываецца яно. Можа, і недалёкія тыя гадзіны, калі... Не буду нічога загадваць. Буду добрым, актыўным, працаздольным. Да канца.

Перада мною тры партрэты: Леў Талстой, Тургенеў, Чэхаў. А збоку — Дастаеўскі. Мае настаўнікі любові да чалавека, да чалавецтва, вялікія гуманісты. Застануся верным сваім настаўнікам.

У газетах шмат дэкларацый, спачуванняў і да т. п. з боку Амерыкі, Англіі і іншых краін. Надакучыла чытаць пра дапамогу на словах... Дагэтуль у немцаў такі няма другога фронту!

***1941.VIII.23.*** Шэсцьдзесят трэці дзень. У ноч па 22 жніўня, а потым на 23-е чакалі бамбёжкі Ленінграда. 22-га споўнілася два месяцы вайны і месяц з дня першага налёту на Маскву. Гэтае чысло зрабілі кабалістычным. Бамбёжак не было ні. Ніхто не разумее прычын, чаму немцы не кранаюць Ленінграда. З гэтае прычыны працягваюцца самыя розныя выдумкі».

Сапраўды, «у вайну налгуцца». Напрыклад, блукалі чуткі, што Васільеўскі востраў бамбіць не будуць, паколькі Разенбург быццам бы нарадзіўся па Васільеўскім.

Альбо што там жыве багата немцаў, яшчэ пецярбургскіх, з часоў Пятра I. I вось ужо некаторыя, даверлівыя да чутак, перасяляюцца да блізкіх і знаёмых на «бяспечны» востраў...

Г. А. Князеў запісвае:

«Верагодна, можна было б з усіх чутак рабіць і якія-небудзь вывады — тым, хто вывучае псіхалогію мас. Гісторык Чарноў, напрыклад, напісаў цэлае даследаванне пра чуткі, якія хадзілі ў час паўстання дзекабрыстаў. У чутках можна падмеціць і патаемныя надзеі вядомых праслоек насельніцтва і ўплыў ворагаў. Гэта свайго роду «метэаралагічная зводка надвор'я» грамадскага настрою. Але гэта спецыяльная тэма, і ёю я наўрад ці займуся ў сваіх нататках. Не так я многа бываю сярод людзей і чую навін. Напрыклад, я зусім не бываю ў чэргах, на рынках і г. д, А гэта галоўныя ачагі розных чутак. Можа, дарэчы сказаць, трэба было б паспрабаваць у процівагу стыхійным чуткам, пры дапамозе ўмелай прапаганды заняцца арганізацыяй здаровых чутак, якія кавалі б волю і бадзёрасць духу.

...Усе мы жывём цяпер надзеяй, што прыціснутыя да мора немцы будуць узяты ў палон альбо знішчаны марской артылерыяй Балтыйскага флоту. Нейк нават супакоіліся. Сёння ўвесь дзень пражылі гэтай надзеяй, што немцы будуць адкінуты ад Ленінграда. Жывём і другой надзеяй — што па поўдні арміі Будзённага ўдалося выйсці з акружэння!»

Вось яны, таксама чуткі. Хоць нібыта станоўчыя. Накшталт тых, што і бударажылі і супакойвалі ленінградцаў,— пра армію Куліка, якая вось-вось акружыць немцаў, што трымаюць у кальцы Ленінград. Хто ведае, колькі тысяч людзей неразумна заўпарціліся і не падпарадкаваліся загадам аб эвакуацыі, цешылі сябе падобнымі чуткамі, ілюзіямі!

*«1941.VIII.25.* Шэсцьдзесят пяты дзень. Зусім недастаткова існуючай інфармацыі. Усе ў адзін голас указваюць, што кінгісепскія пазіцыі ў нашых руках, Смаленск таксама... Але становішча на поўдні цяжкае. Н. П. Т. сёння канфідэнцыяльна мне паведаміў, што гэтымі днямі рашаецца лёс Ленінграда: горад будзе абвешчаны безабаронным. Таму няма і бамбёжкі. Таму спынена і эвакуацыя маці з дзецьмі. У межы горада павінна ўвайсці 30-вёрставая палоса па радыусе. Выехаць з Ленінграда цяпер вельмі цяжка... Пасля яго візіту мне стала не па сабе: няўжо

мы не адгонім немцаў ад Ленінграда? У чым тут справа: чаму раптам так адразу страшэнны націск па поўдні і паўночным захадзе, гэта значыць, у нас? Адкуль сілішча ў ворага? Спакойна гляджу падзеям у вочы, але мне сумна, што мы недастаткова арганізаваны на пераадольванне ўсіх нягод вайны...»

Мільёны людзей у 1941 годзе перажылі падобныя пачуцці. Спярша нявер’е: «Немцы прыйдуць у наш горад? Быць гэтага не можа!» Хваляванне: «Яны ўжо рухаюцца сюды!» І пасля кашмарная рэальнасць акупацыі.

Не ўсе гарады былі стратэгічнымі, падобна Маскве, Ленінграду. Канечне, у лёсе асобнага чалавека і яго вёска займала стратэгічнае становішча. Жыццё і смерць, лёс чалавека залежалі ад таго, возьмуць яе немцы ці не возьмуць.

Але лёс краіны ва ўяўленні мільёнаў напрасткі быў звязаны перш за ўсё з двума гарадамі — Масквою і Ленінградам... Канечне ж, гора ад страты Кіева, Мінска, гордасць і боль за Севастопаль, а тым больш напружанне, з якім усе сачылі за бітваю ў Сталінградзе,— усё гэта падзеі і пачуцці ўсенароднага значэння. Але пакуль стаяла Масква, пакуль трымаўся Ленінград, многія іншыя страты не здаваліся непапраўнымі.

Людзі ўсюды людзі, што ў сталіцы, што ў маленькай вёсачцы. І ўсё-такі людзям, якія, падобна Князеву, здольны многае разумець, самастойна ацэньваць, узважваць, немагчыма было не ўсведамляць, што асабісты лёс іх вызначаецца яшчэ і тым, што жывуць яны ў *стратэгічным* горадзе. Як прыкметна па дзённіках Г. А. Князева, не ўсе і не адразу гэта адчулі, не адразу на гэтым сталі. І чуткі паўзлі, і ілюзіі пладзіліся, часам небясшкодныя для справы і для стойкасці. Накшталт гэтых — пра «безабаронны горад» і ім падобных.

Не тое дзіўна, што былі чуткі і ілюзіі, а тое, што мільёны жыхароў горада — пра гэта сведчыць уся дзевяцісотдзённая эпапея Ленінграда,— апынуўшыся па стратэгічным участку барацьбы, павялі сябе так, быццам бы ўсведамлялі: нам *слабасць недапушчальна, мы не маем права, на нас асаблівая адказнасць!* Таму што мы — ленінградцы, мы — піцерцы, мы — на вачах ва ўсёй краіны. Усё навідавоку: і пашы пакуты, і наша мужнасць, і наша гатоўнасць ахвяраваць усім, але толькі не другім галоўным горадам краіны!

## «МНЕ —
## 18 ГАДОЎ»

А Юра Рабінкін усе гэтыя летнія тыдні працуе, ходзіць у Палац піянераў, гуляе ў шахматы, чытае — што яшчэ было рабіць ленінградскаму школьніку ў гэтае позняе лета вайны? Прыяцель узяў у яго чытаць Майн Рыда, Юра ўзяў у яго ўзамен Льва Талстога і «Няву».

«Хадзіў з Додзікам у кіно, глядзеў «Баксёры»... Хадзіў у заасад, гуляў у більярд, у шахматы... Чамусьці моцна забалелі грудзі. З'явіўся кашаль. Пот так і льецца ўдзень і ўночы... Горад Востраў, відаць, узяты, бо з'явіўся пскоўскі напрамак. Якім фронтам камандуе Варашылаў?.. Мама атрымала загад з'явіцца на Балтыйскі вакзал для адпраўкі ў Кінгісеп капаць акопы. Я праводзіў маму да вакзала».

Ён мучыцца, не ведае, што запісваць. Вайна, а з ім і вакол яго быццам бы нічога істотнага, значнага не адбываецца. Тым не менш ён акуратна піша і піша:

«Вечарам, калі мы вярнуліся дамоў, да нас нечакана прыехала з Шлісельбурга Ціна. Яна будучы галоўурач бальніцы. Дамовіліся, што, калі з мамай што здарыцца, яна бярэ мяне і Іру да сябе... Кажуць, будзем вучыцца гэтаю зімою (8, 9 і 10 класы). Асабліва гэтаму не веру. Тут хаця б быць жывым!»

Гэты запіс зроблены 19 ліпеня 1941 года. Юра Рабінкін не мог нічога ведаць пра выпрабаванні, якія яго напаткаюць, але тым не менш нейкае прадчуванне прымушае яго весці дзённік. Ён нібы рыхтуецца да чагосьці, у ім абвастраюцца пачуцці, ён не верыць у супакойлівыя чуткі, ён шмат чаго ўжо зразумеў за гэты месяц: «Тут хаця б быць жывым!»

І яшчэ запісы:

«Так... гэта, бадай што, самая небяспечная для нас вайна. Дорага будзе каштаваць перамога».

«Прачытаў «Дваранскае гняздо».

«Гуляў з Давідам у шахматы».

«Мама дала мне грошай, за якія я з'еў талерку супу (боршч) і талерку маннае кашы з маслам у сталоўцы Палаца працы. Пасля прыйшоў дадому. Дома вучыўся даваць мат сланом з канём».

«Чытаў «Давід Коперфілд».

«Паехаў з мамай на абаронную будоўлю пад Лугу, у Толмачава».

З задавальненнем апісвае ён, як капаў разам з дарослымі процітанкавы роў. Гэтыя два жнівеньскія тыдні былі поўныя трывог, іх абстрэльвалі «месершміты», а яны капалі, капалі па восем гадзін запар. Тым жа часам яго таварышы пачынаюць выязджаць з Ленінграда, а Кернава мама таксама рыхтуецца да эвакуацыі. Яны абмяркоўваюць, куды наехаць: мама хоча бліжэй да Ленінграда, а Юра чамусьці ў Омск. Ён усё больш пільна сочыць за падзеямі на фронце, задумваецца над імі і злуе на сваю пасіўнасць.

***«26, 27 жніўня.*** Ноўгарад узяты ўжо некалькі дзён таму назад. Над Ленінградам навісла небяспека быць адрэзаным ад СССР. Нам увесь час прысылаюць амерыканскія танкі, самалёты («боінгі»). «Боінгі» вязуць на караблях да Уладзівастока, а адтуль яны ляцяць з пасадкамі да Ленінграда. Нядаўна Японія заявіла пратэст наконт адпраўкі да пас з Амерыкі нафты, спасылаючыся на тое, што гэта нібы пагражае яе інтарэсам. Напэўна, не абышлося без Германіі. Нашы і англійскія войскі ўступілі ў Іран... Іран займае чацвёртае месца ў свеце па нафце.

Сам я займаюся малакарыснымі справамі. Чытаю кнігі, гуляю ў шахматы (завяршыў матч з У. Н. Нікіціным, 17-11=6 у маю карысць), займаюся вайсковаю справаю — гуляю ў вайну.

Ад Ціны навін больш ніякіх няма.

***30 жніўня...*** Мама хоча запісаць мяне ў ваенна-марскую спецшколу. Так, я ведаю, што медкамісія мяне не прапусціць, таму адмаўляюся. Цяжка ўсё ж адмаўляцца ад сваёй мары — мора, але што зробіш. Усе спробы — дарэмныя.

Пахне песімізмам.

Дні праводжу за вайсковаю справаю, шахматамі, чытаннем. Настрой страшэнна ўпадніцкі. Ніякіх, нават пасрэдных перспектыў перад сабою не бачу. Ніну мама звальняе з 1 верасня. Шахматы, ваенныя гульні, вайсковая справа. Навошта гэта мне цяпер, калі сваю патаемную мару — ваенна-марскую справу — я ажыццявіць не здольны. Цяжка. Песімізм паўнейшы.

***31 жніўня, 1 верасня.*** Заняткі ў школе 1 верасня, сёння, не адбыліся. Невядома, калі будуць. З 1/IX прадукты

прадаюць толькі па картках. Нават запалкі, соль і тыя па картках. Настае голад. Павольна, але пэўна.

Ленінград абкружаны! Нямецкі дэсант, які высадзіўся ў раёне ст. Іванаўская, адрэзаў наш горад ад усяго СССР...

Настрой паршывы. Не ведаю, ці вернецца калі-небудзь да мяне весялосць.

Сёння насіў цяжкія мяхі ў мамы на працы — памагаў здымаць важныя паперы — і, мабыць, вывіхнуў шыю...

У зводках пішуць, што ідуць баі на ўсім фронце. І толькі. Уначы ў небе палаюць зарніцы. Дальнабойныя гарматы б'юць з нашых палігонаў па ворагу. Вораг за 50 км ад Ленінграда!

Біў лынды цэлы дзень. (Хіба толькі ў мамы на працы памагаў.) Гаварыў з Фінкельштэйнам. Калі ў школах заняткаў не будзе, дык думаем удвух прайсці (калі пройдзем?!!) увесь курс 9-га класа. Падручнікі ёсць.

Заўтра мне павінна было б быць 16 гадоў. Мне — 16 гадоў!

***2 верасня.*** Так, нічым незвычайным мой дзень нараджэння не адзначыўся.

Мама дала мне 5 руб. на сталоўку. Вырашыў пацешыць сябе. Пайшоў у краму і купіў шахматны падручнік. А пасля прыйшоў у сталоўку — там нічога таннага ўжо не было. Затое мама вечарам прынесла мне два пірагі. Пасля яшчэ і суп згатавалі — я і суп з'еў. Сыты, задаволены!»

## ЧАМУ ВУЧЫЛІ СТОІКІ

А ў гэты ж дзень, семдзесят трэці дзень вайны, 2 верасня 1941 года, Г. А. Князеў запісвае: «Ленінград стаў фронтам».

Ужо шыбы ў парадным доме на Васільеўскім востраве забілі фанераю і дошкамі. У Румянцаўскім скверы пад дажджом вучацца гранатамётчыкі. Князевы спрабуюць запасціся сухарамі, адзіным, чым могуць яны запасціся. Апрача таго, Марыя Фёдараўна падрыхтавала індывідуальныя пакеты на выпадак ранення, кантузіі. Робіць яна

гэта спакойна, муж глядзіць на яе работу, смутна ўсміхаецца, лічыць, што «нашае жыццё, прынамсі, скончана».

«Газета не прыйшла. У вітрыне каля універсітэта вывешаны «Апошнія паведамленні». Коратка і трафарэтна: баі ідуць па ўсім фронце. Нашы войскі прасоўваюцца ў Іране. Каля вітрыны заўсёды стаяць чатыры, пяць, дзесяць чалавек. Зноў шкадую, што не магу тут даць іх замалёўку. Вось Васняцоў некалі намаляваў, і так таленавіта, чытачоў ваеннай тэлеграмы ў 1877 г. Шкада, што не ведаю такіх замалёвак у сучасных мастакоў. Увогуле з ілюстрацыямі, лубкамі і да т. п. вельмі бедна...»

У дзень нараджэння Юры Габінкіна Г. А. Князеў запісвае:

«У газетах, па радыё заклікаюць да абароны Ленінграда: «Абаронім кожную вуліцу, усякую плошчу, зробім кожны дом цытадэллю!» Але з апалчэннем зноў штосьці не выйшла. І вакол ліяне, на маім малым радыусе, пакуль няма ні барыкад, ні равоў, ні атрадаў апалчэння».

Г. А. Князеў не ведаў, што дывізіі народнага апалчэння ў гэтыя дні люта змагаюцца на далёкіх подступах да горада. Дзякуючы ім у значнай ступені быў сарваны план пераможнага маршу. Пачынаючы з ліпеня, Першая, Другая, Трэцяя дывізіі народнага апалчэння, сфарміраваныя з камуністаў ленінградскіх заводаў і ўстаноў, з моладзі, з тысяч добраахвотнікаў, спынялі гітлераўскія арміі, наносілі ім немалыя страты. Абмежаванасць агляду Г. А. Князева і кепская інфармацыя перашкаджалі яму ведаць сапраўднае становішча з апалчэннем. Ён мог толькі меркаваць — і не заўсёды правільна.

«Учора каля 12 гадзін ночы грымелі выстралы далёкабойных гармат ці грукат выбухаў. На небе палала далёкае зарыва. Дзе лініі нашых войскаў, дакладна нам невядома, але фактычна Ленінград у акружэнні варожых войскаў. Сёння паменшылі паёк хлеба, закрылі камерцыйныя магазіны. Мы ўступаем у стан асаджанага горада. Глядзім смела і спакойна на надыходзячыя выпрабаванні. Верагодна, горад вырашана абараняць, а не здаваць. Тым, хто кіруе намі, лепш відаць. Яны павінны вырашыць пытанне стратэгічна. Ленінград у гэтай тытанічнай барацьбе ўсяго толькі эпізод... Але мы, ленінградцы, жывыя людзі, і для нас, бяззбройных, не воінаў, падзеі, што адбываюцца, з'яўляюцца вырашальнымі. Вось цяпер я зноў запаліў лямпу пад зялёным абажурам і сеў за свой пісьмовы стол. А што будзе праз некалькі дзён, ніякай

фантазіі не хопіць, каб уявіць сабе. Толькі аналогі разгрому і гібелі дзесяткаў і сотняў гарадоў паўстаюць з адрывачных газетных паведамленняў як начныя кашмары. Але ўсе аналогі не ў лік, калі пытанне стаіць пра такі гігант, як Ленінград... Няўжо я буду сведкам ягонай гібелі?..

Направа з саду бачны сфінксы. Яны стаяць па-ранейшаму. Пра іх проста забылі... Не да іх!.. І яны — самі па сабе, па-за падзеямі.

Пасля сённяшняй трывожнае ночы зняў у службовым кабінеце сілуэты акадэмікаў працы Антынга (1783 г.) у шкляных рамах, каб не ўпалі і не разбіліся. Вазу з першага савецкага фарфору, спецыяльна зробленую да 200-годдзя Акадэміі навук, каб яна не перакулілася пры трасенні будынка, паклаў плазам у заглыбленне на шафе. Не рабіў гэтага раней, каб не парушаць парадку, які памагаў арганізоўваць нашу волю, нашу свядомасць... Наступілі падзеі, якім мы не думалі быць ні сучаснікамі, ні сведкамі... Ленінграду пагражае смяртэльная небяспека!..»

Пачуццё чакання чагосьці невядомага асабліва цяжкае чалавеку, асуджанаму на бяздзейнасць (сваю працу ў Архіве ён не лічыў у тых умовах першачарговаю для абароны горада).

Была ў яго трывога, былі сумненні: «Як доўга зможа абараняцца горад?.. Цудоўны горад, ні разу не апаганены ворагам?» Што было, тое было, без гэтага не зразумець, не ацаніць таго душэўнага шляху, які прайшоў не адзін Князеў.

***«1941.IX.5.*** Семдзесят шосты дзень. Мы пачалі браць абед у акадэмічнай сталоўцы, але цяпер там даўжэзныя чэргі.

...Стаіць халоднае надвор’е, ідзе дождя?... Кветкі ўздоўж маёй дарогі на службу пабляклі, зморшчыліся, дажываюць апошнія дні. Сфінксы блішчаць, намочаныя дажджом. Над Нявою шэрая смуга хавае прыгожыя контуры Ісакін, Адміралцейства, Зімняга палаца, Сената, коней над аркаю Галоўнага штаба. А дзесьці, за некалькі дзесяткаў кіламетраў на подступах да Ленінграда, немцы... Не верыцца, нібы ліхаманкавы сон, а не рэчаіснасць. Як гэта магло здарыцца? Немцы пад ленінградскай брамай!

Камендант нашага дому, які.. сядзеў каля брамы, дзеліцца са мною сваімі ўражаннямі: «Была б раней такая

арганізацыя, як цяпер, не падпусцілі б немцаў так блізка да Ленінграда».

***1941.IX.7.*** Семдзесят восьмы дзень. Стоікі вучылі, што мэта жыцця — у мудрасці і дабрачыннасці. Дасягнуць гэтага можна толькі праз утаймаванне пачуццяў і неразумных захапленняў, праз непарушную абыякавасць да зменлівасці лёсу... Праўда, у грэкаў былі і паслядоўнікі іншай філасофскай школы, якая лічыла мэтаю жыцця шчасце.

Нас жыццё вучыць непахіснай абыякавасці да зменлівасці лёсу. І я часам бываю такім філосафам. Але я не філосаф, не мысліцель у поўным сэнсе гэтага слова. Я хачу жыць добра, шчасліва. Асабіста мне мара тых другіх грэчаскіх філосафаў — пра шчасце — бліжэй.

Шчасце цяпер? Якая злая іронія. Тут хаця б толькі жывым застацца. Але жыць дзеля таго, каб жыць любой цаною, хоць ніцма на зямлі здыхаючы, яшчэ больш страшная іронія.

Сёння нядзеля. Не ведаю, што робіцца на свеце, у ваколіцах майго горада, у самым Ленінградзе. Ядавітымі чуткамі не жыўлюся, карэспандэнцыі не маю; сяджу і чытаю асобныя старонкі з гісторыі ўсіх часоў і пародаў. І на кожнай старонцы побач з геніем думкі і творчасці чалавека ягоная ж кроў, кроў і невыказныя пакуты.

Жыву толькі дадзенай мінутаю, нават не гадзінаю, не кажу ўжо пра дзень. Падараваў лёс яшчэ хвіліну — і дзякую яму. Чытаю, пішу, думаю... А што будзе хаця б праз мінуту, стараюся не думаць.

Мне кінулася ў вочы адна карцінка: «Спакойная старасць». На ілюстрацыі стары дзядок у цішы і спакоі чытае. З якой іроніяй успрымаецца гэта ў сучасным пекле!..

Да нашага часу больш пасуе іншая карцінка. Вялікі геаметр Архімед сядзіць у роздуме над сваімі чарцяжамі. А ворагі ўварваліся ўжо не толькі ў горад, але і ў дом, дзе жыве мысліцель. Яны на імгненне спыніліся ад здзіўлення, убачыўшы спакойны твар старога. Прыгожае паданне ўклала ў яго вусны, калі ён убачыў, што ягоным чарцяжам (не яму) пагражае гібель, такія словы: «Но разбурай маіх кругоў (чарцяжоў)». Архімед, як вядома, быў забіты ў часе асады Сіракуз рымлянамі ў 212 г. да н. э.».

## ПЕРШАЯ БАМБЁЖКА

Тым часам Юра Рабінкін стварае план за планам, як абараніць Ленінград. Яго таварышы хочуць уступіць у народнае апалчэнне. З гэтае прычыны ён заўважыў, што не так і проста, вывучыўшы вінтоўку, ісці супраць танкаў. І тут падбадзёрвае сябе: «І з вінтоўкамі паваюем!» І прыводзіць адзін з сваіх планаў:

«Можна зрабіць так. Замініраваць увесь Ленінград, выгнаць з яго насельніцтва ў лясы з тым, каб Ленінград стаў пусты. Стварыць у горадзе паніку і г. д. Ніводзін памочнік галоўнакамандуючага не ведаў бы, што галоўнакамандуючы думае. Прымусіць бы войскі адступаць так, каб калі яны павернуцца назад, дык занялі б адразу найвыгаднейшыя для атакі пазіцыі. І вось немцы ўжо ведаюць, што Ленінград пусты, усе іх шпіёны сцвярджаюць гэта таксама. Немцы будуць падазраваць хітрасць у тым, што Ленінград замініраваны, пусцяць туды сапёраў і г. д. Вось тады галоўнакамандуючы робіць тое, што ён толькі адзін ведаў. Адразу ж, імгненна, нечакана (яшчэ нечаканей, чым 22/VI для нас) нашы танкавыя часці пераходзяць у грандыёзнае наступленне і прымушаюць немцаў скурчыцца ў камяк. Тады на гэты камяк наваліцца ўся магутнасць артылерыі, якая падчас адступлення заняла найвыгаднейшыя пазіцыі. Праз паўгадзіны гарматы пераносяцца на некалькі км далей, а тое месца, што яны абстрэльвалі, займаюць нашы войскі. Уся авіяцыя, сабраная над імі, лётае і бамбіць уцалелыя рэшткі ворага. І як толькі вораг пахіснуўся, адступіў, тут яго трэба гнаць з паветра, з зямлі, з мора. Пасылаць усё новыя і новыя войскі, не даваць ні хвіліны перапынку. Перадавыя танкі мяняюцца новымі, першыя адпачываюць, пасля зноў мяняюць іншых і г. д. Толькі такім ударам можна зламаць немцаў. І потым яшчэ: як толькі нашы танкі дасягнулі пэўнае мэты, частка з іх ідзе назад пад вуглом да ранейшага курсу.

Так, але ўсё гэта нязбытная, фантастычная мара. Ніхто не правядзе такога наступлення. Ды і танкаў у нас мала. Я думаю, што Гітлер, напэўна, думае выйграць вайну шпіёнамі ну ды яшчэ і тэхнікай, вядома.

Так, дэсант на Іванаўскай знішчаны. Застаўся яшчэ той, што на Мзе. Кожная перадавіца ў газеце крычыць:

но аддамо Ленінграда! Будзем абараняць яго да апошняе кроплі крыві! Мацуй процітанкавую абарону! Але чамусьці перамогі ў нашае арміі няма, зброі таксама няма, відаць. Міліцыянеры на вуліцы, нават апалчэнцы і чырвонаармейцы некаторыя ўзброены вінтоўкамі-маўзерамі чорт ведае якой даўніны. Немцы танкамі пруць, а ў нас вучаць змагацца з імі не танкамі, а звязкамі гранатаў, часам і бутэлькамі з гаручым. Ну і падзеі».

Нельга судзіць Юру дарослым розумам, ды яшчэ паводле логікі мірнага жыцця. Гэта хлапечыя мары, у якіх, канечне ж, мала ўлічваецца рэальнасць, галоўнае ў іх — палкае, азартнае жаданне, каб усё і адразу змянілася на лепшае.

Зрэшты, Юра і сам заўважае, піша з сумам, што «ўсё гэта нязбытная, фантастычная мара».

Яму шаснаццаць год, калі дзіцячае і дарослае ў чалавеку яшчэ суіснуе, перабівае адно другое. Ён намагаецца дадумацца, чаму нямецка-фашысцкія войскі апынуліся пад Ленінградам, і першае, што яму прыходзіць у галаву,— шпіёны!

Юраў план разгрому пад Ленінградам нямецкіх армій, які ён мог бы ажыццявіць на пару з галоўнакамандуючым, не апошні ўсплёск перадваеннага маленства і перадваеннай псіхалогіі. Будуць і яшчэ ўсплёскі такога вось разумення, наіўных, а часам і недарэчных уяўленняў, не кажучы ўжо аб праявах сапраўднага дзіцячага эгаізму, з якім нямала намучыцца Юрава сумленне.

Вось-вось на Ленінград абрынуцца бомбы — праз некалькі дзён. Пасля пачнуцца страшэнныя сістэматычныя абстрэлы. І самае жудаснае — голад. Кожны набліжаўся да гэтага, праходзіў праз гэта сваім жыццёвым маршрутам, у кожнага быў уласны радыус ленінградскага лёсу. Малы — з пункту гледжання ўсяго фронту; бяскрайні, бясконцы — калі паглыбляцца ў нетры чалавечае душы, чалавечых перажыванняў, надзей і страт.

*«5, 6 верасня.* Нікіцін і Фінкельштэйн хацелі ісці ў народнае апалчэнне, ды не пайшлі. Зайшлі ў школу: ім загадалі фарбаваць дах. Яны не згадзіліся, сказалі, што ім трэба кудысьці ісці, абяцалі прыйсці на другі дзень, а на другі дзень не прыйшлі.

Мама зноў хоча ўладкаваць мяне ў марскую спецшколу, ды я не хацеў бы туды ісці. Усё роўна ж у школу мяне не прымуць, бо я дрэнна бачу — раз, плеўрытныя спайкі ў правым лёгкім — два, ну ды і яшчэ сёе-тое. Чаго ж цешыць сябе светлымі надзеямі, а пасля мець горкі плён?

Ленінград абстрэльваецца немцамі з дальнабойных гармат. Так і бахаюць разрывы снарадаў. Учора снарад пацэліў у дом на Глазаўскай вуліцы, знёс паўдома. Фінкельштэйн з Нікіціным прыходзілі глядзець і расказвалі. Дзесьці снарад трапіў у сквер — многа забітых і параненых. Сёння пад вечар зноў абстрэл. Так і бахаюць снарады недзе ў напрамку Маскоўскага вакзала, але ж, відаць, далей, за ім. У чэргах бабы кажуць, што Гітлер абліваў закончыць вайну да 7 верасня, гэта значыць заўтра. Ну і чуткі! А яшчэ зусім нядаўна казалі тое ж самае, толькі дата была 2 жніўня.

Учора быў у Штакельберга. Дома яго не застаў. Прыйшоў дадому, а ён да мяне з'явіўся. Працуе ў шпіталі, прымае параненых — санітар. Хадзіў з ім на выстаўку айчыннае вайны (на 1-й Чырвонаармейскай). Шмат чаго цікавага. Французскі сярэдні танк стаіць, лёгкі чэхаславацкі, пасля гаўбіца 142 мм, розны германскі рыштунак. Вельмі смяяліся з аднае рэчы: такая картка, як у нас на хлеб, толькі салдацкая, з надпісам: «Імперскае аддзяленне па справах пацалункаў». І на адрыўных талончыках (адрываюць, мабыць, у публічных дамах) надпісы: «выпадковы пацалунак», «імгненны пацалунак», «талон на (...)* спатканне» і г. д. Сапраўдная бессаромнасць. На сценах развешаны плакаты, фотаздымкі і да т. п. Мы трапілі туды падчас трывогі і былі на выстаўцы цэлыя тры гадзіны. Штакельберг расказаў мне пра нямецкія атрутныя рэчывы. Гэта жудасна!

...Цяпер палова дзесятай. Ленінград абстрэльваецца з нямецкіх цяжкіх дальнабойных гармат. Моцныя разрывы вымушаюць уздрыгваць будынкі і шыбы.

***7 верасня.*** У мамы выхадны дзень. Мне давялося дзяжурыць каля брамы з 12 раніцы да 4 дня. Чытаў «Дзень палымнее» Джэка Лондана.

Учора 6-га вечарам была моцная кананада. Немцы білі па Ленінградзе з цяжкіх гармат. Сёння ўжо цішэй.

* Шматкроп'ем у дужках пазначаны непрачытаныя мясціны: старонкі дзённіка абгарэлі, некаторыя сцерліся.

Трывог не было, але зенiткi бiлi. Сёння — 129 гадоў з дня Барадзiнскай бiтвы. Некалi пад Масквою адбыўся грандыёзны бой памiж рускiмi i французскiмi войскамi. Больш за 108000 чалавек было забiта i паранена ў гэты дзень. Тады iншаземныя захопнiкi атрымалi добры адпор.

***8 верасня.*** Дзень трывог, хваляванняў, перажыванняў. Раскажу ўсё па парадку.

Ранiцаю мама прыбягае з працы, кажа, яе пасылаюць у саўгас, што ў Аранiенбауме. Давялося б мяне i Iру кiнуць адных. Яна пайшла ў райсавет — ёй далi там адтэрмiноўку да заўтра. Потым мы дамовiлiся пра спецшколу. Мама пайшла ў абком, адтуль завярнула ў спецшколу, а я — да Фiнкельштэйн. У iх у школе выйшаў нумар. Хлопцам было загадана пакрыць падлогу паддашша вапнаю. Але вапны аказалася мала, i яны задумалi развесцi яе. Але замест вапны яны дабавiлi суперфасфату. Атрымалася рэакцыя. У вынiку выдзелiўся хлор. Хлопцы вымушаны былi хадзiць па гарышчы ў процiвагазах. Прыйшоў Варфаламееў, лаяў («Дарэмна я вучыў вас хiмii!»). Пасля Додзя пайшоў здаваць веласiпед у армiю (3 днi таму назад атрымаў павестку аб «мабiлiзацыi» веласiпеда).

Калi я вярнуўся дадому, мама прыйшла ўжо. Яна сказала мне, што, магчыма, мяне прымуць. Але я вельмi-вельмi сумняваюся. Пасля мама зноў некуды пайшла.

I вось тады i пачалося самае страшэннае.

Далi трывогу. Я i не звярнуў увагi. Але потым чую, што на дварэ ўсчаўся шум. Я выглянуў, паглядзеў спярша ўнiз, пасля ўверх i ўбачыў... 12 «юнкерсаў». Загрымелi выбухi, але шыбы не брынкалi. Вiдаць, бомбы падалi далёка, але былi надзвычай вялiкай сiлы. Мы з Iрак» кiнулiся ўнiз. Выбухi не спынiлiся. Я пабег назад да сябе. Там на нашай пляцоўцы стаяла жонка Зачоскiна. Яна таксама перапалохалася i прыбегла ўнiз. Я разгаварыўся з ёю. Пасля аднекуль прыбегла мама, прарвалася праз вулiцу. Хутка далi адбой. Вынiк фашысцкай бамбёжкi аказаўся вельмi сумны. Паўнеба было ў дыме. Бамбiлi гавань, Кiраўскi завод i наогул тую частку горада. Настала ноч. З боку Кiраўскага завода вiдаць было мора агню. Паступова агонь сцiхае. Дым, дым прасочваецца ўсюды, i нават тут адчуваем яго востры пах. У горле крыху пячэ ад яго.

Так, гэта першая сапраўдная бамбёжка горада Ленiнграда.

Зараз пастане ноч, ноч з 8 на 9/IX, Што гэта ноч прынясе?

Да 12 гадзін.

Толькі Іра легла спаць, як зноў абвясцілі трывогу. Мы спусціліся ўніз, у першы паверх. Хутка апрануліся. Спярша крыху пастралялі зеніткі, пасля пачалі выць і трашчаць самалёты. Увесь час па небе блукалі пражэктары. Але ніводзін самалёт не быў збіты. Дзесьці зноў бамбілі. Усё насельніцтва ніжніх двух паверхаў (за выключэннем падвалаў) было ў калідоры I паверха. Доўга, пакутліва цягнуўся час. Пасля недзе, у двары дома № 36, пачалі біць у рэйку. Мы перапалохаліся. Я, Маруська і Лідка надзелі процівагазы і пайшлі ў двор даведацца, што там такое. А ў двары паставы адказвае, што ніякай хімічнай трывогі не было. Так прайшло каля 2 гадзін. Нарэшце мы пасмялелі і пайшлі дадому. Трывога яшчэ не скончылася. Зарыва на ўсходзе не згасла, але час ад часу з імклівай хуткасцю над горадам праносіліся нямецкія самалёты. Іх абстрэльвалі, а яны насіліся і насіліся над горадам. Цяпер я не ведаю, што рабіць. Мама з Іраю леглі спаць не распранаючыся. Магчыма, і я так зраблю. Не ведаю. Так, гэты тыдзень фашысты хочуць зрабіць памятным для ўсіх ленінградцаў. Відаць, узяць Ленінград з сушы ім не ўдалося, дык яны і вырашылі знішчыць яго з паветра.

***9 верасня.*** Пішу роўна а 12 гадзіне ночы. За ўвесь мінулы дзень — 11 трывог! Ды якіх! Па гадзіне, па дзве. Найстрашнейшая трывога была апошняя, начная. Моцна бамбілі Кастрычніцкі раён. Бомбы рваліся і па Краснай вуліцы, і на Тэатральнай плошчы, і каля моста Лейтэнанта Шміта. Адтуль прыйшоў сведка ўвесь у гразі — закідала зямлёю — і расказваў.

Удзень падчас трывогі над нашым домам збілі адзін самалёт. Лётчык выскачыў з парашутам проста ў горад. Не ведаю, што з ім. Напэўна, злавілі. У спецшколу не хадзіў, у школу не хадзіў. Перапынкі паміж трывогамі былі па 10—15 мінут. Заўтра, калі ўсё будзе нармальна, мама загадае ісці ў спецшколу. Я думаю, не прапусцяць дактары. Не прайду медагляд. У зводцы перадавалі, што на Ленінград у 8.30 быў зроблены напад з паветра, але ваенныя аб’екты не пашкоджаны. А мама сказала, што згарэла шмат харчовых складаў, станцыя Віцебская таварная, маслабойны завод і яшчэ жылыя дамы, колькі іх — невядома.

Гэтыя налёты на Ленінград усе тлумачаць тым, што ў Гітлера сарвалася аперацыя з захопам Ленінграда наземнымі войскамі. Разззлаваўся і загадаў бамбіць.

На франтах без змен. Мы адбілі нейкі горад Ельню... і гэта хлеб.

Так, цяпер Ленінграду передышкі не будзе. Будуць бамбіць кожны дзень.

У нашу кватэру збіраюцца ўсяліць сям'ю нейкага галоўнага інжынера трэста. Жукі! Мама хоча наадрэз адмовіцца.

Сірэна. Гадзіна — трывога. Адбой. Перапынак — дзесяць мінут. Зноў трывога. Так можна зусім замучыць насельніцтва. А ў нашым доме нават няма бамбасховішча.

Бадай што, уладкуюся я ў пажарную каманду ў школе. У спецшколу, напэўна, не траплю. Ляжу, пакуль ціха. А там хто ведае?..»

Інакш пераэжыў гэты самы дзень першае бамбёжкі Г. А. Князеў.

***«1941.IX.8.*** Калі я вяртаўся са службы, па адрэзку майго малога радыуса — набярэжнай Нявы — адчувалася няроўнае пульсаванне жыцця горада. Мікалаеўскі мост быў разведзены. Рух адбываўся толькі праз адзін Дварцовы мост. З гэтае прычыны пустынная Універсітэцкая набярэжная ператварылася ў магістраль. Неўзабаве паміж узнятымі часткамі прыгажуна моста паказаўся карабель — кананерская лодка з дзвюма дальнабойнымі гарматамі. Карабель падымаўся ўверх па цячэнню Нявы. Рака была ажыўленая. Ваенныя катэры хвалявалі свінцовыя верасні ўскія неўскія воды... Непадалёку ад Дварцовага моста карабель спыніўся і даў працяглы гудок, каб хутчэй яго прапусцілі далей.

Па набярэжнай прайшоў атрад матросаў у паходнай форме і з шлемамі на паходных сумках. Нейкі аўтамабіль, увесь пакрыты граззю, з разбітым шклом, прамчаў міма. У Румянцаўскім скверы зноў чакалі групы ленінградцаў, якія адпраўляліся на працоўную павіннасць. У аўтобусах ехалі кудысьці ўзброеныя і няўзброеныя рабочыя...

Так раптам напоўнілася жыццём, як рака ў паводку, мая пустынная дарога ўздоўж градкі з кветкамі і кусцікамі...

Дарэчы, днямі іх падстрыглі. Хтосьці даглядае іх нават у гэтыя жахлівыя дні! Гэта мяне неяк падмацавала, падбадзёрыла.

На З'ездаўскай лініі каля казарменнай брамы тоўпіўся народ. Чакаюць спаткання з раненымі, што размешчаны

там. Некаторыя зазіраюць у вокны, адкуль высоўваюцца чырвонаармейцы і матросы з забінтаванымі галовамі альбо рукамі...

У 7 гадзін 30 мінут вечара, калі я адпачываў, раптам затроссяўвесь наш дом. Раздавалася страляніна з зенітак і кулямётаў. Першае імгненне было жахлівае. Але адразу ўзяў сябе ў рукі, пераадолеўшы першае імкненне пакінуць дом, уцячы ад небяспекі... На двары тоўпіўся народ каля бамбасховішча. Краўш прывезла туды сваё хворае дзіця. Усе глядзелі на неба. Суседзі прыйшлі сказаць, што ў іх з вокнаў на поўдзень відаць агромністае зарыва і слупы густога дыму, якія зацягнулі ўсё неба. Сапраўды, калі я пайшоў паглядзець, за Нявою палала пажарышча. Нават у вадзе яно адбівалася. Некаторыя меркавалі, што гэта прарваліся нямецкія бамбардзіроўшчыкі і ім удалося падпаліць нафтасховішчы дзесьці каля Волкавае вёскі.

10 гадзін 30 мінут. Зноў трывога. Выйшаў на лесвіцу. Пражэктары абмацваюць неба. Страляюць зенiткі. Вярнуўся ў свой кабінет і сяджу ў паліто, у фуражцы і галёшах пад каўпаком сваёй зялёнай лямпы і пішу... М. Ф. жартуе: «Ты зусім як Архімед». Дом уздрыгвае, але не так, як спярша. Да трывогі паспеў пазваніць на службу. Там усе дзяжурныя напагатове. Мы з М. Ф. павячэралі. Сабралі свае клункі з рэчамі, грошы. М. Ф. пайшла на свой санпост.

12 гадзін 30 мінут. Трывога працягваецца. З суднаў на Няве часам раздаюцца выстралы. Суседзі яшчэ не вярнуліся, сядзяць на лесвічных прыступках унізе. Сёння, верагодна, увесь Ленінград не будзе спаць.

Значыць, на семдзесят дзевяты дзень пачалася бамбёжка Ленінграда. Наперадзе, бадай што, будзе шмат такіх трывожных дзён і начэй. Келіх выпрабаванняў трэба будзе выпіць да дна, цяжкі келіх».

Пачалася бамбёжка Ленінграда. У вусных расказахуспамінах кожны другі кажа пра пажар на Бадаеўскіх складах незалежна ад таго, блізка ці далёка ён быў ад іх.

Але вось мы чытаем дзённік Г. А. Князева, падрабязны, падзённы, і нічога гэтага ў ім няма: «дзесьці каля Вонкавай вёскі» немцам, маўляў, «удалося падпаліць нафтасховішча»... І 9 і 10 верасня — хоць і пра бамбёжкі запісы, але фантазію чалавека ўражвае нейкая драбяза (у па-

раўнанні са складамі і іх значэннем). Зрэшты, і ў гэтай драбязе злавесная сімволіка, іронія вайны.

*«1941.IX.10.* Восемдзесят першы дзень. Высветлілася, што і ўчора ў час вячэрняй трывогі былі ахвяры. Сцярвятнікі бамбілі зноў... заалагічны сад. Загінуў слон. Паводле адных звестак, яго кантузіла выбуховай хваляю, паводле другіх — параніла асколкам бомбы, ён вельмі мучыўся, і яго прыстрэлілі. Два вечары запар няшчасны заалагічны сад перажываў усе жахі сапраўднага пекла».

Так і не знойдзем у запісках Князева нічога пра Бадаеўскія склады. Сапраўды, у яго — малы радыус, сапраўды, ён стараецца «не фіксаваць чуткі». Але гібель складоў, пажар ва ўсё неба, быццам бы бачаны ўсімі, высвятляецца, не стваралі тады такога ўражання, якое яны набылі ва ўспамінах.

Пагроза непасрэднага штурму горада была надта сур'ёзная, перашкаджала думаць пра больш далёкія вынікі і падзеі.

У тых, хто ўспамінае сёння — ужо іншы пункт погляду. Яны ўжо прайшлі праз страшэнны голад, іх месяцамі і гадамі раздзіралі жаль, памяць пра хлеб, які не запаслі, пра цукар, пра крупы, якія загінулі, і таму ім здаецца, што ў першы ж дзень яны ўжо адчулі, усвядомілі значэнне тых пажараў. А вось у дзённіках гэтага няма. У іх няма адбору падзей — нібыта з будучыні. Яны быццам бы негістарычныя. Але ў іх ёсць псіхалогія таго часу, бачанне вайны тымі вачамі, і ў гэтым дзённікі гістарычныя...

Гарэлі не толькі Бадаеўскія склады, гарэлі суседзі — тлушчавы завод, запасы якога таксама нямала значылі блакаднікам Ленінграда. Н і н а  А л я к с а н д р а ў н а  А б к і н а нават упэўнена, што той дым, убачаны ўсімі ленінградцамі, быў ад яе завода... У тыя дні многія свой радыус лічылі асабліва трывожным, значным. Маглі галоўнага і не заўважыць. Але тое, што памятае Н. А. Абкіна, сапраўды адыграла сваю ролю і ў трагедыі, і ў выратаванні Ленінграда.

«— Я як толькі скончыла інстытут і атрымала званне інжынера-тэхнолага, была накіравана (тады ВСНГ * размяркоўваў студэнтаў) сюды, у Ленінград. Таму што мая дыпломная праца была на тэму «Маргарынавы завод», а тут будавалі ў гэты час маргарынавы завод. Адзін улад быў

* ВСНГ — Вышэйшы савет народнай гаспадаркі.

пабудаваны ў Маскве, а другі будаваўся ў Ленінградзе. Ну, мяне сюды і паслалі...

Некалі, пры царызме яшчэ, тут быў завод галоўным чынам на перапрацоўцы айчыннай культуры лёну. Ільняны алей пераварваўся на ільняную аліфу. Многа выраблялі, калі ўжо я пачала працаваць,— дзесяць тысяч тон у год мы гэтай натуральнай аліфы варылі. Даводзілася пашыраць сыравінную базу, і да нас пачалі паступаць то сланечнік, то нейкія іншыя алейныя культуры... Ездзіў у нас адзін дзелавы такі мужычок па Савецкім Саюзе і накіроўваў нам усякія культуры, якія ўтрымліваюць у сабе тлушч. І таму калі нехта з цэнтра прапанаваў нам узяць на перапрацоўку какос, закуплены ў амерыканцаў на Філіпінах, дык нашы з радасцю пагадзіліся, таму што гэта значыла поўную загрузку завода. Купілі, прывезлі ва Уладзівасток, а адтуль па чыгунцы да нас... Мы лічыліся перадавымі, лічылася, што ў нас кадры добрыя і змогуць справіцца з зусім новай культураю. Трэба было перарабіць машыны, зрабіць цэлы шэраг доследаў, і пасля толькі мы змаглі перапрацоўваць гэты какос.

Прывезлі нам дзве тысячы тон. Мы прынялі, паклалі, пачалі працаваць — і на гэтым заспела нас вайна. Ну, першы дзень нападу з паветра па Ленінград — яго ўсе, памойму, хто не памятае, хто забыў, хто не ведае дакладна, як гэта было. Але я памятаю, таму што апынулася ў самай гушчы гэтай справы. Памятаю, мы былі на казарменным становішчы, калі быў першы налёт самалётаў... Я не ведаю, колькі яны скінулі на Бадаеўскія, але на наш завод — я ведаю больш ці менш дакладна, таму што ўсе «хвасты» ад бомбаў, усе стабілізатары прынеслі да мяне. Ну, кінуліся па нявопытнасці тушыць тое, што бачылі, што ўпала на дах (а дахі драўляныя), у цэхі, на кучы вугалю, якім тады ў кацельні палілі, проста на тэрыторыю, а тое, што пранікла ў сярэдзіну пакаў з какосавым арэхам, натуральна, не ўбачылі, а можа, той, хто стаяў каля гэтых складоў, не надта быў уважлівы,— не ведаю, але там убачылі толькі тады, калі ўсе гэтыя пакі з вялізнай колькасцю сухога тлустага насення (тлустасць 70%, вільгаць — 2%),— калі ўсё гэта зацялося і загарэлася такім вогнішчам, якое бачнае было з Красоўскага вострава. Дык вось пра гэты пажар. Мы былі зусім нявопытныя, як я ўжо вам сказала. Я — адна з трох на заводзе, якая мела ружжо, бачыце, не ўмею нават дакладна назваць,— вінтоўку. Яна, трэба сказаць, «цёмная пляма» ў маёй біяграфіі, таму што як толь-

кі сказалі, што над нашым заводам ляцяць самалёты, мы ўсе кінуліся тушыць запальніцы, і я паставіла вінтоўку дзесьці ў кутку — і яна прапала! Вы ўяўляеце!..

— Раскажыце, а як вы тушылі макуху?

— Так, макуху... Заняліся склады, гарэла копра. Копра, канечне, гарэла ў першую чаргу. У нас быў адзін рад складоў з копрай, затым яшчэ рад складоў з копрай, а ўсярэдзіне — будынак, у якім ляжала восемсот тон макухі, і мы пад канец, калі было ўжо відаць, што тут нічога не зробіш, вырашылі ратаваць хоць гэты склад макухі. І вось наш дырэктар Васілій Якаўлевіч Трафімоўскі, вельмі добры чалавек,— ён галоўным чынам і тушыў. Я таксама забрала ў аднаго пажарніка (таму што ён вельмі асцерагаўся гэтага агню, агонь быў неймаверны) кішку, палівала склады, палівала дырэктара, калі на ім дымілася паліто. Ну і на даху ў нас стаяў адзін рабочы, добры такі, і ён палівае. Хтосьці падносіў ваду. Вось такім чынам мы змагаліся супраць гэтай стыхіі.

— Скажыце, а макуху потым у хлеб дабаўлялі?

— Гэтая макуха куды ішла? Я вам баюся дакладна сказаць. На нашым заводзе яна не мела ніякага прымянення. Суседні хлебазавод браў — гэта быў дванаццаты хлебазавод (праз паркан з намі), вось туды ішла макуха. Потым адпускалі жыхарам, і яны яе спажывалі, у тым ліку і мы. І яна, напэўна, выратавала нас ад голаду, таму што мы гэтую макуху секлі, і гэта быў галоўны наш харч. Мы яе смажылі, нейкія скавароднікі рабілі, і вось такім чынам мы жылі. Канечне, нас выратавала не толькі макуха. Усё-такі ў нас было тлушчавае прадпрыемства. Мы маглі гэтую макуху смажыць на нейкім тлушчы, і, такім чынам, у нас не было людзей, якія памерлі з голаду.

— А вы гарэлы гэты алей у армію адпраўлялі?

— Так, мы былі галоўныя пастаўшчыкі тлушчу Ленінградскаму фронту, і тое, што ў нас было, усё, што было перапрацавана на тлушч, пакуль была электраэнергія,— увесь гэты тлушч аддаваўся арміі Ленінградскага фронту. Потым, з нейкім перапынкам, мы зноў вярнуліся да вытворчасці тлушчу для арміі. Гэта быў перапынак прыкладна месяцаў у тры, потым, калі ўжо праклалі па дне Ладажскага возера кабель ад Волхаўскай ГЭС і нам пачалі даваць вельмі эканомна электраэнергію, мы некаторыя цэхі пачалі пускаць — неэнергаёмістыя. Энергаёмістыя цэхі не пускалі да канца вайны, а іншыя цэхі пускалі. Але ўсё гэта магло быць ці тады, калі была электраэнергія — да

6 студзеня 1942 года,— ці пасля трохмесячнага перапынку. На тры месяцы наогул усё ў Ленінградзе замерла. Гэта былі страшныя дні — дні суцэльнага змроку, абсалютнай цішыні, мёртвай цішыні і вельмі высокай смяротнасці...»

Мы распытвалі Ніну Аляксандраўну толькі па справе. Сведчанне Ніны Аляксандраўны датычыць аб'екта важнага, пра лёс якога мы нічога не чулі, нідзе не чыталі. Відаць, у яе расказе і змяшчаецца тлумачэнне таму славутаму дыму, той карціне страшэннага пажару, якая ўвайшла ва ўсе расказы ленінградцаў.

Мы абмяжоўваем сябе выключна гэтай гісторыяй, мы не пытаем Ніну Аляксандраўну пра яе асабістыя страты, пра яе сям'ю. На сцяне вісіць партрэт юнака. Хто ён? Гэта сціплы, але даўно абжыты пакой са старымі, прывычнымі гаспадыні рэчамі — што ён бачыў, як склалася жыццё Ніны. Аляксандраўны ў 1943—1944 гадах?

Нават гэтага мы не высветлілі, таму што адчувалі, ведалі — для кнігі спатрэбіцца толькі гэты кавалачак. У нас ужо быў вопыт. Мы абмяжоўвалі сябе. У гэтым была неабходнасць, можа, нават сумленнасць перад Нінай Аляксандраўнай, але была і жорсткасць. Чалавек далікатны, яна не навязвала нам свае ўспаміны, расказы пра сябе, якія маглі б быць таксама важныя і каштоўныя. І доўга яшчэ згадвалася гэта недаказанасць, гэты пакой у доме паблізу стадыёна Леніна. Такіх недагавораных, нявыслуханых гісторый было нямала, і ад іх назапашвалася горыч і пачуццё віны перад людзьмі, чыю памяць мы так бязлітасна растрывожылі.

Аднак вернемся да падзённых запісак Г. А. Князева.

***«1941.IX.16.*** Восемдзесят сёмы дзень. Усё па парадку.

Раніцаю я ўбачыў на набярэжнай атрады ўзброеных матросаў. Яны ўваходзілі ў пад'езды дамоў. На Няве разгружаўся насупраць нашага дома ваенны транспарт. Высветлілася, што ў вокнах дамоў, што выходзяць на Няву, усталёўваюцца кулямётныя гнёзды. Матросы ўвайшлі і ў наш дом, каб паставіць кулямёты ў кватэрах Карпінскіх, Шчарбацкага, Паўлавай і інш. Па зацемненай лесвіцы хадзілі з мяшкамі пяску чысцютка апранутыя, зусім юныя маракі, верагодна, курсанты. Каля брамы выстраіўся цэлы каравул...

Вярнуўся дадому. Што рабіць?

Дом ператвараецца ў форт ці дот. Хіба можна ў ім заставацца, хоць нашы вокны выходзяць у двор? Не цяпер, вядома, а ў час бою. Але дзе вораг: далёка, блізка? Маракі

дзейнічалі вельмі хутка, нават з месца на месца не пераходзілі, а перабягалі. Вырашылі з М. Ф. часова перабрацца на службу. Калі трэба будзе загінуць, дык хоць на пасту, а не ў якой-небудзь лесвічнай клетцы ці ў бамбасховішчы. Сабралі неабходныя рэчы, паходны ложак, і я адправіўся на службу.

Каля Акадэміі мастацтваў мяне ўразіла тое, што маракі на невялікай адлегласці адзін ад аднаго капалі ямкі, штосьці ўкладвалі туды, зверху клалі цэглу і засыпалі пяском... Акурат насупраць сфінксаў. Няўжо... І сэрца скаланулася.

Цэлы дзень ліў дождж. Дзьме вераснёўскі вецер. Дзесьці ўдалечыні грымелі, вухкалі гарматы. Нягледзячы на нялётнае надвор'е, часта гудзяць прапелеры нашых самалётаў. Увесь горад натапырыўся штыкамі, кулямётамі, агнявымі кропкамі, загародамі. На некаторых вуліцах, на подступах да горада ўзводзяцца барыкады. Ленінград рыхтаваўся да баёў на сваіх вуліцах, плошчах, у дамах. Чаго мы будзем сведкамі? Настаюць найцяжэйшыя дні і гадзіны...

Ноч. Сяджу ў сваім службовым кабінеце ў Архіве. Са мною М. Ф. Яна спіць па маім паходным ложку. Цішыня. Гарыць зацемненая лямпа, кідае святло толькі на гэты аркуш паперы. У кутку на белым фоне сцяны чарнее профіль бюста Леніна. Ці думаў я калі-небудзь, што мне давядзецца ў гэтым утульным службовым кабінеце праводзіць пры такіх выключных абставінах ноч! Услухоўваюся ў цішыню, трывогі не чуваць. Мае дзяжурныя — двое спяць у чытальнай зале, а адзін сядзіць у тым пакоі, дзе тэлефон. На дварэ чорная ноч. Дождж, здаецца, перастаў хвастаць. Але па душы холадна і маркотна.

Бяляўскі паказаў мне падняты ліст на Зяленінай вуліцы каля разбуранага дома. Выбуховая хваля вынесла на вуліцу нечую перапіску і лісткі нейкага рукапісу... Няўжо і з маімі лісткамі здарыцца тое самае?

«Скажыце,— звярнуўся да мяне Бяляўскі,— няўжо ніхто цяпер не вядзе запісаў таго, што адбываецца ў горадзе, як перажываюць людзі падзеі? Як добра было б арганізаваць такі запіс, вызваліць такога чалавека ад іншых абавязкаў; даручыць яму хадзіць па вуліцах; заходзіць ва ўстановы, дамы... Ці не можа гэта рабіць Інстытут літаратуры, напрыклад?» — «Не,— адказаў я,— гэта не ўваходзіць у яго функцыі. У інстытуце — гісторыкі, тэарэтыкі літаратуры, а не пісьменнікі ці бытапісьменнікі...»

Я пі словам не абмовіўся, што такія запісы, наколькі ў мяне хапае сіл і часу, усё-такі вяду, напрыклад, я. Праўда, мае запісы абмяжоўваюцца вельмі малым радыусам і малой колькасцю сустрэч і падзей. Але хто-небудзь, напэўна, запісвае падзеі і перажыванні на значна большым радыусе».

## ДЗЕННІКІ, ДЗЕННІКІ...

Георгій Аляксеевіч Князеў здагадваўся, што пішуць, не могуць не пісаць пра тое, што адбываецца з Ленінградам, з краінаю, са светам, з імі самімі адбываецца, і іншыя ленінградцы. І магчыма, у некага радыус шырэй, не замкнёны на доме, на працы, па невялікім адрэзку набярэжнай Нявы... За «вузкасць» сваіх запісаў Князеў каецца, апраўдваецца, звяртаючыся да магчымага іх чытача, да «далёкага сябра». І, дзе можа, пашырае свой радыус, уводзячы паведамленні з газет, кніг. Нам жа, яго «далёкім сябрам», добра відаць, што значэнне і сіла яго запісаў якраз у замацаванні за пэўным месцам, якое заўсёды назіраецца.

У Юры Рабінкіна ды і ў Лідзіі Георгіеўны Ахапкінай радыус яшчэ вузейшы — яны пішуць пра сябе, пра свой лёс. Вялікую ісціну выказаў Леў Талстой, калі пісаў: чым глыбей у сабе зачэрпнеш, тым патрэбней гэта ўсім!.. Справа не толькі ў шырыні ахопу, колькі ў глыбіні пранікнення. А да дзённікаў і запісаў тых гадоў гэта мае адносіны непасрэдныя і нават асаблівыя. Вось чаму вялізную ўсечалавечую сілу маюць сёння гэтыя вельмі асабістыя, здавалася б, споведзі блакаднай маці і блакаднага хлопчыка, споведзі людзей, якія сябе і іншых пазнавалі, адкрываючы да тэрміну бездань і вяршыні чалавечага існавання...

Больш за ўсё, страшней за ўсё запомніўся Л. Г. Ахапкінай паветраны налёт 8 верасня 1941 года.

«Гэта было 8 верасня 1941 года. Калі пачалася трывога, я пабегла ў бамбасховішча, але не дабегла, а схавалася ў пад’ездзе камяніцы. Я стаяла і калацілася ад страху. Адна жанчына запрасіла мяне да сябе. Яна жыла па другім паверсе. Толькі мы падняліся па лесвіцы і ўвайшлі ў кватэру, як пачулі страшэнны выбух з неапісальным грукатам і шквалам агню. Роў матораў усіх нас аглушыў. Недзе непадалёку раздаваліся выбухі бомбаў. Усё паветра,

усё навокал трашчала, гудзела. Наш дом увесь дрыжаў. Здавалася, што і зямля б'ецца ў сутаргах, як падчас землетрасення. У мяне ад страху ляскалі зубы, трэсліся калені. Я забілася некуды ў куток, прыціснуўшы дзяцей да сябе. Яны ад перапалоху плакалі. Мне здавалася, што я мінутамі губляю прытомнасць. Я думала, што вось канец, вось зараз на нас упадзе бомба і мы ўсе загінем. Усе мы стаялі як асуджаныя на смерць. Гаспадыня кватэры стаяла з разяўленым ротам і шырока расплюшчанымі вачамі, нешта шаптала. Старэнькая яе маці ўпала на калені і хрысцілася. А дзеці яе, крыху старэйшыя за маіх, таксама плакалі. Мы жылі на Волкавым праспекце, непадалёк ад чыгункі і зусім блізка ад лініі фронту. Таму там было куды небяспечней, чым, напрыклад, на Васільеўскім востраве ці на Выбаргскай старане, увогуле з таго боку Нявы. Гэты налёт працягваўся доўга. Я ўжо думала, што мы не пераажывём. За гэту ноч у мяне з'явіліся сівыя валасы.

Я вырашыла, што заставацца жыць тут больш нельга, тым больш што недалёка ад нашага дому ўначы былі разбураны дамы. Раніцою дымiліся руіны. Бэлькі тырчалі як вялізныя крыжы над людзьмі, якіх заваліла...

...Я паехала на Петраградскую да Шурынай жонкі, якая жыла недалёка ад Кіраўскага праспекта. У яе таксама была маленькая дачка. Я думала, што мы адна адну зразумеем, тым больш, яна жыла на першым паверсе, а тады гэта было выгадней і бяспечней. Калі я да яе прыехала, усё ёй расказала. Яна згадзілася; толькі, каб начаваць, трэба ўзяць дазвол у міліцыі. Мне давялося доўга там чакаць.

У Іны я пражыла ўсяго два дні. Да яе прыехала маці з прыгарада, нам стала цесна, і маці была незадаволена, і я зноў паехала дамоў у Волкаву вёску.

З нашага дому выехалі ледзь не ўсе насельнікі, хто эвакуіраваўся з Ленінграда, а хто пераехаў жыць у цэнтр горада да сваякоў альбо знаёмых. Дах нашага дома згарэў, і на другім паверсе ўжо ніхто не жыў. Я жыла на першым паверсе. Там яшчэ засталіся дзве сям'і. Я жыла ў страху за дзяцей і як асуджаная на смерць. Ад кожнае бамбёжкі чакала гібелі. Але аднаго разу прыехала камісія ад райсавета і прапанавала выехаць у іншы раён, сказалі, што раніцою будуць пададзены трамваі і нас усіх, хто жыў у Волкавай вёсцы, перавязуць. Нас перавезлі на Васільеўскі востраў, потым праз В. В. райсавет мне далі пакой, вузенькі, 8—9 метраў, на 1-й лініі, на трэцім паверсе, дзе

я пасля і жыла з дзецьмі. Гэта было чысла 20—23 верасня. Трывогі і паветраныя палёты працягваліся, і я з дзецьмі бегала ў падвал, дзе было абсталявана бамбасховішча. Але потым перастала туды хадзіць, таму што пераканалася, што калі здарыцца прамое пападанне, дык усё роўна не выратуешся. А пасля трывогі пачыналіся часцей вечарам, гадзін у 8—10, дзеці ўжо спалі, і іх цяжка было сабраць. Толік спаў у адзенні, як і я, нават у зімовым паліто, у чаравіках. Яго цяжка было падняць. Адзін раз я яго будзіла, каб хутчэй бегчы. Ён толькі што заснуў і не хацеў уставаць і скрозь слёзы казаў: «Не найду я, няхай мяне соннага заб’юць, мне не будзе балюча. Не хачу я, не хачу нікуды». Мне чуць гэта было нязносна... З тых пор я перастала хадзіць у падвал.

...Я ўжо і не памятаю, калі мыла дзяцей. Лазні працавалі з вялікімі перапынкамі. І з-за трывог небяспечна было хадзіць. Я надумалася памыць дзяцей дома. Калі я раздзела Толіка, дык убачыла, што яго цела ўсё ў больках і раздрапанае. У яго была кароста, якую ён падхапіў, калі быў у ад’ездзе. Я пайшла ў аптэку. Мазі ад каросты не было, і мне далі сінькі. Але перш чым памазаць яго, трэба было памыць, як толькі ўдасца, гарачай вадою. Адзін раз падчас такое працэдуры — ледзь не ноч ужо была — ён голенькі стаяў у круглым тазіку, і я яго мыла такой гарачай вадою, што ў самой ледзьве цярпелі рукі. Ён крычаў. Раптам абвясцілі паветраную трывогу. У акно нашага пакоя ў гэты ж міг нібыта ўляцела агнявая ўспышка. Стары дыван, якім завешана было акно, упаў. Шыбіны разбіліся на друзачкі. Усё гэта здарылася ў адно імгненне. А па вуліцы я пачула аглушальныя выбухі. Галасна закрычалі дзеці. Я спачатку схапіла Тольку, голага, мокрага, амаль што кінула яго ў калідор на падлогу, потым пабегла за дачкою. Прыціснула іх да сябе недзе ў кутку калідора. Думаю, ну калі ж гэта ўсё скончыцца, няўжо не будзе канца? «Звяры, паскуды»,— лаяла немцаў. Раніцай, калі я пайшла па хлеб, убачыла, што адна палова дома, які стаіць насупраць нашага, разбурана, на другой, уцалелай, сцены абклеены living рознымі шпалерамі: ружовага, блакітнага і зялёнага колеру, у кветачкі і палоскі. І што было дзіўна — у адным квадраце вісеў вялікі гадзіннік і яшчэ нават хадзіў».

Але ўсё роўна Лідзія Георгіеўна кожны вечар мыла і змазвала Толіка і вылечыла яго, хоць, калі наступаў час мыць, страшэнна нервавалася...

Дзённікі пачалі весці параўнальна многія ленінградцы. Магчыма, такое адбывалася ў пачатку вайны і ў іншых прыфрантавых гарадах, не ведаем. Але ў Ленінградзе з'ява гэтая сапраўды заслугоўвае ўвагі. У першыя дні вайны работніца бальніцы імя Соф'і Пяроўскай Фаіна Аляксандраўна Прусава дае свайму сыну, студэнту-медыку, агульны сшытак і просіць запісваць тое, што будзе адбывацца з ім і з усімі. І сама ўзялася пісаць ваенны дзённік. Яны захаваліся, абодва дзённікі, маці і сына. Дзённікаў уцалела, на здзіўленне, многа, хоць гэта, канечне, мізэрная частка таго, што было.

Колькі іх, гэтых дзённікаў, усё больш трацілі свой першапачатковы характар акуратных, старанных запісаў, па меры таго як пасоўваліся цемра, голад, холад, смерці. Быццам бы няцяжкі занятак — пісаць — цяпер станавіўся непасільнай працаю, подзвігам чалавечага духу. А колькі такіх нататак было размерена выбухамі, згарэла ў блакадных пажарах, загінула пасля вайны — адны ў самым Ленінградзе, другія недзе ў далёкай эвакуацыі. Марына Аляксандраўна Ткачова захавала перапісаны ад рукі яе цёткаю дзённік невядомай блакадніцы і прывезла яго ў Ленінград з Яраслаўля. У канцы зроблена такая прыпіска: «Гэтыя сшыткі былі знойдзены ў стале аднон установы ў г. Яраслаўлі». Адзін са служачых знайшоў іх у стале і пагардліва адкінуў. Іх падабрала другая служачая і, паглядзеўшы спехам падчас перапынку і ўбачыўшы, што гэта дзённік жанчыны, якая перажыла галодную зіму 1941 г. у Ленінградзе, узяла іх сабе. Дома, прачытаўшы, яна даведалася, што аўтар — сваячка яе блізкіх знаёмых. У часе роспытаў высветлілася, што ўстанова гэтая запяла памяшканне былога стацыянара для эвакуіраваных, у якім памерла аўтарка дзённікаў.

І дзённік Юры Рабінкіна — абгарэлы агульны сшытак — апынуўся ў руках чулага чалавека, медсястры Р. І. Трыфанавай, і быў захаваны.

Тут таксама былі свае выратавальнікі...

Некаторыя блакаднікі пачалі пісаць, запісваць перажытае, як толькі вырваліся за кальцо. Альбо хутка пасля вайны — «па свежых слядах». Да машынапісных «Нататак аб блакадзе Ленінграда» Л. Д. Б а р а н а в а й зроблена заўвага: «Паводле настойлівай просьбы друга ўсяго майго жыцця Надзеі Васільеўны Разанавай-Верашчагінай зроблены гэтыя запіскі ў 1942—43 гадах пасля вяртання ў Маскву з блакіраванага Ленінграда».

Т. В. Рабініна свой маленькі блакадны дзённік дапоўніла запісамі па памяці, строга раздзяліўшы тое і другое. А прычына таго, што дзённік атрымаўся занадта лаканічны і няпоўны, ёю не і растлумачана:

«Я шкадую цяпер, што так скупа пісала, але гэта ў значнай ступені залежала ад таго, што нельга было пісаць падрабязна. Дзесяткі плакатаў і адозваў заклікалі нас да пільнасці, таксама як і да стойкасці, мужнасці, згуртаванасці. Усюды сцены былі аблеплены заклікамі, карыкатурамі, плакатамі. Тут быў і «наследнік трона расійскага» Кірыл у выглядзе каранаванай малпы, і абывацель — аматар чутак з вялізнымі вушамі, і рабочы, што заклікае працаваць, не схіляючыся перад цяжкасцямі, і жанчына, што павінна замяніць мужчыну на вытворчасці,— усяго не пералічыш. Мноства лістовак расклейвалі ў дамах, на брамах, раздавалі ў домакіраўніцтвах. Іх чыталі, вельмі чыталі, і яны, несумненна, адыгралі вялікую ролю.

А пра пільнасць, пра асцярожнасць нам гаварылі на кожным кроку. На вуліцах патрулі правяралі дакументы, без пашпарта нельга было хадзіць, таму што ў любы момант маглі спыніць і патрабаваць яго. Нельга было паказваць дарогу ні да якіх «аб’ектаў» — заводаў, мастоў і г. д., нельга было ні выслухоўваць, ні даваць якія-небудзь звесткі пра пацярпеўшыя дамы, пра колькасць ахвяр, пра месца падзення бомбаў, таму што ўсё гэта давала арыенціроўку ворагу. Спытаць, «як прайсці туды і туды?», значыла атрымаць у адказ «не ведаю» і што гэтыя словы будуць яшчэ суправаджацца падазроным поглядам. Я сама адказвала «не ведаю» незнаёмым людзям на якое-небудзь нязначнае пытанне. Асабліва мы зрабіліся асцярожнымі пасля таго, як у двух кроках ад нас з дапамогаю сабаксышчыкаў злавілі двух дыверсантаў, якія хаваліся ў зачыненым ларку «Утыльсыравіна». Гэта ім мы абавязаны першай бомбаю, што ўпала на дом № 4/3 восьмага верасня, гэта яны давалі сігналы тымі прыгожымі зялёнымі ракеткамі, якімі мы па сваёй дурноце захапляліся ў першую ноч бамбёжкі*. Яны сядзелі ў сваім ларку тыдняў два, і за гэты час бомбы не раз сыпаліся каля нас. Я не бачыла, як іх выкрылі, але бачыла натоўп людзей, што іх пра-

* Расказы пра ракетчыкаў былі характэрнымі для тых дзён чуткамі, падчас моцна перабольшанымі, што і зразумела ў тых умовах. Не раз, калі мы спрабавалі высветліць падрабязнасці, дык пераконваліся, што выпадак не пацвярджаецца.

водзіў. Якое-небудзь незацемненае акно выклікала выбух абурэння і падазронасці».

І вось Т. В. Рабінінай давялося па памяці дапоўніць свае нататкі ваенных гадоў — ужо ў пачатку 50-х.

Пазней вярталіся да сваіх запісаў і некаторыя іншыя блакаднікі. Напрыклад, дзённік Фаіны Аляксандраўны Прусавай мае дублікат: яна сама ў 1951 годзе перапісала свой дзённік з разрозненых шматкоў паперы ў агульны сшытак. Копію зрабіла «Для Дзімы» (унука) з усёй бабулінай стараннасцю: з фатаграфіямі, выразкамі з газет, фотакопіямі блакадных малюнкаў сына Барыса і г. д.

У архіве Вольгі Фёдараўны Бергольц засталася тоўстая папка з надпісам: «Выпіскі з дзённікаў». Там перадрукаваныя на машынцы ўрыўкі з блакадных дзённікаў самых розных людзей — настаўнікаў, партыйных і савецкіх работнікаў, урачоў, шафёраў. Вольга Фёдараўна збірала сапраўдныя дакументы тых гадоў для сваёй кнігі «Дзённыя зоры» — данясенні бытавых атрадаў, зводкі райкомаў камсамола, газетныя выразкі,— рабіла выпіскі з дзённікаў. Дзе тыя дзённікі — невядома. Але цікава, як многа было іх у яе распараджэнні ў першыя пасляваенныя гады. Ды і да нас праз трыццаць гадоў дайшло нямала. Матэрыял, адабраны Вольгай Фёдараўнай, сапраўды ўражвае, і мы дазволілі сабе прыводзіць выпіскі (з дазволу Марыі Фёдараўны, сястры Вольгі Бергольц).

Выпіска з дзённіка загадчыцы навучальнай часткі 239-й сярэдняй школы К. У. Ползікавай-Рубец.

«***11\XI.41 г.*** Бамбасховішчы настолькі ўвайшлі ў быт, што без іх многія не ўяўлялі сабе горада. Старэнькая жанчына ў чарзе: «Разбамбілі на Фантанны папскі дом, там і цяпер ніхто не жыў і раней кватэр не было. Жылі там адны паны, графы. А тата ж мой быў у іх старшым дворнікам. Дворніцкая была ўтульная, светлая. І як цяпер памятаю: налева канюшні і карэтная павець, направа — падвал. А вось дзе было бамбасховішча, ніяк не магу прыгадаць, дзяўчынкай я ж тады была». Пад дружны рогат чаргі старэнькая ніяк не магла ўцяміць, што ў тыя часы ні бомбаў, ні сховішчаў не было.

***28\II. 42 г.*** Хочацца запісаць пра найпрыгажэйшае і найстрашнейшае відовішча аднаго з кастрычніцкіх вечароў. Я ў Лураў-Мураў. Вые сірэна, і Лур уладарна патрабуе, каб мы спусціліся ў бамбасховішча. Мур знікае ў штабе, а Лур сядзіць са мною. Пасля ён выходзіць на вуліцу, вяртаецца і кажа: «Скінуў запальныя ў раёне Нар-

дома». Праз гадзіну адбой, і мы выходзім на набярэжную. Тут так светла, што можна чытаць газетны шрыфт. Амерыканскія горы быццам бы ілюмінаваны яркім белым, нібы электрычным, святлом, месцамі асвятленне такое яркае, што відаць рэйкі, па якіх калісьці спускаліся ваганеткі. Горы гэтыя высяцца на фоне вялізнага цёмна-чырвонага мора агню. Полымя шырыцца. Цёмнае воблака дыму навісла над гэтым гіганцкім вогнішчам. Часам відаць струю брандспойта, але, здаецца, яна не мае ўздзеяння. Нява ўся зіхаціць, у ёй адбіваецца то крывава-чырвоны агонь, то асляпляльна-яркі, белы. Крэпасць і Тамонаўская біржа — цудоўныя, такія цудоўныя, як не былі ніколі ні ў адну ілюмінацыю. Усе тры масты бачныя да найдрабнейшых дэталяў. Відовішча незабыўнае па яго страшнай прыгажосці, менавіта страшнай, ад слова «страх». Штосьці ёсць, што нагадвае Брулову «Гібель Пампеі»...»

Вернемся, аднак, на «малы радыус» Г. А. Князева. 19 верасня ён запісвае:

«Не разумею, што адбываецца. 15-га ў мяне было ўражанне, што непрыяцеля чакалі на вуліцах горада. Паехаў начаваць у Архіў, каб разам з ім раздзяліць яго лёс. 16-га падбадзёрыўся. Усе казалі, што непрыяцель адагнаны, што наша авіяцыя ўзмоцнена, што кальцо акружэння размыкаецца звонку... 18-га гэтай ілюзіі быў пакладзены канец гадзінным разлютаваным абстрэлам горада!..

***1941.IX.21.*** Дзевяноста другі дзень. Тры месяцы вайны. Апошні. 13-ты тыдзень для нас, ленінградцаў, быў самы цяжкі. Прыгадваю цяпер асобныя эпізоды і, калі б не вёў запісы, не мог бы аднавіць па памяці, калі і што было ў дакладнасці. Ёсць такія моманты, якія ўразаюцца ў памяць, як таўро распаленым жалезам, але калі гэта было ў шэрагу іншых падзей, устанавіць можна не адразу. Вось гэтыя моманты ўражанняў. Пажар будынка Сената, «скачок» нашага дома ўверх і ўніз падчас падзення дзвюх бомбаў, свіст артылерыйскіх снарадаў над Архівам, цёмны бюст Леніна на фоне ледзь-ледзь асветленай сцяны ў кабінеце на службе ў час начоўкі там... Засяроджана-маўклівы, але поўны ўнутранае сілы погляд Шахматавай, калі блізка, блізка ад яе праляцеў снарад; маракі, што бягуць у пад'езды, каб устанавіць агнявыя кропкі, і шмат іншага. Усё гэта ўражанні апошняга тыдня. Іх багата, і гэтак дзіўна размясціліся яны ў мазгу — не ў храналагічным, а ў нейкім мудрагелістым парадку.

Што ж адбываецца? Ніхто нічога толкам з нас не ве-

дае. Вораг каля варот. Недзе блізка. Але дзе? Людзі разгублена глядзяць адзін на аднаго, але рэдка хто-небудзь задае пытанне. У газеце аншлагі: «Умацаваць усе падыходы да Ленінграда. Калануюю заставу, плошчу, вуліцу і завулак ператварыць у бастыёны і крэпасці, зрабіць непрыступнымі для ворага...», «Ленінградцы рашаюць адну задачу — адстаяць горад, разграміць ворага...», «Перагарадзіць ворагу ўсе шляхі ў горад...», «На кожным кроку ворага павінна чакаць смерць, а яго тэхніку — знішчэнне». Газета поўная вытрымак з твораў Леніна і іншых аўтараў аб тым, як весці грамадзянскую вайну, будаваць барыкады...

Але расшчапіць кальцо можна толькі звонку, а калі гэтага не здарыцца, тады застанецца толькі памерці, абараняючы родны горад. Старыя рабочыя Абухаўскага завода запэўніваюць: «Выбар цяпер у нас толькі адзін: «Смерць альбо перамога, воля ці рабства! Ні кроку назад... Альбо перамога, альбо смерць!»

Прапаведуецца бясстрашша перад смерцю, бязлітасна бічуюцца баязлівасць, маладушнасць. «Гэтым смерці не пазбегнуць. Яна ўсё роўна прыйдзе, але толькі смерць ганебная, што будзе суправаджацца кпінамі і здзекамі канвойных і катаў...» Гэтае месца цытуюць газеты з парад генерала Камуны Клюзерэ...

Значыць, апафеоз гераічнае смерці — вось лозунг гэтых дзён. Калі не пераможам, дык памрэм...

Адступаць болей няма куды!

Перадаюць цікавую размову з прафесарам матэматыкі, спецыялістам па тэорыі імавернасцей. У кожнага ленінградца адзін трохмільённы шанц быць забітым ці параненым. Зусім мізэрная велічыня, якою спакойна можна пагрэбаваць. Але ў той самы час у Ленінградзе быў адзіны слон, і менавіта гэты адзіны слон забіты пры бамбёжцы горада!.. Вось вам і тэорыя імавернасці 1 : 3 000 000 і 1 : 1...

Газеты запоўнены паведамленнямі пра нямецкія зверствы. Калі б сабраць іх і сістэматызаваць, дык жахлівейшай аповесці не выдумаеш.

***1941.IX.22.*** Дзевяноста трэці дзень. Дарагі мой далёкі сябар, ці трэба ведаць табе, што я цяпер чытаю?.. Калі я страчу М. Ф., убачу разбураным і разгромленым мой горад, знішчаным давераны мне Архіў, дык навошта мне жыць?.. Але як пакінуць жыццё, калі я не буду забіты? Высвятляецца, што цераз павешанне найлягчэй, непрыгожы канец, але надзейны. Вось зараз я ўзяў энцыклапе-

дычны слоўнік і чытаю: «Пятля, што зашморгваецца пры павешанні цяжарам цела, кладзецца звычайна вышэй шчытападобнага храстка і душыць спераду назад і з бакоў, адначасова з закрыццём дыхальнае трубкі сціскае вялікія шыйныя сасуды і блукаючы нерв. Дзякуючы гэтаму імгненна ці праз некалькі секунд наступае поўная непрытомнасць ад спынення мазгавога кровазвароту...» Гэта ў будучыні, а пакуль я не трачу ні прысутнасці духу, ні бадзёрасці. Да канца выконваю свой грамадзянскі абавязак на сваім адказным пасту».

У Юры Рабінкіна ў гэтыя дні паўстае праблема, у якой мы, на жаль, да канца так і не можам разабрацца, ён і ў дзённіку не адважваецца прызнацца. Праблема, дзе зноўтакі спалучылася і дзіцячае і падлеткавае, праўдзівае і мітуслівае. Але ў гэтым якраз і праступае характар гэтага хлапчука, зусім не ўзорна-станоўчага, хлапчука са сваімі захапленнямі, фантазіямі, завіхрэннямі, часам занадта патрабавальнага, хісткага, недаверлівага, самалюбнага. Шмат чаго ламалася, перабудоўвалася ў гэтым неўсталяваным характары. Ён сталеў хутка. Калі ўважліва ўчытвацца ў некаторыя запісы, дык відаць, што яго сталенне адбывалася не за кошт падзей — яны самі па сабе розуму не дадавалі,— але перш за ўсё таму, што Юра думаў. Ён думаў і пра тое, што рабілася вакол, і пра тое, што адбывалася ў ім самім, сачыў за сабою, патрабаваў ад сябе. Вартая ўвагі ў гэтым сэнсе дробная, здавалася б, гісторыя гульні ў карты. Юра гуляе з хлапечым захапленнем, як раптам заўважае, што ў ім расце азарт; ён аналізуе гэтае новае небяспечнае пачуццё і выяўляе ў сабе іграка. І спыняецца. Карты, вайна, блакада, грошы — усё суседнічае з горкаю верагоднасцю. Падлеткі блукалі па школе, не ведаючы, куды сябе падзець. Заняткі не пачыналіся, гэта былі крытычныя дні змагання пад Ленінградам — 15, 18, 17, 18 верасня 1941 года. Паў горад Пушкін, нямецкія часці падышлі да Пулкаўскае гары, лёс горада вырашалі лічаныя гадзіны, вырашалі асобныя роты, батальёны, батарэі... Аднаму з нас у тыя дні давялося прайсці ўвесь шлях адступлення: здачу Пушкіна, адыход пад бамбёжкаю — міма Шушар, міма Пулкава — да Ленінграда, да Сярэдняй Рагаткі... Тады здавалася, што вораг вось-вось уварвецца ў горад і пачнуцца вулічныя баі.

***«15 верасня.*** Сёння раніцаю рашыў: у спецшколу не па-

назвацца. Прычыну тут пісаць не буду. Я не ведаю, чаго каштавала мне гэтае рашэнне. У мяне і цяпер слёзы стаяць у вачах, але я ўсё адцягваў з гэтым. Цяпер гэта скончана. Зрэшты, не ведаю. Гэта ж які ўдар маме! І разам з тым я ведаю, што рашэнне правільнае.

Калі я сказаў пра гэта маме, яна стала дашуквацца прычын. Я вырашыў маўчаць. Але гэта мне не ўдалося. Тады пачаў выкручвацца: маўляў, школа не спадабалася. А ў яе адразу ж з'явіліся недарэчныя падазрэнні: а ці не баюся я, што мяне могуць накіраваць на фронт, і яшчэ нешта ў гэтым сэнсе.

...Я вельмі добра бачу, што мне пагражае. Надта добра. Але я вельмі добра бачу, што я зраблю гэтым маме. І я не магу вырашыць: ці ахвяраваць сабою дзеля яе, ці застацца пры сваім рашэнні. Два выйсці, але з іх трэба выбраць адно.

Цяжка, пакутліва развітвацца са сваёю мараю... Што зробіш? Будзем да гэтага ставіцца цынічна, а раптам і будзе які-небудзь толк.

На «а раптам» разлічваць ніколі ў жыцці не буду. Аднаго разу ўжо было такое. Гэты дзённік я пішу сабе, і таму тут можна казаць усё — дык вось аднаго разу я падхапіў вошы. Тады я вучыўся ў школе. І паклікалі наш клас на праверку да ўрача — ці ёсць у каго вошы. І я, дурань, таксама пайшоў. Паспадзяваўся — «а раптам» не заўважаць маіх. Ну і знайшлі. Колькі сораму было! А ўсё з-за чаго? Ды з-за майго бязглуздага рашэння — «а раптам». Трэба было тады неяк выкруціцца ад агляду, выслізнуць.

Чым мне цяпер займацца? Што рабіць? Ісці на завод? У пажарную каманду пры школе? Ці заставацца так?

Як высвятляецца, у мяне ўжо ёсць тры рашэнні. Думаю, я буду вывучаць курс 9-га класа сам. Напружуся: вывучу. Здам экзамены пасля вайны і перайду ў 10-ты клас. Так будзе лепш. А зрэшты, не ведаю. Нікому з нас не перажыць гэтае вайны. Цяпер пакуль яшчэ толькі бутончыкі, кветачак яшчэ не бачылі. А калі немцы прыменяць атрутныя рэчывы ды бактэрыі?..

Ну ды ўсё роўна. Жылі перад намі мільярды людзей, будуць жыць і пасля нас... Трэба ж некаму з іх быць няўдачлівымі ў жыцці..

Цяпер толькі першая гадзіна апоўдні.

Сёння яшчэ раз быў у мамы. Разам з мамай вярнуўся дадому. На ноч пайшлі да качагара. Сёння вечарам атрымалі два лісты ад Ціны. Піша, што яе эвакапункт мяняе

сваё месцаразмяшчэнне і згортваецца ў невядомым кірунку.

Мама казала, што па Ленінградзе біў з гармат дэсант, які цяпер выбілі нашы маракі. Не надта гэтаму веру. Кажуць, што Пулкава пераходзіць з рук у рукі і цяпер там немцы. Лігава таксама ўзятае. Паводле газетных звестак, узяты г. Крамянчуг — значыць, немцы фарсіравалі р. Днепр. Ой якія дрэнныя справы ў нас. З порта ў абком прыходзілі людзі, расказвалі, што порт моцна пацярпеў ад налётаў германскае авіяцыі.

Цяпер над Ленінградам, куды ні паглядзі, усюды лётаюць «ястрабкі». Столькі іх, што за дзень не пералічыць.

Трывога заўсёды падаецца ў нас са спазненнем. Спярша пачуем страляніну зенітак, а пасля ўжо праз мінутупаўтары загудзе сірэна.

Вельмі даўно не быў у кіно. Вядома, трэба б паглядзець «Кінарэпартаж з фронту» і які-небудзь мастацкі фільм. З гора пачаў зноў пісаць. Цікавая падрабязнасць: чым больш я заняты справаю, тым менш пішу ў дзённіку.

***16 верасня.*** Сёння я зрабіў жахлівую рэч — згубіў 30 (!!) рублёў. 30 (!!) рублёў. Мама дала мне іх на алей (у яе не было драбнейшых грошай), а я іх згубіў... Цяпер увесь дзень я быў засмучаны гэтым. Грошай і без гэтага засталося — кот наплакаў, а я яшчэ губляю па столькі рублёў.

І надвор’е таксама падводзіць. Ідзе дождж, пахмурна. Аднак за дзень было ўжо тры трывогі. Цяпер — палова пятай. Быў у мамы ў фондзе. Там мітусня — знішчаюць усе паперы. Усе, якія ёсць. Мама яшчэ, апрача ўсяго, навяла і на мяне паніку — загадала перагледзець і падрыхтаваць процівагазы.

Палова пятай. Непадалёк ад нашага дома чуваць моцныя гукі разрываў артылерыйскіх снарадаў. Паводле слоў В. Нікіціна, немцы за 15 км ад Ленінграда. Я думаю — бліжэй.

Увечар да мамы прыходзіла Бушуева з Сасновае паляны. Распавядала пра ўсялякія там жахі. Ёсць навіны і добрыя: напрыклад, пад Ленінградам і ў Ленінградзе сканцэнтравана каля 200 000 войска; з Амерыкі і Англіі дастаўлена каля 1000 самалётаў. Цяпер над горадам увесь час лётаюць «ястрабкі». Кажуць, што аголены іншыя франты, а войска кінута да Ленінграда, войска ідзе нават з Сібіры. Ленінград у германскім акружэнні, а мы самі хочам акружыць немцаў. Ёсць і дрэнныя навіны. Узята Лі-

гава (12 км ад горада), усе дарогі да Лігава ўсеяныя нямецкімі танкамі, войскамі. Немцы кінулі на Ленінград вялікую колькасць сваіх часцей. В.* паранены. Але ўсё гэта неафіцыйна.

***17 верасня.*** Сёння вечарам адбылася важная падзея. У нашу кватэру ўсяляецца кіраўнік будтрэста. Нейкі І. з жонкаю з Маскоўскага раёна. Сёння перацягалі да нас яго рэчы. Заўтра і сам, відаць, з'явіцца. Маме паабяцалі карыстанне іхнім бамбасховішчам і сталоўкаю. Не ведаю, як гэта атрымаецца.

У Інфармбюро (паведамленні) сказана, што немцы рыхтуюць інтэнсіўны налёт на г. Ленінград.

***18 верасня.*** Сёння быў у Фінкельштэйна. Дамовіліся з ім пра дзяжурствы ў школе. Заўтра з 8 вечара да 8 раніцы. Выйшаў загад аб вайсковай падрыхтоўцы мужчын пачынаючы з 16 гадоў. У першую чаргу ідуць, аднак, 17- і 18-гадовыя. Вечарам выйшаў новы загад. У ім гаварылася, што ў Ленінградзе пачаліся вулічныя баі, што ўсе ад 16 гадоў (мужчыны) і ад 18 гадоў (жанчыны) павінны ісці на барыкады. Ну і падзеі!

Немцы зноў абстрэльвалі горад з гармат. Быў абстраляны Неўскі, масты, Фрунзенскі раён.

Барыкадамі не пратрымацца. Састарэлі. Сучасная вайна патрабуе авіяцыі, танкаў, гармат, а барыкады? Цьфу!..

Цяпер, напэўна, немцы прыменяць атрутныя рэчывы. У Ленінградзе столькі народу ў арміі, што калі немцам прымяняць у гэтую вайну газы, дык толькі цяпер. Дзве справы зробяць: Ленінград возьмуць і столькі войска пакладуць. А ў немцаў, напэўна, ёсць такія атрутныя рэчывы, якія нам яшчэ невядомыя, і нашы процівагазы не выратуюць ад іх. Як жа пачалася вайна? Колькі немцаў было сканцэнтравана на граніцы... А мы і ў нос не чулі, што вайна блізка. Таксама будзе і з гэтымі атрутнымі рэчывамі.

Ну добра, аблягчыў сваю душу гэтымі радкамі — і «досыць».

Юра Рабінкін мітусіцца, абвінавачвае ўсё і ўсіх, ён пазбаўлены супакойлівай сілы дзеяння, адказнасці. Яму няма куды сябе падзець, няма на што накіроўваць сваю энергію. Асаблівасць Ленінградскага фронту не давала ў тыя дні многім падлеткам, школьнікам магчымасці чым-небудзь дапамагчы арміі. Ён адчувае небяспеку, хоць не ведае падрабязнасцяў і маштабаў бяды, што насоўваецца.

* Відаць, Юра мае на ўвазе К. Я. Варашылава.

***22 верасня...*** Навіны з фронту надзвычай дрэнныя. Паў Кіеў. Гэта значыць, што трэць нямецкага плана выканана. Няўжо немцаў не адкінуць ад Ленінграда? Усюды кажуць, што Ленінград акружаны немцамі, а немцы акружаны сібірскай арміяй пад камандаваннем Куліка. Хлопцы ў школе жартуюць: «Кулік немцаў цісне, немцы нас ціснуць. Урэшце Кулік так на немцаў націсне, што яны ў «паніцы» ўварвуцца ў Ленінград».

Дзесяць вінтовак на ўвесь батальён,
У кожнай вінтоўцы апошні патрон...

Кажуць, што гэта песня сапраўдная (...). Не ведаю, ці гэта так. Больш цяпер чуткам не веру.

***23 і 24 верасня.*** Дзяжурыў у школе. Асаблівага нічога не здарылася. Навучыўся гуляць у каня, у дзесятку. Надта інтэнсіўных налётаў германскай авіяцыі на Ленінград не было. Праўда, учора было 13 трывог, але не бамбілі.

Зменшаны паёк на мяса і яшчэ на нешта.

У спецшколу на медагляд не хадзіў. Не ведаю, ці пайду наогул. Хто ведае?

***25 верасня.*** Сёння я канчаткова рашыў, што мне рабіць. У спецшколу не іду. Атрымліваю пашпарт. Застаюся ў школьнай камандзе. Прашу маму эвакуіравацца, каб мець магчымасць вучыцца. Пакуль што езджу на акопы. Праз год мяне бяруць у армію. Заб’юць — не заб’юць. Пасля вайны іду ў караблебудаўнічы інстытут альбо на гістарычны факультэт. Адначасна буду зарабляць фізічнай працаю колькі здолею. Значыць, прэч палітыку хістання! Сёння іду ў школу да 8-мі. Калі мама прыйдзе раней, скажу ёй пра маё рашэнне. Усе астатнія варыянты я абдумаў і адмовіўся ад іх.

Апрача таго: вырашыў траціць сабе на ежу, пачынаючы з заўтрашняга дня, па 2 рублі ці па 1,5.

Маё рашэнне — моцны ўдар для мяне, але яно выратуе і ад другога, яшчэ больш моцнага ўдару. А калі смерць, калецтва — дык усё роўна. Але якраз гэта і будзе мне, напэўна. Калі калецтва — кончу самагубствам, а смерць — дзвюм не бываць. Добра, вельмі добра, што ў мамы ёсць яшчэ Іра.

Значыць, з-за боязі паставіць на карту гонар я паставіў на карту жыццё. Пышная фраза, але справядлівая.

***26 верасня.*** На маё рашэнне з’явіліся новыя фактары. Адкуль мама ўзяла, не ведаю, але яна кажа, што з 1 кастрычніка ўсіх з 16 гадоў возьмуць у рабочыя атрады. Калі

я сказаў ёй, што ў спецшколу не пайду, адбылася цэлая сцэна. Прасіла, каб я ішоў...

Добра, усё адно... У спецшколу іду, каб супакоіць маму (па 1 дзень), а яна, бедная, і не ведае, што гэта за супакаенне будзе.

У зводках нічога асаблівага. Чуткам не веру. Учора зноў быў абстрэл горада».

Можа, Юра не хацеў ісці ў спецшколу з-за медагляду? Баяўся, што прызнаюць няздатным? Саромеўся свайго слабога здароўя? Слабога зроку? Ён хаваў сваё нездароўе ад усіх. Такая амаль хваравітая фанабэрыстасць альбо самалюбства цалкам у характары гэтага падлетка.

***«1 і 2 кастрычніка.*** У апошнія дні нейк даволі моцна праявіліся ў маім характары ўпартасць і гордасць. Думаю, што ад няспынных хваляванняў. Здадзена Палтава, больш нічога асаблівага не ведаю. Закончылася канферэнцыя ЗША, Англіі і СССР па аказанні дапамогі СССР супраць Германіі.

Дзяжуру і далей у школе. У нашу каманду нядаўна паступіў Лёўка Шванг. У ноч з 1 на 2 была моцная бамбёжка. Я з Фінкельштэйнам і Нікіціным у гэты час быў па гарышчы школы.

Мне — шаснаццаць гадоў, а здароўе ў мяне, як у шасцідзесяцігадовага дзеда. Эх, хутчэй бы прыйшла смерць. І добра было б, каб атрымалася гэта неяк без моцнага мамінага надрыву.

Чорт ведае якія толькі думкі лезуць у галаву. Калі-небудзь, перачытваючы гэты дзённік, я ці хто іншы пагардліва ўсміхнецца (і то добра, калі не горш), чытаючы ўсе гэтыя радкі, а мне цяпер усё роўна.

Адна мара была ў мяне з самага маленства: стаць мараком. І вось гэтая мара ператвараецца ў парахню. Дык дзеля чаго ж я жыў? Калі не буду ў В.-М. спецшколе, пайду ў апалчэнне альбо яшчэ куды, каб хоць не марна памерці. Памру, дык хоць абараняючы Радзіму.

Думаў напісаць мала, аж выйшла многа. Ну і добра.

Хоць англійскую помню, і то хлеб.

Пакуль яшчэ мама не вярнулася з працы з Іркаю. На гадзінніку — чвэрць шостай. Займуся шахматамі і чытаннем, а магчыма, завалюся спаць. Там пагляджу, што выйдзе.

А мама мне ўжо неяк сказала вельмі цікавыя словы: «Юра, ты дазнайся, як можна, калі запісацца ў спецшколу, эвакуіравацца». Вельмі цікавыя словы.

Нікіцін учора вечарам у мяне пытаецца: «Юрка, ці не пайсці нам у В.-М. спецшколу»? Так, мара, а з мараю расстацца — сябе пахаваць. Што рабіць?.. Кім быць?.. Дзе быць?..»

## СОТЫ ДЗЕНЬ ВАЙНЫ

У соты дзень вайны, 29 верасня 1941 года, Г. А. Князеў нібыта нанава акідвае позіркам свой плацдарм. Яго пяру часта не хапае жывапісных падрабязнасцей, аўтэнтычных дыялогаў тых гадоў, той жывой плоці, якая ўпрыгожвае дзённікі людзей літаратурна таленавітых ці хаця б маючых журналісцкі спрыт. Гэтага ў Князева мала, ён не чуў у размовах людзей, сярод якіх жыве, характэрных выказванняў, слоўцаў ваеннага часу, на якія хутка і чула адгукнулася народная гаворка. Яго, гісторыка, цікавілі перш за ўсё факты, дэталі, у якіх адлюстроўваліся ход вайны, настрой думак, паводзіны людзей. Можна, канечне, прыгадаць пісьменніцкі талент такіх рускіх гісторыкаў, як Ключэўскі і Салаўёў. Бліскучыя стылісты, яны ў сваіх працах выступаюць і як таленавітыя мастакі. Патрабаваць падобнага ад кожнага гісторыка было б несправядліва. Але тым больш павучальна, што падзённыя, падрабязныя запісы, якія вёў зусім не пісьменнік, запісы, быццам бы пазбаўленыя літаратурнай каштоўнасці, тым не менш валодаюць значнай, часам унікальнай каштоўнасцю — гістарычнай. Высвятляецца, што сумленныя запісы любога думаючага, адукаванага чалавека пра перажытае, пра ўсё, што ён бачыў, чуў, ведаў, цікавыя і па-свойму адзіныя. Такія запісы не абясцэньваюцца іншымі сведчаннямі сучаснікаў.

Значыць, соты дзень вайны.

***«1941.IX.29.*** Панядзелак. Падаюць пад парывамі рэзкага вераснёўскага ветру лісты з дрэў. Усюды вецер намёў на асфальце хвалі пяску. Хмурыцца час ад часу неба, але прарываецца яркім патокам прамянёў сонца і азарае яркім святлом наш цудоўны горад. У гэтыя дні страшэнных яго выпрабаванняў ён стаў даражэйшы, бліжэйшы нават тым, хто прызвычаіўся да яго і быў абыякавы. Кожны дом, вуліца, плошча, завулак — усё такое роднае, блізкае і ў та-

кой непасрэднай небяспецы! Кожны дзень пажары, новыя руіны, гібель людзей... А людзі ходзяць па вуліцах, працуюць на заводах, ва ўстановах. Прыходзяць на службу і ціха паведамляюць: «А ў нас усе шыбы павылятталі: суседні дом разбурыла фугасная бомба. Начаваць давядзецца ў знаёмых». І ніхто не ведае, чым скончыцца дзень, які толькі пачынаецца, ну вось хаця б сённяшні, яркі верасньўскі дзень...

Вечар. Вось ужо два разы падымаліся да нас з кватэры Карпінскіх папярэдзіць пра трывогі. Другі раз яны паведамілі, што недзе было чуваць падзенне бомбы. Я так стаміўся за дзень, што нават не спускаўся ўніз. М. Ф. чытае Загоскіна. Самае адпаведнае чытанне падчас трывог! Я чытаю сусветную гісторыю, пішу вось гэтыя радкі. Але не ўтою, што — калі пачынаецца ледзь прыкметнае дрыжанне падлогі пад нагамі ад вібрацыі паветра пры пралёце паблізу самалётаў — міжвольна насцярожваешся, хваравіта адчуваеш гэтыя ледзь улоўныя штуршкі. Напружваеш слых, ці не страляюць зеніткі з марскіх суднаў на Няве. Не, шыбы не трымцяць у вокнах, значыць, пакуль варожыя самалёты яшчэ не лятаюць у тым квадраце, дзе мы жывём. Але ўсё-такі мы напагатове, я сяджу ў фуражцы, у галёшах, побач паліто. На ўсякі выпадак!.. І сядзім мы не ў сталоўцы, а ў пярэднім пакоі, дзе няма акон, а толькі дзверы. Над намі гарышча, мы жывём на верхнім, на трэцім, а калі лічыць падвал, дык на чацвёртым паверсе. Таму міжвольна часам пазіраеш на столь.

Днём усе гэтыя паветраныя трывогі, артылерыйскія абстрэлы праходзяць менш прыкметна. На службе ні я, ніхто не пакідае сваіх рабочых месцаў. Я нават не мог прагнаць сваіх супрацоўнікаў, якія не былі дзяжурнымі ў той злашчасны дзень, калі Ленінград абстрэльваўся з дальнабойных гармат і гарэла ўжо яркім полымем частка будынка Сената. А вось вечарам ці ноччу і бамбёжку і абстрэл перажываць даводзіцца больш нервова-напружана. Учора, нагледзеўшыся на зарыва пажараў, я не адважыўся распранацца на ноч і спаў адзеты, прачынаўся імгненна ад якога-небудзь нават найменшага ўздрыгу дома.

Так перажываюць гэтыя дні і ночы ў Ленінградзе, напэўна, вельмі многія. Сёння на службе І. Л. казала мне, што пасля ўдараў учарашніх бомбаў яна з цяжкасцю авалодала сабою, каб не прыслухоўвацца да цішыні і спаць. Мноства людзей начуе ў бамбасховішчах альбо бегае туды падчас кожнай трывогі. Гэта ўжо свайго роду псіхоз. Не-

каторыя трымаюцца стойка і ўпарта; фаталісты, веруючыя і проста абыякавыя да ўсяго людзі, альбо вельмі спакойныя ад прыроды, ці, наадварот, вельмі стомленыя. Учора падчас трывогі, калі мы стаялі на набярэжнай у пад'ездзе дома насупраць Ісакіеўскага сабора, адна маладая дзяўчына не хацела ісці з вуліцы, нягледзячы на настойлівыя патрабаванні міліцыянера. «Мне ўсё роўна, што жыць, што паміраць,— злосна казала яна,— Надакучыла ўсё, абрыдла». У гэты час у транспартным аўтамабілі везлі труну, вакол якой сядзелі нябожчыкавы блізкія з вянкамі. «Во шчаслівы чалавек»,— сказала дзяўчына. Я не стрымаўся і задаў пытанне: чаму ў яе такі прыгнечаны настрой? «Двух ужо страціла, а вось трэцяга ніяк не магу знайсці: пераненага прывезлі ў Ленінград, а куды памясцілі — не ведаю»,— скорагаворкаю адказала яна. Я не стаў болей распытваць яе, ды і трывога ўжо скончылася. Усе выбягалі з пад'ездаў і спяшаліся па трамваі, якія стаялі на пуцях.

У іншых больш волі, чым у гэтай дзяўчыны, але адчуваецца страшэнная стомленасць, крайняя нервовая напружанасць... «Колькі ж часу ўсё гэта будзе доўжыцца? — папытала ў мяне звольненая ў нас Пятрова, маладая маці.— І што будзе далей? Зайшла ў сталоўку, у адну, другую, нарэшце ў адной атрымала білецік у чаргу, нейкі сямісоты нумар. Да вечара, кажуць, можа, удасца паабедаць... Добра, што яшчэ дзіця не галадае. Вось ад мужа атрымала пяцьсот рублёў, але грошы ляжаць, і купіць на іх нічога не магу. Як жа далей яшчь? Кажуць, Кранштат разбамбілі»,— дадала яна. Усё гэта казала яна спакойна, не хвалюючыся. А вось на А. О. глядзець страшна. Твар зусім без крывінкі, схуднелы. Сёння яна даведалася, што адтэрмінаваная эвакуацыя маці з дзецьмі зноў аднаўляецца, і перад невядомым выпрабаваннем зноў жах пачаў глядзець з яе вачэй. Цяжка тут, у Ленінградзе, але ёсць, прынамсі, праца і акадэмічная сталоўка, куды яна водзіць абедаць абодвух сваіх дзяцей. А там наперадзе поўная невядомасць і сціскаючы душу жах за лёс дзяцей, за саму сябе.

Супакойваў адну і другую. Не памяншаў грознасці падзей, але казаў, што становішча наша не безнадзейнае. Патрэбна толькі воля не паддавацца смутку, разгубленасці. Трэба прызнацца, яны мяне дрэнна слухалі ці, дакладней, слухалі з ветлівасці...

Ва ўсіх адно настойлівае і неадчэпнае пытанне: ці доўга працягнецца такое становішча? Набліжаецца зіма. Да

ўсіх выпрабаванняў і нястач дабаўляецца яшчэ і холад. І міжволі ў многіх, нават моцных нервамі, узнікае пытанне: ці вытрываем?

На гэтае пытанне жанчыны Ленінграда адказваюць: «Вытрываем!»

Учора быў агульнагарадскі жаночы мітынг. Выступалі артысткі, пісьменніцы, работніцы. Усе ў адзін голас заклікалі да абароны Ленінграда і запэўнівалі ў сваёй стойкасці і гатоўнасці памагаць абаронцам. Увесь мітынг апладзіраваў адной дзяўчыне, юнай дружынніцы, якая вынесла з перадавых пазіцый падчас бою 29 параненых байцоў. Пры гэтым яна сама была паранена двойчы... Вось гэта сапраўдны і святы гераізм!

Я наўмысна так падрабязна запісаў свае ўражанні на маім малым радыусе. Якое ўсё наша жыццё і жыццё ў асадным горадзе поўнае супярэчнасцей. Не будуць мець рацыі тыя, хто скажа толькі пра адну стомленасць, прыгнечанасць; няправільным будзе таксама сцвярджэнне, што сярод ленінградцаў быў толькі адзін гераізм. Было жыццё, поўнае супярэчнасцей. І вось кавалачак гэтага жыцця я спрабаваў паказаць на гэтых старонках.

***1941.X.5.*** Сто шосты дзень. Зайшла дзяўчынка Валя, якую мы збіраліся выхоўваць. Дом іх амаль цалкам разбураны выбуховай хваляю. Суседні дом разбураны дашчэнту фугаснай бомбаю вялізнай сілы. Жыве яна на Дзягцярнай. Уся іх мэбля папсаваная, дзверы пазрывала, акон няма зусім. Разбурэнне адбылося тады, калі яна з маці была на акопных работах (маці ўзяла яе з сабою, таму што не было з кім яе пакінуць). Таму яны засталіся жывыя. Цяпер часцей за ўсё жывуць у бамбасховішчы. Есці няма чаго, маці сталай працы не мае, картка ў яе ўтрымальніцкая, гэта значыць, галодная. Валя глядзіць напалоханымі вачамі і прыслухоўваецца: «Здаецца, трывога. Пайду ў вас пасяджу на двары ў бамбасховішчы». Але ж высветлілася, што трывогі няма. І ўсё-такі яна сядзела нібы на іголках. Далі ёй грошай, прадуктаў, што маглі... Беднае, няшчаснае дзіця!.. За што яна гэтак пакутуе?

***1941.X.6, 7, 8.*** Сто сёмы, сто восьмы, сто дзевяты дні. Мінулі тры дні вельмі неспакойных, дакладней, трывожных, нервова-напружаных. Нічога асаблівага не здарылася, усё тое самае, але толькі ў некалькі іншым успрыняцці пражытае. Мы людзі самыя звычайныя, нічым не прыкметныя, і запісваць што-небудзь гераічнае мне проста

няма чаго. Адно толькі і ёсць годнае ўвагі — гэта тое, што мы працуем увесь час, нават падчас трывог на службе праца не спыняецца. Вось і ўсё, што трэба аднесці да нашага «гераізму». Гэта, па сутнасці, і нямала пры ўсім тым, што цяпер даводзіцца пераживаць ленінградцам... Трэба аддаць справядлівасць маім супрацоўнікам: працуюць нядрэнна, нягледзячы на трывогі, на холад, на недаяданне, на пакуты ў сталоўцы, на бяссонныя ночы. Некаторыя жывуць з выбітымі шыбамі, іншыя вымушаны былі перасяліцца да знаёмых. Вельмі ўседліва працуе Шахматава, добра таксама Круцікава... Цвяткова ледзьве цягае ногі: і галодная, і церпіць ад недахопу сну. Увогуле я сваім калектывам задаволены. Яны не толькі працуюць, але яшчэ і па чарзе нясуць вячэрнюю і начную вахту, застаючыся на пасту падчас паветраных трывог і артылерыйскага абстрэлу.

...Днямі будуць у ціры вучыцца страляць, у ціры, што пры універсітэце. Стулаў блізарукі і ўдалячынь нічога не бачыць. Мадзалеўскі таксама... Такія два нашы архіўныя «воіны», што рыхтуюцца ў апошні рэзерв. Але архіў даў і сапраўднага паўнацэннага байца, і палітычна падкаванага, і з вялікім кругаглядам — А. М. Чэрнікава. Даў і добраахвотніка, які змагаецца на лініі агню,— П. Н. Каравава, сціплага і сумленнага партыйца. У маскоўскім аддзяленні Архіва пайшоў на фронт добраахвотнікам Гетман. Вось такі наш грамадзянскі і вайсковы актыў Архіва.

***1941.X.9.*** Сто дзесяты дзень. Па радыё выступаў прафесар-чырвонаармеец К. Ф. Агароднікаў. Ён доктар фізіка-матэматычных навук, 19 гадоў вывучаў у лабараторыях пытанні будовы зорнага неба, назіраючы ў тэлескоп за нябеснымі свяцiламі. Цяпер ён у радах Чырвонай Арміі, куды пайшоў добраахвотна, навучыўся страляць з вінтоўкі, кідаць гранаты. Ён сказаў: «У мяне багата вучняў, багата сяброў і знаёмых. Я хачу, каб яны ведалі, што іх прафесар і калега — чырвонаармеец Агароднікаў — будзе стойка і храбра, як і належыць савецкаму воіну, змагацца з ворагам».

Пасля прафесар звярнуўся на англійскай мове да сваіх калегаў у дружалюбнай нам Вялікабрытаніі. Ён перадаў прывітанне сэру Спенсеру Джону, каралеўскаму астраному, і прафесару Смарту, з якім быў звязаны многія гады сумеснымі працамі ў галіне астраноміі.

***1941.X.10.*** Сто адзінаццаты дзень. Увесь вечар працую

пад гісторыяй Акадэміі павук. Зараз каля 12 гадзін ночы. Трэці раз прыходзіць да нас студэнтка Нехарошава, паведамляючы пра трывогі. Сяджу ў пярэднім пакоі ў паліто. Холадна. Пачынаем прыслухоўвацца. Зрэдку страляюць зенiткi. Адклаў карткі з выпіскамі па гісторыі Акадэміі. Міжволі прыслухоўваюся да гулу гармат і бяру лісцік для запісаў сваіх уражанняў за дзень».

Горкія дні перажываў Г. А. Князеў. Яму здавалася, што ў агні вайны нянавісць спапяліла ў людзях усякую чалавечнасць, гуманнасцю стала толькі знішчэнне нямецкіх захопнікаў. Чалавечнасць пакінула свет, скардзіўся ён... Ён яшчэ не ведаў у тыя дні пра Майданек, Асвенцім, Бухенвальд, пра печы, у якіх палілі людзей, пра газавыя камеры, душагубкі, пра старанна распрацаваную тэхналогію вынішчэння народаў, непажаданых тэарэтыкам нацыянал-сацыялізму. Вайна з Германіяй пачалася для нас як вайна з захопнікамі, з акупантамі, з агрэсарамі. Паступова адкрываліся ўсё большай колькасці людзей і іншыя бакі гэтай вайны — знішчэнне карычневай чумы, што пагражае гібеллю ўсяму чалавецтву. Нянавісць да фашызму і любоў да чалавека не адразу, не проста спалучаліся ў нашых душах.

Знішчэнне фашызму і было любоўю да бліжняга, было гуманізмам, было ўсім тым, аб чым сумаваў стары гісторык-рамантык. Але кожны прыходзіў да гэтага сваім шляхам. У гэты дзень Вольга Бергольц напісала:

Всем, что есть у тебя живого,
Чем страшна и прекрасна жизнь —
Кровью, пламенем, сталью, словом
Опрокинь врага, задержи!

А ў Эрмітажы рыхтавалі памяшканне пад урачыстае пасяджэнне ў гонар 800-годдзя Нізамі.

*«1941.X.16.* Сто семнаццаты дзень. Зноў цяжкія звесткі з вяземскага і калінінскага напрамкаў. Варожыя войскі, відавочна, канчаткова і катастрафічна для нас прарвалі нашу лінію супраціўлення пад Масквою... Трывожнае пачуццё авалодала ўсімі намі. Радзіма ў смяротнай небяспецы...

*1941.X.20.* Сто дваццаць першы дзень. У 6 гадзін раніцы загаварыла радыё. У Маскве абвешчана асаднае становішча. За ўсякае парушэнне парадку, распаўсюджанне

правакацыйных чутак — расстрэл на месцы. На подступах да Масквы — Малы Яраславец пераходзіць з рук у рукі. У 1918 годзе гэты шматпакутны горад пераходзіў ад рускіх да французаў і назад 10 разоў! Становішча на маскоўскім фронце, верагодна, катастрафічна пагоршылася.

***1941.X.21.*** Сто дваццаць другі дзень. Пагаршаецца харчовае становішча Ленінграда. За другую дэкаду кастрычніка ўтрыманцы пры хлебным пайку ў 200 гр. атрымалі 100 гр. мяса, 200 гр. крупаў, 100 гр. рыбных прадуктаў, 50 гр. цукру, 100 гр. цукерак, 100 гр. алею; служачыя і дзеці не намнога больш; рабочыя ж удвая больш, чым служачыя. На грошы купіць няма чаго, і таму яны не цэняцца. Тыя, у каго шмат грошай, не ведаюць, куды іх падзець, і купляюць альбо ўсякую дрэнь (дарагія духі і іншае), альбо (тыя, хто больш спрактыкаваныя) скупляюць у крамах рэшткі мануфактурных тавараў для абмену, калі грошы страцяць усякую цану. З усіх будучых выпрабаванняў, бадай што, самае страшнае ленінградцам — голад. Голад і бамбёжка! Не хапала б толькі яшчэ халеры, ці чумы, ці проста галоднага тыфу. Трэба прывучыць сябе проста глядзець у вочы падзеям і як мага менш думаць пра будучыню. Калі прыйдзе гэта будучыня, тады і асэнсоўваць яе!.. Сёння да нас зайшоў майстар на ўсе рукі Філімонаў. «Цяжка працаваць,— кажа ён,— аслабеў, харчу не хапае. У акадэмічнай сталоўцы ўжо другі дзень замест супу — жытняя локшына з вадою».

Як высветлілася, бомба, кінутая днямі сцярвятнікамі паміж 5 і 6 гадзінамі вечара і трапіўшая ў Мойку, была выключнай магутнасці. Яна несумненна прызначалася на будынак Галоўнага штаба. Яна ўпала непадалёку ад дома, дзе была апошняя кватэра Пушкіна...

***1941.X.22.*** Сто дваццаць трэці дзень. Ноч, дакладней, раніца, хутка світанак... Мы, ленінградцы, забываючыся цяпер на сваё гора, усімі сваімі думкамі звернуты да Масквы, да сэрца нашай савецкай радзімы. Як гэта магло здарыцца, што вораг змяў нашы арміі і прасачыўся да самых жыццёвых цэнтраў краіны? Вось неадчэпнае пакутлівае пытанне. Вораг, узброены сучаснай, найдасканалейшай ваеннай тэхнікаю і ўсімі дасягненнямі навукі, павярнуў усё гэта на разбурэнне, на знішчэнне ў сваіх грабежніцкіх планах заваёўніка, гвалтаўніка. Ён знішчае ўсе культурныя каштоўнасці на сваім шляху, як дзікі варвар, які-небудзь вандал, гун, але толькі ў сотні разоў страшнейшы. У тых не было ні навукі, ні тэхнікі. Тыя былі проста двух-

ногія драпежнікі. Нямецкія захопнікі — двухногія культурныя звяры!..

Гітлер цяпер сцягнуў пад Масквою ўсе свае сілы і кінуў у бой рэзервы. Хіба можна спаць спакойна ў такія ночы, калі ідзе самая кровапралітная ў сусветнай гісторыі бітва за Маскву, за цэласнасць і само існаванне нашай радзімы!

Кажуць, што Гітлер у сваёй прамове пагражаў сцерці Маскву з твару зямлі як крыніцу чырвонай заразы. Гэта было чатыры месяцы таму назад і было жахлівай пахвальбою, нейкай недарэчнасцю... І вось у гэтыя панурыя кастрычніцкія дні яго армія пад Масквою!

***1941.X.23.*** Сто дваццаць чацвёрты дзень. Пахмурны дзень. Дождж. І людзі радуюцца, як не радаваліся сонцу, цяплу: «Дзень нялётны, бамбіць не будуць».

На службе ў мяне ў Архіве голад некалькі дэзарганізаваў працу. Асабліва здала І. Л., яна, праўда, зусім хворая. Сядзіць у 12-м пакоі, каля прыбіральні, дзе настаўлена плітка, і курыць, курыць без канца. І кашляе.

Прымаем усе меры, каб ацяпліць Архіў на зіму. Але апальвацца будзе толькі адзін пакой... Сёння ледзьве высядзеў у 2-градуснай тэмпературы.

І без таго нервовахворая маці Е. Т. не вытрымала ўсіх «пасланых на нас выпрабаванняў і ў прыпадку хваравітай падазронасці збіраецца задушыць сваю дачку. Е. Т. вымушана начаваць па службе ці ў знаёмых.

Ехаў раніцаю ўздоўж толькі што выкапанай градкі пад будучыя кветкі і зноў расчуліўся... Жывыя жывуць жывым жыццём!

Планаваў з Андрэевым пасяджэнне, прысвечанае памяці Берынга, на снежань...»

## СКОНЧЫЛАСЯ МАЛЕНСТВА

Чытаючы запісы Юры Рабінкіна за тыя самыя дні, быццам бы трапляеш у другі свет. Зрэшты, чаму ж «быццам бы», гэта і сапраўды быў іншы свет — свет юнацтва. Трагічныя падзеі не маглі загасіць яго жыццялюбства, веры, маладой весялосці, што плёскаліся ў ім цераз край.

Карты дык карты, гульні, розыгрышы, кпіны, мары, жахі — усё спалучалася, віравала, кідала з боку на бок гэтых хлопцаў, што толькі-толькі выходзілі з дзяцінства ў юнацтва.

Але ўжо можна адрозніць рысы характару, лёс ужо, як некалі казалі, стукае ў дзверы. Ах, як проста і лёгка залечваюцца ў гэтым узросце раны, як бясследна растаюць нядаўнія страхі перад медаглядам у спецвучылішчы.

І ўвесь гэты час Юра працягвае патрабавальна і строга назіраць за сабою, судзіць сябе. Бадай што, менавіта гэта рыса, менавіта гэта якасць збліжаюць Г. А. Князева і Юру Рабінкіна.

Юрава сям'я была патомна інтэлігентнаю, ва ўсякім разе, з боку маці, Антаніны Міхайлаўны*, народжанай Пашанай. Яе бацька, дзед Юры, скончыў да рэвалюцыі Артылерыйскае вучылішча, быў афіцэрам, пасля 1917 года служыў у Чырвонай Арміі, быў памочнікам начальніка артылерыйскай базы Паўночнага Захаду. Маці скончыла гімназію, яна добра ведала французскую, нямецкую, польскую, у доме была багатая бібліятэка — руская і замежная. Пра ўсё гэта нам стала вядома пазней. У рэштках сямейнага архіва захаваліся фатаграфіі дзеда і прадзеда, таксама вайскоўца, цудоўныя дзедавы малюнкі.

*«1941 г. 3 кастрычніка.* Незвычайны для мяне дзень. У школе я быў з 8 раніцы да 7 вечара — гуляў у ачко. Прайграў 10 капеек. Але гэта яшчэ нічога. Паабедаў — смажаны парсюк з сачыўкаю і сцюдзень. Прыйшоў зноў у настаўніцкую — сеў гуляць у ачко. Я, Бронь, Фінкельштэйн, Лапацін і яшчэ нейкі хлопец з другое змены. Спярша гулялі нармальна — я заставаўся пры сваіх. Але хутка настала чарга банкаваць мне. Я паставіў у банку рубель: так да мяне ставілі ўсе. Банкую. І, як на злосць, усе марынуюць. Мне шанцуе, банк павялічваецца... 2 рублі, 4 рублі, 8 рублёў, 16 рублёў!.. Стукаю. Ідзе другі круг! 32 рублі!!! Ігракамі завалодвае азарт, усе прагна глядзяць на карты... 64 рублі!!! Хлопцы робяць складчыну і зноў марынуюць. Іх дзевятка — мой туз!!! У банку 128 рублёў!!!: Азарт неймаверны... І вось... Хлопцы зноў марынуюць... Марынуе Бронь узакрытую. Я адкрываю сваю картку — дама... Бронь асцярожна сваю — дама!!! Я забіраю банк — цэлыя 254 рублі!!!

* Юрава маці паводле дакументаў была Антаніна Міхайлаўна, але ў жыцці яе звалі Ніна Міхайлаўна.

Я не ведаю, што са мною зрабілася. Сядзеў як дурань. Які выйгрыш! Бачыш?! Стаў зноў гуляць... Гуляю... гуляю — і вось зноў зрываю некалькі банкаў запар — у выніку ў мяне каля 400 рублёў (наяўнымі — 73). Мяне агарнуў нейкі смутак... Што мне з гэтымі грашыма рабіць? Узяў ды аддаў хлопцам назад. Але Лапаціна тады ўжо не было. Бронь нешта прамармытаў у адказ. Значыць, у мяне цяпер каля 40 рублёў на руках, 130 вінен Бронь, 100 — Фінкельштэйн і па 40 р. вінныя Лапацін і яшчэ нейкі хлопец. Ад усіх іх я, вядома, грошай браць не буду... Якое моцнае хваляванне! Калі банк упершыню даходзіў да (...), дык я проста хацеў сказаць: «Хлопцы, я больш не буду, не гуляйце...» Усё гэта атрымлівалася неяк па-дзіцячаму, няўклюдна. Ніхто не заўважыў. І дзіўна — выйграўшы, я адчуў не радасць, а нейкае нямоглае здзіўленне, неяк здранцвеў і пасля доўгі час кожную хвіліну нервова рагатаў. Так, праўду кажа прымаўка: «Багацце не заўсёды прыносіць шчасце». Так і тут. Грошы схаваў дома ў жалезны карабок з-пад цукерак, які ляжыць у кардоннай скрыначцы на этажэрцы. Ды што гэта такое са мною робіцца? Ці не вар’яцею я?

***4 кастрычніка.*** Усё яшчэ не магу ачуняць ад выйгрышу. Уласна кажучы, не ад самога выйгрышу, а ад усведамлення выйгрышу. Грошай з хлопцаў, ясна, не стаў браць.

Мама павінна ехаць з Іраю 5-га на суботнік.

Усё гэта я пішу 5-га раніцаю. Цяпер раскажу аб падзеях сённяшняе ночы. За ноч было каля 8 трывог. Трывогі надзвычай страшныя. Некалькі разоў бомба так моцна свістала, што я думаў, ці не ўпадзе яна на школу. Роўна ў 1 гадзіну ночы я змяніў Фінкельштэйна на вышцы. Было «бестрывожна»! Першыя паўгадзіны прайшлі спакойна. Пасля нечакана цішыню прарэзаў нейкі свіст, потым яшчэ... яшчэ... Успышка, грукат — успышка, грукат. Я саскочыў са стала, на якім сядзеў, і палахліва выглянуў з вышкі ў акно. З дзесятак запальных бомбаў курэлі на школьным двары і на суседніх дахах. Я адразу ж даў тры званкі — на трэцім пасту (...). Потым выявілася, што я крыху памыліўся — бомбы ўпалі побач са сцяною, дзе трэці пост, на двор. Ну, іх усе, натуральна, хутка патушылі. Потым немцы скінулі яшчэ некалькі фугасных бомбаў, а пасля паветра прарэзала жаласнае выццё сірэны. На маім пасту было спакойна. Але трывогі, пачынаючы з той,

былі асаблівыя. Зусім маўчаць зеніткі. І толькі чуваць аддаленае зумканне самалётаў, якое то нарастае, то змяншаецца, і часам гулкі свіст — затым віскат і ўдар выбуху. Мяне надта ўсхвалявала гэтая ноч. Я ўсю яе не спаў. Вось якія насталі над Ленінградам ночы. Давід казаў, што ён таксама дзесьці чуў, што Пскоў і Старая Руса ўзяты Кулікам...

***5 і 6 кастрычніка.*** Дні прайшлі ў хваляваннях з-за бясконцых трывог. Сёння, а дакладней, цяпер — 9 гадзін вечара 6 кастрычніка. Трывога. Я, Анфіса Мікалаеўна (жонка ўселенага да іх І.— ***А. А., Д. Г.)*** дома. Мама з Іракы пайшлі ўніз. Атрымалі ліст ад Ціны. Жывая-здаровая была на 2 кастрычніка. Піша, што іх бамбяць. Намёкамі, вядома. Турбуецца пра нас. У школе пачаліся заняткі дзесятых класаў. Я папрасіў Ніну Мікалаеўну даць мне якое-небудзь заданне па матэматыцы. Яна дала. Нікіцін прыняты ўжо і аформлены ў спецшколе...

***8 кастрычніка.*** Быў на медаглядзе. Я, выходзіць, правільна зрабіў. Медагляд я не прайшоў па вачах. У мяне левае вока 20%, а правае — 40%. Нічога сабе! Мама настойвае на неадкладным лячэнні. Напэўна, давядзецца насіць акуляры. Валодзька Нікіцін пайшоў на медагляд пасля мяне. Ну, яго напэўна прымуць. Але самае галоўнае — я прайшоў хірурга, вушнога. На франтах становішча для мяне цьмянае. Сёння ў сне бачыў Валодзьку Шмайлава. Эх, дзе гэта ён цяпер?

Мама забараніла мне чытаць. Каб не псаваў вочы.

Пішу ўсё гэта сёння, 9/Х. Калі б я пісаў гэта ўчора, дык распісаў бы на 2—3 старонкі, а цяпер не магу. Трэба ісці на дзяжурства.

***9 кастрычніка.*** Сёння дзяжурства было найлепшае ў параўнанні з астатнімі. Надзвычай весела было. Да абеду яшчэ нічога, а пасля абеду так і пайшло... Пачалося з таго, што Ніна Мікалаеўна забараніла нам гуляць на грошы. Пачалі гуляць у дурня. Астаўся ім Алька. Яму прызначылі пакаранне — падысці на вуліцы да першага сустрэчнага і сказаць яму ў твар: «Я — дурань». Во рагату было. Потым сталі гуляць у фанты. Лапацін па БІТОЙ лесвіцы поўз на карачках цэлы паверх, Фінкельштэйн вазіў на сабе Броня, а я павінен быў, па-першае, злавіць кошку і пусціць яе ў настаўніцкую дзяжурку, а па-другое, пацалавацца з Элаю. Першае я зрабіў, ад другога адмовіўся. Аб чым цяпер шкадую, за адмову мне вылілі за каршэнь (папала і на верхнюю кашулю) вады. Увогуле, усе

развесяліліся. Нарэшце злавілі ката, начапілі на яго паперыну: «Вячэра альбо смерць кату» і адпусцілі. Кот пабег у сталоўку. Што з гэтага выйшла — не ведаю. Пасля слухалі па радыё канцэрт з твораў рускіх кампазітараў.

Цяпер палова восьмай. Абвясцілі трывогу. Неба амаль бясхмарнае. На франтах становішча такое: паводле афіцыйнай зводкі ўзяты Арол, немцы наступаюць на Вязьму і яшчэ на нейкія гарады. Ёсць чуткі, што немцаў адагналі ад Ленінграда не менш чым на 60 кіламетраў. Верагодна, 7, 8, 9 класы пачнуць займацца з 25/X.

Трывога.

***11 і 12 кастрычніка.*** Нічога асаблівага не здарылася.

Мама і Іра ўнізе, а я дома. Палова восьмай.

У нас у школе ў ходу такое меркаванне: немцы вырашылі скончыць вайну да зімы і разгарнулі грандыёзнае наступленне на Маскву. Паводле слоў Фінкельштэйна, Нікіцін не прайшоў мандатнай камісіі. Ну, ды ў яго такі бацька, што ён усё роўна ў спецшколе будзе. Будзе.

Чамусьці вельмі часта ўспамінаю Валодзьку і Мішу. Эх, сябры, сябры! Усяго сябе пракляў, што так развітаўся з Валодзем. Вярнуць бы той час! Залаты час!

Ігар (брат Анфісы Мікалаеўны.— ***А. А., Д. Г.)*** абяцаў прынесці нам адну харчовую картку I катэгорыі. Не ведаю, ці выйдзе з гэтага што-небудзь.

Хутчэй бы заняткі. Сумна.

Сёння гуляў у ачко ў школе. Фінкельштэйн застаўся мне вінен 121 рубель (я ад яго грошы ўсё роўна не вазьму). Хлопцы цяпер кажуць, што мне страшэнна шанцуе ў карты. Шанцуе ў картах — не шанцуе ў каханні. Ці так сапраўды будзе? Лепш, каб было наадварот.

Калі я зрываю банк альбо ўдала прабанкую, сарву буйную суму, дык на маім твары нязменна з'яўляецца нейкая з'едлівая ўсмешка, я з ёю цяпер увесь час змагаюся, а яна не-не ды і прамільгне. Вось агідная ў мяне рыса.

***13 кастрычніка.*** Дзень прайшоў спакойна. Затое ноч далася ў знакі. Вечарам ад мамы я даведаўся пра вельмі цікавую рэч. Яна бачыла (...), якая цяпер працуе ў шпіталі. Прапануюць мне паступіць у гэты шпіталь. Мой абавязак эскарціраваць хворых са шпіталя ў шпіталь. Адказнасць за іх дастаўку нясу я адзін. Згубіцца хто-небудзь па дарозе — іду пад суд. Раз'язджаю па начах, пераважна па машыне. Мне кладуць зарплату 20 рублёў на месяц і ра-

бочую картку. Магчыма, і абед. Дзень працаваць, дзень адпачываць. Я згодзен. Трэба...

Бачыў Валодзьку Нікіціна. Ён паступіў у спецшколу. 15-га ідзе на заняткі.

Ноч была, паводле маёй «першаснай» думкі, даволі спрыяльная. Хмаркі на небе, невялічкі туман — які самалёт паляціць на бамбёжку? Але... без пяці 7 ужо абвясцілі трывогу.

На 2 і 1 пастах я, Давід, Барыс (...) і яшчэ дзве нейкія жанчыны. Я і Давід сядзелі на прыступках. О гэтыя трывожныя бясконцыя ночы! Назаўсёды застануцца яны ў маёй памяці. Паўсвятло, перада мною ліхтар «кажан» у вядры, лесвіца і збоку акно... гулка б'юць зеніткі, вуха насцярожана ловіць кожны гук, трывожна б'ецца сэрца пры моцным свісце бомб, і ўвесь насцярожваешся, калі чуеш завыванне германскага самалёта. Акно ўвесь час азараюць успышкі, часам лесвіца і ўвесь дом уздрыгваюць ад блізкага падзення фугаснае бомбы. І гэта кожнае ночы... Хочацца спаць, есці, забыцца, але зноў нешта свішча над вухам, інстынктыўна прыціскаешся да сцяны, уцягваеш галаў у плечы... і свіст замірае. Пасля ўспышка азарае акно, лесвіца ўздрыгвае, і толькі пасля гэтага прыходзіць аддалены гул выбуху.

Гэтая ноч была больш-менш спакойная, і я з Давідам выйшаў на дах. Толькі агледзеліся па баках — па небе шнарацць пражэктары, і зусім неспадзявана люта зашыпела бомба з усё большым гукам. У адно імгненне я і Давід апынуліся на гарышчы, не адчуваючы сінякоў ад падзення. Вырашылі, што на гарышчы заставацца небяспечна, сышлі ў лесвічную клетку, і ў гэты самы час раздаўся кароткі свіст і пасля — выбухі над нашымі галовамі. Зрабілася святлей, чым удзень. Давід раней за мяне скеміў, што гэта такое, і, схапіўшы рыдлёўку, кінуўся тушыць бомбу. Я таксама. Пачалася шалёная гарачка. Мы працавалі ў густым едкім дыме, які лез у глотку, шчыпаў яе, залазіў ажно ў лёгкія, па тварах струменіўся пот, а мы ўсё важдаліся з бомбамі. Я пабег на 1-ы пост. Там стаяла нейкая жанчына і спалохана крычала: «Бомба! Тушыце!» Яна хапала жменямі пясок і кідала яго ў вогненныя кавалачкі тэрміту. Я схапіў рыдлёўку і за паўмінуты закідаў усё, што гарэла, пяском. Зыркае святло змянілася глыбокай цемрай. Сяк-так выбраўся з гарышча, ведучы за руку жанчыну, і пабег на 2-і пост. Там ужо ўсе бомбы патушылі. Я выглянуў на дах — па ім сноўдалася чалавек дзесяць. Хацелася пады-

хаць свежым паветрам, ачуцца, апрытомнець. Хутка трывога скончылася. Пасля, пасля нічога новага не адбылося.
15была яшчэ адна трывога, але бяскрыўдная для нас. Пасля, гэтага я і Фінкельштэйн заваліліся спаць і праспалі да раніцы. Разбудзіла радыё, паведаміла нам кепскую навіну: нала Вязьма. Наступленне немцаў працягваецца. Пазней я даведаўся, што на нашу школу ўпала 23 бомбы. (Я пагасіў дзве і памог загасіць трэцюю.)

***14 кастрычніка.*** Сёння дома брыдкая сцэна. Іра закаціла істэрыку, што я вось еў у сталоўцы трэста, а яна нават талеркі супу не з’ела ў сталоўцы. Мама ёй кажа, каб яна супакоілася. А мне ў той жа час кажа, што Іры давалі ў сталоўцы боршч і фасолю са шпікам, а Іра сказала, што яе ад гэтага нудзіць, і не стала есці. А з’ела паўпліткі шакаладу, што застаўся ў яе, і на гэтым. Сама не есць і на мяне злуецца! «Я,— кажа,— галодная хаджу!» А хто ёй не дае паабедаць? Мне ўжо мама пачынае казаць, што трэба прызвычаіцца да думкі, што калі накормяць чалавека ўдзень талеркаю супу, дык і будзь задаволены. А калі я да гэтае думкі не прывыкну?.. Я не ем нават паловы, чвэрці таго, што патрэбна, каб наесціся... Эх вайна, вайна...

Цяпер пахмурнае надвор’е. Падмарожвае, ідзе сняжок.

***15 і 16 кастрычніка.*** Нічога асаблівага не адбывалася. Сёння не хадзіў з Давідам у школу, а схадзіў з ім у тэатр на «Небяспечны паварот». Надзвычай добрая рэч. Цудоўнае афармленне, і ў цэлым выдатная рэч, але, на жаль, падобна на нейкі вялізны вадэвіль. Мне гэтая рэч так спадабалася, што я паставіў яе побач з «Ідэальным мужам».

Сёння вечарам падчас пачное трывогі патушыў адну бомбу на двары, выратаваў ад пажару дровы, а таксама і дом.

На франтах становішча благое. Апошнія звесткі: Марыупаль узяты, стварыўся калінінскі напрамак і цяпер яшчэ прарваны фронт заходняга напрамку!!! Я цяпер як прыкіну будучыню, дык у мяне валасы дуба становяцца: прымяненне газаў, зіма, нямецкі прыгнёт; гэтага ўжо нельга. Альбо: фронт, смерць, бомба, смерць — калека (...), але сяк-так перабіваюся.

***17 кастрычніка.*** Зрабіў жахлівае злачынства: згубіў ключ ад кватэры. Што мне мама скажа вечарам, калі прыйдзе. Быў у вочнай паліклініцы, урач прымае з 9 раніцы да першае гадзіны штодзённа, апрача пятніц. У пятніцу пры-

ём з 2-х гадзін дня. Быў у фатаграфіі, зняўся на пашпарт. Напэўна, кепска выйшаў з-за валасоў, якія распаўзліся па ўсім лобе.

Учора адбылася агідная сцэна ў нашых кватарантаў. І., вярнуўшыся, западозрыў жонку ў курэнні (курыць, у каго туберкулёз,— марудная пэўная смерць). Ён пачаў лаяцца на ўвесь голас, без усякіх цырымонія, не звяртаючы ўвагі, што нехта чуе. Яна быццам бы пярэчыла яму, а ён хутка-хутка крычаў: «Не, не, не! Хлусіш! Хлусіш! Хлусіш!» Потым, калі была трывога, ён сабраўся ісці ў бамбасховішча і стаў цягнуць яе з сабою. Яна не захацела ісці. Тады ён выхапіў у яе з рук сумку з ключом ад пакоя і пайшоў прэч. Яна дагнала яго, учапілася ў сумку, і адбылася кароткая барацьба. І гэта перад нашымі вачыма! Пасля яшчэ былі такія ж сцэны. Я толькі пра ўсё гэта не пісаў тут. Яна ў яго другая жонка, з першаю ён разышоўся. Але я не зайздрошчу яе жыццю. Хоць і харчуецца добра. Я ўсёй сваёй скупою ежай ахвяраваў бы, толькі б так не ганьбіць сябе.

На франтах становішча вельмі кепскае. Заходні фронт прарваны, нямецкія ўдарныя групы паўзуць да Масквы, захопліваюць у кальцо нашы сілы. Нямецкая авіяцыя бамбіць Ленінград штодня. Уночы. Мабыць, тое ж самае і з Масквою, Харкавам і г. д. Па ўсім Урале зацямненне, ідуць чуткі, што бамбяць Уфу.

Сёння даведаўся ў Ігара наконт становішча на фронце. Ён кажа, што над Масквою навісла небяспека. Ленінград цалкам адрэзаны ад СССР, на Ленінградскім фронце яшчэ нічога, трымаюцца. У Ленінградзе канчаюцца запасы харчавання, хутка, бадай што, пачнуцца галодныя смерці, эпідэміі і г. д. З сумам думаеш, чаму не эвакуіраваліся. Я цяпер нават баюся наперад заглядваць — жывеш адным днём.

Заўтра ў школе адмовяцца ад начных дзяжурстваў з-за адсутнасці цёплага абутку. Цяпер прастуджвацца зусім не час.

Ад голаду так шкрабе ў жываце: сліна цячэ. А я ж сёння ўсё-такі паабедаў у трэстаўскай сталоўцы. Мабыць, прычына перш за ўсё — адсутнасць хлеба. Сёння мама купляла пернікі, дык яны зроблены з аўса ды крыху цукру. Добра, што такія. Па такой норме жыць я часова згадзіўся б, хаця б на тры гады, але каб не памяншалі нормы, а гэта ж абавязкова будзе...»

Увосень забеспячэнне Ленінграда, як вядома, ішло па Ладажскім возеры. Але, высвятляецца, у гэтыя дні ўжо думалі загадзя пра зімовую дарогу, пра тое, што будзе, калі возера замерзне. Яўгеній Пятровіч Чуроў, які тады служыў афіцэрам-гідрографам, расказваў:

«У верасні камандаванне Балтыйскага флоту далажыла Ваеннаму савету план мерапрыемстваў па арганізацыі лядова-дарожнай службы на зімовы перыяд 1941/42 года, і тыя трасы, што мы разведалі, у далейшым былі прыкладна намечаны.

Дакладваў там флагманскі штурман Балтыйскага флоту, цудоўны спецыяліст Юрый Пятровіч Ковель. Пра яго мала пішуць, уласна кажучы, нават не пісалі, ёй чалавек сціплы. Скончыў ён службу віцэ-адміралам, начальнікам Аператыўнага ўпраўлення Галоўнага штаба. Я лічу яго асобу вялікай вяхою ў маім жыцці, таму што гэта чалавек гіганцкага аператыўнага мыслення. У сорак другім годзе — яшчэ Сталінградская бітва толькі разгаралася — Юрый Пятровіч мне тлумачыў, як пойдзе вайна. І вы ведаеце, ён жа не бачыў планаў Генеральнага штаба, але паказаў на карце, што прыкладна пад Сталінградам затрымаем праціўніка (Ю. П. скончыў акадэмію, быў ён параўнальна малады).

Пасля ён паказаў, што разгром немцаў пад Сталінградам будзе здзейснены з дапамогаю акружэння. Вось гэта вельмі важна. Бо, каб паказаць правільнасць тактыкі і стратэгіі акружэння, трэба было глыбока ўяўляць ваенныя абставіны. І вось што яшчэ паказаў Юрый Пятровіч — што блакаду можна будзе прарваць не раней сорак чацвёртага года...

Дык вось, Юрый Пятровіч мне сказаў: ёсць план мерапрыемстваў па арганізацыі лядовых трас і дарог па Ладажскім возеры і ў Фінскім заліве (так называўся гэты аператыўны дакумент).

Было прынята рашэнне: са з’яўленнем лёду арганізаваць усюды назіранне за лядовымі абставінамі. Мы пачалі патрульнае назіранне за ростам лёду ў Шлісельбургскай губе і ў бухце Мор’е. Мы выляталі на самалётах, аглядалі паўднёвую частку возера.

Сякая-такая практыка была: на поўначы нашай краіны, у Белым моры, войскі ўжо праходзілі па лёдзе. У правядзенні войскаў па лёдзе там удзельнічаў славуты наш вучоны — акадэмік Васілій Уладзіміравіч Шулейкін. Яму належыць першая распрацоўка тэорыі праходжання ма-

шын, тэхнікі па лёдзе марскім, салёным. Ён распрацаваў упершыню ў свеце табліцы для разліку нагрузак на квадратны сантыметр светлай паверхні лёду, у залежнасці ад тэмпературы паветра, што вельмі важна, і ад змены сілы і хуткасці ветру, наяўнасці снежнага покрыва і адсутнасці яго... У вучылішчы нам чыталі спецыяльны курс дарожнага забеспячэння, і табліцы Шулейкіна і яго формулы нам былі знаёмыя».

А ў Юры Рабінкіна свае выпрабаванні, клопаты:

***«18 і 19 кастрычніка.*** Мама брала на гэтыя два дні выхадныя. Хацела ехаць па бульбу, але ўсё вырашылася само сабою. У сталоўку прывезлі капусту, цэлы грузавік. І вось усе жыхары нашага дома накінуліся на яе. Хто колькі можа. Хабідугай узяў сабе каля 40 качаноў, а мы каля 10, таму што насіла капусту адна Іра. На наступны дзень мы ўволю наеліся капусты. Ноч прайшла спакойна.

Становішча на фронце вельмі благое...

Кажуць, што вучыцца пачнём 25/X. Не думаю, аднак, каб так было. Ага, у папярэдняй зводцы паведамлялася, што мы эвакуіравалі на працягу 8 дзён г. Адэсу.

Цяпер зазірну наперад. Калі наступленне немцаў будзе адбіта, дык усё ў парадку. Вайна намі выйграна. А калі наступленне будзе толькі спынена, тады працяглы голад для нас. Калі ж немцы возьмуць Маскву,— нам смерць.

***20 кастрычніка.*** Раніцаю сумаваў, пахадзіў у пошуках квасу, змёрз і вярнуўся дамоў. Дома мароз. Быў у паліто. Браў абед у сталоўцы трэста: капуста ды буракі. Паеў, пасядзеў, пайшоў да мамы. Там узяў з фонду Вальтэра і Дзюма «Графіня Мансаро» і «Сорак пяць» — яе заканчэнне. Паабедаў там у сталоўцы. Паеў супу-аўсянкі. Потым пайшоў дадому. Прыйшоў — трывога. Пачытаў Вальтэра. Ага, перад гэтым заходзіў Ігар. Ён сказаў, што занясе картку вечарам, але ж я не веру больш гэтаму. У магазінах на ІІІ дэкаду яшчэ ўсё даюць. Вечарам адбылася вельмі адметная штука. Я прынёс, як напісаў вышэй, з фонду Дзюма. Прынёс сабе, таму што чытаць мне не было чаго. І вось уваходзіць у пакой, як паўнаўладная гаспадыня, Анфіса Мікалаеўна і кажа: «Я, Ніна Міхайлаўна, брала ў вас Заля, вось вам яго назад» (кнігу гэтую даў ёй я, але ж гэта яшчэ нічога) . Падыходзіць яна да століка, бярэ Дзюма і кажа: «Ніна Міхайлаўна, я ў вас вазьму Дзюма, мне чытаць няма чаго». А мама так і рассыпалася

ў пахвальбе гэтай кнізе, так і хваліць яе. Толькі вазьміце. Мяне разззлавала. Я стаў пярэчыць (з усмешкаю на твары! — да якой ступені даводзіцца прыніжацца), што гэту кнігу я хачу чытаць сам, але мама пачала крычаць на мяне, што я магу чытаць Вальтэра, і г. д. Я нічога не мог зрабіць. Анфіса Мікалаеўна забрала кнігу і пайшла. Цяпер я больш-менш няблага разумею палітыку гэтае Анфісы Мікалаеўны. Белымі ніткамі яна шытая. Яна, па-першае, чакае, што мы ператворымся перад ёю ва ўслужлівых, мякка кажучы, людзей, і прывучае нас да гэтага. Па-другое, яна бачыць, як нам не хапае хлеба, цукру і г. д., тады як сама яна есць дасыта, бачыць і не хоча нічога «даць» — ну, дапусцім, яна вельмі эгаістычная, а, зрэшты, можа, яна і мае рацыю. З таго часу як мама ўзяла ў яе шклянку дражэ, паабяцаўшы аддаць і не аддала, яна катэгарычна загадала сабе не даваць нам ні кавалачка. І мне цяпер робіцца сорамна, калі я бачу, як мама п’е ваду, а А. М. стаіць побач і расказвае пра тэатр, у той час як мама кажа: «Ну вось, дажыліся да ручкі. Але ж як-небудзь пераб’ёмся».

Магчыма, ува мне гаворыць мой гонар, але я не магу без злосці глядзець на гэта. І што горш — я часам сам так раблю. Гэта Анфіса Мікалаеўна падобна на тоўсценькую сытую кошачку, што разлеглася на канапе і кажа: «Ану, паказычыце мяне». Яна ўсё без выключэння перадае свайму мужу (вядома, выключаючы сябе), а той (начная зязюля ўсіх перакукуе) робіць, як яна хоча, сам таго не заўважаючы. Цяпер адбыўся яшчэ адзін цікавы нумар: Ігар абяцаў нам картку І катэгорыі і казаў мне, што занясе яе сёння вечарам, а яна прыйшла да мамы і проста ў твар ёй кажа: «Ігар карткі вам даць не можа, таму што яе (...) адабралі». Як піць даць стараецца для сябе. Яна не прывыкла за паслугу плаціць паслугай, а прывыкла ад другіх прымаць паслугі і нічога, апрача прыемных слоў, узамен не даваць. Мама, я проста не ведаю, што гэта такое, аддала ёй вялікі качан капусты, а (...), якая сапраўды ставіцца да нас па-таварыску, дала маленькі...»

## РЫСА!

Сам таго не ўсведамляючы, не разумеючы, Юра Рабінкін і яго блізкія падыходзяць да рысы, да якой блакада, голад набліжаюць, прыцiскаюць шмат каго. Адны ўтрымаліся, не пераступілі. Другія ўтрымацца не змаглі. Але і тыя, што ўтрымаліся, выстаялі перад нязноснымі выпрабаваннямі і рысы не пераступілі, і тыя таксама не засталіся ранейшыя. Збоку гэта, ва ўсякім разе, заўважалася, нават калі чалавек сам гэтага не ўсведамляў. Неймаверна змяніліся абставіны. Мянялася мера многіх рэчаў, паняццяў, учынкаў. Калі настаўніца, у якой ад голаду памёр муж, кажа ўзбуджана-радасна калегам: «Ведаеце, якое шчасце, морг за два крокі ад нас!» — значыць, у свеце нешта перавярнулася (з дзённіка К. У. Ползікавай-Рубец). І хоць Ксенія Уладзіміраўна Ползікава-Рубец запісвае гэты выпадак з яўным асуджэннем (гэта значыць, не прымае гэтай новай меры), але ж трэба разумець, што і тая жанчына гэтага і гэтак не казала б да ці пасля блакады. Змяніліся не любоў, не гора, змяніліся магчымасці чалавека. І тое, што можна па-чалавечы пахаваць, давезці да морга, ужо добра.

Юру Рабінкіну давядзецца ўсё адкрываць упершыню: добрае і дрэннае і ў сабе і ў людзях. Ён прыдзіраецца да суседкі Анфісы Мікалаеўны толькі за тое, што яна харчуецца лепш за яго, часам яму ўдаецца спыніць сябе, і тады ён бачыць у ёй і добрае і чалавечнае. Г. А. Князеў ведае жыццё. Ён угадвае, нават прадбачыць рысу, за якой ты ўжо не ты, ва ўсякім разе не зусім вольны ў сваіх паводзінах, у сваіх учынках. Князеў верыць у чалавека, верыць ва ўласныя ўнутраныя сілы, ён любіць жыццё, але ж на ўсякі выпадак прыкмеціў крук на столі. І нават (не быў бы ён інтэлігент-кніжнік!) паглядзеў у энцыклапедыю, як гэта бывае. «Вывучыў пытанне», прыкінуў і на гэтым супакоіўся: не, ён сабе не дазволіць зайсці за рысу. Лепш ужо адразу, вось так! Можа, і ёсць людзі, якім мяжа не вызначана, якія ўпэўнены, што голад, нават калі ён з'есць іх мозг, не пазбавіць іх волі і чалавечага аблічча. Але для Князева думаць — гэта значыць застацца самім сабою. Ён не панікёр. А гэта ў тых умовах вельмі шмат каштавала. Вядомы выпадкі, калі людзі перад боем страляліся... Насмерць. Са страху перад заўтрашняю смер-

Арыгінал першага ліста партытуры
Сёмай (Ленінградскай) сімфоніі Дзмітрыя Шастаковіча



У Публічнай бібліятэцы
імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына



Дом, дзе жыў Г. А. Князеў

Двор дома Г. А. Князева





Супрацоўнікі Архіва АН СССР, 1947.
Другі справа ў ніжнім радзе Г. А. Князеў

Уваход у Архіў Акадэміі навук СССР





Еўдакія Мікалаеўна Глебава —
сястра мастака Паўла Філонава, 1940



цю забівалі сябе сёння. Альбо са страху перад страхам смерці?..

Паніка перад голадам, галодным вар'яцтвам і пакутлівым кананнем часта губіла раней, чым сама смерць. Паддаваліся паніцы і моцныя, светлыя розумам і сэрцам людзі. Але ж яны і спыняліся раней. Фаіна Аляксандраўна Прусава запісала ў дзённіку:

«Паводле парады адной старой зварыла шпалеры... Але стала так агідна — адразу ж выкінула, толькі ваду сапсавала. Зварыла і рэмень (дворнік параіў) — таксама каламутная, брудная вада. Выліла адразу... І вось тут мы далі ўсе адзін аднаму слова — не псіхаваць, не есці ўсялякую дрэнь, і няхай будзе што будзе!»

Тое, што Князеў адгадвае, прадбачыць і да чаго сябе рыхтуе спакойна, з годнасцю (змагацца да канца, а калі не хопіць сілы — адысці самому), на шаснаццацігадовага Юру Рабінкіна абрушваецца нечакана і незразумела. Яму належыць усё спазнаць упершыню: смерць, голад, чалавека, сябе. Тут будзе больш за ўсё нечаканасцей і жорсткіх адкрыццяў...

Так, Князеў яшчэ далёкі, далей за многіх іншых ад рысы. Таго, што ў ім ёсць, што назапасіў за сваё жыццё, узяў з кніг, выпрацаваў у сабе, хапае і хопіць на многае. Тая самая інтэлігентнасць, якую не адзін раз атакоўвалі, якая ў іншых умовах здавалася слабасцю і нават перажыткам, менавіта ва ўмовах блакады паказала і патрэбнасць, і сілу, і незаменнасць сваю.

«Інтэлігентшчына! — ускліквае Георгій Аляксеевіч, спрачаючыся з іншымі, але і з сабою таксама: быў жа час, калі і сам ён дапускаў думку пра нейкую там правату тых, хто лаяўся словам «інтэлігент».— Але ж, чым мы былі, тым і застанёмся... У нас ёсць яшчэ сорам, сумленне. Гэтыя старыя, «смешныя» інтэлігенты стварылі вялікую рускую гуманістычную культуру і перадумовы Вялікага Кастрычніка... Я ўсе сілы напружыў, каб захаваць у адносінах з людзьмі далікатнасць, мяккасць, каб лягчэй было. У мяне няма хлеба, але ёсць пакуль слова, бадзёрае і добрае слова. Яно не заменіць хлеба... Ало як брыдка, калі іншыя, не маючы хлеба, кідаюцца камянямі...»

***«1941.Х.26.*** Сто дваццаць сёмы дзень... Калі я падымаўся па лесвіцы дамоў, А., які абганяў мяне, звярнуўся да мяне з пытаннем: «Ну якая ваша думка, вялікі апты-

міст, пра Маскву: пераможам ці пакінем яе?» Я адказаў прыкладна так: «Становішча, як відаць, вельмі сур'ёзнае. Вырашальная бітва адбываецца пад Масквою, куды сцягнуты ўсе сілы праціўніка і нашы... Але што б ні здарылася, я цвёрда ўпэўнены ў тым, што Германія нас не пераможа. На нашым баку чалавечыя рэсурсы і невычэрпныя матэрыяльныя рэсурсы ЗША і Англіі, якія змагаюцца з гітлераўскай Германіяй, барацьба ідзе смяротная, кампраміснага міру быць не можа. І Германія ўрэшце будзе пераможана... Гэта для мяне з'яўляецца стымулам маёй бадзёрасці і аптымізму».

А. усміхнуўся і нічога не адказаў.

Па радыё прагучаў «Інтэрнацыянал». Скончыўся дзень, 12-я гадз. Сёння будзем спаць не распранаючыся.

Гэта на малым радыусе... А што робіцца ў Маскве? Сэрца абліваецца кроўю, як падумаеш пра тыя выпрабаванні, што выпалі па долю масквічоў... Ідзе рашаючая бітва, а масквічы — яе непасрэдныя ўдзельнікі. Жах ахоплівае ад гэтай думкі... Няўжо самае жорсткае выпрабаванне пагражае радзіме?!

Пра будучыню лепш не думаць... Будучыні ў нас няма... Але ў радзімы будучыня ёсць!

...Магчыма, таму, што я дырэктар і сам трымаюся строга і не ўступаю ў размовы па пытаннях вайны і нашых агульных нягод, я вось некалькі дзён ні з кім не размаўляў аб актуальных падзеях. Супрацоўнікі затаіліся. Ні С., ні І. Л., ні іншыя аб падзеях ні слова...

Вялікім намаганнем, але я дамогся таго, што супрацоўнікі зноў наладзілі сваю працу. Цяпер усе сядзім у адным пакоі — у чытальнай зале, дзе пастаўлена печ. Палім у ёй усялякі хлам, у тым ліку і макулатуру. Адносна цёпла, каля 8-мі градусаў! Працаваць можна!

***1941.X.29.*** Сто трыццаты дзень... Увечар дзве трывогі.

Робіцца ўсё цяжэй у харчовых адносінах. Сёння абед быў вельмі бедны. Але пра гэта сумна пісаць. Пакуль што толькі нястачы, але яшчэ не голад, цярпець можна. Трэба.

***1941.X.31.*** Сто трыццаць другі дзень... І такі жах бярэ, а газеты агітуюць, палохаюць, цытуюць выказванні Гітлера: «Знішчыць 20 мільёнаў чалавек; пачынаючы з гэтага часу, гэта будзе адна з галоўных задач германскае палітыкі, задач, разлічаных на працяглы тэрмін. Мы павінны перш за ўсё выцесніць і знішчыць славянскія народы... Натуральны інстынкт загадвае ўсякай жывой істоце не толькі дабіць свайго ворага, але і знішчыць яго.

У мінулыя часы за пераможцамі прызнавалі поўнае права вынішчаць плямёны і цэлыя народы... Перад намі паўстае задача зменшыць чужое насельніцтва, як і абавязак спрыяць колькаснаму росту германскага насельніцтва. Трэба распрацаваць тэхніку скарачэння чужога насельніцтва»... І да гэтага на некалькіх газетных слупках каментарыі. Нават чалавека з канатнымі нервамі пачнуць праймаць халодныя дрыжыкі, калі ён прачытае ўсё гэта. Ці была на свеце больш змрочная эпоха, з таго часу як узнікла цывілізацыя? Бадай што, но. Жорсткасць была, але ад дзікунства. Цяпер вытанчаная жорсткасць ад розуму, ад скажона накіраванай тэхнікі, навукі на разбурэнне.

***1941.XI.1.*** Сто трыццаць трэці дзень. Канец шляху дамоў давялося праехаць пад артылерыйскім абстрэлам. За мною па набярэжнай ішоў акадэмік Крачкоўскі з жонкаю, спакойна, сваім звычайным крокам. М. Ф. сустрэла мяне радасна, з аблегчаным сэрцам: «Ну вось, даехаў, а я пачала хвалявацца». Дома стрэлаў не было чуваць, толькі, як заўсёды, уздрыгваў дом.

Увечар было дзве паветраныя трывогі. І цяпер стаіць у вушах гэтая панурая музыка выючай сірэны.

Абедалі вельмі скупа. А гэты раз, як наўмысна, вельмі хацелася есці.

Увечар падчас трывогі і ў перапынках чытаў «Отечественные записки» пачатку XIX ст. Усё папаўняў свой шосты раздзел гісторыі Акадэміі навук.

З цяжкасцю пераадольваў унутраную трывогу за поўную бесперспектыўнасць нашай будучыні. Да таго ж мяне вельмі непакоіць ахова Архіва. Сёння абышоў усё сховішча, зрабіў цэлы шэраг распараджэнняў. Супрацоўнікі пастулова здаюць. С. глядзіць, і без таго пануры, хваравіта-раздражнёна на ўсё. Я нават пацікавіўся, ці здаровы ён. У А. О. застылыя шкляныя вочы. Ш. паглыблена маўклівая. Л. пачала зноў працаваць, але глядзіць хітрымі вачамі. Што яна думае, тоіць у сабе, як перажывае падзеі — ніколі не выказваецца. І мне раптам зрабілася сумна, адзінока ў гэтым пакоі сярод гэтых людзей, якія штосьці хаваюць у сабе.

***1941.XI.7.*** Сто трыццаць дзевяты дзень вайны. Увесь дзень па радыё перадаюць прамовы, музыку.

Слухаў яшчэ адну перадачу з Масквы, прамову, якую сказаў сёння Сталін у час параду на Чырвонай плошчы. Як высветлілася, традыцыя не была парушана і ў 9 га-

Дзін раніцы пачаўся парад, праўда, асаблівы. Праз Чырвоную плошчу праходзілі войскі, якія адпраўляюцца на лінію агню, а таксама і тыя, што вяртаюцца адтуль, змененыя для адпачынку, проста з бою.

Доўга маўчаў Сталін, і раптам адразу два выступленні. Адчуваецца нейкі пералом у ваенным становішчы. Немцы кідаюць усе свае сілы, усе свае рэзервы, але мы больш не адступаем. Няма куды! Альбо памерці, альбо адстаяць Маскву і Ленінград. Трэцяга рашэння няма.

...Страшэнная навіна прамільгнула ў газетах. Кнут Гамсун, выдатны нарвежскі пісьменнік, прыйшоў да высновы аб немагчымасці для Нарвегіі быць незалежнаю краінай і схіліўся на бок квіслінгаўцаў, гэта значыць, да поўнага супрацоўніцтва з нацыянал-сацыялістамі.

...У перадавым артыкуле «Ленинградской правды» сказана: «Мы ахвяравалі многім... Але найвялікшай ахвяры — Масквы — мы ніколі не прынясём».

...Вайна запатрабуе яшчэ шмат ахвяр і часу. Сталін кажа, што не трэба толькі перабольшваць сілы ворага і цяжкасці на шляху да перамогі, як гэта робяць некаторыя напалоханыя інтэлігенцікі.

Наперадзе вайна, толькі вайна, да поўнага вычарпання праціўніка. Нічога іншага, апрача вайны.

Страляюць!»

У такіх людзей, як Князеў, свае межы, свае тупікі ва ўмовах горада і смяртэльнай стомленасці, фізічнай і душэўнай. Але ў іх ёсць і вялізны запас чалавечай трываласці: гуманістычны пласт, які ўтвараецца сапраўднай культураю, сапраўднай інтэлігентнасцю. І ў душу Князева таксама могуць упаўзці, уварвацца слабасць, эгаізм, роспач, але, перш чым уварвуцца, павінны яшчэ прайсці, пераадолець той самы пласт, якога, вядома ж, не хапала хлапчуку Юру Рабінніку. Яму змагацца з самім сабою, з чалавечымі слабасцямі будзе значна пакутлівей. Тое, што Князеў заўважае і ацэньвае адразу, здалёк, Юра Рабіннік знойдзе ў сабе толькі пасля ўчынку: ужо зробіць і толькі пасля зразумее, ацэніць, будзе мучыцца...

Блакадныя дзённікі Г. А. Князева — вялізная духоўная праца. Яна лечыць, дае зарад сілы і надзеі. Гэтай працаю ён няспынна ўмацоўвае і павялічвае той самы пласт, які адсоўвае голад, холад, роспач.

Сапраўдны вучоны, Князеў свайго пісьменніцтва кры-

ху саромеўся, як затоенай слабасці. Пабойваўся безабароннасці, з якою пісьменнік з'яўляецца перад публікай, к і.'носячы на людскі суд сваё святая святых. Князеў шліфуе да самазабыцця свае вершы-формулы (лаканічныя формулы думак і перажыванняў), ахвотна апрацоўвае сам сабе чужыя радкі і нават чужыя творы, якія спадабаліся яму («...як гэта зрабіў бы я!»), вышукваючы «сваё» ў іншых, і ўсё гэта (і вершы і дзённікі) загадзя прызначае «ў архіў». Трэба пры гэтым мець на ўвазе ягоны, архівіста, погляд на архіў: Князеву гэта такое ж самае пажаданае месца, як іншым друк, публікацыя. Зусім не магілкі, а, наадварот, тое месца, дзе жывуць самыя паважаныя ім пісьменнікі, вучоныя,— іх рука, іх радкі, рукапісы...

«Я ўжо запісаў у свой час невялікі верш, што нібы ў фокусе адлюстраваў мае перажыванні, мой настрой. Вось цяпер ён у канчатковай рэдакцыі. Тое, што патрабуе многіх дзесяткаў старонак, змяшчаецца ў некалькіх радках у нешматлікіх словах:

В эти дни
Молчание, мой друг, молчание!
Слова излишни.
За свой страдания
и слезы ближних
отмщение придет.
Стук сердца — вот слова
и эхо — пулемет!

З вялікай трывогаю сачу за падзеямі, прагна шукаю нітачкі, каб, ухапіўшыся за іх, зразумець, засвоіць ход падзей. Усё перажываю ў двух планах, у грамадзянскім і асабістым. Таму так шмат супярэчнасцей, няўвязак, цяжкасцей у разуменні таго, што адбываецца і што будзе ў бліжэйшым часе. Шляхі і раздарожжы збіліся. Таму я вельмі стомлены. Начытаўся газет: гэта адбітак перажытага ў адным плане; наслухаўся ўсяго: гэта ў другім плане. І вось сеў за свае нататкі, разгубіўся: што ж мне запісваць? Давесці да канца думкі «першага плана», значыць, геройстваваць; заняцца пераказам думак «другога плана», значыць, ныць...

***1941.XI.12.*** Сто сорак чацвёрты дзень. Вось ён не толькі пастукаўся, але і ўвайшоў кашчавым крокам — голад.

Харчовае становішча Ленінграда дрэннае. Пра гэта абвясцілі па радыё і ў газетах. «Бальшавікі не хаваюць праўды ад народа». Становішча цяжкае. Пакуль не будзе

прарвана блакада, становішча не палепшыцца. З заўтрашняга дня скарачаецца норма выдачы хлеба не толькі насельніцтву, але і вайскоўцам. Пытання, якое ўзнімаецца маладушнымі пра здачу горада «на літасць ворага», не можа быць. Ленінград мусіць абараняцца, што б там ні здарылася. Пра здачу і гаворкі быць не можа! Усе цяжкасці, выпрабаванні, што выпадаюць на нашу долю, у тым ліку і голад, мы павінны перацярпець...

Спакойна сустрэлі з М. Ф. новы этап у нашым жыцці. Альбо «перацерпім», альбо памрэм. Але пра будучае лепш не думаць. Прыйдзе гэта будучае — і тады трэба будзе пераадольваць яго.

Немцы хочуць узяць нас зморам. Ці вытрымаюць ленінградцы, каля 4-х мільёнаў, гэта вялікае выпрабаванне? Але не толькі зморам. Сёння лётнае надвор’е і за дзень было 5 трывог. У апошні доўгі налёт мы зноў адчувалі, як хістаўся дом. Дом «паехаў». Дзесьці блізка, значыць, бухнула бомба. І, відаць, не адна. Я і М. Ф. усталі, калі «паехаў» дом, а потым зноў селі і пачалі піць свой вячэрні чай. Раніцаю быў артылерыйскі абстрэл. Такім чынам, голад, холад, бамбёжка, артылерыйскія снарады, што пралятаюць са свістам над галавою.

М. Ф. кажа: «Усё перацерпім, толькі б адагнаць немцаў».

***1941.XI.16.*** Сто сорак восьмы дзень... З раніцы спрабавалі памыцца і надзець чыстую бялізну. Не змаглі: адна за другою трывогі прымусілі насцярожыцца. Пачалі прыбіраць у пакоі ўсе тыя рэчы, якія могуць «ляцець»,— шырму, карціны, вазы, люстэрка і да т. п. Кватэра стала падобнай на хлеў.

А 4-й гадзіне, як паводле раскладу, пачаўся артылерыйскі абстрэл. Задрапіравалі вокны дадаткова рознымі анучамі, каб у выпадку выбуховай хвалі не надта далёка паразляталіся шыбы. Я зняў лямпу ў сваім кабінеце са стала і паставіў яе ў куток; гадзіннік на каміне паставіў уздоўж сцяны. Амаль пасярэдзіне пакоя стаіць скрыпка з пяском, каля каміна бак і вядро з вадою.

У суседзяў, нягледзячы на мароз, адчыненыя вокны, на падлозе цэгла, гліна, цэмент; уся падлога ў гразі, усюды пластом вапнавы пыл. Трэці дзень майстры ладзяць у вокнах, што выходзяць на набярэжную, байніцы для кулямётаў. Усе рэчы пассоўваны з месцаў, перакулены. Жыць у такіх пакоях, канечне, немагчыма. Жыхары ўладкаваліся жыць у кухні, вокны якой выходзяць на двор.

Хутка, відаць, і нам давядзецца пакінуць сваю кватэру. Мне нічога но шкада, апрача кніг, і вось гэтых нататак, і назапашаных матэрыялаў і калекцый. А можа, і раней. будзем разгромлены альбо згарым.

У дэкларацыі палонных германскіх салдатаў сказана («Лен. пр.», 41.XI.16):

«Гора нам, немцам, калі паражэнне Гітлера адбудзецца без нашага ўдзелу, без нашага актыўнага садзейнічання. Ніхто тады не паверыць нашым клятвам, што мы, немцы, не нясём адказнасці за гітлераўскія злачынствы.

Народ, імем якога здзейснены зверствы, які маўчыць і паслухмяна вядзе вайну, такі народ не можа разлічваць ні на спачуванне, ні на дапамогу»...»

Аўтар нататак ужо спазнаў, выпрабаваў усё, што абрушвалася ў тыя дні і месяцы на ленінградцаў. Бомбы, снарады, ужо і голад падступіў (хоць пісаць пра голад яму быццам бы нізка, «сумна» — памятаеце запіс ад 29 кастрычніка?). Але яго па-ранейшаму мучыць таксама і гэта пытанне: як ставіцца да народа, чыім імем мучаць усю Еўропу, паўсвету?..

## НЕХТА
## ЗАЎСЁДЫ ЗАПІСВАЕ

І зноў дзённік Г. А. Князева:

«***1941.XI.17.*** Сто сорак дзевяты дзень вайны. Ці весці далей мае нататкі? Яны набываюць занадта аднастайны характар рэгістрацыі разбурэнняў, якія прычыняюць бамбёжкі з варожых самалётаў. Я не ахопліваю, як сучаснік, падзей, і радыус мой надта малы для паўнаты і ўсебаковасці іх адлюстравання. Я спрабую пашырыць свой радыус абагульненнем звестак, пачэрпнутых з газет, а ці трэба гэта рабіць? Я ж не бяру на сябе ў гэтых нататках ролю гісторыка, карэспандэнта і да т. п.

...Вось таксама — ці пісаць пра сябе, пра свае перажыванні? Можна ж было б і парысавацца: бач, які герой, што так стойка і адважна перажывае ўсе гэтыя выпрабаванні. Сапраўды, я стойка перажываю іх, але перажываю дыялектычна, з вялікімі супярэчнасцямі...

Страшна глядзець на верх будынка лавалеўскага дома Цэнтраархіва: нібыта разбіты чэрап. І дамы маюць сваю фізіяномію! Дом-прыгажун ператварыўся ў мерцвяка».

Мы ўспаміналі ўжо, што ў гэтай частцы кнігі, як правіла, карыстаемся аўтэнтычнымі запісамі тых дзён. Перш за ўсё дзённікамі, але шмат у каго захаваліся не дзённікі, а ўрывачныя запісы, замалёўкі, сцэнкі — без чыслаў, нерэгулярныя. Яны таксама важныя сваёй аўтэнтычнасцю. У іх жа назіранні, замалёўкі.

Вось некалькі сцэнак 1941—1942 гадоў з запісак Вольгі Мікалаеўны Радштэйн:

«На Няве ярка, сінявата, празрыста. Чародка чаек, пагойдваючыся, сядзіць на вадзе.

Маршрут № 12 паўзе па Дварцовым мосце. У вагонах стаяць сціснутыя людзі. У тоўстых хустках, ватоўках грамадзянкі — здабытчыцы дэфіцытных прадуктаў, з мяхамі, бутлямі, цюкамі. Самаварныя твары і, нібы пара вуголін на плоскім падносе, маленькія калючыя вочы.

— А колькі пту-у-у-шак падляцела! Мабыць, рыбу ловяць!

Прыціснутыя адна да аднае мяшочніцы любуюцца з акон вагона карцінаю гордага прыволля і святла там, унізе, каля моста. Чайкі пагойдваюцца на хвалях, бялюткія, нібы фарфоравыя. Некаторыя, трапечучы крыламі, усаджваюцца каля сваіх сяброўак.

— Мясцовыя качкі, відаць,— кажа адна з хатніх гаспадынь.— На суп іх трэба пералавіць усіх.

Чаму б і не? Няхай чайкі будуць качкамі, калі ў жанчын выгляд галоднага шчупака.

...Растрэлі ўпрыгожыў дах Зімняга палаца фігурамі (дарэчы сказаць, дзіўнае таварыства). З трамвая публіка глядзіць на іх засяроджана:

— Навошта гэта на даху дзяжурыць столькі рамеснікаў?

...Голад. Па тэлефоне настойліва тлумачаць, што загадчык сталоўкі няправільна выразае талон па 100 грамаў мяса, бо ў катлеце, апрача мяса, яшчэ ж і 50% булкі. Катлету вырашала адправіць у хімічную лабараторыю».

І побач — запіс для сябе: «Гэйнэ не піша «сачыняць верш», ён кажа: ein Gedicht erleben...» *

* Перажываць верш *(ням.)*.

У Вольгі Мікалаеўны цэлая папка такіх запісаў. Замалёўкі-сцэнкі, пачутыя размовы — і тут жа расказ пра смерць маці, пра тое, як давялося таргавацца з дворнічыхаю, якая за хлеб апранала нябожчыцу,— запіс цяжкі, страшэнны... У сямейных архівах ленінградцаў, у архівах горада захоўваецца яшчэ мноства неразабраных запісаў, дзённікаў, лістоў, звязаных з блакадаю. У кожнага блакадніка быў свой радыус — назіранняў, асэнсавання таго, што адбываецца, перажыванняў.

Але вернемся да старонак дзённіка Г. А. Князева.

«*1941.XI.29.* Сто шэсцьдзесят першы дзень вайны... Не можам успамінаць без агіды грамадзянку Напалкаву. Высвятляецца, што яна яшчэ напярэдадні агітавала нейкага стомленага «ныціка-інтэлігента», кажучы, што кожны ленінградзец павінен быць напагатове і быць гатовым да адпору ворагу. «Няўжо ў нас не хопіць мужнасці кінуць бутэльку з гаручым у варожы танк? — казала яна патэтычна.— Мы стойка павінны трымацца ў Ленінградзе, не пакідаючы яго ў такую хвіліну... Гэта наш абавязак». За некалькі гадзін да свайго адлёту яна ні адзіным словам не абмовілася, што пакідае Ленінград, сваіх таварышаў па службе, таварышаў па партыі.

Гэты выпадак сумны тым, што Напалкава прыйшла ў Акадэмію, у партарганізацыю пасля гэтулькіх правалаў у ёй і, здавалася, заваявала трывалае становішча (і нават павагу) стойкага, моцнага члена партыі.

...Так уладкоўваюцца тыя, што на словах агітуюць за самаахвярнасць, на подзвігі, на геройства... Яшчэ некалькі дзён назад Напалкава, як адказны член партыі, агітавала мяне выступіць на злёце інтэлігенцыі і сказаць некалькі слоў пра абавязак савецкага інтэлігента ахвяраваць усім дзеля радзімы...

Нармальнае жыццё чалавецтва скончылася 28 чэрвеня 1914 года. З гэтага дня трэба лічыць пачатак таго перыяду, у якім мы жывём. У нас, савецкіх людзей, ёсць свяшчэнная дата — 25 кастрычніка 1917 года, якою ўсе мы жылі як новаю эрай адроджанага чалавецтва. Так было да 22 чэрвеня 1941 года. З гэтага дня пачалася наша страшэнная трагедыя.

*1941.XII.3.* Сто шэсцьдзесят пяты дзень вайны. Увесь вечар няма электрычнасці. Пісаць пры лампадцы цяжка.

Сёння па службе працавалі кепска. Было шмат хваляванняў з прычыны эвакуацыйных меркаванняў. Раніцою атрымалі афіцыйнае паведамленне пра гэта. Хочуць ехаць

Арбелі з трыма дзецьмі (9 гадоў, 12 і 15), Урманчэева таксама з трыма дзецьмі (1, 3 і 5), Травіна вагаецца. Астатнія адмовіліся. Трэба будзе ісці пешшу 150—200 кіламетраў. Багаж і дзяцей абяцаюць везці. Панічны жах перад голадам кідае людзей на вялікую рызыку. Арбелі кажа: «Усё роўна: тут паміраць галоднай смерцю, ісці — мець нейкі шанц на выратаванне». Яна прывяла ўсіх сваіх дзяўчынак на службу. Глядзеў на іх і думаў пра будучы вялікі выхад шматпакутных ленінградцаў. Ісці ім давядзецца ў сцюдзёныя зімовыя снежаньскія ці студзеньскія ночы, у маразы, у віхуры, у замець, па бездарожжы. Адчайная спроба».

З снежня 1941 года — менавіта ў гэты дзень у доме на Карпаўцы ў сваёй майстэрні памірае ад голаду цудоўны савецкі мастак Павел Мікалаевіч Філонаў. Нам расказала пра тое, як гэта было, яго родная сястра Еўдакія Мікалаеўна Глебава.

Мы яшчэ раскажам пра саму Еўдакію Мікалаеўну Глебаву, лёс якой незвычайны, але цяпер трэба заўважыць, што ў самым пачатку снежня 1941 года смерць ад голаду была яшчэ не такая частая. П. М. Філонаў памёр так рана таму, што ён і да таго часу жыў галаднавата і згодна са сваімі перакананнямі не прымаў ніякай дапамогі — ні грашыма, ні харчамі. Быў ён худы, змардаваны, і, можа, таму так хутка голад адолеў яго.

А па дзённіку Г. А. Князева ўжо —

*«1941.XII.5.* Сто шэсцьдзесят сёмы дзень вайны... Сёння Дзень канстытуцыі. Трамваі бегаюць з чырвонымі сцяжкамі, але на дамах чамусьці сцягоў не вывесілі.

Зноў, як у 19 і 20 гадах, на вуліцах сустракаю людзей з труною на саначках...

Старэнькую маці і яе сына, параненага і звар'яцелага ў фінскую вайну, родных той Валі, якую мы хацелі выхоўваць, знайшлі мёртвымі ў іх кватэры, дзверы якой давялося ўзламаць.

*1941.XII.8.* Сто семідзесяты дзень вайны... Вечар. З лампадачкаю нічога нельга рабіць. Палю свечку. А там — будзь што будзе. Культурныя даброты скончыліся ці з перабоямі канчаюцца.

М. Ф. кажа: «Калі так будзе працягвацца, дык у студзені ці ў лютым давядзецца паміраць галоднаю смерцю». Кажа спакойна і дадае: «Але паколькі паміраць ад голаду

вельмі пакутліва, дык давядзецца неяк па-іншаму паміраць. Ты заб'еш мяне, а потым і сам...» І кажа гэта М. Ф., мая жыццярадасная жонка-сябар, што так любіць жыццё...»

Пакаленне Г. А. Князева, усе старыя піцерцы згадвалі 1919-1920 гады. Параўнанні гэтыя прыходзілі з розных прычын, пра той галодны петраградскі час нагадвалі і буржуйкі — маленькія жалезныя грубкі, якія ставілі пасярод пакоя,— і слова ж гэтае было прыдумана тады, ім карысталіся іншыя, хоць яно пазбаўлена свайго сацыяльнага падтэксту. Ажылі словы «пайкі», «газоўкі», зноў аб'явілася «дуранда» *...

## АБЛЕДЗЯНЕЛЫЯ СФІНКСЫ

Прадоўжым запіс Князева:

«...Кожны дзень у газетах у надзагалоўках прыводзіцца цытата за цытатай з прамовы Сталіна. Сёння прачытаў у газеце за 1 снежня, якая прыйшла на 8-мы дзень,— «перапалоханыя інтэлігенцікі»... Так гэта ці не так?

Вось паскудніца Напалкава, зусім не «інтэлігенцік», усіх сарамаціла за маладушша, інтэлігентнасць, баязлівасць, а калі сапраўды цяжка і кепска зрабілася, кінула ўсіх і ўсё і вылецела з Ленінграда.

Нягледзячы на бамбёжку і холад, я так добра і з захапленнем працаваў у кастрычніку і лістападзе, а вось у снежні ўсё расклеілася. І супрацоўнікі таксама аслабелі. Выцягнуты з розных месцаў матэрыял ужо тыдні два ляжыць рассыпаны на падлозе ў сховішчы. Пазаўчора Л. улезла з папяросаю ўжо ў само сховішча. Холад выгнаў са службовага пакоя, і ўсе сядзяць каля пліты ў тым пакоі, дзе прыбіральня... Змрочная карціна. Толькі таму трэба аддаць справядлівасць, што супрацоўнікі выконваюць свой абавязак дзяжурных і праводзяць адну ноч у

* Макуха.

тыдзень на службе, халодныя і галодныя. Гэта праца па ахове дaвераных нам навуковых каштоўнасцей — галоўная і сапраўды патрэбная праца.

***1941.XII.12 і 13.*** Сто семдзесят чацвёрты і сто семдзесят пяты дні вайны... Сёння мае гордыя сфінксы здаліся мне такімі вартымі жалю, голымі шчанюкамі, кінутымі на жорсткі мароз. Быццам бы ўсе забыліся на іх. І стаяць яны над белай прастораю Нявы...

Учора пасля прыезду дамоў нельга было заставацца пад порцікам нашага дома: снарады рваліся недзе за Нявою; сёння бухалі ў тыя самыя мінуты дзесьці далей. Пахадзіў паміж калонамі. Тут пешаходаў чамусьці менш. Многія шукаюць эвакуацыйны пункт і нервуюцца, не знаходзячы такога; другія пытаюцца, дзе аддзел сацыяльнага забеспячэння. Гэта інваліды. Некаторыя ледзьве рухаюцца па прычыне старасці ці слабасці. Цяжка глядзець на гэтыя чалавечыя адкіды. Па заваленай снегам набярэжнай усё-такі расчышчаны шляхі для праезду. Але праязджаюць рэдкія грузавікі і зрэдку легкавыя машыны, відавочна, спецыяльнага прызначэння ці сантранспарт.

Пакуль я еду ці стаю каля калон, абавязкова ўбачу найзвычайнейшую цяпер карціну: на саначках вязуць купленую пустую труну, на скорую руку збітую, нефарбаваную, альбо з нябожчыкам, і двое-трое вязуць «пахавальныя санкі».

Кажуць, што на могілках збіраецца шмат такіх дамавін.

Ад нашых калон як на далоні відзён Мікалаеўскі мост. Правады на ім часткова абарваныя, трамваі не праходзяць цераз яго. І толькі бясконцым чорным ланцужком рухаюцца ў абодва бакі пешаходы. Бачныя адсюль і адзінокія мае сфінксы — сярод снежных сумётаў і перад імі грузавы аўтамабіль без пярэдніх колаў. Ен стаіць там трэці тыдзень. Ці снарад яго разбіў, ці аварыю ён пацярпеў — не ведаю. Але прыбраць яго, відаць, няма каму ды і няма калі. І стаіць гэта разбітая тэхніка перад вартавымі тысячагоддзяў — сфінксамі са старажытных Фіваў у Егіпце.

Замыкаю за сабою парадныя дзверы. Першыя шыбы ў дзвярах забіты фанераю, другія разбіліся ад сатрасення паветра пры выбухах, адна з гэтых шыбак разбілася гэтымі днямі. На лесвіцы цёмна, больш за месяц ніхто яе не падмятаў: ляжаць акуркі, паперкі, пясок і пыл... Калі хто ідзе, аклікаем адзін аднаго, каб даць дарогу.

Дома жывём у пярэднім пакоі. Электрычнасці няма ўжо другі тыдзень.

На службе цяжка з некаторымі аслабелымі супрацоўнікамі. У сховішчах мароз, у службовых пакоях таксама. Увесь час гасне электрычнасць, і тады супрацоўнікі сядзяць у змроку. На лесвіцы тады цемра апраметная. Замкнуць дзверы на вуліцу нельга, не чуваць стуку, і без электрычнасці званок не дзейнічае. Я і некаторыя іншыя супрацоўнікі займаемся ў адной з вежаў-выступаў, што прымыкаюць да Заалагічнага інстытута, дзе было адносна цёпла, але і там стала цяпер вельмі холадна. Сёння я там моцна прамёрз, але выседзеў пяць гадзін, працуючы над гісторыяй замяшчэння акадэмічных кафедраў.

Я наўмысна спыніўся так падрабязна на дэталях нашага побыту на маім малым радыусе. Пра гэта наўрад ці хто напіша цяпер. Жыццё ж на фронце, жыццё герояў, будзе ў дастатковай ступені асветлена іншымі. Ад нас патрабуецца адно — пераажыць, перацярпець, дачакацца пералому, перамогі...

І ўжо прыходзяць радасныя звесткі з-пад Масквы пра новы нанесены ўдар ворагу. Сам Гітлер заявіў, што ўзяцце Масквы ён адтэрміноўвае аж да вясны. Зіма паша прыйшлася немцам не да густу. Эх, каб яны памерзлі ўсе пад Масквою, пад Ленінградам, на Украіне; парушылася б іх камунікацыя ад нашых магутных снежных заносаў. Згінулі б праклятыя разбойнікі, што ўварваліся на нашу зямлю, штодзённа абстрэльваюць ленінградскія вуліцы, плошчы, жылыя дамы. Згінулі б, «аки обре». А можа, і пачаўся ўжо разгром нямецкіх армій? Зламалася б іх тэхніка на нашых снежных прасторах! А тады разбойнікам давялося б атрымаць адплату за ўчыненыя імі жахлівыя злачынствы. Яны не застануцца без пакарання...

Канчаю свае запісы. Са страхам гляджу на свае «мігалачкі», запас гаручага канчаецца. Няўжо хутка і мне давядзецца жыць вечар, ноч і раніцу ў цемры, «навобмацак»?

***1941.XII.17 і 18.*** Сто семдзесят дзевяты і сто васьмідзесяты дні вайны. На фронце нашы войскі наносяць удар за ўдарам на нямецкіх акупантах. Ачышчаны занятыя імі ўчасткі Паўночнай дарогі пад Ленінградам (ад Ціхвіна да Волхава). Кастрычніцкая дарога ачышчана. Толькі Мурманская моцна перахоплена фінска-нямецкімі войскамі, якія сядзяць у Петраазаводску. У Мурманску назапашана маса прадуктаў Ленінграду. Гэтыя звесткі перада-

юцца з вуснаў у вусны; людзі", знямоглыя, стомленыя, збіраюцца з сіламі.

А шмат хто не можа ўжо і падняцца. Упора каля нашага акадэмічнага дома, каля калон, якія я часта згадваю, памёр чалавек. Камендант нашага дома Саўчанка бачыў, як жанчына вяла пад руку цераз дарогу мужчыну. Той ледзьве ішоў, заваліўся каля рэек; яна яго прыўзняла, і ён зрабіў яшчэ некалькі крокаў, але да тратуара не дайшоў. Упаў каля гурбы снегу. Калі Саўчанка падышоў, дык убачыў ужо нежывога чалавека. Над памерлым мітусілася жанчына, яго жонка. Прахожыя, даведаўшыся, у чым справа, параілі жанчыне — не прызнавацца, што яна жонка, а нібыта чужая яму. Тады міліцыя абавязана будзе ўзяць труп і распарадзіцца з ім як трэба. Так і было зроблена. Падышоў міліцыянер, спыніў сані, што якраз праязджалі там, паклалі на іх нябожчыка і адправілі ў трупярню. Што сталася з жанчынаю, якая страціла мужа і не змагла нават пахаваць яго, не ведаю.

Саўчанка і сам глядзіць такім тужлівым поглядам: «Гінуць жа ўсё роўна давядзецца, не вытрымаем».— «Не давядзецца,— супакойваў яго я.— Вытрываем, толькі б волю да пераадольвання нягод не страціць». Я яшчэ доўга гаварыў яму, што трэба пратрымацца, не паддавацца страху. Здаецца, падзейнічала.

Высветлілася, што ў доме ў нас ніхто не дзяжурыць. На гарышча ніхто не падымаецца. Калі я загаварыў пра інструкцыю аб тушэнні запальных бомбаў у зімовы час, што была надрукавана ў «Правде», ён толькі сумна ўсміхнуўся: «А хто ж гэта рабіць будзе? Ні ў каго сіл няма; з дворнікаў — Аляксандр ляжыць распухлы, другі, Старыкаў, знясілены... Няма каму ў нас у доме такія інструкцыі выконваць».

— Значыць, жывём, спадзеючыся на волю лёсу.

На службе таксама з аховаю цяжка. Выконваць інструкцыю таксама няма каму.

Змрочна ў сховішчах, у рабочых прамерзлых пакоях... З жалем думаю: чаму мы тут сядзім, чаму не працуем за варштатам, не робім той справы, якая патрэбна цяпер фронту? Сам я цяпер канчаю працу для даклада «Да гісторыі замяшчэння кафедр у Акадэміі павук за ўвесь час яе існавання». Усё гэта, канечне, магло б пачакаць.

Мноства народу альбо самі пайшлі, альбо былі скарочаны па розных гарадскіх установах і прадпрыемствах, і таму заўсёды хто-небудзь з сям'і дзяжурыць у чарзе...

Колькі, значыць, пароду зусім не выкарыстанага для абароны. Няўжо і вясною гэтыя людзі не будуць займацца агародніцтвам, лоўляю рыбы і да т. п.? Я заўсёды з жалем думаю: пад носам Нява, некалькі кіламетраў ад рыбнага Ладажскага возера, а мы нават у мірны час сядзелі без рыбы! Палову Расіі можна было б пракарміць рыбаю з тысяч азёраў нашага краю!.. Не! Вось цяпер, калі з падвозам перабоі, ленінградцы і пухнуць з голаду і паміраюць.

Сёння вечарам нехта настойліва пачаў стукацца да нас. Давялося адчыніць. Уваліўся Філімонаў, сталяр і майстар на ўсе рукі, але нідзе не ўжыўся ў акадэмічных установах. Ён звычайна займаў пасаду загадчыка гаспадаркі. Папіваў моцна. Смяяўся яшчэ нядаўна, калі ладзіў мне мыліцу і хацеў не грошы, а прадукты. Сёння ён быў страшны, зарос валоссем, пачарнеў. У руках у яго была запаленая свечка, і з ёю ён паваліўся на калені: «Ратуйце, гіну, згубіў карткі, дайце хлеба». Жонка разгубілася. Што мы маглі зрабіць? Аддаць свой дзённы паёк, гэта значыць, сто дваццаць пяць грамаў?.. Але гэта ж яго не выратавала б! Чым і як мы маглі б памагчы яму? Я дастаў і даў яму 30 рублёў, кошт 100 грамаў хлеба на рынку. Філімонаў узяў грошы, запэўніваючы, што яму горка, цяжка, страшна прасіць.

Гэты нечаканы візіт пры такіх драматычных абставінах моцна выбіў нас на некаторы час з раўнавагі. Потым я супакоіўся. Прасіць у выпадку такога няшчасця я нікуды не пайду. Усе ж у такім самым становішчы. А калі давядзецца гінуць, дык у мяне знойдуцца сілы знішчыць сябе.

Дагарае свечка, ёлачная, з запасаў М. Ф. Купілі тузін у трэцім годзе на каляды. Як спатрэбіліся! Хутка каляды. Бадай што, за 2000 гадоў самыя змрочныя і жахлівыя каляды. Але мы ў СССР даўно адвыклі ад гэтага свята. Гэтымі днямі больш важная падзея павінна адбыцца, штогадовая падзея ў жыцці нашай планеты: Зямля, аддаліўшыся на самую вялікую адлегласць ад Сонца, зноў павінна наблізіцца да яго. Вялікае свята нараджэння Сонца-жыцця!»

Як яшчэ Князеў мог памагчы Філімонаву? Што было рабіць з чалавекам, які згубіў карткі. А аслабелыя людзі гублялі карткі. Гублялі альбо ў іх кралі.

Падобныя выпадкі ставілі перад роднымі, перад тымі, хто вакол іх, маральныя праблемы, нязносныя ў сваёй безвыходнасці.

## ГОЛАД НЕ ЦЁТКА, СУМЛЕННЕ НЕ СУСЕД

Пачаўся голад і для Юры Рабінніка, ужо ў поўную сілу, па-сапраўднаму. Упершыню падступіла да яго прыкрае, абразлівае, лютае пачуццё голаду. Нам давядзецца вярнуцца назад, у кастрычніцкія дні, і прайсці зноў гэтыя месяцы дзень за днём, але ўжо не з мужчынам, а з хлапчуком, менш засцярожаным ад выпрабаванняў, якія абрынуліся на яго.

«*21 кастрычніка.* Прадзяжурыў з 8 раніцы да 6 вечара ў школе. Усё-такі сёння замарыў чарвячка. Праўдзівей сказаць, затапіў (гэта значыць, заліў вадзіцаю.—*А. А., Д. Г.*). Сёння на алгебры ў школе зрабіў першы запіс у сшытак.

Вечарам зноў непрыемная размова пра ежу. Голад не цётка...

Мама купіла на сваю картку тыднёвы паёк — 150 гр.— дражэ і аддала (у яе быў доўг) Анфісе Мікалаеўне. Тая сказала маме толькі дзякуй і самым спакойным чынам узяла сабе. Цяпер у нас засталося ўсяго толькі 6—8 цукерак на 10 дзён дэкады! Заўтра іх ужо не будзе, гэта як піць даць.

На франтах становішча — дрэнь. Утварыўся яшчэ ў дадатак таганрогскі напрамак. Няўжо мы не разаб'ём нямецкія ўдарныя часці і не адновім зносіны Ленінграда з СССР да 1942 года?

Каб я толькі ведаў, што нормаў выдачы нам хлеба і харчу больш не паменшаць! Каб я толькі ведаў! Але ж іх паменшаць. Паменшаць яшчэ разы ў два. І гэта якраз перад гадавінаю Кастрычніка, гадавінаю найвялікшай у гісторыі рэвалюцыі пралетарыяту 25 (7.XI) кастрычніка!

У школьнай чытальні, высветлілася, ёсць шмат кніг па шахматах, у іх ліку «Сучасны дэбют».

*22 кастрычніка.* Цэлую раніцу пратарчаў у чэргах, каб узяць піва. З вялікай цяжкасцю дастаў 2 бутэлькі, адмарозіў ногі. Пасля 3 талоны на крупы. Вечарам дзяжурыў у школе. Трывог не было. Таганрог узяты немцамі. Наступленне немцаў працягваецца...

Зачытаўся раманам А. Дзюма «Графіня Мансаро». Займальная рэч!

Мама абедзве бутэлькі піва выменяла на 400 гр. хлеба. Зноў мяне пасылаюць у чаргу па піва.

*23 кастрычніка.* Дастаў яшчэ 2 бутэлькі піва. Быў у кіно. Глядзеў «Дзень святога Іяргена». Чытаў «Графіню Мансаро»...

Дома і холад і голад. Усё разам.

*24 кастрычніка.* Увесь дзень з 10 раніцы да 6 вечара замест дзяжурства правёў у піўной чарзе. Не было калі нават пастаяць у міліцыі за пашпартам. І ўсё-ткі піва не дастаў. Вечарам прыйшла мама, выцягнула яшчэ адзін качан капусты. Сяк-так замарыў чарвячка. У зводках нічога асаблівага няма. Мама мне казала, што ЦК Саюза эвакуіраваны ў Куйбышаў. Уяўляю сабе становішча ў Маскве.

Чаю даюць 12,5 грамаў у месяц на чалавека, яек наогул не даюць. Рыбы таксама. Сёння цікавыя былі паводзіны Анфісы Мікалаеўны. Падарыла нам тры аладкі з маркоўнага пюрэ, якое дастала ў трэстаўскай сталоўцы, і 10 дражэ. Было з чым паўкубка чаю выпіць. Напісаў ліст да Ціны. Папрасіў яе прыслаць пасылку з сухарамі альбо з бульбянымі камякамі. Трэба думаць пра ўладкаванне на працу. Пра вучобу часова давядзецца забыць.

З Іраю дзіўная рэч: днём і вечарам пад вачыма сінія падцёкі, коле ў левым баку ад хуткае хады і не можа есці рэдкага (супу). Мама хоча ісці з ёю да доктара.

Што? Які сюрпрыз паднясуць немцы?.. Ва ўсякім разе, немцы пагражаюць спаліць Ленінград на працягу трох дзён няспыннай трывогі (чуткі папаўзлі ад Чыстовых, якія, працуючы ў прыгарадзе, хочаш не хочаш чыталі лістоўкі, што скідвалі немцы).

Чэргі ўсюды: па піва, па квас, па газіраваную ваду. Па перац, соль (асабліва па соль!), па гарчыцу.

Немцы альбо перакінулі ўсе свае паветраныя налёты на маскоўскі фронт, альбо рыхтуюцца да бамбёжкі на гадавіну Кастрычніка. Хочуць ператварыць наша светлае свята ў жалобны дзень.

Сёння толькі даведаўся, што за тушэнне запальных бомбаў на гарышчы і на двары нашага дома мне абвешчана падзяка праз (...) трэста. А калі гэта было, ужо і не помню.

*25 кастрычніка.* Толькі адмарозіў сабе ногі ў чэргах. Болей нічога не дамогся. Цікава, які ліманад даюць у піўных — прыгатаваны на сахарыне ці на натуральных соках?

Эх, як хочацца спаць, спаць, есці, есці, есці... Спаць, есці, спаць, есці... Што яшчэ чалавеку трэба? А будзе ча-

лавек сыты і здаровы — яму захочацца яшчэ чаго-небудзь. І гэтак без канца. Месяц таму назад я хацеў, праўдзівей марыў, пра хлеб з маслам і каўбасою, а цяпер вось ужо пра адзін толькі хлеб...

Ціна прыслала яшчэ два грашовыя пераводы адразу: 200 рублёў і 210 рублёў. Напэўна, ёй прыбавілі шпалу, а то і дзве: ваенурачом І рангу стала. Магчыма, гэта і так.

Сёння прапускаю 2-е па ліку дзяжурства ў школе, і 27-га (калі буду жывы-здаровы) давядзецца прапусціць яшчэ адно.

Ну хто б мог падазраваць, што падзеі так складуцца? Зазірнуў наперад, і ў мяне валасы дыбарам усталі на галаве: холад, голад, арт. набегі, бамбёжка, знясільваюць (...) ночы, дні, цэлыя суткі, потым (...) бактэрыі, хто выратуецца ў першы дзень прымянення, той загіне ад голаду, усе прадукты ў магазінах будуць сапсаваныя... Далей я ўжо не гляджу, надалей заставацца ў Ленінградзе — гібель.

Мама мне кажа, што дзённік цяпер не час весці. А я буду яго весці. (Запомнім, гэта важна, што маці ведае пра існаванне дзённіка! — *А. А., Д. Г.)* Не давядзецца мне перачытваць яго, перачытае хто-небудзь іншы, дазнаецца, што за чалавек такі быў па свеце — Рабінкін Юра, пасмяецца з гэтага чалавека, ды... Успомнілася чамусьці фраза Горкага з «Кліма Самгіна»: «А можа, хлопчыка гэтага і не было?..» Жыў чалавек — няма чалавека. І народная загадка пытае: што самае кароткае на свеце? І адказ сцвярджае: чалавечае жыццё. Некалі я б заняўся, магчыма, філасофіяй. Але цяпер для гэтага трэба: 1) ежа і 2) сон. Гэтым і тлумачыцца ўвесь ідэалізм: для існавання яго патрэбен матэрыялістычны фундамент.

*26 кастрычніка...* І грошай хапае — і ўсё-такі голад.

*29 кастрычніка...* Я ледзь перастаўляю ногі ад слабасці, а падымацца па лесвіцы мне цяпер вельмі цяжка. Мама кажа, што ў мяне пачынае пухнуць твар. А ўсё з-за недаядання. Анфіса Мікалаеўна сёння вечарам цікава выказалася: «Цяпер усе людзі — эгаісты, кожны не думае пра заўтрашні дзень і таму сёння есць як толькі можа». Яна мае рацыю, гэтая кошачка.

Сёння я напісаў яшчэ адзін ліст Ціне. Прашу прыслаць пасылачку з бульбяных камякоў, макухі і да т. п. Няўжо гэтая пасылка — рэч немагчымая? Мне трэба прывучацца да голаду, а я не магу. Ну што ж мне рабіць?

Я не ведаю, як я змагу вучыцца. Я хацеў днямі запяцца алгебраю, а ў галаве не формулы, а буханкі хлеба.

Цяпер я мусіў прачытаць зноў апавяданне Джэка Лондана «Любоў да жыцця». Цудоўная рэч, а для майго сягонняшняга настрою найбольш адпаведная. Кажуць, што на лістападаўскіх картках усе нормы ранейшыя. Нават хлеба не прыбавілі. Мама мне сказала, што, калі пават немцаў адаб’юць, нормы будуць ранейшыя...

Так, немцы, напэўна, аб’яваць няспынную бамбёжку 7 і 8 лістапада. А перад тым уволю памучаць насельніцтва артылерыйскімі набегамі ды бамбёжкамі. Рыхтуюць нам на свята сюрпрыз. Цяпер я мала дбаю пра сябе. Сплю ў адзежы, крыху спалашчу твар адзін разок раніцаю, рук мылам не мыю, не пераапранаюся. У кватэры ў нас холадна, цёмна, ночы праводзім пры святле ад свечкі.

Але самае крыўднае, самае найгоршае мне — гэта вось што: я тут жыву ў голадзе, у холадзе, сярод блох, а побач пакой, дзе жыццё зусім іншае — заўсёды хлеб, каша, мяса, цукеркі, цяпло, зыркая эстонская лямпа, хоць і газавая, камфорт... Гэта называецца зайздрасцю — тое, што я адчуваю пры думцы аб Анфісе Мікалаеўне, але перамагчы не магу.

Мне няма да каго ісці. Да таварышаў? У мяне іх няма. Валодзька ў Казані, Мішка — на працы. А такія (...) — эгаісты да глыбіні душы, навошта да іх ісці?.. Але ўва мне зноў прачынаецца зайздрасць, нават злосць, горкая-горкая крыўда.

*31 кастрычніка, 1 лістапада.* Што можна сказаць пра гэтыя дні? 31-га я адчуваў сябе ўсё ж непараўнальна лепш, чым раней. Цётка Натала пачаставала мяне гарчычнымі аладкамі, нават Анфіса Мікалаеўна і тая дала нам 150 гр. круп (талонаў — 6, з іх 3 дасталося мне на абед).

Уначы была трывога. Білі зеніткі, але бомбаў немцы не кідалі. Няспынна па горадзе б’юць гарматы. І. казаў, што немцы сцягнулі пад Ленінград сваю дальнабойную артылерыю з Ла-Манша. Сёння, 1-га, я пераядаў непрыемны канфуз: мяне не пусцілі ў трэстаўскую сталоўку да 2 гадзін. А ў 2 гадзіны ў сталоўцы ўжо кончылася бульбяное пюрэ, і мне давялось здаволіцца дзвюма талеркамі сачыўкавага пойла. Купіў 3 бутэлькі пертусіну. Гэта сумесь рому з валяр’янкаю і кроплямі дацкага караля. Надзвычай салодкая і спажыўная рэч, 2 бутэлькі ўжо выпіў, засталася адна...

*3, 4, 6 лістапада.* Усе гэтыя тры дні ішла вучоба ў шко-

ле. Зніжаны патрабаванні, з ранейшых настаўнікаў засталося ўсяго некалькі чалавек. Астатнія прыйшлі з 213 школы. Пры школе адкрылася сталоўка. Суп без картак — па 1 талерцы на чалавека, а ўсё астатняе па картках.

Кожную ноч трывога. Бамбёжка. Учора над горадам, у цэнтры, было збіта за ноч 3 нямецкія самалёты. Увесь час артылерыйскія абстрэлы. Ды наперадзе яшчэ свята. Якое «свята» паднясуць нам немцы? Атрутныя рэчывы, можна і не сумнявацца... На 4 дні, з 6 ці 7 пачынаючы, у горадзе адмабілізаваны ўсе абмыўныя пункты. Што гэта будзе?!

На сёння трэба было прачытаць «Мёртвыя душы» Гогаля, але ж пры цьмяным святле ад свечкі немагчыма чытаць. Пішам машынальна. Шмат якіх навін не ведаю. Кажуць: «XXIV гадавіна вырашыць усё...»

Што такое чалавек і чалавечае жыццё? Сапраўды, што? «Жыццё — капейка»,— кажа старая прымаўка. Колькі чалавек жыло да нас і колькі іх павінна было памерці... Але добра памерці, калі адчуваеш і ведаеш, што ты дасягнуў усяго, пра што марыў у маленстве, у юнацтве; добра памерці, ведаючы, што засталіся паслядоўнікі ў тваіх навуковых альбо літаратурных прац, але ж як цяжка... На што спадзяецца цяпер Гітлер? На стварэнне сваёй імперыі, сама задума якой будзе праклятая чалавецтвам будучых дзён. І вось з-за нейкай кучкі авантурнікаў гінуць мільёны і мільёны людзей! Людзей!.. Людзей!!!

Позна ўжо. Артылерыйская страляніна на нейкі час сціхла. Свечка дагарае. Голад, холад, цемра, бруд, вошы і перспектыва: барвовая будучыня, ахутаная заслонаю туману».

Горад рыхтаваўся да зімы. Гідрограф Яўгеній Чураў працягваў сваю працу:

«Ранні лёд на Свіры і ў вярхоўях Нявы, у Чорнай Сатоме даваў падставы меркаваць, што зіма сорак першага — сорак другога года будзе жорсткая.

У маім распараджэнні знаходзіліся матэрыялы валаамскіх манахаў... манахі вялі штодзённыя запісы ваганняў узроўню Белага мора і Ладажскага возера; потым, прыкладна з 1300-х гадоў, манах — настаяцель сабора (забыў яго імя) вёў запіс змен надвор'я: калі стаў лёд? які быў лёд? ці можна было прабіць лёд? хто праваліўся, калі багамольцы ішлі на Валаам? ці праходзілі багамольцы з

Шлісельбурга ці з боку Чорнай Сатомы?.. усё гэта давала падставы ўскосным шляхам аднавіць лядовую сітуацыю.

Гэтым абагульненнем я заняўся па сваёй ініцыятыве, і ў мяне склалася выразнае ўяўленне, што сапраўды зіма можа быць жорсткай, што сёлета возера таксама цалкам замерзне і можна будзе весці войскі нават на поўначы Ладажскага возера, тым больш што задача прарыву кальца, блакады, акружэння, стала зразумелай любому афіцэру, камандзіру, а нам — гідрографам — тым больш было ясна, што трэба ўсе свае веды выкарыстаць на гэта. Дадзеныя валаамскіх манахаў, а пасля дадзеныя — па тых самых участках — Паўночна-заходняга параходства ўдалося супаставіць і ўдалося ўлавіць характар змен лядовых утварэнняў».

Лёд на Ладазе тонкі, зіма 1941/42-га не спяшаецца, хоць тыя, хто абдумвае і рыхтуе «Дарогу жыцця», хацелі б падагнаць, падсцёбнуць сам час — такім ён здаваўся марудным і бязлітасным. Не спяшаюцца і саюзнікі з другім фронтам.

Пра будучую ледзяную трасу цераз Ладагу Юра нічога не ведае, таму і не думае, не піша пра яе. А вось пра саюзнікаў запісвае — што чуў, што ведае:

«*6, 7 лістапада.* На франтах становішча мне невядома. Кажуць, што выступаў Сталін і ў сваёй прамове растлумачыў прычыны нашага адступлення, рэзка, як заўважана, закрануў ЗША і Англію: сказаў, што цяперашняя іх дапамога малаэфектыўная, што мы фактычна ваюем адны супраць Германіі. Трэба было б пазнаёміцца з гэтаю прамоваю падрабязней.

Заняткі ў школе ідуць, але мне яны чамусьці не падабаюцца. Сядзім за партамі ў футрах, шмат хто з нас зусім не вучыць урокаў. Цікава, што па занятках па літаратуры вучні расказваюць пра вобразы з «Мёртвых душ» толькі па падручніку, дзе яны ёсць. Некаторыя ж нават наогул но чыталі «Мёртвыя душы»...

Як высветлілася, рысавае кашы больш у пас не засталося. Значыцца — 3 дні сядзець голадам паўнейшым. Ледзь буду цягаць ногі, калі застануся жывы-здаровы. Зноў перайшоў па ваду. Распухну, ало што ж зробіш... Мама захварэла. І не на жартачкі, калі сама прызнаецца ў сваёй хваробе. Насмарк, кашаль з ванітаваннем, гарачка, галаўны боль... Я таксама, відаць, захварэў. Таксама га-

рачка, баліць галава, насмарк. Мабыць, усё ад таго, што падчас школьнага дзяжурства мне давялося прайсці цераз тры двары без паліто і без шапкі. І было гэта ў самую поўнач, на марозе...

Навука мне цяпер чамусьці ў галаву не лезе. Зусім няма жадання вучыцца. Галава запятая толькі думкамі пра ежу ды пра бамбёжкі і снарады. Учора падняў кош са смеццем, вынес на двор і ледзь назад, на свой другі паверх, узабраўся. Так стаміўся, нібы 2 пуды цягнуў цэлыя паўгадзіны, сеў і ледзь аддыхаўся. Цяпер трывога. З усяе сілы б'юць зеніткі. Бомбаў таксама было некалькі. На гадзінніку — без пяці пяць вечара. Мама прыходзіць у пачатку 7-й.

*9 і 10 лістапада.* Засынаючы, кожны дзень бачу ў сне хлеб, масла, пірагі, бульбу. Ды яшчэ перад сном — думка, што праз 12 гадзін пройдзе ноч і з'ясі кавалак хлеба... Мама мне штодня паўтарае, што яны з Іраю ядуць па 2 шклянкі гарачага чаю з цукрам, па паўталеркі супу ў дзень. Не больш. Ды яшчэ талерку супу вечарам. Усё ж мне (...). Іра, напрыклад, увечары нават адмаўляецца ад лішняе порцыі супу. А мне яны абедзве бясконца кажуць, што я харчуюся, як рабочы, бо з'ядаю 2 талеркі супу ў сталоўках і больш, чым яны, хлеба. Увесь характар мой чамусьці цяпер крута змяніўся. Я стаў вялы, слабы; пішу, а рука дрыжыць, іду — у каленках такая слабасць, здаецца, раз ступіш, а больш і не зможаш, павалішся».

Менавіта ў гэтыя самыя дні загадчык аддзела гандлю Ленгарсавета дакладвае сакратару гаркома партыі А. А. Кузняцову, што па самых жорсткіх нормах выдачы мукі засталося на восем дзён, круп на дзевяць.

Надвячоркам 8 лістапада прыйшло паведамлеппе, што вораг перарэзаў чыгунку каля Ціхвіна, па якой да Ладагі везлі прадукты Ленінграду. І тады 9 лістапада ў Маскве Дзяржаўны Камітэт Абароны прымае рашэнне, надзвычайнае ў тых умовах,— выдзеліць дадаткова пад перавозку прадуктаў ленінградцам яшчэ 24 транспартныя самалёты і 10 цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў.

## МЕЖЫ ЧАЛАВЕЧЫЯ

Паступова Юравы думкі звужаюцца, засяроджваюцца па ежы, цяпле, фізіялогіі. Гэта адчулі на сабе і іншыя галодныя блакаднікі — і гэта таксама рыса. Яшчэ і яшчэ рыса, а за нейкаю рысаю можа наступіць цяжкі распад псіхікі. Але некаторым удаецца да канца захаваць сябе чалавекам, захаваць у сабе пачуццё абавязку, гонару, удзячнасці, міласэрнасці, насуперак усім абставінам — утрымацца. Адным удаецца, другім — не.

Жылі блакаднікі па-рознаму, галадалі таксама па-рознаму. І паміралі неаднолькава. Адны паміралі як людзі, і ўспамінаюць пра іх дагэтуль са шкадаваннем і спачуваннем, успамінаюць тагачасныя хлапчукі, дзяўчынкі. А былі такія, пра якіх інакш успамінаюць: пра каго з пагардаю, а пра каго з жахам. Але заўсёды — з болем за вобраз чалавечы. Можа, гэта і ёсць страшны суд, які творыцца па зямлі памяццю людзей.

Так, былі і такія (і гэта нават непазбежна ў шматмільённым галодным горадзе), што пераступалі апошнюю рысу, за якою — жывёльны эгаізм, жорсткасць, галоднае шаленства.

Вядома, лягчэй, зручней пра гэта не ўспамінаць. Але тады мы не зразумеем каштоўнасці і чалавечае вышыні тых людзей — а іх было большасць,— хто выстаяў, хто не перайшоў за апошнюю рысу. І не ўбачым, не зразумеем, у якой цяжкай барацьбе з самім сабою чалавек перамагае нясцерпны голад, холад, смерць, безнадзейнасць.

В. Ф. Бергольц зрабіла выпіску з дзённіка М. М. К р а к а в а, галоўнага інжынера завода № 10 (Валадарскі раён):

«Каля млына імя Леніна я назіраў наступную сцэну. Перада мною ішоў мужчына і вёў за руку маленькую дзяўчынку. Раптам гэта дзяўчынка ўпала і заплакала. Скрозь рыданні было чуваць:

— Татачка, есці хачу. Дай мне што-небудзь. Татачка!

Мужчына разгублена глядзеў на яе, бязладна мармытаў нейкія суцяшальныя словы. Паспрабаваў узяць яе на рукі. Але намаганні яго былі дарэмныя. Ён сам знясілены быў. Я зазірнуў яму ў твар. Ён быў апухлым, празрыстым.

Побач спынілася жанчына. Яна туліла да грудзей ма-

ленькі скрутак. У такіх скрутках людзі цяпер носяць хлеб.

Жанчына таксама паспрабавала ўгаварыць дзяўчынку. Калі з гэтага нічога не атрымалася, нехта з прахожых кінуў на хаду: «Дай ёй хлеба — і ўсё пройдзе».

Жанчына задумалася. Гэта доўжылася, можа, з мінуту. Пасля рашуча разгарнула скрутак, адламала ад невялікага кавалка крыху хлеба і дала дзяўчынцы. Адразу пасля гэтага яна пайшла.

Я дагнаў яе праз некалькі мінут. Паглядзеў і ўбачыў слёзы на яе вачах. Гэта былі не слёзы жалю да дзіцяці — яны былі слязьмі жалю да сябе. Можа, у яе дома было пакінута галоднае дзіця... Бадай што, нават напэўна...»

Па-рознаму перамагалі жахлівыя абставіны, захоўвалі і нават умацоўвалі ў сабе лепшае, чалавечае і Г. А. Князеў, і Юра Рабінкін, і Лідзія Ахапкіна, і Фаіна Прусава, і старая жанчына, дзённік якой быў знойдзены ў Яраслаўлі...

Агульнае ва ўсіх іх было, бадай, вось што: кожны меў ці шукаў (і знаходзіў) пункт апоры не толькі ў самім сабе, але і яшчэ ў якой-небудзь справе альбо інтарэсе. Галоўнай справаю для большасці была барацьба з фашыстамі, абарона Ленінграда — гэта трымала перш за ўсё. У кожнага былі свае непасрэдныя абавязкі, задачы, адказнасць. У Фаіны Прусавай — перад раненымі ў шпіталі і перад сваімі дзецьмі; у Юры Рабінкіна — перад маці і сястрычкай; у Лідзіі Георгіеўны — перад сваімі маленькімі дзецьмі; у Георгія Аляксеевіча Князева — перад Ламаносавым, Мендзялеевым, якія «аддалі» яму на захаванне свае рукапісы...

Чалавек, магчыма, упаў бы ў роспач, апусціў бы ўжо рукі, калі б клопат быў толькі пра сябе. Але ёсць штосьці большае. Вось запіс Фаіны Прусавай:

«Іду з працы, і сэрца замірае, ну, думаю, а раптам?.. Прыходжу, яшчэ варушацца — жывыя, я хутчэй нагрэю вадзічкі, падыму іх, памыю ім твар. На Няву схаджу з бітончыкам, нап’ёмся цёпленькае вадзіцы са скарынкай хлеба (Фаіна Аляксандраўна Прусава нават намалявала ў дзённіку гэту «скарынку» — квадратны сантыметр! — *А. А., Д. Г.*). І хлушу ім няспынна, як немца акружылі, добра, што вераць. Чаго-небудзь падкіну ў грубку — кнігі ці анучы... Надзейна кажа: «Мамусенька, я калі буду паміраць, дык ціха-ціха, каб цябе не напалохаць». Ой, я

залямантавала: «Жыві, мая снягурачка!» Яна халодная ўся, як ільдзінка...

Дома я захоўваю чысціню. Думаю, што гэта нас падтрымае. Падаю ўсё на талерачцы. Нагрэю вады.

Але! Людзі ядуць катоў, сабак, праўдзівей, ужо з'елі.

Я толькі цешуся, што Бора і Надзейна не трацяць чалавечага аблічча».

Мы ўжо прыводзілі ў першай частцы вытрымкі з дзённіка А л я к с е я  В а с і л ь е в і ч а  Б е л я к о в а. Здавалася б, чалавек пра тое толькі і думае, што ён з'еў, колькі чаго далі ў краме, што наліваюць у талерку ў сталоўцы. Лічбы, талеркі, «грамікі» ды яшчэ нейкія там рукавіцы, якія ніяк яму не пашыюць... Але не, не адно гэтае яго цікавіць і трымае, не хлебам адзіным ратуецца і гэты чалавек. Па колькасці перапаўшага яму «хлеба адзінага» ён, можа, памёр бы ўжо...

«*13 студзеня.* Купіў Тынянава «Творы» за 8 руб. і Кісялёва «Геаметрыя» за 20 руб.

*16 студзеня.* Учора купіў Салагуба за 3 руб. на Мальцаўскім рынку.

*2.11.42 г.* Купіў кнігу пад рэдакцыяй праф. Зялінскага «Элінская культура» (40 руб.) і «Хрэстаматыю па гісторыі заходняга тэатра на стыку XIX—XX стагоддзяў» (15 руб.)».

А сам ён ужо дыстрофік. Твар у яго апух, жыве без вады, без святла. Навошта яму цяпер кнігі, чаму, адрываючы ад рота хлеб — самае неабходнае і такое пажаданае,— чалавек шукае, купляе кнігі? І кнігі даволі выпадковыя, якія калі і спатрэбяцца, дык у няблізкай будучыні.

Ало менавіта цяпер, на парозе гібелі, чалавеку бачыцца жыццё больш змястоўнае, чым тое, якое, мяркуючы на дзённіку, было ў яго раней.

«Мая бібліятэка запаўняецца цудоўнымі кнігамі. Давядзецца ёю карыстацца ці не? Як хацелася б разумна ўладкаваць сваё жыццё, аддаць свае астатнія сілы (а раптам можна яшчэ вярнуць страчаныя сілы ці ўжо амба?)».

Вось у чым ён шукае пункт апоры, каб утрымацца, пе паслізнуцца ў бездань — ад фізічнай дыстрафіі да маральнай.

Звяртаючыся ў дзённіку да дачкі, якая выехала з горада, папярэджваючы яе, што, можа, больш не ўбачацца, ён — як наказ — просіць выкупіць тамы «Гісторыі рускай літаратуры». Ён сам быў бы шчаслівы яе дачытаць, але, відаць, не давядзецца, дык няхай у дачкі яна будзе...

Ну, а ў старой жанчыны, што памерла ў эвакуацыі ў Яраслаўлі, апора ў дні блакады была простая, адвечная — вера. Імя гэтай жанчыны нам невядома, нам прынеслі яе дзённік, знойдзены ў Яраслаўлі,— вялікую канторскую кнігу. Жанчына была веруючая. Апрача бога, яна верыла ў добрых, спагадлівых людзей: верыла, што памогуць, што прыйдуць на дапамогу ў самую цяжкую хвіліну. І, мяркуючы па дзённіку, менавіта так атрымалася, што ў яе, у добрага чалавека, на шляху заўсёды аказваліся таксама добрыя людзі. У ліку добрых таксама і бог, якому яна час ад часу падказвае, як далей распарадзіцца яе лёсам: «Думаю, што калі захоўваў мяне сярод гэтулькіх жахаў, дык, напэўна, маё жыццё яшчэ дзеля нечага некаму патрэбна».

Памагаюць ёй людзі, памагае бог, нават сны ў старой добрай жанчыны карысныя, патрэбныя, добрыя...

А побач з ёю жыве звар'яцелая ад голаду маладая жанчына — страшэнны напамін пра бездань. Чалавек не вытрымаў выпрабаванняў, што абрынуліся на яго, зламаўся, упаў. З вар'яцкімі вачамі выхоплівае хлеб у свайго ж дзіцяці. Але штосьці адбываецца там, у змроку свядомасці, нейкімі нутранымі намаганнямі запальваецца святло. І раптам адраджаецца чалавек, і старая жанчына запісвае:

*«18.III.* Сёння о радасць! Раптам сярод ночы Наташа будзіць мяне і радасна кажа: «М. Е., дарагая, я ж ужо зусім здаровая, я ўсё разумею, якое шчасце». Я нават плакала ад радасці. Дзякаваць богу, яна апрытомнела. Як высвятляецца, яна нічога не памятае з таго, што было: ні таго, як яна адбірала ў дзіцяці і ў мяне хлеб і прадукты, ні таго, што мы гаварылі, пі таго, хто яе наведваў. «Мне ўсё здавалася, што гэта ўва сне, а не наяве, і ўсё здавалася, што гэта я сплю». Божа, якія незвычайныя бываюць гэтыя псіхічныя расстройствы! Ад радасці яна не магла спаць і ўвесь час гаварыла, згадваючы сваю хваробу. Гаварыла зусім нармальна, як колішняя Наташа...»

Той, хто бачыў хоць адзін раз гэты блакадны горад, ніколі не забудзе выгляду яго вуліц, яго паветра, поўнага шэлесту снарадаў, дзівоснага спалучэння вайны, якая была не тое каб побач, на ўскраінах, а забіралася ў сярэдзіну горада, і побыту — гарадскога побыту з чэргамі, «таўкучкаю», заводскай працаю...

Усе славутыя пецярбургскія архітэктурныя ансамблі на месцы, таксама цудоўныя масты, і набярэжныя, і пала-

ды — з тою толькі розніцаю, што, як дакладна вызначыў адзін ленінградзец, яны цяпер не ўзвышаюць душу, а абцяжарваюць яе сваёй прывіднасцю, «выявілася ў іх здольнасць не толькі прыняць смяротнае запусценне, але і стацца ягонай прыналежнасцю разам са славутай зямлёю і карабкамі згарэлых дамоў».

Блакада не знікае разам з іншымі падзеямі ў ціхія затокі мінулага, куды зазіраюць толькі ад выпадку да выпадку. Асаблівасць блакады — яна нібыта застаецца воддаль, але ж побач, як штосьці такое, што трэба заўсёды мець па ўвазе. Час ад часу з ёю супастаўляеш і іншых, і самога сябе.

Трупы былі на вуліцах, у кватэрах, яны сталіся часткаю блакаднага краявіду. Масавасць смерці, будзённасць яе спараджалі адчуванне тленнасці, мізэрнасці чалавечага жыцця, разбуралі сэнс любой рэчы, любога жадання. Чалавек адкрываўся ў сваёй недасканаласці, ён быў прыніжаны фізічна, ён маральна аказваўся ўразлівым. Колькі людзей не вытрымлівалі выпрабаванняў, гублялі сябе!

Рослы гэты прыгожы чалавек, які ўмее ўдумліва слухаць і таксама ўдумліва выказваць толькі ўласнае, вынашанае, прасіў не называць ягонага імя. Ён гаварыў моцна і пераканаўча пра сябе, але і пра другіх, таму што ён ужываў займеннік «мы». Ен лічыў, што ў першую чаргу гінулі фізічна слабыя паводле здароўя, узросту, пасля гінулі сумленныя, велікадушныя, не здольныя прыстасавацца да абставін, пры якіх жорсткасць і акамянеласць душы былі неабходным варункам выжывання:

«Пасля блакады свет уяўляўся мне затоеным зверам. Я ж сустрэў блакаду адзінаццацігадовым. У такім узросце цяжка процістаяць націску надзвычайных абставін. Яны навязвалі свае крытэрыі і вартасці як адзіна магчымыя. Я зрабіўся падазроны, жорсткі, несправядлівы да людзей, як і яны да мяне. Гледзячы на іх, я думаў: «Ага, цяпер вы прыкідваецеся добрымі, сумленнымі, але ледзь што, адымі ад вас хлеб, цяпло, святло,— у якіх двухногіх звяроў вы ўсе тады ператворыцеся». Менавіта ў першыя пасляблакадныя гады я зрабіў некалькі агідных учынкаў, якія дагэтуль абцяжарваюць маё сумленне. Маё выздараўленне зацягнулася ледзь не на дзесяцігоддзе. Гадоў да дваццаці я адчуваў у сабе штосьці безнадзейна старэчае, пазіраў на свет вачамі надламанага і спрактыкаванага чалавека. Толькі ў студэнцкія гады маладосць узяла сваё і прага карыснай людзям дзейнасці дазволіла стрэсці з ся-

бе іпахондрыю. Аднак колішняя дзіцячая вера ў безумоўную ўсёмагутнасць і дасканаласць чалавека, раздушаная блакадай, ужо ніколі не адрадзілася».

Абставіны блакаднага жыцця гэтага чалавека склаліся так, што ён здаваўся сам сабе кінутым на волю лёсу, нікому не патрэбным. У такіх выпадках маральны сэнс падкінутых лёсам нягод губляўся, з-за гэтага губляўся і запас духоўнай трываласці, падала супраціўляльнасць голаду. Яго словы, яго крайнія меркаванні ўяўляюць сабою той процілеглы пункт погляду, які існуе, хоць, можа, выказаны і не ў такой вострай форме. Гісторыя і Юры Рабінкаю, і Князева, і большасці герояў нашае кнігі спрачаецца з ім. Але, каб палемізаваць з гэтым чалавекам, неабходна выкласці і яго пункт погляду. Яго нельга абвергнуць, яму можна процістаяць. Шчырасць гэтага чалавека таму і была нам каштоўнаю.

Блакада была крайнасцю, сцвярджаў ён, яна была выйсцем, праўдзівей, выкідам за межы звычайнай зніверліраванай жыццёвай сферы, дзе чалавек абмежаваны ў сваім нізкім і ў сваім высокім. Пашырылася амплітуда яго пачуццяў і ўчынкаў, яго душэўных ваганняў паміж крайнасцямі ўзлёту да подзвігу і падзення да нізкасці, бесчалавечнасці.

Але цікава, што і ён, аўтар такіх горкіх прызнанняў, урэшце прыходзіць да высновы аб прыярытэце духоўнага пачатку. Блакада, якая нібыта адкрыла чалавека ў яго найагіднейшых і найпрыгажэйшых праявах, памагла зразумець вырашальнае значэнне ва ўсім гэтым маральнага, духоўнага напаўнення чалавечае душы.

З усіх дзённікаў, якія мы бачылі, дзённік Юры Рабінкіна наймацней адлюстраваў патрэбу блакадніка ацаніць праўдзіва і нават жорстка не толькі іншых, але і сябе. Дзённік стаў яму апораю, магчымасцю бачыць сябе нібыта збоку, самакрытычна разбіраць свае ўчынкі: пачынаючы пісаць, ён нібыта спавядаўся перад нейкім слухачом, пасылаючы з дапамогаю дзённіка папрокі і асуджэнне самому сабе. Дзённік як быццам рабіўся сумленнем, якое яго-нымі ж словамі, але адчужана, звярталася да яго, Юры. Яго сумленная, разважлівая натура трывожна сочыць за сабою.

Прыгадаем, як кідаўся ён, калі выйграваў у карты грошы. Ні ў што не ставіў сваё геройства на дахах і ўдзячнасць за тое, што спрытна тушыць запальныя бомбы. Як выстойвае ён, хворы, слабы, у бясконцых і безнадзейных

чэргах, здабываючы для ўсёй сям'і паёк. Л потым гэтыя жалю вартыя «пернічкі» і «цукеркі» з заменнікаў трэба яшчэ данесці дамоў, данесці і не з'есці. Як складана, як неймаверна цяжка: трымаць у руках тое, што можна з'есці, і не з'есці,— гэта ведаюць толькі людзі, якія па-сапраўднаму галадалі.

Клаўдзія Пятроўна Дубровіна і сёння, расказваючы, не перастае сама сабою здзіўляцца — тым, што яна зрабіла, калі ў руках у яе аказалася салодкае і ядомае лякарства, шмат лякарства:

«У нас у АГБ* усе ўцягнуліся: куплялі пурген і пілі з кіпетнем па таблетачны.

— Салодкі ён, ці што?

— Але, салодзенькі, там сахарын, мы і пілі. І вось нашы папрасілі мяне, памятаю як цяпер, купіць семдзесят таблетак (таму што нас сем чалавек, усім па пакеціку, а ў пакеціку дзесяць таблетачак было). І вось сем чалавек далі мне грошы (капейкі гэта каштавала) і кажуць: «Купі нам». Купіла, значыць, іду адтуль і не магу стрымацца. Дарога далёкая: гэта з Вялікага праспекта, ад вуліцы Сувязі з Петраградскай стараны да плошчы Льва Талстога — вы ведаеце! А паша казарма знаходзілася вось тут, дзе завод «Электрык»... І вось пакуль я адтуль ішла, я ўсё гэта — па таблетачцы — з'ела! Яшчэ мне хочацца, яшчэ, не магу стрымацца, яшчэ...»

Не магла стрымацца, не здолела сябе спыніць, хоць гэта не хлеб, не цукар, а проста саладжавыя пілюлі, ілюзія ежы. Пасля ўрач ледзь выхадзіў яе, папракаў: культурны чалавек — і 30 таблетак прыняць! (Гэта яна пераменшыла, пасаромелася сказаць праўду.)

Расказ К. П. Дубровінай — прыклад таго, што і дарослы чалавек не заўсёды здольны спыніць сябе. А Юру Рабінкіну, хлопчыку, трэба, прастаяўшы ў чарзе не адну гадзіну, данесці «пернічкі» дамоў, данесці і не з'есці нічога. Дзённік ягоны паступова становіцца сведкам пакутлівае барацьбы — не ведаем, чаму роўнай,— з самім сабою, з сорамам перад маці.

Сведкам і справаздачаю. Дзённік робіцца ягоным саюзнікам у няроўнай сутычцы з інстынктам, з неўтаймоўным унутраным голадам.

*«9 і 10 лістапада...* І ўсё ж я магу цвёрда сказаць, што, каб не было побач са мною сытых, я да ўсяго гэтага пры-

* АГБ — Асобны гарадскі батальён.

звычаіўся б. Але калі кожны гук, амаль (...) кранае нечым вясёлым, сытым. Перад сабою, седзячы на кухні, бачу я на пліце каструлю з недаедзенымі абедамі, вячэрамі, снеданнямі, што пакідае пасля сябе Анфіса Мікалаеўна, я больш не магу... Разрываюся на часткі, літаральна, вядома, не, але здаецца так... І пах хлеба, блінцоў, кашы казыча нос, нібыта кажа: «Вось бачыш! Вось бачыш! А ты галадай, табе нельга...» Я прызвычаіўся да абстрэлу, прызвычаіўся да бамбёжкі, але да гэтага я не магу прывыкнуць — не магу!

На франтах становішча не змянілася. Толькі на калінінскім напрамку нашы часці выступілі на некалькі км. Свае пазіцыі пад Ленінградам вораг упарта не хоча здаваць.

І зноў цяпер мне ў вушы б'е вясёлы смех Анфісы Мікалаеўны... Мама ўчора пазычыла драбочак цукру ў Анфісы Мікалаеўны, сёння хоча пазычыць у Кацінскіх. Але сёння — апошні дзень дэкады. Заўтра будзе свой цукар, хлеб... і хлеб! Цераз ноч...

У нас не выкуплена на гэтую дэкаду 400 грамаў круп, 615 грамаў алею, 100 грамаў мукі... а гэтых прадуктаў нідзе няма. Там, дзе яны вылаюцца, стаяць страшэнныя чэргі, сотні і сотні людзей на вуліцы, па марозе, а прывозяць (...) чаго-небудзь у гэтым сэнсе чалавек на 80—100. А людзі стаяць, мерзнуць і без нічога вяртаюцца дамоў. Людзі ўстаюць а 4-й гадзіне раніцы, стаяць да 9 вечара каля магазінаў і нічога не дастаюць. І балюча, а нічым не паможаш. Цяпер трывога. Яна ўжо доўжыцца гадзіны дзве. Бяда, голад прымушаюць ісці ў крамы, на мароз, у доўгую чаргу, у людскую цісканіну. Правесці так тыдзень, а пасля ўжо ніякіх жаданняў не застаецца ў цябе. Застаецца тупая, халодная абыякавасць да ўсяго на свеце. Недаядаеш, недасыпаеш, халадаеш і ў дадатак да гэтага — вучыся. Не магу. Няхай мама вырашае пытанне: «Як быць?» Не зможа яна вырашыць — сам паспрабую за яе. І вечар... што мне абяцае? Прыходзяць мама з Іраю, галодныя, замерзлыя, стомленыя... Ледзьве цягнуць ногі. Ежы ніякай няма, дроў у пліту няма... І лаянка, папрокі, што вось тыя, хто ўнізе жыве, дасталі крупы і мяса, а я не мог. І ў магазіне мяса было, а я не дастаў яго. І мама разводзіць рукамі, робіць наіўны твар і кажа як стогне: «Ну, а я таксама занятая, працую. Я не дастану». І зноў мне ісці ў чаргу, і дарэмна. Я разумею, што я адзін магу дастаць прадукты, вярнуць да жыцця ўсіх нас траіх. Але

ў мяне не хапае сіл, энергіі на гэта. О, каб у мяне былі валёнкі! Але ж у мяне іх няма... І кожная чарга набліжае мяне да плеўрыту, да хваробы... Я вырашыў: лепш вадзянка. Буду піць колькі магу. Цяпер апухлыя шчокі. Яшчэ тыдзень, дэкада, месяц, калі да Новага года не загіну ад бамбёжкі — апухну.

Я сяджу і плачу... Мне ж толькі шаснаццаць гадоў! Мярзотнікі, хто паклікаў усю гэтую вайну...

Бывайце, дзіцячыя мары! Ніколі вам да мяне не вярнуцца. Я буду ўнікаць вас як шалёных, як язвы. Згінула б усё мінулае ў тартарары, каб я не ведаў, што такое хлеб, што такое каўбаса! Каб мяне не адурманьвалі думкі пра былое шчасце! Шчасце!! Толькі так можна было назваць маё ранейшае жыццё... Упэўненасць за сваю будучыню! Якое пачуццё! Ніколі больш не адчую...

Як я хацеў бы, каб Ціна ўзяла і прачытала дзённік у сябе ў пакоі ў Шлісельбургу за чаем з бутэрбродам! Таго, што перажываем мы ў Ленінградзе, ёй яшчэ павек не даводзілася перажываць.

Сёння вечарам пасля трывогі схадзіў у магазін, што па Сянной. У рукапашнай бойцы, у страшэннай цеснаце, такой цеснаце, што крычалі, стагналі, рыдалі дарослыя людзі, удалося цаною неймаверных фізічных намаганняў праціснуцца, прабіцца без чаргі ў магазін і атрымаць 190 г масла і 500 г каўбасы з каніны з сояй. Калі я вярнуўся дадому, адчуў моцны боль у грудзях, такі ж самы, які я цярпеў ужо два гады таму назад. У мяне сапраўды сухі плеўрыт. Боль моцны, ну акурат такі, як раней. Што за пакуты! Заўтра абавязкова пайду ў тубдыспансер. Зрэшты, я не хачу цяпер паміраць ад плеўрыту. Што я магу зрабіць? Што? Я бяссільны... Супраць плеўрыту ёсць толькі два моцныя сродкі: 1) выдатнае харчаванне з дастатковаю колькасцю тлушчу і 2) паветра сухое, чыстае, цёплае. І таго і другога няма...

Мама з Іраю «паснедалі» і ідуць на працу. Я пайду ў тубдыспансер. Зрэшты, перад гэтым паснедаю «ўтульна і з камфортам». Пачытаю.

...Сёння дастаў 4 літры піва па картках, аддаў іх Анфісе Мікалаеўне. І з іх яна дала мне выпіць паўлітра. Мне спадабалася. Праўда, каб гэта ў былыя часы, я стаў бы добрасумленным алкаголікам».

Ён па-гаспадарску — у грамах — падлічвае, колькі засталося неатаваранных талончыкаў на крупы, бульбяную

муку, памятае, што дома ў запасе 50 грамаў шакаладу... Калі б можна было дзе-небудзь атаварыць карткі!

«Ага, забыў сказаць самае галоўнае. У мамы распухлі ногі і зрабіліся цвёрдыя, як камень. Во якія пашы справы!

У тубдыспансер мне трэба было б ісці заўтра, у той, у які ходзіць Анфіса Мікалаеўна. Гэта паблізу Мальцаўскага рынку, дзе кожны дзень ідзе абстрэл.

...У «Ленинградской правде» працытаваны загад Гітлера: «Улічваючы важнасць маючых адбыцца падзей, асабліва зіму, дрэннае матэрыяльнае забеспячэнне арміі, загадваю ў бліжэйшы час любой цаной скончыць са сталіцаю бальшавікоў Масквою».

...У 5 гадзін раніцы трэба ісці ў чаргу (...) абавязкова. Усе мы знерваваныя. У мамы я даўно не бачу спакойных слоў. Пра што б ні ішла размова — лаянка, крык альбо істэрыка, нешта накшталт гэтага. Прычына... Прычын шмат — і голад, і вечны страх перад абстрэлам і бамбёжкаю. У нашай сям'і ўсяго толькі 3 чалавекі — заўсёдны разлад, буйныя сваркі... Мама што-небудзь дзеліць, Іра і я пільна сочым — ці дакладна... Проста неяк не па сабе, калі пішаш такія словы»...

Юра, вядома, вінаваціць маці — каго ж яшчэ можа вінаваціць дзіця, але адразу ж схамянецца і пачынае апраўдваць яе, прымушае сябе зразумець прычыны яе раздражнення. Вялікая гэта рэч — прымусіць сябе зразумець іншага чалавека. Асабліва ў абставінах, здавалася б, раз'юшанага галоднага эгаізму. Ён пакутуе і ад таго, што інакш стаў бачыць сваю маці — жорсткаю, нядобраю. І тое, што сам ён прагна і недаверліва сочыць, як яна дзеліць хлеб. Маральныя патрабаванні яго не зніжаюцца. Вось ён з таварышамі злавіў і з'еў здзічэлага ката і пакутуе, ён ужо быццам не ранейшы, штосьці страціў назаўсёды.

Між тым на Ладазе ідзе ўзмоцненая лядовая разведка. Лёд выпрабоўваюць штодня. Нарэшце 17 лістапада на лёд можна ступіць. Возера не цалкам, але ж зацягнулася, замерзла. Гэта шчасце, што так рана. Разведчыкі асцярожна ідуць па першым тонкім лёдзе, ён яшчэ выгінаецца пад нагамі. На плячах у іх выратавальныя кругі, у руках жэрдкі. Яны шчасліва даходзяць да Кабоны. Наступнай раніцаю, 18 лістапада, зноў выходзяць па лёд і размячаюць трасу дарогі па Вялікую зямлю. Навігацыя спынілася, і, як назнарок, надвор'е нялётнае, самалёты не могуць дастаўляць у горад тую мізэрную долю прадуктаў, якую падымала на сабе авіяцыя. Разведчыкі і дарожнікі 19-га рых-

туюць лядовую трасу, трэба расчысціць яе ад снегу, таросаў, перакрыць трэшчыны. Тут рады марозу, які праклінаюць ленінградцы, ударыў бы ён яшчэ мацней, хутчэй бы вырас лёд. Да 20-га ён месцамі дасягне ўжо 18 сантыметраў, і 300 з нечым саней, запрэжаных коньмі, спускаюцца на возера і едуць на Вялікую зямлю па муку.

*«24 лістапада.* Як пакутліва цягнецца час! Які ён аднастайны. Усе думкі толькі пра ежу, жадаю толькі аднаго — хутчэй вырвацца з клешчаў голаду, холаду, страху... Усе надзеі на эвакуацыю адкладзены на доўгі час. На франтах і пад Ленінградам ініцыятыва зноў у немцаў. Яны, напэўна, прасунуліся яшчэ бліжэй, бо іх снарады разрываюцца на нашай вуліцы, перад нашым домам.

Сёння з паловы сёмай — у чэргах. Бясконцыя стужкі, чароды галодных людзей... назаўсёды ўрэжуцца мне ў памяць! Нічога не дастаў, ні ў адным магазіне не было масла, круп альбо мяса. Ні ў адным. А прастаяў я ў чарзе ў магазінах цэлыя 4 гадзіны... І зноў трэба ў чаргу.

Мама кажа, што, па-першае, Паўночная чыгунка ўжо расчышчана (паводле слоў Тураносавай), а цяпер вядзецца яе пабудова (яна была разабрана). Па-другое, з Ленінграда, як сведчаць шматлікія прыкметы, эвакуіруюцца ўсе дзяржаўныя ўстановы і г. д.

Наконт эвакуацыі мама нешта незразумелае мармыча, але, па ўсім відаць, не будзе яе.

*25 лістапада.* Хадзіў да акуліста. Ён прапісаў мне акуляры, вызначыў, што ў мяне адно вока 0, а другое 30 % зроку. Думаю, мне трэба будзе схадзіць у прыватную паліклініку.

Нейкія часці на Паўднёвым фронце перайшлі ў наступленне і пагналі немцаў на 60 км назад, разграмілі (...) стралковы корпус...

Пад Уфою хлеб каштуе 2 р. 50 к., к о л ь к і   х о ч а ш і без картак, а там гэта лічыцца дорага. Нічога сабе, га? Гэта ж рай...

*26 лістапада.* Сёння з раніцы жудасныя артабстрэлы горада і асабліва раёна Сянной плошчы і нашага квартала. У дом № 30 яшчэ трапіла 2 снарады. Багата забітых і параненых.

Мяне сёння Штакельбергава маці назвала круглым дурнем, што я не краду ў І. «Я,— кажа,— і не паглядзела б».

Замест алею даюць павідла. Чэргі. Ах, дастаць бы дзе какосавага тлушчу! Дзе-небудзь...

Мама напісала заяву на месца ў самалёце для вылету з Ленінграда. Адчуваю, што гэта праваліцца; хоць нейкая патаемная надзея на вызваленне і ёсць, але ж я ўсё ж прыгнечаны markdownрознымі благімі думкамі.

У мяне мама вырашыла забраць Ірыну картку, хлебную. Хочуць пазбавіць мяне пячэння. Ну што ж. Варта толькі Іры адзін раз паспрабаваць пячэння, і яна за яго так учэпіцца, што больш я яго і не пабачу... Зноў пойдуць гнюсныя, брудныя сцэны з дзялёжкаю, ёй менш, ёй больш... Ну, няхай, заўтра я яшчэ атрымаю пячэнне, а пачынаючы з паслязаўтра,— канец майму і так непрывабнаму жыццю. Якое ж гэта жыццё, калі мяне і пячэння пазбаўляюць... Вось цяпер ідзі ў магазін, даставай бульбяную муку і какосавае масла альбо павідла, а яны кожны дзень будуць скардзіцца, што яны стаміліся і г. д. Ірка абедзвюма рукамі схопіцца за пячэнне...

(...) становішча ні на ёту не змянілася. Наступленне на Маскву працягваецца. Пала Тула... У раёне Ціхвіна ідуць жорсткія баі. Ходзяць упартыя чуткі, што, як толькі армія прарве, яна адразу ж эвакуіруецца з Ленінграда і будзе кінута пад Маскву, а Ленінград будзе здадзены, жыхары змогуць адступаць разам з арміяй пешшу. (...) Ну і настрой! Якія думкі!»

Падобныя чуткі, вядома, яшчэ больш азмрочвалі і без таго змрочнае жыццё блакаднікаў.

У гэты час армія і Балтыйскі флот рабілі ўсё, каб аснасціць, забяспечыць сувяззю, транспартам, рамонтам лядовую дарогу цераз Ладагу. Да возера былі падцягнуты спецыяльныя часці — зенітная артылерыя, знішчальная авіяцыя, дарожныя палкі, маставыя батальёны, санітарныя службы. 22 лістапада 1941 года лядовая траса была апрабавана. Пазней яе назавуць «Дарогаю жыцця». Першыя тыдні жыццё яе ледзь разгаралася. Па слабым лёдзе асцярожна цягнуліся толькі санныя абозы. Пасля рушылі першыя машыны, але яны хутка выходзілі са строю... Ды і падвозіць грузы да возера было цяжка: 8 лістапада немцы занялі Ціхвін — і апошняя чыгунка праз Волагду, Чарапавец, Ціхвін і Волхаў была адрэзана. Толькі ў снежні, калі войскі Волхаўскага фронту вызвалілі Ціхвін, можна было аднавіць чыгунку і падвесці яе непасрэдна да ўсходняга берага Ладажскага возера. Цяпер можна было везці проста да лядовай дарогі.

А дагэтуль, на працягу верасня і кастрычніка 1941 года, маленечкі ладажскі флот (некалькі буксіраў, катэраў і баржы) вырашаў непасільную задачу — дастаўляць у Ленінград харчаванне, снарады, боепрыпасы, гаручае, змазачныя матэрыялы, эвакуіраваць людзей. Восень надарылася штармавая, перавозкі часта спыняліся, а ў дваццатых чыслах кастрычніка паднялася такая хваля, што навігацыя зусім спынілася. Да 20 лістапада 1941 года толькі асобныя судны прарываліся ў Ленінград. Дастаўка харчу самалётамі таксама была спынена: усе самалёты згодна з указаннем Старшыні Дзяржаўнага Камітэта Абароны выкарыстоўваліся на баявых заданнях — ішло змаганне за Маскву. Пра гэта піша ў сваіх успамінах А. І. Мікаян. Яго ўспаміны, апублікаваныя ў «Военно-историческом журнале», расказваюць, як арганізоўвалася забеспячэнне Ленінграда прадуктамі з глыбіні краіны, як дастаўлялі прадукты да «Дарогі жыцця». А. І. Мікаян прыводзіць адну з прычын цяжкага харчовага становішча Ленінграда:

«У самым пачатку вайны, калі нямецка-фашысцкія войскі разгортвалі наступленне, многія эшалоны з прадуктамі харчавання, што накіроўваліся на захад згодна з зацверджаным яшчэ да вайны мабілізацыйным планам, не маглі прыбыць да месца прызначэння, паколькі адны адрасаты апынуліся на захопленай ворагам тэрыторыі, а другія знаходзіліся пад пагрозаю акупацыі. Я даў распараджэнне перапраўляць гэтыя саставы ў Ленінград, улічваючы, што там былі вялікія складскія ёмістасці.

Мяркуючы, што ленінградцы будуць толькі радавацца такому рашэнню, я гэтае пытанне з імі папярэдне не ўзгадняў. Не ведаў пра гэта і І. В. Сталін, пакуль яму не патэлефанаваў з Ленінграда А. А. Жданаў. Ён заявіў, што ўсе ленінградскія склады перапоўнены, і прасіў не накіроўваць ім прадукты харчавання звыш плану.

Расказаўшы мне пра гэту тэлефонную размову, Сталін спытаў, навошта я адрасую ў Ленінград столькі харчавання.

Я растлумачыў, чым гэта выклікана, дадаўшы, што ва ўмовах ваеннага часу запасы харчавання, і перш за ўсё мукі, у Ленінградзе ніколі не будуць лішнія, тым больш што Ленінград заўсёды забяспечваўся прывазным хлебам (у асноўным з раёнаў Паволжа), а транспартныя магчымасці яго дастаўкі маглі быць і ўскладненымі. Што ж датычыцца складоў, дык у такім вялікім горадзе, як Ле-

нінград, выйсце можна было знайсці. Тады ніхто з нас і не думаў, што Ленінград апынецца ў блакадзе. Таму Сталін даў мне ўказанне не засылаць ленінградцам прадукты харчавання звыш належнага без іхняй згоды»*.

Дзённік Юры Рабінкіна:

*«28 лістапада.* Быў у тубдыспансеры. Мяне накіравалі на рэнтген і на аналізы. Што будзе далей — не ведаю.

Сёння буду на каленях прасіць маму, каб аддала мне Ірыну картку на хлеб. Буду валяцца на падлозе, а калі яна і цяпер адмовіць... Тады ўжо не будзе мне з чаго цягаць ногі. Сёння дзённая трывога зноў доўжылася нешта каля трох гадзін. Магазіны зачыненыя, а дзе мне дастаць бульбяное мукі і павідла? Пайду пасля трывогі пашныраю. Наконт эвакуацыі я страціў надзею. Усё гэта адны размовы... Вучобу ў школе кіпу — не ідзе навука ў галаву. Ды і як ёй пайсці? Дома голад, холад, сваркі, плач, а побач — сытыя І. Кожны дзень так да дзіва падобны на папярэдні аднастайнасцю, думкамі, голадам, бамбёжкамі, артабстрэламі. Цяпер выключылася электрычнасць, дзесьці, я чую, гудзе самалёт, б'юць зеніткі, а вось дом скалынуўся ад выбуховай хвалі: недзе непадалёку разарвалася бомба... Цьмянае, шэрае надвор'е, белыя, мутныя, нізкія воблакі, снег на дварэ, і на душы акурат такія несамавітыя шэрыя думкі. Думкі пра ежу, пра цяпло, пра ўтульнасць... Дома не толькі ані кавалка хлеба (хлеба даюць цяпер 125 г на чалавека ў дзень), але ж і ніводнае хлебнае кропачкі, нічога, што можна з'есці. І холад, стынуць рукі, замярзаюць ногі.

Сёння прыйдзе мама, забярэ ў мяне Ірыну хлебную картку — ну добра, ахвярую яе дзеля Іры, няхай хоць яна застанецца жывая з усёй гэтай пякельнай (...), а я ўжо як-небудзь... Толькі б вырвацца адсюль... Толькі б вырвацца... Які я эгаіст! Я ачарсцвеў, я... Кім я стаў! Хіба я падобны на таго, якім быў 3 месяцы назад?.. Пазаўчора лазіў лыжкаю ў каструлю Анфісы Мікалаеўны, крадком цягаў масла і капусту са схаваных запасаў па дэкаду, прагна глядзеў, як мама дзеліць кавалачак цукеркі (...) і Іраю, падымаю лаянку з-за кожнага кавалачка, з-за кожнае крошкі ежы. Кім я стаў? Я адчуваю, каб стаць ранейшым, мне патрэбна надзея, упэўненасць, што я з сям'ёю заўтра

* Военно-исторический журнал, 1977, № 2, с. 45—46.

ці паслязаўтра эвакуіруюся, хапіла б мне, але гэтага не будзе. Не будзе эвакуацыі, і ўсё ж нейкая патаемная надзім! ў глыбіні маёй душы ёсць. Каб не яна, я б краў, рабаваў, я не ведаю, да чаго дайшоў бы. Толькі да аднаго я не дайшоў бы — не з д р а д з і ў бы. Гэта я цвёрда ведаю. А да ўсяго астатняга... Больш не магу пісаць — застыла рука».

## ІРЫНА КАРТКА

Чытаць запар дзённік Юры Рабінкіна цяжка. Не хапае паветра. Прастора надта абмежаваная, ён і сам гэта адчувае. Блакада адрэзала не толькі горад ад краіны, яна блакіравала многія сем'і, абарваліся звычныя сувязі — з працаю, з сябрамі, са светам. Па Юру відаць, як ён пераставаў адчуваць агульны ход вайны, лютасць барацьбы, якая нарастала, памагала забывацца пра цяжкасці.

Адзін з нас ваяваў у гэтыя зімовыя месяцы 1941/42 года на Ленінградскім фронце і памятае вялізнае маральнае ўражанне ад той першай нашай вялікай перамогі — разгрому немцаў пад Масквою.

Мы сядзелі пад Пушкінам. Асобны наш артылерыйска-кулямётны батальён займаў участак за чыгункаю, на голай заснежанай нізіне. Участак быў занадта вялікі для батальёна. Папаўненне амаль не паступала. Зачастую ва ўзводах заставалася пяць — сем чалавек. Не хапала людзей стаяць на пастах, баявую ахову не ўдавалася падмяняць. А трэба было кожны дзень чысціць ад снегу хады зносін. І акопы. І расчышчаць сектар абстрэлу. Трэба было недзе здабываць дровы, цягаць, цягаць іх у зямлянкі, паліць печы, чысціць зброю, паколькі мы яшчэ ж і стралялі, стаялі па пастах, валаклі раненых за чыгуначны насып... Апрача ўсяго гэтага, мы поўзалі на досвітку на нейтралку здабываць з-пад снегу капусту, таму што былі галодныя. Кожны дзень каго-небудзь адпраўлялі ў шпіталь — альбо абмаражэнне, альбо ацёчнасць.

Цяпер ужо цяжка зразумець, як мы маглі трымаць абарону, і хадзіць у разведку, і нават спрабаваць адваяваць вышыню. Па сутнасці, мы таксама жылі ў вельмі

абмежаванай прасторы — узводная зямлянка, баявая ахова; злева — падбітая, гарэлая, занесеная снегам паўтаратонка, што невядома як апынулася пасярод поля; справа воддаль Пулкаўская гара, а бліжэй — кусты. Уперадзе ж, проста перад намі,— Пушкінскі вакзал, а ў бінокль відзён палац. Вось і ўвесь паш пейзаж, наш фронт, наша поле бою. Мы мала ведалі пра тое, што адбываецца на суседніх участках. Але затое зусім побач сядзелі немцы, ужо іх мы вывучалі, іх ведалі і бачылі, месцамі нашы акопы так зблізіліся, што было чуваць, як яны размаўляюць, як бразгаюць тэрмасы. Калі нашым снайперам удавалася падстрэліць якога-небудзь фрыца, мы чулі іх крыкі і лаянку.

Уперадзе былі немцы, а за намі быў відзён Ленінград. У чыстым паветры сілуэт горада праступаў выразна з усімі шпілямі, купаламі, комінамі, быццам бы выразаны старым майстрам на краю зямлі паміж белымі яе палямі і сінім небам. Па начах барвовыя водбліскі пажараў выядалі горад. Удзень над намі з мяккім шэлестам пралятаі снарады. Неба было чыстае, але мы чулі іх нябачны ход, і пасля са спазненнем да нас даляталі глухія ахі выбухаў. Немцы абстрэльвалі горад паводле свайго раскладу, і паводле раскладу на горад ляцелі бамбардзіроўшчыкі. Яны вярталіся назад над намі. Некалі мы ад бяссільнай лютасці палілі ў іх з вінтовак, стралялі бранябойнымі, білі з процітанкавых ружжаў, спадзеючыся пацэліць у якую-небудзь непрыкрытую ўразлівую кропку. Гэта было даўно. Цяпер мы паразумнелі, ды і ашчаджалі патроны для справы. Мы проста сачылі, як над горадам пачыналі ляскаць зенiткі і як ішла бамбёжка. Чорныя слупы дыму павольна падымаліся, скажаючы чысты профіль. Мы спрабавалі адгадаць, які раён горада бамбілі.

Мы нічога не маглі зрабіць, адзінае, што мы маглі, гэта не глядзець назад, на Ленінград. І ў горад мы не імкнуліся. Хоць нас і не надта пускалі. Я, напрыклад, быў там у тую зіму адзін раз, і мне гэтага хапіла. Але ўсё роўна мы пастаянна адчувалі за нашымі спінамі прысутнасць, няроўнае, ледзьве чутнае дыханне гэтага горада.

Ні на якім іншым фронце такога не было.

З таго дня як мы даведаліся пра разгром немцаў пад Масквою, у нас усё змянілася. Ваявалі мы яшчэ кепска, тут, на Ленінградскім фронце, у снежні — студзені наступленне зрывалася, з усіх спроб мала што атрымлівалася, мы яшчэ не маглі весці наступальныя бai. Але затое мы чамусьці цвёрда ўпэўніліся ў тым, што Ленінград

немцам не ўзяць. Не таму, што ў іх не хопіць сіл, а таму, што мы ім не дадзім. Дзіўная гэта, здавалася, ні на чым не абгрунтаваная ўпэўненасць ахапіла нас у снежаньскія дні, дні нашай слабасці, голаду і малалюднасці. Можа, гэта неяк было звязана і з тым, што ў дваццатых чыслах снежня да нас у часці, на пярэдні край, прыехала дэлегацыя ленінградскіх работніц уручыць падарункі. Магчыма, начальства вырашыла, што наш баявы дух паможа ленінградцам, а можа, камандаванне хацела натхніць нас — не ведаю. Дэлегацыя дайшла да нашай роты ў выглядзе трох жанчын. Усе тры былі паабкручваны хусткамі, шалямі, падперазаны паясамі, шнуркамі. Калі ў зямлянцы яны, нарэшце, вызваліліся ад сваіх апратак, дык ператварыліся ў тоненькіх дзяўчат, можна сказаць нават — кашчавых, мяркуючы па выступаючых ключыцах і скулах. У зямлянцы было горача напалена. Мы ўваходзілі і атрымлівалі з іх рук шкарпэткі, кісеты, рукавіцы. Сукеначкі на іх схуднелых плечыках свабодна матляліся, былі надта шырокія, але кожная здавалася нам мілаю. Яны з’явіліся да нас вечарам, калі сцямнела. Праз гадзіну старшына прынёс нам кашу. Кацялок кашы з саланінаю і кавалак цукру — гэта быў паш абед, ён жа і вячэра, з яго хто мог пакідаў сабе і снеданне, быў яшчэ хлеб і сухар. У той вечар кашу мы падзялілі з гасцямі, праўдзівей, скармілі ім, так што кожнай дасталося амаль па дзве порцыі. Пасля Валодзя сыграў ім на гітары, яны расказалі нам пра тое, як шыюць на фабрыцы бялізну, і пасля яны леглі спаць. А ў сапраўднасці яны пачалі кляваць носам адразу, як толькі паелі. Яны стаміліся ад дарогі, а галоўнае, іх змарыла ад ежы і цяпла. Спалі яны на нашых нарах. Прыходзілі з суседніх узводаў, заглядвалі ў нашу зямлянку — упэўніцца. Здавалася, гады мінулі з таго часу, як мы бачылі жанчын у сукеначках. Але якія гэта былі жанчыны — худыя, змардаваныя, паблажэлыя! Тоўпячыся ў дзвярах зямлянкі, салдаты глядзелі на спячых з пачуццём, у якім не было нічога мужчынскага, а быў толькі жаль. Але, можа, у гэтым якраз і было мужчынскае пачуццё. Гэтыя тры жанчыны былі нам як Ленінград...

Іх разбудзілі перад досвіткам, каб яшчэ зацемна яны маглі выбрацца. Яны яшчэ хацелі спаць, казалі, што ніколі яшчэ за гэтыя месяцы не спалі так спакойна, як у нас на перадавой.

Разам з лейтэнантам я праводзіў іх да КП. Мы ішлі, арыентуючыся на барвова-залатыя плямы пажараў. Адзі-

покі пражэктар шнарыў па нізкім небе. Лейтэнант запрашаў іх на наступную зіму ў ЦПК* і на каток. «Пазнаеце мяне па вашых рукавічках»,— жартаваў ён. Я смяяўся разам з імі і раптам зразумеў: у немцаў не атрымалася, у горад ім не ўвайсці, цяпер уся справа ў тым, калі мы зможам іх адкінуць.

Юру Рабінкіну не было адкуль узяць тое адчуванне. У гэтым якраз і заключаліся пакуты, што спасцiглі многіх ленінградцаў у тую зіму сярод іх жахлівага існавання.

Ён упрошвае, каб яму аддалі Ірыну картку. Толькі каб памянялі на яго картку, каб замест 150 грамаў ліпучага хлеба атрымліваць 100 грамаў сухога так званага пячэння (яго часам выдавалі дзецям). Юра ўявіў сабе, што гэтае «пячэнне» яго выратуе.

Але пры ўсім гэтым ясна высвечваецца кардыяграма яго пакут: страшна пазбавіцца карткі, разумее, што не мае права на картку, але аддаць не хоча, будзе на каленях прасіць — гэта пры ягоным самалюбстве! — аддаць яму картку; праз некалькі радкоў ён апамятаўся, адчуў згрызоты сумлення (аддам, няхай хоць Іра выжыве), і, апамятаўшыся, раптам убачыў сябе, і жахнуўся (кім я стаў!), і, здаецца, пачаў каяцца: выходзіць, усё ж не ўтрымаўся, паціхеньку цягне чужое — лазіў лыжкаю ў каструлю, край масла, капусту,— ён прызнаецца, называе ўсе свае правіннасці, малыя, але палохаючыя яго, ён дакарае сябе, баіцца страціць усе маральныя перашкоды — стаць злодзеем, рабаўніком,— узбуджанае сумленне прадчувае бездань, мітусіцца ў смутку і жаху, таму што не можа стрымаць сябе, не можа спыніцца...

А заўтра ўсё-такі просіць Ірыну картку. (Дзеці да дванаццаці гадоў атрымлівалі крыху больш, чым утрыманцы і служачыя.) І, магчыма, упрошвае, патрабуе, магчыма, саромеецца свайго прыніжэння, таму што сцэна была бурная: няпроста для маці выбраць паміж двума сваімі дзецьмі. Картку яму далі, але ў картцы гэтай усяго на два дні хлеба, таму што канец месяца, а праз два дні новая картка, снежаньская, і зноў пакуты: дадуць яму ці не.

Усё гэта перачытваецца ў дзённіку, можа, і няма патрэбы каменціраваць, умешвацца, падказваць чытачу, але гэта адно *з* тых месцаў, дзе ў нас но хапае сіл прамаўчаць.

* ЦПК — Цэнтральны парк культуры.

...Ды і не прывыклі мы да такой шчырасці. Яна палохае. У ёй бязлітаснасць да сябе, на якую, напэўна, ужо не адольны даросды чалавек. Калі б Князеў мог запаўняць свой дзённік з такой самай сілаю спавядальнасці, як і Юра. З гадамі гэта магчымасць самараскрыцця губляецца. Л можа, Князеву перашкаджае пачуццё гісторыка, умова, што дзённік адрасаваўся «далёкаму сябру»?

Шчырасць — Юравы талент, наймацнейшая праява ягонае асобы. Магчымасць самагубства, як гэта было ў Князева, для яго не існуе. З веку ў век чалавека перакопвалі, што раз ён не верыць у бога, у бессмяротнасць душы, дык якая ж яму карысць быць добрым, пакутаваць сумленнем? Усё дазволена. Жыццё абвяргала логіку. Штосьці стрымлівала Юру Рабінкіна ад эгаістычнай усёдазволенасці. І ад самагубства. Сумленне панавала над ім, а не ён над сумленнем. Адкуль жа яно бралася, ці толькі з аднае любові?

*«29 лістапада.* Дзве ўчарашнія навіны. Першая — ліст ад Ціны, напісаны ёю па дарозе ў Сібір з г. Буя, дзе ў грамадзянскую вайну памёр ад тыфу мой дзед. Піша, што стан здавальняючы (значыць, добры), едзе далёка-далёка. Ліст быў напісаны ў канцы кастрычніка. Другая навіна — гэта тое, што мама вырашыла, што б там ні было, эвакуіравацца з Ленінграда. Хоць пешшу. Але гэта рашэнне толькі яшчэ на словах. Мне зноў трэба хадзіць у школу, таму што з Ленінграда дазваляецца эвакуіравацца толькі тым, хто вучыцца. Заадно мне давядзецца заплаціць за вучобу 100 рублёў.

Становішча Ленінграда я асабіста лічу крайне цяжкім. Адсутнасць прадуктаў, няспынная гарматная стральба па ўсіх раёнах горада, ды ці мала чаго яшчэ... Але я лічу, што справа з эвакуацыяй пачынае больш-менш праясняцца, хоць на гэтае «праясненне» спатрэбіцца яшчэ месяц-паўтара.

Падбіраю, падбіраю, што ўзяць з сабою. Я цвёрда вырашыў захапіць з сабою, наколькі гэта будзе магчыма, партфель з розным маім «хламам» — 2 кнігі па шахматах, крыху англійскай літаратуры, «Гісторыю дыпламатыі», некалькі гістарычных карт, лепшыя паштоўкі з калекцыі, два-тры падручнікі 9-га класа (напрыклад, «Асновы дарвінізму», «Літаратура», «Гісторыя», «Геаграфія» альбо нават без апошняй).

Як добра забыцца ў такіх салодкіх марах, як эвакуацыя, але холад верне да рэчаіснасці.

Мяне здзіўляе перамена ў паводзінах Анфісы Мікалаеўны. Так, напрыклад, учора яна дала нам талерку пшанічнай кашы і сподак сухароў і не ўзяла за гэта нічога. Часта прыносіла са сталоўкі трэста какаву, цяпер яна знікла. Сёння я дастаў ёй павідла, яна дала мне за гэта грамаў 50 яго. Карацей, я цяпер сур'ёзна адчуваю яе дапамогу. Калі б мы пражылі яшчэ з паўгода разам, магчыма, зусім пасябравалі б з ёю. Зрэшты, хто яе ведае?.. Факт застаецца фактам, што днямі яе ўжо ў Ленінградзе не будзе. Час позні ўжо. Вечар. Паелі кісялю з бульбяной мукі з павідлам, што я сёння дастаў, і сухароў, што дала Анфіса Мікалаеўна, таксама з павідлам.

Заўтра Іра атрымае па картцы 250 г. пячэння. Колькі, га? Ну што ж, няхай паесць яго. Няхай...

Сёння мама сказала, што падала заяву з просьбаю, каб дазволілі нам вылет. Што з гэтага выйдзе — невядома. Спадзяюся на лепшае...

У пакоі Анфісы Мікалаеўны разыгралася бурная сцэна. І. лаяўся са сваёю жонкай за тое, што яна хлеб мяняе на гарэлку для сябе і г. д.

Значыць, сёння 29 лістапада. Вечарам напісаў мала, хочацца есці... Яшчэ з тыдзень — і я не пацягну ног.

*30 лістапада.* У мамы настрой яўна эвакуацыйны. Учора яна многа гаварыла пра эвакуацыю з Анфісай Мікалаеўнай. Тая ёй дала, дакладней, паабяцала даць адрас сваіх бацькоў, якія жывуць каля Златауста. Хоць гэта і не хлебны раён, але голад там, напэўна, усё ж не такі, як тут. Але ўсё залежыць ад рэзалюцыі, якую паставяць на маміну заяву. Гэта зразумела. Адказ мусіць быць найпазней праз тыдзень.

Анфіса Мікалаеўна дае нам штодзень штук восем сухароў, сёння дала кавалак каніны і бутэльку алею. Дзякуй ёй за ўсё гэта.

Роўна ў 12 гадзін і 00 мінут дня немцы пачалі зноў налёт. Зноў і з паветра бамбяць і адначасова абстрэльваюць горад з батарэй.

Я пачынаю прызапашваць грошы. Цяпер у мяне 30 рублёў, з якіх легальна я маю 10.

Значыць, да вырашэння нашага лёсу застаюцца лічаныя дні. У выпадку, калі не дазволяць вылет, нойдзем пешшу. Ісці трэба кіламетраў сто, але як-небудзь пройдзем.

Маміна галоўная мара цяпер — кінуць шумнае гарадское шыццё, пасяліцца ў якім-небудзь раённым сяле, дзе

была б мне дзесяцігодка, абзавесціся гаспадаркаю, хатаю, даць мне сельскагаспадарчы ўхіл і дажыць сваё жыццё ў цішы і ўтульнасці, як Ціна. Мама стамілася ад жыцця. Яе набіць такое, напрыклад, жыццё, якое вяла Ціна ў Шлісельбургу, мірнае, спакойнае жыццё без усякае калатнечы ды бурных перажыванняў... Але, магчыма, я памыляюся, магчыма, гэта толькі часовы парыў у маёй мамы. Зрэшты, такія самыя мары ў яе былі і ў Сестрарэцку, і на Усяволжскай. Жыццё сярод прыроды, але гэтае жыццё патрабуе... Ну няхай, цяпер не да таго. За акном б'юць зеніткі, узрываюцца бомбы, не да такіх думак мне цяпер.

Сёння, між іншым, мама мне казала, што голад, які мы перажываем, горшы за той голад, які быў у 1918 годзе... У 1918 годзе — паводле маміных слоў — было ў вышэйшай ступені развітае так званае «мяшэчніцтва». Людзі ездзілі ў далёкія вёскі, даставалі там хлеб, муку, масла, вярталіся ў Петраград і прадавалі ўсе гэтыя прадукты з мяхоў, вядома, за неймаверна вялікія грошы. Але хто меў тады грошы, быў сыты, а цяпер чалавек можа валодаць мільёнамі, але калі згубіць харчовыя і хлебныя карткі на месяц, дык непазбежна памрэ з голаду, калі толькі ён не які-небудзь фенаменальна прадпрымальны чалавек.

На франтах лепш... Нямецкія войскі ў беспарадку адступаюць да Таганрога. Мы гонім іх.

Значыць, пачынаецца разгром Германіі. І пад Масквою, і пад Растовам, і пад Ленінградам. Каб хутчэй ужо лопнула гэтая фашысцкая свіння, чорт бы яе ўзяў. Але калі яна лопне, дык ад яе павее такі смярдзячы дух, што нікога ў крывых не застанецца.

Заўтра трэба ісці ў школу. Абавязкова. Калі справа дойдзе да эвакуацыі, дык мяне выпусцяць з горада толькі ў выпадку, калі я буду навучэнцам. Таму неабходна наведваць школу.

Як мне хочацца цяпер хлеба... Хлеба... Хлеба...

*1 снежня.* Пачаўся новы месяц. Настала новая дэкада. Пішу раніцаю. Сёння прыйшоў у школу ў 8 гадзін раніцы. Мне сказалі, што з сённяшняга дня заняткі ў школах пачынаюцца з 10 гадзін, а пускаць у школу будуць без дваццаці 10. Я пайшоў дахаты. Зайшоў у трэстаўскую сталоўку. Там гарачы чай з шакаладнай цукеркаю. На цукерку адразаюць 10 г кандытарскіх вырабаў. Пайшоў дамоў. А палове дзесятай сабраўся ісці ў школу, але ж далі трывогу. Цяпер, калі я гэта пішу, трывога працягваецца, 10 гадзін, напэўна, ужо было.

Я цяпер так шаную сваю энергію, што мне ўяўляецца надзвычай важным нават рашэнне схадзіць па калідоры ў сталоўку. Ва ўсім целе адчуваецца слабасць. Ногі цяжкія, калені слабыя, цяжка падняцца з крэсла, ва ўсім целе слабасць. І гадзін да 6—7 вечара, відаць, не давядзецца што-кольвечы з'есці. Мама схавала недзе масла, я яго шукаў і не знайшоў, а сырую каніну есці не магу. Калі трывога працягнецца яшчэ гадзіны 2, у школу не пайду. Які сэнс? А зрэшты, варта было б. Захаплю з сабою толькі частку падручнікаў.

Значыць, немцы цяпер будуць пачынаць налёты з 10 гадзін раніцы, дакладней, з паловы дзесятай. А ў школу мне трэба выходзіць якраз у гэты час. Што ж рабіць?

Хачу ўсё ж падвесці вынік, чаму мяне навучыў месяц лістапад і чым адрозніваецца 30 лістапада ад 30 кастрычніка. У лістападзе пачалася вучоба ў школе, якая разбіла ўсе мае імкненні да ведаў з-за тых умоў, у якіх праводзіліся заняткі. І вось, здавалася, я пакончыў са школаю. Перайшоў у штодзённыя пакуты выстойвання ў чэргах. Адразу ўсе мае ідэалістычныя погляды памяняліся на матэрыялістычныя. Асноўнае патрабаванне жыцця за месяц засталося нязменнае — ежа.

Трэба сказаць, што харчовае становішча ў дзень 30 кастрычніка ў нас было горшае, чым 30 лістапада. Але разам з тым, безумоўна, патрабаванні да харчавання засталіся ранейшыя. «Што толькі ёсць ядомае — усё ў рот». Вось лозунг, да якога хутка можна будзе дадаць часціцу «не» перад словам «ядомае». Надзеі засталіся ранейшыя, крыху падмацавалася, праўда, цяпер іх матэрыяльнае абгрунтаванне. Калі эвакуацыя 30 кастрычніка здавалася мне нечым абстрактным, то ўжо цяпер гэта пытанне аднаго тыдня... Значыць, пра мінулы месяц можна сказаць, што гэта быў месяц пакут і слёз, месяц сямейных сварак і голаду, ён выматаў з мяне палову тых сіл, якія былі ў мяне перад ім. Я ані разу за ўвесь гэты месяц не наеўся ўволю. Не прайшло ніводнага дня без таго, каб не было бамбёжкі і артылерыйскіх абстрэлаў, не было ніводнага дня, не азмрочанага, апрача голадам, яшчэ і страхам за сваё, мамі і Ірына жыццё.

У лістападзе адбыліся 2 станоўчыя з'явы. Памяняліся ўзаемаадносіны з Анфісаю Мікалаеўнай, якая думае гэтымі днямі эвакуіравацца і дае нам нямала, як на цяперашняе становішча, прадуктаў, прытым бясплатна і не ў абмен. Другая станоўчая з'ява — гэта эвакуацыя Ціны ў

Сібір з яе эвакапунктам з Баксітагорска. Апошні яе ліст, які нядаўна мы атрымалі, сведчыў, што яна едзе цягніком праз г. Бруй Яраслаўскай вобласці.

Усе мае надзеі быццам бы пастаўлены па кончык нажа і трымаюцца ў некаторым ваганні. Які ж будзе адказ на маміну заяву аб вылеце? На ўсякі выпадак трэба рыхтавацца да эвакуацыі пешшу. Хоць і ходзяць чуткі пра такую эвакуацыю, яна цяпер праходзіць стыхійна і неарганізавана. Гаворак пра гэту эвакуацыю шмат. Кажуць пра нейкія пункты харчавання ў дарозе, пра падвозку дзяцей грузавікамі і г. д. Але чаго не выдумаюць людзі! Цікавы факт. Пазаўчора ў чэргах кружыліся чуткі, што па 11-разовы дзіцячы талон дадуць 250 грамаў пячэння. Учора, пакуль я стаяў каля булачнай, дзесяткі людзей засыпалі прадаўцоў пытаннямі: «Ці даюць на 11-ы талон пячэння?» — і, натуральна, атрымлівалі адмоўны адказ».

Пачынаючы з верасня, калі дастаўка харчавання ў горад скарацілася, давялося выпякаць хлеб з дамешкамі. Дабаўлялі аўсяную муку, ячную, вотруб'е, макуху. Але і гэтыя прадукты канчаліся. Вучоныя шукалі заменнікі, якія можна было б дабаўляць у муку і павялічваць прыпёк хлеба. Прыпёк, гэта значыць тая прыбаўка ў вазе хлеба, якая адбываецца пасля выпечкі. Пад кіраўніцтвам В. І. Шаркова, прафесара Лесатэхнічнай акадэміі, вучоныя прапанавалі выкарыстоўваць цэлюлозу, тую самую, што ішла як сыравіна на выраб паперы. Яны стварылі ўстаноўку для пераапрацоўкі гэтай цэлюлозы ў харчовую. З канца лістапада яе пачалі дабаўляць у хлеб у якасці напаўняльніка. «Мы атрымалі масу крыху шэрага колеру. Пасля таго як адпрасуеш яе па фільтрах, атрымаецца пласт такога рэчыва вільготнасцю сорак працэнтаў. Хлебазаводы бралі гэты матэрыял, разбаўлялі ім муку і выпякалі хлеб,— расказвае Дзмітрый Іванавіч Сарокін, загадчык вытворчасці завода.— Мы, камандны персанал прадпрыемства, тады ў забеспячэнні нічым не адрозніваліся ад рабочых. Я атрымліваў толькі адну рабочую хлебную картку, нічога больш. Адзіны быў выпадак, калі ў падшэфных мінамётчыкаў забіла каня, яны прыслалі нам кавалак, і наша загадчыца гаспадаркі на працягу паўтаратыднёвай эканоміі давала нам вечарам талерку супу. Нам чатыром — дырэктару завода, прафесару Шаркову Васілію Іванавічу, галоўнаму інжынеру Мельнікаву і мне. А іншых дабавак не было».

Хлеб атрымліваўся сыры, глiнiсты, з горкім травяністым смакам, але як радаваліся яму хлебапёкі, той самы Васілій Іванавіч Шаркоў, яго супрацоўнікі — яны добра ведалі, якіх пакут, намаганняў розуму каштавала стварыць гэты хлеб. Усё-такі гэта быў хлеб. Снежаньскі, студзеньскі хлеб — гора і шчасце Ленінграда...

## ВЫРАТАВАЦЬ ДЗЯЦЕЙ

Цяжэй, чым Г. А. Князеву, цяжэй нават, чым Юру Рабінкіну, даводзілася ў гэтыя дні Лідзіі Ахапкінай. Яна змагалася не за сябе. Сына і дачку, дваіх маленькіх бездапаможных дзяцей, трэба было адстаяць ад голаду і марозу. Чым? Як? Што яна магла ў снежні, у студзені, калі нічога ўжо не заставалася, ні крошкі, усё, усё было падабрана, па ўсіх кутках вышукана, па ўсіх шчылінах вышкрабана, згрызена. Але тое, па што здольна маці, немагчыма ўгадаць, немагчыма прадбачыць. Мацярынская любоў, самаахвярнасць — гэтыя пачуцці, здавалася б, добра вядомы яшчэ па біблейскіх прытчах, казках, легендах розных народаў. Тут цяжка чым-небудзь уразіць наша ўяўленне. Тым больш што гераіня нашага апавядання Лідзія Ахапкіна нічым спецыяльна не адзначана і выбрана была намі перш за ўсё таму, што ўсё запісала добрасумленна, праўдзіва. Толькі ў гэтым яе адрозненне ад іншых жанчын, якія з не меншым пачуццём і сілай змагаліся за шчасце сваіх дзяцей. Запісы Лідзіі Ахапкінай — тая шчыліна, цераз якую мы можам зазірнуць у запаветны свет мацярынскае любові і самааддачы. Гэта любоў заахвочвала па адчайныя пошукі выратавальнага выйсця.

«Па кватэры бегалі і пішчалі галодныя пацукі. Яны грызлі шпалеры, якія ж некалі клеіліся клеем, прыгатаваным з мукі, гэта значыць, рэдкім цестам. У маім пакоі ніякага абсталявання не было. Стаялі толькі два вузкія жалезныя ложкі, па адным спаў Толік, на другім я з дачкою. Ды яшчэ кухонны стол, які мне дазволіла ўзяць з кухні гаспадыня. Усё ж паша абсталяванне засталося там, у Волкавай вёсцы. У кватэры жыла дзяўчына Роза 17-ці гадоў і яе цётка. Муж гэтай старой жанчыны быў

прафесар, і ён эвакуіраваўся з інстытутам, дзе працаваў, а яна не паехала, баялася кінуць сваё дабро. У пакоі ў іх было раскошна. Дываны, піяніна і шыкоўная мэбля. Пасля, у студзені месяцы 1942 года, яна памерла ад голаду. Колькі разоў яна прыходзіла да мяне і скардзілася на Розу, што тая амаль не давала ёй хлеба. Па хлеб хадзіла Роза, а яна баялася выходзіць на вуліцу. Мне шкада было яе, але што я магла зрабіць? Мне сваіх турбот хапала. Ад мужа я даўно не атрымлівала ніякіх пісьмаў і не ведала, дзе ён, што з ім. Ды і ён не ведаў нашага адраса на Васільеўскім востраве. Мне думалася, што мы ніколі ўжо не ўбачымся. Але думала я пра гэта неяк без асаблівага шчымлівага болю, таму што думала — усё роўна хутка памрэм з голаду.

Я ў думках хацела, каб смерць прыйшла адначасна да мяне і да дзяцей, бо баялася, калі, напрыклад, мяне заб'юць на вуліцы, дзеці будуць дзіка плакаць, клікаць: «Мама, мама», а пасля памруць з голаду ў халодным пакоі. Ніначка мая ўвесь час плакала, доўга, працяжна, і ніяк не магла заснуць. Гэты плач, як стогн, зводзіў мяне з розуму. *Я тады, каб яна магла заснуць, давала ёй смактаць сваю кроў.* У грудзях малака даўно не было, ды і грудзей зусім ужо не было, усё некуды падзелася. *Таму я праколвала іголкаю руку вышэй локця і прыкладвала дачку да гэтага месца.* Яна паціху смактала і засынала. А я доўга не магла заснуць, пачынала лічыць, збівалася. Прыпамінала, калі чытала Л. Талстога «Вайна і мір», там П'ер Бязухаў таксама лічыў да тысячы, каб заснуць. Мне ўсё блюзніліся то буханкі хлеба, то я збіраю ў полі бульбу. Набяру цэлы мех, а падняць не магу. Адзін раз на рынку-«таўкучцы» мне ўдалося з рук купіць сталярнага клею. З яго тады варылі студзень. Вось я таксама варыла і ела. Давала Толіку. Нінцы баялася. Але ад клею ў нас пачаліся запоры, і я перастала яго варыць. Другі раз мне пашанцавала купіць свіную скуру. Яна была смачнейшая, але яе трэба было доўга варыць, каб яна размякла, а я шкадавала газы, яе ў мяне заставалася мала.

...У кватэры была страшэнная халадэча, на сценах іней, як бывае ў хлявах зімою. Калі мне трэба было перавярнуць Нінку, каб не прастудзіць яе, я залазіла пад коўдру і падсоўвала сухую пялёнку, а тую кідала на падлогу, і яна хутка замярзала, як замярзае на вуліцы мокрая бялізна. У мяне не было градусніка, але тэмпература паветра

была, напэўна, мінусавая. Я ўжо пастолькі схуднела, што на нагах зусім не было цела. Грудзі — як у мужчыны, адны саскі. Скулы на твары выступілі, вочы ўваліліся. Дзеці таксама былі вельмі худыя, і ў мяне замірала сэрца, калі я бачыла іхнія худзенькія ножкі і ручкі і маленькія празрыстыя тварыкі з вялікімі вачамі. Не было зусім дроў. Не было на чым нагрэць вады альбо што-небудзь згатаваць. Роза мне сказала, што ў іх падвале ёсць крыху вугалю, але хадзіць туды страшна, таму што туды звальваюць нябожчыкаў. Я сказала — нічога, усё роўна трэба схадзіць. Мы ўзялі вёдры і пайшлі. Там сапраўды ляжала некалькі трупаў. Мы стараліся на іх не глядзець. Хутчэй насыпалі, проста рукамі, і паспешна выйшлі. Святла электрычнага таксама не было, і мы запальвалі газоўкі. Неяк я выменяла на нешта самаробную газоўку — бутэлечка з машынным маслам і ў яе ўстаўлены кнот, зроблены з ваты. Яна кепска асвятляла, у пакоі было цёмна. На сценах утвараліся вялікія цені, а куродым цягнуўся топкай ніткаю ўверх. Вады ў водаправодзе таксама не было, і трэба было хадзіць за ёю на Няву. Я ездзіла туды з дзіцячымі санкамі, з вядром і каструляй. Вады патрэбна было многа — для пітва, гатавання ежы, а таксама мыць пялёнкі...

Я зрабілася зусім абыякавай да паветраных трывог, яны былі рэдкімі, а абстрэлы вуліц праводзіліся часцей. Адзін раз падчас такога абстрэлу я пайшла па хлеб, таму што ў гэты час меншыя былі чэргі, і трапіла пад моцны абстрэл. Я хацела дабегчы да брамы аднаго дома, але якраз ішла каля доўгага паркана. Снарады ляцелі і разрываліся зусім блізка. Мне нехта крыкнуў з другога боку: «Дурніца! Кладзіся хутчэй, кладзіся!» Я ўпала і прыціснулася да сцяны. Потым азірнулася, устала і зноў упала проста ў снег тварам. Паляжала некалькі секунд, сэрца стукала. Я пачала паўзці. Увогуле, прасоўвалася, нібы салдат на перадавой.

...Зіма 41/42 года была вельмі халоднаю. Маразы даходзілі да 30—40°. Я ўвесь час думала, дзе б дастаць дроў. Калі я выязджала з Волкавай вёскі, дык адзежную шафу я набіла насечанымі дровамі, а пад дровамі схавала патэфон. Мне хацелася туды схадзіць, але ж транспарт, гэта значыць трамвай, тады не хадзіў і трэба было ісці пешшу туды і назад, вельмі далёка. Я ўсё адкладвала, але неяк сабралася. Накарміла дзяцей, замкнула іх і з раніцы пайшла. Уяўляеце мой шлях з Васільеўскага вострава да Волкавай вёскі? Няву перайшла па пратаптанай сцежцы, вый-

шла на Ліцейны і ўсё глядзела па дамы, якія стаялі панурыя. Шмат якія з разбітымі вокнамі, цёмнымі, як вачніцы. У некаторых адбіты снарадам ці вугал, ці частка дома. А ў другой частцы жылі людзі. Мне трапляліся пешаходы. Усе ішлі павольна, ледзьве перасоўвалі ногі. Усе захутаныя, з шэрымі худымі тварамі, некаторыя мужчыны паверх шапак таксама завязалі хусткі.

...Сапраўды, горад быў паранены, як чалавек, што пабываў у баі. Але быў жывы: жыў цяжкім жыццём і не паміраў, у людзей была нейкая надзея, і ўпартасць не пакідала іх. Павінен жа скончыцца калі-небудзь гэты кашмар, гэты жах. Калі я дайшла да Неўскага, у мяне ад хвалявання сціснулася сэрца, ён быў амаль пустынным, увесь завалены снегам. Многія дамы былі разбураныя. Вокны забіты фанераю. Стаялі трамваі і тралейбусы, таксама пакрытыя снегам. Гасціны двор быў абгарэлы. На Анічкавым мосце коней не было.

...На рагу Лігаўкі і Раз'ездджай калісьці стаяў пяціпавярховы дом. Ён гарэў, але дзіўным агнём. Гарэлі па кожным паверсе рамы і падлога, агонь павольна вылазіў з акон, быццам бы лізаў рамы, падаконнікі, павольна рухаючыся далей. Ветру не было, і ён сіненькім агеньчыкам, не спяшаючыся, поўзаў па доме. Людзі казалі, што гэты дом загарэўся ад буржуек і гарыць ужо трэці дзень. Каля дома валялася многа рознай мэблі, паламаныя шафы, ложкі, куфры і да т. п. Ніхто гэтага ламачча ўжо не браў, і ніхто яго не ахоўваў.

...Калі я нарэшце прыйшла дамоў, убачыла, што верхні паверх дома амаль зламаны. Дах яго згарэў, калі я яшчэ там жыла. На першым паверсе жылі яшчэ сем'і, я таксама жыла раней на першым. Побач са мною жыла Марыя Мікалаеўна са сваёю дарослаю дачкою. Яны абедзве былі вельмі худыя, але ўсё-такі выглядалі лепш за тых, што жылі ў цэнтры. Я спытала: «Як вы жывяце? Значыць, не выехалі адсюль?» А яна кажа: «Куды ж? Тут цяпер лепш. Я вось накапала крыху бульбы за чыгункаю. Ды дроў тут поўна. Ад драўляных дамоў, напалову згарэлых, можна ламаць дошкі, бярвенні і паліць у печцы і гатаваць. А бамбёжкі ж амаль спыніліся». Я кажу: «Вось у мяне зусім няма дроў».— «Дык прыязджайце сюды»,— кажа яна. А я: «На чым прыязджаць? Няма ж ніякага транспарту, я прыйшла пешшу». І, сказаўшы гэта, развіталася з ёю і зайшла ў свой пакой. Вокны — два акны — былі некім забіты дошкамі. Скрозь іх шчыліны пранікаў снег. Снег

ляжаў усюды — на стале, на ложку, канапе і на падлозе. Сэрца сціснулася, калі ўбачыла свае рэчы, і ўспаміны пра мірнае жыццё з болем нахлынулі на мяне. Але не было калі ўздыхаць, і я заспяшалася. Узяла патэфон, я хацела яго пасля абмяняць па хлеб, падабрала з падлогі некалькі цацак Толіку. Памятаю, заваднога слоніка і мішку, а дачцэ — цэлулоіднага папугая. Усё звязала, паклала па санкі, апрача гэтага, паклала і трохі дроў. Ды зняла яшчэ застылы тлушч са сценкі кухоннага стала, куды мы вешалі патэльню і ён тады сцякаў; і я адразу яго з’ела. Гэты маленькі кавалачак тлушчу я ўспаміналa не раз уначы, калі вельмі хацелася есці і крыху заснуць. Як я даехала назад, не памятаю. Выбівалася з апошніх сіл, па дарозе выкупіла хлеб і амаль увесь з’ела. Па баках ужо не глядзела, а цягнула санкі, як змардаваны конь, думаючы толькі, што мяне чакаюць дзеці. Прыехала, калі было зусім цёмна.

...Я ўвесь час хадзіла ў мужавых валёнках і надзявала два паліто: сваё, а на яго яшчэ і мужава. Ды і ўсе так хуталіся. Некаторыя людзі наверх паліто, на плечы, напіналі яшчэ нейкія старэчыя шалі і нават ватовыя коўдры.

Калі я выходзіла з дому, мая дачка заўсёды плакала. Каб яна не плакала, я давала ёй маленькі аржаны сухарык, і яна яго доўга смактала. І цяпер я дала ёй. Але замыкаючы ўжо дзверы, я пачула, што яна заплакала. Гэта Толік адабраў у яе сухарык, таму што я яму не дала, бо ў мяне больш не было. Я вярнулася і першы раз набіла яго. Ён гучна плакаў, і мне яго таксама стала вельмі шкада. Я сказала, што, калі ты будзеш забіраць у Нінкі, я цябе выкіну на вуліцу. Ён кажа: «Не трэба, мамка, я больш не буду». Я яго пацалавала, захутала ў коўдру і пайшла. У гэты дзень нам атаварвалі, так раней казалі, карткі, і на маю картку я атрымала 200 грамаў проса. Дзіцячыя прадуктовыя карткі я аддавала — прымацоўвала да дзіцячай сталоўкі,— і гэта нас моцна падтрымлівала. Там я атрымлівала на дваіх дзяцей. Раніцаю — снеданне. Вельмі рэдзенькую кашку, вядома, у мізэрных порцыях. А на абед які-небудзь супчык і што-небудзь на другое. Бульбяное пюрэ альбо зноў кашу. Калі б не гэта, не абеды са сталоўкі, мы галадалі б яшчэ больш. Сын увесь час сядзеў і глядзеў на будзільнік. Я яму растлумачыла: вось калі вялікая стрэлка будзе на 12, а маленькая на 10, мы будзем снедаць, а калі вялікая зноў будзе на 12, а маленькая на 3 гадзінах — абедаць. І ён увесь час глядзеў на гадзіннік.

Тое проса, што я атрымала на сваю картку, я падзяліла прыкладна на дзве часткі і на вячэру два разы варыла рэдкую кашу. Адзін раз прыходжу дамоў, хадзіла па хлеб. Гляджу, Толік сядзіць на падлозе і нешта там запалкаю выкалупвае. Я кажу: што ты робіш? Ён адказвае, што выкалупвае прасяныя зярняткі са шчылін у падлозе. Гэта я крыху рассыпала, калі гатавала, было цёмна, і вось ён іх даставаў адтуль і разам з граззю еў.

Я падумала: «Божа мой, які ён галодны, але што параіць, чым яго накарміць?» Ён настолькі быў худзенькі, што ўжо рэдка ўставаў з ложка і ўсё казаў мне: «Мама! Я з’еў бы кашы цэлае вядро, а бульбы — цэлы мех». Я старалася яго адцягваць ад такіх думак. Спрабавала апавядаць казкі, але ён кепска слухаў і ўсё перабіваў мяне: «Ведаеш, мама, я хлеба з’еў бы вось такую буханку, вялікую» — і паказваў на круглы таз. Я казала: «Не, не з’еў бы, ён не ўлез бы ў твой жывоцік». А ён спрачаўся: «З’еў бы, мама, з’еў бы. Я не спаў бы, а ўсё еў бы і еў». Выглядаў ён як галчаня, адзін рот і вялікія карыя вочы, і такія яны сумныя. А ножкі такія тонкія, толькі каленная рэпка выразна выдзялялася. Валасы, даўно не стрыжаныя, адраслі, ён увесь час быў калматы. Адзін раз на маю картку далі 200 грамаў гароху. Я вырашыла зварыць рэдзенькі супік. Зварыла ў печы і захутала яго коўдраю, каб папарыўся і лепш разварыўся. А сама выйшла да суседкі. Яна памірала... Я пастаяла крыху і пайшла. Прыходжу, гляджу, каструлька адкрытая. Я сказала Толіку: «Ты ўжо лазіў». Ён: «Я толькі адну лыжачку, мама, толькі адну пакаштаваў». Я кажу: «Ну добра, давайце есці». І зачэрпнула лыжкаю і выцягнула адтуль анучку, якою ў яго былі завязаны рукі. Кароста ў яго амаль прайшла, і болькі ўжо адвальваліся. Але я яму ўсё завязвала, каб ён не заразіў ні мяне, ні Нінку, дык вось ён і згубіў яе ў каструлі. Што рабіць? Ён адразу захныкаў: «Я незнарок, мама, яна сама ўпала». Што рабіць? Суп выліваць шкада было. Так і елі... І дагэтуль не магу забыцца па гэты выпадак, ды ён таксама доўга памятаў».

У гэтай анучцы натуралізм, фізіялогія, чытаць пра яе нязносна, і не раз уздымалася рука выкінуць яе, прыбраць, як выкідалі мы некаторыя падрабязнасці, жахлівыя ў сваёй бесчалавечнасці, дэталі і эпізоды кашмарныя, якія і прыдумаць нельга і ведаць пра іх не хочацца, нічога,

апрача жахлівасці і суму, яны не выклікаюць. Але гэтая анучка пры ўсёй яе моташнасці памяталася. Яна нібыта адзначала ўзровень чалавечых пакут. Не, не ўзровень падзення. Яны не пераступалі маральных паняццяў — пераступалі гідлівасць, адсунулі яе, гэта запомнілася як рыса (вось дакуль дайшлі), і ўспаміналі пра анучку не саромеючыся, не папракаючы сябе. Да таго мы галодныя былі, да гэтай аж анучкі! Чалавек часта захоўвае ў сабе, у сваёй памяці, такую адзнаку цярпення, мукі, мяжы пачуццяў сваіх, такую «анучку», ці гэта памагае яна, ці служыць якім-небудзь пунктам адліку...

З пачатку студзеня 1942 года Маскоўскі гарком партыі і Масгарвыканком рыхтавалі калону аўтобусаў і грузавых машын для лядовай дарогі па Ладазе. Трэба было падабраць да іх вопытных шафёраў і рамонтнікаў. 40 аўтобусаў было выдзелена, каб вывозіць ленінградцаў, і 200 грузавых машын. Упаўнаважаны Дзяржаўнага Камітэта Абароны А. М. Касыгін дамовіўся, каб усе машыны ішлі загружаныя сушаным малаком, канцэнтратамі, маслам, цукрам, тлушчам. Прадугледзеў і тое, каб забяспечыць гэтыя машыны запчасткамі, прыдаць ім рамонтныя лятучкі. Масква давала, што магла, але гэтага было мала. А. М. Касыгін звязаўся з Яраслаўскім гаркомам партыі і з Горкаўскім. Папрасіў, каб адтуль пакіравалі ў Ленінград грузавыя машыны з рамонтнікамі і шафёрамі. Машыны неабходна было падвезці да Ладажскага возера па чыгунцы. Гэта патрэбна было абгаварыць з тагачасным наркомам шляхоў зносін.

«Падыходзілі грузавыя машыны з Масквы, Яраслаўля, Горкага, трэба было ствараць аўтакалоны, рамонтныя службы, прымаць прадукты, наладжваць эвакуацыю,— расказваў А. С. Б о л д ы р а ў.— На падыходзе было яшчэ 250 грузавікоў, прыбывалі маладыя здаровыя шафёры з Вялікай зямлі, па два на машыну. Аўтобусы пакінулі ў Жыхараве, па ўсходнім беразе возера...»

Шлях да эвакуацыі быў адзін — і для станкоў, і для прыладаў, і для металаў, патрэбных ваеннай прамысловасці, і для людзей: па чыгунцы ад Фінляндскага вакзала, пасля аўтамабілямі цераз Ладагу.

Эвакуіраваныя на ўсход заводы мелі патрэбу ў абсталяванні, дэфіцытных матэрыялах. Замерлая прамысловасць Ленінграда валодала вялізным патэнцыялам. Штодня А. М. Касыгіну дакладвалі пра выяўленыя на спаралізаваных ленінградскіх заводах вальфрам, малібдэн,

Ніколь, хром, унікальныя станкі... Рыхтаваўся рэестр таго, што можна было вывезці без шкоды для ленінградскай прамысловасці.

Людзей вывозіць ці абсталяванне вывозіць? Так пытанне не стаяла, трэба было адначасова вырашаць гэтыя задачы, абедзве разам, і выбару паміж імі не магло быць і перавагі не было, а магчымасці дарогі былі яшчэ такія малыя...

«Мы раз’ехаліся па прадпрыемствах, — згадвае А. С. Болдыраў,— якія былі намечаны да тэрміновай эвакуацыі, і туды, дзе яшчэ ішла вытворчасць абароннай прадукцыі — «абароніш. Частка таварышаў разам з работнікамі гарвыканкома паехалі па аўтобусных парках, аўтабазах, каб выявіць, дзе ёсць машыны, вадзіцелі, вызначыць, як выкарыстаць іх для масавай эвакуацыі насельніцтва.

Разам з А. М. Касыгіным мы паехалі па Кіраўскі завод, пасля на «Электрасілу», потым на Фінляндскі вакзал.

Мы падняліся на гарышча аднаго цэха, дзе быў наладжаны НП. Адсюль у палявы бінокль можна было разглядзець нямецкія ўмацаванні і саміх немцаў. У іх было ціха. Нашы таксама не стралялі. Аднак па тэрыторыі завода неабходна было перасоўвацца асцярожна. Заводскі двор прастрэльваўся снайперамі. Зайшлі ў прафілакторый. Там ляжалі рабочыя, паражоныя дыстрафіяй. Гэта было адзінае месца, дзе было цёпла. Хворым давалі ўзмоцнены паёк. Размова пайшла пра эвакуацыю. Пажылы брыгадзір зборачнага цэха сказаў: «Вывозьце лепш дзяцей, жанчын. Мы тут, як вы бачыце, па фронце. Нам адно патрэбна — каб хутчэй нас на ногі паставілі, каб маглі ваяваць».

З дакладаў тых, хто пабываў па прадпрыемствах, карціна складвалася невясёлая — аўтамабільны транспарт не быў падрыхтаваны да масавай эвакуацыі людзей. На чыгуначным транспарце не былі гатовыя паравозы. Не было вугалю. Не было вады. Машыністы, ды і астатнія работнікі чыгункі з тых, хто застаўся жывы, былі змардаваныя, многія не маглі працаваць».

21 студзеня Аляксей Мікалаевіч Касыгін далажыў Ваеннаму савету фронту свае меркаванні наконт масавай эвакуацыі. Вечарам ён пазваніў у Маскву Сталіну, паведаміў, што Ваенны савет пагадзіўся з прапановаю эвакуіраваць у бліжэйшыя тры месяцы паўмільёна чалавек. Па наступны ж дзень ДзКА прыняў рашэнне аб эвакуацыі 500 тысяч чалавек з Ленінграда.

А. С. Болдыраў успамінае:

«Мы ь, А. Г. Карпавым пачалі рыхтаваць першую калону аўтобусаў. Разам з ёю мы павінны былі паехаць цераз возера. Задумана было правесці першы пробны рэйс з эвакуіраванымі адразу з Ленінграда да Барысавай Грывы. Гэта было б выгадна і людзям — для перасадкі, перагрузкі. Але мы пераканаліся, што масавая адпраўка людзей такім спосабам нерэальная,— надта кепская дарога, аўтобусы зношаныя, людзі ў такім стане, што не вытрымаюць.

Заставалася чыгунка. Ваенны савет дазволіў выдаць узмоцненае харчаванне машыністам, паяздному саставу, стрэлачнікам, рамонтнікам. Трэба было ў звышсціслыя тэрміны адрамантаваць паравозы і вагоны.

Неадкладна пачалі падвозіць паліва да Фінляндскага вакзала — вугаль, дровы для паравоза і печачак, каб ацяпляць вагоны. Трэба было арганізаваць запраўку паравозаў. Водаправод не дзейнічаў. Вырашылі выкарыстаць пажарныя цыстэрны. У іх набіраць ваду з Нявы і падвозіць да паравозаў. Усё гэта здабывалі, арганізоўвалі, наладавалі не тое што тыднямі, а суткамі, лік ішоў па гадзіны. Усе разумелі, што кожны дзень забірае жыцці тысяч ленінградцаў. Літаральна за ноч быў распрацаваны графік падвозу эвакуіраваных на вакзал, парадак пасадкі. Стварылі сістэму харчавання ў дарозе, медыцынскай дапамогі. Дамовіліся з наркомам шляхоў зносін тэрмінова даставіць самалётам у Ленінград чатыры брыгады машыністаў, саставіцеляў паяздоў і рамонтнікаў».

У Маскве дзейнічаў Савет па эвакуацыі. Гэтаму Савету было даручана заняцца размяшчэннем эвакуіраваных у гарадах, у прыватнасці ў Волагдзе.

Лідзія Ахапкіна:

«Неўзабаве як прывезла патэфон, я павесіла каля булачнай аб’яву, што прадаю патэфон на хлеб. На наступны дзень прыйшоў адзін вайсковец і прынёс цэлую буханку хлеба. Я прасіла яшчэ хоць трохі. Ен сказаў: «З задавальненнем, але, на жаль, у мяне няма». Я аддала яму яшчэ некалькі пласцінак, якія ў мяне былі. У хуткім часе я павесіла аб’яву, што прадаю ручную швейную машынку. Я яе прывезла яшчэ тады, калі пас перавозілі ў верасні месяцы. Хутка прыйшла жанчына і прапанавала мне не цэлую буханку, а крыху больш за палову. Мне вельмі шкада было машынку, але што ж рабіць, я аддала. Гэтая жанчына выглядала не надта змардаванай. Я спытала, дзе яна працуе. Яна адказала: «А вам што да гэтага?» Вось

так дорага дапіўся хлеб. А на адзенне хлеба не мянялі. Яно нікому не патрэбна было. Больш мяняць мне не было чаго.

У канцы снежня 41 года я сустрэлася з адной маладой жанчынаю, калі мы стаялі ў чарзе па хлеб, яна выклікала мяне з чаргі і папрасіла, каб я ёй выкупіла хлеб, таму што яна стаяла далёка, а я бліжэй. У яе таксама былі тры карткі — дзве дзіцячыя і ўтрымальніцкая, як у мяне. Зрабіць гэта трэба было адной вагою, бо дзве вагі ў адны рукі не давалі. Я пагадзілася, выкупіла, хлеб падзялілі напалам. Пасля мы разгаварыліся. Яна таксама жыла па 14-й лініі Васільеўскага вострава, муж у яе таксама быў на фронце. Яна сказала, што ў яе ёсць яшчэ дровы (а ў мяне ўжо не было), і прапанавала пераехаць да яе. Я згадзілася і ў гэты ж дзень перацягнула дзяцей і неабходныя рэчы. Яна была вельмі нецярплівая і калі атрымлівала хлеб, адразу яго з'ядала. А я дзяліла на тры часткі, каб есці яго раніцаю, днём і вечарам. У сталоўку на абед мы хадзілі разам, а па хлеб па чарзе. Дзень яна, дзень я. Адзін раз пад вечар спахапілася, гляджу, майго хлеба няма. Хлеб я свой клала ў маленькі партфельчык і высока вешала яго над канапаю, на якой мы ўсе трое спалі. Толік дастаць не мог. А вешала я яго туды таму, што пацукі ўсюды маглі яго дастаць і з'есці. Я спытала: навошта ты ўзяла мой хлеб? Яна адмовілася.

У хуткім часе адно яе дзіця — дзяўчынка — памерла*. У канцы студзеня месяца, 27-га чысла, дагэтуль памятаю гэтае чысло, Жэня, гэтак звалі яе, пайшла па хлеб, а я засталася з дзецьмі і на жалезнай печачцы, якую мы купілі ў абмен па хлеб, грэла ваду. Гадзіны праз дзве яна прыходзіць і кажа, што згубіла мае карткі. Я ад хвалявання ўся пабялела і кажу: дык як жа мы цяпер будзем дзяліць хлеб? А яна сказала, што ніяк. Ты мне прабач, кажа, але з-за цябе я паміраць не збіраюся. У мяне, праўда, засталася адна дзіцячая, таму што мы хлеб бралі папярад і я пакінула на 31 студзеня хоць адну картку. Я кажу: «Дай мне хоць адну. Гэта ж несумленна, што ты будзеш

* У вусным расказе Лідзія Георгіеўна ўдакладніла: суседка ёй параіла, атрымаеш, маўляў, тры карткі і выбірай, каго ратаваць, каго хаваць — хлопчыка ці дачушку, інакш усе загінеце. Сама яна так і зрабіла. Выбрала і пачала ратаваць старэйшага — хлопчыка. Дзяўчынка плакала некалькі дзён, Лідзія Георгіеўна не магла чуць гэта, падкормлівала, але што яна магла са сваімі грамікамі.

жыць на тры ўдваіх, а я на адной утраіх». Яна адмовілася. Тады я сказала, што найду ад яе. Яна: «Ну і ідзі!» І вось я зноў перацягнула дзяцей і свае рэчы ў свой халодны пакойчык, вузкі, як дамавіна. У кватэры нікога не было. Роза, пасля майго пераезду да гэтай жанчыны, таксама з'ехала некуды. У пакоі ў нас быў нязносны холад. На сценах іней, па падаконніку снег. Божа, думала я, як жыць у такой халадэчы, ды яшчэ пяць дзён амаль без хлеба. Я зайшла ў пакой да былой прафесаркі, узяла ў яе два крэслы, паламала іх і запаліла ў печы. Пасля пабегла ў падвал і назграбала крыху вугалю. Збегала ў сталоўку па абед. Ноччу я не магла заснуць. Мяне праследавалі цяжкія думкі пра смерць. Я ледзь не звар'яцела ад думак і гора. Пяць дзён без хлеба. Яго ж і так не хапае. Я ўстала і кінулася на калені і пачала маліцца, маліцца са слязьмі. Іконы не было, ды я і не ведала ніводнае малітвы. Дзеці мае былі няхрышчаныя, ды і сама я не верыла ў бога. Праўда, у час трывогі я калі-нікалі ў думках шаптала: «Божа, выратуй, не дай загінуць». Але ў гэты раз я да бога звярталася з іншай просьбаю і з іншымі словамі. Я горача шаптала: «Божа, ты бачыш, як я пакутую, якая галодная і якія галодныя мае дзеці. Няма больш моцы. Божа, я прашу, пашлі нам смерць, толькі каб мы памерлі, адразу ўсе. Я не магу больш жыць. Ты бачыш, як я пакутую. Божа, пашкадуй ні ў чым не вінаватых дзяцей» — і да таго падобныя словы.

...На наступны дзень ва ўваходныя дзверы нехта настукаў. Я па хлеб не пайшла і якраз была дома. Я пабегла і запытала хто. Мужчынскі голас спытаў, ці тут жыве Лідзія Георгіеўна Ахапкіна. Я ўпусціла яго. Гэта быў пасланец з фронту, ад мужа. Ён перадаў мне невялікую пасылачку і ліст. Вася пісаў: «Мілая Ліда...»; прачытаўшы толькі гэта, я заплакала і сказала: бачыў бы, якая стала яго Ліда. Далей ён пісаў, што пасылае адзін кілаграм манных крупаў, адзін кілаграм рысу і пачак пячэння. Я чамусьці чытала ўголас. Толік пасля слова «рысу» жаласліва запішчаў: «Мама, звары кашку, толькі густую». Гэта літаральна яго словы. Вайсковец, ён быў лейтэнант, раптам пачаў гучна смаркацца і выціраць слёзы, што паказаліся ў яго, гледзячы на ўсіх нас. Ён сказаў: «Гэта жахліва, калі так галадаюць дзеці. Мы вас вывезем, пацярпіце яшчэ крыху. Я раскажу вашаму мужу пра вас. А яны, фашысты, за ўсё заплацяць. За ўсе вашы слёзы, за тое, што вы так галадаеце, за ўсё».

Я толькі адзін раз зварыла кашу гусцейшую, як прасіў Толік, а пасля зноў пачала эканоміць. Але як ні цягнула, усё хутка з'елі. Ды яшчэ ж і не было дроў, і мы проста замярзалі. Дома я была ў паліто і валёнках. Дзеці таксама апранутыя ў зімовыя палітончыкі і захутаныя ў ватовыя коўдры.

Неяк прыйшла Роза і сказала, што ў райвыканкоме даюць ордэры на дровы. І ў першую чаргу тым, у каго ёсць дзеці. Я адразу пайшла, і мне далі ордэр на адзін кубаметр дроў. На другі дзень папрасілі ў дворніка санкі, і мы з Розай паехалі. Дровы недзе былі за Смаленскімі могілкамі.

Мы з вялікай цяжкасцю, на палену, уцягнулі дровы па кухню. Яны былі метровай даўжыні. Адразу распалілі печ. Яна палілася з калідора, якраз, выходзіла ў наш пакой і ў Розін. Яна дала мне яшчэ на распал некалькі кніг з прафесарскай бібліятэкі. Першы раз у нас было так цёпла. Я вельмі стамілася і хацела спаць. Комін засланіла крыху раней, адкрыла ў пакоі душнік. Мы ўсе страшэнна ўчадзелі. Я прачнулася таму, што дачка заплакала. Галава трашчала. Я ўстала, пахістваючыся, і ўпала. Але, падаючы, я неяк адчыніла дзверы. З калідора пайшло халаднаватае паветра. Я ляжала непрытомная, колькі хвілін — не памятаю. Пасля быццам бы мяне нехта штурхнуў. Дзеці, як яны? Я, хістаючыся, схапіла дачку, яна маўчала і ледзьве дыхала. Занесла яе на кухню, пасля ўзяла Толіка, з апошніх сіл перацягнула яго і сама села каля іх. Мы ўсе ледзь не памерлі ад чаду. Толік доўга ляжаў без памяці. Мы зноў пачалі галадаць, мінаў улад люты 1942 года. Пасылачку мы ўжо даўно з'елі. Мне Толік прапаноўваў не раз: «Мама,— казаў ён,— давай зробім з н о ў ч а д і памрэм. Спачатку будзе балюча галоўцы, а пасля і заснём». Чуць гэта ад дзіцяці нясцерпна. Ужо каторы раз ён мне прапаноўвае, каб яго альбо забілі, альбо замарылі чадам».

Лідзія Ахапкіна працягвала змагацца за жыццё сваіх дзяцей. Яна нават і думкі такой не дапускала, што мае права выбіраць, каго з дзяцей выратаваць, кім ахвяраваць, такое пытанне яна адрынула, хоць і разумела, што магла загінуць сама і тады загінуць абое яе дзіцяці, што двух ёй не выцягнуць, не адстаяць. Усё разумела і пра-

цягвала змагацца. Мацярынскае пачуццё было мацнейшае за логіку.

Я. С. Ляпін, доктар фізіка-матэматычных навук, расказваў нам пра людзей, што гублялі карткі і гінулі на вачах ва ўсіх. І лагічна паводзіны асяроддзя былі вытлумачальныя, апраўданыя, таму што кожны сам знаходзіўся на мяжы смерці. Але вось аналагічная ж гісторыя са згубленымі карткамі адбылася ў Радыёкамітэце, пра што расказаў Георгій Панцеляймонавіч Макагоненка. Вольга Бергольц глядзела дзень, другі на міжвольнага забойцу сям'і — работніка радыё, які згубіў карткі,— не вытрымала і аддала яму сваю, хоць сама ўжо хварэла на дыстрафію. Карацей, чалавек узяў і аддаў другому, малазнаёмаму і нават малацікаваму яму чалавеку сваё жыццё. Вольга Фёдараўна, ведаючы жорсткую рэальнасць, ніяк не разлічвала на тое, што адбылося пасля: другія работнікі пачалі памагаць ёй пратрымацца да канца месяца. І памаглі...

І гэта таксама праўда блакады. Праўда, якая не закрэслівае нічога іншага, але ўсяму надае іншае гучанне — узвышана-трагічнае. Чалавек шмат на што здольны, вельмі на многае, але як горка, што жыццё зноў і зноў патрабуе ад яго неймаверных ахвяр.

## НА ШТО АБАПІРАЛАСЯ ДУША

Вольга Фёдараўна Бергольц ніяк не матывіравала свой учынак. Высакародству не патрэбна абгрунтаванне. Абгрунтаванні патрэбны подласці, нізкасці, нават слабасць часта драпіруецца пад неабходнасць, а ўжо ўсякая карыслівасць, эгаізм і тым больш ганьба — усе яны пераканаўча красамоўныя, у іх мноства прычын, яны прыцягваюць у апраўданне і псіхалогію, і эканоміку, і гісторыю.

Дзіўна, як блакада зрывала ўсе драпіроўкі, раздзявала чалавека, бязлітасна высвечвала ў кожным усё, што ў ім закладзена.

Варта прадоўжыць расказ Г. П. Макагоненкі, актыўнага тады работніка Ленінградскага радыёкамітэта. Расказ

гэты цікавы і значны і па тых падзеях, пра якія ў ім гаворыцца, і па адносінах аўтара да таго, што адбываецца.

«— Радыёкамітэт эпохі блакады — гэта сотні людзей, што сваёй працай забяспечвалі духоўную страву горада. Гэта ўстанова, якая няспынна працавала, яна не ведала перапынкаў... Там былі розныя людзі. Сярод іх быў адзін вельмі добры чалавек, мой стары сябар, мы разам з ім вучыліся, чалавек светлага розуму, сумленнейшы, адукаваны, абаяльны. У ім было спалучэнне універсітэцкай адукацыі з добрай рабочай загартоўкаю. Гэта душа-хлопец, гэта рабочы хлопец, і гэта вельмі топкі філосаф, гэта вытанчаны розум, гэта абаяльны чалавек. Ён зрабіў вельмі шмат для ленінградскага радыё. Я не буду гаварыць больш канкрэтна пра яго толькі таму, што, калі пачну называць яго канкрэтныя справы, стане вядомым яго прозвішча, а мне гэтага не хацелася б. Я хачу скарыстаць выпадак з ім толькі як прыклад таго, што рабіла блакада, якія падсоўвала выпрабаванні, праверкі людзям. Яшчэ і яшчэ раз я хачу сказаць, каб зразумелі вы і ўсе, хто будзе думаць аб гэтым, што гэта быў рэдкі, крыштальнай сумленнасці чалавек. Ён, апрача ўсіх астатніх сваіх якасцей, быў закаханы ў Вольгу Фёдараўну Бергольц — без якой-небудзь надзеі. Гэтая любоў выяўлялася ў яго незвычайнай пяшчотнасці ў адносінах да яе, далікатнасці, у ягонай увазе, якая так падкупляла Вольгу Фёдараўну. І вось — фатальнае выпрабаванне!

Чацвёртага снежня сорак першага года я развітаўся са сваімі сябрамі, бо на досвітку пятага ехаў на той бок кальца паводле загаду Палітупраўлення. Я развітаўся з усімі. Але здарылася так, што дакументы, якія абавязвалі мяне ехаць пятага, я атрымаў толькі ў дзесяць гадзін вечара ў Смольным і вярнуўся адтуль толькі ў адзінаццаць. А на ўсякі выпадак з Вольгай Фёдараўнай я развітаўся раней. Яна пайшла ўжо (яна тады яшчэ не жыла ў Доме радыё). У мяне тэрмін камандзіроўкі — два тыдні, але ў мяне карткі, і гэтыя карткі трэба аддаць Вользе Фёдараўне, таму што яна апошняе са свайго пайка насіла мужу ў бальніцу. Але я не ведаў, дзе яна. Начаваць у сябе на вуліцы Рубінштэйна яна не магла — там холадна,— яна хадзіла да розных сяброўак. Таму, дзе яе шукаць, я не ведаў. Да каго звярнуцца? Да старшыні нашага Радыёкамітэта Хадарэнкі Віктара Антонавіча? Але мне здалося, што, можа, гэта будзе не вельмі тактоўна: я, супрацоўнік радыё, еду, карткі не аддаю ў калектыў, а хачу аддаць

«налева» (хоць Вольга Фёдараўна і супрацоўнічала з намі). Я вырашыў, што лепш за ўсё аддаць іх вось гэтаму майму сябру, чалавеку, закаханаму ў яе. Каму ж яшчэ? І я яму аддаў з умоваю, каб ён заўтра ж раніцаю перадаў іх Вользе Фёдараўне (яна павінна была прыйсці здаваць сваё выступленне, яна кожны дзень у нас бывала). На ўсякі выпадак я яшчэ спытаўся ў яго: «Слова гонару, што аддасі?» Ён сказаў: «Ну як табе не сорамна нават пытаць?!»

Вярнуўся я праз два тыдні. Я быў у той гвардзейскай дывізіі, якая вяла баі ў месцы прарыву, баі, на жаль, безвыніковыя. Гэта была дывізія Краснова. Калі я выязджаў з дывізіі — усе ж ведалі, што я вяртаюся ў Ленінград,— мяне забяспечылі двума ранцамі з харчамі: канцэнтратамі, хлебам. Праўда, хлеба было мала, бо гвардзейская дывізія ела не чорны хлеб, а ела калачы — пульхныя, высокія! Я памятаю такія толькі ў маленстве на Волзе. Я сказаў: «Браткі! Я ж не магу толькі а д з і н калач везці!» (Столькі ён займаў месца.) «А хлеба няма. Вось калачы — калі ласка». Давялося мне гэтыя калачы сплюшчваць, каб больш улезла...

Як я вяртаўся — гэта цэлая гісторыя. Надзвычайная сітуацыя сама па сабе. Скажу толькі некалькі слоў. Ехаць возерам я, прызнаюся, не адважыўся, хоць ужо хадзілі машыны. Паколькі я ўжо адзін раз выкупаўся, мне вельмі не хацелася паўтараць гэта. Тады я паехаў у лётнае злучэнне і высветліў, якія машыны і адкуль ляцяць у Ленінград. Мне далі адрас. Я прыехаў туды і сутыкнуўся з дзіўнаю з'яваю! Вось што такое ленінградскае і ўсерасійскае братэрства! Я быў у памяшканні, якое прызначылі эвакуіраваным сем'ям лётчыкаў, якія працуюць на розных участках фронту. Гэтыя лётчыкі слалі такія лісты: «Волхаўскі фронт. Лётнай часці. Браткі! У мяне жонка (у мяне бацька, у мяне сям'я) у Ленінградзе. Вывезіце! Адрас...» І гэтая вайсковая часць пасылала самалёты ў Ленінград шукаць людзей. Часта знаходзілі трупы. Жывых вывозілі. І цэлы дом ім прызначылі, каб перакідваць пасля ў тыл (праўда, невядома куды!). Яны з'яўляліся ў Ленінградзе як добрыя духі, гэтыя анёлы! Дабіраліся да сям'і ваеннаслужачага, якая нават не ведала, дзе знаходзіцца муж ці бацька, стукалі ў дзверы і казалі: «Я па вас»,— і везлі на машыне, пасля адпраўлялі самалётам! Гэта наогул дзіўная старонка ў жыцці горада. Я суткі быў сярод гэтых вывезеных з Ленінграда жанчын, дзяцей, ста-

рых. Яны пыталіся ў мяне, асабліва жанчыны: «А ты гэта куды?» Я кажу: «У Ленінград». І было штосьці такое ўразлівае, як яны ўгаворвалі мяне: «Куды ты, ты ж малады, навошта ты на смерць туды? Не ляці ты туды!» І гэта з плачам, са слязьмі, хоць упершыню бачылі мяне. І калі я казаў, што я там быў, я ж адтуль, я вяртаюся, яны казалі: «Не, ты няпраўду кажаш! Калі б ты бачыў, што там, ты б нікуды не паехаў!» Але гэта дэталь.

І я вось вярнуўся. І калі я перш за ўсё прынёс яду Пользе Фёдараўне, то адразу ўбачыў штосьці новае ў ёй — не худзізну (яна не была худая, яна пачала пухнуць), але нейкую нязвычную, не ўласцівую ёй прагу да яды. Я кажу: «Оля, што з, табою? Табе ж лягчэй было!» Яна сказала: «Ты жорсткі чалавек! Ты ж ведаў, як мне цяжка. Ты наехаў і не аддаў мне картку».— «Як не аддаў? Я аддаў яму!» — «Не можа быць! Ён бы мне перадаў».— «Але я ж з сабою не навёз карткі! Ну вось заўтра,— кажу я (я прыехаў позна вечарам),— мы пойдзем да яго і...» — «Не, не! — сказала яна.— Ты дрэнна зрабіў, і не трэба гаварыць гадасці пра такога чалавека!» Я сказаў: «Мы не будзем спрачацца. Заўтра нагаворым».

І вось наступіў гэты страшны судны дзень нашай размовы. Ён не адмаўляўся. І ў тым, што ён не адмаўляўся, і ў тым, як ён матываваў,— вось у чым было самае страшнае!.. Маленькае адступленне. Ён сапраўды быў апантаным чалавекам у добрым сэнсе гэтага слова. Але ў ім ужо было тады тое, што я называў рабесп’ерызмам. Я яму казаў: «Дарагі мой, гэта цябе да дабра не прывядзе!» А ідэя ў яго была такая. Вакол шмат кепскага. І ўся справа ў тым, што так складваюцца абставіны, што няма магчымасці выявіць сапраўдных людзей і выпадковыя трапляюць на патрэбныя і важныя месцы. Вайна, блакада — квінтэсенцыя ўсіх цяжкасцей, найцяжэйшае выпрабаванне. Усім будзе зразумела: той, хто пройдзе гэта выпрабаванне, павінен кіраваць! І вось была яго ідэя: «Я карыстаюся найглыбейшай павагаю інтэлігенцыі. Я праходжу праз гэта выпрабаванне, і — натуральна, іншага выйсця няма — мяне робяць кіраўніком ідэй!» Вось чаму ён сказаў: «Прабач, родная Оля, але тое, што я павінен зрабіць, важней. І таму я не аддаў картку. Я ўзважваў, узважваў — не, не асабістае, грамадскае: я больш патрэбны!»

— А талент Вольгі Бергольц?

— Тады Вольга Фёдараўна яшчэ не была тым паэтам, якім яна стала пасля. У гэты час, у снежні, яна была ад-

ным з радавых дзеячаў, якія вельмі добра выконвалі даручэнне Радыёкамітэта.

— А ён быў літаратар ці толькі адміністратар?

— Увогуле ён мог пісаць. Але ён усяго сябе аддаваў іншай мэце, пра якую я казаў. Вольга Фёдараўна яму сказала: «Я цябе разумею, але ты глыбока памыляешся. Ты ашукваешся, і мне цябе шкада». Вось такі быў эпізод, такі характар. А вось другі выпадак і другі чалавек,— працягваў Георгій Панцеляймонавіч Макагоненка.— Той самы Радыёкамітэт. Старшыня Радыёкамітэта — Віктар Антонавіч Хадарэнка. Гэты чалавек здаўся мне спачатку незвычайнага, нечаканага складу. Была ў ім нейкая салдацкая, афіцэрская схільнасць (хоць ён ніколі не служыў у войску): гэткая ў ім была сабранасць, рашучасць, надзвычайная аператыўнасць, імгненнасць рэакцыі. Але больш за ўсё ён мяне пакарыў сваёй шчырасцю, разуменнем людзей, даверам. Ён шмат чаго добрага, значнага зрабіў Радыёкамітэту, а значыць, і радыёвяшчанню, а значыць, і дзеля таго, каб ленінградцы слухалі і сапраўды адчувалі гэты пульс радыёвяшчання. Але я хачу сказаць не столькі пра яго, колькі пра момант выпрабавання яго характару. Недзе ў лістападзе — не адразу, а толькі ў лістападзе — ён быў уключаны ў лік работнікаў, напэўна, сярэдняга звяна, якія харчаваліся ў Смольным, у сталоўцы нумар дванаццаць. Харчаванне было там трохразовае. Ну, хадзіць тры разы ён не мог — і работа не дазваляла, ды і сіл не было, а ездзіць не было на чым. Ён хадзіў туды адзін раз, сам шалёна схуднелы к таму часу, таму што быў на агульным пайку. Напэўна, дзён тры ён усё з'ядаў, што там давалі. І пасля — выпрабаванне! Я памятаю, як ён прыйшоў у дзесяць гадзін, выклікаў мяне і гэтага майго таварыша і сказаў: «Становішча такое: я хаджу туды, мяне кормяць, вось якое меню. Я не магу ўсё гэта есці сам, не лічу магчымым, тым больш што я магу там есці хлеб. Мне забаранілі (гэта папярэджанне ўсім!) выносіць хлеб, але гэтыя рэчы можна». Дастае з партфеля загорнутыя два кавалкі цукру, дзве катлеты, гарнір, піражок. «Вось у мяне ёсць прапанова: ад сябе асабіста даваць — не возьмуць. Вы кіруеце аддзелам. Давайце складзём спіс, я кожны дзень буду нешта прыносіць, і мы будзем выдаваць аднаму цукар, другому тое, трэцяму другое».

— А сям'я ў яго была?

— Нехта быў, але гэта не перашкаджала яму... Думаю, што і чыста практычна, матэрыяльна, калі ўявіць сабе

наш паёк (да вясны большасць работнікаў не мела нават рабочае карткі, а толькі спуджаную, а гэта сто пяцьдзесят, а потым і сто дваццаць пяць грамаў хлеба), атрымаць у тыдзень кавалак цукру, альбо катлету, альбо нават дзве лыжкі добрае кашы — гэта такая падмога арганізму, што пі з чым параўнаць нельга. Але якое вялізнае маральнае значэнне мела гэта, цяжка нават перадаць!»

Рускія паняцці «інтэлігент», «інтэлігентнасць» вызначыць цяжка, тлумачэнні гэтых слоў заўсёды здаюцца недакладнымі, няпоўнымі. Таксама як і паняцце «прыстойнасць»; яно быццам бы і зменлівае, і ў той жа час гістарычна бясспрэчнае, яно лёгка пазнаецца, нават заўсёды, калі сказаць: ён прыстойны чалавек,— дык усе даволі дакладна разумеюць, што за гэтым стаіць. Інтэлігентнасць таксама беспамылкова адрозніваецца. У блакаду яна праяўлялася па-рознаму, але ў дзённіках і ўспамінах яе можна было пазнаць па асаблівым святле думкі, духоўнай працы, па сумленнасці, на тым, нарэшце, як асоба з дапамогаю ўсяго гэтага адстойвае сябе ў барацьбе з голадам, роспаччу.

А л я к с а н д р Р ы г о р а в і ч Д ы м а ў, рэжысёр тэатральнай студыі пры Палацы культуры, у самы безнадзейны час прымушаў сябе думаць, прыглядацца, асэнсоўваць.

*«12 студзеня, 12 гадзін апоўдні.* Мароз узмацнеў, у пакоі сцюжа. Міла пайшла ў магазін, спадзяецца атрымаць што-небудзь па картках, даўно нічога не атрымлівалі. Балюча глядзець на яе, так яна схуднела, бедная.

Адчуваю сябе дрэнна. Рэчыва з падазронай сумесі, якую спажываю я пад псеўданімам «хлеб», страўнік мой катэгарычна адмаўляецца пераварваць.

Людзі часам усміхаюцца. І тады іхнія твары робяцца незвычайнымі: усмешкі іх набылі новы і дзіўны ракурс, туга абцягваючы скураю косці твару. Дарэчы, пра ўсмешку. Цудоўная рэч — гумар. Яго засталося мала. Як і смех, ён адпускаецца скупа, як іншыя прадукты,— па картках. Але ён існуе яшчэ. Учора ў сталоўцы пажылая жанчына сказала афіцыянтцы, падаючы крупяны талон: «Вось вам крупозны талон». І многа людзей, што сядзелі непадалёку ад яе, бязгучна заўсміхаліся. Некалькі месяцаў назад у іх атрымаўся б смех, верагодна, гучны, у рознай танальнасці.

Цяпер смех іх бязгучны і такі ж скупы, як і ежа, што спажываюць гэтыя людзі: у мікраскапічнай дозе.

Ва ўсіх мара: эвакуіравацца. Выехаць з Ленінграда. Абы-куды, толькі б атрымаць кавалак сапраўднага хлеба. Эвакуацыя даўно спынена: няма дарагі, па якой можна б вывозіць людзей,— але людзі соладка мараць аб гэтым, седзячы ў цемрадзі сваіх марозных пакояў, крочачы няўпэўненай паходкаю па мёртвых, заснежаных вуліцах горада, стоячы ў чэргах каля пустых паліц магазінаў, на працы, у сталоўках.

Дзіўная рэч — адчуванне голаду. Да яго можна прызвычаіцца, як прызвычайваюцца да хранічнага галаўнога болю. З тупою пакорлівасцю я чакаю па двое сутак кавалачка клейкага хлеба, не адчуваючы пякучага голаду. Гэта значыць, што хвароба (праўдзівей, голад) перайшла з вострай у хранічную форму.

...Цёмна. Не вытрываў — дастаў запаветны агарак свечкі, схаваны на крайні выпадак. Цемра прыгнечвае страшэнна. Міла дрэмле на канапе. Яна ўсміхаецца ў сне, мабыць, ёй сніцца бутэрброд з палтаўскай каўбасою ці яечны крупнік. Яна кожнае ночы бачыць смачныя сны, таму абуджэнне ёй асабліва пакутлівае.

...Ва ўсёй кватэры страшэнны мароз, усё замерзла, выходзіць у калідор, значыць, надзяваць паліто, галёшы, шапку. Пустэча. Водаправод памёр, ваду трэба насіць за тры вярсты. Каналізацыя — у далёкім мінулым: увесь двор запоўнены нечыстотамі. Гэта нейкі іншы горад — не Ленінград, заўсёды горды сваім еўрапейскім, франтаватым выглядам. Ён прыгадвае цяпер чалавека, якога вы ўсё жыццё прывыклі бачыць у шыкоўным каверкотавым паліто, у свежых пальчатках, у чыстым каўнерыку, у дыхтоўных амерыканскіх чаравіках. І раптам вы сустракаеце гэтага чалавека ў зусім іншым выглядзе: падранага і бруднага, няголенага, з непрыемным пахам з рота, у апорках замест чаравікаў, з бруднаю шыяй.

...Ва ўчарашнім нумары «Ленинградской правды» надрукаваны артыкул старшыні Ленсавета т. Панкова «Аб харчовым становішчы Ленінграда». Пасля заклiку грамадзян да мужнасці і цярплівасці т. Панкоў кажа пра факты крадзяжу і злоўжыванняў у сістэме харчовага забеспячэння Ленінграда.

...Агарак амаль дагарэў. Зараз акунуся ў цемру — да раніцы...

*17 студзеня.* Старасць. Старасць — гэта стомленасць

зношаных дэталяў чалавечай машыны, вычарпанне ўнутраных рэсурсаў. Не грэе кроў, не ходзяць ногі, не гнецца спіна, слабее мозг, цьмянее памяць. Рытм старасці — пано..... ы, як рытм гарэння дроў, што амаль дагарэлі ў печы: усё цішэй, усё блядней полымя, вось рассыпалася на залатыя кавалкі адно палена, другое — і вось ужо апошнія сінія агеньчыкі: хутка засланяць комін.

Цяпер усе мы старыя. Незалежна ад узросту. Нашы целы і пачуцці жывуць рытмам старасці... Я бачыў учора па рынку дзяўчынку гадоў дзевяці ў вялізных дзіравых валёнках. Яна мяняла кавалак падазронай квашаніны,— верагодна, з сабакі,— на сто грамаў хлеба. У яе былі смяртэльна стомленыя вочы, паўпрыкрытыя цяжкімі павекамі, сагнутая спіна, павольная, шоргаючая паходка, маршчыністы са спушчанымі куточкамі рота твар. Твар стомленай пажылай жанчыны. Хіба можна гэта забыць калі-небудзь? Хіба можна гэта дараваць?..

...Тое, што я запісваю,— жвачка. Цяжкая і аднастайная. Але мне гэтыя запісы — аддушына, вентылятар для растучай у душы роспачы, для пакутлівых дзён голаду. Хацеў запісваць толькі простыя, суровыя факты, але не выйшла. Гэта ад мяне не залежыць. Чым запоўніць час, адцягнуць сябе ад жахлівай штодзённасці?..

*23 студзеня, 11 гадзін раніцы.* Павольна, цяжка, нібыта змардаваныя людзі ўгору, паўзуць дні. Аднастайныя, замкнёныя ў сабе, хворыя для прыцiхшага горада. Сэрца Ленінграда, якое загадвала яго кровазваротам, давала яму жыццё — электрастанцыі, перастала працаваць, спынілася. І ўсе члены вялізнага горада пахаладзелі, амярцвелі, сталі нерухомымі. Не гарыць святло, не ходзяць трамваі і тралейбусы, не працуюць фабрыкі, кіно, тэатры. У пустых крамах, аптэках, сталоўках, дзе з восені забіты дошкамі вокны (ад асколкаў снарадаў), апраметная цемра. Толькі кволенькім, сухотным агеньчыкам мігціць на прылаўку газоўка... Над вуліцамі застылі трамвайныя і тралейбусныя кабелі, радыёправады, густа зарослыя снегам. Яны вісяць пад галавою суцэльнай белай сеткаю і не асыпаюцца, таму што іх нішто не прымушае асыпацца...

Спынілася сэрца вялікага горада. Але мы ведаем — гэта не смерць, а летаргічны сон. Прыйдзе час — і пагружаны ў летаргію велікан спачатку злёгку ўздыхне, потым ачнецца...»

Кідаецца ў вочы літаратурная адшліфаванасць запісаў Дымава. Быццам бы ў далейшым ён старанна апрацоўваў

іх. Месцамі дзённік падобны на апавяданне, напісанае шмат гадоў пасля. Мы праверылі гэта ва ўдавы нябожчыка — Людмілы Уладзіміраўны Шангелідзе. Высветлілася, што дзённік аўтэнтычны, без паправак і пераробак. Менавіта так пісаў Аляксандр Дымаў пры святле газоўкі зімою 1942 года, пакуль яго не адвезлі ў бальніцу. Мы, верагодна, сутыкнуліся з тым рэдкім у блакадных умовах выпадкам, калі аўтар свядома імкнуўся да мастацкасці, ён падбіраў фарбы, параўнанні, адточваў фразы. Гэтым ён займаў сябе, захоўваў сваю духоўнасць, жывіў яе. Праца духу ў кожнага праяўлялася па-свойму: у дзённіках Князева — праз гісторыю, філасофію, у Рабінкіна — праз самааналіз, у Дымава праз літаратурную творчасць.

*«24 студзеня, 12 гадз. дня.* Сёння дзень радасці. Радыёзводка паведамляла вясёлым голасам дыктара, што нашы войскі адбілі Ржэў, Холм, Старую Русу. Можа, гэта паведамленне падтрымае зламаны дух Мілы. Яна губляе здольнасць змагацца — гэта вельмі блага. Мне цяжка глядзець па яе — маўклівую, празрыста-бледную, глядзець у яе смяртэльна стомленыя вочы...

*25 студзеня, 11 гадз. раніцы.* Першабытнае жыццё. Без вады, без святла, без цяпла. Блакада, нібы фантастычная Машына Часу, адкінула пас далёка назад: да пачатку 18 стагоддзя — у сэнсе ўзроўню культуры. Але ж у пачатку 18 стагоддзя было непараўнальна лепш. Жыхары Санкт-Пецярбурга не ведалі цэнтральнага паравога ацяплення, але ў іх было шмат дроў — і яны горача награвалі свае патрыярхальныя кафельныя печы. Жыхары Санкт-Пецярбурга не ведалі, што такое электрычнае асвятленне. Але — у іх ярка гарэлі ў святліцах алейныя каганцы і было ўдосталь лоевых свечак. У нас — няма ні электрычнасці, ні алею, ні свечак. Пятроўскі «Питэрбурх» не меў водаправода, але ў кожным квартале былі калодзежы, былі зроблены вадаёмы і палонкі на Няве, Фантанцы, Мойцы. Вады хапала ўсім. Мы ж нават забыліся, што такое водаправод, але ў нас няма і калодзежаў, няма вадаёмаў, няма каромыслаў. Сотні людзей сумна стаяць у доўгай чарзе да вады са збанамі, чайнікамі каля якога-небудзь крана ва ўцалелай пральні за тры кварталы ад дому. Стаяць цэлымі гадзінамі.

Жыхары Пецярбурга 200 гадоў назад паняцця не мелі пра трамвай і тралейбус. Але ў іх былі коні, сапі, вазы, кунічныя і лісіныя футры. Горад быў малы — і прайсці

яго ўздоўж і ўпоперак цёпла адзетаму чалавеку было няцяжка.

Мы забылі, што такое трамвай і тралейбус, а пра рамізнікаў забылі 15 гадоў таму назад. Але ў пас няма ні коней, ні саней, ні вазоў. Мы кепска апранутыя. Мы галодныя, але вымушаны хадзіць пешшу вялізныя адлегласці: горад за 200 гадоў вырас непазнавальна і сярэдні яго дыяметр — 30 кіламетраў.

*25 студзеня, 8 гада. вечара,.* Чорт яго ведае, да якой ступені павысілася значэнне ў гэтыя дні такога дагэтуль сціплага, малапаважанага органа, як звычайны чалавечы страўнік. У выніку безрабоціцы і частых прастоеў па прычыне адсутнасці сыравіны гэты стрававальны орган узяў па сябе не ўласцівыя яму функцыі: усе думкі і пачуцці выходзяць пад яго рэдакцыяй. Ва ўсякім разе, якасць пачуццяў і думак цяпер у мяне яўна страўнікавага паходжання. І не толькі ў мяне. Сапраўды, грубае ўмяшанне страўніка ў маю інтэлектуальна-пачуццёвую сферу я адчуваю пастаянна. Я не жадаю яго апекі. Апрача ж стрававання, існуюць сусветная літаратура, філасофія, мастацтва, тэхнічнае вынаходніцтва. Бярэш кнігу. Перагортваеш: старонку. Раман. «Брантон абыякавым жэстам запрасіў іх да стала. На белай пляме абруса...» Не, далей чытаць мне забаронена. Супрацьпаказана. Гэта выпадак прамога ўздзеяння ідэалагічнай надбудовы (літаратура) на базіс (страўнік). Бярэш другую кнігу. «Твае паводзіны, мая мілая, даюць страву для розных плётак...» Далей чытаць нельга. «Страву»! Шаноўны рэдактар маіх пачуццяў (мой страўнік) неадкладна накіраваў іх па шляху ядомых асацыяцый, хоць у кнізе слова «страва» ўжыта як яўная метафара. «Мяне пажырае нуда» — напісана на 35-й старонцы. Гэта таксама метафара. Але майму неразумнаму рэдактару няма ніякае справы да гэтага. Яму важна выклікаць у маім уяўленні пажыранне тлустых кавалкаў смажанага мяса. Можа, нават з даўно забытаю румянай бульбаю. Гэта выпадкі асацыятыўнага ўздзеяння надбудовы па базіс.

«Шаноўны грамадзянін рэдактар! Таварыш Страўнік! Я слабы, нядужы. Я з вялікай цяжкасцю перасоўваю ногі, і твар мой даўно развучыўся ўсміхацца. Я галодны даўно застарэлым, хранічным, як рэўматызм, голадам. Але я змагаюся, каб не ўпасці, таму што таго, хто ўпаў, вельмі хутка затопча смерць. Я трымаюся пакуль і нават пішу нататкі — «Нататкі з мёртвага горада». Усё гэта так. Але я пе

развучыўся яшчэ думаць, чытаць кнігі, я хачу пафіласофстваваць. Вы перашкаджаеце мне, грамадзянін рэдактар, займацца ўсім гэтым. Я штомінутна адчуваю вашу ўладу, ваш прыгнёт, ваша ўмяшанне ў мае ўнутраныя справы. Давайце будзем сябрамі, не трэба мяне мучыць. Вы хочаце, каб я глядзеў на ўсё навакольнае вашымі вачамі. Вы гэтага дамагаецеся. І ў большасці выпадкаў вам гэта ўдаецца. Але гэта ненармальна, я пратэстую, я патрабую, каб вы зноў працавалі па сваёй асноўнай прафесіі, вызваліўшы ад сваёй апекі і прамога ўплыву недаступныя вам сферы. Я хачу чытаць кнігі і ўспрымаць іх змест таксама, як раней, а не ў вашай інтэрпрэтацыі і не з вашым вузкатэндэнцыйным пунктам погляду. Я хачу думаць не толькі пра жратву, а пра шмат што іншае, вельмі далёкае ад яе. Я хачу марыць пра будучыню. Цудоўную будучыню. Але цудоўную не таму, што яна даверху перапоўнена бульбаю, хлебам і алеем. Вы разумееце — я хачу быць чалавекам. Не перашкаджайце мне ў гэтым. Паверце, і вам будзе лепш. Інакш і вам, і мне будзе сорамна за гэтыя дні.

Адмоўцеся ад сваёй ролі дыктара. Рабіце добрасумленна сваю сціплую справу, адпачывайце — у вас жа цяпер так мала працы. Будзьце ж здаровы. Прыміце маю шчырую павагу. Ваш пакорны слуга А. Дымаў».

Многа балбачу. Гэта кепска. Але так хочацца запоўніць чым-небудзь страшэнную пустату бясконцых вечароў.

Зараз таксама вечар. Такі самы, як і дзесяткі іншых,— ледзяны, маўклівы, павольны. За акном цемра і сцюжа. Грукочуць дальнабойныя гарматы — вораг не забыў пра нас. Блакада. Перада мною — малюсенькая газовачка, яна дае мне часам магчымасць пісаць, часам не хоча гарэць і, міргнуўшы хітрым жоўценькім вочкам кнота, гасне. Тады я пагружаюся ў цемру».

Трэба было валодаць глыбокім пачуццём гумару, самаіроніі, каб у такім крытычным стане сачыніць гэты зварот да свайго страўніка. Пачуццё гумару ў тую пару захоўвалася рэдка, праўдзівей, бадай, трэба лічыць, што ў Дымава быў безумоўна талент гумарыста. Як у кожнай трагедыі, у блакадным Ленінградзе час ад часу ўзнікалі сітуацыі смешныя, іх проста не заўважалі, не адзначалі і толькі потым часам, заднім днём, разумелі. Так, адзін маёр ППА, дэмабілізаваны з-за ранення, расказваў пра сваю жаніцьбу:

«Узяў я яе з сакавіцкага блакаднага Ленінграда. Выгляд у яе быў старэнькай: сухенькая, скурчаная. Ледзьве ха-

даіла. Косці, абцягнутыя скураю. Узяў з сабою па Вялікую зямлю. А там праз паўгода яна падужэла, выпрасталася, пачала месяц за месяцам маладзець. Вочы заблішчэлі, выйшлі з ямін, валасы таксама ажылі, пагусцелі. Скура нацягнулася. Пасля і румянец з’явіўся. Памаладзела. Ператварылася са старэнькай у прыемную жанчыну і чым далей, тым усё больш маладзела, ператварылася ў дзяўчыну такую маладую і прыгожую, што мне зрабілася няёмка па ёй жаніцца».

Рэшткі даўняй збянтэжанасці дзе-нідзе яшчэ праглядвалі ў яго расказе, але ўсё гэта даўно ператварылася ў забаўную гісторыю, анекдот, які ён расказваў з усмешкаю...

## КОЛА ЗВУЖАЕЦЦА

З пачатку снежня Юра Рабінкін перастаў сустракацца з сябрамі, няма ўжо ні сіл, ні магчымасцяў для зносін, у школу ён таксама не ходзіць, ды, напэўна, яе закрылі, застаецца сям’я — мама з Іраю — і суседзі па кватэры. І ён хоць і няспынна слабее, часам упадае ў паўдрымотны стан, усё-такі звяртае сваю дапытлівую ўвагу на гэтых людзей. Свет звузіўся, але ўсё роўна ён бясконца цікавы ў любой сваёй драбніцы, кожны чалавек — сусвет, кожны чалавек — загадка, таямніца, годная, каб пад ёю раздумваць. Усё настойлівей спрабуе ён унікнуць у характар Анфісы Мікалаеўны, зразумець яго. Варта толькі маме захварэць — і ўсе прэтэнзіі да яе адпадаюць, юнацкі эгаізм адкідаецца, каб зноў з’явіцца праз дзень, два. Але ў гэтыя «адлівы» нібыта агаляецца асноўная парода Юры Рабінніка: сумленнасць, патрабавальнасць да сябе і, што найбольш уражвае, адчайная барацьба яго душы за тое, каб захаваць сябе, не паддацца, выстаяць. Дзеля гэтага ён хоча зразумець — хто ён такі, які ён?

*«2 снежня.* Якія катаванні даводзіцца зносіць мне вечарамі ад мамы і Іры!.. За сталом Іра есць наўмысна доўга, каб не толькі атрымаць задавальненне ад ежы, але яшчэ і адчуць, што вось яна есць, а астатнія, хто ўжо з’еў, сядзяць і глядзяць на яе галоднымі вачыма. Мама канчае есці заўсёды першаю і пасля патрошку бярэ ў кожнага з

нас. Пры дзяльбе хлеба Іра кожны раз падымае плач, калі мой кавалачак хоць на паўграма выглядае большым за яе. Іра заўсёды з мамай. Я з мамай бываю толькі вечарам і бачуся ўранні. Магчыма, таму заўсёды праўда на Ірыным баку... Я, мабыць, сапраўды эгаіст, як мне і казала мама. Але я помню, як я сябраваў з Воўкам Шмайлавым, як я тады не разбіраўся, што яго, а што маё, і як тады мама, на гэты раз сама мама, была эгаісткаю. Яна не давала Воўку кніг, якіх у мяне было па дзве, і г. д. Чаму ж яна з таго часу так хацела выправіць мой характар? І цяпер яшчэ не позна яго пераламаць...

Раней я мусіў з'есці за дзень 2 альбо 3 абеды ў сталоўках плюс яшчэ сытную вячэру і сняданак, ды так падзакусіць, каб быць сытым цэлы дзень. А цяпер я здавальняюся 100 г пячэння раніцаю, нічым удзень і талеркаю супу ці якога пойла ўвечар. Апрача таго, вада. Вада пад назваю чай, кава, суп, проста вада. Вось маё меню.

А наконт эвакуацыі зноў усё заглухла. Амаль. Мама ўжо баіцца ехаць. «Прыедзеш,— кажа яна,— у незнаёмы край...» — і г. д. і да т. п.».

Эвакуацыя! Гэтае слова паўтаралі не толькі Рабініны. Тысячы сямей імкнуліся выехаць, стараліся трапіць у першыя эшалоны, каб выратавацца ад голаду. Самі дамагаліся, хадайнічалі. Але былі і такія, якім трэба было сказаць — эвакуіруйцеся! Трэба было выявіць тых, каму гэта патрэбна было тэрмінова, неадкладна. Апрача таго, што рабілася дзеля арганізацыі «Дарогі жыцця», райкомы праводзілі яшчэ малавядомую, але агромністую работу ўнутры горада: камуністы абходзілі дом за домам, кватэру за кватэраю.

«Я была пазаштатным інструктарам Выбаргскага райкома,— расказвае Кацярына Паўлаўна Янішэўская,— і з упаўнаважаным Вараб'ёвым памагала зімою 1942 года эвакуіраваць людзей на Фінскай вуліцы. Прыйшлі ў адзін дом разам з дворнікам. Цёмна. У адным кутку цьмяны агеньчык газоўкі. Ляжыць грамадзянка. Асвяцілі яе спалатнелы твар. Яна маўчала, глядзела вачыма, махнула рукою ў куток. Там ляжала дзяўчынка. Як шкілет, знясіленая. У Вераб'ёва было з сабою крыху спірту. Далі некалькі кропель. Гэтыя кроплі адразу ж сагрэлі. Абедзве ажылі, павесялелі. Вочы заблішчэлі. Іх, вядома, эвакуіраваць нельга было. Накіравалі ў спецбальніцу... Калі ў

красавіку «Дарога жыцця» перастала функцыяніраваць, мяне выклікалі ў райком і прапанавалі паехаць дырэктарам падсобнай гаспадаркі ў Каламягі і правесці там сяўбу».

А ў Юры Рабінкіна справы ўсё пагаршаюцца.

«*3 снежня.* Захварэла мама. Сёння яна не выйшла на працу. Тэмпература, ломіць косці, цяжар у нагах... Можа, вадзянка? І так цяжка, а... Больш нічога не магу пісаць. Такі ўпадніцкі пастрой. Сяджу ў кухні, трашчаць у печы дровы, а побач на куфры ляжыць хворая маці... Божа мой!

Паводле зводкі Ціхвін узяты немцамі. Севастопаль працягвае абараняцца.

Мама хворая, Іра — дзіця, Цінін адрас нам невядомы, я знемагаю, змардаваўся, ледзь трымаюся на нагах. А што ж будзе далей?..

*4 снежня.* Увесь дзень у працы. Устаў рана, абабегаў булачныя, дастаў цукровага пячэння, пасля хадзіў на вул. «Праўды» ў паліклініку, хацеў выклікаць да мамы ўрача — не той участак, да якога мы належым. Давялося з'ездзіць яшчэ па зав. Мацяніна, у другую паліклініку. Пасля зноў чарга, колка дроў, пакуты.

Маму звольнілі з абкома (у сувязі з хуткаю эвакуацыяй.— *А. А., Д. Г.*). Наконт яе эвакуацыі і цёплага адзення (...). Ляжыць хворая. Доктар, які прыходзіў да яе, прызнаў грып, сардэчную слабасць, адтуль пухліна на нагах, боль у баках і г. д. Лячэнне — харчаванне. А чым? Такім чынам, мама злегла, у яе цяжкая хвароба, яна пазбаўлена працы; магчыма, эвакуацыя будзе пешшу, але маме з яе апухлымі нагамі і хваробаю, Іры з яе мізэрнымі сіламі, мне з усімі астатнімі клопатамі пра іх і пра сябе, людзям з 60-кілаграмовым, калі не больш, багажом, не адолець доўгага трохсоткіламетровага снежнага шляху, не прабыць месяца ў дарозе... І вось фініш усяго нашага жыцця: замёрзлыя ў дарозе і пакінутыя хворымі ў якой-небудзь маленькай бальніцы альбо знясіленыя штодзённым голадам, апухлыя, ледзь валочым сваё існаванне, якое стала ўжо жалю вартым...

Вось і ўсё, што сёння я магу сказаць, праўдзівей, змог напісаць. Застаюся абыякавы да вестак з фронту, добрыя яны ці не, раўнадушны да ўсіх падзей у палітыцы. Што робіцца вакол нас тут, у кватэры? Суседзі 6 снежня вылятаюць, 5 і 6 вылятаюць Тураносавы, днямі эвакуіруецца

з сям'ёю Громаў, выязджае ў Ташкент сям'я Кацуры... А мама хворая, ёй патрэбна нармальная ежа, якой няма дзе ўзяць, патрэбны спакой, я змучаны, знясілены, Іра змучаная таксама. Што рабіць?

***5 снежня.*** Мама правільна кажа, трэба заўсёды верыць у лепшае. Цяпер трэба верыць, што мы эвакуіруемся. Так павінна быць. І будзе. Хоць мама ледзь ходзіць — яна паправіцца, хоць Іра скардзіцца на болі ў левым баку — пройдзе і гэта. Хоць я і мама не абутыя, у нас няма валёнак і цёплых рэчаў — мы вырвемся з гэтага галоднага палону — Ленінграда. Але цяпер ужо вечар, ідзе трывога, б'юць зеніткі, ірвуцца бомбы... Разыгрываецца жахлівая латарэя, дзе выйгрыш чалавека — жыццё, а пройгрыш — смерць. І. заўтра не выязджаюць. Яны паедуць гэтымі днямі. Шчаслівыя людзі...

Голад. Жорсткі голад!

Пакрыху, мала-памалу перада мною паўстае вобраз Анфісы Мікалаеўны. З яе сварак з мужам, падчас якіх абодва раскрываюць частку свайго жыцця, з размоў з імі, а цяпер з гаротнага расказу І., што ліўся з глыбіні яе душы, перада мною, як з туману, паўстаў гэты вобраз.

Анфісе Мікалаеўне 27 гадоў. У 14 гадоў яна ўжо кахала, праўдзівей, была палюбоўніцаю нейкага грубага чалавека, які гвалтам і грубасцю прывучыў яе яшчэ тады да алкаголю. З таго часу яна ўжо не магла адарвацца ад віна, гарэлкі і г. д. У яе былі гарачкі, яна валялася п'яная пад плотам... Але яна была па-д'ябальску прыгожая і чароўная ў цвярозым выглядзе. Такою, верагодна, сустракае яе І. Ён дзеля яе кідае сваю папярэднюю жонку і дачку, перад гэтым атрымаўшы ад Анфісы ліст, у якім яна пад уплывам нейкага абнаўлення ўпрошвае яго «вырваць яе з гэтае бруднае ямы» і ажаніцца з ёю. І вось у яе наступае новае жыццё. Муж атрымлівае 2000 у месяц, жонка трацiць па 40 р. у дзень. Паездкі ў санаторыі, разнастайныя спробы адвучыць жонку ад п'янства, сваркі з-за грошай... І. сам па сабе чалавек крыху неўраўнаважаны, калісьці ён быў нават у псіхіятрычнай бальніцы. А жонка часта пакідала яго перад зарплатаю зусім без грошай — прапівала іх. Але разам з тым Анфіса, несумненна, чалавек з цудоўным характарам, канечне, калі цвярозая. Магчыма, гэта прытворства, але ўсё-такі... Ва ўсякім выпадку, Анфіса Мікалаеўна — гэта вельмі складаны па раскрыццю характару чалавек.

***6 снежня.*** Адзінаццатая гадзіна раніцы. І. не выехалі.

Іх ад'езд адтэрмінавалі на 2—3 дні. Мама з Іраю пайшлі ў абком. Маме цяпер трэба хадайнічаць пра многае. Дазвол на выезд, вылет на самалёце альбо злучэнне з партыяй І., цёплае адзенне маме і мне буркі, наставіць замок на дзверы. Але ў мамы ўжо зусім мала энергіі. Для энергіі патрэбна ежа. Перш за ўсё ежа. Яна — адзіная крыніца энергіі ў арганізме.

Канечны пункт эвакуацыі ў мамы вызначаны. Гэта Барнаул, яго наваколле. Наогул усё зводзіцца толькі да дзвюх рэчаў: як ехаць і чым ехаць. Тураносава павінна была вылецець сёння раніцай. Адказ са Смольнага, напэўна, яшчэ не атрыманы. Гэта дрэнна. Добра было б, каб нас прыпісалі да групы І.

Маму яшчэ чакаюць дзве цяжкасці. Першая — гэта забяспечыць наша фінансавае становішча за кошт абкома і продажу некаторых рэчаў, а другая — дамовіцца наконт звальнення, што значна прасцей.

Такім чынам, затрымка з-за цёплых рэчаў — раз і з-за спосабу эвакуацыі — два.

Але яшчэ галоўнае пытанне — гэта ежа. Без яе нам пе пацягнуць ног... Мы можам пратрымацца толькі да числа 13, 14, не пазней, альбо да числа 9, 10...

Анфіса Мікалаеўна дала нам учора грамаў 300 гароху, думаючы, што сёння паедзе. Вось каб дала грамаў 800—900!

Перада мною паўстануць яшчэ вялікія праблемы. Ачысціцца ад вошай, схадзіць у лазню, у цырульню, прыбраць кнігі, дастаць дроў, выкупіць прадукты, звесці капцы са школаю. Адчуваю, што ўжо зусім мала засталося мне да таго дня, калі я надарвуся і злягу. Але калі я злягу, дык ужо злягу.

Учора газет не чытаў, нічога не знаю, не ведаю пра падзеі. На нашым Ленінградскім фронце справы кепскія, гэта і я добра ведаю. Нават учора чуў у нейкай чарзе, што забаронена пешая эвакуацыя, якая праводзілася па лёдзе Ладажскага возера. Людзям давалі белыя маскіровачныя халаты, яны праходзілі ў іх праз пургу, па лёдзе, без прыпынку, без ежы 80 кіламетраў. Многія не вытрымлівалі і гінулі. Вядомая песенька: «Кто хочет — тот добьется, кто ищет — тот всегда найдет». Паспрабую прытрымлівацца яе.

Ад Ціны, зразумела, ніякай дапамогі мы не дачакаемся. Ёй ёсць на што траціць цяпер сваю зарплату. Самы шчаслівы з нашае сям'і чалавек. У апошнім лісце з Кірава

яна пісала, што становішча ў яе здавальняючае. А два ці тры месяцы назад у лісце з Баксітагорска скардзілася на недахоп салодкага. Значыць, цяпер наконт ежы ў яе ўсё ў парадку. Выбар усіх ласункаў перад ёю, на хлеб і ўвагі не звяртае. А ці думае яна пра нас? Ці думае? **І** як думае? Ці ведае пра голад у Ленінградзе, пра бамбёжкі, артабстрэлы? А то, магчыма, аддалася цяпер абжорству?.. Усё магчыма. Я так згаладаўся, што не магу сябе прымусіць падзяліцца крышкаю хлеба з мамаю. Балюча і цяжка ў мяне на душы ўсю сённяшнюю раніцу, і я ведаю, што так будзе і далей, калі я не спыню сябе цяпер... Але як спыніць. Балюча, балюча...»

Вось і ўлюбёнцы сям'і, цётцы Ціне, дасталося ад беднага Юры, які мітусіцца ў галоднай безнадзейнасці! Ён і сам ведае, што несправядлівы. Не магла яна «забыць» пра тое, як ім кепска, не падобна гэта па яе. Цётка Ціна заўсёды ім памагала, Юру было нават няёмка (мяркуючы з ранейшых запісаў), што яны так шырока карысталіся шчодрасцю і дабрынёю цёткі. (А нам вядома і тое, чаго Юра ўжо не дазнаўся: як гэтая жанчына пасля вайны адшукала ў далёкім дзіцячым доме пад Волагдаю асірацелую Іру, прывезла ў Ленінград, замяніла ёй бацькоў, вывучыла яе.)

Але цяпер Юру так дрэнна, так дрэнна, і ўсе навокал яму здаюцца (і ён сам сабе таксама) такімі эгаістамі, што яму не хочацца рабіць выключэнне і для далёкай Ціны. Пра яе ён піша нават асабліва крыўдныя словы («аддалася абжорству»), таму што і спадзяванні на яе былі асаблівыя, нават, магчыма, адзіныя... І яшчэ: маці хворая, а Юра не можа («...не магу сябе прымусіць») падзяліцца з ёю крошкаю хлеба. І ён шукае яшчэ каго-небудзь — але сытага, але ўдачлівага! — каб і яго абвінаваціць у гэтым самым граху. І знаходзіць любімую цётку!..

Ёсць, вядома, пакуты, якія змякчаюць душу, памагаюць бачыць чужое гора, больш таго, зразумець яго, адгукнуцца на тое, на што раней чалавек, які цешыўся сваёй удачлівасцю, быў не здольны адгукнуцца. Але ёсць пакуты іншыя, якія робяць чалавека жорсткім: за што, з якое рацыі я павінен іх цярпець, чаму іншыя не пакутуюць, а я (альбо мы) мучымся? Такія пытанні настройваюць супраць іншых людзей, а не супраць зла.

Колькі абвінавачванняў падымаў Юра на суседку Анфісу Мікалаеўну! Але варта ўдумацца ў факты, адкінуўшы Юрыны эмоцыі,— і мы бачым, што Анфіса дзеліцца з Рабінкінымі ежай, падкормлівае хлопчыка, нягледзячы на яго колкасці, да пары да часу не хоча заўважаць, як ён цягае з яе каструлі ежу.

Час ад часу Юра стараецца аднавіць справядлівасць, прызнае дабрыню гэтае жанчыны і нават яе шчодрасць, цікавіцца яе лёсам. Відаць, і яна расказвае пра сябе даволі самакрытычна... Імкнучыся зразумець Юру, мы не можам не заўважыць, як часам яго душа паддаецца цёмнаму і жорсткаму.

«7 ***снежня.*** Учора адбылося некалькі цікавых падзей. Мама незаконным парадкам, дамовіўшыся з Громавым, узяла харчовую картку Сухарава, якога выкраслілі са спісаў абкома. Учора па гэтай картцы мы купілі 200 г макароны, 350 г цукерак і 125 г хлеба. Усё гэта, за выключэннем макароны, учора ж і з’елі. Маме яшчэ далі запіску да старшыні райсавета па выдзяленне ёй макухі. Але з гэтага, думаю, нічога не атрымаецца. Тураносава абяцала падрыхтаваць сёння маме валёнкі, ды я не змог раніцаю схадзіць па іх — вельмі моцны мароз. Учора яшчэ заходзіла без мамы Бушуева, збіраецца заўтра эвакуіравацца пешшу, абяцала зайсці сёння а 6 гадзіне вечара.

Гэтая дэкада вырашыць наш лёс... Найгалоўнейшыя задачы, якія трэба рашыць,— гэта ў чым ехаць і з кім ехаць. Эх, каб я хоць разы са два паеў удосыць! А то адкуль мне ўзяць энергію і сілу для ўсіх тых цяжкасцей, якія чакаюцца наперадзе... Мама зноў хворая. Сёння спала ўсяго толькі тры гадзіны, з трох да шасці раніцы. Мне проста неабходна было б цяпер з’ездзіць да Тураносавай па абяцанае цёплае адзенне. Але на вуліцы такі мароз, такая стомленасць у целе, што я нават выйсці з дому баюся.

Пачаў я весці дзённік у пачатку лета, а ўжо зіма. Ну хіба я чакаў, што з майго дзённіка выйдзе што-небудзь такое?

А я пачынаю прызапашваць грошыкі. Цяпер ужо маю 56 рублёў, пра наяўнасць іх ведаю адзін я. Пліта патухла, і ў кухні мала-памалу запанаваў холад. Трэба надзець паліто, каб не замерзнуць. А яшчэ хачу ехаць у Сібір! Але я адчуваю, што дай мне паесці — і з мяне спадзе ўся ме-

ланхолія, увесь сум, зляціць стомленасць, развяжацца язык і я стану чалавекам, а не падабенствам яго...

Кожны вечар да нас прыходзіць Ігар, брат Анфісы Мікалаеўны. Анфіса Мікалаеўна корміць яго тут як на зарэз, аддала яму ўвесь запас сухароў. Цяпер, калі яна куды-небудзь паедзе, дык нам абсалютна нічога не пакіне. Можа, пакіне хоць пропуск у тубдыспансер, каб атрымліваць за яе па паўлітру малака кожны дзень; гэта каля Клінскага рынку — месца, якое штодня трапляе пад абстрэлы, так што ісці туды не толькі далёка, але і небяспечна для жыцця.

Цяпер я пахудзеў прыкладна кілаграмаў на 10—15, не больш. Магчыма, яшчэ і менш, але тады ўжо за кошт вады, якой п'ю занадта багата. Калісьці раней мне хапала раніцаю паўтары шклянкі чаю, а цяпер не хапае і шасці.

***8 снежня.*** А сёння... сёння я згубіў картку Сухарева на масла, тую самую, якую мама нелегальна сабе прысвоіла на першую дэкаду. І вось... што цяпер рабіць. Баюся, страшэнна баюся, што ўся гэта гісторыя з прысваеннем карткі Сухарава ўсплыве, і тады... Маё жыццё разбурыцца, таксама як і маміна і Ірына жыццё... Я яе згубіў — дакладна ведаю — у трэстаўскай сталоўцы. Магчыма, пакінуў У руках буфетчыцы. Толькі б справа не пайшла далей... Толькі б... Не ведаю, ці гаварыць з мамаю на гэту тэму. Калі ў мамы будзе добры настрой -— гэта малаверагодна,— дык пагавару, калі не — пра страту змаўчу.

Боль, жорсткі боль ва мне ад гэтае карткі!.. Больш ні пра што не магу думаць.

І яшчэ фінал (магчымы.— ***А. А., Д. Г.***): картка аказваецца згубленаю дома, і яе знаходзіць Анфіса Мікалаеўна. Пытанне ёй адразу стане яснае, як да нас (больш няма да каго) трапіла гэтая картка: звяртае ўвагу на пячатку — абком саюза! А гэтая пячатка да апошніх дзён месяца захоўвалася ў мамы. Расказвае пра гэта Мікалаю Мацвеевічу, той дазнаецца, хто такі Сухараў,— і вось мама ідзе пад трыбунал, а там выгнанне з партыі, расстрэл і да т. п.

Цяпер тры гадзіны апоўдні, а мама пайшла на працу а дзевятай раніцы. Чым там яна займаецца? Няўжо ні на адзін крок гэты дзень не наблізіць нашу эвакуацыю? Ехаць, ехаць, ехаць! Надзённае пытанне. Цёплае адзенне, без цёплага адзення нікуды не выедзеш.

***9 снежня.*** Картка знайшлася ў мамы. Я па ёй выкупіў учора 200 г смятаны. Учора ж і з'елі. Ага, сёння вось яшчэ

пад'елі ўчарашнія 100 г тлушчу, ды дай бог, каб 15 г засталося.

Учора мама дастала і прынесла два ватнікі і цёплыя штаны. Чарга за валёнкамі.

З самалётам пытанне не вырашана. Але я спадзяюся, што мы паляцім. Праўда, вось, І. з жонкаю адмовілі ў вылеце, а Кацуры, жонцы, дазволілі ляцець да самае Волагды. Ва ўсякім разе, гэта рэч вельмі спрэчная. Адзін час адпраўка праводзілася, але цяпер, як мне сказаў І., страна заглухла. Спісы на эвакуацыю рэзка скарачаюцца. Эвакуіравацца жадаюць амаль усе, каго б ні спытаў, так што справа становіцца больш сур'ёзная, чым раней. Паводле слоў І., раней эвакуіравалі па грузавіках-трохтонках, а цяпер ідуць толькі паўтаратонкі».

За «Дарогу жыцця» кіпела змаганне і на Волхаўскім фронце і па Ленінградскім; за яе біліся зенітчыкі, і вадзіцелі, і чыгуначнікі, ніхто не шкадаваў сябе.

Самую ладажскую трасу ўвесь час бамбілі, машыны гінулі, гарэлі, ішлі пад лёд, апускаліся ў ваду, і адтуль, з глыбіні, яшчэ свяцілі ўключаныя фары, пакуль мароз не зацягваў праталіну. Больш за сто машын было страчана за гэтыя дні. Бядоты лядовай трасы адбываліся не толькі з-за недахопу шафёраў, рамонтнікаў, ад слабага лёду, ад арганізацыйнага бязладдзя. Ішла вайна, дзе праціўнік таксама сачыў, думаў, і прыдумваў, і падманваў, і мог перахітрыць і пераўзысці. Фашысты ваявалі не толькі з арміямі, яны ваявалі і з «Дарогаю жыцця». Яны ўсё больш інтэнсіўна бамбілі і абстрэльвалі ладажскія трасы. А там, апрача ўсяго, гуляў сівер — вецер, які ахутваў возера непранікальнаю белай імглою. Вецер марозіў машыны, зрываў вехі, ліхтары. Што такое траса? Гэта пункты абагрэву, гэта медыцынскія палаткі, пункты харчавання, гэта склады, гэта сувязь, гэта рамонтныя лятучкі, мостабудаўнікі. Усё гэта па лёдзе, на берагах...

Цяпер шаша ад Ленінграда да Асінаўца заасфальтавана. Замест кіламетровых слупоў стаяць абеліскі з надпісам: «Дарога жыцця». Цяпер яны мільгаюць адзін за адным за шклом машыны, тады кожны кіламетр быў агромністай адлегласцю. Гэта быў шлях да выратавання, але шлях, назначаны гарэлымі машынамі, выкінутымі рэчамі, санітарнымі зямлянкамі, магіламі...

Непадалёк ад Усевалажскай па гэтай шашы стаіць

помнік «Дарозе жыцця» і побач насаджаны бярозавы гай: дзевяцьсот бяроз — дзевяцьсот блакадных дзён. Л ў Асінаўцы — вялікі музей «Дарога жыцця». Залы яго заўсёды поўныя народу. Прыязджаюць з Ленінграда, з іншых гарадоў. Экспанаты дзелавыя — фатаграфіі, карты, партрэты, карціны, мадэлі караблёў, барж, пірсаў,— канкрэтна апавядаюць, як маракі, а пасля байцы «Дарогі жыцця» забяспечвалі горад у час блакады, падтрымлівалі яго сувязь з краінай. На двары вакол музея стаяць па пастаментах паўтаратонка, трохтонка і аўтобус. Машыны тых гадоў здаюцца жаласліва кволымі, маленькімі, старамоднымі. Між тым па іх вывезлі з горада на лёдзе возера больш за паўмільёна жанчын, дзяцей. На іх прывозілі прадукты. Глядзіш на іх і думаеш, што гэтая, здавалася б, вартая жалю тэхніка ў той час была магутнаю ў руках людзей, натхнёных ідэяй выратавання і аховы горада. У залах музея захоўваецца памяць пра тых, хто працаваў на трасе «Дарогі жыцця»,— зенітчыкаў, гідрографаў, медыкаў, лётчыкаў, чыгуначнікаў. Ляжаць іх ордэны і медалі, іх гадзіннікі і пісталеты. Выжыла няшмат. Але музей не падобны на мемарыял. Яго экспазіцыя разгортваецца як сюжэтная гісторыя з мноствам дзеючых герояў.

Гэтая паўтаратонка на пастаменце нібыта напрасцяк перанесена з дзённіка Юры Рабінкіна, што так напружана думаў пра магчымасць выезду з горада. Вернемся да ягоных запісаў.

«Абком выдаў маме грошы на эвакуацыю. Учора мы падлічвалі грошы, у нас гатоўкаю было 1300 рублёў з нечым. З 10 снежня мама будзе пазбаўлена працы. Я думаю, што калі б быў станоўчы адказ са Смольнага, дык я быў бы такі шчаслівы, як ніколі. Гэты адказ павінен быць, абавязаны быць, ён будзе, таму што... ды і як жа яму но быць?! «Кто хочет — тот добьется, кто ищет — тот всегда найдет!»

Добра было б, каб вылецець 12-га. 11-га выкупіць усе цукеркі на новую дэкаду і грызці іх у палёце. Бадай што, у мяне тады нават змякчыліся б успаміны пра гэтую жахлівую галадоўку. А сапраўды, што са мною было? Еў ката, краў лыжкаю з кацялкоў Анфісы Мікалаеўны, цягнуў лішнюю крошку ў мамы і Іры, часам падманваў іх, замярзаў у бясконцых чэргах, лаяўся ды біўся перад дзвярыма магазінаў за права пайсці і атрымаць 100 г масла... Я за-

растаў брудам, разводзіў кучу вошай, ад знясілення ў мяне не хапала энергіі, каб устаць з крэсла,— гэта была для мяне такая страшэнная цяжкасць! Няспынная бамбёжка і абстрэлы, дзяжурствы на школьных гарышчах, сваркі і сцэны дома з дзяльбою прадуктаў... Я ўсвядоміў сабе цану хлебнае крошкі, што я падбіраў пальцам са стала, і зразумеў, хоць, магчыма, і не да канца, свой грубы эгаістычны характар. «Гарбатага толькі магіла выправіць» — кажа прымаўка. Няўжо я не спраўлюся са сваім характарам?»

Рэдкая якасць у гэтага хлопчыка — ён умее бачыць сябе збоку. У запісе ад 9 снежня ён выкрывае сябе зусім па-талстоўску, нічога не апускае, нічога не мінае. Ён з той пароды рускіх хлопчыкаў, з якіх быў талстоўскі Нікалінька Ірценьеў. Ды і раней: і картка згублена — гэта ён вінаваты, і сорам з-за таго, што картка незаконная, чужая. Ён накручвае на сябе жахі, катуе сябе, прыдумвае пакаранні і сабе і маці. Гэта сумленне выклікае фантазію, гэта нібы трызненне сумлення.

У пачатку снежня «Дарога жыцця» яшчэ не стала дарогай жыцця для Ленінграда. Яна ўсяго толькі лядовая дарога, і лёд на ёй слабы, ламаецца; грузіць дапаўна машыны нельга. Нямецкая авіяцыя бамбіць дарогу, у паветры ўвесь час ідуць баі. Нашы часці ППА спрабуюць адбіваць атакі, хоць не стае знішчальнікаў. Машыны на Ладазе з-за варонак ідуць пад ваду. Падвозіць прадукты да Ладагі таксама стала цяжка, дарога на Ціхвін перарэзана, і трэба везці машынамі па бездарожжы. У выніку пакуль што па лядовай дарозе горад атрымлівае вельмі і вельмі мала, усяго толькі каля 1200 тон. Але часці 54-й арміі наступаюць у напрамку ад Вайбокала на поўдзень. 9 снежня нашы вызваляць Ціхвін. Цяпер можна будзе наладзіць падвоз прадуктаў да Ладагі і эвакуацыю насельніцтва. Лядовую дарогу праз возера трэба будзе яшчэ забяспечыць надзейным прыкрыццём з паветра, зенітнымі часцямі, прыкрыць яе з берагоў армейскімі часцямі. Неабходна было наладзіць рух машын, іх эксплуатацыю, машыны хутка выходзілі са строю, не хапала бензіну, змазкі, не быў забяспечаны рамонт. Дарога не спраўлялася з перавозкамі, не апраўдвала надзей. І толькі з дваццатых лічбаў снежня яна пачне дастаўляць у горад па 700—800 тон грузаў штодня. 25 снежня нашы войскі авалодаюць раёнам Вайбокал, і тады пачнуцца рамонтныя работы на

чыгунцы, можна будзе везці прадукты да Ладагі і эвакуіраваць людзей цягнікамі. Зусім нямнога застаецца Юру дацягнуць да гэтых дзён. Вось гэтае адчуванне хуткага спаду сіп ленінградцаў і вяло байцоў 54-й арміі ў наступленне на Ціхвін, а вадзіцеляў аўтабатальёнаў і асобнай аўтабрыгады вымушала рабіць на сваіх хліпкіх паўтаратонках, скрозь пургу, заносы па два, а то і па тры рэйсы ў дзень.

Пасля вайны адзін з аўтараў працаваў у Лепэнерга. У кабельнай сетцы. Адзін раз, гэта было ўжо недзе ў сорак сёмым годзе, адбылася аварыя на Літоўскай вуліцы — на самым яе пачатку. Прабіла кабель, і цэлы квартал застаўся без святла, без энергіі. Шукалі месца пашкоджання аж да вечара — не знайшлі. Стаяла зіма, мерзлую зямлю білі ламамі, паспелі праверыць адну муфту, яна была ў парадку. Сцямнела. Работы працягваліся, таму што без святла сядзелі дзіцячая бальніца і фабрыка.

Работы вёў майстар Акімаў. Гэта быў нізкарослы негаваркі чалавек, выдатны знаўца ўсёй падземнай гаспадаркі. Ён, як і іншыя майстры, працаваў яшчэ ў блакаду. Майстроў было некалькі, і кожны ведаў, што і дзе на яго ўчастку адбывалася. І на сіньках у іх было ўсё адзначана. Апрача адзнак па сіньцы, добры майстар павінен быў трымаць у памяці ўсе падрабязнасці таго, што здарылася. Што за варонка была, быў тады мароз ці адліга, і як снарад разарваўся, і калі кабель ужо рамантавалі, ды хто яго рамантаваў, таму што ў кожнага кабельшчыка свая манера, свая ступень сумленнасці. Справа ў тым, што бомбы і снарады, падаючы нават воддаль ад кабелю, маглі выбуховай хваляю парушыць ізаляцыю, маглі зрушыць зямлю так, што пастулова пачынала кабель цягнуць, выдзірала яго з муфтаў. Такога роду аварыі працягваліся некалькі гадоў пасля блакады. Прыбралі руіны, заштукавалі ўсе прабоіны, адрамантавалі ўсе фасады дамоў, а пад зямлёю быццам бы працягваўся абстрэл, падалі снарады і бомбы,
і ў вялізныя варонкі, даўно засыпаныя, залітыя асфальтам, раптам урываўся электрычны ток. Даўні выбух снарада прабіваў кабель. І тэрмін быў — прабой, як прабоіны на караблі.

Я не ведаў, як яны жылі ў блакаду, як працавалі, як харчаваліся. Я прыйшоў у раён з фронту, дэмабілізаваны, ды і яны не надта расказвалі, гэта цяпер успамінаюць,

а тады стараліся хутчэй забыць. У 1943—1944 гадах, калі горад пачаў ажываць, ім, каб даць энергію, святло, даводзілася наспех пад абстрэлам рамантаваць перабітую асколкамі сетку. Ды і пазней, пасля вайны, кабельшчыкам яшчэ доўга даставалася ад усіх. Магутнасцей не хапала, трансфарматары выходзілі са строю, за час блакады яны пацярпелі таксама, як цярпелі дамы і людзі, падстанцыі былі ў жахлівым стане, усе патрабавалі святла — магазіны, канторы, школы, гасцініцы. Сеткі перасунуліся, кабелі прабівала адзін за другім. Апараты вызначалі месца пашкоджання зусім прыблізна, і ўсё вырашала адчуванне майстра, уменне бачыць, што адбываецца там, пад зямлёю.

У Палякова, у Касаланава, у Паляжаева — у кожнага з майстроў былі свае метады, свае прыкметы, якія ні перадаць, ні вызначыць словамі нельга. Ніхто з іх не мог памагчы Акімаву хаця б па той прычыне, што ніхто з іх не ведаў яго ўчастка, гісторыі гэтага кабелю, яго рамонтаў, не ведаў капрызаў гэтай трасы з яе перасечкамі. І галоўны дыспетчар Кірсанаў, які ведаў увесь раён, які працаваў тут ледзь не з дваццатых гадоў, таксама нічога не мог параіць. Яго рухомы абвіслы нос па пакалечаным твары прынюхваўся, мы хадзілі па трасе туды-сюды, але вочы Кірсанава заставаліся сумныя. Метраў сто, а то і паўтараста былі пад падазрэннем. Гэта азначала яшчэ капаць, рэзаць, абстукваць, зноў канаць, рэзаць... Гэта значыла яшчэ два, тры дні працы.

І Акімаў і Кірсанаў сыходзіліся на тым, што аварыя блакаднага паходжання. Гарэў касцёр на маставой, кабельшчыкі грэліся і грэлі масу, каб залiваць муфту. Вакол было цёмна, дамы стаялі цёмныя, без святла, і вулічныя ліхтары не гарэлі, толькі праезджыя машыны ўключалі фары. Над катлаванам гарэў ліхтар «кажан» з чырвоным шклом. Ад гэтай халоднай цемры, ад рыпучага снегу штосьці ўскалыхнулася ў маёй памяці. Я чамусьці перайшоў па другі бок вуліцы, стаў у падваротню.

Бадай што, гэта было тут. Толькі наўскасяк, на пустцы, стаяў тады невялікі дом. Ён разваліўся на вачах. Як жа гэта ўсё было? Мяне, напэўна, загнала сюды бамбёжка. Перад гэтым я ішоў па Неўскім. А яшчэ раней па бясконцым Маскоўскім праспекце. Да штаба арміі мяне падвёз старшына. Каля Абводнага з чорнага рэпрадуктара гучаў жаночы голас, крыху хрыплаваты, непаўторны голас, які з таго дня запомніўся назаўсёды. Гэта Вольга Бергольц чытала вершы. Упершыню пачуў яе. Я пастаяў каля жа-

лезнага слупа. Было бязлюдна, сонечна. Вуглавы дом, знесены бомбаю, дыміўся, пахла смаленым. Дзве жанчыны сядзелі на апаленай бэльцы, у нагах іх на санках ляжалі абломкі крэслаў і пазалочаная рама ад карціны. Значыць, пасля я апынуўся на Садовай, у кватэры Галі, школьнай нашай сяброўкі. Яе пакоі былі занесены снегам. Адтуль я пайшоў да Боры Абрамава. Суседзі сказалі, што ён памёр. Тады я аднёс прадукты для маці Вадзіма... І тады я апынуўся каля Суворaўскага. Усё правільна, я аднавіў у памяці той дзень, гэта было не так ужо і складана; тады я ўпершыню атрымаў звальненне ў горад. Блакада пераўтварыла горад непазнавальна, таму ўсё ўражвала і адбівалася ў намяці глыбока.

Калі пачалася бамбёжка, праўдзівей, калі яна наблізілася, я схаваўся спярша ў адной падваротні, потым перабег у наступную. Зеніткі забахкалі побач, пражэктары шпарылі па небе. Усё, што на перадавой мы звычайна назіралі здалёк, цяпер адбывалася над галавою. Непадалёку ўпала бомба, следам за ёю завыла другая, на гэты раз бліжэй, гучней. Выццё яе ўзмацнялася. У падваротню ўбегла жанчына з нейкім вялікім скруткам. «Кладзіся!» — крыкнуў я, штурхнуў яе ў снег і сам упаў на нешта мяккае. Раздаўся выбух, грукат. Дом наўскасяк пачаў развальвацца. Жанчына закрычала. Яна крычала ад страху. Мяркуючы па выбуху, бомба была невялікая; я хацеў устаць і рантам убачыў пад сабою чалавека — румяны твар старога. Гэта было так нечакана, што я ўскочыў на ногі, потым схіліўся, пакратаў загорнутую ў прасціну фігуру, крануў твар, валасы — я не адразу скеміў, што ў скрутку быў вялізны ёлачны дзед-мароз. Жанчына, гледзячы на мой перапалох, пачала смяяцца гучна, істэрычна, вызваляючыся ад уласнага страху. Я таксама засмяяўся. Гэтага дзеда-мароза яна несла для вялікай ёлкі ў Дом піянераў...

— Тут надала бомба,— сказаў я Акімаву.

Мы паглядзелі сіньку. Там насупраць гэтага дома не было ніякай адзнакі.

— Гэта было ў канцы снежня,— сказаў я.

У канцы снежня Акімаў ляжаў. Ён праляжаў да сярэдзіны студзеня, і гэты прамежак часу ў яго на карце застаўся без паметак.

Бомба ўпала якраз з таго боку, улева ад падваротні. Асколкамі прабіла створку жалезнай брамы. Гэта я запомніў добра. У мяне адбіўся гэты момант з фатаграфічнай дакладнасцю. Напэўна, з-за дзеда-мароза. Аварыя

выцягнула яго з глыбінь памяці, дзе ён захоўваўся разам з іншымі падрабязнасцямі таго блакаднага дня. Штодзённае сціраецца ў памяці: каля б я часта бываў у горадзе, усё забылася б.

Мы праверылі з Акімавым — у створцы брамы захавалася рваная дзірка ад асколка. Тады мы пачалі капаць і працавалі да раніцы. Я не намыліўся. Кабель прабіла дакладна па найкарацейшай адлегласці да цэнтра выбуху. Верагодна, тады з'явілася валасяная трэшчына ў свінцы, і паступова туды пранікла вільгаць. Шэсць гадоў яна прабіралася. Вось як доўга ляцяць асколкі блакадных бомбаў.

Пакуль капалі і рамантавалі, мне прыгадалася, як я праводзіў жанчыну з дзедам-марозам да Таўрыцкага. Я нёс яе дзеда-мароза старчком, убачыўшы яго чырванашчокі твар і футра ў бліскаўках, прахожыя здзіўлена спыняліся. У некаторых з'яўлялася кволая ўсмешка. Так што і несці яго было прыемна. Час ад часу я згадваў свой перапалох і смяяўся.

Гэта гісторыя крыху папраўіла маё цяжкае ўражанне ад прыходу ў горад. Калі я расказаў у батальёне пра свае прыгоды, дзед-мароз таксама ўразіў усіх і падбадзёрыў. «Дзед-Мароз!» — паўтаралі ўсе са значэннем. Мяне папракалі за тое, што я не зайшоў да піянераў, не ўбачыў ёлкі і не мог нічога расказаць, як радаваліся дзеці і што было ў іх за свята, хаця б як гэта выглядала. Але затое я запомніў вершы Вольгі Бергольц. Тады ў мяне была добрая памяць на вершы. Я запомніў і прачытаў іх.

Вядома, я шкадаваў, што не ўбачыў ёлкі. Асабліва я шкадую аб гэтым цяпер. Нічога нельга папраўіць у тым блакадным вечары, нічога больш не ўдасца ўбачыць, разгледзець у ім. Зрэшты, ён усё-такі спатрэбіўся тады, у сорак сёмым годзе, калі мы ліквідавалі аварыю на Лігаўскай вуліцы.

У канцы снежня, а дакладней 25-га, будзе аб'яўлена прыбаўка: рабочым па 100 грамаў хлеба, служачым, утрыманцам і дзецям па 75 — ім цяпер не па 125, а па 200 грамаў хлеба ў суткі!

У пачатку студзеня будзе пабудавана дарога, якая дазволіць машынам ехаць без перагрузкі проста ад чыгуначнай станцыі аж на Ладагу. А ў пачатку сакавіка ў горадзе пойдзе першы трамвай: расчысцяць пуці, адновяць электрасетку — і па рэйках, са звонам, пакоцяць чырвоныя вагоны. Людзі будуць крычаць «ура».

Будуць выдаваць журавіны.

А пасля кожнаму гараджаніну дадуць дадаткова паўтараста грамаў тлушчу.

Увесь студзень напружана і няспынна наладжваецца дарога праз Ладагу.

Аднак у студзені яна працавала яшчэ кепска. Графік не выконваўся. Многа машын ламалася. Рамантавалі марудна, не хапала запчастак.

Задача была вывезці з Ленінграда ў лютым 100 тысяч чалавек, у сакавіку — 200 тысяч. Гэта супраць 11 тысяч фактычна эвакуіраваных у студзені.

А Юра Рабінкін жыле яшчэ ў снежні. Яму дацягнуць бы да канца года, а пасля як-небудзь да лютага, да сакавіка! Але яму цяпер дзень — за месяц, тыдзень — за год...

## АПОШНІЯ СТАРОНКІ

***«9 снежня (працяг).*** Колькі яшчэ засталося ў дзённіку чыстых старонак? Раз, два, тры... Трыццаць шэсць... А было... было дзвесце. Праз паўмесяца будзе паўгода ўжо гэтаму дзённіку, паўгода вайны. Многа я пісаў у гэтым дзённіку. Спярша мае запісы насілі апісальны характар, пасля змяніліся лірычнымі. Кожны пражыты мною дзень дае яшчэ адну старонку, а то і дзве. І колькі разоў запіс дня пачынаўся пра голад і холад? Цяпер, калі бачу перад сабою перспектыву эвакуацыі, я неяк замоўчваю гэтыя думкі. Але варта толькі знікнуць гэтай надзеі... Што будзе? Чым буду жыць? А цяпер зноў ці то абстрэл, ці то трывога. Нешта дзесьці б'е, чуваць. Мама ў Палацы працы. Там, пад абстрэлам... Ёй належыць апячатаць маёмасць абкома, фонд. Ці вырашыцца сёння наша надзея на вылет? А можа, і не?..

Пара канчаць. І так дарэмна цэлы аркуш перапэцкаў сваімі «лірычнымі» адступленнямі. Вярнуся лепш да рэалізму. Што нам сёння давядзецца паесці? Добра, калі ў сталоўцы адпусцяць па талонах за II дэкаду. А то без нічога будзем сядзець цэлы дзень. Цэлы дзень... Суткі...

***10 снежня.*** Канец дэкады. А справы нашы з эвакуацыяй... Пытанне ўсё яшчэ астаецца адкрытым. Як гэта пакутліва! Ведаеш, што з кожным днём твае сілы падупа-

даюць, што ты знемагаешся ад недаядання з кожным днём усё больш і больш і дарога да смерці, галоднае смерці, ідзе парабалай з адваротнага яе канца, што чым далей, тым хутчэйшым робіцца гэты працэс павольнага адмірання... Учора ў чарзе ў сталоўцы адна грамадзянка расказвала, што ў нашым доме пяць чалавек памерлі ўжо з голаду. А самалёты ляцяць да Волагды... Кожнаму, хто прыбывае, даецца цэлых 800 г хлеба і яшчэ колькі хочаш па камерцыйнай цане. І масла, і суп, і каша, і абед... Абед складаецца не з вадкасці, а з цвёрдых рэчываў, што называюцца: каша, хлеб, бульба, гародніна... Які гэта кантраст з нашым Ленінградам! Вырвацца б з гэтых жудасных абдымкаў смяротнага голаду, вырвацца б з-пад вечнага страху за сваё жыццё, распачаць бы новае мірнае жыццё дзе-небудзь у невялічкай вёсачцы сярод прыроды... забыць перажытыя пакуты... Вось яна, мая мара на сёння.

«Кто хочет — тот добьется, кто ищет — тот всегда найдет!» Але калі Лебедзеў-Кумач напісаў словы да гэтай песенькі, ён не думаў... Правільная народная мудрасць: «Чалавек загартоўваецца ў няшчасці», «Увесь характар чалавека праяўляецца ў яго цалкам толькі ў няшчасці». Так і я. Няшчасці не загартавалі, а толькі аслабілі мяне, а сам характар аказаўся ў мяне эгаістычны. Але я адчуваю, што зламаць мне цяпер свой характер не пад сілу. Толькі б пачаць! Заўтра, калі ўсё будзе, як сёння з раніцы, я мусіў бы прынесці ўсе пернікі дадому, але ж я не выцерплю і хаця б чвэрць перніка ды з’ем. Вось у чым праяўляецца мой эгаізм. Аднак паспрабую прынесці ўсё. Усё! Усё! Усё!!! Усё!!! Добра, калі я ўжо скачуся да галоднае смерці, да пухлін, да вадзянкі, дык няхай хоць будзе ў мяне думка, што я зрабіў сумленна, што ў мяне ёсць воля. Заўтра я мушу паказаць сабе гэтую волю. Не ўзяць ні кавалачка з таго, што я куплю! Ні кавалачка! Калі эвакуацыі не будзе — у мяне ўсё-такі жыве надзея на эвакуацыю,— я павінен буду пратрымаць маму і Іру. Выйсце будзе адно — ісці санітарам у шпіталь. Зрэшты, у мяне ўжо выспеў план. Мама ідзе ў які-небудзь новы шпіталь бібліятэкаркаю, а я ёй у памочнікі ці як культработнік. Іра будзе пры нас».

Дзённік яму ўсё больш станавіўся с р о д к а м, што памагаў утрымліваць сябе ад спаўзання, якое пачыналася ўжо! Сорам утрымаць сябе. Няма ў Юры іншай зброі ў

барацьбе з голадам, у барацьбе з тым, што, як шмат хто лічыў, «правіць светам». І каб завастрыць сваю зброю, Юра завастрае сваю віну. Мала таго: спецыяльна запісвае ў дзённік усё, за што будзе і пасля смерці сорамна. Маці альбо нехта яшчэ, напэўна, прачытаюць! А смерць — вось яна, побач. І яна аддасць дзённік у матчыны рукі. Саму думку пра смерць Юра выкарыстоўвае, каб умацаваць сябе, сваю волю. Пад лютым прыціскам голаду Юра здае пазіцыю за пазіцыяй. А дзённік — як апошні сродак! — становіцца ўсё больш шчыры, страшны. Вось што ты робіш, вось што будзе чытаць мама, людзі будуць чытаць, даведаюцца пра цябе... Ён і маму пачынае любіць больш, чым у мірны час. Сумленне перамагло пакуты, раскрыла яго сэрца, зрабіла яго яшчэ больш чулым.

«Сённяшні вечар дасць мне толькі слёзы. Я гэта ведаю. Мама галодная, халодная. Дроў у нас мала, амаль няма, цёплага яна нічога не дастане, з яды таксама, спакутуецца, знервуецца... Са Смольнага прыйдзе адмоўны адказ, альбо пытанне ўсё яшчэ застанецца адкрытае. Макухі — не дастане. Раніцаю, перад яе адыходам, плакала Іра — дрэнная прыкмета, няўжо і я стаў верыць у прыкметы? Напэўна, так. Якія змрочныя думкі лезуць мне ў галаву! Усё горка, усё нудна, голадна, холадна стала на гэтым свеце. Усе думкі імкнуцца да аднае ежы ды яшчэ да цяпла. На вуліцы мароз 20—25 градусаў. У пакоі, хоць і палілася ў печы, холад такі, што ў мяне замерзлі ногі і па целе прабягаюць дрыжыкі. А дай жа мне з'есці буханку хлеба!.. Я ажыву, я засмяюся, я заспяваю песні, я... ды што казаць...

На гадзінніку адзінаццаць раніцы... А наперадзе — дзень, вечар, ноч. А там... там новы дзень, новая порцыя хлеба ў 125 г. Новая дэкада. Цукеркі... Павольна засне ўва мне жыццё, як павольна перагортваюцца старонкі гэтага дзённіка... Але павольна і пэўна!

...У мяне такі паганы настрой і ўчора і сёння. Сёння крыху не стрымаў свайго слова гонару — узяў паўцукеркі з купленых, а таксама грамаў 40 з 200 курагі. Але наконт курагі я слова гонару не даваў, а вось наконт наўцукеркі... З'еў я яе і такі боль у душы адчуў, што выплюнуў бы прэч з'едзеную крошку, ды не выплюнеш... І кавалачак — маленькі-маленькі — шакаладу таксама з'еў... Ну што я за чалавек! У мамы ўчора вельмі распухла нага, з эвакуа-

цыяй пытанне адкрытае, а ў спісы трэста № 16 маму ўключыць нельга, адна надзея на Смольны. Смольны дасць нам траім, маме, мне і Ірыне, жыццё ці смерць. У нас пасля сённяшняга дня засталося толькі 200—300 грамаў круп на другую дэкаду ды 300 грамаў мяса. Цукерак таксама толькі 650 грамаў, праўда, яшчэ цукру Ірыне павінны атрымаць 200 грамаў. У мамы яе картка на 2-ю дэкаду напалову ўжо выкарыстана, у запасе толькі Ірыніна (150 г) ды мая — 180 грамаў... А знешне мы рыхтуемся да эвакуацыі, збіраем рэчы, упакоўваем...

Мяне ўжо не цешыць наша наступленне, што пачалося па ўсім фронце. А адбіты ж ужо Ціхвін, Ялец; немцы бягуць на растоўскім напрамку да Марыупаля і Таганрога; на маскоўскім напрамку нашы часці пачынаюць гнаць немцаў з заваяваных імі абласцей, з-за абледзянення сотні нямецкіх самалётаў стаяць нерухома, таму немцы і не бамбяць Ленінград гэтыя дні, усё шырэй разгортваецца партызанская вайна ў Югаславіі, нямецкія часці церпяць вялікія страты ад англічан у Лівіі, толькі Японія ўсё б’е ЗША, наносіць надзвычай эфектыўныя ўдары, але яна зазнае тую ж долю, якая чакае і Германію. Эх, каб толькі дазволілі вылет на самалёце! Толькі той, хто перанёс вялікае гора, вялікія пакуты, можа ў поўнай меры адчуць шчасце, якое толькі і існуе на зямлі. Праз дзве дэкады Новы год. Дзе гэта будзем мы тады, што з намі будзе? У гэтую навагоднюю ноч асірацеюць навагоднія цацкі ў канапе, не будзе ім ёлкі, не будзе ім дзе паказацца ва ўсёй сваёй красе. Не да ёлкі будзе кожнаму чалавеку ў Ленінградзе ў гэтую ноч. Як соп успомнім мы, калі будзем жыць, леташнія калядныя вечары, ёлкі з запаленымі свечкамі, багатую вострымі прыправамі, закускамі і іншымі прысмакамі вячэру, якая заўсёды была 1 студзеня... Магчыма; а зрэшты, навошта загадваць наперад, што з табою можа здарыцца?.. Як правядзе гэтую ноч Ціна? Дзе будуць яе думкі роўна ў 12 гадзін ночы 31 снежня 1941 года, калі будзе сарваны апошні лісток календара і адкрыецца новы чысты свежы каляндар 1942 года?.. Час ляціць, ляціць...»

Юра не разумее, якое значэнне для Ленінграда меў Ціхвін. Вызваленне Ціхвіна адразу скарачала маршрут падвозкі прадуктаў да Ладагі, сам Ціхвін рабіўся галоўнай перавалачнай базаю...

Але ўсё роўна Ладага яшчэ не спраўлялася з заданнем, не хапала дарожных часцей. Колькасць машын скарацілася з-за страт, шмат было разбіта, пайшло пад ваду, чакала рамонту. А рамонтнікаў не хапала. На чыгунцы ад Ціхвіна да Вайбокала неабходна было аднавіць разбураныя масты.

«Цяпер мама пайшла ў трэст № 2 да Тураносавай даведацца наконт адпраўкі з Ленінграда, а таксама наконт валёнак.

Анфіса Мікалаеўна ходзіць злосная і панурая. Зразумела чаму. Запасы сухароў і круп яе скончыліся, паслязаўтра яна апошні раз атрымае ў тубдыспансеры малако, а пытанне пра эвакуацыю ў яе таксама застаецца адкрытае. Вось і шалее, баіцца, што будзе недаядаць. Ну што ж, смяяцца над чужым няшчасцем не трэба, дай бог, каб на ўсім зямным шары наступіў такі час, каб ні адзін чалавек болей ужо не ведаў, што такое голад.

Старонкі майго дзённіка падыходзяць к канцу. Здаецца, што сам дзённік вызначае мне тэрмін яго вядзення...

***12 снежня.*** Цяпер мама пайшла ў картачнае бюро. Ад гэтага залежыць усё мае далейшае жыццё. Калі гісторыя гэта выплыве наверх, я магу нават кончыць самагубствам. Зрэшты, можа так і атрымацца. Мне, што выгадаваўся ў амаль бясклапотных, шчаслівых, райскіх, як мне здаецца, абставінах, жыць тады — значыць вечна мучыцца, пакуль голад ці нямецкая куля не спыняць маё жалю годнае існаванне. А што ж тады будзе з Іраю, з мамаю... Выехаць з Ленінграда, нават вылецець, калі адказ са Смольнага быў бы станоўчы, можна было б толькі ў студзені месяцы. А апухнуць і памерці ад вадзянкі можна і на працягу аднаго тыдня, пайсці ж на той свет ад шалёнага асколка ці ад магчымых газаў — і ў адно імгненне.

Але, вядома, я павінен быць спакойны. А то — канец. Усё не для мяне (для мяне ўсё ўжо настане, магчыма, цераз... ну, час назваць не магу — у любое імгненне), але ўсё будзе маме, Ірыне. Пралье слёзы Ціна ў далёкай старонцы, прыгадае ўсё наша мінулае жыццё, пашкадуе аб чым-небудзь, ды праз паўгода стане зноў як і была... Міне паўгода, год, вайна скончыцца, у нашым горадзе настане ранейшае шчаслівае жыццё. Сатлеюць нашы трупы, у пыл рассыплюцца косці, а Ленінград будзе вечна стаяць на берагах Нявы, горды і недаступны ворагу.

Колькі людзей памірае кожны дзень у Ленінградзе! Колькі галодных смерцяў! Толькі цяпер я ўяўляю сабе горад, абложаны ворагам. Голад нясе смерць усяму жывому. Толькі тыя, хто зведаў голад, могуць зразумець яго. І зусім немагчыма ўявіць голад чалавеку, які не пераносяго.

Але ж навошта такія сумныя думкі, навошта столькі меланхоліі? Прыгадаеш часам оду Дзяржавіна «На смерць кн. Мяшчэрскага» дый задумаешся над канцом. Калі нам далі жыццё, гэты найкаштоўнейшы дар прыроды, дык навошта ж думаць пра кепскае ў ім? Думай толькі пра добрае, бяры ад жыцця ўсе тыя даброты, якія яно можа даць. Навошта траціць магчымасці?

Усё гэта нібы так, але нейкі нябачны чарвяк употай смокча маю душу. Чалавек ніколі не здаволіцца тым, што ёсць. Яму трэба яшчэ хоць крыху лепш, нешта новае ў будучым. Можна смела сказаць, што «надежды юношей питают», але сюды трэба ўнесці адну папраўку, а менавіта: пад юнакамі ўяўляць усіх людзей.

Трэцяя гадзіна ночы. Іра спіць, я пішу дзённік».

Дзіўна, ён прыгадаў верш, які ў рускай паэзіі, магчыма, з найбольшаю сілай раскрывае філасофію смерці.

...Едва увидел я сей свет,
Уже зубами смерть скрежещет,
Как молнией, косою блещет
И дни мои, как злак, сечет...
Жизнь есть небес мгновенный дар;
Устрой ее себе к покою
И с чистою твоей душою
Благословляй судеб удар.

Ён, Юра, хацеў бы пранікнуцца гэтымі высокімі адносінамі да жыцця і смерці. Але і дарасламу гэта цяжка, а юнаку — тым больш.

Вось-вось настануць дні адчайнай барацьбы, найцяжэйшага выпрабавання, якое Юра Рабінкін паспее яшчэ прайсці. Неакрэплая яшчэ душа яго стала арэнаю барацьбы паміж сумленнем і голадам. Гэта лёгка сказаць — барацьбы. Ало трэба ўявіць сабе ўсё рэальна. Безумоўна, абавязак, любоў да маці і сястры, сорам, прышчэпленая яму прыстойнасць, сумленнасць — усё гэта процістаяла голаду, але голад — ён рос з кожным днём, ён не лічыўся ні з чым, і якія б табу ні ўзводзіў сабе Юра, голад не пад-

парадкоўваўся. Прымушаў браць, запіхваць у рот даважку хлеба — чужую! Нічога Юра не мог зрабіць з сабою. Як пакутуе ён, курчыцца ад сораму і агіды да сябе, каецца і зноў не вытрымлівае, парушае клятву, ён падае і ўсё ж не здаецца, ён і. далей карае сябе, сочыць за сабою... Вось гэтая барацьба, амаль безнадзейная, але якую Юра вёў да канца,— найдаражэйшае ў гісторыі яго кароткага жыцця.

***«12 снежня (працяг).*** Мамы няма дома. Праз паўгадзіны, а то і крыху раней трэба схадзіць у сталоўку трэста. Такім чынам, сёння ўжо 12 снежня. Дарэчы, гэта, здаецца, ужо IV гадавіна з дня выбараў у Вярхоўны Савет СССР. Сёння я адкрыта заяўляю, што больш за месяц мы ў Ленінградзе не пражывём. Гэта як 2Х2 = 4. Вось нехта стукае ў дзверы — бягу адчыняць, сэрца трывожна забілася ў грудзях, адчыняю... не мама, а Анфіса Мікалаеўна..,

5 гадзін вечара, а мамы няма. Значыцца, гэта нешта кепскае. Альбо ўсплыла справа з карткаю, і маму, магчыма, нават затрымалі ў бюро, альбо з мамаю адбыўся які-небудзь няшчасны выпадак. Можа, яна цяпер ужо ў бальніцы ці нават у трупярні... Лёс свой не прадбачыш...

І ўсё гэта з-за карткі. А навошта мама ўзяла тую картку? З-за мяне, з-за майго галоднага выгляду. Гэта я штурхнуў яе на злачынства, я віноўнік яе смерці, магчыма, альбо будучага жабрацкага жыцця мамы і Іры, Ціні-нага гора, не гаворачы пра зло, якое я прычыніў самому сабе. Я віноўнік усяго гэтага! Каб я не ўпадаў у меланхолію, у гугу, не было б гэтага нічога. Пад маім уплывам мама пайшла на злачынства, я павінен перанесці пакаранне з яе на сябе. А калі і гэта не выйдзе, калі я загубіў усе нашы жыцці, я пазбаўлю сябе жыцця, я мушу і магу гэта зрабіць. Пайсці добраахвотнікам у апалчэнне і хоць на фронце зрабіць добрую справу, загінуць за радзіму, загінуць, не забыўшы сплаціць свой доўг. «Любіш катацца — любі і саначкі вазіць». «Што пасееш, тое і пажнеш».

Калі гісторыя з карткаю выйшла наверх, дык я адпраўлю Ціне такую тэлеграму-маланку: «Паміраю. Дапамога не патрэбна. Забудзь пра нас. Юра». Але я так пісаў бы, калі б быў адзін. Ёсць жа Іра. Нарэшце, ці мала як можна сапсаваць усё іх жыццё? Памерці лёгка, а вось паставіць Іру на ногі!.. Пішаш і ледзь не плачаш. Учора мама кажа: «У мяне ўся надзея на бога. Вось я і камуністка, а ў бога,

веру. I Іра таксама». Але на бога спадзявайся, а сам не паддавайся. I ўсё-такі я адчуваю, што, напэўна, таксама раблюся рэлігійным, гляджу на ікону і малю бога, каб адцягнуў ад нас гэтае няшчасце...

А мамы няма і няма... Ужо шостая гадзіна вечара, пайшла, і вось дагэтуль няма... А сёння якраз быў недзе абстрэл...

Адзіны чалавек, якому мы дарагія, які не пакінуў бы нас у хвіліны няшчасця, Ціна — далёка-далёка, у Канску, у Краснаярскім краі, за блакадаю, за фронтам, за Уралам, за Енісеем, у самай сібірскай глушы...

Яшчэ чакаю паўгадзіны ці гадзіну, а пасля пайду ў трэст № 2. Я мушу ведаць, дзе мама. А калі яе там пасля першай гадзіны на бачылі, давядзецца заўтра распытваць у бальніцах, з’ездзіць у трупярні».

I рукою, што папаўзла ўніз па старонцы: «Што за жахі я тут пішу, я не магу больш. Божа мой, божа».

***«13, 14 снежня.*** Пішу за два дні, што рэдка са мною цяпер здараецца. Паўдня праваляўся ў пасцелі, вечарам схадзіў у магазін і купіў 6 плітак какавы з цукрам з соі па 30 р. (пачак — 100 г) ды яшчэ 300 г сыру па 19 р. кг. Па дарозе дахаты здарылася няшчасце, і я вярнуўся дамоў, маючы пры сабе толькі 350 г какавы і сыр. Была сцэна з мамай і Ірай. Мама, вярнуўшыся з райкома, паведаміла, што мы занесены ў спіс на эвакуацыю аўтамашынамі ў калоне Наркамбуда, якая, паводле абяцання райкома і райвыканкома, рушыць недзе 15—20 снежня. Заўтра быццам бы будзе яшчэ вырашацца пытанне наконт самалёта. Дома няма аніякай ежы, апрача 100 г хлеба, што мама выменяла па пачак тытуню. Баліць зуб, агульная слабасць, у ад’езд з Ленінграда неяк не верыцца, усе думкі толькі пра ежу; ледзь трымаюся на нагах, так што, нягледзячы на звесткі пра эвакуацыю і добрыя навіны з фронту (разгром нямецкай арміі пад Масквою, Растовам, Ціхвінам), пастрой упадніцкі. Каб хоць чым-небудзь падмацавацца, што-небудзь з’есці! Як тады ажыў бы я...

***15 снежня.*** Кожны пражыты мною тут дзень набліжае мяне да самагубства. Сапраўды, няма ніякага выйсця. Тупік, я не магу далей так жыць. Голад. Страшэнны голад. Зноў змоўклі ўсе наконт эвакуацыі. Становіцца цяжка

жыць. Шыць, не ведаючы дзеля чаго, жыць, каб марнець у голадзе і холадзе. Маразы да 25—30°, не ратуюць і валёнкі — іх прабірае праз якія 10 мінут. Не магу... Побач мама з Іраю. Я не *магу адбіраць* ад іх апошні кавалак хлеба. Не магу, бо ведаю, што такое цяпер нават хлебная крошка. Але я бачу, што яны дзеляцца са мною, і я, мярзотнік, *цягну ў іх спадцішка апошняе*. А да чаго яны дайшлі, калі мама ўчора са слязамі на вачах кажа мне, што яна шчыра жадае мне ўдавіцца ўкрадзенаю ў яе і ў Іры даважкаю хлеба ў 10—15 грамаў. Які страшэнны голад! Я адчуваю, ведаю, што калі б раптам мне прапанаваў хто-небудзь смяротную атруту, смерць ад якой наступае без пакут, падчас сну, я ўзяў бы яе і прыняў бы. Я хачу жыць, але гэтак жыць не магу! Ало я хачу жыць! Дык што ж?»

І зноў цераз усю старонку дзіцячае, безабароннае: «Дзе мама? Дзе яна?»

«Ну вось і ўсё... Я страціў сваё сумленне, страціў веру ў яго, я атрымаў сваю долю. Два дні таму назад мяне паслалі па цукеркі. Мала таго што я замест цукерак купіў какаву з цукрам (разлік на тое, што Іра яе есці не будзе і больш дастанецца мне), я яшчэ палову «ўсяго» — нейкія 600 г выдзялялася нам на цэлую дэкаду — прысвоіў, выдумаў апавяданне, як у мяне выхапілі з рук тры пачкі какавы, разыграў дома камедыю са слязамі і даў маме піянерскае слова гонару, што ніводнага пачка какавы я сабе не браў... А пасля, гледзячы зачарсцвелым сэрцам на мамiны слёзы і гора, што яна пазбаўлена салодкага, я паціху еў какаву. Сёння, вяртаючыся з булачнай, я ўзяў даважку хлеба ад мамы і Іры грамаў на 25 і таксама ўпотай з'еў. Цяпер у сталоўцы я з'еў талерку супу з крабамі, біточкі з гарнірам і паўтары порцыі кісялю, а дадому маме і Іры прынёс толькі паўтары порцыі кісялю і з іх таксама ўзяў дома сабе частку.

Я скаціўся ў бездань, што называецца разбэшчанасцю, поўнай адсутнасцю сумлення, няславаю і ганьбаю. Я нягодны сын сваёй мацеры і нягодны брат сваёй сястры. Я эгаіст, чалавек, які ў цяжкую хвіліну забывае пра ўсіх блізкіх і родных. І ў той самы час, калі я раблю гэтак, мама выбіваецца з сіл. З апухлымі нагамі, з хворым сэрцам, у лёгкім абутку па марозе, без кавалачка хлеба за дзень яна бегае ад аднае ўстановы да другое, робіць жалю вар-

тыя намаганні, каб вырваць нас адсюль. Я страціў веру ў эвакуацыю. Яна для мяне знікла. Увесь свет замяніўся мне ежаю. Усё астатняе створана дзеля ежы, дзеля яе здабывання, атрымання...

Я прапашчы чалавек. Жыццё для мяне ўжо скончылася. Тое, што чакае мяне наперадзе,— гэта не жыццё, я хацеў бы цяпер дзве рэчы: памерці самому, цяпер, а гэты дзённік няхай прачытала б мама. Няхай бы яна пракляла мяне, брудную, нячулую, крывадушную жывёліну, няхай бы яна адраклася ад мяне — я надта паў, надта...

Што будзе далей? Няўжо смерць не возьме мяне? Ало я хацеў бы хуткай, не пакутлівай смерці, не галоднай, што стала крывавым прывідам так блізка наперадзе.

Такі сум, так сорамна, крыўдна глядзець на Іру...

Няўжо я скончу самагубствам, няўжо?

Есці! Есці!

***24 снежня.*** Не пісаў я ўжо шмат дзён. 16, 17, 18, 19, 20, 21, 22, 23. Цэлыя 8 дзён рука не брала ў рукі пяра.

Са мною адбыліся перамены. З'явілася нешта добрае, як мне здаецца, у маім характары. Паварот гэтаму дала страта Ірынае карткі на цукар. О, як я тады подла абышоўся з мамаю і Іраю! Зазяваўся ў краме і згубіў 200 г цукру, 100 г шакаладу Іры і маме і 150 г цукерак. Я хачу перамяніцца, хачу выкаваць у сябе іншы характар, ало адчуваю, што без мамінай і Ірынай падтрымкі я не працягну доўга на маім новым сумленным шляху. Няхай бы япы як-небудзь згладжвалі, ну, далей я не магу проста выказацца. Сёння я першы раз за многа ўжо дзён прынёс дамоў цалкам усе цукеркі, што выкупіў у сталоўцы, дзялюся з Іраю і мамаю хлебам, хоць часам яшчэ крадком сцягну крошку. Але сёння я адчуў да сябе такія цёплыя адносіны з боку мамы і Іры, калі яны ўзялі і аддалі мне ад сваіх цукерак: мама — чвэртку цукеркі (зрэшты, яна пасля зноў узяла сабе), а Іра — палову цукеркі за тое, што я хадзіў у сталоўку па пернікі і па цукеркі і перапечкі з макухі; я ледзь не расплакаўся ад яе такое дабрыні. Гэта ж людзі, тыя людзі, якіх я так падманваў раней і якія ведаюць цяпер пра тыя падманы! Чаго толькі не могуць зра-

біць добрыя адносіны! Ало пасля тая самая мама ўзяла ў мяне пернік, паабяцаўшы лішнюю цукерку (а лішнюю цукерку атрымала сама), а тая ж Іра плакала, што мама дала і ёй і мне аднолькава па цукерцы, а я пасля яшчэ Іры ад сваёй цукеркі даў, так што цукерак Іра з'ела больш, чым я. Праўда, сёння мой грэх: утоіў ад мамы і Іры адзін пернік... Ну... вось гэта кепска.

Маме нешта абяцаюць у райкоме, што яе эвакуіруюць 28/XII... Цяпер мама пайшла ў райком наконт гэтай справы, калі эвакуацыя будзе адтэрмінована да 1 студзеня, мы загінем, таму што ў нас засталося талонаў толькі на два дні, ледзь-ледзь па тры. Не больш. Маміна здароўе ўсё пагаршаецца. Пухліна ў яе падымаецца ўжо да сцягна. Я завашывеў канчаткова... Я і Іра крыху апухлі з твару. Сёння скончыліся цукеркі. Заўтра не стане і круп. Паслязаўтра — мяса і масла. А пасля, пасля...»

Рэальнасць такая, што чалавеку хочацца ўшчыкнуць сябе, праверыць: ці гэта я, ці я не сплю, ці гэта са мною адбываецца? Але гэта ты, ты — і няма куды схавацца ад праўды. Тваё, а но чыё там яшчэ жыццё канчаецца, амаль ужо скончылася ў шаснаццаць, у нейкія шаснаццаць гадоў! Юра то ўхіляецца, хаваецца ад гэтых думак, ад відавочнасці, то раптам кідаецца насустрач праўдзе, усёй праўдзе — з горыччу, з жалем, з роспаччу.

І з удзячнасцю за тое нешматлікае, што ён паспеў, спазнаў, за ўсё, што зусім не цаніў учора, дзякуе Юра жыццю, якое гэтак нелітасціва ад яго адвярнулася...

Прайсці яго з канца ў канец — такое нядоўгае — зусім не складана. Гэта як но па кватэры прайсціся. І Юра, канчаючы свой дзённік, свой крыжовы блакадны шлях, адчуў гэтую патрэбу — яшчэ раз, магчыма, апошні раз абысці страшную, халодную, блакадную кватэру, у кожным куточку якой тлее ўспамін пра зусім іншы час, калі жыццё было бясконцае.

Гэта апошні Новы год Юры Рабінкіна...

«Ціхі пануры смутак. Цяжка і балюча. Чорная журба і няўцешная скруха. Можа, і яшчэ што-небудзь. Толькі, калі я выходжу з кухні ў нашу кватэру, мне ўспамінаюцца праведзеныя тут дні і вечары. У кухні ёсць яшчэ нейкі міраж нашага былога даваеннага жыцця. Палітычная карта Еўропы на сцяне, хатняе начынне, часам раскрытая для

чытання кніга на стале, ходзікі на сцяне, цяпло ад пліты, калі ў ёй паліцца... Але мне хочацца зноў абысці ўсю кватэру. Апранаеш ватоўку, шапку, падпяразваешся, нацягваеш рукавіцы на рукі і адчыняеш дзверы ў калідор. Тут мароз. З рота ідуць густыя клубы пары, холад забіраецца пад каўнер, міжволі пацепваешся. Калідор пусты. Адзін на адным стаяць пастаўленыя Анфісаю Мікалаеўнай) чатыры яе крэслы ды каля сцяны навалены дошкі ад пасечанай на дровы шафы. У нас было тры пакоі. Цяпер сапраўды нашымі можна лічыць толькі два з іх. Крайні ад кухні заняты І. Пра іх няма чаго гаварыць. У іх пакоі весела патрэсквае агонь у буржуйцы, з-пад іх дзвярэй ідзе смачны пах, твары жыхароў гэтага пакоя свецяцца шчасцем, пачуццём сытасці. І побач пусты пакой, абклееены карычневымі шпалерамі; акно разбітае, гуляе халодны вецер з вуліцы, каля сцяны голы дубовы стол і голая этажэрка ў кутку. На сценах пыл і павуцінне... Што гэта? Гэта былая сталоўка, месца весялосці, месца вучобы, месца адпачынку для ўсіх нас. Тут калісьці (гэта, здаецца, было даўно-даўно) стаялі канапа, буфет, крэслы, па стале стаяў недаедзены абед, на этажэрцы кнігі, а я ляжаў на канапе і чытаў «Трох мушкецёраў», закусваючы іх булкаю з маслам і сырам альбо смакуючы шакалад. У пакоі стаяла гарачыня, а я «всегда доволен сам собой, своим обедом и...», апошняга ў мяне не было, але затое былі гульні, кнігі, часопісы, шахматы, кіно... а я перажываў, што не пайшоў у тэатр ці яшчэ куды-небудзь, як часта пакідаў сябе без абеду аж да вечара, аддаючы перавагу валейболу і сябрам... І нарэшце, ці ж лёгка ўспомніць ленінградскі Палац піянераў, яго вечары, чытальню, гульні, гістарычны клуб, шахматны клуб, дэсерт у яго сталоўцы, канцэрты, балі. Гэта было шчасце, пра якое я нават не падазраваў,— шчасце жыць у СССР, у мірны час, шчасце мець тых, хто пра цябе клапоціцца,— маці, цётку, ведаць, што будучыні ў цябе ніхто не адбярэ. Гэта — шчасце. І наступны пакой — змрочная, панурая, цёмная клець, загружаная ўсякімі пажыткамі, што засталіся ў пас. Там стаіць камода, разабраныя ложкі, два пісьмовыя сталы адзін на адным, канапа, усё ў пыле, закрытае, запакаванае і можа ляжаць тут хоць тысячу гадоў...

Халадэча выганяе пас з гэтага пакоя. Але калісьці тут была плітка, на ёй смажыўся амлет, сасіскі, гатаваўся суп, за сталом сядзела мама і доўга па начах працавала пры святле настольнае лямпы... Тут, бывала, круціўся патэ-

фон, лунаў вясёлы смех, ставілася агромністая, аж пад столь, ёлка, запальваліся свечкі, прыязджала Ціна, прыходзіў Мішка, на стале ляжалі кучы бутэрбродаў (з чым іх толькі не было!), на ёлцы віселі дзесяткі цукерак, пернікаў (ніхто іх не еў), чаго толькі не было! А цяпер тут пуста (здаецца, што так), холадна, цёмна, і няма чаго заглядваць мне ў гэты пакой.

Кухня, адна кухня — месца, дзе працякае наша хатняе жыццё. Тут мы ямо (калі ёсць што пакласці на язык), тут мы грэемся (калі ёсць чым напаліць пліту), тут мы спім (калі крыху менш кусаюць вошы), тут — наш куточак.

Кватэра запусцела. Жыццё ў ёй зусім заціхла. Яно быццам бы застыла, ператварылася ў лядзяш, а раставаць яму толькі ў сне».

Пасля гэтага запісу ў агульным сшытку ў чорным пераплёце — дзённіку Юры Рабінкіна — яшчэ тры старонкі.

***3 студзеня.*** Ледзь не апошні запіс у дзённіку. Баюся, што і запіс... і дзённік гэты не давядзецца мне скончыць, каб на апошняй старонцы напісаць слова «канец». Ужо хто-небудзь іншы запіша яго словам «смерць». А так прагна хачу жыць, верыць, адчуваць! Але... эвакуацыя будзе толькі вясною, калі пойдуць цягнікі па Паўночнай дарозе, а да вясны мне не дажыць. Я апух, кожная клетка маёй тканкі ўтрымлівае вады больш, чым трэба. Гэта азначае, што распухлі ўсе ўнутраныя органы. Я лянуюся перамясціцца з аднаго месца на другое, лянуюся ўстаць з крэсла, прайсціся. Але гэта ўсё з-за лішняе вады, недахопу яды. Толькі адно рэдкае, рэдкае, рэдкае... І апух. Мама і Іра парвалі са мною. Яны пакінуць мяне, у мамы ўжо цяпер стала такая нервовая сістэма, што яна гатова паклапаціцца, і тады... Як гэта ўжо бывала, яна мне кожны дзень кажа, яны з Іраю як-небудзь выберуцца адсюль, а мне не выбрацца. Які з мяне працаўнік? Які з мяне вучань? Ну папрацую я, павучуся з тыдзень, а там і працягну ногі... Няўжо ж гэта так і будзе? Смерць, смерць проста на вачах. І падзецца ад яе няма куды. Ісці ў бальніцу — я ўвесь абвашывеў... Што мне рабіць, о божа? Я ж памру, памру, а так хочацца жыць, выехаць, жыць, жыць!.. Але, можа, хоць застанецца жыць Іра. Ох, як кепска на сэрцы... Мама цяпер такая грубая, часам б’е мяне, і лаянку ад яе чую няспынна. Але я не крыўдую на яе за гэта, я — паразіт,

што вісіць на яе і Ірынай шыі. Так, наперадзе смерць, смерць. І няма аніякай надзеі, толькі страх, што вымусіш загінуць разам з сабою і родную маці і родную сястру.

***4 студзеня...*** А наперадзе яшчэ цэлы месяц да паляпшэння з прадуктамі і ад'ездам. Што з намі будзе да канца гэтага месяца, у якіх жабракоў мы ператворымся, калі толькі нас не вырве адгэтуль якісьці найшчаслівейшы дар фартуны, божая літасць, нябеснае выратаванне дасць нам эвакуацыю заўтра, паслязаўтра, да сярэдзіны 2-й дэкады... Толькі нейкі бог, калі такі ёсць, можа даць нам паратунак. Няхай ён выратуе нас цяпер: ніколі, ніколі не давядзецца больш мне ашукваць маці, ніколі не давядзецца ганьбіць сваё чыстае імя, яно зноў стане ў мяне свяшчэннае, о, толькі б нам была даравана эвакуацыя, цяпер! А я кляну-ся сваім жыццём, што назаўсёды пакончу са сваім гнюсным падманлівым жыццём, пачну сумленнае працавітае жыццё ў якой-небудзь вёсцы, падару маме шчаслівую залатую старасць. Толькі вера ў бога, толькі вера ў тое, што ўдача не абміне заўтра мяне і нас траіх, вера на адказ Пашына ў райкоме — «ехаць»,— толькі гэта ставіць мяне на ногі. Калі б не гэта, я б загінуў. Але я хачу застацца, праўдзівей, хацеў бы, ды не магу... Толькі заўтрашні ад'езд... Я змагу адплаціць дабром у адносінах да Іры і да мамы. Божа, толькі выратуй мяне, падары мне эвакуацыю, выратуй усіх нас траіх,— і маму, і Іру, і мяне!..

***6 студзеня...*** Я амаль зусім не магу ні хадзіць, ні працаваць. Ледзь не поўная адсутнасць сіл. Мама таксама ледзьве ходзіць — я нават уявіць сабе гэтага не магу, як яна ходзіць. Цяпер яна часта мяне б'е, лае, крычыць, у яе бываюць бурныя нервовыя прыпадкі, яна не можа вынесці майго кепскага выгляду — выгляду слабога з-за недахопу сіл, галоднага, змучанага чалавека, які ледзь перасоўваецца з месца на месца, перашкаджае і «прыкідваецца» хворым і нямоглым. Але ж я не сімулюю сваю немач. Не! Гэта не прытворства, сілы (...) з мяне выходзяць, выходзяць, плывуць... А час цягнецца, цягнецца, доўга і марудна!..
О божа, што са мною адбываецца?

І цяпер я, я, я...»

Нам лягчэй чытаць не пра самыя пакуты, а пра іх пераадоленне, у гэтым мы прызнаем сэнс — у барацьбе, якая выйграна, у гібелі, якая апраўдана. Але жыццё не заўсёды дорыць такое апраўданне. Юру яно не было дадзена. Мы

нічым не можам памагчы яму, мы можам толькі спачуваць. І таму, што памагчы няма як, і таму, што Юра не знайшоў выйсця і нам няма за што папракнуць яго,— спачуванне і жаль яшчэ мацнейшыя.

Мы сочым за яго барацьбою з уласнымі слабасцямі, за яго перамогамі, а яму кепска, вельмі кепска. Яму так неабходна, каб яго хто-небудзь пашкадаваў. Маці знервавалася канчаткова — на мяжы галоднага шаленства; Іра — знясіленае замучанае дзіця, ну, а суседзям І. няма да яго справы. Каму ж ва ўсім, ва ўсім свеце ён патрэбны, каму да яго справа? Юра ўжо і сам не верыць, што камусьці ён патрэбны вось такі — сонна-вялы ад вадзянкі, завашывелы, з усім яго «крымінальным» мінулым (употай з'едзеныя кавалачкі хлеба, лыжка кашы з каструлі Анфісы Мікалаеўны вырастаюць у яго свядомасці да ўчынкаў недаравальна цяжкіх). І гэты хлапчук усім, усяму свету (нават богу, «калі ён ёсць») абяцае шчыра, чулліва, што заўсёды будзе сумленны, добры, чулы, «сціпла жыць у вёсцы», а маці будзе мець шчаслівую спакойную старасць... Гэта не хітрасць істоты, якая гіне, каб толькі задобрыць некага (невядома каго), расчуліць, вымаліць у неба эвакуацыю, выратаваць жыццё. Ён шчыра пакутуе ўсведамленнем таго, што яго слабасць, нямогласць (а мы ўжо ведаем, што ён у гэтым сапраўды не вінаваты: мужчыны раней за жанчын спаўзалі да падобнага стану) загубіць і маці і сястрычку, і гатоў заплаціць уласным жыццём за іх выратаванне. Але ці ж вінаваты ён, што яму так хочацца жыць, жыць?..

Юра, як і ўсе яго аднагодкі, ніколі не лічыў, што трэба нечым даказаць, заслужыць права па высокія мары, надзею на шчаслівую, змястоўную будучыню, а тым больш права па жыццё. Што можа быць натуральней за гэтае права? Мары — няхай, надзеі — добра, але каб і права на жыццё, п р о с т а  ж ы ц ь, трэба было даказаць, заслужыць! Але якраз такі час прыйшоў, такі момант падступіў: смерць, смерць на кожным кроку. Усё адабрана ў яго: цяпло, харчы, нават любоў маці, якая (як Юру здаецца) усё больш зжываецца са страшнаю думкаю, што калі яшчэ і можна выратаваць хоць Іру, то толькі задушыўшы ў сабе жаль да налітага вадзянкаю, знясіленага сына, які ўжо няздольны нават выйсці, выехаць з горада, калі яны і атрымаюць дазвол на эвакуацыю... (Паўторым, што так здаецца Юру, так зафіксавана ў яго дзённіку, а што сапраўды адчувала маці, як дазнаешся пра гэта?)

На што, па каго яму, знясіленаму, абаперціся, як абмінуць смерць, вырвацца туды, дзе жыццё, дзе нейкая будучыня?.. І не нейкая, а выверaная неймавернымі пакутамі, найцяжэйшымі цярпеннямі! Гэту будучыню, сваё жыццё — калі яго падорaць яму — Юра бачыць як служэнне іншым, як сумленнасць, сціпласць, д а б р ы н ю . Ён і цяпер гатовы — хоць так хочацца жыць, жыць! — ахвяраваць сабою, толькі б не перашкодзіць маці і Іры выратавацца...

Тым, хто побач з ім (і самому Юру), здаецца, што ён апусціўся, страціў сябе, а ён падняўся як ніколі раней, здабыў сябе вышэйшага...

Што ж наконт звароту да бога, дык пачуццё гэта не рэлігійнае — адкуль яно магло ўзяцца ў Юры? Хутчэй, гэта зварот да лёсу, падзея на выпадак і на нейкага зусім канкрэтнага Пашына з райкома. Канечне, тут ёсць свая складанасць. Прызнаемся, што ў дні вайны былі такія страшныя, поўныя роспачы хвіліны, калі міжволі звярталіся да цуда; дзіця, тое паўтарае: «Мама!» — а мы, ужо салдаты, праўда, яшчэ неабстраляныя, мы ж таксама нібы звярталіся да лёсу, да надзеі, да нейкай звышнатуральнай сілы... Гэта было, і нікуды ад гэтага не дзенешся.

І вось пастаў гэты момант — дзень эвакуацыі. Тое нешматлікае, што патрэбна ў дарогу і што можна ўзяць з сабою, складзена на саначкі. Юра таксама прыўзняўся на сваім ложку, пашукаў свой кіёк (дзённік пры ім?), паспрабаваў устаць на ногі, не змог, не здолеў, упаў на ложак...

## АСТАЦЦА ЧАЛАВЕКАМ

Блакада была процiборствам з фашызмам, процістаяннем яму на ўсіх узроўнях і па ўсіх магчымых напрамках: ад Стаўкі ў Маскве да малога радыуса Г. А. Князева ці Юры Рабінкіна.

Той нямецкі афіцэр, які наведаўшую яго нявесту «начаставаў Пецярбургам» — некалькімі гарматнымі стрэламі, зробленымі цікаўнай і баязлівай ручкаю патрыёткі фройлян (факт запісаны Вольгай Бергольц),— і былы ра-

ботнік Публічнай бібліятэкі артылерыст Сяргей Міляеў, у якога ў гэтым «Пецярбургу» паміраюць з голаду дзеці,— абодва афіцэры-артылерысты, але адзін на баку бесчалавечнасці, другі — абаронца чалавека і чалавечае культуры ў другой сусветнай вайне.

Людзі, што адшуквалі, вынаходзілі харчы і вітаміны з бог ведае якіх заменнікаў, людзі, што здабывалі паліва, цяпло, якое зберагала дзіцячыя жыцці, культурныя і навуковыя каштоўнасці,— іх уклад у гераічнае процістаянне Ленінграда фашызму, можа, быў не такі відавочны, як залпы Кранштата.

Але гэта таксама было процістаянне, і не менш важнае для выніку барацьбы на паўночным флангу бяскрайняга фронту.

Работнік Публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына «непапраўны інтэлігент» С. Г. Міляеў стаў вопытным артылерыстам; прафесар лесатэхнічнай акадэміі В. І. Шаркоў ствapae харчовыя дрожджы і іншыя заменнікі, якія выратавалі жыццё тысячам людзей; радавы тэхнік Б. І. Шэлішч, «заахвочаны» самімі абставінамі — не стала бензіну, электраэнергіі,— вынаходзіць «вадародны рухавік» з падручных матэрыялаў, з дапамогаю якога падымаліся і апускаліся аэрастаты загароды.

А ўрачы! Ім даводзілася многае адкрываць нанова. Высветлілася, што сусветная медыцына ўражліва мала ведае пра голад, дыстрафію. Часам здаецца, што чалавецтва зусім па-дзіцячы спяшаецца забываць непрыемныя і крыўдныя перажыванні, да якіх належыць і масавы голад.

У лісце-водгуку на публікацыю першай часткі «Блакаднай кнігі» адзін ленінградзец расказаў, як ён трапіў у стацыянар, ляжаў там дзесяць дзён і здзівіў урачоў тым, што вельмі страціў у вазе. Ён траціў ваду (быў апухлы), прыходзячы да нормы, але тады аб гэтым не адразу здагадаліся. Альбо трагічныя выпадкі ў Кабоне, калі вывезеныя за Ладагу дыстрофікі накідваліся на ежу і гінулі... На адной са станцый, побач з якой праязджалі эвакуіраваныя, яны прачыталі плакат: «Гарачае прывітанне ленінградцам-дыстрофікам!» Людзі, што напісалі гэта, начыста забылі нават значэнне самога слова «дыстрафія». Быццам бы і не было 1921 ці 1933 гадоў!..

Жазуа дэ Кастра паведамляе ў кнізе «Геаграфія голаду», што ў час вызвалення зняволеных з фашысцкіх канцлагераў выявілася ўсё тая самая дзіўная забыўлівасць лю-

дзей, нават медыкаў, у адносінах хваробы, што завецца дыстрафіяй. Нанова і не адразу адкрылі, успомнілі, што найлепшы і першы сродак — знятае малако. А пакуль успаміналі, вызваленыя дыстрофікі працягвалі гінуць, нягледзячы на ўвесь догляд і намаганні ўрачоў.

«Да самага апошняга часу,— сцвярджае аўтар кнігі «Геаграфія голаду»,— пытанне гэтае, паколькі яно закранае праблемы сацыяльнага і палітычнага характару, было адным з табу нашае цывілізацыі. Гэта была наша ў вышэйшай ступені ўразлівая ахілесава пята — тэма, якую было даволі небяспечна абмяркоўваць публічна...

Для арганізаванай змовы маўчання мелася некалькі прычын. На першым месцы стаялі меркаванні маральнага парадку; голад належыць да ліку прымітыўных інстынктаў, і рацыяналістычную культуру, што намагалася ўсімі сродкамі насадзіць у паводзінах чалавека панаванне розуму над інстынктам, сама пастаноўка гэтага пытання шакіравала...» *

Блакадныя ленінградцы шмат чаго вынаходзілі нанова — ва ўмовах найцяжэйшых. З чым толькі не даводзілася сутыкнуцца, змагацца радавому блакадніку, якога Г. А. Князеў называе пасіўным гераічным абаронцам Ленінграда! Галоднаму, пасярод трупаў, у цемры апраметнай...

І ён таксамаператварыўся ў спецыяліста, гэты няўзброены абаронца Ленінграда,— і не толькі ў справе, да якой яго паставіў франтавы горад.

Пра тое, як былыя блакаднікі ставяцца да хлеба, пра гэта пісалі. Але вось як яны па-асабліваму разумеюць, адчуваюць чалавека — пра гэта сказаць варта. Людзі такое перажылі, такое бачылі, даведаліся пра сябе і пра іншых, што амаль кожны задумваўся аб чалавеку, яго магчымасцях і іх межах, і кожны можа выказаць вам сваё меркаванне пра гэта. Г. А. Князеў разважае пра чалавека перш за ўсё з духоўнага боку. Для яго гэта натуральны, «прафесійны», калі хочаце, пункт погляду. Ад медыка вы пачуеце і пра фізічныя магчымасці, межы чалавечага арганізма.

Але часцей, чым пра фізічныя магчымасці, блакаднікі сведчаць пра духоўныя праявы, рэзервы чалавечыя, як гэта ім адкрылася ў тыя дні і месяцы.

* Жазуа дэ Кастра. Геаграфія голаду, с. 31.

Людміла Мікалаеўна Бакшыцкая ўспамінае:

«Я перажыла блакаду ў самым суровым выглядзе: без запасаў, без дапамогі, але з вераю, што хутка скончыцца. Але наступіў момант, ужо ў снежні 1941 года, калі стала ўсё абыякавае: не маглі пайсці выкупіць хлеб, не ўставалі з ложка. Ляжалі трое: мама, сястра і я. Не рэагавалі на сігналы трывогі, не чулі, што ляцяць бамбардзіроўшчыкі. І як вы пішаце: «У кожнага быў свой збавіцель»... У наш пакой зайшла суседка Надзея Сяргееўна Купрыянава. Яна вырашыла, што і мы ўжо мёртвыя, бо ў кватэрах, дзе было шмат жыхароў, жывых ужо не было... Убачыўшы, што і мы ўжо «заляглі», што мы ўжо абыякавыя да гэтага нашага стану, Надзея Сяргееўна са словамі, што яна не дасць загінуць сям'і такой цудоўнай жанчыны, пайшла. Хутка яна вярнулася з дрывамі. Запаліла ў печы, прынесла ваду. Сказаўшы, што ім у шпіталі далі труса, паставіла ў печ каструлю з трусом. Варыўся суп, яна нас мыла, адгарадзіўшы коўдраю ад асноўнага холаду. За гэтыя дні наш кутні пакой першага паверха так прамёрз, што цяпло было толькі каля печы ў радыусе аднаго метра. Толькі пасля абеду мы даведаліся, што гэта кот, апошні, напэўна, а не трус. Гэты абед і гэтая ўвага дазволілі пратрымацца да 10 студзеня 1942 года.

8 і 9 студзеня мы зноў без адчування, што з намі адбываецца, ляжалі з мамай, дзве дачкі, ва ўсім адзенні, не выкуплялі хлеб і ўжо нават не гаварылі пра яго, як было раней. Мама пачала варушыцца, штосьці, як мне здалося, у сне, пачала ціха пытаць. А пасля мама нібыта спалохана задала пытанне: якое сёння чысло? І па тым, што мы два дні не выкуплялі хлеб, вызначылі, што было 10 студзеня 1942 года. І раптам мама сказала, што ў гэты шчаслівы для яе дзень мы не павінны паміраць, сёння ж дзень нараджэння Люсены, гэта значыць, мой дзень нараджэння. Мы павінны сёння ўстаць і ўладкавацца на снегаўборачную працу. Верагодна, пачула па радыё, што патрабаваліся рабочыя... І цяпер гэту дату я лічу не толькі сваім днём нараджэння, але і днём нараджэння агульным — і мамы і сястры. Мы пайшлі на вуліцу Скараходава, дзе быў пункт па працаўладкаванню... Спачатку мы рабілі па тры крокі і спыняліся, але ненадоўга, пасля па дзесяць крокаў... Я памятаю, як мы лічылі, каб не больш, баючыся, што можам не справіцца, як мы спыняліся, праяўлялі пільнасць, каб не замерзнуць»...

Калі слухаеш некаторыя расказы блакаднікаў, здаецца, што ўсе ленінградцы начыталіся Дастаеўскага! Тут і «бездань», тут і «неба» душы чалавечае — усё адначасова.

Вядома ж, не з кніг узята гэтае веданне межаў чалавечых, разуменне чалавека, яго ўзлётаў і падзенняў. Веданне, разуменне, якому блакаднік зусім не радуецца; надта дарагою цаной яно куплена, з вельмі горкаю памяццю яно звязана.

Блакаднік часам нават не пагаджаўся з літаратурай — вялікай, бясспрэчнай нам. Пражыўшы пад абстрэламі, бамбёжкай амаль тры гады, настаўніца Ксенія Уладзіміраўна Поўзікава-Рубец у сваім дзённіку спрачаецца «з самім Львом Талстым» аб псіхалогіі чалавечай.

«Я іду пешшу да вакзала Новай Вёскі. Езджу ў паліклініку праз дзень... І ніколі не прыходзіць думка — а можа, я не дайду? Гэта не храбрасць, а прывычка. Леў Талстой не мае рацыі, калі кажа: «Раней Растоў, ідучы на справу, баяўся, цяпер ён не зазнаваў нават найменшага пачуцця страху. Не таму ён не баяўся, што ён прывык да агню (да небяспекі нельга прывыкнуць), але таму, што ён навучыўся кіраваць сваёй душою перад небяспекаю...» Мы менавіта прывыклі. Мы кладзёмся спаць пад гукі сірэны, пад выццё зенітак, пад гукі абстрэлаў, і мы засынаем без намаганняў, ад фізічнае стомленасці, ад прывычкі засынаць у гэты час, і будзіць нас толькі сіла гуку. Розумам мы ведаем, што нам пагражае небяспека, але пачуццё маўчыць».

У любым іншым выпадку мы ўзяліся б абараняць абсалютны аўтарытэт Талстога. А тут змоўчым. Былы блакаднік ведае пра сябе часам такое, што чалавеку лепш бы не ведаць. Пра сябе і пра чалавека тое, што мучыць, як асколкі ў целе.

Гэтыя «асколкі» — у памяці.

Але блакаднікі, хоць і ўсё выпрабавалі, у масе сваёй захавалі найглыбейшую веру ў чалавека, у чалавечнасць. Памяць іх утрымлівае ўсю праўду абставін, якія падчас бывалі мацнейшыя за канкрэтнага чалавека. А таму рэдка хто гаворыць з пагардаю, а не са спачуваннем пра людзей, якія пацярпелі маральнае паражэнне. Нават пра тых, хто ў яго адбіраў хлеб у магазіне. Занадта жорсткія былі мукі голаду, і не кожны мог іх вытрымліваць. Асабліва паблажлівыя ў сваіх расказах жанчыны, і асабліва да мужчынскае часткі насельніцтва, якая вымірала ў першую чаргу.

«Сапраўды, было, што выхоплівалі хлеб (у мяне ў тым ліку), але ж гэта хворыя на голад, звар'яцелыя людзі,— піша Кацярына Васільеўна Воўчар.— Ні тады, ні цяпер у мяне не стае сіл абвінавачваць іх. Я таксама адзін раз хацела адабраць хлеб, калі ў мяне дома ўсе пaміралі і я ніяк не магла дастаць хлеба на два дні наперад. Раптам убачыла ў булачнай жанчыну карлікавага росту з цэлым боханам хлеба і пачала яе праследаваць, шукаць зручны момант, але ўсё-такі апамяталася і прыйшла ў жах ад сваіх намераў. Мабыць, я была яшчэ не зусім звар'яцелая...»

Так, не толькі пра іншых, але і пра сябе такое, і вельмі шчыра расказваюць некаторыя блакаднікі: памяць мучыць. Гэта не тое веданне, якому можна радавацца, не тое адкрыццё, якім захочаш хваліцца. Але людзі апавядаюць: іх сённяшні погляд назад, на сябе ўчарашняга, на свае ўчарашнія ўчынкі, перажыванні, выказвае і боль, і жаласлівае здзіўленне, недаўменне. Няўжо я, няўжо мы маглі так думаць, так адчуваць?! Вось бацька пайшоў, і няма яго доўга — спачатку за яго неспакой, трывога, маці паслала дачку па яго маршруту шукаць — не сустрэла, не знайшла, цяпер толькі шкадаванне картачкі: прапала, нехта забярэ!.. Ды і калі пасылала, сказала: «Прывядзі, а калі не зможаш — забяры картку».

Альбо: муж упаў на вуліцы, жонка з горыччу, з болем успамінае, што першае пачуццё было не жаль, што памрэ, а перапалох — як я яго мёртвага буду цягнуць, як давязу?

Шмат што здольны перанесці чалавек і застацца чалавекам, пра гэта сведчыць большасць блакадных расказаў, дзённікаў. Трэба толькі ўлічваць усю складанасць праяўлення чалавечага... У сем'ях, дзе адносіны паміж людзьмі былі і да вайны ясныя, вышыня чалавечых паводзін дасягалася працей і лягчэй, з меншымі стратамі. Вось яшчэ адна ленінградская сям'я, лёс — Святланы Аляксандраўны Ціхаміравай.

«...25 сакавіка сорак другога года мне хацелася зрабіць маме нейкі падарунак, у свае 14 гадоў што-небудзь купіць ёй. Кускавога цукру не было, пілаванага не было, быў цукар-пясок. Не памятаю, па якой норме мы атрымлівалі. Раніцай, калі пілі чай, мама насыпала цукровага пяску ў сподачак бацьку, мне і сабе. І трэба было неяк непрыкметна ад гэтае порцыі аддзяліць нейкую частку, ссы-

паць яе часам у жменю, часам пакінуць у сподачку, часам перакласці ў кішэню і пасля куды-небудзь ссыпаць. У мяне была такая даўняя вазачка. Я збірала цукровы пясок у яе. Месяцаў з два, напэўна, пайшло на гэта — не заўсёды ўдавалася. Бацька рабіў выгляд, што не заўважае, а мама як ішла да буржуйкі чай наліць — вось у гэты час я ссыпала. У нас заўсёды ў гэты час адмакаў клей у талерачцы на акне — такі, у выглядзе пліткі з шакаладу, адмакаў некалькі дзён. І гэты клей быў на снеданне, на абед. Хавала я гэты цукровы пясок. Калі ён трапляўся мне на вочы, дык мне ўсё хацелася абмакнуць у яго палец і пакаштаваць. Быў выпадак, калі мне хацелася ўночы ўстаць і басанож дайсці да гэтай вазачкі.

Калі наступіў гэты дзень, я, памятаю, вельмі хвалявалася, і нават далоні былі мокрыя. Хацелася ўстаць раней за маму. Я паставіла на стол поўную вазачку з цукровым пяском: назбіралася, напэўна, грамаў 300! Ну, вядома, былі слёзы. Адразу ж гэты цукровы пясок падзялілі. Так святкавалі дзень нараджэння.

А бацьку яшчэ да гэтага, у дзень Чырвонай Арміі, я падарыла паўсухара. Не памятаю, як я яго сэканоміла».

І сёння павучальна, як блакаднік адкрываў, пазнаваў свае духоўныя магчымасці. І іх таксама скарыстоўваў — узамен сіл фізічных, хлеба паўсядзённага. Апошняе не фраза, не словы толькі. Запісы Г. А. Князева чым далей, тым больш раскрываюць, як гэта практычна адбывалася. І самае дзіўнае, што такая замена хлеба надзённага хлебам духоўным, такая кампенсацыя — магчымая. Да пэўнай, вядома, мяжы, да пэўнай рысы...

«***1942.I.3.*** Сто дзевяноста шосты дзень вайны. Падымаюся павольна. Б’ецца сэрца. На кожную прыступку даю да дзесяці секунд. Нарэшце і нашы дзверы па пляцоўцы трэцяга паверха. Даю ўмоўныя званкі: тры рэзкіх, адрывістых. З заміраннем сэрца прыслухоўваюся да крокаў М. Ф. Яна дома і чакае. Яна — мая гераічная жанчына, пакорліва і стойка пераносіць усе выпрабаванні і перш за ўсё голад. Як яна схуднела! Усё роўна як не 51-гадовая жанчына, а крохкая тоненькая дзяўчына. Цалую яе, адчуваю яе, сваю родную, блізкую жонку-сябра. Яна не страціла сваёй жаноцкасці і сваёй выключнай жаночай ахайнасці. Свецяцца яе цёмныя вочы на схуднелым твары. І я гляджу па яе з большым хваляваннем, чым закаханы юнак на сваю каханую. Якім героем паказала яна сябе. Я ведаў яе 24 з паловай гады як жонку-сябра, але не па-

дазраваў у ёй такога запасу духоўнай энергіі, волі да пераадолення ўсіх цяжкасцей. Яна не страціла ні спагадлівасці да людзей, ні бадзёрага вясёлага тону, ні ўсмешкі, ні светлых унутранай глыбінёю цёмных чароўных вачэй... Руская дзіўная жанчына; дакладней, руская па культуры, а па паходжанню, па натуры — зыранка: маці і бацька яе былі зыранамі. Гэты цудоўны народ пад націскам больш ваяўнічых, жорсткіх, грубых народаў быў адсунуты ў тайгу і тундру, ледзь не да самага берага бяскрайняга сцюдзёнага мора. Я яшчэ ў маленстве чытаў у падручніку геаграфіі: «Зыраны характарызуюцца асаблівай сумленнасцю». Гэта аказалася праўдаю. Родная, сумленная, чыстая мая жонка-друг!.. Які я шчаслівы, што мы разам, дома.

У пярэдняй, дзе мы жывём, мігціць лямпачка. Паліцца ў пліце. Пачынаем абедаць... Талерка вады з нейкай крупкаю і галачкамі з чорнае мукі, змешанай з макухаю. Два-тры па 10—15 грамаў кавалачкі падсушанага хлеба, у пакупным выглядзе падабенства замазкі. І сёння больш нічога. М. Ф. марыць, што атрымаю ж я нарэшце як дырэктар Архіва Акадэміі навук СССР і намстаршыні камісіі па гісторыі Акадэміі навук і навуковага савета акадэмічных навуковых архіваў картку першай катэгорыі, гэта значыць, картку рабочага, пра якую мы хадайнічаем, і гэтым зраўняюся ну хаця б з нашай прыбіральшчыцай — качагарам Урманчэевай.

Асабліва не спыняемся на цяжкасцях харчавання, размаўляем з М. Ф. пра тое, што Шахматава і яе сып Алёша зусім аслаблі і гінуць; што ў нас у двары каля Архіва цэлую ноч каля акна праляжаў нейкі няшчасны, які памёр ад знясілення, і з яго паспелі ўжо сцягнуць боты; што некаторыя прадукты за снежань так і не ўдалося атрымаць у лаўцы... М. Ф. падбадзёрвае сябе думкаю, што нарэшце пры Акадэміі адкрываецца свой размеркавальнік... Але, нягледзячы на ўсе намаганні, яна не можа больш есці галачкі са змешанай з макухай чорнай мукі, атрыманай намі ў снежні замест круп. І я даядаю з цяжкасцю, больш таму, каб не хваляваць яе... Так канчаецца трапеза.

***1942.1.5.*** Сто дзевяноста восьмы дзень вайны. Загінулі ад знясілення і выпрабаванняў С. А. Шахматава-Каплан і яе шаснаццацігадовы сып Алёша, унук акадэміка Шахматава, хлопчык асабліва здольны і вялікі аматар астраноміі, несумненна, мог бы праявіць сябе ў аблюбаванай галіне і, напэўна, некалі быў бы выдатным вучоным, а мо-

жа, н а в а т і акадэмікам. На мяне і ўсіх нашых супрацоўнікаў гэтая навіна зрабіла ашаламляльнае ўражанне.

Бацькі хлопчыка, што загінуў,— вучонага і мужа С. Л,— няма з імі. Каб адшукаць яго, занесці яму ежы, маці і сын трацілі ўсе свае выхадныя дні і аддавалі свае апошнія крошкі. Пасля сілы іх аслаблі, і абое яны злеглі бездапаможнымі і асуджанымі.

***1942.1.6.*** Сто дзевяноста дзевяты дзень вайны. На навуковым пасяджэнні камісіі па гісторыі Акадэміі навук я зрабіў даклад «Да гісторыі замяшчэння акадэмічных кафедр за ўвесь час існавання Акадэміі (1925—1941)». Пасяджэнне адбывалася пад старшынствам акадэміка І. Ю. Крачкоўскага. Прысутнічалі А. І. Андрэеў, Л. Б. Мадзалеўскі, П. М. Стулаў, М. В. Круцікава і іншыя.

Можа, гэта мой апошні навуковы даклад».

Так, жорсткую, але і высокую праўду спазналі людзі, што перажылі ленінградскую блакаду. Праўду пра чалавека, пра яго магчымасці.

«Нават не верыш, што гэта было з табою...» — пісалі нам пасля публікацыі першых раздзелаў «Блакаднай кнігі». Не верыцца самім блакаднікам, што маглі такое вынесці. І тая дасведчанасць — на ўсё астатняе жыццё: сапраўды, усё пераадолелі ленінградцы!.. Здзіўленне гэтае і веданне гэтае добра перадае, пацвярджае выпадак, пра які расказала Е ў д а к і я М і к а л а е ў н а Г л е б а в а,— мы ўжо згадвалі пра яе. Еўдакія Мікалаеўна, сястра таленавітага савецкага мастака Паўла Мікалаевіча Філонава, успамінае, як яна ратавала яго карціны:

«Восенню 1941 года, у канцы кастрычніка, нечакана прыйшоў да нас брат. Прыйшоў і прынёс чатыры бульбінкі. Прынёс у той час, калі яны літаральна былі на вагу золата. Адарваўшы іх ад Кацярыны Аляксандраўны, ад сябе, калі ўсе галадалі. Запасаў у іх не было ніякіх.

Калі 22 чэрвеня 1941 года Молатаў па радыё сказаў сваю прамову аб вайне, я патэлефанавала брату і прасіла зрабіць якія-небудзь запасы. Ён з абурэннем сказаў: «Калі такія людзі, як вы і мы, будуць рабіць запасы, гэта будзе злачынства». А можа, калі б ён думаў інакш, ён і не памёр бы так рана, праз паўгода пасля аб'яўлення вайны.

Было вельмі холадна, на ім была яго куртка, цёплая шапка і Пецевы лыжныя штаны (напэўна, Кацярына Аляксандраўна пастаяла, прымусіла яго надзець гэтыя

штаны зверху сваіх, баваўняных, якія ён насіў і ўлетку і ўзімку).

Як мы ні адмаўляліся ад бульбінак, як ні прасілі забраць іх назад, ён не хацеў і слухаць нас, ён прымусіў нас узяць іх. Што мы гаварылі тады, на жаль, цяпер я ўжо не ўспомню. Дома ў нас было вельмі холадна. Ён не распрануўся, заставаўся ў нас нядоўга. Магчыма, ён думаў, што гэта яго апошні прыход да нас, але мы зусім і не думалі, што бачым яго апошні раз. І цяпер я не магу зразумець, не магу дараваць сабе, што мы не аднеслі гэтыя бульбінкі ім назад, а пакінулі сабе. Зачыніўшы за ім дзверы, мы падышлі да акна, чакаючы, што ён, як заўсёды бывала, спыніцца, памахае нам на развітанне рукою, усміхнецца, але цяпер гэтага не адбылося... Ішоў ён двaром сваім шырокім крокам, але павольна, нізка апусціўшы галаву. Калі ён зайшоў пад браму, мы так і засталіся каля акна, разгублена гледзячы адна на адну.

Што ён думаў тады, што адчуваў?

Гэта быў апошні прыход яго да нас.

У час вайны брат добраахвотна ахоўваў дом, у якім жыў, ад запальных бомбаў. Галодны, як мусіў ён мерзнуць у сваёй куртцы, якую з-за холаду нельга было зняць і дома.

Адзін раз у цемнаце ён упаў з лесвіцы. Да ўрача не звярнуўся, спадзяваўся, як заўсёды, на свае сілы. А сілы гэтай ужо не было... Не ведаю, як у гэты раз, але звычайна, захворваючы (хварэў ён вельмі рэдка), ён садзіўся ў крэсла і драмаў, але не клаўся ў пасцель. Праўда што і здароваму на гэтай «пасцелі» было б цяжка, не тое, што хвораму (матраца на яго ложку не было). Ні ўрачоў, ні лекаў ён не прызнаваў.

3 снежня 1941 года раніцаю нам паведамілі, што брату вельмі кепска. Мы адразу кінуліся да яго. Трамваі яшчэ хадзілі. Увайшоўшы ў пакой, мы ўбачылі брата, які ляжаў у пасцелі, што стаяла не на сваім звычайным месцы. Ён ляжаў у куртцы, цёплай шапцы, на левай руцэ была белая ваўняная рукавіца, на правай рукавіцы не было, яна была заціснутая ў кулаку. Ён нібыта быў непрытомны, вочы заплюшчаныя, ні на што не рэагаваў. Ягоны твар змяніўся непазнавальна і быў спакойны. Каля брата была яго жонка Кацярына Аляксандраўна і яе нявестка М. Н. Серабракова. Мне цяжка вытлумачыць чаму, але гэта правая рука з заціснутай у ёй рукавічкай так уразіла мяне, што я цяпер, больш чым праз трыццаць гадоў, бачу

яе. Каб я магла маляваць, я намалявала б яе — і стала б, можа, зразумела, чым уразіла мяне гэтая рука. Напісаць жа пра гэта вельмі цяжка. Але ўсё-такі я пастараюся зрабіць гэта. У правай руцэ была заціснутая рукавіца, рука крыху адкінута ўбок і ўверх, гэта рукавіца здавалася не рукавіцаю... Не, перадаць гэтага нельга. Рука вялікага майстра, якая не ведала пры жыцці спакою, цяпер супакоілася. Дыханне яго не было чуваць. У глыбокай цішыні, не размаўляючы, мы чакалі прыходу доктара, нейкіх уколаў. Але яшчэ да яго прыходу мы зразумелі, што ўсё скончана. Ён так ціха і так запаволена дыхаў, што яго апошняга ўздыху мы не заўважылі. Так ціха ён адышоў ад нас...

Плакалі мы ці не — не памятаю, здаецца, так і засталіся сядзець у нейкім здранцвенні, не ў сілах усвядоміць, што адбылося, што яго няма! Што ўсё, створанае ім, засталося — стаіць яго мальберт, ляжыць палітра, фарбы, вісяць на сценах яго карціны, вісіць яго гадзіннік-ходзікі, а яго няма.

Толькі прыход пісьменніка Мікалая Аркадзевіча Ташчакова, які жыў па гэтым жа калідоры, вывеў нас з нейкага дзіўнага стану здранцвеласці. Мікалай Аркадзевіч прыйшоў даведацца наконт братавага здароўя. З яго дапамогаю мы пачалі рыхтаваць брата ў яго апошні шлях. Мікалай Аркадзевіч адзін перанёс яго з пасцелі на стол. Ляжаў ён у шэрым касцюме, адзіным за ўсё яго жыццё. Але ён быў такі худы, такі непазнавальна іншы, што яго былы вучань скульптар Сувораў, які прыйшоў развітацца і зняць маску, мусіў адмовіцца ад гэтай думкі. У гэты цяжкі час, калі нельга было знайсці трупу, калі хавалі ў працінах, мы вырашылі любой цаною знайсці дошкі, заказаць труну. Нам гэта ўдалося, праўда, пасля цэлага тыдня пошукаў. Памог нам у гэтым Саюз мастакоў. На дзевяты дзень пасля смерці мы пахавалі яго...

У дзень пахавання мы — сястра і я — дасталі і прывезлі двое саней: вялікія і дзіцячыя, Кацярыне Аляксандраўне, бо ісці за труною яна не магла. На могілкі везлі брата без мяне, таму што я павінна была паклапаціцца пра месца, куды праз некалькі гадзін трэба было апусціць цела брата. Прыйшоўшы па Серафімаўскія могілкі, я знайшла чалавека, які за хлеб і нейкую суму грошай згадзіўся падрыхтаваць месца. Якая гэта была нечалавечая праца! Стаялі моцныя маразы, зямля была нібы камень. Але яшчэ больш, чым мароз, абцяжарвала працу карэнне ака-

цыі, каля якой ён павінен быў капаць зямлю. І, як я памятаю, і забыць гэта немагчыма, ён больш сек карэнне сякераю, чым працаваў рыдлёўкаю. Нарэшце я не вытрымала і сказала, што буду яму памагаць, але хвілін праз пяць ён узяў рыдлёўку ў мяне і сказаў: «Вам не пад сілу». Як я баялася, што ён кіне працу альбо, працягваючы працу, пачне лаяцца! Але ён толькі сказаў: «За гэты час я выкапаў бы тры магілы». Дадаць што-небудзь да сумы, на якую мы паразумеліся, я не магла, з сабою ў мяне было толькі тое, што я мусіла была аддаць яму за працу, і я сказала яму: «Каб вы толькі ведалі, дзеля якога чалавека вы працуеце!» І на яго пытанне: «А хто ён такі?» — расказала яму пра братава жыццё, як ён працаваў дзеля другіх, вучыў людзей, нічога не атрымліваючы за сваю вельмі важную працу. Працягваючы працаваць, ён вельмі ўважліва слухаў мяне. Чалавека гэтага я бачу і цяпер вельмі выразна, здаецца, што каб сустрэла яго, дык пазнала б. Ён не быў могільнікавым работнікам, але, каб пракарміць сям’ю, ён пайшоў на гэту цяжкую працу. І як я ўдзячна яму за яго працу, за тое, што ён цярпліва, а галоўнае, без лаянкі прарабіў гэтую страшэнную працу.

Калі прывезлі братава цела, усё было гатова.

Везлі яго так. Сястра Марыя Мікалаеўна, нявестка Кацярыны Аляксандраўны і яе пляменніца Рая напераменку: двое — братава цела і нехта адзін саначкі з Кацярынай Аляксандраўнай.

Апускалі братава цела не зусім звычайна, бо палова магілы была падкапана з сярэдзіны, а верхняя частка заставалася некранутай.

Што было пасля таго, як магіла была закапана і застаўся пагорачак, на якім не было ні вянка, ні хаця б аднай кветачкі, я неяк не памятаю. Кацярыну Аляксандраўну мы давезлі дамоў. З ёю засталіся яе нявестка і Рая. Зайшлі мы да яе ці не — не памятаю. Здаецца, не заходзячы да яе, павезлі санкі іх гаспадару. Але памятаю, што, калі зусім скалелыя прыйшлі дамоў і хацелі запаліць у печы, каб сагрэцца, дроў на месцы не аказалася, нехта за час нашай дзевяцідзённай адсутнасці забраў іх.

Пасля братавай смерці Кацярына Аляксандраўна засталася жыць у тым самым пакоі, дзе яны жылі калісьці разам. Праз пакой ад яе, у тым самым калідоры, жыла нявестка, жонка старэйшага памерлага сына, са сваёй пляменніцай Раяй. Яны абедзве даглядалі Кацярыну Аляксандраўну, памагалі ёй, наколькі гэта можна было ў той

страшны час. З Кацярынай Аляксандраўнай мы сустракаліся — сястра і я — не часта. Мы абедзве працавалі, вельмі стамляліся і, вядома, галадалі.

Усе карціны заставаліся ў Кацярыны Аляксандраўны. Сказаць ёй, што лепш было б перанесці іх да нас, дзе яны лепш захаваліся б, бо ў нас тады была яшчэ асобная кватэра, мы не адважыліся, а Кацярына Аляксандраўна нічога наконт гэтага не казала, так яны і заставаліся ў яе. Адзінае, што я магла ў гэтых умовах зрабіць, гэта з вялікай цяжкасцю зняць іх з шафы, дзе яны ляжалі, і ў прысутнасці Кацярыны Аляксандраўны пранумараваць усе карціны.

Калі я пасля вяртання з эвакуацыі пачала складаць каталог, ведаючы, што карцін было 400 з нечым, я ў сшытку-каталогу праставіла лічбы ад 1-й да 400-й, але калі пачала запаўняць, а запаўняла не па парадку, каб не трывожыць карціны, а так, як яны ляжалі ў брата, я ўбачыла, што некалькі нумароў засталіся незапоўненымі...

Прайшло каля пяці месяцаў з дня братавай смерці, не менш. Адзін раз да нас пазванілі. Адчыніўшы дзверы, мы ўбачылі дзвюх дзяўчын, якія трымалі пад рукі Кацярыну Аляксандраўну. Яна была ў сваім старэнькім футры, падперазаная белым вышытым ручніком, на якім вісеў алюмініевы кубак. Кацярына Аляксандраўна ледзь трымалася на нагах. Дзяўчаты, што прывялі яе да нас, растлумачылі, што ўбачылі яе зусім знясіленую на Анічкавым мосце і прапанавалі праводзіць яе. Трэба сказаць, што пасля хваробы яна вельмі кепска размаўляла. Праўда, брату ўдалося аднавіць яе гаворку, але пасля яго смерці, голаду, адзіноты ёй зноў стала цяжка гаварыць. Таму цяжка стала і разумець яе. Але ўсё-такі яна змагла растлумачыць гэтым добрым дзяўчатам свой шлях, і яны давялі яе да нас. Высветлілася, што яна пайшла з дому яшчэ напярэдадні, не сказаўшы нікому ні слова пра свой намер пайсці; дзе яна правяла амаль суткі, засталося невядомым, яна не змагла гэтага вытлумачыць нам. Кацярына Аляксандраўна засталася ў нас, і я пачала хадайнічаць, каб уладкаваць яе куды-небудзь.

...Пасля братавай смерці 3 снежня 1941 года, пасля таго як я завезла ў канцы красавіка 1942 года братавую ў Дом хронікаў — гэта ўсё, што мне ўдалося пасля доўгіх намаганняў зрабіць,— мы, сястра і я, перавезлі ўсе братавы працы да сябе на Неўскі праспект.

Голад усё больш даваў пра сябе знаць. Выехаць з Ле-

нінграда мы не маглі, маючы ў сябе ўсе карціны, усе братавы рукапісы і не маючы сіл аддаць іх на захаванне.

Працавалі мы ў гэты час у шпіталі, дзе цяпер размешчаны Інстытут Герцэна, на Мойцы. Уладкавала сястру на працу Анжэла Францаўна (прозвішча яе я не ведала), якая жыла ў адным з намі доме. Зрабіўшы гэта, яна літаральна выратавала нас. У хуткім часе сястра змагла і мяне ўладкаваць туды. Мы атрымалі дзве рабочыя карткі! Гэта было сапраўднае шчасце! Але гэта было позна ўжо, бо, крыху падмацаваўшыся, мы адчулі, што і гэтага мала. Прытым у сястры ўкралі талоны на хлеб, на шчасце, толькі тыя, якія давалі права атрымліваць частку хлеба на працы. Сястра нічога пра гэта не сказала, каб я не пачала дзяліцца з ёю сваім хлебам. Сястра была дзіўны чалавек, усё сваё жыццё яна аддала сёстрам. А мне яна была і сястра, і маці, і сябар. Зразумела, крадзеж карткі адразу адбіўся на яе стане. А я, не ведаючы прычыны, не ведала, што рабіць. Ды і што можна было тады зрабіць? Толькі эвакуіравацца. Але як, калі ў нас на руках уся братава спадчына?

І раптам нечакана з фронту прыехаў Віктар Васільевіч — муж пашай пляменніцы. Сям'я яго была ўжо эвакуіравана, і ён зайшоў даведацца, ці жывыя мы. Убачыўшы нас, ён адразу спытаў: «Чаму ж вы не выехалі, чаму дагэтуль у Ленінградзе?» Мы сказалі, што выехаць не можам, бо ў нас на руках братавы карціны і рукапісы. А калі з далейшай размовы ён даведаўся, што ў нас няма сіл данесці карціны да музея і няма нікога, хто памог бы нам, і ў гэтым усё пытанне, ён сказаў, што можа памагчы нам. Ён прыехаў з фронту ў камандзіроўку, і зрабіць гэта трэба неадкладна.

Братавы работы, даўно ўжо спакаваныя, ляжалі ў гэтым самым пакоі, дзе адбывалася гэта незабыўная размова. Упакаваны яны былі так: адзін пакет з 379-ю работамі і рукапісамі і другі — вал, на ім наматана 21 палатно. Калі мы зразумелі, што гэта можа быць занесена ў музей, і проста цяпер нашаму шчасцю, нашай радасці не было канца. Ён узяў і панёс вал, а я, аказваецца, пакет, у якім ляжала 379 работ! Даведалася я аб тым, што несла пакет, праз дваццаць пяць гадоў. А на працягу гэтых гадоў я была ўпэўнена, што пакет нёс нехта іншы, а я толькі ішла з імі.

Даведалася пра гэта зімою 1967/68 г. Вось якім чынам. Я збіраю ўсё, што магу сабраць пра брата, каб усё гэта,

сабранае мною, далучыць да таго, што здадзена ў ЦДзАЛІ ў Маскве... Але папярэдне я зрабіла фота з усіх гэтых рукапісаў, а з гэтых фота мікрафільм. Я неяк папрасіла Віктара Васільевіча напісаць пра тое, як гэта ўсё тады, у блакаду, адбывалася. Ён выканаў маю просьбу і перадаў мне тое, што напісаў. Я вельмі здзівілася, калі прачытала, што «другі, лёгкі пакет несла Еўдакія Мікалаеўна». Я адразу пазваніла яму і перапытала, упэўненая, што ён памыліўся, але памылкі не было. Адкуль жа ўзяліся сілы?! Ён піша: «Другі, лёгкі пакет несла Еўдакія Мікалаеўна». У гэтым «лёгкім» пакеце ляжала 379 работ, тры з іх на падрамніках, і рукапісы!

І дагэтуль я не магла ўявіць, як я тады несла такі цяжар. Я не паверыла яму, доўга распытвала, але ўсё было так, як ён напісаў... Што ж адбылося? Няўжо радасць, што ўсё зробленае будзе выратавана, будзе ў музеі, і мы можам нарэшце эвакуіравацца, бо сястры станавілася ўсё горш, дала мне сілы, але адабрала памяць?..»

Адкуль сілы браліся ў ленінградцаў, пра гэта расказала нам дзённікавая памяць Ленінграда, самі ж ленінградцы. Яны верылі і не верылі, што ўсё гэта было, што магло быць. Яны пазналі цану жыццю і цяплу, хлебу і чалавечай салідарнасці, усяму, што чалавек не ўмее як належыць цаніць, пакуль гэта ёсць у яго...

## АБАВЯЗКІ ГІСТОРЫКА

Дзённік Г. А. Князева дзесьці па чатырохсотых старонках (а ўсяго іх 1200 машынапісных) пачынае ператварацца ў мартыралог: жыццяпіс тых, хто на яго «малым радыусе» памёр, замучаны голадам, блакадаю. Але гэта адзін бок яго запісаў. Чым больш і падрабязней пра мёртвых, тым раднейшыя запісы пра жывое, пра прыгажосць і багацце жыцця, спрасаванага ў наканаваныя блакадніку тыдні, дні. І ў той самы час расцягнутага — кожная секунда нагружаецца адчуваннем: а ўсё-такі жыву, жывём, штосьці атрымліваем ад жыцця, значна больш, чым у звычайны час, калі і месяцы і гады не цанілі, ні ў што не ставілі! Менавіта ў гэты час у «Лютаўскім дзённіку» Воль-

га Бергольц пісала: «...такімі мы шчаслівымі бывалі, такой свабодай бурнай дыхалі».

Чым больш абясцэньвае голад, блакада чалавечае жыццё, тым важнейшае і даражэйшае яно гуманісту Князеву. У першыя дні, тыдні вайны ён у сваіх нататках не заўсёды быў справядлівы, не заўсёды шкадаваў тых, хто вакол яго: надта давалі аб сабе знаць складаныя адносіны ў навуковым асяроддзі. Цяпер пра тых самых людзей, пра тыя самыя факты разважае мудрэй, чалавечней, адрозніваючы віну і бяду чалавека. Гэта не ўсёдараванне. Гэта разуменне. Што значаць учарашнія страсці, падчас дробязныя, нізкія, калі ўсіх па чарзе забірае «першы мільён» памерлых?! У якім, у першым ці ў другім, апынешся ты сам?

«***1942.1.13 і 14.*** Дзвесце шосты і дзвесце сёмы дні вайны. Учора і сёння перадаюць па радыё прамову Панкова: «Усё горшае застался ззаду. Наперадзе вызваленне Ленінграда і выратаванне ленінградцаў ад галоднай смерці». Так перадаюць з вуснаў у вусны змест гэтай прамовы. Сам я яе не чуў: радыё ў нас не дзейнічае.

Людзі жывуць надзеяй... Студзень, маўляў, можа, дацягнем, але люты, калі не будзе паляпшэння, не пераЖЫЦЬ. Аслабелыя гінуць і гінуць».

Верны свайму «заданню»: не дазваляць блакаднай імгле (хаця б на яго малым радыусе) адразу ж сціраць памяць пра тых, хто загінуў,— Г. А. Князеў расказвае пра ўсіх памерлых, блізкіх і далёкіх знаёмых, людзях, чыё і імя ніхто і ніколі не ўспомніць. Ні адзін з іх не трапіў ні ў спіс 607 узнагароджаных, ні ў спіс «гераічна загінуўшых». Ён рыхтуецца і сваё імя занесці ў памінальнік, пакуль яшчэ ў стане гэта зрабіць. З той самай сумленнасцю і аб'ектыўнасцю запісвае ён плюсы і мінусы Князева Георгія Аляксеевіча.

«***1942.1.18.*** Дзвесце адзінаццаты дзень вайны. Раз вакол валяцца людзі, пачаў і я прыводзіць свае справы і паперы ў парадак на ўсякі выпадак. Сёння я закончыў сістэматызацыю ўсіх маіх матэрыялаў спачатку на паперы; па гэтай схеме падбяру ўсе мае папкі.

Галоўная мэта і значэнне майго архіва — матэрыялы да гісторыі быту сярэдняга рускага інтэлігента ў дні войнаў і рэвалюцый першай паловы XX стагоддзя. Сярод гэтых матэрыялаў на першым месцы павінны быць пастаў-

лены: «Да гісторыі майго часу», запісы і дадаткі да іх, як рукапісныя, так і друкаваныя...

***1942.1.19.*** Дзвесце дванаццаты дзень вайны. У Ленінградскім аддзяленні Інстытута гісторыі гінуць адзін за другім навуковыя супрацоўнікі. Памёр мой сатаварыш па універсітэце Лаўроў. Ён таксама, як і я, служыў у Цэнтраархіве (у абласным Ленінградскім архіве), пасля перайшоў на працу ў Акадэмію навук. Шмат працаваў над апошнім акадэмічным выданнем «Русской правды», быў выключна сціплы і неяк мала прыстасаваны да жыцця. За жахлівую рысу перайшоў у пачатку студзеня. Аслабеў і ляжаў паўмёртвы, пакуль жыццё не абарвалася канчаткова.

...Учора М. Ф. прызналася мне, што яна стамляецца. Сапраўды, яна вельмі схуднела, а ў апошнія дні стала бледнаю. Толькі яшчэ цёмныя вочы гараць светлым агнём.

Колькі мы страцілі сіл, на якой грані знаходзімся, дзе рыса, тая страшная рыса, пераступіўшы якую чалавек ужо не вяртаецца назад? Узялі за нармальны стан 100 %, правялі страшную рысу — 50 % жыццёвай энергіі, і М. Ф. вызначыла сваё месца памін; 40 і 50 працэнтамі, гэта значыць, недзе каля страшнай рысы.

Пасля страты 50% сіл пачынаецца хуткае затуханне і пасля 60—70 працэнтаў страты іх — агонія і смерць.

— Трэба як-небудзь жыць,— настойліва кажа М. Ф.,— не пераходзіць за фатальную рысу.

***1942.1.21 і 22.*** Дзвесце чатырнаццаты і дзвесце пятнаццаты дні вайны... Другі дзень па прычыне марозу не езджу на службу; не ідзе каляска, масла стыне. М. Ф. праводзіць мяне туды і назад не можа, сілы яе прыкметна слабеюць, бадзёрая толькі духам.

...Няўжо не дажывём да вясны? Навокал надта многа паміраюць, і не дзе-небудзь, а побач, у нашым доме, на службе. Кожны з нас чуе бразгат касца. Падняць вочы да столі не хацелася: там кручок, такі адмысловы; ён звярнуў на сябе маю ўвагу яшчэ пры ўваходзе першы раз у гэты пакой, гадоў 12 таму назад. Страшная думка мільганула тады ў галаве: няўжо ён спатрэбіцца? Калі штонебудзь здарыцца з М. Ф., магчыма, праўда, спатрэбіцца.

Але хто ведае, як павернецца лёс. Ніхто не ведае, што будзе не толькі заўтра, але і сёння, вось цяпер...

Разбіраючы свае паперы, ненадрукаваныя, закончаныя і пачатыя працы, з любоўю раскрываў і прачытваў з любімых кніг».

І ў Ахапкінай і ў Рабінкіна ўсе надзеі былі звязаны з эвакуацыяй, з «Дарогай жыцця». Так было з большасцю. Яшчэ нядаўна эвакуацыя ўспрымалася як няшчасце, цяпер яна стала выратаваннем. Цяжэй за іншых звыкаліся Князевы з неабходнасцю выехаць; каб самому расстацца з Архівам, Георгій Аляксеевіч нават і падумаць не мог, ён не ўяўляў сваё жыццё па-за сценамі Архіва.

«Дарозе жыцця» памагалі воіны Ленінградскага фронту, медыкі, шафёры, маракі, рамонтнікі, тысячы людзей аддавалі ёй свае сілы. З шматлікіх нашых запісаў прывядзём толькі расказ старога піцерскага ўрача — беларуса Міхаіла Міхайлавіча Кавальчука. Калі ён расказваў нам, яму было ўжо дзевяноста тры гады. Працаваў ён з раніцы да вечара ў сваім садзе, вырошчваў там цудоўныя парэчкі, агрэст, кветкі і ўсё гэта раздаваў дзецям і суседзям. Чалавек ён быў рэдкай бескарыслівасці і працавітасці.

У 1942 годзе гарздраў накіраваў яго на ўсходні бераг Ладагі, у Жыхарава, у эвакапункт, наладзіць медыцынскае абслугоўванне перапраўленых цераз возера грамадзян.

«Пачаў я прымаць і тасаваць хворых. Бачу — многіх трэба пакідаць, бо нельга ім ехаць.

Тады я зрабіў стацыянар. Дзе мог ставіў ложкі, абклейваў, забіваў фанераю разбітую столь. Што рабіць далей? Такі харч, які выдавалі, хворым я даваць не мог. Страўнікі ў людзей былі страшэнна вычарпаныя, а гэтая ежа, па-мойму, была небяспечная ім. Смяротнасць сярод вывезеных была вельмі высокая. Я пачаў прасіць гараддзел аховы здароўя даць мне дазвол ускрыць некалькі трупаў, каб зразумець, што дзеецца з людзьмі. Яны мне дазволілі, паколькі я скончыў Ваенна-медыцынскую акадэмію. Мяне ж вучылі і Іван Пятровіч Паўлаў, і лейб-хірург Фёдараў. Я быў іхнім любімцам, таму што я вастрыў нажы хірургам.

Я ўскрыў некалькі трупаў. І што я ўбачыў? У аднаго страўнік лопнуў і ўсё, што было ў ім, вывалілася, увесь сухі паёк, які там давалі: кавалак цвердавэнджанай каўбасы, кавалак сала і хлеба кавалак. Пасля абеду ён яшчэ і гэта з'ядаў! І вось з таго часу я пачаў прасіць, умольваць, каб адмянілі сухі паёк. Быў там Ханін, упаўнаважаны Саўнаркома. Я да яго:

— Памажыце, будзьце свядомы. Смяротнасць высокая. Трэба яе хоць як-небудзь знізіць. Дайце мне дазвол не даваць гэты паёк.

Але не ішлі мне насустрач, бо былі такія, што казалі:

— Як жа гэта? Без сухога пайка людзям нельга. Мы ж іх адпраўляем у эшалон. Дарога разбітая немцамі, і, можа, ялы вымушаны будуць недзе чакаць. Чым жа ім харчавацца, можа, тры, а можа, чатыры дні?

Ну, вядома, па гэтае глупства я не маўчаў. Але ніхто ліяне не слухаў. Я ім паказваў:

— Глядзіце, не толькі ваша каўбаса ляжыць, але чалавек і вяровачку глытае. Ён нават не паспявае нічога выкінуць, ачысціць. Усё застаецца ў страўніку.

Я самавольна скарачаў паёк. І праз некаторы час бачу, што працэнт смяротнасці ў мяне падае. І па ўсе слёзы, калі мяне абкружалі галодныя і прасілі, патрабавалі дабаўкі, я не адгукаўся, таму што ведаў вылік.

Дык вось, прыходзіць адзін раз у санчасць начальства — прадстаўнікі Дзяржаўнага Камітэта Абароны. Пытаюцца ў мяне:

— У чым справа? Людзі ў Ленінградзе галодныя, нямытыя, але поўзаюць, а прыязджаюць да вас і паміраюць! У чым справа?

Я маўчу. Мне кажуць:

— Такія ў вас цудоўныя харчы! Незразумела, што ў вас адбываецца.

Я кажу, што гэты цудоўны харч і ёсць прычына іх смерці. І расказваю, што ў іх робіцца ў страўніку. Мяне выслухалі, сабралі нараду і папрасілі ўсё паўтарыць. Я ўсё расказаў па гэтай нарадзе. Са мною пагадзіліся, сказалі, што эвакуіраваныя ленінградцы — людзі хворыя. Трэба лячыць іх харчаваннем. Хто гэтым займаецца? Галоўны ўрач абавязаны даць лякарствы і яду, якую трэба, ад якой не памералі б яны. Тут ёсць урач, і ён адказвае за харчаванне. Няхай ён лечыць лякарствамі і корміць так, як лічыць неабходным.

Але тут выступіў начальнік эвакапункта і кажа:

— Ён жа хоча адмяніць сухі паёк. Не даехаўшы да Ціхвіна, людзі могуць трое сутак сядзець у эталоне, і чым ім тады жывіцца?

Я кажу:

— Гэта іншая справа. Можна вярнуць частку людзей, але гэты сухі паёк не ежа. Усё роўна гэты сухі паёк не даходзіць у эвакуіраваных да эшалона: яны яго адразу з'ядаюць. І, дарэчы, вось ідзе пасадка тут, побач з павільёнам, дзе мы засядаем. Пашліце каго хочаце, паглядзіце, што ў іх у мяшках: ці ёсць у іх сухі паёк цяпер, калі яны

толькі садзяцца ў эшалон? Я ручаюся, што ні ў кога няма гэтага сухога пайка.

Ну, трэба сказаць, што паслалі. Праверылі. І высветлілася, што ні ў кога сухога пайка не было: ён ужо ўвесь быў з'едзены! Я тут кажу:

— Самы лёгкі харч, які ў мяне ёсць, гэта проса. А мне патрэбны манныя крупы для маленькіх, таму што ў мяне дзеці такога і такога ўзросту і нават немаўляткі.

— Пытанне правільнае, істотнае і вельмі складанае,— кажуць мне,— але паспрабуем дастаць замест проса манку.

Праз восем дзён прыйшоў вагон маню.

Пакінулі са мною таварыша Андрэева, аднаго з гэтых упаўнаважаных, каб памагчы мне. І сапраўды, на наступны дзень прыходзіць да мяне Андрэеў і кажа:

— Таварыш начальнік, з'явіўся ў ваша распараджэнне!

А я думаю: гэта пры тых паўнамоцтвах, якія ты маеш, калі можаш расстраляць любога, ты дазваляеш сабе з мяне смяяцца? Я кажу:

— Таварыш Андрэеў, калі гэта не іронія, дык сядайце, а калі гэта іронія, дык ваша дапамога мне не патрэбна.

— Якая тут іронія? — кажа ён.

Першае, што мне было неабходна, гэта якое-небудзь памяшканне, куды можна было б пакласці да пахавання трупы памерлых,— трэба ж было спісы скласці, даведкі афармляць. А побач быў вялізны барак. Вартавы стаіць там. Ніхто не заходзіць, не выходзіць, што там знаходзіцца — не відаць. Я кажу:

— Я не ведаю, што там такое, але мне патрэбен гэты барак.

Ён пытае:

— А дзе начальнік?

Прыходзім да начальніка. Я ў кажушку, а Андрэеў у цывільным. Выходзіць дзяжурны салдат. Пытаем, дзе начальнік. Андрэеў кажа:

— Напрасіце яго сюды, каб ён прыйшоў. Прыйшлі пагутарыць з ім.

Дзяжурны ідзе за перагародку:

— Таварыш начальнік, прыйшоў ваенурач.

Той крычыць:

— Перадайце, што прыёму няма!

Я напалохаўся, думаю — што будзе?! А Андрэеў ціха дзяжурнаму:

— Схадзіце яшчэ раз і папрасіце. Мы не пойдзем адсюль, пакуль ён не выйдзе.

Дзяжурны зноў ідзе да начальніка, кажа:

— Не выходзяць.

А той кажа:

— Загад атрымаў? За каўнер іх і вон.

Я баюся страшэнна за гэтага дурня, што яго яшчэ заб'юць зараз. Давядзецца ўмольваць, прасіць за яго... Увогуле, напалохаўся. Праз некаторы час начальнік выходзіць у мыле: палова барады паголена, палова не.

— Чулі загад?

— Чулі і не выкапаем,— кажа Андрэеў.

— Дык вось яшчэ раз вам кажу — прыёму не будзе!

Андрэеў кажа:

— Не, будзе! Вы ж і не спыталі, чаго мы прыйшлі. Вы думаеце, што калі прыйшлі цывільныя, дык з імі можна і не размаўляць? А калі мы прыйшлі далажыць, што шпіёна злавілі,— няўжо гэта вас не цікавіць?!

Пасля Андрэеў дастае сваю кніжачку і паказвае яму. Ну, што тут было! Ён адразу зрабіўся бледны, напалохаўся, пачаў прасіць прабачэння. Андрэеў кажа:

— Пойдзем у тое памяшканне.

Прыйшлі. Вартавы стаіць. Вялізная пуня. Думаю: «Божа, каб далі мне магчымасць пакласці трупы культурна!» А начальнік адразу пачаў казаць, што там, у пуні, захоўваецца ваенная амуніцыя, баявыя прыпасы. Андрэеў кажа:

— Адчыніце!

Адчынілі. Глядзім: адна куча белая — ці вапна, ці крэйда, пяць штук рваных процівагазаў і штук 200 вінтовачных патронаў. І сам гэты начальнік збянтэжыўся. Андрэеў пытае:

— А чаму гэта называецца ваенная амуніцыя, баявыя прыпасы? Навошта ж чалавек мерзне і ахоўвае гэта па такім марозе? Загадваю і даю тры гадзіны тэрміну: усё вынесці, закапаць і прынесці ключы гэтаму ваенурачу.

Я пайшоў. Праз гадзіну прыносяць мне ключы. Я пайшоў і запяў увесь гэты барак. Так я выйшаў і з гэтага становішча».

## «ЛІХАМАНКАВА СПЯШАЮСЯ ЖЫЦЬ...»

Цяжкі дастаўся час Г. А. Князеву. І пасляваенны быў нялёгкі, а ўсё-такі яго час — даваенны і ваенны — круцейшы і цяжэйшы. Асабліва для яго спецыяльнасці — гісторыка. Напэўна, надышоў момант і месца сёе-тое даказаць пра асобу Георгія Аляксеевіча. Ён скончыў гісторыка-філалагічпы факультэт Пецярбургскага універсітэта ў 1913 годзе і пачаў працаваць у архіве Марскога Міністэрства па выданню дакументаў часоў Пятра Першага, часоў Паўночнай вайны са шведамі. Гэтая работа і звяла яго з Марыяй Фёдараўнай. І пасля рэвалюцыі ён займаўся архіўнай справаю. Ён стварыў за сваё жыццё два архівы. Адзін у 1917—1926 гадах — гістарычны аддзел Маскоўскага архіва, і другі ў 1929—1941 гадах — Архіў Акадэміі навук. Ад першага нічога не засталося. У 1927—1928 гадах яго паступова, як «неактуальны», згортвалі і нарэшце ліквідавалі. З 1929 года Князева прызначаюць загадваць Архівам Акадэміі навук, у якім ён адпрацаваў сорак гадоў, аддаючы яму ўсе сілы, усю энергію ані да самой смерці 30 чэрвеня 1969 года. Чытаў ён лекцыі па архіўнай справе, славіўся буйнейшым аўтарытэтам не толькі ў нас, але і за мяжою, быў узнагароджаны ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга... Збіраў яшчэ з маленства, з часоў рэвалюцыі 1905 года, лістоўкі, адозвы, плакаты, сабраў вялікую цікавую калекцыю. Была ў яго схільнасць да філасофскіх разважанняў, зрэшты, пра свае схільнасці, запаветныя свае прызванні найлепш напісаў ён сам з нялёгкай шчырасцю споведзі.

Марыя Фёдараўна ўспамінае пра дні блакады:

«Георгію Аляксеевічу было вельмі нялёгка пісаць у тыя дні свой дзённік. Рабіў гэта ён звычайна вечарам, а асвятлення амаль ніякага не было. Самаробны каганец з ніцяным кноцікам, напоўнены нейкай гаручай сумессю, скупа асвятляў невялікі кавалачак пісьмовага стала. Але Георгій Аляксеевіч лічыў, што дзённік пісаць ён абавязаны... Кожны дзень ён наведваў акадэмічны Архіў. Ён ездзіў на сваёй калясцы-самакаце. Часта камеры колаў пракольваліся, ехаць было амаль немагчыма, а дарога — суцэльныя сумёты снегу... А ў Георгія Аляксеевіча да ўсяго ж быў яшчэ і параліч правай нагі. Але ён быў надзвычай моцны духам... Мужныя паводзіны Г. А. у блакадным Ле-

нінградзе былі адзначаны ў дакладзе акадэміка І. Ю. Крачкоўскага, прадстаўніка прэзідыума Акадэміі навук СССР у Ленінградзе, з якім ён выступаў на сесіі АП у 1942 годзе ў Свярдлоўску».

Г. А. Князеў шкадаваў, што не стаў пісьменнікам. Ён спадзяваўся на дзённік і меў радыю, гэты твор варты некаторых раманаў і аповесцей. Колькі іх з таго часу бяследна канула ў вечнасць! Дзённік жа Г. А. Князева дзякуючы сваёй падрабязнасці, метадычнасці, сумленнасці захаваў паўнату карціны блакаднага жыцця і застанецца неабходным для ўсведамлення псіхалогіі ленінградца тых гадоў. Ён насычаны фактамі, дакладны, аднаўляе ўнутраны свет савецкага інтэлігента часоў Вялікай Айчыннай вайны, працэс змянення яго светаўспрымання.

Напружанае духоўнае жыццё дазволіла яму прыглушаць пачуццё голаду. У вялікім яго дзённіку амаль няма запісаў пра тое, як хочацца яму есці, як ён галадае: ці гэта ён прымушае сябе думаць пра іншае, ці адчуванне голаду перамагаюць разважанні пра сэнс пражытых гадоў, пра сэнс таго, што адбываецца.

У Лідзіі Ахапкінай адчуванне свайго голаду адступае перад больш вострым пачуццём: яна маці і адчувае голад сваіх дзяцей мацней, чым уласны голад.

Князеў умее пераключаць усяго сябе на духоўную працу — ушчыльненне жыццёвых планаў і расцягванне імгненняў, каб у хвіліну пражыць гадзіны, а за дзень — месяцы. Не заўсёды, не адразу ўдаецца гэта і Князеву. Надта прыгнятае рэальнасць, мукі голаду, думкі пра тое, што адбываецца ў Ленінградзе і ў свеце, пра заўтрашні дзень. Але ён упарта вяртаецца да гэтага дня, гэтага імгнення, зноў і зноў перакопваючы сябе: у радзімы, народа, чалавецтва будучыня ёсць, у мяне — толькі гэтыя імгненні, і трэба імі жыць! Жыць імгненнямі для Князева — гэта захоплена займацца сваёй работай, незавершанымі справамі, няздзейсненымі планамі, прагна ўбіраючы свядомасцю і пачуццём чалавечую гісторыю, яе драмы і багацці, культуру. Гэта не вызваляе яго ад штодзённых горкіх і тужлівых пачуццяў. Ды ён і не хацеў бы адлучанасці ад усеагульнае бяды.

«***1942.1.31.*** Дзвесце дваццаць чацвёрты дзень вайны. Апошні дзень цяжкага месяца... Жыву тым, што ёсць думкі, планы. Чытаць упоцемку немагчыма, і я асэнсоўваю свой курс гісторыі культуры. Калі перажыву вайну, абавязкова аб’яўлю ва універсітэце гэтае чытанне... Як пры

кепскай гульні робяць добрую міну, так і я пры людзях стараюся ўсміхацца, кажу толькі бадзёрыя словы, падымаю дух. Нездарма мяне акадэмік Аляксееў называў «вялікі аптыміст». І толькі тут, на гэтых старонках, я дазволю сабе не стрымліваць сябе. Я ўвесь тут як ёсць.

...Сустрэў Свікуль, у якой толькі што загінуў пятнаццацігадовы сын, сціплы юнак Вова. Няўцешнае гора, роспач — усё гэта мізэрныя словы ў параўнанні з тым, што выказваюць яе вочы, запалыя шчокі, дрыжачы падбародак. Абняў яе, прыціснуў яе да сябе, вось і ўсё, што я мог зрабіць.

***1942.II.3.*** Дзвесце дваццаць сёмы дзень вайны. М. Ф. вярнулася з размеркавальніка ні з чым. Выдачы няма і сёння.

...Адыдзем ад нашага кашмарнага сёння куды-небудзь убок. Учора вечарам я няблага займаўся вывучэннем мінулага Сярэдняй Азіі і хецкай культуры, чаргуючы гэтыя заняткі з гісторыяй Акадэміі навук. Адыдзем і сёння...

Але яшчэ некалькі слоў будучаму чытачу гэтых радкоў. Ёсць і такія «персанажы» нават на маім «малым радыусе». У суседзяў на кухні, дзе ўсе яны жывуць, сядзіць «абаронная дама», гэта значыць, жонка інжынера па абаронных работах. Яна мае магчымасць набываць рэчы за хлеб, крупы, масла, свіную скуру. Ёй патрэбны самыя адмысловыя рэчы: бялізна, туфлі, абрусы, ручнікі; і за іх яна дае: кіло хлеба за вялікі, добра захаваны, дыван, жменьку проса і некалькі кавалачкаў цукру за лямпу, за туфлі — 500 грамаў рысу... Галодныя суседзі толькі гэтым і трымаюцца. Дама ж сябе не крыўдзіць... Значыць, ёсць сярод нас, галодных, у Ленінградзе і сытыя!..

А вось кавалачак нашага быту. У Архіве сёння толькі двое «прысутнічаюць», дзённыя дзяжурныя (начныя дзяжурствы, як я ўжо адзначаў, давялося адмяніць па прычыне слабасці супрацоўнікаў і адсутнасці паліва): доктар гісторыі А. І. Андрэеў і Фаіна, апальшчыца і рабочая Архіва, жонка качагара, якога ўзялі па вайну. Сядзяць яны ў 12-м пакоі каля пліты. Андрэеў чытае дысертацыю дактаранта Баўэра і рыхтуецца да дыспуту. Фаіна паліць у пліце і сумуе. Тады Андрэеў спрабуе чым-небудзь рассмяшыць яе і зноў працягвае сваё чытанне. Фаіна, альбо Фаня, як яе завуць у нас, маці траіх дзяцей, татарка, дагэтуль, да сярэдзіны студзеня, не здавалася. Я ўжо адзначаў яе вытрымку і стойкасць. Яна даўно не мае піякіх звестак пра мужа і лістоў ад яго. Ні разу яна не паскар-

даілася на свой лёс. Цяпер яна пастарэла, пацямнела, паблажэла, а ёй яшчэ няма і трыццаці. Відаць, яна была неблагая ў маладосці. Гнуткая, тонкая, з прыродным розумам і тактам, яна ў 17—20-гадовым узросце, напэўна, была прыгожая і прывабная дзяўчына. А яшчэ маладзейшаю, мабыць, нагадвала незабыўны вобраз дзяўчынкі-татаркі, памаляваны Львом Талстым у «Каўказскім палонніку». Жыццё ў Фані склалася і без таго нялёгкае з трыма дзецьмі, а цяпер і зусім зрабілася цяжкім; ледзьве дае сабе рады з сям'ёй і службаю. З ёю жыве старая, маці мужа, сама як дзіця, за якою патрэбен догляд. Фаня марыць эвакуіравацца, паехаць з дзецьмі на сваю радзіму, у Пензенскую вобласць. Ні адна эвакуацыя, пачынаючы са жніўня, не ўдалася. Зараз Фаня, як і ўсе мы, перажывае асабліва цяжкія дні. Пакуль яе моцная натура вытрымлівала, ці вытрымае цяпер?

Андрэеў, таксама пастарэлы, пацямнелы, знаходзіць у сабе сілы і волю пераадольваць усе цяжкасці. Калі М. Ф. паводле майго даручэння давялося паведаць Архіў, яна і ўбачыла гэту бытавую карцінку новага архіўнага жыцця.

У М. Ф. і Андрэева гаворка нечакана перайшла на грамадскія прыбіральні.

— За кілаграм хлеба пайшоў бы чысціць прыбіральні,— кажа Андрэеў,— а цяпер дастаткова і таго, што выношу ўсё гэтае дабро раніцай і вечарам з кватэры.

— А мы не ўсё выносім,— устаўляе М. Ф.

— Дык, значыць, у вас дзейнічаюць прыбіральні?

— Не, на поўдні ж ацяпляюцца кізяком, вось і мы спальваем.

Самая сучасная размова, праўда, не салонная.

***1942.II.4.*** Дзвесце дваццаць восьмы дзень вайны. Яшчэ адзін дзень вайны. Нічога не ведаю, што робіцца па зямным шары. Тыя крошкі звестак, што паведамляюць у газетах, па радыё, уласна кажучы, нічога не даюць, каб асэнсаваць тое, што адбываецца ў свеце. «Мы запялі пункт Л., аддалі пункт В. ...Трафеі такія і такія...» Нічога сапраўды не прасвятляюць.

Куды ідзе чалавецтва? Чым скончыцца гэтая лютая бойня? Калі скончыцца? Страшныя пытанні... І, можа, цяпер непатрэбныя яшчэ, паколькі зусім немагчыма іх якнебудзь вырашыць, прадугледзець наперад хоць часткова іх вырашэнне. Ясна цяпер толькі тое, што вайна будзе доўжыцца яшчэ некалькі гадоў, а мы ў Ленінградзе не вытрывалі і паўгода!

Ці працягваць мне свае запісы, раз абмежаваўся яшчэ больш мой радыус? Рашаюся працягваць. Мой далёкі сябар, чытаючы гэтыя лісткі, выкіне ці абміне тое, што яму будзе нецікава, непатрэбна. А я дакладна не ведаю, што патрэбна і што непатрэбна.

Вось, напрыклад, мужчынскі касцюм каштуе цяпер паўтара-два кілаграмы хлеба. Дарэчы, суседка абмяняла такім чынам касцюм на адну чацвёртую частку хлебнай карткі і, каб не дзяліцца пі з сынам, пі з цёткаю, абвясціла, што картку згубіла.

Калі ўдасца пахаваць нябожчыка на могілках, дык не ўсе могуць удастоіцца «індывідуальнага пахавання» ў асобнай магіле, а закапваюцца ў «траншэі», так што цяпер часта кажуць: «Як бы не трапіць у траншэю» альбо «Глядзі, трапіш у траншэю».

Гэта для мовазнаўца. А вось рэжысёру. На вуліцы натоўп. Усе апрануты вельмі кепска, але затое некаторыя жанчыны «шыкуюць», выпусціўшы з-пад спадніцы легалізаваныя штаны ў выглядзе шараварaў чырвонага, карычневага і нават блакітнага колеру. А іншыя нават без спадніцы засталіся ў ніжніх штанах. Замест галаўных убораў носяць часта касынкі. І мужчыны і жанчыны часта закрываюць хусткаю альбо белаю павязкай рот і нос. На нагах часцей за ўсё валёнкі, часцяком неверагодна стаптаныя. Засталіся яшчэ «дамы» ў вынашаных каракулях альбо пашарпаных вавёрчыных футрах, вельмі распаўсюджаных у апошнія гады. Па набярэжнай многа ходзіць «сухапутных маракоў», самых сапраўдных цывільных, апранутых у ваенна-марскую форму. Некаторыя жанчыны таксама ходзяць у ваенна-марской форме, і ім яна надзвычай пасуе. Трэба яшчэ дадаць дзеля паўнейшага каларыту, што, напрыклад, Яўгенія Аляксандраўна Талмачова-Карпіпская ходзіць у доўгай да пятаў спадніцы, як хадзілі жанчыны гадоў сорак таму назад, так што падол валачыўся па зямлі. І па галаве ў яе нязменны капялюшберэт амаль той самай даўнасці.

***1942.11.8.*** Дзвесце трыццаць другі дзень вайны. Ліхаманкава спяшаюся жыць... Дзіўны, рэдкі каля мяне чалавек, жонка-сябар М. Ф. Сёння яна імянінніца...

Сёння ўначы, як заўсёды, прачнуўся ў апраметнай цемры і абдумваў сваю самую ўлюбёную тэму пра Хрыста, гэтага дзіўнага настаўніка любові і міласэрнасці з далёкай Галілеі. Мы, уласна кажучы, нічога не ведаем пра яго, апрача прыгожай хвалюючай легенды пра лету-

ценніка, што загінуў. Усё жыццё я быў звязаны з гэтым вобразам — мараю пра шчасце чалавецтва, пра любоў, дараванне. Жыццё ўвесь час уносіла папраўкі, ірвала мару і нарэшце зноў, яшчэ раз жорстка распяла яе...»

Г. А. Князеў не проста падводзіць вынікі сваёй працы, сваіх думак і не толькі сумуе над неажыццёўленымі сваімі планамі. І не ў тым справа, што ён, разлічваючы ў глыбіні душы, што «папера больш жывучая за чалавека», гэтыя планы ўносіць у свае запісы (там ёсць і падрабязныя разлікі, як рэарганізаваць архіўную справу, як рацыянальней пераабсталяваць сховішча Архіва і г. д.). Дзённікі Князева зафіксавалі не толькі духоўную працу аднаго з ленінградцаў-блакаднікаў, разлічаную па будучыню, але і той факт, што такая праца (заўтрашняя) ленінградцу неабходная была дзеля таго, каб застацца чалавекам сёння.

Найдаражэйшыя яму, выпакутаваныя думкі: пра трагічныя спробы выратаваць свет любоўю, пра «звычайную» любоў, каханне мужчыны і жанчыны, і, нарэшце, пра сэнс чалавечага існавання — усё, усё ідзе ў радок, каб процістаяць крыўднай, абразлівай сітуацыі, калі ад нейкіх там «грамікаў» хлеба залежыць так многа...

«...М. Ф. не хапае ежы. Яна збірае рэчы, ідзе па рынак «атаварыць» іх. Зноў «ускіпела». Уся пакрылася чырвонымі плямамі, калі я пасумняваўся, што пры яе слабасці і прастудзе наўрад ці мэтазгодна — паводле маёй тэорыі «рацыянальнай эканоміі» — ёй будзе стаяць па ветры на рынку. Хлеб ці крупы яна, магчыма, і здабудзе, але затое і зусім заляжа. Размаўлялі адно з адным у нервовым напружанні, напружваючы ўсе сілы, каб стрымацца...

Гэтак людзі вар'яцеюць. Разумна ці неразумна яны тады паводзяць сябе, паспрабуй разабрацца! Вось М. Ф. пайшла на рынак, а я зняў з сябе пояс, даўно прызапашаны, і прымерыў яго... Так, на ўсякі выпадак...

М. Ф. вярнулася. Прынесла 100 грамаў (1/4 фунта) хлеба за сукенку. І шчаслівая. Вочы павесялелі... А мне лягчэй, што ёй лепей стала, і яшчэ больш балюча і сумна ад усведамлення, ад чаго мы, наш стан, настрой, адносіны залежаць!.. Ад чвэрткі фунта хлеба!..

Учора я і М. Ф. былі выбіты з каляіны. Да нас з'явілася Валя, якую мы хацелі зрабіць сваёй выхаванкаю. Мы былі на службе, і яна зайшла да суседзяў. Там расказала, што галодная, аслабла, што ў яе няма сіл і вось прыйшла начаваць да нас. Мы жывём у пярэдняй, і ў нас нават метра няма свабоднага, дзе можна было б пакласці чалавека. Сама Валя апусцілася, не мылася некалькі месяцаў, чорная ад бруду, валасы пазліпаліся ў камякі, завашывела, вочы памутнелі, твар ацёк ад празмернага спажывання вады. Пакуль сядзела ў іх, звалілася з крэсла.

Што нам было рабіць? М. Ф. цвёрда аб'явіла, што ў нас няма дзе начаваць. Тады яна аб'явіла, што ў яе няма сіл ісці дамоў. Яна прыйшла па справе. Яны з маці эвакуіруюцца, і ім патрэбны грошы, рэчы, прадукты!.. З сабою яна хлебнай карткі не прынесла. Давялося накарміць яе, даць грошай, не столькі, колькі прасіла яна (600—700 руб.). Спярша М. Ф. дала 50 р., але тая выпрасіла яшчэ 20. М. Ф. прапанавала завезці яе на санках дадому, але высветлілася, што яе маці некуды павінна была схадзіць і Валя ўсё роўна не магла б трапіць дамоў. Яна засталася на ноч у суседзяў. Расказвала, што ўсе рэчы прадала ці абмяняла, а тое, што яшчэ заставалася, згарэла. На жаль, паліто, якое ёй падарыла М. Ф., не было на ёй, нягледзячы на мароз. Паліто не згарэла, але і невядома, што з ім сталася...

Страшэнны сум і раздвоенасць авалодалі мною і М. Ф. Што мы маглі б зрабіць? Узяць яе — гэта значыць паскорыць свой канец і нічога, па сутнасці, не ўладзіць. Аддаць ёй апошні кавалак, грошы... Сумленне, тое, што сумесна любіць, мілуе, су-мі-луе, патрабавала шчырага і яснага рашэння. Мы нічога не маглі зрабіць, апрача таго, што далі ёй. І сёння раніцай яна пайшла. Я так і не бачыў яе».

Гэтая сітуацыя мучыць Князева не менш, чым голад. Так, абставіны, так, блакадная рэальнасць. Яны цалкам здольны заглушыць і сумненні, і мукі сумлення. Але гэтага ён таксама не жадае — нават дзеля палёгкі сабе. Накарміць чалавека, нават калі толькі кавалачкам хлеба і шклянкаю кіпетню, у тыя дні азначала нямала. Нам, хто чытае гэта сёння, хацелася б, каб ён зрабіў яшчэ больш, каб, рызыкуючы сваім жыццём, пакінуў у сябе Валю. Але не было гэтага, не было, і хто пасмее асудзіць за гэта Кня-

зева? Да таго ж пакінуць Валю ў сябе значыла ўскласці новыя клопаты на М. Ф., што згасала ад дыстрафіі; сам жа ён быў бездапаможны.

«Ніколі я не мог прымірыцца з думкаю аб простым існаванні, быць толькі існавальнікам, як і не мог прыняць і іншую крайнасць — быць гноем будучыні. Тут шмат яшчэ нявырашанага, асабліва ў нашыя дні, калі дзесяткі мільёнаў чалавечых жыццяў павінны загінуць, каб жылі іхнія народы, да якіх яны належаць паводле свайго нараджэння. Усё жыццё я вырашаў пытанне пра бога, пра прыроду. Прызнаюся, усе гэтыя пытанні так і засталіся адкрытымі. Праўда, я няверуючы. Але праўдзівей — я адхіліў ад сябе рашэнне гэтых пытанняў. Яны вышэй за мяне. Я ведаю толькі, што бога, які б кіраваў светам паводле законаў любові, няма. А іншага бога я не ведаю і ведаць не хачу. Я сам сабе бог... Бог жа як тоеснасць з прыродаю, саматворчасць прыроды для мяне незразумелы. Занадта велізарны сусвет, вялікія і складаныя яго законы, загадкавы пачатак жыцця, такая мудрагелістая канструкцыя жывёльнага цела і страшная ірацыянальнасць прыроды. Часта прырода і мой чалавечы розум несумяшчальныя. Прырода незразумелая мне. Асабліва цяпер, у гэтыя жахлівыя дні чалавечай бойні разумных істот. Я захапляюся веліччу і прыгажосцю прыроды, але і дрыжу ад яе жорсткасці, ад яе слепаты, ад яе ірацыянальнасці.

Прырода дыялектычная і, паўтараю, ірацыянальная. Магчыма, гэта толькі па зямлі так здарылася, што чалавек — твор прыроды — усвядоміў гэту самую прыроду і закалаціўся ў страху перад нязведанымі таямніцамі яе.

І тут мне незразумелыя тыя думкі, якія клікалі ад розуму да прыроды, да адмаўлення культуры. Усё маё жыццё — служэнне ёй, і ўвесь сэнс жыцця ў стварэнні яе, у выпраўленні, у апрацоўцы культуры.

Будучыня чалавецтва — гэта культурная будучыня, росквіт культуры. Чалавецтва дасягне гэтай ступені свайго развіцця і сапраўды стане культурным чалавецтвам.

Вось што падбадзёрвае мяне ў цяжкія, змрочныя дні, якія перажывае цяпер чалавецтва. Вось што падымае мяне на барацьбу з тымі заадно, хто змагаецца за гэта будучае культурнае чалавецтва. «Наша эра», што вядзе свой адлік ад «нараджэння Хрыста», альбо мусіць апраўдаць

сябе (а яна не апраўдала і не можа апраўдаць!), альбо павінна змяніцца новай «нашай эраю», нараджэннем новага культурнага (сапраўды культурнага) і гуманнага чалавецтва. Шмат каму, і мне ў тым ліку, здавалася, што такая эра пачалася 25 кастрычніка (7 лістапада) 1917 года. Будучыня пакажа, ці так гэта.

Ва ўсякім разе, для мяне другой эры пакуль няма. З гэтай жа эраю ў мяне ёсць будучыня, я кажу смела «ў мяне», няхай я нават заўтра загіну: тут «у мяне» і «ў нас» зліваецца.

***1942.11.10.*** Дзвесце трыццаць чацвёрты дзень вайны. Лютаўскі снежны дзень. Рэдкія гарматныя залпы. Прахожыя. Саначкі. Нябожчыкі. Бурыя плямы на снезе. Паваленыя падпоркі каля магазінных дзвярэй; фанерныя лісты замест шкла ў вокнах дамоў. Развалены кузаў грузавога аўтамабіля насупраць сфінксаў. Слуп са старымі афішамі, што засталіся ад лета. Шкляная вітрына на універсітэцкай рашотцы з апошнім паведамленнем Інфармбюро ад 1 лістапада і вельмі ўстарэлымі карыкатурамі. Гадзіннік, што паказвае фантастычны час... Вось і ўвесь мой шлях.

Гэтымі днямі чакаецца другая эвакуацыя акадэмічных супрацоўнікаў. Выязджаюць усе, хто можа! «Петербургу быть пусту»... Няўжо здзейсніцца старое і жахлівае прароцтва!

...Я спяшаюся жыць. Думкі папаўняюць мой мозг: вось, напрыклад, учора і сёння я занатаваў думкі аб Манеле-Імгненні. Ёсць такая паэма ў Марселя Швоба, якая ўразіла мяне яшчэ гадоў 35 таму назад сваёй арыгінальнасцю і вытанчанасцю самага адмысловага ўпадніцтва. Чытаў я яе, памятаю, у выкладзе А. Амфітэатрава. І мне чамусьці захацелася выкласці гэту паэму па-свойму...

Зараз ноч; дзесьці, і, відаць, не так далёка ад нас, падаюць цяжкія снарады. Войкне, уздыхне недзе зямля ад удару, і заходзяць, задрыжаць сцены дома. Потым зноў напружаная цішыня. Стрэлаў я не чую ў тым калідорыпярэдняй без акон, дзе мы жывём.

І вось у гэтыя напружаныя хвіліны, калі дастаткова аднаго такога выпадковага пападання, каб ні ад гэтых лісцікаў, ні ад нашага жытла, можа, ад нашага дома нічога не засталося, я пішу паэму аб Манеле. Захапіўшыся, я не прыслухоўваюся да жахлівай начной цішыні, якая парушаецца глухімі ўдарамі і ўздрыгваннем сцен дома. Вось чаму дарагая мне цяпер гэта быццам бы недарэчы тут, у запісках пра вайну, такая далёкая тэма.

Мы жывём нервова. Шмат хто ад галоднага ці паўгалоднага існавання атупелі альбо падурнелі. Іншыя апусціліся, нервуюцца, сварацца. Трэба ні неяк жыць, падаваць прыкметы жыцця. Лепш ужо складаць паэму аб Манеле, чым праклінаць усіх і ўсё і мучыцца ад бяссілля што-небудзь выправіць навокал, змяніць у сваім жыцці.

Памерці няцяжка, паміраць вельмі цяжка...»

## ВЫЯЗДЖАЕ 900 ТЫСЯЧ *

У дзённіку Г. А. Князева ўжо дзвесце сорак чацвёрты дзень вайны.

«***1942.II.20.*** Пятніца. Жыхары нашага злашчаснага горада кідаюць усю сваю маёмасць, жытло, дзе яны ўсё-такі мелі дах, блізкіх, калі яны слабыя, пакідаючы іх паміраць, і пакідаюць Ленінград. Да Фінляндскага вакзала ідуць маладыя, старыя, мужчыны і жанчыны, вязуць на саначках захоплены скарб, па некалькі пакетаў на чалавека. Вялікае высяленне. А той, хто застаецца, сціскае губы і маўчыць. У вачах затоеная пуда і трывога. А ў іншых, наадварот, поўная абыякавасць. Будзь што будзе!

Я выконваю свой абавязак бытапісца. Я зазіраю ў кожны твар, у кожныя вочы сустрэтага мною чалавека. Намагаюся ўсё заўважыць, усё запісаць, што бачу на маім малым радыусе. А цяпер перада мною задача — падрыхтаваць да здачы ў Архіў Акадэміі навук мае рукапісы і друкаваныя матэрыялы. Хочацца таксама запісаць і свае даўно задуманыя літаратурныя творы, урыўкі ўспамінаў, якія асвятляюць мінулае. Карацей кажучы, падвесці вынікі.

...«Пакуль Архіў Акадэміі навук будзе цэлы, і вашы рукапісы будуць у поўнай захаванасці»,— супакойваў я эвакуіраванага з універсітэтам дацэнта.

Трэба і мне спяшацца прыводзіць у парадак свае рукапісы і паперы. Холад замінае працаваць у маім кабінеце, а ў той дзірцы, у якой я цяпер жыву, не павернешся. Мае

* Прыкладна столькі жыхароў было эвакуіравана з Ленінграда ў 1942 годзе — у цяжэйшых умовах.

рукапісы за малым выключэннем нікому не вядомы матэрыял, ніколі не друкаваўся. Цяпер, калі гіне шмат матэрыяльных і культурных помнікаў асаблівай каштоўнасці, маюць значэнне і менш важныя дакументы. Мае рукапісы, бадай што, таксама заслугоўваюць у такім выпадку аховы і захавання. У іх усё маё жыццё. У студзені я стварыў канчатковую схему для прывядзення ўсіх маіх папер у парадак і прыняў рашэнне здаць іх на часовае захаванне, а ў выпадку маёй смерці — на сталае захаванне ў Архіў Акадэміі навук. А ці захаваецца хоць ён сам?

Цяпер усе мае думкі засяроджаны на тым, як бы падтрымаць затухаючае жыццё ў Архіве Акадэміі, якім я загадваю, і захаваць яго як адзін з самых выдатных архіваў па гісторыі рускай культуры і асабліва навукі за два з лішнім стагоддзі.

А сіл і ў мяне і ў супрацоўнікаў становіцца ўсё менш...

***1942.II.22.*** Дзвесце сорак шосты дзень вайны. Худзее не па днях, а па гадзінах М. Ф. Цяпер яна ў размеркавальніку, дзе павінны даць кавалак мяса. Пайшла з раніцы, не паеўшы. Учора з раніцы да вечара працавала, бегала на рынак мяняць, у сталоўку па кашу. Баюся, не хопіць у яе сіл. А ў мяне хопіць? Мацуюся. Але часам зусім трачу сілы.

Зайшла студэнтка А. В. Нехарошава-Карпінская. У яе засталося ўсяго тры экзамены — і універсітэт быў бы скончаны. Яна не эвакуіруецца, і яе выключаюць. Ва універсітэце вельмі многа хваляванняў: ехаць, не ехаць? Нехарошава не едзе з-за маці, якой дарога сама па сабе была б цяжкаю. Там не лепш будзе, тут не горш. «Там мы бежанцы, тут у нас ёсць дах, такія-сякія рэчы, якія мы можам мяняць». Дзве яе цёткі, маці і яна змагаюцца ўчэпіста і моцна за жыццё. Дзед іх, Аляксандр Пятровіч Карпінскі, уклаў у іх вялікую волю да жыцця, жыццяздольнасць.

«Мой першы жах змяніўся злосцю,— сказала яна мне.— Калі я перажыву вайну і мне будзе гадоў 50, я напішу ўспаміны. Я ўсё папішу, што людзі забудуць. Альбо не схочуць успамінаць. Цяпер жа ніхто нічога не запісвае: не час, а тыя, што бягуць з Ленінграда, будуць толькі пра сябе расказваць. Таму я ўсё стараюся запомніць, каб пасля запісаць».

Я ні словам, вядома, не абмовіўся, што менавіта цяпер пішу ўсё, што бачу, што думаю, што перажываю. Цяпер, непасрэдна, не баючыся супярэчнасцяў, расцягнутасці,

паўтораў. Бо такое жыццё. А тое, што будзе пісацца пасля ў выглядзе ўспамінаў, будзе далёка не тое, што мы перажываем цяпер.

...Наўскасяк ад нашага дома, каля самага моста пастаўлены тры цяжкія артылерыйскія гарматы. На набярэжнай зноў ваеннае ажыўленне, яно нагадвае верасень. Увесь час, пакуль ехаў на службу, стралялі. Снарады разрываліся недзе ў раёне Неўскага, Садовай.

Усё ўбачанае пакінула вельмі цяжкае ўражанне. Нас чакаюць наперадзе вялікія выпрабаванні... І надарваны арганізм М. Ф., напружаная нервовая воля яе не вытрымалі сёння: заплакала... Я гляджу на яе з ціхім затоеным страхам — пачарнела, асунулася, учора паскардзілася на ніжнюю дзясну... Сёння яна і раніцай устала даволі слабаю, а зараз працуе: прынесла дроў з падвала на наш трэці паверх, запаліла ў печы — буржуйцы, паставіла варыць менш за паўфунта гароху па дваіх на два дні, усё, што мы маем па картках да канца першай дэкады. «Бадай, я не вытрымаю»,— кажа М. Ф. ціха і коратка. І слёзы, буйныя, коцяцца па маленькім зморшчаным, старэчым (!) твары маёй выключна стойкай жонкі-сябра.

Магчыма, што і не вытрымаем! Пытаўся сёння на службе, чым мы можам памагчы Л. В. Мадзалеўскаму. Высветлілася, нічым!.. Жонка яго наўрад ці выжыве. Магчыма, што і ён сам асуджаны. Страшна пра гэта падумаць збоку!

Жыццё наша ўскладняецца з кожнай гадзінаю. З горада спяшаюцца выехаць усе, хто можа. А наперадзе?.. «Наперадзе,— кажа мая М. Ф.,— поўная безнадзейнасць». Я яе супакойваю, бяру сябе ў рукі. Дастаю кніжкі вершаў. Упіваюся імі. «Ты па-філасофску глядзіш на жыццё,— кажа мне М. Ф.,— а я яго люблю проста... Разумееш, люблю жыццё»...

Пасля палудня асляпляльна ззяе сонца пад белым покрывам Нявы і яе набярэжных, прыцярушаных толькі што выпаўшым свежым снегам. Ехаў, засланяючы твар ад сліпучага сонца, і думаў: у мяне ёсць яшчэ вось гэта — с а п р а ў д н а е  і м г н е н н е. Яно ёсць. А аб будучыні не трэба думаць!

Але на службе я не падаў і выгляду... Быў бадзёры, ажыўлены; размаўляў з доктарам гісторыі Андрэевым, які нешта гатаваў каля пліты. Спрабаваў арганізаваць аднаўленне работ у Архіве. З пліты ад палаючых там «спраў», як заўсёды, ляцеў попел, перада мною сядзелі панурыя,

стомленыя, галодныя людзі накшталт ледзь не ўміраючай Цветніковай, якая вярнулася пасля хваробы, і балюча сціскалася маё сэрца.

Дома — і холад і развал; і найстрашнейшае — безнадзейнасць нашага існавання. Але я яшчэ не здаюся!

...Так многа перадумана за гэты час. Многае запісвалася мною, але не ўсё. Безумоўна, мае запісы патрабуюць стараннай рэдакцыі. Але пакуль мне хацелася паспець запісаць хоць частку сваіх думак, перажыванняў, няхай нават і без дастатковай сістэмы і вытрыманасці стылю... Мая паспешлівасць апраўдана.

Сёння на тратуары мне трэба было прапусціць сустрэтыя мною здвоеныя саначкі. На іх ляжаў нечы труп, клапатліва і любоўна зашыты ў блакітную плюшавую коўдру. І сам не ведаю чаму, я неяк здрыгануўся. Чаму? Гэта ж такая прывычная карціна ў Ленінградзе нашых дзён. Іншыя з прахожых і «вокам не міргнулі»! Залішняя нервознасць, адчувальнасць? Ну, як хочаце называйце. Здрыгануўся. Менавіта з-за гэтай блакітнай плюшавай коўдры. На многія трупы глядзеў абыякава, загорнутыя ў мешкавіну ці анучы. А вось блакітны колер коўдры на марозным сонцы быў такі яркі, што адбіўся ў вачах, як і той блакітны колер, які сляпіў вочы за сонцам.

Сустрэліся мы каля універсітэта, апусцелага, пакінутага роднага майго старога будынка... Так я даехаў у задуменні да Акадэміі мастацтваў, таксама апусцелай і пакінутай... Каля галоўнага ўвахода, зачыненага, снег, і нехта на ім пакінуў цёмна-бурыя сляды спаражненняў. Насупраць сфінксы, мае нязменныя спадарожнікі па працягу гэтых дванаццаці з паловаю гадоў майго жыцця. Вакол іх гурбы снегу. І самі яны ў снезе. Але стаяць, пакуль стаяць. І мне робіцца спакойна. Пра 3500-гадовую перадгісторыю чалавецтва гавораць яны мне. Сапраўдная гісторыя чалавецтва наперадзе!»

Як працавалі на «Дарозе жыцця», напісана нямала, ды і нам расказвалі пра гэта многа. Вольга Іванаўна Маскоўцава таксама працавала на трасе, але дачка яе засталася ў Ленінградзе. Пры першай магчымасці Вольга Іванаўна наехала па яе. Дзяўчынцы было трынаццаць гадоў. Вольга Іванаўна папрасіла ў свайго начальніка папярад, у доўг, «буханачкі дзве хлеба», капусты, не чорнай, якой ім давалі, а — «беленькай капусткі, бо дзяўчынка

слабая, хворая, падняць яе трэба. І селядца. Ну, у доўг мне свае рабочыя далі кавалачкі. Я набрала талерачку і прывезла ёй. А яна мяне выгнала: не трэба мне гэтага хлеба, я лепш буду паміраць. Ты дзе ўзяла дзве буханкі? Ты ўкрала! Я кашу, я не ўкрала, я камандзіраваная, вось дакументы і на хлеб дакументы... Я яе забрала. Яна не магла хадзіць. Яе аднеслі ў машыну, мне памаглі. Вязём цераз Ладагу — глядзім, жывая яна ці не? Пасля пачала крыху хадзіць. Я яе вадзіла на кухню. Яна стрыгла там хвою. Дзеля вітамінаў. Мы чыгунку будавалі да Ладагі...»

Хоць і ў першай частцы «Блакаднай кнігі», і ў другой сустракаюцца расказы, успаміны, дзённікавыя запісы пра эвакуацыю дзяцей, насельніцтва Ленінграда, мы не мелі магчымасці колькі-небудзь звязана расказаць пра тое, як стваралі «Дарогу жыцця» цераз Ладагу. Тыя факты, падзеі, якія мы тут прыводзім, былі толькі часткаю агульнай цяжкай работы па выратаванню ленінградцаў.

Пачак пажаўцелых лісткоў, змацаваных заржавелай сашчэпкай. Дакладныя ад аднаго бытавога атрада. Усе яны пра М. Лазарава, дваццаці аднаго года, які жыве па Міжнародным праспекце, 18. Дзяўчаты камсамольскага атрада, мяркуючы па першай дакладной, знайшлі яго адзінокага, у бездапаможным стане: «У яго вычарпана, родных нікога няма, догляду няма. Цяпер ён ляжыць у чужым пакоі, але і гэта сям'я эвакуіруецца 31/III 1942 года. Тав. Лазараў павінен застацца ва ўсёй кватэры адзін. Дроў у яго няма. Сам ён працуе на заводзе Марці, цэх 22. У яго няма грошай, няма каму схадзіць па карткі. Пасля смерці маці засталіся ў ламбардзе рэчы. Ён просіць як можна хутчэй адправіць яго ў бальніцу».

Дакладная падпісана членам бытавога атрада па абследаванню працоўных Крыжовай 29 сакавіка 1942 года.

Сакратар райкома піша: «Звязацца з Кастрычніцкім райкомам, з тым, каб апошні садзейнічаў т. Лазараву легчы ў заводскі стацыянар».

А пакуль члены атрада прадаўжалі наведваць Лазарава. Кожны дзень яны адзначаюць у рапарцічках:

1 красавіка: «Хвораму Лазараву атрымалі заборныя кніжкі, прымацавалі іх, выкупілі хлеб, прынеслі абед са сталоўкі, накармілі. Камандзір звяна К. Швяцова».

3 красавіка: «Атрымалі грошы на заводзе Марці за бальнічны. Прынеслі абед са сталоўкі, пакармілі».

4 красавіка: Швяцова і Кірушкіна выкупляюць хлеб, прыносяць абед, кормяць і мыюць хворага. І так працяг-

ваецца кожіны дзень да 9 красавіка. Апошні запіс: «...па яго просьбе хадзілі ў паліклініку № 28 Фрунзенскага раёна, выклікалі ўрача. Камандзір звяна К. Швяцова, баец Кірушкіна».

Больш рапарцічак няма.

Гэтыя атрады — чым яны толькі не займаліся! Баец Аляксей Шытаў просіць у пісьме з фронту зайсці ў яго кватэру на праспекце Макліна паглядзець, «у якім яна стане, а калі заселена, дык хто жыве ў ёй, каб я мог спісацца з тым таварышам. Справа ў тым, што я чакаю лістоў ад родных, а яны, можа, валяюцца там без адказу, бо ніхто ў доме майго адраса не ведае».

Партком абароннага завода дзякуе старшыні бытавой камісіі Сідаравай М. за дапамогу брыгадзе, якая прыехала з тылу па сем'і работнікаў завода. Наколькі можна зразумець з тэксту запіскі, брыгада павінна была адшукаць 190 сем'яў. Многія з-за абстрэлу, пажараў перасяліліся, пераехалі, хто памёр, хто ляжаў у бальніцы. Іх знаходжанне, становішча і стан змаглі высветліць дзяўчаты гэтага бытавога атрада. Аб'ём іх працы можна ўявіць сабе хаця б па тым, што ў горадзе транспарт не працаваў, трэба было хадзіць пешшу па шматлікіх адрасах, наведваць шпіталі, жакты, дзіцячыя дамы. «Мы, эвакабрыгада, атрымалі ад вас цалкам ясны і дакладны адказ па ўсіх сем'ях. Яшчэ раз дзякуем усяму калектыву бытавога атрада».

Немагчыма вызначыць дакладна ўклад у перамогу Ленінграда, што змагаўся, Ленінграда, што працаваў. Вядома, можна назваць колькасць разгромленых дывізій і частай ворага, адрамантаваных на Кіраўскім заводзе танкаў «КВ», вытачаных снарадаў, мін. А вось як улічыць уклад тых, каго Князеў называе пасіўнымі абаронцамі Ленінграда, хто проста жыў і стараўся не паддацца смерці ў блакадным горадзе, выратаваць дзяцей, як Лідзія Ахапкіна і тысячы іншых жанчын? Альбо такіх, як Юра Рабінкін? Не будзем падлічваць патушаныя ім запальніцы — калі б іх нават і не было, Юра ўсё роўна застаўся б часткаю Ленінграда, што жыў.

Які ўклад у перамогу такіх вось ленінградцаў, якія сёння нават не лічацца ўдзельнікамі Айчыннай вайны, яе ветэранамі? Паэт Сяргей Нараўчатаў, які ваяваў у Сінявінскіх балотах, сказаў нам: «А мы б не змаглі столькі трымацца там, галодныя і знясіленыя, калі б побач не было жывога горада, агромністага і жывога Ленінграда! Проста лес, проста балота так абараняць было б немагчыма».

І Лідзія Ахапкіна, і Юра Рабінкін — жывыя, змагаючыся з голадам, роспаччу,— таксама былі неабходнай засткаю Ленінградскага фронту. Ды і ці толькі аднаго Ленінградскага?

«Масква трымаецца, Ленінград не здаецца!» — як гэта важна было ведаць у лясах Беларусі. Не заднім чыслом, а якраз адтуль, з ваеннага часу, памяць аднаго з аўтараў выцягвае пачуцці і факты, што пацвярджаюць, як многа значыла беларускім падпольшчыкам і партызанам тое, што Ленінград трымаецца. Нам было важна, што Ленінград не проста стаяў несакрушальна, а тое, што ён быццам бы абясцэньваў сілы і самаўпэўненасць ворага. Мы тады не ведалі, не маглі ведаць, якою цаною, якімі намаганнямі гэта даецца. Важна было, што ён трымаецца,— пасля таго, як мы на свае вочы бачылі ашаламляльны пачатак нямецкага маршу на ўсход. Ленінград спыніў гэты марш і паказаў мяжу гэтае сілы. Яна была акрэслена, гэтая мяжа, разгромам нямецкай арміі пад Масквою. Горад на Няве дэманстраваў бяссілле ворага, яно цягнулася гадамі, гэтае кашмарнае для Гітлера бяссілле зрабіць хаця б крок наперад.

Тады мы не ведалі, каму пакланіцца за гэту, што здавалася нам здалёк, з Беларусі, жалезнаю, стойкасць ленінградцаў. Удзел у рабоце над «Блакаднай кнігай» аўтара-беларуса будзе такім паклонам, хоць і запозненым, усім, хто змагаўся ў горадзе. Цяпер мы бачым, што яны не былі з жалеза, рэальныя ленінградцы, але тым большае павагі заслугоўваюць яны.

## «...ЧАМУСЬЦІ ШАПКУ ЗНЯЎ»

Надзею на выезд Лідзія Ахапкіна ўжо згубіла, калі 4 сакавіка да яе прыйшоў той самы лейтэнант, які прыносіў пасылку ад мужа і папрасіў тэрмінова рыхтавацца да ад’езду.

«Паедзем мы цераз, Ладажскае возера па машыне. Дзеля гэтага мне трэба аформіць у райвыканкоме праязныя дакументы, а пасля заехаць на Чайкоўскую вуліцу па пасылку. Я была так рада, так цешылася. У гэты самы дзень

я пайшла ў райвыканком Васільеўскага вострава, афарміла там дакументы. Яны мяне папярэдзілі, што дарога небяспечная. Былі, маўляў, выпадкі, што машыны правальваліся праз лёд. А галоўнае, сказалі, што мы за гэта не нясём адказнасці. Мне было смешна слухаць гэта, і я сказала: а калі мы тут памрэм з голаду, вы нясеце адказнасць? Не, я паеду, што б там ні здарылася, і пайшла наступнай раніцаю па пасылку, накарміўшы сваіх дзяцей і пацалаваўшы іх. Я ўзяла санкі і пайшла спачатку да старэйшага мужавага брата па чамадан, дзе ў мяне былі сякія-такія рэчы, як, напрыклад, мужавы касцюм, маё асенняе паліто. Жыў ён на Першай Чырвонаармейскай вуліцы, дарога зноў немалая. Дайшла туды без асаблівых прыгод. Горад па-ранейшаму быў змрочны і шэры, увесь у сумётах. Але сонца ўжо зазірала як на дамы, так і ў твары людзей, і мне здавалася, быццам бы ў іх павесялелі крыху вочы. Да таго ж з 1 сакавіка прыбавілі хлеба на дзяцей і мяне на 150 грамаў. Я забрала ў іх свой чамадан і папрасіла правесці мяне. Паабяцала падзяліцца тым, што будзе ў пасылцы. Я яе не атрымала яшчэ. Яны адмовіліся. Выгляд у іх таксама быў змардаваны. Я паехала зноў праз увесь горад на Чайкоўскую вуліцу, каб узяць пасылку. Па дарозе зноў зайшла па хлеб і ўвесь яго з’ела, таму што спадзявалася пакарміць дзяцей тым, што будзе ў пасылцы. Увесь час непакоілася за дзяцей, як там яны адны, някормленыя, пэўна, ляжаць і плачуць. Пачало ўжо цямнець, час быў 8 гадзін вечара. Калі я афарміла ўсе дакументы і ўзяла пасылку, я паехала дамоў. Праўдзівей, павезла...»

Цяжкае, пакутлівае яе падарожжа праз увесь горад мы прыводзілі ў першай частцы і тут дазволім сабе выключыць яго з расказу.

«Даехала нарэшце дадому, калі было ўжо тры гадзіны ночы. Я не магла перацягнуць санкі цераз высокі парог брамы. Пакінула ўсё на вуліцы і ледзь не паўзком дабралася па лесвіцы да дзвярэй. Адчыніла іх і пачала клікаць Розу, на міг зазірнула да сябе. Дзеці, пачуўшы мяне, заплакалі ў два галасы. Ах, мілыя вы мае, жывыя, зараз я вас накармлю. Мы з Розаю хутчэй спусціліся па лесвіцы.

Я ёй кажу: бяжы хутчэй, там каля брамы сапні стаяць, хутчэй! Там багата яды, я накармлю і цябе уволю. З вялікай цяжкасцю мы ўцягнулі ўвесь багаж. Я распранулася і ўпала знясіленая на ложак. Дзеці плакалі, я мінут дваццаць не ў стане была падысці да іх. Пасля адчыніла пасылку, у ёй аказаліся амаль адны аржаныя сухары і толькі два пачкі проса. Хутчэй запалілі ў печы, паставілі варыць кашу. Накарміла дзяцей і Розу. Усю ноч збіралася. Я не ў стане была варухнуць рукою. Роза паклікала дзвюх жанчын, і яны мне памаглі, а я ім дала сухароў.

На наступны дзень, 6 сакавіка 1942 года, з багажом і дзецьмі я рушыла зноў на Чайкоўскую. Там быў зборны пункт. Адна жанчына згадзілася везці мне рэчы, а я дзяцей. Ёй я аддала ўжо паўкіло проса і чатыры сухары. Было 11 гадзін, а збор прызначаны на 12 гадзін. Яна, як і я, была слабая і ледзьве цягнула санкі. Мы абедзве ледзьледзь перасоўваліся. У абедзвюх не было сіл, я вельмі нервавалася, баялася спазніцца. Па вуліцы мяла мяцеліца з вялікім ветрам. Час ужо быў палова другой, а мы толькі дабраліся да Ліцейнага моста. Удзень па ім дазвалялася хадзіць. Што, калі мы спознімся? Усе мае мучэнні, трата апошніх сіл будуць дарэмныя. Я ўжо раздала амаль усе; сухары, крупы таксама. Значыць, зноў галадаць. Ад гэтых думак у мяне разрывалася сэрца. У скронях стукала. Я зноў змакрэла. У дарогу я надзела на сябе чыстую бялізну, дзве шарсцяныя сукенкі і яшчэ наверх мужаў касцюм дзеля цяпла і захаванасці. Мне зрабілася горача. Я расшпіліла паліто; вецер, як агнём, наліў мой твар, але я нічога не адчувала. Адно апошняе напружанне, яшчэ крок, яшчэ. Зноў лічу крокі. Ад гэтай дарогі і ветру я прастудзілася, і ў мяне быў гнойны плеўрыт з высокай тэмператураю, але пра гэта пасля.

Нарэшце мы даехалі, было тры гадзіны. Машына стаяла, не паехала. Высветлілася, што не толькі я, але і другія таксама спазняліся. Калі я садзілася ў машыну, мяне яшчэ раз папярэдзілі, што дарога небяспечная. Абстрэльваецца і гэтак далей. Я сказала, што ведаю і ўсё роўна еду. Праязджаючы па горадзе, у думках развітвалася з ім. Бывай, мой шматпакутлівы горад, думала я, бывайце, людзі.

Па возеры таксама мяла невялікая завея. Спачатку ехалі хутка, пасля зусім павольна. Спераду ішоў чалавек, ён аглядаў дарогу і лыжаю разграбаў снег, таму што баяліся ямін, якія былі тут ад снарадаў і дзе лёд быў слабы.

Пра гэту дарогу я напісала верш:

Дороги, дороги, вас много кругом:
Широких, веселых и гулких, как гром.
Проносятся ветры, весенние грозы,
На кромках растут тополя и березы.
Я помню и знаю дорогу иную,
Дорогу по Ладоге, всю ледяную,
По ней вывозили людей из блокады...

Па гэтай дарозе ў завіруху, на машыне я ехала з маленькаю дачкою і сынам.

...Нас ехала чалавек 10—12. Толькі жанчыны і дзеці. Шафёр быў ваенны, і з ім сядзеў у кабіне таксама мужчына.

Я была самая слабая. Мне здавалася, што мы едзем доўга-доўга. Машына была абнесена фанераю, у яе крыху збіраўся адпрацаваны газ. У мяне галава кружылася і балела. А дзеці знаходзіліся ў паўнепрытомным стане. Мяне нудзіла, калаціла, некалькі разоў мяне ванітавала. Я адчувала, што паднялася тэмпература. Я ўся гарэла. Мне нехта даваў нейкія лекі. Клалі на галаву мокры ручнік. Я зрабілася абыякавая да ўсяго, траціла прытомнасць. Калі апамятаюся, пытаюся, дзе мы, дзе дзеці. Мне адказвалі: тут, у машыне, жывыя дзеці. Іх нехта карміў, хтосьці саджаў на начны гаршчок. Я не магу сабе ўявіць, як я магла вытрываць гэту дарогу. Знясіленая ад голаду, ад напружаных перавозак, у дадатак прастудзілася, з высокай тэмператураю. Напэўна, мацярынскі інстынкт змагаўся за жыццё дзяцей, як кажуць, да апошняга ўздыху.

...Першы прыпынак. Першы эвакуацыйны пункт. Нас сустрэлі добрыя, спагадлівыя людзі. Памаглі сысці з машыны, перанеслі дзяцей. Мяне паклалі на лаўку. Тут быў пабудаваны а новых дошак вялікі барак. Па краях лаўкі. Усярэдзіне дзве ці тры жалезныя печы, якія няспынна паліліся. Нам прынеслі яду. Дзяцей кармілі маннай кашаю на згушчоным малацэ. Мне прынеслі мясны суп з локшынаю. Але я нічога не магла есці. Увесь рот і горла нечым былі абкладзены, былі шурпатыя. Я не магла глытаць, ды і апетыт прапаў. Свой абед я аддала шафёру. На другі дзень мы зноў паехалі. Мы павінны даехаць да горада Чарапаўца. Там часова стаяла мужава вайсковая часць. Па дарозе мы яшчэ раз спыняліся ў адной вёсцы Ленінградскай вобласці. Амаль уся вёска была спаленая немцамі. У адным з уцалелых дамоў мы ўсе пераначавалі. Я адчувала сябе вельмі блага і страшэнна кашляла. Тэмпература

ўвесь час трымалася. Але мне давалі аспірын, які быў у адной жанчыны. Пасля быў яшчэ адзін прыпынак у горадзе Ціхвіне. Гэты горад быў двойчы ў немцаў, і двойчы нашы яго адбівалі. Ён амаль цалкам быў зруйнаваны.

...Нарэшце мы даехалі да горада Чарапаўца, гэта было 11 сакавіка 1942 года. Калі машына спынілася перад нейкім домам, мой муж адразу ўскочыў у машыну. Паглядзеў навокал і выскачыў. Ён нас не пазнаў, а я яго, канечне, адразу. У мяне ад хвалявання перахапіла дыханне, і я не змагла паклікаць яго. Дзеці яго не пазналі. Ён быў адзеты па-вайсковаму. Я чую, ён пытае, прыехала я ці не. Яму адказваюць, што яна з дзецьмі знаходзіцца ў машыне. Ён зноў ускочыў і пачаў глядзець. Пачаў пазнаваць, пазнаваць і хрыплым голасам: «Вы, вы?!» — зноў выскачыў з машыны. Ён заплакаў і чамусьці шапку зняў. Потым, нарэшце, саўладаў з сабою і сказаў: «Ліда! Толік!» — і зноў з вачэй паказаліся слёзы. Я нічога не магла яму адказаць. Гляджу і маўчу. У горле нібы камяк. Хачу сказаць, а язык быццам анямеў. Машына была заваленая цюкамі, і я сядзела ў самым кутку. Тады ён паклікаў: «Толік, ну ідзі ж да мяне хутчэй». Я нібы не сваім голасам: «Ён не ходзіць». Уся гэтая размова была, як я яе апісваю. Сустрэча была радасная і горкая. Яна на ўсё жыццё засталася ў мяне ў памяці. Пасля па чарзе ён нас павыцягваў і перанёс у нейкі дом. Нам на чатыры сям’і далі пусты пакой. Кожная сям’я заняла куток.

...У пакоі было цёмна. Горад Чарапавец па ноч таксама зацямнялі. Мужы здаровыя, а жонкі знясіленыя. Жонкі з мужамі ціха перашэптваюцца, усхліпваюць. Я не магла гаварыць. Мне перашкаджаў кашаль. У мяне была гарачка, балелі грудзі, галава. Гаспадыня недзе дастала малака і гарачага дала папіць мне і дзецям. Яна сказала, што заўтра можна будзе яшчэ дастаць малака і бульбы. Я была вельмі рада. Мне не верылася. Малако, бульба — якое шчасце! Я вырашыла памяняць бялізну. Калі я распранулася, паказала сябе, голую, мужу. Глядзі, кажу, якая я зрабілася. А была я што шкілет, абцягнуты скураю. Асабліва страшныя былі грудзі — рэбры. А я ж карміла імі дзіця, калі пачыналася вайна. Ногі тонкія, крыху таўшчэйшыя за паўлітровыя бутэлькі. Вася зірнуў і зноў заміргаў вачамі. Нічога, сказаў ён, калі косці цэлыя, будзе і цела. Ніякай блізкасці паміж намі не было, і не магло быць пра гэта нават гаворкі, хоць не бачыліся мы дзесяць месяцаў. У гэтым пакоі мы пражылі пяць дзён. Пасля

вырашылі ехаць у Саратаў. Мужу далі водпуск на дзесяць дзён. У Саратаве ў мяне родныя — маці і дзве сястры. Мы селі ў эшалон, што ехаў з Ленінграда. Вагоны былі таварныя. Ехаць было зноў холадна і няўтульна. Пасажыры былі эвакуіраваныя з Ленінграда, такія самыя знясіленыя і худыя, як і я. З намі паехала жонка і сын таго лейтэнанта, што прыходзіў да нас у Ленінградзе. Яны хацелі са мною ў Саратаў. У дарозе хворыя і знясіленыя людзі паміралі.

На кожным прыпынку нас кармілі, і муж з каструлькаю бегаў на вакзал. Прыносіў кашу альбо суп, я амаль нічога не ела. Мне ўсё больш і больш нездаровілася. На адным прыпынку я таксама выйшла падыхаць свежым паветрам. Муж у гэты час карміў дзяцей. Раптам поезд без усякага свістка і папярэджання рушыў. Я пабегла, задыхаючыся, да свайго вагона, гэта было недалёка, і я паспела схапіцца за дужку. Поезд набіраў хуткасць, і мае ногі, пакуль снег быў каля платформы расчышчаны, не дакраналіся да колаў. Нехта закрычаў: «Ліда па вуліцы!» У мяне перад вачымі мільганулі мужаў твар, твары дзяцей і думка як маланка: «Вось дзе я павінна памерці! Не ад голаду, не ад бамбёжкі, а вось цяпер». І я страціла прытомнасць. Вася паспеў схапіць мяне за каўнер паліто. Яму той лейтэнант памог уцягнуць мяне ў вагон. Калі я ачнулася, дык убачыла, што перады ў маіх валёнках былі адрэзаны. Адзін вялікі палец на правай назе быў прыплюснуты, з яго сачылася кроў. Калі б валёнкі не былі мне завялікія — яны былі вялікага памеру, бо не мае, а мужавы,— дык, магчыма, я пазбавілася б ног — па ступні, а то і вышэй. Калі б муж хоць на секунду пазней схапіў мяне за каўнер і не адцягнуў ад колаў, мяне поезд задушыў бы да смерці.

Пасля такога перажывання і хваробы я зусім звалілася. Няспынны кашаль з высокай тэмператураю мяне замучыў, і я думала, што памру ў дарозе. Поезд ехаў павольна. На адным прыпынку зайшлі санітары. Урач бегла аглядаў людзей і загадваў слабых, вельмі хворых выносіць на насілках. Калі паглядзеў на мяне, таксама загадаў забраць: «Гэтую ў бальніцу — сыпны тыф». Я сказала, што на сыпняк хварэла яшчэ ў дваццаць другім годзе, дзяўчынкаю, і што ў мяне, напэўна, запаленне лёгкіх. Ён: «У бальніцы разбярэмся».

Скура на целе ў мяне была сухая, лушчылася ад вычарпання, і на ёй была быццам бы высыпка, як на абску-

банай куры. Вось урач і падумаў, што ў мяне тыф. Муж мой напалохаўся. Калі мяне ў бальніцу, дык куды дзенуцца дзеці? Мы вырашылі, пакуль урача і санітараў няма, хутчэй выйсці на другі бок поезда, проста ў снег. Тая жанчына з мужам і сынам выйшла разам з намі. Поезд рушыў. Мы засталіся сядзець на сваіх рэчах на снезе. Мужы нашы пайшлі даведацца, што за станцыя, і дастаць коней з санямі, каб давезці нас да вакзала. Калі яны вярнуліся на санях, муж сказаў, што гэта станцыя Сямібратава Яраслаўскай вобласці. Мы пагрузіліся, пад'ехалі да вакзала. Мяне паклалі на лаўку, я не магла ні ісці, пі стаяць. Нас абкружылі людзі, глядзелі па мяне. Відаць, мой выгляд асабліва цікавіў іх і палохаў: «Якая худая і страшная і мае грудное дзіця», «Ды гэта, напэўна, не яе», «Гэта, можа, бабка дзіцяці».

У адной з вёсак Яраслаўскай вобласці мы спыніліся. Нас доўга ніхто не рашаўся пускаць, баяліся мяне, думалі, што я заразная хворая. Пасля адна жанчына пусціла. Муж на наступны дзень паехаў. Купіў нам мех бульбы. Дастаў з паўкілаграма вясковага сметанковага масла. На развітанне ён мяне пацалаваў у лоб. Я яму сказала, што ты мяне цалуеш, як нябожчыка. Ён тады пацалаваў у губы. Я доўга хварэла. Прыходзіў вясковы ўрач, які таксама вызначыў, што ў мяне тыф. Гаспадыня напалохалася, і мяне вынеслі ў камору, халодную і брудную. Там я праляжала два дні. Пасля, калі зноў прыйшоў урач, праслухаў мяне як трэба, дык вызначыў лёгачнае захворванне. Я папрасіла, каб ён ставіў мне банькі. Ён пачаў хадзіць і ставіць. Я хварэла больш чым месяц. Пасля стала папраўляцца. Як паправілася, пайшла працаваць у калгас калгасніцаю. З сіл выбівалася, каб што-небудзь зарабіць. Усё, што я прывезла з адзення, мяняла на малако дзецям. Я ніколі ў жыцці не была ў вёсцы і не ведала сялянскай працы, ало жыццё навучыла. У вёсцы я пражыла тры гады».

Вось такая гісторыя Лідзіі Ахапкішай. Гэта гісторыя маці, якая ратавала сваіх дзяцей. Могуць сказаць — тут нічога выключнага, гераічнага, так і павінна быць... Напэўна. Выключным было толькі шчасце маці, якая выратавала сваіх дзяцей і перамагла, здавалася, саму смерць. Лідзія Ахапкіна яшчэ не ведала, што яе Ніначка ўсё-такі памрэ ад туберкулёзу і цяжкага страўнікавага захворвання, якое прывезла з Ленінграда. Памрэ ўжо ў эвакуацыі,

як і тысячы, тысячы іншых ленінградцаў, якім здавалася, што яны вырваліся з ледзяных абдымкаў блакаднай смерці.

Калі чытаеш запісы Лідзіі Ахапкінай, думаеш пра тое, як сутыкнуліся тут любоў і голад. Кажуць — «Любоў і голад правяць светам». У гэтым выказванні закладзены два вырашальныя пачуцці: то адно з іх перавышае, то другое. А тут яны сутыкнуліся ў адкрытай лютай схватцы ў сэрцы жанчыны-маці. Пэўна, трое Ахапіўшых маглі памерці ў Ленінградзе ад голаду, але і гэта не было б паражэннем любові. Мацярынская любоў Лідзіі Ахапкінай выстаяла. Нішто не магло зламаць яе.

Думаючы пра Лідзію Ахапкіну, мы міжволі супастаўляем яе з Юрам Рабінкіным і Г. А. Князевым. Калі вызначыць галоўнае, што адбывалася ў кожным з іх, дык, напэўна, гэта будзе: праца сумлення — у Юры Рабінкіна, праца розуму, духу — у Георгія Аляксеевіча Князева і праца любові — у Лідзіі Ахапкінай. Гэта, канечне, спрашчэнне, у ім шмат чаго губляецца, але менавіта гэтыя тры пачаткі перш за ўсё прадстаўлены ў іх дзённіках, запісах. Так атрымалася — тры нашых героі ўвасобілі тры вырашальныя апоры чалавечага быцця.

## ПРАВЕДНЫЯ І НЯПРАВЕДНЫЯ

Г. А. Князеў:

***«1942.IV.9.*** Дзвесце дзевяноста другі дзень вайны. Спяшаюся жыць. Прачнуўся сёння раннім ранкам, і запрацавала думка. Трэба зрабіць гэта, скончыць тое, паспець за некалькі месяцаў хоць часткова выканаць тое, на што і трох гадоў было б мала!

І запісаць многае хочацца... Пра жанчыну, жонку-сябра хацелася б пісаць гімны, паэмы. Пра жанчын, што змагаліся і ратавалі, але ўсё-такі ў сваёй большасці страцілі мужоў — астранома Берца, археолага Чаева і многіх іншых,— аж да той простай жанчыны, якая мне расказвала пра апошнія гадзіны свайго мужа — вартаўніка Цэнтраархіва Блахіна.

Будучы паэт, якому, магчыма, трапяцца па ночы гэтыя мае спісаныя лісткі, натхніцца і напіша такі гімн альбо паэму жонцы, што беззапаветна і самааддана пераносіла ўсе нягоды і адстойвала ўсімі сваімі сіламі свайго мужа... Тым, што я пакуль жывы, цалкам абавязаны М. Ф. Якая яна ў мяне без усякіх красных слоў самааддана працаўніца і сціплая гераіня!..

***1942.IV. 13.*** Дзвесце дзевяноста шосты дзень вайны. Нехта сказаў: «Надта шырокі чалавек, не шкодзіла б яго звузіць...» Усю гэту зіму я жылу толькі цяперашнім імгненнем, але ў той самы час жыву ў мінулых стагоддзях, тысячагоддзях, ствараючы храналагічную канву для гісторыі культуры: «Па культурных вехах і крывавых правалах». Якая неабсяжная шырыня ў магчымасцях чалавека: узлёты, падзенні, геніі, падобныя да касмічных зорак першай велічыні, і вылюдкі, падлюгі; чые імёны ведае гісторыя і мільярды тых нікому невядомых, якіх ніхто ніколі не можа ўспомніць, таму што нічога не ведае пра іх, але якія жылі і паміралі, якія, па сутнасці, і ёсць чалавецтва!..

Вось жыццё як яно ёсць; вось людзі як яны ёсць... І жахліва, жахліва робіцца: што яны зрабілі з падараванай для іх жыцця зямлёю, у што яны ператварылі яе!.. Кроў, слёзы, папялішчы, гвалт, шыбеніцы, расстрэлы, рабаванні і пакуты, пакуты ва ўсім свеце!.. І зрабілі гэта тыя людзі, тыя, што мелі сярод сябе і Хрыста, і Сакрата, і блаславёнага Аўгусціна, і Канфуцыя, і Лао-Тая, і Буду, і Талстога!..

***1942.V.12.*** Трыста дваццаць пяты дзень вайны. Высвятляецца, у мяне ёсць сучаснік, які запісвае чуткі. Я, як ужо адзначаў, не запісваў іх, я браў толькі факты; і толькі тады запісваў чутку, калі яна датычыла якога-небудзь факта, які я не мог праверыць. Гэты мой сучаснік — Е. Г. Альдэнбург.

Сёння яна мне дапамагала зняць са сцяны дома плакат з надпісам пра абарону роднага горада. Плакат гэты вісеў усю зіму пад дажджом, снегам, завірухамі, абстрэламі: «Не здадзім роднага горада!» Ленінградцы адстаялі свой горад. Праз некалькі гадоў, праз 50—100 гэты плакат будзе музейнай рэдкасцю. Перад ім нашчадкі нашы схіляць свае галовы. Гэты шматок паперы, клапатліва захаваны, будзе расказваць пра перажытае ў Ленінградзе больш, чым сотні напісаных старонак. Ён — жывы дакумент свайго часу...

І вось калі Е. Г. Альдэнбург памагала мне здымаць са сцяны гэты плакат, дык і сказала, што яна напісала некалькі сшыткаў, запісваючы ўсе свае ўражанні дзень за днём і ўсё, што яна чуе, чуткі.

Значыць, не я адзін пішу. Але так, як я пішу, другі не піша. Мы ж бачым і перажываем усё па-свойму, неаднолькава..,

Рамашэўскі з пачатку вайны вёў рэгулярны запіс трывог (ён іх налічыў да мая 1942 г.— 359), а падчас дзяжурстваў — усіх выпадкаў. Таксама запісваў, як высветлілася, і В. А. Пятроў. Сёе-тое запісваў я. Значыць, матэрыялы ў нас выяўляюцца, і іх нямала! Трэба б толькі зарэгістраваць іх, захаваць, вывучыць...

Даведаўся, што ў нашым доме на працягу зімніх месяцаў з 200 яго жыхароў памерла 65, гэта значыць 35 %».

А вось гэта чытаем у іншым дзённіку:

***«26.IV.42.*** Мне расказвалі, што памёр адзін стары, ён у некаторай ступені меў дачыненне да мастацтва. Сярод яго рэчаў знайшлі зроблены ім медаль з надпісам «Я жыў у Ленінградзе ў 1942 годзе». Можа, пасля вайны варта было б такі медаль даць усім ленінградцам.

І яшчэ: я на якім-небудзь прыгожым месцы ў горадзе альбо ў адным з паркаў паставіла б помнік усім тым, хто памёр у час блакады, і на камені высекла б лічбу смяротнасці. Гэта будзе гучаць яшчэ больш велічна, чым Люцэрнскі леў» (Кл. У. Ползікава-Рубец).

Вось пра што яны думалі ў красавіку 1942 года, крыху! ажыўшы на першым цёплым сонцы. Яны знаходзіліся яшчэ ў фізічнай немачы, паміралі ад знясілення, па-ранейшаму на вуліцах ірваліся снарады, разбураліся дамы, але вось падлетак Саша Несцераў падыходзіць ужо да люстэрка: «...дыстрофік — я ўбачыў гэта слова ў люстэрку».

Людзі пачалі глядзець, і аглядвацца, і бачыць. Сярод гора, любові, подзвігаў самаахвяравання і абавязку ўбачылася і іншае.

Адбывалася палярызацыя, добрае выяўлялася, агалялася ў сваёй прыгажосці, благое — ва ўсёй агіднасці. Тут было рознае: і марадзёрства, і спекуляцыя, нехта нажываўся на голадзе, кралі прадукты, выменьвалі на золата, на каштоўнасці, карціны, футры, былі і такія, што п’янствавалі, гулялі («Аднак жывём!»),— усякае было ў шматмільённым горадзе. Дзіўна ўсё-такі, што ў дзённіках гэтыя выпадкі прыводзяць рэдка, іх трэба вышукваць, пра

іх пісалі менш і ўспамінаюць пра іх неахвотна, хоць і пагаджаюцца, што, калі пазбягаць гэтых фактаў, карціна атрымаецца няпоўная.

Пабывалі мы ў сваіх абходах у аднаго вядомага калекцыянера. У яго расказе перш за ўсё прарывалася гордасць тым, як удавалася яму ў час блакады папаўняць сваю калекцыю. Як выменьваў рэчы ў іншых калекцыянераў, што паміралі, за нейкія крошкі хлеба. Можа, выпрошваў у тых, хто эвакуіраваўся і не мог забраць з сабою. У яго расказе, вядома, усё выглядае прыстойна. Ён не выпрошваў — ён «памагаў», ён «захоўваў» тое, што магло наогул загінуць у разбураных дамах, ён «ратаваў» у тых, хто памёр з голаду, бясцэнныя зборы, якія суседзі маглі спаліць у печах. Яго ні ў чым нельга было абвінаваціць, таму мы не маем ніякага права называць яго прозвішча, але пачуццё ад яго расказу ўзнікала зусім акрэсленае і непрыемнае. Канечне, як сапраўдны калекцыянер, ён быў фанатычны. Калекцыянеры бываюць карыслівыя, прагныя, настырныя, яны гатовы прыніжацца, канькаць, нават падманваць. Але тут было нешта іншае. У гэтай вялікай кватэры ў закутку памерлі з голаду яго бацька, пасля маці, а ён усё выменьваў, здабываў, папаўняў сваю бясцэнную калекцыю. Ён паказваў нам вялізныя шафы, упрыгожаныя бронзавымі бюстамі старажытных пісьменнікаў, рэдкія манаграфіі, гравюры, сваю славутую картатэку. Гэта былі сапраўды унікальныя рэчы, але яны ўжо не выклікалі ў нас захаплення. Мы не маглі імі любавацца. Надта выразна бачылася за ўсім гэтым трагедыя блакады. Бессаромна і бязлітасна карыстаўся ён гэтай трагедыяй, збіраючы адным захадам не толькі прадметы сваёй страсці, але, верагодна, і іншыя мастацкія каштоўнасці.

Прызнацца, мы ў сваіх пошуках ні разу не сустрэліся з блакаднікам — спекулянтам, хапугаю, з тым, хто нажыўся на бедствах вайны, браў за буханку хлеба золата, карціны, хто скупляў футры, мэблю, бронзу, фарфор — за хлеб, за крупы. Не сустрэліся з тымі, хто абіраў у бальніцах хворых, хто краў прадукты ў сталоўках, у дзіцячых садах... Яны, вядома, былі, але ж ніхто не прызнаецца, не скажа гэтага пра сябе. Напэўна, яны былі сярод тых, хто ўнікаў размовы з намі, хто адмаўляўся прыпяць нас у сябе дома.

Пасля вайны нямала было выпадкаў, калі блакаднікі знаходзілі на кім-небудзь свае рэчы, у некага сямейную рэліквію.

«І вось такі выпадак... У мяне была маленькая брошачка ў выглядзе корціка. Муж маёй цёткі быў марскім афіцэрам, і неяк ён зрабіў ёй на заказ такую брошку — залаты корцік, ножны чэрненыя і слановая косць. Гэта засталося ў мамы з іншымі рэчамі цёткі...

Прайшло шмат гадоў. Неяк прыйшла я ў цырульню. Сяджу. І раптам заходзіць дзяўчына, а ў яе прыколаты гэты корцік. Я разгубілася — такое супадзенне! Я не магла памыліцца, таму што гэта была на заказ зробленая рэч. Я вельмі разгубілася. І ўсё. Больш я яе не сустракала. Так і прапала, канечне» (Ніна Вячаславаўна Сезянеўская).

У тыя блакадныя дні на здаровых і сытых тварам глядзелі падазрона, недружалюбна, загадзя залічвалі іх у махляры. Іван Аляксеевіч Савінкаў у верасні сорак другога года ўжо заўважае ў сваім дзённіку «нувbooрышаў», альбо, як ён іх называе, «новую арыстакратыю», тых, хто махляваў, нажываўся, раскрадаючы прадукты,— ён адрознівае іх сыты выгляд, самаўпэўненасць, уборы.

Але вось Г. А. Князеў пад фашысцкімі бомбамі самаадлана чытаў вершы Ёгана Вольфганга Гётэ:

Мою ты землю не пошатнешь
И хижину мою:
Не ты ее построил...

Ні карыслівасць, ні эгаізм, ні спакуса як-небудзь уцалець за кошт іншых не пахіснулі такіх, як Князеў, не пахіснулі іх «зямлю» — іх сумленне.

## ЦЯЖАР КНІГ

*«1942.III.14.* Нічога асаблівага. Дзень як дзень... Ноч як ноч у асаджаным горадзе,— такімі ўяўляюцца дзвесце шэсцьдзесят шостыя суткі вайны Г. А. Князеву.— Блакада не разарвана, і адсюль усе якасці... Даўно вырашана мною — пра будучыню не думаць. Цяпер пытанне ставіцца зноў — што будзем рабіць. У нас было беззваротнае рашэнне — заставацца ў Ленінградзе і нікуды не выязджаць. Цяпер само жыццё ставіць пытанне пра выезд з

Ленінграда. Наступнай зімы, калі б мы і дажылі да яе, у разбураным горадзе, без дроў мы не пражывём. Цяперашняй зімою дзесяткі, калі не сотні тысяч знясіленых галадам людзей проста застылі і замерзлі ў сваіх неацяпляемых пакоях. Чакаць такой перспектывы з «філасофскім спакоем» бязглузда. Значыць, трэба вырашаць пытанне пра выезд з Ленінграда. Але куды? А як з Архівам?

І паўстала раптам шэрай сцяною гэта будучыня, давялося задумацца пра будучае...

На службу сёння не змог паехаць па прычыне няспраўнасці майго ручнога самаката і слабасці М. Ф., якая не змагла б сёння справіцца са сваімі абавязкамі і слесара, і шафёра.

І я цэлы дзень чытаў вершы Бадлера, Верлена, Верхарна і іншых...

***1942.III.15.*** Дзвесце шэсцьдзесят сомы дзень вайны. Сёння дзень майго параджэння. Мне споўнілася 55 гадоў... Я стаміўся, знясілены ад голаду і холаду, змучаны маральна, зламаны віхурай падзей, але я не стары, я не «адсталы». Я яшчэ дастаткова адчуваю ў сабе сіл, каб змагацца, а калі будзе патрэбна — памерці... Што ж рабіць? Жыццё пражытае. Не ўдалося, праўда, тры-пяць гадоў пражыць спакойна, заняцца сваімі кнігамі, калекцыямі, незакончанымі задумамі... Прыйшлі ліхія часы. Увесь свет, уся наша планета ў полымі агню.

Устаў рана. Апранаўся каля печы. Якое шчасце грэцца ў халодным пакоі каля цёплай печы. Яна была напалена на ноч і да раніцы яшчэ не астыла. Сяджу цяпер за сталом. Праўда, у пакоі развал, ад распаленай буржуйкі ідзе едкі дым і есць вочы... Але якое шчасце, што яшчэ каля мяне М. Ф. Яна бадзёрыцца. Зараз гатуе каву. Няхай у мяне стынуць рукі, і яна і я ў зімовых паліто (па дварэ зноў мароз — 19°!), але мы жывём. І яна і я любім адзін аднаго...

— Дарагая мая Кічы (так я заву свайго вернага сябра і жонку М. Ф.), падыдзі да мяне...

І я цалую яе, такую худзенькую, пастарэлую... А яна ўсміхаецца мне сваімі яшчэ праменнымі вачамі, чыстымі, пяшчотнымі, ласкавымі.

— Радасць мая, апора мая, сябар мой, верная, радасная жонка мая...

Я неканчаю. Я пра сябе думаю: «Няўжо скончылася наша жыццё, усё скончылася?..» І ганю, ганю гэтыя думкі. Не трэба іх.

Мы садзімся піць каву. Я грэю рукі М. Ф. На стале ў мяне Петрарка, Верхарн, Ал. Блок... Колькі думак, вобразаў!..

Мы яшчэ жывём!»

Кніга многа значыла і многа рабіла ў ленінградскай блакадзе. Ленінград — горад, насычаны кнігаю, кніжнымі зборамі: дзяржаўнымі, інстытуцкімі, прыватнымі. Магчыма, па колькасці кніг на жыхара гэта быў першы горад у краіне. Прычым кнігі сабраліся першакласныя, рэдкія, антыкварныя. Ленінград славіўся сваімі букіністамі. Перад вайною на Ліцейным праспекце вялікая частка ніжніх паверхаў была занятая кнігарнямі. Уздоўж садовых агароджаў стаялі латкі букіністаў. І бліжэйшыя вуліцы — Бялінскага, напрыклад,— таксама былі заняты кнігамі. Тут можна было знайсці ўсё ці амаль усё — стары французскі раман, брашуры першых гадоў рэвалюцыі, царкоўную кнігу, нямецкія тэхнічныя даведнікі. Букіністы ў валёнках, у футрах, паляпваючы рукавіцамі, хадзілі ўздоўж латкоў, заваленых кнігамі, дзе корпаліся аматары.

Ад блакады кніга моцна цярпела. Яе палілі пажары, яна гінула пры бамбёжцы, ёю, нарэшце, палілі ў буржуйках, плітах, ёю распальвалі, ёю абаграваліся, і за гэта нельга асуджаць людзей. Але кнігу і абаранялі, яе ратавалі. Ёсць цудоўныя расказы работнікаў Публічнай бібліятэкі, якія ў самы галодны, роспачны час перацягвалі ў сховішчы прыватныя бібліятэкі памерлых збіральнікаў, вучоных, бібліяфілаў, тыя зборы, што засталіся безгаспадарнымі, ратавалі кнігі з разбамблёных дамоў. Цягнулі іх на санках, на тачках, на сабе праз увесь горад у кнігасховішча Публічкі. Ніхто не прымушаў іх, не было такіх распараджэнняў, нічым гэта праца не заахвочвалася. Яны любілі кнігу, яны служылі кнізе, таму яны яе ратавалі.

Але гэта прафесіяналы-кніжнікі. А былі проста ленінградцы, піцерцы, патомныя піцерскія інтэлігенты.

Вось што расказала нам Зінаіда Аляксандраўна Ігнатовіч, якая працавала ў навукова-даследчай лабараторыі харчовай гігіены. Зінаіда Аляксандраўна загадвала там аддзелам. Да рэвалюцыі яна прайшла шлях, даволі тыповы для дзяўчат, што ўзняліся да асэнсаванай працоўнай дзейнасці на карысць людзям: здалёк прыехала ў Пецярбург, паступіла ў Жаночы медыцынскі інстытут, наехала працаваць на халеру, потым на тыф... Сціп-

лая, але па-сапраўднаму ідэйная, інтэлігентная працаўніца. Расказаны ёю эпізод — тыпова ленінградскі.

«...У блакаду мы засталіся ўдваіх з мужам. Ён быў худы. Ён перастаў працаваць ужо ў сорак другім годзе, не змог працаваць. Але ён быў неймаверны аматар кніг. Мая дваюрадная сястра была прафесарам, і яе ўдалося нейкім чынам літаральна ў кастрычніку ўжо, з цяжкасцю, але ўсё-такі эвакуіраваць на Вялікую зямлю. Ад'язджаючы, яна мне сказала: «Усе рэчы я кінула. Як будзе магчымасць, дык калі-небудзь паглядзіце, што там ёсць, таму што я з сабою нічога не магла ўзяць». Ну, вясна ў Ленінградзе ў сорак другім годзе затрымалася, яшчэ ў красавіку быў снег вельмі доўга. Нарэшце дні настаі доўгія, і я кажу свайму мужу: «Давай усё-такі з'ездзім да Верачкі, паглядзім». У нас кватэра засталася пустая, усе эвакуіраваліся. Сусед-інжынер памёр, жонка яго была на фронце. Пяць пакояў, а мы жылі толькі ўдваіх, больш нікога не было. Мы звязалі двое санак і павезлі іх. Сястра жыла каля Марсава поля, нам трэба было прайсці, напэўна, кіламетры два, цераз Няву, паўз Біржу. Ну, мы памаленьку пайшлі, падышлі да Біржы. І тут пачаўся страшны абстрэл: снарады падалі то ў ваду, то каля Біржы. Я кажу: «Давай абыдзем вакол Біржы, там усё-такі цішэй».

Прыйшлі мы ў Верачкіну кватэру. Ну, кватэра ўся адчыненая, ніякіх рэчаў, канечне, няма, але шафы з кнігамі цэлыя. «О-о! — узрадаваўся муж.— Кнігі, кнігі ж цэлыя! Я кнігі вазьму!» Я, ведаючы ўжо яго слабасць, кажу: «Ведаеш што? Толькі бяры самыя цікавыя, таму што мы і з пустымі санкамі ледзь-ледзь даехалі». Але калі ён усё адабраў, я бачу — поўныя санкі, двое санак, вось колькі кніг павязана. Я кажу: «Столькі кніг?» А муж сказаў: «Як можна кінуць Дастаеўскага? Калі кінуць, дык іх жа спаляць!» Паехалі з гэтымі санкамі. Перайшлі зноў Няву каля Біржы, і зноў пачаўся абстрэл. Я кажу: «Давай зноў завернем сюды». Калі мы пачалі заварочвацца, я гляджу: раптам ён пабялеў, хоп — упаў! А я, галоўнае, як цяпер памятаю, мы ж доўга пражылі, пражылі дружна, а я, уяўляеце, думала не пра тое, што еп памёр, а як я яго дадому дацягну?!! Вось я і цяпер памятаю гэтае адчуванне! Не тое, што ён памёр, што я страціла яго, а як я яго мёртвага дацягну?! Вось я яго паціхеньку пад рукі на прыступкі гэтай Біржы ўцягнула. Паклала. Пачала глядзець пульс, паціхеньку з'явіўся пульс. Разумееце!!! Ен там пасядзеў гадзіну, прыйшоў да прытомнасці. Ну, вядома, каб

ён вёз санкі, ужо не магло быць і гаворкі. Кінуць кнігі таксама нельга. Пайшлі мы. Я яго вяду пад руку і цягну вось гэтыя самыя санкі ўнізе. А яго я ледзьве дацягнула да кватэры. На другі дзень раніцай ён з пасцелі ўстаць не мог. Я яму пакінула такую-сякую ежу, а сама пайшла ў інстытут.

— А санкі з кнігамі там, унізе, засталіся?

— Але, так і засталіся. Прыходжу з працы, бачу: санкі пустыя! Во, жах які, думаю, чалавек ледзь не памёр з за кніг, а нехта на распал узяў! Пачала падымацца да сябе наверх. Калі я дайшла да чацвёртага паверха, чую дзіўны такі гук, нібыта сабака ідзе на чатырох лапах, вось так во шлёпае! Я думаю: адкуль у сорак другім годзе сабака? Даўно ж усіх сабак з'елі. Калі я паднялася на пляцоўку чацвёртага паверха, бачу такую карціну: муж, у яго ззаду торба з кнігамі, і ён на карачках нясе гэтыя кнігі!!! Пабачыў мяне, сеў і кажа: «Вось не паспеў! Думаў да твайго прыходу перанесці». Ісці ён ужо не мог. Так ён на карачках, як сабака, перацягаў усе кнігі».

Зразумець, нават падзяліць любоў да кніг быццам бы і няцяжка з нашага спакойна-сытага часу. Хто не кінецца цягнуць неспадзявана атрыманую кніжную спадчыну сёння! Але каб зразумець і падзяліць тую любоў да кніг і тыя пачуцці, трэба сапраўды паставіць сябе на месца блакадніка-ленінградца — адчуць, хаця б уявіць той стан крайняй вычарпанасці, калі, здавалася, усе думкі, апрача галоўнай — аб хлебе надзённым, высмактаны голадам.

Ленінградская інтэлігенцыя... руская інтэлігенцыя... Часта спрабуюць гэтыя паняцці звесці да адукацыі, да выхаваныя. Але гэта нешта іншае.

Чалавек памірае ў самым простым і грубым значэнні гэтага слова — і ўсё роўна ідзе па кнігі! Як многа можа чалавек! Вось чаму так важныя для ўсіх нас блакадныя ўспаміны — у іх адкрываюцца незвычайныя сілы чалавечае душы ў надзвычайным яе стане, пра што ніхто не ведаў, магчымасці, якія ў звычайным жыцці застаюцца нерэалізаванымі.

Набліжаецца вясна. Яна прыходзіць марудна, надта марудна. На «Дарозе жыцця» яе не падганяюць, наадварот, там баяцца, не хочуць цёплага сонца, спяшаюцца, па-

куль лёд трывалы, хутчэй, хутчэй завезці ў Ленінград чым больш прадуктаў, эвакуіраваць людзей.

Першымі ажывалі дзеці.

А. П. Грышкевіч запісаў 13 сакавіка ў сваім дзённіку:

«У адным з дзіцячых дамоў Куйбышаўскага раёна адбыўся наступны выпадак. 12 сакавіка ўвесь персанал сабраўся ў пакоі хлопчыкаў, каб паглядзець бойку двух дзяцей. Як пасля высветлілася, яна была разгарэлася па «прынцыповым хлапечым пытанні». І дагэтуль былі «схваткі», але толькі на словах, з-за хлеба.

Загдом тав. Васільева кажа: «Гэта самы радасны факт на працягу апошніх шасці месяцаў. Спачатку дзеці ляжалі, потым пачалі спрачацца, пасля ўсталі з ложкаў, а цяпер — нябачаная справа — б'юцца. Раней бы мяне за падобны выпадак знялі з пасады, цяпер жа мы, выхавацелі, стаялі, гледзячы на бойку, і радаваліся. Ажыў, значыць, наш маленькі парод».

У тыя самыя сакавіцкія дні 1942 года Г. А. Князеў запісвае:

«Бурда, сапраўдная бурда дыміцца на стале. І мы прагна сёрбаем, хлябтаем, як галодныя псы... Але побач у мяне кніга, поўная думак іскрыстых, сакавітых, часам парадаксальных і спрэчных — «Пра паэзію ў Бібліі» В. В. і аловак для нататак. Я бяру з яе тое, што мне патрэбна, жывое і не пабляклае дагэтуль, а астатняе, як шлак, пакідаю... Бурда з...— я нават не ведаю з чаго! — здаецца нам «страваю багоў». Бадай што, самае этычнае ў ёй — гэта пара, што ад яе ідзе, цяпло.

М. Ф. прынесла лішні кавалак хлеба, які выменяла на рынку на кашулю. Якое шчасце яшчэ жыць так! І буржуйка сёння не дыміць. М. Ф. вычысціла ад сажы трубы.

Што яшчэ трэба? Адно: хоць якая-небудзь упэўненасць у заўтрашнім дні ці нават бліжэй — у сённяшнім вечары. Нельга ж так жыць, сапраўды,— цяперашнім момантам, імгненнем, без усякай будучыні (я, канечне, кажу пра асабістую будучыню).

***1942.III.18.*** Дзвесце сямідзесяты дзень вайны. Сёння нечакана а другой гадзіне дня наш Васільеўскі востраў быў жорстка абстраляны.

Я вяртаўся з Архіва па набярэжнай са сваімі думамі... Раптам паветра над Нявою пачало рвацца, як шоўк. І адразу недзе загрукатала. Наперадзе ад мяне прахожыя ўжо ляжалі на снезе. Усё гэта было ашаламляльна нечакана...

Яшчэ раніцаю, адчыняючы парадную і праходзячы ў яе, пакуль М. Ф. рыхтавала самакат пад парталам нашага акадэмічнага дома, я думаў — як цудоўна, цішыня, не вухкаюць гарматы!..

І раптам... Адзін снарад прасвістаў над галовамі, другі, трэці... І трах-тах-тах! Выбухі недзе блізка. Хто не ляжаў, беглі, прыгінаючыся да зямлі, уздоўж дамоў. Заставацца на адкрытым месцы было надта рызыкоўна, і я заехаў пад вароты б. Кадэцкага корпуса з боку набярэжнай. Канвойны прапусціў мяне. Там я і прастаяў мінут 30—40, пакуль працягваўся абстрэл. Але я, яшчэ не чакаючы поўнага спакою, выехаў на набярэжную. Акадэмік Крачкоўскі стаяў пад пад’ездам б. Меншыкаўскага палаца. Бледны, нервова-напружаны, маўклівы і горды... Зноў узмацнеў абстрэл. Ён зрабіў некалькі крокаў са мною маўкліва, засяроджана і зноў спыніўся, але ўжо цяпер за рогам дома.

У гэты час М. Ф. сядзела ў сталоўцы ў падвале пад Заалагічным музеем. Я быў адносна спакойны за яе... Але, як высветлілася, дарэмна. Адзін снарад якраз упаў паміж бальніцаю Ота і акадэмічнай сталоўкаю. Аглушальным ударам выбуховай хвалі выбіў у ёй усе шыбы... А каля аднаго з вокнаў сядзела М. Ф., і, на шчасце, шрапнельныя кулі ці кавалкі снарада і асколкі шкла праляцелі над яе галавою, не параніўшы:, толькі страшэнны выбуховы ўдар аглушыў правае вуха. Вакол пачалася мітусня... Першая думка М. Ф.: а што са мною? Я ж еду па набярэжнай, пад самым абстрэлам... Але, па шчасце, не выскачыла, засталася чакаць і атрымаць усё-такі абед, які ў час мітусні пераcталі даваць...

***1942.III.31.*** Дзвесце восемдзесят трэці дзень вайны. З якою любоўю, пяшчотаю глядзеў я на свае мастацкія зборы, на выпіскі з гісторыі культуры, на распачатыя альбо толькі задуманыя літаратурныя творы... Не хапіла, не хапіла некалькіх гадоў, ну гадкоў тры, думаю!..

М. Ф. падышла да мяне і, усміхнуўшыся, спытала: усё пішаш? Прыгадала мне нечае апавяданне, як адзін шчаслівы чалавек у захапленні вадзіў пяром па паперы, натхнёны ўдачаю, што ён усё напісаў што хацеў і як хацеў... А калі паглядзелі, што ён піша, высветлілася — нічога: адны лініі з кручкоў і пяцелек, не падобных пі на адну літару, альбо проста пракрэсленыя лініі. А «шчаслiўчык» упіваўся асалодаю, што ён усё паспеў напісаць...

Мы засмяяліся.

— Ты сачы за мною,— сказаў я М. Ф.

І мы зноў засмяяліся. Рэдка цяпер смяюцца людзі!

— Пражывём? — пытае М. Ф.

— Пратрымаемся красавік, май, а ў чэрвені... У чэрнеці, ліпені выедзем.

Маўчым абое».

А вось яшчэ адно апавяданне пра кнігі чытаем мы ў дзённіку Г. Л. Князева. Навуковая супрацоўніца Пулкаўскай абсерваторыі расказала яму пра Віктара Рудольфавіча Верга.

«Ён, між іншым, ездзіў у Пулкава на грузавіку здабываць у падвалах пакінутыя там кнігі і між імі каштоўнейшыя інкунабулы. Гэта рабілася пад самым носам непрыяцеля, з паўтара кіламетра ад яго. У час язды давялося ўсё-такі ратавацца, кінуўшыся з аўтамабіля ў канаву. Але, па шчасце, снарады рваліся з другога боку дарогі. Падвалы, у якіх захоўвалася каштоўнейшая бібліятэка Пулкаўскай абсерваторыі, былі скляпеністыя і пастолькі моцныя, што яны лічыліся ўстойлівымі супраць любога разбурэння. У адным памяшканні быў нават двайны ізаляваны падвал для службы часу. І ўсё гэта было разбурана!.. Кнігі перамяшаліся. Берг, які ўсё-такі дабраўся да Пулкава з рызыкаю для жыцця на ваенных грузавіках, упоцемках адкладваў найбольш каштоўныя, вядомыя яму кнігі, якія і былі адтуль вывезены. Над выратаваннем другой часткі бібліятэкі шчыраваў супрацоўнік Цымерман...

Калі над намі ў Архіве бушавала навальніца, я размаўляў з Шафраноўскім, старшым бібліятэкарам бібліятэкі АН. Дым ад пажарышча, які мы бачылі з акна, аказаўся лявей, чым бібліятэка. «Спадзяюся, што не дом, дзе я жыву, гарыць»,— сказаў ён задуменна. «А дома хто-небудзь у вас ёсць?» — «Дачка, пятнаццацігадовая дзяўчынка».— «А яшчэ хто?» — «Нікога больш... Калі я вярнуўся з вайсковай службы, я не знайшоў дома жонкі і маці. Яны памерлі ў пачатку гэтага года... Сустрэла мяне адна дачка. Цяпер і жывём з ёю, але яна яшчэ ж дзяўчынка, і бытавыя ўмовы па гэтай прычыне вельмі цяжкія...» Я не стрымаўся: «Дык чаму ж вы мне не сказалі пра гэта, калі былі ў мяне?» — «Навошта ж? Не ў аднаго мяне такое гора...» Над намі грымеў «гром», раздаваліся далёкія і блізкія выбухі бомбаў. Я прапанаваў пайсці ў адзін з нашых пакояў у вежы. Ён усміхнуўся і проста сказаў: «Навошта?..» Мы прадоўжылі дзелавую размову пра далейшы план абследавання акадэмічных сховішчаў...»

Марыя Васільеўна Машкова, работнік Публічнай

бібліятэкі, у блакаду таксама ратавала кнігі. Разам з іншымі супрацоўнікамі цягала на сабе, на санках, у мяшках рэшткі кніжных збораў пасля бамбёжак. Яны хадзілі да вядомых бібліяфілаў, вучоных — па тых адрасах, якія ведалі альбо пра якія паведамілі родныя, блізкія, карабкаліся па паверхах, збіралі кнігі і везлі ў кнігасховішча Публічкі. Пасля ўжо ім выдзелілі машыну, а ў самыя цяжкія месяцы гэтыя аслабелыя жанчыны, павольна рухаючыся, праз увесь горад валаклі цяжкія звязкі кніг.

Блакаднікі ўспамінаюць пра тое, як друкаваліся і выходзілі кнігі, успамінаюць пра спектаклі Музкамедыі, пра выстаўкі, пра выкананне Сёмай сімфоніі Дз. Шастаковіча ў філармоніі. Пра апошняе расказвае музыкант Ніл Мікалаевіч Бяляеў:

«Гэта быў зусім асаблівы выпадак з гэтай сімфоніяй. Шастаковіч быў сведкам вялізных народных бедстваў, усіх нягод і пакут народа. І не толькі ён, але і выканаўцы аркестра, і дырыжор, і слухачы, што знаходзіліся ў зале, усе былі ўдзельнікамі і сведкамі трагедыі. І ўсё гэта ўспрымалася зусім незвычайна, як кажуць, з жывым сэрцам. Разумееце? Пасля мне ўжо даводзілася слухаць гэту сімфонію ў выдатным выкананні, з добрым аркестрам, з Цудоўным дырыжорам, але такога ўражання ад гэтай музыкі ўжо ніколі не было — тагачаснага, уласцівага толькі таму дню, таму часу, калі ведаеш, што ў аркестры сядзяць мае паўгалодныя таварышы і Карл Ільіч Эліязберг таксама не надта сыты чалавек. Прычым з гэтымі таварышамі мы правялі ўсю складанейшую зіму, а крыху пазней, з наступнага года, калі мы крыху ўсталі на ногі, усе мы былі залічаны ў рабочыя батальёны. І да канца вайны мы знаходзіліся ў тых падраздзяленнях, абаранялі як маглі Ленінград. У прыватнасці, я і вядомы віяланчэліст Сафонаў былі спярша пажарнікамі, потым мы былі ў аддзяленні сувязі».

Пісьменнік Г е н а д з і й Г о р расказваў:

«Напярэдадні вайны я купіў кнігу Зімеля пра філасофію асобы Гётэ, напісаную абстрактна, адну з самых цяжкіх кніг, якая мне траплялася. Спрабаваў яе прачытаць, нічога не зразумеў. А ў блакаду пры святле газоўкі ўразумеў яе і атрымаў вялізнае духоўнае задавальненне. Пазней, калі зусім было кепска, духоўнае жыццё, канечне, замерла. Людзі сталі жыць ужо момантам. Мінулае нібы знікла. Засталося толькі цяперашняе, гэта аблягчала

жыццё. Жылі быццам бы часткамі абагрэцца, паліш., з’есці, дачакацца абеду...»

Пільны назіральнік Генадзій Гор тонка заўважаў зрухі ў духоўнай структуры чалавека таго часу. Напрыклад, як змяніліся адлегласці:

«— Усё стала далёка. Вуліцы расшырыліся, нават зрокава, усё набыло вялікую працягласць. Напэўна, з-за слабасці, а яшчэ па прычыне бязлюднасці вуліц.

— У чым, па-вашаму, праяўлялася духоўнасць ленінградцаў таго часу?

— Не панікавалі, не псіхавалі. Было мала істэрыкі, крыкаў. Я ўвогуле супраць слова «гераізм» у гэтых умовах. Была вытрымка, была годнасць, нават смерць. Быў аптымізм, не надзея асабістая, а аптымізм грамадства. Увогуле ў Ленінградзе народнасць спалучаецца з інтэлігентнасцю...»

Адбываліся рэчы сапраўды дзівосныя. Нават дзень нараджэння Пушкіна адзначаўся! У 1943 годзе! Зусім выпадкова выплыў гэты эпізод у размове з Верай Пятроўнай Безабразавай. Яна і ў вайну жыла на Мойцы, побач з музеем-кватэрай А. G. Пушкіна. Музей, канечне, быў зачынены, але вось нехта, хто — яна не памятае, пачаў абходзіць дом і запрашаць людзей прыйсці на свята.

«— Нас запрасілі загадзя такімі білецікамі прыйсці. Нас было чалавек восем жыхароў.

— Напэўна, было цяжка сабраць людзей з горада і проста запрасілі тых, хто тут жыў?

— Так, тых, хто тут жыў. Прыйшлі і сказалі: вось прыйдзіце, будзе заўтра дзень параджэння Пушкіна. Гэта сорак трэці год, шостае чэрвеня. Хто там быў? Быў Усевалад Вішнеўскі, які вельмі добрую сказаў прамову, што мы пераможам і што гэты голад пакіне пас і ўсё будзе па-ранейшаму, усё будзе добра. Былі яшчэ Мікалай Ціханаў і Вера Інбер. Калі я не памыляюся, яна прачытала нам верш «Памяці Пушкіна»*. Мы ўсе стаялі. На бюсце Пушкіна быў сплецены вянок. Мы ўсе ўшанавалі яго дату.

— Вы былі ў самім музеі?

— Але, там. Было ўрачыста. Усевалад Вішнеўскі з такім энтузіязмам казаў: вы верце, мы пераможам!

* Верагодна, В. П. Безабразава мае на ўвазе верш Веры Інбер «Пушкін жывы», напісаны 5 чэрвеня 1943 года.

— Вам, васьмі чалавекам?

— Нам, васьмі чалавекам. А што гаварыў Мікалай Ціханаў, я не памятаю.

— Як тут усё выглядала тады?

— Як выглядала? Усе вокны былі забіты фанерай. У двор, дзе стаіць помнік Пушкіну, упала бомба: там была вялізная яма. А ў нас тады толькі падскочыў посуд, мы ўсе засталіся быццам на месцах.

— Помнік не стаяў яшчэ тады?

— Не. Помнік паставілі намнога пазней, пасля перамогі. А канюшні ўцалелі. Адзін грамадзянін пазней пытаўся ў мяне: «А гэта што за будынак?» Я кажу: «Гэта канюшні Бірона — фаварыта Ганны Іванаўны». Ён кажа: «Во як цікава: гэта стаіць, а мой гараж упаў». А ў асноўным пушкінскі дом уцалеў амаль увесь. А вы бачыце — насупраць упала. Вялікая бомба — у Мойку. І не разарвалася».

Адбываліся гісторыі іншага парадку, але такія ж характэрныя, дзіўныя, яны сведчаць пра творчыя магчымасці чалавека. Барыс Ісакавіч Шэлішч служыў тэхнікам-лейтэнантам у палку аэрастатаў загароды. Ён расказвае:

«У нас не было паліва. Каб выбраць аэрастаты, гэта значыць, апусціць іх з паветра для перазарадкі, трэба было ўключаць аўтамабільныя матары, а бензіну не было. Сотні ж аэрастатаў віселі над горадам, яны но давалі фашысцкім самалётам зніжацца, перашкаджалі накіраваць, весці прыцэльную бамбардзіроўку. Паспрабавалі мы ўручную выбіраць (мужчыны яшчэ былі ў верасні 1941 года), але дзесяць чалавек разліку не маглі іх выбіраць. Такім чынам, баявыя аперацыі гэтага віду зброі спыняліся: з часам вадарод робіцца цяжэйшым, аэрастат зніжаецца, замест трох-чатырох тысяч метраў вісіць нізка і перашкоды самалёту сабою не ўяўляе. Паўстала пытанне — што рабіць? Мне прыйшло ў галаву выбіраць аэрастаты ліфтавай лябёдкай. Дастаў я такую лябёдку, прывёз, але к гэтаму часу не стала электрычнай энергіі. І тады я прыгадаў «Таямнічы востраў» Жуля Верна. З маленства запомніўся мне раздзел «Паліва будучыні». Дастаў гэту кнігу. Перачытаў. Там было прама напісана: што заменіць вугаль, калі яго не стапе? Вада. Як вада? А так — вада, раскладзеная на састаўныя часткі, вадарод плюс кісларод. Я думаю — ці не прыйшоў гэты час? Дагэтуль мы што рабілі — выціскалі абалонку аэрастата,

выпускалі гэтак званы брудны вадарод, а гэта ўсё роўна, што выліваць на зямлю бочку бензіну. Думаю: цяпер, калі ў мяне ёсць пад рукамі брудны вадарод, гэта ж паліва. Тое самае, пра якое пісаў Жуль Верн...

Я дамовіўся з камандзірам. Зрабіў проста: шланг ад аэрастатнай абалонкі ўсунуў ва ўсмактальную трубу рухавіка. Адчуваю, рухавік працуе. Даю абароты, ён абароты прымае. І раптам ЧП, надзвычайнае здарэнне! Выхлап! Адваротная ўспышка, выбух, газгольдэр згарэў. У мяне кантузія. Рукі апусціліся. Але бензіну няма! І тут я зразумеў, што трэба зрабіць засаўку. Разрываць ланцуг аўтаматычна. Для гэтага нічога лепш за ваду быць не можа. Узяў я вогнетушыцель і зрабіў у ім гідразасаўку. Рухавік смокча вадарод праз ваду. Адваротная ж успышка праз ваду не даходзіць. Далі дазвол выпрабаваць. Прыехалі генералы. Паглядзелі. Усё добра. Загадалі на працягу 10 дзён перавесці ўсе аэрастатныя лябёдкі на новы від паліва. Сабралі па горадзе вогнетушыцелі. Пяцьсот штук спатрэбілася. Дасталі шлангі. Карацей кажучы — усе аэрастаты выбіраць пачалі па новым паліве, на вадародзе. Лепш працавалі, чым на бензіне. Я вам скажу, чаму лепш. Таму што ў холад рухавікі на бензіне дрэнна заводзяцца. Трэба іх прагравацъ. А па вадародзе і на марозе з паўабарота заводзяцца».

Рухавікі на вадародным паліве дэманстравалі на выстаўцы Ленфронту, пасля Б. Шэлішча адправілі з імі ў Маскву. Ён удасканальваў сваю канструкцыю, адказваў на пытанні спецыялістаў.

«Калі б быў бензін, я не давёў бы сваю ідэю да канца. І наогул, я скажу вам, мне шмат чаго не прыйшло б у галаву, калі б не блакада. А тут прыходзіла. Ведаеце, я тады перачытаў пра эпапею чалюскінцаў. Як яны высадзіліся на лёд, як жылі ў такіх умовах. Можа, спатрэбіцца што з іх вопыту... Мы ж таксама былі на лёдзе. Не намятаю, каб у нармальных, мірных умовах я працаваў з такой энергіяй і так кеміў бы. А ўвогуле я думаў, што ніколі ўжо не змагу быць сытым».

А па радыё, можа, у гэты самы час гучалі такія дзіўныя і такія зразумелыя блакаднікам словы:

В грязи, во мраке, и голоде, в печали,
Где смерть, как тень, тащилась по пятам,
Такими мы счастливыми бывали,
Такой свободой бурною дышали,
Что внуки позавидовали б нам...

У Князева радыё, мы памятаем, увесь час папсаванае, маўчыць. Як гэтыя словы з «Лютаўскага дзённіка» Вольгі Бергольц успрымаў бы ён? Наколькі яны выказвалі ўсё тое, што адчуваў і пра што пісаў у дзённіку Князеў,— гэту галодную ўзбуджанасць, якую перажывалі і памятаюць многія (стан, які ў іншых пасля пераходзіў — а Князеў усё не паддаваўся! — у апатыю, абыякавасць да ўсяго), гэта захапленне ўсім, што здольнае яшчэ падараваць жыццё (нават у блакаду) чалавеку, шчыра адданаму культуры, а цяпер пачынаючаму з новай сілай любіць і цаніць Ленінград, паэзію, разумець людзей, якім выпаў найцяжэйшы лёс — адстаяць, выратаваць гуманістычнае мінулае і будучае чалавецтва?..

З дзённіка Г. А. Князева:

«Разгаварыліся з В. А. Пятровым, супрацоўнікам Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры. Ён казаў мне: «У канцы студзеня, калі я страціў жонку і дачку, калі кватэра была разбурана, кнігі (у мяне спецыяльная бібліятэка да 6000 тамоў) ляжалі, выкінутыя выбуховай хваляю з шафаў на падлогу, мэблю; адзенне, бялізна загінулі, і я стаяў у марозным разбураным пакоі ў здранцвенні, з адчуваннем пачатку запалення лёгкіх,— я сам не ведаю, адкуль знайшоў сілы і загадаў сабе: жыць і канчаць свае пачатыя працы. На мяжы гібелі, з перакрэсленым ужо жыццём, я раптам пачынаю ажываць. І жыву. Усё пераадолеў, усё перамог. Цяпер я адзінокі, у мяне нікога няма. І ў мяне нічога няма. Толькі тое, у чым застаўся ў студзені,— вось у гэтым паліто, шапцы, пінжаку і бялізне. І нічога больш. Праўда, калі перайшоў жыць у бібліятэку, пакуль яна канчаткова не замерзла, у мяне там знайшоўся запас чыстых каўнерыкаў».

Цяпер ён піша, канчае свае працы.

«Смяяцца,— кажа ён,— я сапраўды развучыўся, але не плакаў і не плачу»...»

# МАЮ ЗЯМЛЮ ТЫ НЕ ПАХІСНЕШ

Дні вайны, яны для ленінградцаў былі ж яшчэ і днямі блакады, а яшчэ днямі абстрэлу, днямі бамбёжак. Дзвесце дзевяносты, трохсоты, трыста дзесяты, дваццаты, трыццаты... Няўхільна вёў ім лік Г. А. Князеў. І настаўніца К. У. Ползікава-Рубец. І партыйны работнік Грышкевіч. І яшчэ дзесяткі людзей, чые дзённікі дайшлі да нас. Вясна, а пасля лета 1942 года прынеслі прыкметную палёгку гараджанам. З'явілася, перш за ўсё, цяпло — сонца. Знік люты вораг — мароз. Можна было сагрэцца, не думаць пра дровы, можна было крыху памыцца.

Здымалі з акон коўдры, дываны, матрацы — усё, чым затыкалі, завешвалі іх, ратуючыся ад холаду,— адчынялі забітыя фанераю фортачкі. Сонечнае святло ўрывалася ў страшныя, закураныя блакадныя кватэры. Паркет быў павываролваны, мэбля пасечана, усё было загаджана, але святло, сонца — яно было як ласка спакутаваным людзям. Доўгая зімовая гнятучая цемра скончылася для тых, хто выжыў. Людзі падыходзілі да люстэрка, угледаліся ў свае непазнавальныя адлюстраванні, жахаліся, і гэты жах, страх, агіда былі таксама жыватворным пачуццём абуджэння. Пра гэта напісана ва ўсіх.

І адразу ж наваліўся настойлівы, патрабавальны клопат на ўсіх гараджан без выключэння, без увагі на слабасць, дыстрафію: трэба было чысціць горад, вынесці трупы з апусцелых кватэр, прыбраць завалы нечыстотаў, вуліцы прыбраць, двары, лесвіцы.

Ужо ў лістападзе 1942 года, прыгадваючы веснавыя работы, К. У. Ползікава-Рубец здзіўлялася: як мы змаглі? як здолелі? Ад здзіўлення яна піша ў трэцяй асобе, быццам бы збоку:

«Неверагодным было тое, што яны ачысцілі гэтыя кучы нечыстотаў, якімі быў завалены Ленінград (я таксама ўдзельнічала ў гэтым). Пакрылі яго дыванам агародаў, працуючы ад узыходу сонца да пачатку працы на заводах і ўстановах, а таксама пасля сканчэння працы там. І гэта без водаправода, без каналізацыі, без пральняў, амаль без лазняў, на паўгалодным пайку і пад свіст варожых снарадаў. Гэтыя ленінградцы ахоўвалі свае агароды, дзяжурылі начамі. І гэта ў іх кралі з-пад носа альбо проста ра-

бавалі гэтую гародніну, што з такімі мукамі вырошчвалася такімі ж ленінградцамі...»

Анатолій Сяргеевіч Болдыраў прадаўжаў свой расказ аб эвакуацыі з Ленінграда ўжо ў веснавых умовах:

«Падрыхтоўка да навігацыі 1942 года была не менш складаная задача, чым арганізацыя лядовай дарогі. У распараджэнні ленінградцаў былі жалю годныя рэшткі флоту. Не было баржаў, прычалаў, буксірных суднаў, усё было разбіта. Трэба было рабіць 600-тонныя металічныя баржы. Усе работнікі гаркома партыі займаліся арганізацыяй гэтай справы. На заводах рыхтавалі секцыі, перавозілі іх па чыгунцы да бухты. За Ладагаю ў запаведным лесе нарыхтоўвалі лес на драўляныя баржы, зусім як у пятроўскія часы. На часова змайстраванай верфі пабудавалі 33 баржы... Рамантавалі ўцалелы флот. Страшэнная праца, таму што няспынна бамбілі ўсе падыходы да верфяў, да прычалаў, да пірсаў. Людзі гінулі дзесяткамі. Але дзякуючы ўпартасці ленінградцаў, няспынным падмацаваннем праграму ўдалося выкапаць... Усяго ў навігацыю сорак другога года (туды і назад) было перавезена больш за мільён топ розных грузаў».

А на «малым радыусе» Г. А. Князева таксама прыгрэла, зазелянела, расцвітала:

***«1942.V.18.*** Трыста трыццаць першы дзень вайны. Дзіўны дзень сёння. Уздоўж набярэжнай разрыхляюць градку пад кветкі, тую самую, пра якую я з такім безнадзейным сумам пісаў восенню. Я не думаў, што дажыву да таго часу, калі па гэтай градзе зноў зацвітуць кветкі. Як расхвалявала мяне доўгая палоса чорнай зямлі, падрыхтаванай пад пасадкі кветак.

У Румянцаўскім скверы васілеўвостраўцы арганізавалі агарод. Разбілі сад па ўчасткі. На жаль, шмат месца займаюць траншэі.

На сопцы горача. Сядзець бы і грэцца, упівацца жыццём! Мне цяпер вельмі хочацца жыць, думаць, тварыць...

Сёння, пасля 6-месячнага перапынку, зноў працаваў у сваім пакоі, за сваім пісьмовым сталом — і не верылася гэтаму...»

Да ліпеня стала зразумела, што Князевым трэба выязджаць. Але Георгій Аляксеевіч усяляк адсоўваў ад сябе гэту думку:

*«1942.VII.6.* Трыста васьмідзесяты дзень вайны. Горад поўны чутак. Яны ўсіх хвалююць. Усе чакаюць наступлення немцаў на Ленінград, поўнага яго акружэння і ўсіх жахаў новай, што зусім задушыць ленінградцаў, блакады.

Па вуліцах вязуць на дзіцячых калясках паклажу і ідуць жанчыны з дзецьмі. Гэта высяляюцца ў прымусовым парадку. Урач, які жыве на нашым двары, адправіў у Башкірыю сваю жонку з двума дзецьмі. Увесь потны, чырвона-барвовы, каціў на мальпосце цюк з рэчамі, а маці з дзіцем на руках і з другім каля яе падола ішла няроўным стомленым крокам.

Ва ўстановах складаюцца спісы на эвакуацыю. Да нас у Архіў вучоныя нясуць свае рукапісы.

Сабраўся з сіламі і, наколькі магу, спакойна гляджу ў вочы будучыні...

Мне паведамілі аб атрыманай тэлеграме жонкі нашага качагара Урманчэева, маці трох дзяцей, прыбіральшчыцы Фані, што яна даехала дамоў, але з траіх дзяцей давезла толькі аднаго: двое памерлі ў дарозе.

...Мой родны любімы горад, дзе не толькі вуліцы, плошчы, дамы, але і кожны каменьчык мне знаёмы! І што сталася з ім!

«Вось Неўскі... вось Марская»,— пісаў я ў дні першай блакады ў час грамадзянскай вайны, уражаны разрухаю горада і пустатою. Толькі зграі псоў можна было часам бачыць тады на вуліцах; сабакі кудысьці стрымгалоў імчалі нават па Неўскім праспекце, калі ён к вечару заціхаў ад транзітных пешаходаў. Цяпер няма ніводнага сабакі на вуліцах...

І вось зноў Неўскі, Марская... Страшны зрэз бомбаю цэлага вугла з даху да падмурка на б. Малой Марскай, цяпер вуліцы Гогаля... Негандлюючыя магазіны з забітымі вітрынамі, нежылыя паверхі ці цэлыя дамы, пацярпеўшыя ад артылерыйскага абстрэлу. Горад зноў у разрусе. Я другі раз перажываю тое самае. І сёння, як 20 з лішнім гадоў назад, я быў у здранцвенні, амаль у роспачы... І супакойваў сябе — акрыяў жа горад ад той разрухі, акрыяе і цяпер! Будзе жыць і квітнець мой родны горад. Дні страшнай вайны мінуць, а горад застанецца... Мы памрэм, а горад застанецца. Горад Пятра і Леніна, двух геніяў рускага народа, ніколі не згіне. Пётр праз Пецярбург далучыў Расію да Еўропы, Ленін прыцягнуў Еўропу і ўвесь свет да Савецкай Расіі.

Праз дзесяць гадоў пасля свайго верша пра разбураны

Ленінград мне давялося напісаць іншае: «І сорамна мне...» Так, мне стала сорамна пасля за малавер'е. Ленінград тады ўваскрэс. Уваскрэсне ён і цяпер, калі скончыцца гэта вайна... Але гэтыя думкі я запісваю цяпер дома, а там, на Неўскім, на Марской, на бульвары Прафсаюзаў, я, прызнаюся, інакш думаў, неўтаймоўная нуда раптам авалодала мною, і многа трэба было розуму і волі, каб справіцца з ёю...»

«Увесь час адно перада мною пытанне,— запісвае Князеў,— ці маю я права пакідаць Архіў, альбо свой «карабель», як я яго называю.

Мне хацелася, калі ўжо наканавана загінуць, дык разам з ім. Выходзіць так, што я пакідаю Архіў.

— Вам загадваюць гэта зрабіць,— кажа мне т. Федасееў,— і вы абавязаны падпарадкавацца.

Я папрасіў дазволу на абдумванне адказу да панядзелка. Што мне адказаць? Пакутлівае пытанне. Я звярнуўся да М. Ф. Яна мне адказала пісьмова... Яна шчырая і ясная. Значыць, выязджаць! Хадзіў на Архіве, быццам хто мне па галаве абухам ударыў. Ці маю я права пакідаць Архіў, ці не з'яўляюся я дэзерцірам?

...Родны мой горад, і я вымушаны пакінуць цябе. Сёння мне трэба было б збірацца, а я з алоўкам у руках спісваю старонку за старонкай. Я не хачу атрымаць папроку, што я не выканаў свайго абавязку — не запісаў таго, што бачыў, чуў, чытаў, перажыў у дні асады майго цудоўнага горада. Пасільна я свой абавязак выконваю. Вязу з сабою цэлы партфель запісаў пра дні вайны ў Ленінградзе...

***1942.VIII.11.*** Чатырыста шаснаццаты дзень вайны. Апошні дзень у Ленінградзе. Развітваўся з горадам. Развітваўся са сфінксамі... Пустынна на набярэжнай. Раніцаю ад нашага дома да Акадэміі насустрач мне трапілася не больш трох чалавек — вайсковец і дзве жанчыны па плячах пранеслі труну... На службе абходзіў сховішчы з глыбокім хваляваннем. На нейкі час ці назаўсёды іх пакідаю?.. Дома мітусня. Як заўсёды, яшчэ шмат што не сабрана. 4 гадзіны. А ў 7 гадзін прыйдзе аўтобус за рэчамі і за намі!»

Гэтым канчаюцца падзённыя запісы Георгія Аляксеевіча Князева «У асаджаным Ленінградзе». Пасля была цяжкая эвакуацыя абязножанага і аслабелага блакадніка

і яго адданай жонкі і зноў вяртане ў Ленінград — да сваёй працы ў Архіве.

Князеў завяршыў свой жыццёвы шлях у тым самым доме з вокнамі па Няву і сфінксаў, на сценах якога 27 мемарыяльных дошак з імёнамі выдатных пецярбуржцаў, петраградцаў, ленінградцаў.

Сярод фатаграфій у сямейных альбомах Марыі Фёдараўны Князевай мы ўбачылі групавую: работнікі пасляваеннага Архіва Акадэміі навук СССР. Новыя і ранейшыя (хто выжыў) супрацоўнікі Георгія Аляксеевіча. «Старых», якія перажылі блакаду, не адрозніш па нейкіх асаблівых прыкметах. Угадваеш, але не ўпэўнена. А здавалася б, павінна адразу на тварах, у вачах чытацца: гэтыя перажылі, гэтыя зведалі, гэтыя — блакаднікі! Калі Аляксандр Мітрафанавіч Чэрнікаў называў нам прозвішчы, знаёмыя па запісах Князева, многае ніяк не супадала: гэты, такі ўпэўнены, ураўнаважаны з выгляду, «увесь час плакаў»? а гэтая прыгожая, поўная магла нагадваць «ускалмачаную галодную кошку»? а гэтая жанчына, такая шчупленькая, і яшчэ вось гэтая, на яе і ўвагі не звярнуў бы,— гэта яны, самі паўтрупы, цягнулі на саначках праз увесь горад гэтага ўдачлівага з выгляду мужчыну, які тады быў «безнадзейным дыстрофікам»?

Яны, былыя блакаднікі, невідзімкамі ходзяць па горадзе: мы іх не пазнаем (хіба што па ўзросце і абліччы часам здагадваемся), а яны нас бачаць...

Сярод нашых магнітафонных запісаў захоўваецца: вось гэты жывы голас — адзін з сотняў:

«У мяне домік ёсць пад Ноўгарадам, стары, куплены. Вось якая я багатая! Пакуль я працавала, купілі дамок старэнькі... Раніцаю ўстаю. Нікога ніколі не асуджаю. За рукаў ніхто не цягне. Іду куды хачу. Куды сёння пайшла? Пайшла з царквы на Марсава поле, пасля ў царкву Спаса-на-крыві, на капал Грыбаедава. Пастаяла каля бальніцы, дзе загінуў хлопчык. Стаяла каля Казанскага сабора, дзе памерла мая сястра, пакінуўшы дзіця. І пешшу пайшла па Неўскім праспекце. І глядзела ўсім у вочы — ці не сустрэну каго-небудзь? Не. А толькі бачыла, што нясуць вялізныя сеткі апельсінаў. Іду далей...»

Яна ідзе далей у натоўпе прахожых. Яе ўжо не пазнаць, не выдзеліць. Блакаднік... блакадніца... Іх усё менш. Усё радзей яны ўспамінаюць, расказваюць. Уну-

кі — і тыя ўжо дарослыя. Яны нарадзіліся праз многа гадоў пасля вайны. Яны но засталі ніводнага разбуранага дома. Усё адноўлена, доты даўно разабраны, выбоіны ад асколкаў замазаны, затынкаваны. Каб пазнаёміць з вайною, з блакадаю, школьнікаў возяць у музей горада. Там выдзелена дзве залы: блакада ўвайшла ў лік іншых гістарычных падзей — нарадавольцы, рэвалюцыя, грамадзянская вайна, пракладка метро, забудова ўскраін.

Дочкі, сыны — тыя яшчэ памятаюць. Хоць часта і не ведаюць падрабязнасцей, як усё было з імі, як яны засталіся жывыя...

## ЖЫВОМУ —
## ЖЫЦЬ

Кніга гэта была ўжо напісана, калі мы, нарэшце, дабраліся да сапраўднага дзённіка Юры Рабінкіна. Дагэтуль мы карысталіся перадрукаваным тэкстам, які дала нам А. Белякова.

Мы ўбачылі гэты сшытак у пераплёце з чорнай матэрыі — прыгожы беглы почырк. Ліловае чарніла. Запісы робяцца ўсё шчыльнейшыя, без абзацаў. Дзе-нідзе падклеены былі фатаграфіі, харчовыя карткі — яны адарваны. Альбо адклеіліся. Засталіся пустыя месцы, абрыўкі. Надта доўга хадзіў дзённік па руках. З сярэдзіны частка яго абгарэла. Інтэрвал паміж радкамі скарачаецца, аўтар пад канец выгадвае кожны кавалачак старонкі, нібы баіцца скончыць гэты: сшытак... Агульны сшытак распачаты 22 чэрвеня 1941 года, апошні запіс — 6 студзеня 1942 года. Дзіўна, апошняя старонка, апошні запіс — і скончылася жыццё Юры Рабінкіна. Такое супадзенне. Прадчуванне яго збылося.

Дзённік Ю. Рабінкіна завершаны, дзённік Князева таксама. Нататкі Л. Ахапкінай пра блакаду напісаны.

Наша праца над другой часткаю «Блакаднай кнігі» падышла да завяршэння, але мы зацягвалі яе, марудзілі. Нам хацелася яшчэ што-небудзь даведацца пра Юру Рабінніка. Што менавіта — мы не ведалі. Роўны, акуратны да апошніх дзён почырк... Разгубленасць пачуццяў пры здзіўляючай яснасці думкі нават у стане крайняй дыстра-

фіі. Які ж ён быў, гэты хлопчык, да якога мы адчулі сімпатыю?.. Якім яго ведалі, памятаюць іншыя людзі?

Мы звярнуліся да пачатку гісторыі. Упершыню «адкрыла» гэты дзённік рэдактар газеты Ала Белякова ў 1970 годзе. Сшытак прынесла ў рэдакцыю Ленінградскай маладзёжнай газеты «Смена» жанчына, якая захоўвала дзённік шмат гадоў. Чуццём вопытнага журналіста Ала Белякова зразумела значнасць гэтага дакумента, яна апублікавала ў «Смене» вялікі ўрывак з дзённіка Юры Рабінкіна. Больш таго, яна адшукала і сабрала яго аднакласнікаў, спадзеючыся даведацца ад іх пра якія-небудзь падрабязнасці з жыцця хлопчыка, пра яго лёс.

Пасля выхаду ў свет першай часткі «Блакаднай кнігі» Ала Белякова перадала нам машынапісны тэкст дзённіка (не да канца прачытанага, расшыфраванага). Дзённік параджаў нямала пытанняў: што сталася з Юрам, з яго мамаю, з яго сястрою Іраю? Дом, дзе ён жыў, даўно быў заняты пад установу, і нікога, вядома, з жыхароў там не засталося. Незразумела, якім чынам уцалеў дзённік. А можа, ёсць яго працяг? На жаль, адрас і прозвішча жанчыны, якая прынесла гэты дзённік у газету, згубіліся.

Мы звярнуліся па радыё з просьбаю адгукнуцца — хто ведае што-небудзь пра Юру Рабінкіна? Сярод некалькіх лістоў прыйшоў ліст ад Таццяны Уранавай. Яе дзявочае прозвішча было Трыфанава. У сям'і Трыфанавых і захоўваўся дзённік Юры Рабінкіна. Яна пісала нам:

«Мае бацькі не хацелі аддаваць дзённік — баяліся, што ён проста згубіцца, а ім ён значыў шмат: тата ваяваў на Волхаўскім фронце, мама сама перажыла блакаду, ёй было толькі на два гады больш, чым Юру. З голаду памерлі маміны бацька, сястра, пляменнікі... Таму Юраў дзённік быў вельмі дарагі бацькам... Ды я пераканала іх, і вось дзённік распачаў новае жыццё... Магчыма, гэта смешна, але я была шчаслівая, слухаючы ваша выступленне. Але, з другога боку, мне было няёмка: я, не жадаючы таго, увяла ў зман карэспандэнта, які прыязджаў да нас у школу. Я дакладна не памятала і сказала, што дзённік трапіў да нас ад Юры. На самой жа справе было крыху не так. Мая бабка Трыфанава Рэвека Ісакаўна працавала ў туберкулёзнай бальніцы патранажнай сястрою, і аднойчы ёй давялося везці ў бальніцу (гэта было на Валагодчыне ў 1942 годзе.— ***А. А., Д. Г.)*** з вёскі Кліпунава Лежскага раёна настаўніка, які паміраў, і жонка таго настаўніка дала ёй гэты дзённік пачытаць у дарозе, каб не сумна бы-

ло. Настаўнік ужо не мог гаварыць і ў бальніцы памёр. Дзённік застаўся ў бабкі. Як ён трапіў да настаўніка, жонка яго не ведала. Бабка думае, што Юру, напэўна, вывезлі з Ленінграда і ён трапіў у які-небудзь дзіцячы прыёмнік у Лежскім раёне і хутчэй за ўсё там памёр, шмат жа хто прыязджаў з Ленінграда на мяжы жыцця і смерці. Можа, такое ўдакладненне і драбяза, але лепш выправіць памылку, якую я ўнесла ў гісторыю дзённіка.

Памятаю, тата казаў, што было два сшыткі, але другі даўно некуды падзеўся. Ці яго «зачыталі» (мае бацькі шмат разоў перачытвалі самі і давалі чытаць іншым), ці згубілі пры пераездах. Спачатку дзённік быў у бабкі ў Волагдзе, пасля ў нашай сям'і ў Ленінградзе... Вось усё, што мне вядома».

Напісалі мы ў Волагду Трыфанавым. Адтуль прыйшоў ліст, дзе паўтаралася ўся гэта гісторыя, расказаная Таццянай Уланавай, пра самога Юру Трыфанавы нічога не ведалі, ім дасталіся толькі яго сшыткі. Натуральна, нас вельмі цікавіла, што было ў другім сшытку. У лісце з Волагды нам паведамлялі:

«Цяпер пра другі сшытак. Гэта быў звычайны школьны сшытак у шэсць аркушаў, таксама крыху абгарэлы і нечым заліты. Але ён не быў непасрэдным працягам першага. Запісы займалі 2—3 старонкі. Гэта былі без усякае сувязі асобныя сказы і шматразова паўтораныя словы «хачу есці, хачу есці, хачу есці, паміраю», напісаныя буйнымі літарамі ўжо не па лінейках. Дат у гэтым сшытку не было. Не магу вытлумачыць, як згубіўся гэты сшытачак... Вось і ўсё, што мама можа вам расказаць».

І гэтыя падрабязнасці былі важныя. Заўважым, што дзённік гэты ў сям'і Трыфанавых перачытваўся. Да яго вярталіся. Ён быў нібы сямейнаю рэліквіяй, гэты дзённік незнаёмага ленінградскага хлопчыка. Можа, таму і захоўвалі, зберагалі ўсе гэтыя гады.

Але больш за дзённік нас цікавіў сам Юра: што з ім адбылося? Ніхто з яго сяброў не адгукнуўся, дый наўрад ці маглі яны што-небудзь ведаць. Паводле некаторых звестак, Юрава сястра была жывая. Мы пачалі расшукваць яе. Нам памагла Ала Аляксееўна Белякова, і хутка высветлілася, што Іра Рабінкіна жыве ў Ленінградзе, яна настаўніца, выкладае ў школе літаратуру, прозвішча ў яе іншае, мужава... Мы спісаліся, сазваніліся і не без некаторай душэўнай сарамлівасці паехалі на гэтую сустрэчу.

Мы столькі ўчытваліся ў Юраў дзённік, так зжыліся

з Юрам, з яго сям'ёю, што цяпер пабойваліся... Чаго? Расчаравання? Забыцця? Неадпаведнасці? Ды ці мала чаго! Было дзіўна і нават не зусім зразумела, што вось амаль праз сорак гадоў можна нешта адрозніць і выгледзець сярод брацкіх магіл блакады, трупаў, зваленых штабялямі. Што яшчэ ёсць людзі, і ў Волагдзе і тут, якія памятаюць, якім усё гэта важна. Застаецца ўсё ж след. Нейкі след ад кожнага жыцця. І ад гэтага кароткага, шаснаццацігадовага, што не адбылося... Зрэшты, што значыць не адбылося? Як меркаваць, адбылося жыццё ці не? Не па колькасці ж пражытых гадоў...

Высветлілася, што Іра, цяпер Ірына Іванаўна, хвалявалася больш, чым мы. Маленькая, тоненькая жанчына, кволая з выгляду, сустрэла нас з незразумелым напружаннем, амаль перапалохам, хоць пры гэтым было відаць, што нас чакалі, у гэтай утульнай кватэры да нашага прыходу быў накрыты стол, падрыхтаваны пачастункі. І муж Ірыны Іванаўны і дачка-студэнтка глядзелі насцярожана, быццам бы чакалі ад нас непрыемнасцей. Усё гэта было дзіўна. Апрача хвалявання, якое звычайна выклікаюць блакадныя ўспаміны, тут адчувалася нешта іншае.

Спачатку Ірына Іванаўна не хацела нічога расказваць, спасылаючыся на тое, што цяжка ўспамінаць і не хочацца, каб пісалі пра яе, ды і пра брата таксама.

Мы даводзілі ёй, што жыццё Юры Рабінкіна і яго дзённік належаць ужо гісторыі, што публікацыя дзённіка ў нейкай ступені будзе помнікам брату, а галоўнае, як важна, каб малады чытач зразумеў, адчуў жыццё падлетка ў блакадзе... Усе аргументы яна разумела не горш за нас і ўступіла не таму, што мы яе пераканалі, а з нейкай іншаю, невядомаю нам думкаю. Яна стала расказваць:

« — Ад вуліцы Дзяржынскага да Адміралцейства — усё гэта мой раён. І Банкаўскі і Юсупаўскі садзікі. Гэта мае родныя мясціны па маленству. Калі ёсць магчымасць, я заўсёды цяпер стараюся праходзіць міма... Мы жылі на вуліцы Трэцяга ліпеня, дом трыццаць чатыры, кватэра два. У нас была розніца з братам аж восем гадоў, і таму блізкасці не было, не паспела з'явіцца... але сястрычкаю яго я была адзінаю, хоць і маленькаю. Ён, вядома, мяне не няньчыў. Да вайны была ў нас хатняя работніца, прыхадная; дома заўсёды быў суп, заўсёды варылі суп, кожны дзень. Нават цяпер мы гэтага не паспяваем, а для мяне маленства — гэта суп кожны дзень. Вайна мяне застала ў Юсупаўскім садзе. Мы каталіся там з горкі, і раптам я

пачула крыкі: «Вайна!» Усе пабеглі... Быў сонечны дзень. «Молатаў выступае!» Я не ведала, хто гэта — Молатаў, які выступае. Каля гучнагаварыцеляў натоўп. Гэта я памятаю. А дома нікога не было. Пасля прыйшла мама. А Юра быў заўсёды з сябрамі, яго часта не было дома. У яго быў асобны пакой. У нас была кватэра: уваход з двара, калідор, кухня, сталоўка, спальня, Юраў пакой.

— Вы памятаеце І., сваіх суседзяў?

— У вайну І. быў кіраўніком трэста. Анфіса, яго жонка, памерла пасля вайны. Пра гэта мне сказала суседка Марыя Васільеўна. І. не эвакуіраваліся. Яна памерла. А яго дома ніколі не было. Я яе помню, яркую маладую жанчыну. Застаўся з імі Юра ці не, я не ведаю. Я напісала ліст у гэты дом, каб даведацца, як усё здарылася... Справа ў тым, што апошнімі днямі ён ляжаў, не мог уставаць. Я не скажу, што мне ўсё аддавалі. Мама дзяліла паёк, але Юру не хапала. Ён правільна піша, што мама з'ядала першая свой кавалак, а я, магчыма, таму, што была малая, мне хапала надаўжэй. Я памятаю, як ён ляжаў, адвярнуўшыся, на канапе. Размова пастаянна вялася пра эвакуацыю. Зімою, асабліва ў снежні, студзені, усе надзеі былі на эвакуацыю: «Калі абком... Калі нам дазволяць...» І вось, памятаю, мама прынесла ўжо цёплае адзенне: падшываныя штаны, падшываную фуфайку Юру, апрача гэтага, давалі яшчэ падшываныя шапкі накшталт лётнага шлема, прынесла дзве шапкі — сабе і яму. Я памятаю, апранутая ва ўсё гэта мама памагала яму ўстаць. Мне і ў галаве не было... Я і не глядзела... Вось ён устаў. Мы жылі тады на кухні. Кухня была вялікая — пліта з меднымі поручнямі і збоку ў такім шкляным конусе вада, якая награвалася, калі палілася ў печы. А побач быў вялікі куфар, у якога падымалася века, утвараючы драўляную спінку. Я больш такіх нідзе не бачыла. Туды ўсё можна было класці... Юра ўстаў, прыхіліўшыся да гэтага куфра, абапёрся на кій, але ісці не мог, не мог адарвацца і вось так стаяў, сагнуты, змардаваны... Я памятаю гэта дакладна... Я ўвесь час адчуваю сябе вінаватаю, таму што я ж жыву, я ж разумею гэта... У нас былі саначкі, на іх паклалі чамадан, у ім было сталовае серабро, памятаю Юраў набор паштовак з Траццякоўкі (іх было ў яго шмат, ледзь не сотня), іх мы таксама з сабою ўзялі (пасля ў дзіцячым прыёмніку ў мяне іх выпрасілі), потым нейкая адзежа — усё гэта ўзялі з сабою. І вось я ззаду падпіхвала санкі. А Юра застаўся дома: мама не магла яго паса-

дзіць, мабыць, не магла, а ісці ён не мог. Мабыць, нельга было везці яго, я не ведаю... Гэта быў студзень сорак другога. Ехалі мы ў эшалоне доўга. Я памятаю тую таварную цяплушку. Ага, а калі мы па Неўскім пешшу дабіраліся да Маскоўскага вакзала, мама ўсё парывалася назад, за ім: «Там Юрка застаўся! Там Юрка застаўся!» Я плакала, вядома. Як толькі селі, цяплушка ледзь не адразу тузанулася, і мы паехалі. Паехалі мы да Ладагі. Я добра памятаю, як мы праязджалі Ладагу.

— А як Юраў дзённік трапіў у Волагду?

— Вось у тым і справа! Я атрымала з Марозаўкі ад цёткі тэлеграму: «Іра, прачытай абавязкова «Смену»...» Я гаварыла з гэтай жанчынай з Волагды, я ж паехала ў Волагду даведацца...

— Калі б Юра застаўся ў Ленінградзе, дык і дзённік застаўся б тут?

— Бачыце, Волагда была пераваланым пунктам... Чытаеш дзённік, асабліва апошнія старонкі: «Я хачу жыць, хачу хлеба...» Я памятаю яго тэмперамент. Мне здаецца, яго вывезлі. Калі б ён адчуў, што можна выжыць, дык выжыў бы. Мы дабраліся да Волагды. І вось я па вакзале... Гэтулькі гадоў прайшло, а я памятаю: лаўку, маму і сябе на гэтых клунках. Калі я цяпер прыехала ў Волагду, убачыла гэтае месца, праз столькі гадоў... Калі мы тады прыехалі, нам далі па глыбокай талерцы прасяной кашы з кавалкамі мяса, нарэзанага кубікамі. Цэлыя дзве талеркі! Пасля выдавалі талоны, і вось мама нясе цэлую буханку хлеба, якую ўночы ў яе выцягнулі з-пад галавы. А гадзін у шэсць раніцы яна ўжо ляжала з пенаю, з заплюшчанымі вачыма. Яна памерла па гэтай лаўцы. Мама памерла дваццаць шостага студзеня. Цётка Ціна казала, што пухліна дайшла да сэрца — і мама памерла. «Антаніна Міхайлаўна, сорак гадоў. Прычына смерці — знясіленне»,— сказана ў даведцы. Значыцца, да дваццаць шостага студзеня мы ўсё ехалі, ехалі. Мы спыняліся, але нідзе не жылі. Мяне накіравалі ў дзіцячы прыёмнік, пасля ў дзіцячы дом, у якім я была з адзінаццатага лютага сорак другога года да сорак пятага года, а пасля вярнулася ў Ленінград. Гэта мяне цётка Ціна ўзяла. Дзіцячы дом знаходзіўся ў вёсцы Нікіцкай, цяпер ад Волагды туды можна даехаць за чатыры гадзіны, а тады трэба было дваццаць адзін кіламетр ісці лесам. І вось цётка Ціна ў сорак пятым годзе ў шынялі, з кайстрай за плячыма ішла пешшу па мяне дваццаць адзін кіламетр! Яна вывезла мяне ў Ленін-

град. А эвакуіраваліся мы, здаецца, восьмага студзеня з Ленінграда і дваццаць шостага прыехалі ў Волагду».

Прыкладна такі быў першы блытаны і нервовы расказ Ірыны Іванаўны, часам ёй перашкаджалі слёзы, спынялі гаворку, апрача таго, у ім дадаткова прысутнічаў нейкі неспакой, ужо сённяшні, нейкая няспынная хваравітая трывога.

Мы думалі, што Ірына Іванаўна баялася за маці, баялася, каб мы пра яе не падумалі дрэнна... «Я разумею, я вас разумею»,— казала яна, папярэджваючы нашы пытанні. Але якія маглі быць пытанні? Калі маці, Антаніна Міхайлаўна, памерла ў тую ж самую ноч, як прыехалі ў Волагду, і ніякія харчы ўжо не маглі выратаваць яе, значыцца, яна ехала, паміраючы, значыцца, працэс дыстрафіі — знясілення — быў незваротны, значыцца, пакідала яна Ленінград ужо без сіл, з памутнелаю ад голаду свядомасцю, і толькі пачуццё мацярынства — гэтая нечалавечая сіла — кіравала ёю, трывога за дачку раздзьмухвала жыццё, што ўжо затухала, раздзьмухвала да таго часу, пакуль ехалі, а як даехалі да месца прызначэння, да Волагды,— усё скончылася, усё згасла, яна злегла і памерла. Тое, што яна дабралася, давезла Іру,— цуд мацярынскае адданасці. А тое, што на Юру не хапіла сіл, дык хто ж адважыцца абвінавачваць яе за гэта? Хіба толькі чалавек, які не разумее ці не хоча ўдумацца ў тое блакаднае існаванне. Свядомасці сытага чалавека, безумоўна, цяжка апусціцца ў той свет, а да канца ахапіць яго розумам амаль немагчыма. Таму так катэгарычна гучыць народная прымаўка: сыты галоднага не разумее!

Розум маці, Антаніны Міхайлаўны Рабінкінай, быў ужо закрануты дыстрафіяй; відаць, выразнасць успрыняцця пацямнела, але і скрозь гэтую памутнелую свядомасць прабівалася адзінае — яна сына пакінула! Напэўна, яна меркавала пасадзіць дачку ў вагон і вярнуцца па сына, прывезці яго. Каб даставіць на вакзал абаіх разам — Юру ж трэба было везці на санках,— такіх сіл у яе ўжо не было.

Цягнік рушыў адразу... А калі б і не адразу, і тады, бадай што, у яе не хапіла б сіл вярнуцца. Паўтараем — сама ж яна памірала. Усю дарогу да Волагды памірала. Харч ужо быў, але не памог, памірала ў смутку, з неспакойнаю душою, таму што там застаўся сын. Можа, і папракала сябе за бяссілле. Яна сама дакарала сябе, а мы не можам.

Вось што паўстала з апавядання Ірыны Іванаўны, хоць пра гэта яна старалася гаварыць меней: было б абразаю матчынай памяці апраўдваць яе, абараняць.

«Што я памятаю — гэта яго захапленні. У яго пакоі быў чарцёжны стол, чарніліца, зялёнае вальтэраўскае крэсла, пасярэдзіне — більярд (на якім заўсёды гулялі хлопчыкі), чорны канструктар з дзірачкамі. Мяне, васьмігадовую, ён рэдка падпускаў туды... Часам яны нават уладкоўваліся ў сталоўцы: завешвалі нечым стол, пад ім штосьці рабілі; маляваў карты (якія сам прыдумваў) на аркушы ватманскай паперы. Гэта, як я цяпер разумею, была фізічная карта — акіяны і моры навокал. Прыходзілі хлопчыкі, гулялі ва ўсякія баі. Дома ў нас была прыстойная бібліятэка. Юра хадзіў у Палац піянераў у гурток гісторыі і ў шахматны гурток. Акадэмік Тарле казаў маме: «У вашага сына вялікая будучыня. Беражыце яго!» Дзяўчат у Юры яшчэ не было. Былі сябры — Штакельберг і Міша Чыстоў (Чыставы жылі ўнізе).

Мая цётка Ціна пражыла без сям'і. Яна, паводле сучасных уяўленняў, чалавек непрыстасаваны, непрактычны, непрабіўны. Яна звычайна гаварыла мне: «Адна справа — маці, бацька, але ж ты сама нешта павінна значыць».

Мы вярнуліся ў Ленінград у сорак пятым. Цётка жыла ў Марозаўцы. Я прыйшла на старую кватэру, сёе-тое ўбачыла: убачыла Пушкіна, Юраву чарніліцу (яна і цяпер у мяне), убачыла стары з фатаграфіямі альбом. Гэтыя рэчы ўзяла. А туалет, мэблю — мне было ўжо не да таго. Я іх пазнала б, але да наступнага майго прыходу ўсё гэта ўжо знікла. Я не ведаю, можа, мама паспела іх прадаць, нічога не хачу казаць.

Матчын бацька (Ірына Іванаўна паказвае дзедаў малюнак: цудоўна зробленае велікоднае віншаванне — раслінны арнамент з надпісам: «Хрыстос уваскрэс! Прывітанне вам, дарагая жонка і дочкі!» — *А. А., Д. Г.)* скончыў Вышэйшае артылерыйскае вучылішча і ў грамадзянскую вайну быў афіцэрам Чырвонай Арміі, намеснікам начальніка артылерыйскай базы Заходняга фронту. Ён — Панкін Міхаіл Сцяпанавіч (паказвае фатаграфію афіцэра-артылерыста з вусамі.— *А. А., Д. Г.)* — выдаваў «Аўроры» снарады. Я даведалася ад Юры, што дзед у грамадзянскую вайну загінуў у горадзе Буй ад сыпняку. А вось мой прадзед, таксама ваенны, гэта бабка, яго жонка (паказвае фатаграфію.— *А. А., Д. Г.).* Мама скончыла гімназію, і цётка Ціна скончыла гімназію. А пасля мама скон-

чыла курсы перакладчыкаў. Цётка Ціна нарадзілася ў 1895 годзе ў Пецярбурзе».

З голасу Ірыны Іванаўны не знікае інтанацыя нейкай вінаватасці. Адкуль гэта? Няўжо ад усведамлення, што вось яна жыве, а Юры няма, што яе выратавалі, а Юру пакінулі?

І ўсё ж як Юраў дзённік мог трапіць у Волагду? — пытаемся мы зноў і ў сябе і ў яе. Пытанне гэтае самае балючае для Ірыны Іванаўны. Відаць, якраз у ім і заключаецца галоўная прычына яе смутку, яе трывогі. Гэтае пытанне раздзірае яе з таго дня, як знайшоўся Юраў дзённік, гэта значыць, калі надрукавалі кавалак з дзённіка ў «Смене». Яна прачытала, прыбегла ў рэдакцыю, папрасіла гэты дзённік і даведалася, што ён быў у Трыфанавых у Волагдзе. З гэтага моманту і грызе яе неадступна: як дзённік трапіў у Волагду? А што, калі разам з Юрам? Тады што ж?..

Яна спыняе гэтыя разважанні і расказвае нешта пра цётку Ціну, паказвае аўтабіяграфію, якую Ціна запісала на памяць, пакінула запіскі пра свой род, пра сябе і пра сваіх продкаў для сямейнага архіва:

«...Працавала ў горадзе Вязьме ў экспедыцыі па барацьбе з сыпным тыфам. У 1921 годзе вярнулася ў Ленінград, каб закончыць інстытут. У 1923 годзе скончыла, працавала ў Ленінградзе, пасля ў бальніцы імя Марозава, на беразе Ладагі. Працавала тэрапеўтам, намеснікам галоўнага ўрача. У вайну мабілізавана ў эвакашпіталь, дзе працавала па 1945 год. Была ў Беларусі, ва Усходняй Прусіі, узнагароджана ордэнам, медалямі».

Наша гаворка адхіляецца ўбок, пятляе, але і мы і Ірына Іванаўна ўвесь час трымаем у галаве тыя студзеньскія дні...

«— У Юры быў кепскі зрок. Мама ведала, Што кепскі, але ж не ўяўляла сабе, што да такой ступені. Ён гэта таіў. Ён шмат чытаў. У нас было шмат перыёдыкі. Былі камплекты «Вокруг света», прыгодніцкая літаратура. Хлопцы, яго сябры, любілі наладжваць гульні ў калідоры. Там стаяла вялізная шафа, каля шафы — шырма, там былі маскі рыцараў, розныя кіі... Як яны не пакалечыліся! Памятаю, Юра пісаў нейкія апавяданні. Маму неяк выклікалі ў школу і сказалі, што ён дрэнна сябе паводзіць на матэматыцы. Мама кажа: «А вы давайце яму болей задачак, бо ён рэшыць задачкі раней за ўсіх і яму сумна...»

— Што азначае ў дзённіку дзіцячая картка, пра якую непакоіцца Юра? Гэта пра вашу картку?

— Напэўна. Дзіцячая картка тады мела перавагу. Па ёй давалі пячэнне. Але я тады нічога не ведала пра гэта, я ўпершыню вычытала пра гэта цяпер, у Юравым дзённіку.

— Ці быў у вас у сям'і хто набожны?

— Не было, вядома, і мама і цётка Ціна не верылі. Тым больш што мама была член партыі. У нас на кухні вісела прыгожая ікона, мусіць, яшчэ ад бабкі. Юра яшчэ застаў бабку. І дзеда таксама. Магчыма, яны вадзілі яго ў нядзелю ў царкву. Там хораша спявалі. Можа, ён у мамы распытваў. Мама ў партыі была з дваццаць сёмага года. Яе выключылі ў трыццаць сёмым годзе ў сувязі з бацькам, пасля яго арышту.

— І яна пасля была адноўлена ў партыі?

— Здаецца. Не ведаю. Магчыма. Таму што ў Волагдзе, калі мама памерла, мяне ўзяў міліцыянер, пасадзіў сабе па калені, і ён, я памятаю, пісаў нейкую паперу, напэўна, акт ці пратакол, да якой падшпіліў чырвоную кніжачку...

— А што вы памятаеце пра бацьку?

— Памятаю адзін яго прыезд. Ён прыязджаў з Карэліі. Яго перавялі туды ў трыццаць чацвёртым годзе, у трыццаць сёмым яго там арыштавалі, у Карэліі, а выслалі пад Уфу, дзе ён у вайну і памёр... Нішто нас не абышло. Уся гісторыя прайшла праз нашу сям'ю — з усімі войнамі, бедамі. А мама апошнім часам працавала ў Палацы працы, яна загадвала нейкімі бібліятэчнымі фондамі. Яна камплектавала бібліятэкі. Я мала тады разбіралася ў гэтым. Мама ведала мовы. Французскую — добра, яшчэ нямецкую і польскую. Яна была глыбока інтэлігентны чалавек. Калі я прачытала ў Юры, што мама яго б'е, дык нічога не зразумела. У нас у сям'і нікога пальцам но кранал. У Юравым узросце, вядома, усё ўспрымалася абвострана, толькі так я магу вытлумачыць. Ведаючы: маму, усё, што ў мяне засталося ад яе... самае... самае...— І раптам яна, Ірына Іванаўна, сказала: — Яго вывезлі па самалёце. Чамусьці я так мяркую.

І паглядзела на нас з нейкім страхам. Мы прамаўчалі. Тады яна сказала:

— Мне не дае спакою адна думка... Падспудна... А раптам ён жывы? Дзіўна, так?

Мы слухалі яе вельмі ўважліва. І яна загаварыла з запалам:

— Калі вывезлі, дык у яго, з яго такою прагаю жыцця, калі б ён адчуў толькі, што можна выжыць, хоць адзін толькі шанц быў бы застацца жывым, ён яго скарыстаў бы. А што, калі... ён выжыў? Але ён павінен быў тады... ён жа ведае ўсе адрасы, ён знайшоў бы... Хоць мяне... Але, з другога боку, пры яго юнацкім максімалізме... Перажыць такое! Ён жа інакш усё гэта расцэньваў. Як здраду... Што яго кінулі. Але гэта не можа на мяне... Праўда? Што з мяне ўзяць? Я ж тады была дзіця... Але часам мне здаецца — а раптам!.. Можа, ён разважае: калі я тады не аб'явіўся, навошта цяпер аб'яўляцца...»

Вось, аказваецца, ад чаго яна так пакутуе. І гэта, значыць, не адпускала яе з тых пор, як знайшоўся дзённік, і знайшоўся пад Волагдаю. Як ён туды трапіў? Некалькі гадоў таму назад яна паехала туды. Але пошукі ніякіх вынікаў не далі. Ніякіх братавых слядоў яна не знайшла. Аднак гэта яе не пераканала. Надзея слабая, неверагодная і дагэтуль тлее ў ёй і, напэўна, пячэ, не дае спакою. Уяўная віна перад Юрам, якую можа ўзяць на сябе толькі сумленная душа, прымушае ўхапіцца за гэтую неверагодную версію: а раптам? а што, калі?..

Мы нічым не маглі памагчы Ірыне Іванаўне, ні зняверыць, ні абвергнуць, ні пацвердзіць. Мы перабіралі варыянты, пры якіх Юраў дзённік мог бы аказацца пад Волагдаю: Юру знайшлі ў кватэры камсамольцы бытавых атрадаў (яны тады хадзілі па кватэрах), завезлі ў шпіталь, ён там памёр, і нехта з сясцёр, ці ўрачоў, ці з суседзяў па палаце падабраў яго дзённік, паехаў з ім у эвакуацыю... Дзённік маглі падабраць самыя розныя людзі — і тыя, хто хаваў Юру, і тыя, каму Юра сам аддаў дзённік перад смерцю. Многіх ленінградцаў эвакуіравалі тады на Валагодчыну. А можа, гэта І. занеслі Юру ўніз, у качагарку, дзе было цяплей?.. Былая суседка Ірыны Іванаўны сцвярджае, што адбылося якраз гэта. Ці не там, у качагарцы, абгарэлі Юравы дзённік і сшытак? Ці там, ці ў іншым месцы Юра ўсё пісаў: «Хачу есці... хачу есці... есці...» у другім сшытку, што загінуў,— а што было далей, мы не ведаем.

Ні адзін з магчымых варыянтаў, здавалася, не пакідаў

сумненняў у Юравай гібелі. Але сястра ўсё спадзявалася, яна не адпускала ад сябе гэту надзею, і наша логіка тут была бяссільная. Шкада было яе, і мы спачувалі, і смуткавалі, і ганарыліся, і таксама хацелі цуду. Мы слухалі гэтую жанчыну, мы бачылі праз яе расказ вялікую калісьці сям'ю Рабінкіных і за ёю сям'ю Панкіных — сем'і патомных піцерцаў, рускіх інтэлігентаў, дзе не адразу і нялёгка спалучылася пецярбургскае з ленінградскім. Ірына Іванаўна памагла нам убачыць штосьці ў Юру Рабінкіне, ды і самога яго не з сярэдзіны, не вачыма дзённіка, а нібы збоку, іншымі вачыма — тое, чаго нам так не хапала. Цераз яе стала лепш відаць, адкуль у Юры гэтая праца сумлення, вытокі росту яго душы.

Стойкасць Юры Рабінкіна часам здаецца н я с т о й к а с ц ю: голад спраўляецца з ёю, праломвае яе то тут, то там. Але яна адраджаецца. З яшчэ большаю патрабавальнасцю да сябе аднаўляліся яго клопат, любоў, яго сорам, дабрыня. Ён цярпеў ад голаду, марозу, ад вошай, але пры гэтым ён цярпеў ад сораму, яго адольвала любоў да блізкіх, нянавісць да ворагаў, ён марыў, ён сніў перамогу. Як жывёла, ён уступаў інстынктам, гатовы быў грызці дрэва, рамяні; як чалавек, ён трымаўся за кнігі, сям'ю, навыкі культуры, за прыгажосць, за думкі, якія не маглі ўжыцца з тым, што адбываецца. Гэтая супярэчнасць пранікла ў душу з глыбінь, якія ніколі раней не закраналіся жыццём. Прага самазахавання не магла разбурыць у ім чалавека. Калі ціск голаду і страху рабіўся надта вялікі, перагародкі падалі, але пасля адчайна і ўпарта ён зноў аднаўляў іх.

Дзякуючы Ірыне Іванаўне мы шмат чаго даведаліся пра Юру, хоць і не дазналіся пра тое, як загінуў ён і як уцалеў ягоны дзённік. Патаемная і ўпартая вера Ірыны Іванаўны стала перадавацца і нам. Не тое каб мы паверылі раптам у Юрава збавенне, не, але ён перастаў быць канчаткова мёртвым.

Мы хацелі высветліць абставіны Юравай смерці. Замест гэтага мы знайшлі зусім іншае — затоеную веру Ірыны Іванаўны ў тое, што ён жыве сярод людзей. Слабая надзея ягонай сястры не пераканала нас, але нешта адбылося — Юра сапраўды перастаў для нас быць мёртвым. Абвостранае пачуццё віны — вось, маўляў, я жыву, а ён загінуў — стварыла гэтую хісткую надзею. Пакуль у

некім існуе гэтае высакароднае пачуццё, чалавек не можа быць мёртвы ў тым адвечным разуменні гэтага сэнсу, да якога мы прывыклі.

«Жывыя ведаюць, што памруць, а мёртвыя нічога не ведаюць, і ўжо няма ім адплаты, таму што і памяць пра іх аддадзена забыццю, і любоў іх, і нянавісць іх, і рэўнасць іх ужо зніклі, і няма ім больш часткі ва векі ні ў чым, што робіцца пад сонцам». Бязлітасныя біблейскія словы. Яны не пакідаюць суцяшэння. Яны, як ні дзіўна, нібы адводзяць у бок ад веры, ад надзеі, на вечнасць чалавечае душы. Але ж ці такая ўжо бясспрэчная іх жорсткасць? Захавалася ж Юрава доля ў думках, у пачуццях, любові няхай нешматлікіх, хаця б некалькіх людзей. Прымушае ж ён працаваць любоў і сумленне ягонае сястры: вось я жыву, а ён... Нешта і ў пас, тых, што чыталі Юраў дзённік і пазналі Юрава жыццё, увайшло і пасялілася. Таксама нейкае пакутлівае пачуццё віны. Але ў чым мы вінаватыя перад Юрам? А тая васьмігадовая Ірачка — у чым? Але ж жыве яна з гэтай віною.

Калі мы вырашылі ўключыць Юраў дзённік у другую частку «Блакаднай кнігі», у нас была надзея як бы паставіць помнік ленінградскаму хлопчыку, аднаму з дзесяткаў тысяч. Імкненне гэтае здавалася нам высакародным і справядлівым. Раптам паўстала пытанне: паставіць помнік — і што далей? Паставіць і вызваліцца? Паставіць, каб вызваліцца? Але ў тым вось і справа, што вызваліцца не ўдалося. Юра ўвайшоў у наша жыццё і застаўся ў ім.

Колькі іх сярод нас! Тых, чыю прысутнасць мы адчуваем. Альбо чыю адсутнасць. Помнікі, і літаратурныя ў тым ліку, патрэбны не дзеля таго, каб вызваліць. А каб прывязваць назаўсёды.

9 мая, у Дзень Перамогі, ленінградцы, тысячы іх, ідуць на Піскароўскія могілкі. Ідуць сем’ямі і па адным, старыя і маладыя. Земляныя пагоркі брацкіх магіл ужо вызваліліся ад снегу, леташняя трава выпрасталася. На цёмную яе жухлую зеляніну людзі кладуць кветкі, а некаторыя кладуць цукеркі, папяросы, хлеб, маленькі кавалачак хлеба. Недзе тут, магчыма, ляжыць Юра Рабінкін. А калі ён не тут, то ўсё роўна кожны з пахаваных тут ой як прагнуў гэтага кавалачка хлеба.

Юра Рабінкін прагна хацеў жыць. Часам здаецца, што кароткае, незавершанае ягонае жыццё шукае хоць у нечым свайго працягу. І пасля ягонай гібелі гэтая жыццёвая

сіла нібы лунае нерастрачанаю. Ён не змог зразумець да канца, за што і чаму давялося яму загінуць, не паспеў выказаць сябе, як яму здавалася, ні ў чым.

Але застаўся яго дзённік і праз дзённік — яго неадольная прага жыцця.

Блакадны горад, дзе ён — горад страт, горад нашых пакут, з пусткамі разабраных, згарэлых дамоў, руінаў, затоены горад некампенсаваных страт, няздзейсненых жыццяў, непрарослага насення? Гэты горад не разгледзець. Рапы залечваліся хутка, шрамаў не заставалася. Горад вяртаўся да нармальнага жыцця з энергіяю лютай, быццам бы назапашанай за дзевяцьсот блакадных дзён. Не засталося нічога, не пакідалі нічога, нібыта вада самкнулася. Значна пазней спахапіліся — што ж паказаць дзецям, што ўбачаць унукі? Аднавілі сіні надпіс над Неўскім: «Гэты бок вуліцы пры артабстрэле найбольш небяспечны».

Пярэдні край абароны пазначылі помнікамі, збудавалі зялёны пояс Славы, а новыя кварталы паглыбляюцца ўсё далей і далей за былую лінію фронту. Прыкладна тое самае адбылося з памяццю пра блакаду — яна заглыбляецца ўсярэдзіне, як драўняныя колцы ў ствол дрэва.

Стары асабняк на Васільеўскім востраве, «Аўрора» па вечнай стаянцы, белыя ночы — з чаго складаецца прыгажосць гэтага горада? Для новых пакаленняў блакада ўвайшла ў вобраз горада, прыдала прыгажосці яго трагічную сілу.

Час збіраць камяні, час раскідваць... Калі настае час раскідваць каменне? Наш час — калі гаварыць таксама і пра блакадную памяць Ленінграда — гэта час (упушчаны дастаткова) збіраць. Збіраць глыбы народнай памяці. Мы таксама гэтым займаліся ўсе апошнія гады, сабранае і адабранае склалі ў тое, што назвалі «Блакаднай кнігаю». І свой раствор паклалі дзеля лепшага счаплення, звязкі — той, які, як вядома, заўсёды выветрываецца, рассыпаецца першым: ацэнкі людзей і часу, характарыстыкі.

Адзінае, у чым мы былі ўпэўнены, дык гэта ў самакаштоўнасці «матэрыялу», які вызначыў і сам характар, жанр кнігі. І нават калі пабудова захістаецца, пачне асядаць і разбурацца пад націскам часу — не, не нам шкадаваць альбо крыўдзіцца. Будучае часам кідае камяні ў мінулае. Да гэтага заўсёды трэба быць гатовымі. Гатовымі да таго, што, збіраючы «камяні» праўды пра сябе і пра свой час, нарыхтоўваеш іх і сабе.

Але так ужо створаны чалавек — боль праўды, усёй праўды яму ў канчатковым выніку важней, даражэй фальшывай «раскошы» няведання ці хлусні.

...Мы завяршылі сваю доўгую працу з дзіўным пачуццём, усё з тым самым неадступным пытаннем: навошта, дзеля чаго ажывілі мы гэтых даўно знікшых людзей, іх даўнія пакуты і боль? Мы шмат разоў адказвалі сабе на гэта пытанне і да канца ўсё-такі не ведалі адказу, але ў адным мы пераканаліся: гэта неабходна было зрабіць. Усё гэта было, і людзі, што жывуць, павінны пра гэта ведаць.

# ЗМЕСТ

ЧАСТКА ПЕРШАЯ



ЧАСТКА ДРУГАЯ

Адамовіч А., Гранін Д.
Л 28 Блакадная кніга./Пер. з рус. М. Дубянецкі.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 524 с., 32 л. іл.
У пер.: 1 р. 60 к.

«Блакадная кніга» — гэта кніга пра трагічныя дні ленінградскай блакады, бяспрыкладную мужнасць і стойкасць абаронцаў горада на Няве, якія засталіся ў неймаверна цяжкіх умовах сапраўды савецкімі людзьмі, адданымі Радзіме.

Аўтары, працуючы над кнігай, выкарыстоўвалі дзённікі і расказы ленінградцаў, што перажылі блакаду.

АЛЕСЬ АДАМОВІЧ
(Аляксандр Міхайлавіч Адамовіч)
ДАНІІЛ АЛЯКСАНДРАВІЧ ГРАНІН

БЛАКАДНАЯ КНІГА

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар А. С. Р а з а н а ў . Мастак А. І. Ц а р о ў . Мастацкі рэдактар В. П. Ж ы ж э н к а. Тэхнічны рэдактар Л. М. Ш л а п о. Карэктар Я. А. Б е б е л ь .

